## ДЗЕ СКАРБ ТВОЙ…
## або ПЕСНЯ Ў ГОНАР ЗЯЛЁНАЙ ДУБРОВЫ

Якраз так можна азначыць паэзію — ды, бадай, і ўсю творчасць Кастуся Цвіркі. Без асаблівага перабольшвання. Зыходзячы да таго ж і з яго уласных прызнанняў ды сведчанняў, з прамоўленага неаднаразова ім самім мастакоўскага крэда.

Запеў — такую старую, знаёмую
і такую новую песню
жаўранак — шэрая птушачка палявая.
А мо гэта зусім не жаўранак?
Мо гэта сэрца само
песню бацькоўскаму краю спявае?

А вось як, на які лад, у якіх словах гучыць яна, гэтая песня, у вершы «Санцаход»:

Тут усё душу маю гоіць…
Гай — хвоі вечным спакоем
і карою сіняй асін —
гоіць;
Каранiстая сцежка
(вунь прабягае па ёй мурашка
з рыжай хваёвай іголкай)
гоіць;
Божая кароўка, што з неба ўпала
мне на рукаў,
(андрэйка, андрэйка,
пень ці калода,
дождж ці пагода?)
гоіць;
Бяссмертнікаў і павояў лапінка
на леташняй пасадцы сасны
(тут рай матылям і яшчаркам)
гоіць;
Трыпутнік і лебяда,
васілёк і зялёнае жыта
над глухой баразною
гоіць;

Поле маё — гоіць,
Дарога — гоіць,
Неба — гоіць.
(На душы маёй — раны, раны.
Мусіць, таму,
што дала мне маці душу,
танчэйшую ад мембраны.
О, хто яе не чапаў,
не рваў яе абцугамі!
О, хто яе не таптаў,
не лазіў па ёй нагамі!)
Сёння ўсё, нават паветра маёй Зялёнай Дубровы
душу маю
гоіць.

Зялёная Дуброва…Мушу адразу ўдакладніць, што пад гэтай цудатворнай лекаркай маецца на ўвазе зусім не казачная і не нейкая песенна-паэтычная («У зялёнай дуброве мы начаваць будзем…»), а рэальная, тыповая ў многіх адносінах беларуская вёсачка, якая, паводле сведчання паэта, узнікла недзе ў пачатку мінулага стагоддзя на краі забалочанай пушчы (поўнач Палесся). «Калі ў 1934 годзе я прыйшоў у гэты свет (28 сакавіка), — піша ў сваёй аўтабіяграфіі Кастусь Цвірка, — зялёнадуброўцы ўжо даволі абжылі свой куток». Свае аўтабіяграфічныя нататкі ён надрукаваў у 1967 годзе, а ў кнізе «Будзіла вёску берасцянка», якая пабачыла свет у 2007 годзе і мае эпіграфам вядомыя словы Лангфела наконт таго, што «самыя шчаслівыя сэрцы тыя, якія застаюцца дома», — ён разважае: « Кожная вёска, як і чалавек, мае сваё ўласнае аблічча, сваю біяграфію. Адначасова ў любой, нават самай маленькай, вёсачцы, як у каплі расы сонца, адбіваецца гісторыя ўсёй краіны. Зялёная Дуброва — вёска невялікая. Складаецца яна з адной вуліцы. У часы яе самага росквіту ў ёй было крыху больш за семдзесят двароў. Сёння асталіся толькі лічаныя хаты. Як «неперспектыўная» яна асуджана на адміранне. Няўжо гэта ізноў тут стане пустка? Як з гэтым змірыцца?»

Заўважу тут жа, забягаючы крыху наперад, што Кастусь Цвірка і не мірыцца, рашуча не пагаджаецца «з гэтым» — з адміраннем вёскі, спадчыны прадзедаў і дзядоў, «бацькавага свету палявога», «светлага краю дзяціннага» ды « хат вячыстага дару» (г. зн. матчынай мовы і народнай песні). Не мірыцца, кажучы зноў-такі ягонымі словамі, з «лесам бяспамяцтва». Не мірыцца, не пагаджаецца, б’е трывогу, пра што красамоўна сведчаць літара і дух шмат якіх ягоных твораў, у прыватнасці вершаў «Калі над горадам усходжваецца непагода…», «Чатыры вятры», «Санцаход», «Зямлі патрэбны паэты», «Я праўду

шукаў…», «Перлы роднай зямлі», «Зялёная Дуброва», паэмаў «Хат вячысты дар» і «Дома», апавяданняў «Марылька» і «Лось», ну і, вядома, той жа аўтабіяграфічна-дакументальнай кнігі «Будзіла вёску берасцянка». Калі ж мець на ўвазе сілы, якія распачалі рабіць вёскі «неперспектыўнымі», «рассяляньваць» селяніна, то тут трэба назваць, безумоўна, і раман «Воўчая выспа» — своеасаблівы беларускі варыянт рабінзанады і адначасна твор, дзе ў нечакана адметнай форме паказваецца трагічны лёс палескай вёсачкі Воля, лёс сялянскага сына Ігнася Каралені, на шляху якога з ягонай марай аб вольным гаспадаранні на сваёй зямлі і ў сваім доме паўстаюць злавесныя постаці нелюдзяў «у казыркастых шапках з сінімі аколышамі і ярка-чырвонымі зоркамі ды ў надта ж грукатлівых ботах» (словы аднаго з заключных эпізодаў рамана).

Ды вернемся да рэальна існуючай, не раманнай, роднай вёскі паэта. Перачытваеш ягоныя — то вершаваныя, то апавядальна-празаічныя — згадкі пра «мнагафарбны і цікавы свет» вёскі , пра яе ваколіцы з іх лісінымі норамі і птушынымі гнёздамі, верасовымі зараснікамі і брусьнічнымі пасекамі, з таямнічым арэхавым урочышчам, якое называлася «Дзе дуб з бярозай звіўся» (так, дарэчы, паэт назаве потым адну са сваіх паэмаў), такія блізкія і дарагія аблічча аднавяскоўцаў, пра людзей і былі Зялёнай Дубровы, — і ў цябе такое адчуванне, што ты прысутнічаеш пры тым, як крэўная згадка натуральна пераходзіць у мастацкую выяву, як запалыя глыбока ў душу дзіцячыя ўражанні і назіранні пачынаюць гучаць на песенны лад, музыкай паэтычнага радка. Якраз такога паходжання энергетыка творчасці Кастуся Цвіркі.

Так, якраз ад той печкі — і ў літаральным, і ў пераносным сэнсе слова, — якая абагравала адну з хатак вёскі Зялёная Дуброва, што на Старадарожчыне, і танцуе, і нязменна ідзе ён у сваёй творчасці. І не толькі, заўважу, у вершах і паэмах, у дакументальнай і мастацкай прозе, але і як фалькларыст, і як гісторык (кандыдат гістарычных навук, аўтар такіх кніг, як «Край легенд» і « Камяні тых сядзібаў» — зборнік нарысаў падарожжаў па літаратурных мясцінах Беларусі). І тут у якасці ілюстрацыі прывяду такі цікавы прыклад. У сваім нарысе «Дарога ў сто гадоў» Кастусь Цвірка расказвае пра тое, як ён, малады супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, быў уключаны ў склад этнаграфічнай экспедыцыі і павінен быў прайсці тымі сцежкамі-дарогамі, якімі калісь хадзіў «вясковы лірнік» Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч), удакладніць пэўныя факты яго біяграфіі. І як, якім чынам, вы думаеце, пачалася навукова-даследчыцкая праца паэта-этнографа? З прыгоды, так бы мовіць, незвычайнай. Паслухаем яго самога: «За Асіповічамі ад маладых «маслячковых» хвойнікаў, што прабягалі за акном вагона,

дыхнула на мяне раптам родным светам маленства: гэта ж за імі, тымі іглістымі хвойкамі, хутка, праз колькі перагонаў, пакажуцца знаёмыя хаты станцыі- раз’езда Фалічы, ад якой рукой падаць да маёй Зялёнай Дубровы. І я, убачыўшы гэтыя хаты, не мог, каб не сысці з цягніка, не заскочыць — хоць на гадзіну — у родную вёску. Да роднай маці… Заехаў дадому, а там якраз — чарга адпасваць каровы. Цяпер, калі нічога не скошана і не зжата, адной мацеры пасвіць — па лесе — не вельмі лёгкая работа. Так што — прабач Сыракомля, — давялося паставіць за шафу свой «вучоны» партфель, надзець дапатопныя штаны і ўзяць у руку дубец». І далей (пісаць пра Кастуся Цвірку без цытавання яго самога ніяк немагчыма), далей: « Я — дома. Тут — маё карэнне, пачатак мяне самога, мой працяг. Тут жылі мае дзяды, тут пасвіў, касіў, віршыў стагі, спускаў бярозавы сок, araў, сеяў, баранаваў, звозіў снапы, малаціў мой бацька. Я першы кінуў адвечны хлебаробскі занятак маіх продкаў. Яны прыходзілі і адыходзілі, перадаючы — з рук у рукі — сваім наступнікам стары, але лёгкі і ходкі плуг з люстэркам лемяха; да паловы зрэзаную і ўсё яшчэ вострую, як брытва, касу з выгладжаным да бляску касільнам; берасцяную каробку-сяўню ды цупкі малацьбітны цэп. Усе мае папярэднікі — о як мала я ведаю пра іх! — бралі гэта ў спадчыну як самы дарагі скарб. Я першы не ўзяў. Я разарваў доўгі спрадвечны ланцуг хлебаробскага племя… Слухаючы музыку бацькоўскай зямлі, я пачынаю лепш разумець і Сыракомлю — у яго ж была душа селяніна».

Красамоўны — ці не праўда? — штрых да творчай і навукова-асветнай дзейнасці Кастуся Цвіркі.

Да сваёй крэўна роднай Зялёнай Дубровы, як да музы сваёй, як да сваёй долі, звяртаецца найперш паэт, у непарыўнай сувязі з ёй выяўляе сваю чалавечую і грамадскую сутнасць і сваё духоўна-паэтычнае пакліканне. З Зялёнай Дубровай звязаны ў яго моманты самавызначэння, адкрыцця сваёй тоеснасці (« Я — успомніў сябе… Я вяртаюся да сябе… Тут, пад Сонцам маім, у вялікай сяўбе, адшукаю сябе!»). Да Зялёнай Дубровы звяртае Кастусь Цвірка свой позірк і ў пошуку маральна-філасофскага ідэалу, гэтай самай праўды-матухны. «Я праўду шукаў у кнігах трох знаных вучоных» — так пачынае ён адзін з характэрных для яго вершаў. І далей з уласцівымі яму непасрэднасцю і адкрытасцю прызнаецца:

Раздумаўшы,
шпурнуў тыя «кнігі»
ў смеццеправод
І, узяўшы білет,
паехаў да сваёй маці
У Зялёную Дуброву.

Да слова сказаць, так яно хутчэй за ўсё і было ў сапраўднасці. Той, хто ведае паэта асабіста, можа пацвердзіць: ён не з тых аўтараў, якія маюць асаблівую патрэбу прыбірацца ў апратку так званага лірычнага героя ці грыміравацца пад яго. Ён лічыць за лепшае выступаць у сваім, так бы мовіць, натуральным абліччы, гаварыць непасрэдна ад свайго «я».

Зялёная Дуброва яшчэ, — што неабходна адзначыць, — атаясамліваецца ў творчасці Кастуся Цвіркі з зямлёй-карміцелькай. «Почвенник» у лепшым сэнсе гэтага слова, паэт славіць яе, не шкадуючы ні лепшых пачуццяў, ні пафасных слоў-азначэнняў. Зямля для яго — і жыватворная « чорная скіба», і «наш грунт», і «аснова асноў», «зямля — гэта воля, гэта — усё» — гімнам зямлі гучаць шмат якія радкі паэта, у прыватнасці, вось гэты раздзел з паэмы «Хат вячысты дар»:

Ужо — глядзі — ракетнай сталлю
Мы неба зорнага дасталі.
Ды толькі вось пад гром авацый
Ці ж ад зямлі нам адрывацца?
Зямля — ці ж толькі касмадром?
Калыска родная, наш дом.
Асноў аснова, поле, паша,
Радзіма ўсім нам, маці наша.
І на яе глядзець звысоку?
Палеткі абрабляць з наскоку?
Не, не гасцей тых мімалётных
Зямля чакае ў дзень самотны.
Не прыхадзень, не птах спаднебны —
Ёй гаспадар, зямлі, патрэбны.
Па ім, па ім зямля сумуе,
Яго, яго штодня пільнуе,
Яго з туманаў выглядае —
Нібы нявеста маладая.
Свайго найлюбага з далёкай
Дарогі, доўгай і нялёгкай.
Ён, толькі ён адзін здалее
К ёй падабраць усе ключы.
Яе так будзе берагчы!
Яе атуліць, абагрэе,
Душу ўсю ёй аддасць і сэрца,
І ажыве, устрапянецца
Зямля. І скарбы ўсе, якія
Хавала, з радасцю адкрые…

Знаёмыя да болю вершаваны памер, рытмічная канва? Ну так, чатырохстопны ямб, якім напісана «Новая зямля». Знаёмыя таксама вобразна-стылёвы і семантычны лад: нешта вельмі сугучнае з коласаўскім азначэннем зямлі як «наймацнейшае асновы і жыцця першае умовы». Відавочны працяг традыцыі. Працяг не выпадковы і не фармальны, а арганічна ўласцівы таленту Кастуся Цвіркі, ягонаму светаадчуванню. І ў гэтай сувязі напрошваецца яшчэ адна паралель. Ён з такім замілаваннем, з такой пільнай увагай і энцыклапедычнай грунтоўнасцю апісвае шматстайны і рознакаляровы свет роднай прыроды, свет ваколіц Зялёнай Дубровы з іх травамі, дрэвамі, птушкамі, што міжволі зноў згадваеш Якуба Коласа, на гэты раз ягоную казку жыцця «Вадаспад», дзе катэгарычна прамаўляецца: «І няхай ніхто не забывае, што ён частка вялікай прыроды». Зрэшты, калі паглядзець шырэй, у гістарычнай перспектыве, то пераконваешся, што гэты матыў — матыў непарыўнага адзінства чалавека і прыроды ці не адзін з вызначальных для ўсёй нашай літаратуры. Узыходзіць ён да «Песні пра зубра» заснавальніка рэнесансавага рэалізму ў беларускай паэзіі, паэта-патрыёта Міколы Гусоўскага, — да ліра-эпічнага твора, прасякнутага палкай любоўю да роднай зямлі , яе людзей і прыроды, клопатам пра ашчадныя адносіны да прыроднага асяроддзя. Красамоўна гучыць ён у гэтай вось прыпавесці Скарыны: «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя; птицы, летающие по возьдуху, ведают гнёзда своя; рыбы, плавающие по морю и в реках чують виры; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають». (Вельмі вядомая цытата, аж дужа дарэчы яна ў дадзеным выпадку, у размове пра сапраўды вялікую ласку да месца з найменнем Зялёная Дуброва.) Гучыць ён, гэты матыў, гэтая, па сутнасці, ідэйна-эстэтычная дамінанта ў «Камароўскай хроніцы» і ў апавяданнях Максіма Гарэцкага, у рамане Кузьмы Чорнага «Бацькаўшчына» і ў палескай трылогіі Івана Мележа, у аповесці Васіля Быкава «Ваўчыная яма» і ў некаторых іншых творах нашай прозы і паэзіі.

Словам, Кастусь Цвірка, паўтараю, прадаўжае, наследуе ці, дакладней кажучы, плённа развівае на новай жыццёвай аснове адну з лепшых традыцый нацыянальнай літаратуры.

Ёсць і яшчэ адно яркае пацвярджэнне гэтаму, пра якое нельга не сказаць. Песня ў гонар Зялёнай Дубровы — гэта ж, вядома, і песня ў гонар сялянскай працы. Працы, на якой трымаецца «бацькоўскі свет, дзядоў зямля».

Ён, бацька мой, быў сын
Зямлі рабіннай гэтай,

Дажджоў касых, расы,
Жытоў і яснацвету.
У спадчыну, як дар,
Надзел узяў ён дзедаў.
Тут змалку жніва сквар
І цвердзь касільна зведаў.
Тут рукі аж гулі,
Калі ішоў ён з луга.
Прывычныя былі
Яны да цэпа й плуга.

Часам проста ўражвае, з якім радасным захапленнем, з якім эмацыйна-экспрэсіўным уздымам прамаўляе паэт пра ўсе віды вясковай працы, пра штодзённыя справы і заняткі сялянскага сына. Асаблівага эфекту дасягаюць тыя лірычныя радкі, героем якіх выступае непасрэдна сам аўтар. Вось, да прыкладу, некаторыя з іх: «Я абганяю бульбу. Плуг, быццам човен у хвалю, у глебу міжраддзяў ныярае»; «Зграбаем сена. Па купінах бегаюць граблі, Збіраюць — у копы, у копы»; «Зноў свята ў мяне — у руцэ маёй кошык…»; «Іду сабе ды йду з сяўнёю, / І пахне хораша зямлёю, / І сонцам цэлы свет заліты: / Я сею жыта»… і гэтак далей. Суперажываеш і міжволі згадваеш танкаўскія радкі, трывожнае танкаўскае пытанне: «Можа, мы апошнія паэты, што вось так цікавяцца зямлёй?»

У згаданым вышэй біяграфічным нарысе Кастусь Цвірка даволі катэгарычна выступае супраць таго, каб рабіць літаратурны занятак прафесіяй, тым болей — «сродкам заробкаў». Літаратура, на яго думку, гэта — «захапленне». Пра яго, пра захапленне, як бачым, і ішла якраз размова толькі што…

Падагульняючы, хацеў бы ўдакладніць адметнасць Цвіркавага «захаплення» (лічы: натхнення) і, такім чынам, яго наватарства. Не столькі вонкава-фармальнага, колькі сутнаснага. Каму невядома, што тэма «роднага кута», «карэнняў» ды «вытокаў», «думаў-сноў ратая» ды «велічных дзей хлебароба» (радкі Кастуся Цвіркі) не новая, традыцыйная для нашай літаратуры.

«Усе мы з хат», усе мы «хлопцы з вёсак», усе «вясковыя лірнікі». Ды вось тым не менш песня Зялёнай Дуброве прагучала (гучыць) па-новаму, у якасна новай танальнасці. Падобна, што Кастусь Цвірка спасціг нешта глыбей, чым многія з нас, прыняў бліжэй да сэрца нешта самае істотнае, самае запаветнае. Кажучы словамі класіка: «Лепшы спосаб пісаць добра — гэта многа сэрца». А сэрца паэта-зялёнадуброўца, як мы бачылі, асабліва шчодра раскрываецца якраз тады, калі ён звяртаецца, —як да сваёй першай і нязменнай любові, — да «бацькоўскага свету», «свету сялянскай працы,» да « светлага краю

дзяціннага». Зноў-такі: дзе твой скарб, там і тваё сэрца. (Дарэчы, слова «скарб» — адно з ключавых у лексіцы Кастуся Цвіркі.)

Сёй-той з урбанізаваных крытыкаў-снобаў можа папракнуць паэта ў «пейзанстве», у залішняй ідэалізацыі вёскі, вясковага ладу жыцця. Беспадстаўнасць такога падыходу ў дадзеным выпадку відавочная. Хіба можа быць залішнім клопат пра свой скарб, адказнасць за яго захаванне і памнажэнне? Хіба могуць быць празмернымі сыноўскія любоў, пашана і ўдзячнасць, «великая ласка к тому месту, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе?» Пытанні, здаецца, рытарычныя. Гэтак жа, як і пытанне, ці апраўдана абавязанне паэта напісаць пра кожнага са сваіх аднавяскоўцаў «па самай светлай паэме». Увогуле ж сам Кастусь Цвірка як творца і асоба дае пераканаўчы адказ на гэтыя і да іх падобныя меркаванні. Каб у гэтым пераканацца, давайце ўважліва перачытаем адзін з ягоных, так бы мовіць, праграмных вершаў, верш «Зямлі патрэбны паэты…».

*Анатоль Вярцінскі*

# ВЕРШЫ

## ТАКІЯ СЭРЦЫ Ў НАС

Такія, мусіць, косці ў нас —
Нам у пуху не спіцца,
Такія, мусіць, ногі ў нас —
Нідзе нам не сядзіцца,
Такія, мусіць, рукі ў нас —
Ніяк ім не сламіцца.

Ім трэба муляцца, касцям,
У цягніку на дошках,
Ім трэба пыльны стэп, нагам,
Змяраць ушыр і ўдоўжкі,
Ім трэба лёд прабіць, рукам,
Скалу здрабіць на крошкі.

Хай проста ў вочы дождж і гром —
Не змусіш нас згінацца,
Хай раптам цела зморыць сном —
Не будзем мы хістацца,
Хай заінее нават лом —
Мы не расшчэпім пальцаў.

Такія, мусіць, рукі ў нас,
Такія, мусіць, ногі ў нас,
Такія, мусіць, косці ў нас…
Такія сэрцы ў нас!

*1957*

## ПАЛАТКА НА ЦАЛІНЕ

Мы ведалі: не будзе тут і блізка
Такога інтэрната, як у Мінску.
На голым месцы расхінулі скатку,
І сярод стэпу — вырасла палатка.
Хай барабаніць лівень па брызенту,
Мы нібы ў інтэрнаце зноў, студэнты.
Няхай няма у ім шырокіх вокан,
Дык люк адчыніш — бачна ўсё навокал,
Хай замест ложкаў нікельных — бароны!
А пасля працы спім тут, што бароны!
Калі ж — бывае — ў чамаданах пуста
І на палатку — хлеба пара лустаў,
Дык гэты хлеб нажамі мы бясслоўна
На трыццаць два раты падзелім роўна,
А вечарам, забыўшыся аб скрусе,
Пяём брыгадай, як ляцелі гусі…
Хай стэп кругом, а ўсё ж скажы мне, браце:
Ці ж мы не у сапраўдным інтэрнаце?

*1957*

## ДВОЕ Ў СТЭПЕ

Ім сцежак тут не трэба:
Шырокі стэп — гуляй.
Над імі — ў зорах неба,
Наўкол — маўчыць зямля.

Іх Мінск за белым светам,
Ды добра тут адным.
Ледзь цягне цёплым ветрам
З начное цаліны.

Бы ў сне, паціху крочаць,
І кожнаму відаць,
Як дарагія вочы,
Што светлякі, гараць.

Даўно палатка знікла:
Дзе, у якім баку?

Хлапец рукой нязвыкла
Бярэ яе руку.

Вядзе іх вечны клопат,
Дармо, што згублен стан:
У тым баку — Еўропа,
Там — Ціхі акіян!

*1957*

* * *

Табе, сяброўка, ехаць на вакацыі,
І добра мне яшчэ прайсці з табой,
Ды вось свісток прарэзлівы на станцыі —
І вокны паплылі перада мной.

Лаўлю я позіркам вагоны цёмныя,
Што ўжо ляцяць у срэбраную ноч,
І да драбніц гарэзны твар успомню я
І цеплыню такіх ласкавых воч.

Удаль пабеглі шпалы пад парошаю.
Ты недзе, аглядаючы прасцяг,
Стаіш, напэўна, ля акна, харошая,
Цярэбячы свой шалік на грудзях.

Між хвоек дым апошні расплываецца,
І рэйкі ўздрыгваюць усё цішэй…
Ды гэта толькі поезд аддаляецца,
А ты мне робішся яшчэ бліжэй!

*1957*

* * *

Павуціны беленькая нітка
На пінжак мне села. Я здымаю
І кладу яе на крылы ветру:
Хай ляціць па нівах, сёлах…
Восень.

Ля варот — чырвонай бульбы горка.
Паўз яе нясуць бульбоўнік дзеці,
І жанкі духмяныя ахапкі
Рэжуць на сячкарні новай…
Восень.

Я іду сялом. На светлых стрэхах
Паласатыя бакі ўграваюць
Гарбузы. За шыбай — памідоры,
Нібы жар, палаюць ярка…
Восень.

Шлях вядзе ў палі. Здаля насустрач
Пылу коціцца клубок. Ды гэта ж
Наш шафёр вязе капусту з градаў —
Кузаў качаноў бялюткіх…
Восень.

Ліст тапчу я. Цёпла — на прылеску.
Я кладуся на сівец, пад сонца,
Што ўжо нейкім дарагім да болю
Стала сёння…

*1958*

## ЛОДАЧКІ

Хоць было мне і шкада,
Ды абула лодачкі.
Выйшла з хаты — любата:
Аж рыпяць на сходачках.

Пэўна, гляне ўжо не так
На мяне Міхасік мой,
Калі ў клубе тупну ў такт
Тоненькім абцасікам.

А прыйшлося: і ў мой бок
Не глядзіць ніколечкі.
Бачу: выйшаў у садок
З старшынёвай Волечкай…

Дайце ж круг і размах
Мне, малодачкі:
Няхай б’юцца ў пух і ў прах
Мае лодачкі!

*1958*

## ПЦІЧ

Паўз бераг — зялёнаю хваляй асокі,
Вада нібы сінька — на фарбы пазыч.
Цячэ, пазбіраўшы па свеце аблокі,
Нікім не апетая Пціч.

Не ўбачыш на люстры яе парахода,
Курортны палац не засвеціць з-за ліп.
Варушыць чарот ад усходу да ўсходу,
Люляе, люляе чаўны ля сяліб.

Ля моста жанкі, падаткнуўшы спадніцы,
За хвалю бяруць яе — мыць ручнікі,
Яна ж вырываецца з рук, жартаўніца,
Імчыцца, адносячы шуму шматкі.

Ды доўга няма як разгульвацца плыні:
Нясе на спіне за плытамі плыты,
Варочае жорны каменныя ў млыне
Ды сонцы развешвае ўсцяж на драты.

Бяжыць, падбіраючы следам крыніцы,
Дубы падмывае — штоперазу дужэй.
Хай песень не чуў я аб ёй, працаўніцы,
Ды мне за ўсё рэкі яна прыгажэй!

*1960*

* * *

Не сцерці мне з памяці дзень той,
Як выйшаў з маленства ў шлях я.
Быў клён у барву адзеты,
Аблокі раллёю пахлі.

Я нёс у руках, на рэмні,
Блішчастыя першыя боты.
Да станцыі плечы грэў мне
Праз торбу духмяны бохан.

Звінелі косы на Крушні,
Каровы рыкалі за Талам.
А сцежка, дажджом прыцярушаная,
Конікамі стракатала.

Выходзіла сонца з аблокаў,
Гарэў небасхіл пажарам.
І дзесьці на дне глыбока
Песня ў сэрцы ляжала.

*1960*

## МЁД І ЯД

Кажуць,
Нібы ў век дубоў някранутых
Пчолы нашы
Іншымі былі:
Джал і знаць не зналі,
Ў красках з раніцы,
Мірныя,
Бясклопатна гулі.

Толькі й ведалі,
Што з ліп дурманячых,
З дзікіх грэчак,
З верасоў штогод
У дупло да сотаў —
Жоўтых шкляначак —
Зносілі лясное цуда —
Мёд.

Ды аднойчы звер,
Зубамі ляпнуўшы,
Выйшаў з-за куста,
Здабычы рад.
Соты драў,
Таптаў грубымі лапамі…
І тады
З’явіўся ў джалах
Яд.

*1961*

## ПЕРЛЫ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

На беларускай мове… гаворыць каля 10 мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і выдатна распрацавана…
*Адам Міцкевіч, 1842 г.*

Абрус — абцас — азярод — арэлі…
Вясёлка — вырай — вярба — ваўчкі…
Як міла пазвоньваюць, сэрца грэючы,
Чыстых бацькаўскіх слоў ланцужкі!

Зямлі маёй перлы, дзе іх адшукалі?
Спытай у магіл: удзень і ўначы
Іх, з бурамі дужаючыся, здабывалі
Людзі простыя — крывічы.

Каб ярка свяцілася перлінка-слова,
Каб людзям зіхцела — на ўсе бакі,
Яго шліфавалі як след, адмыслова
Найлепшыя ў свеце тачылы — вякі.

Ды лезлі чужынцы — мой край прысвойваць —
І ўсюды (бо трос душы чорныя страх)
Знішчалі агнём беларускае слова,
Палячы геніяў на кастрах.

Але ўратаваў люд мой слова ад згубы
І, гонячы катаў ад родных бяроз,

Праз далеч стагоддзяў сівых — з губ у губы —
Да нас, незамутненае, данёс.

Як скарб дарагі, перададзены ў спадчыну,
У сэрцы хавае народ мой ад здрад
Праменнае, звонкае слова матчына
Для песень сонечных і балад!

*1962*

* * *

На той зямлі, дзе ў зорны час
Пакінуты маленства вёслы,
Каторы год без нас, без нас
Па колкіх броўках ходзяць вёсны.
У вольных вольхах зноў і зноў
Цвітуць ясноткі і таўкачыкі.
За табунамі тумаў
У асацэ нясуцца качкі.
Мы — ці даруюць нам палі? —
Зрасліся з горадам, як з ценем,
І часта — парасткі зямлі —
Не тое робім, што хацелі б.
Ды помніць сэрца плыт і плуг,
Высокі жнівень, свет пясчаны…
Сячы ж аб дом — па шклу, па тлу —
Вясновы лівень ачышчальны!

*1962*

## ЧОРНАЯ СКІБА

З-пад плуга твайго — убачыш здалёк —
Па полі наўпрост, за сялібай,
Плыве і пакорна кладзецца набок
Чорная скіба.

Чорная скіба! Пара — дымком.
Як хлеб, які на жары быў,
Ляжыць пад воблакам-ручніком
Чорная скіба.

Яшчэ нават продак продка твайго
Варочаў яе і раскідваў.
Зведала безліч і сох, і плугоў
Чорная скіба.

Колькі паэтаў, будаўнікоў,
Вучоных (усіх не злічыў бы),
Як маці, карміла спакон вякоў
Чорная скіба.

Аснова асноў, без яе чалавек
Да зорак дайшоў бы хіба?
Таму і спяваю я песню табе,
Чорная скіба!

*1962*

* * *

Сёння спаць не пайду, не пайду —
Лепш не кліч, перапёлка.
Ты не бачыш, каго я вяду
Па дарозе з пасёлка.

Хваля чорная валасоў,
Паркалёвая блуза…
Лезе месяц — які тут сон! —
Ёй за шыю, заблуда.

Кажуць вочы: цалуй, цалуй!
Я на рукі бяру, харошую,
Па пшаніцы, як па сялу,
Крочу з радаснай ношаю.

Недзе ўпала прыколка — няхай.
У кішэнь дай мне туфлі.
Неба, неба — рабая страха.
І зара ўсё не тухне.

Твар апёкся — яе валасы!
І — няхай нават згуба —
У гарачыя каласы
Апускаемся — губы ў губы.

Зверху зорка глядзіць на палі —
Агнявыя вейкі.
Абвілі мяне, аплялі
Рукі — яблыні веццi.

Ў сэрцы сонечна — не гавары.
І дармо, што, як совы,
Будуць зырыцца плеткары,
Кідаць колкія словы.

Што ж, няхай. Мы ізноў на зары
Тут прызначым спатканне…
На зямлі, не заходзячы, вечна гары,
Сонца кахання!

*1963*

## ЧАТЫРЫ ВЯТРЫ

*Маёй мацеры*
*Надзеі Канстанцінаўне*

### I

Я абганяю бульбу —
        яна пабялела на сонцы.
Плуг, быццам човен у хвалю,
        у глебу міжраддзя нырае.
Плыве ў чарназёме лёгка,
        чыркае аб камень знянацку
І зноў
        у пухкай зямельцы тоне.
Іду ды іду баразною.
        Над соткамі — мроіва поўдня.
Я дома, у мацеры, босы.
        Жаўранкі ды зязюлі.
Патузваю толькі лейцы —
        каб корч не вывернуць раптам…
Пад майкаю вецер ходзіць,
        ступня па зямлі ступае…
О, як гэта проста —
        за плугам ісці баразною.

О, як гэта мудра —
        за плугам ісці баразною.

II

Цэлае лета бясконца палі
пясчынкай кожнай сонца пілі.
Яно ў насенні брадзіла, гуляла,
сонца,
светлымі парасткамі прарастала,
сонца…
Цяпер па зямлі скрозь — зірні — шугае
сонца,
з раніцы людзі гуртом падбіраюць
сонца:
сыплецца ў бункер
жыта струменем — сонца,
падае яблык,
увесь у праменні — сонца,
на градах
лісцё качаны раскрылі — сонца,
вазы агуркоў, памідораў скрыні — сонца.
Сонца, сонца, сонца…
Гляджу, як грузяць на грузавікі
сонца,
вязуць на пыльныя бальшакі
сонца.
Хутка запоўніць усе гастраномы
сонца,
яго разбяруць па кватэрах умомант,
сонца.

III

Заўчора да дня над Анцінымі вязамі
гусі праляцелі — туды, на Зазер'е.
А сёння сыплецца — на дровы, на пералазы —
снег — белае пер'е.
Маці адставіла ўбок даёнку,
глядзіць на шыбы нямыя:
снег накрывае марляю тонкаю

гарода груды грубыя.
Зіма… Няўжо гэта праўда,
што ўжо яна на дварышчы?
Во рукі ж гарацць яшчэ — не дацць ім рады —
ад асакі ды іржышча.

IV

Сакавік, а да соку —далёка:
пад бярозай — сумёт па плот.
Мне ж даводзіць сарокі сокат:
снег не снег ужо, лёд не лёд.
Цэлы дзень сёння маці ля арфы:
прыадчыніш акно — гуд і гуд.
Толькі ў поўдзень, ад сонца яркі,
сціхла.
Цокаюць кроплі аб грунт.
Чую крокі ля вокан: маці!
Ледзь у хату — і да вады.
Пылу, пылу на хусце — памацай, —
астануцца пальцаў сляды.
Ёй прылегчы б, ды хіба ж захоча:
палівае расаду, зноў, зноў,
і расказвае: хутка адскочыць
на балоціне чорнагалоў.
Твар свіціцца. І нават маршчыны
зніклі некуды, як адна.
З-за нябачаных далячыняў
зноў у вёску прыйшла вясна.

*1964*

* * *

Ёсць на свеце краіна.
        Там думаць аб хлебе — не трэба.
Там — бясконцае сонца,
        бясхмарнае неба.
За тваёй баразною —
        гракі як грэкі.
Там — малочныя рэкі,

Паўнамоцныя лекі.
Знік навекі там смутак,
як цень іхтыязаўра…
Ёсць такая краіна.
Яна называецца — Заўтра.
Цэлы век мы ідзём туды,
вострачы слова, нястомныя,
Зубрачы перад сесіяй
хіміі і анатоміі.
Мы дарогу туды пракладаем
простай лапатай і грэйдарам,
Кельмай і культыватарам,
скальпелем белым і пэндзалем.
Прабіраемся на самазвалах,
пеша,
на конях зацугленых —
Да яе, да яе! —
праз дзён непраходныя джунглі.
Вечна рвёмся туды,
нібы да высокага сонца
З нашай будзённай краіны,
якая завецца — Сёння.
Як планеты, блішчаць ліхтары
над дарогаю сонна —
Сёння.
На праспекце ўвесь дзень пераймаюць
дожджык-імжак парасоны —
Сёння.
Я маячу ў чарзе шмат'языкай —
даюць апельсіны —
Сёння.
У граду, зямлёю запэцкаўшы рукі,
хаваю, як вырай, насенне —
Сёння…
Ні на міг не спыняемся мы —
гарыце, зоры бяссонныя! —
Ідзём у краіну Заўтра
з краіны працоўнай — Сёння.
Сёння…
А дні, што намі пражыты, —
іх ты не спыніш, не спыніш! —
вагонамі скорага

Імчацца ў другую краіну,
        якая завецца — Учора.
Таемным востравам казак
        дрэмле там печ на падлозе.
Там скрыпкай шматструннай грае
        штодня па сняжку палоззе.
О, як ясна там свецяцца, свецяцца,
        не гаснучы,
        вочы і губы!
О, як соладка пахне пад месяцам
        горкі палын там, за гумнамі!..
За ўсё даражэй яна сэрцу,
        краіна Учора
        (мусіць, таму, што ніколі
Нам туды ўжо не з’ездзіць…).
Краіна Учора…
Краіна Сёння…
Краіна Заўтра…
Тры краіны на свеце…

*1965*

* * *

Усё мінаецца, мяняецца: лясы
ссякаюцца і зноў шумяць, гайдаюцца.
Як зайца поўсць, мяняюцца часы —
унь — на Зямлі-ваўчку, што не спыняецца.

О, як перад вачамі мільгацяць
эпохі навальнічнай кінакадры!
Мяняюцца часы. Паўз нас ляцяць.
Не спыняць іх ні подкупы, ні кары!

Яны нам трубяць, Новыя часы,
гудуць, гудуць — шырокі горн гранёны.
Пад хіжых дэмагогаў галасы
мы ў сэрцах носім іх як эмбрыёны.

Не ўсе, не ўсе мы ланцугі змялі —
пад сонцам крыўд ох як яшчэ даволі!

Не спі ж, не спі: няхай па ўсёй зямлі
гуляе, меж не ведаючы, Воля!

У гэты свет ідзём мы, як трава,
нясём у жылах новы дзень з сабою.
І часта падаем — зямля, бывай! —
мы у жыцці — бясконцым полі бою.

Ды з зерняў прарастаюць каласы,
над далямі, над днямі нахіляюцца.
Я знаю:
нас глытаючы,
часы,
як ад вятроў зіма,
перарабляюцца.

*1965*

## ПЕШКІ

*М. Рому — стваральніку*
*кінафільма «Звычайны*
*фашызм»*

Пасля работы (звычайнай, канторскай)
Сяджу, ачмурэлы,
        над шахматнай дошкай.
Усё-такі добра быць каралём
        альбо каралевай:
Хадзі куды хочаш —
        уперад,
        назад,
        направа,
        налева.
Не тое што ў пешак:
        ні ўлева, ні ўправа
Ім хадзіць не дазволена —
        толькі прама.
Хай збоку пагрозліва стане
        варожы ферзь —
Усё роўна не лезь!

Не маеш права:
Трымайся закону адвечнага:
    кроч прама!
І крочаць пешкі
    адна за адной,
Збіваючы іншыя пешкі,
Трапляючы самі «пад бой».
Пешкі… Пешкі…
(Каму не помняцца пешкі,
    якімі нядаўна адзін гуляў у «Mein Kampf»?)
Мне шкода іх, пешак
    (хоць сябе яны не шкадуюць):
Яны ні пра што не думаюць,
    яны нічога не чуюць,
Ідуць па загаду слепа —
    хай смерць, хай згуба чакае ля сцежкі…
О пешкі!

*1966*

* * *

Калі над горадам усходжваецца непагода,
    зрываючы з паважных дзядзькоў
    капелюшы —
    гэй, перайме там, сябар! —
Калі яна між дамоў шалее,
    дзеркачом завірухі
    змятаючы людзей з тратуараў
    за дэрмацін дзвярэй,
    дзе аж трашчаць ад нагрэву
Трубы цеплацэнтралі, —
Я думаю пра вас, землякі,
    зялёнадуброўцы.
    (Вы на чорнай — зімою белай — зямлі,
    якая адкрыта перад усімі зорамі і вятрамі,
    як жылі, жывяце,
    безабаронна й нязрушна,
    як дрэвы.)
Бачу Вас, дзядзька Белы.
Які пісец гэтак твар Ваш маршчынамі скрэмзаў?

Па іх, як па пісьмёнах,
Я пра лёс Ваш чытаю.
Вось гэта расказвае пра вайну мікалаеўскую
(колькі асколкаў і куль ляцела на Вас,
каб змяшаць Вас з зямлёю!).
Гэта — як хлеб Вам даваўся
(за пот, што Вы шчодра лілі на палі,
плацілі Вам працаднямі,
пустымі, як абмалочаныя каласы).
Гэта і гэта — пра Вашых сыноў,
Алёшу і Юзіка,
якія ўсё яшчэ не прыйшлі
з 41 года…
Бачу Вас, Ясь Дубовік.
Вы скора справіце сваё 80-годдзе,
а ідзяце яшчэ з віламі на Канаву —
вяршыць стагі свайго чарговага лета.
Колькі Вы скідалі іх за жыццё?
Каб гэта раптам сабраць з усіх лет
Вашы стагі,
быў бы, напэўна,
найвялікшы ў свеце горад стагоў!
Бачу цябе, Аркадзя Азанаў.
Помніш,
ты ўсё мерыўся з'ехаць з Зялёнай Дубровы
(«Не было і не будзе тут парадку!»)?
А зараз, відаць, раздумаў:
куды ні пайдзі, чуваць, як чмыхае
сінім дымком твой трактар,
ад якога цябе не адцягне і жонка,
вячэраць гукаючы…
Бачу Вас, стары Галляш, —
самы першы ў вёсцы грыбнік,
казачнік і сейбіт.
Прыпадаючы на адну нагу,
Вы ідзяце па дымнай раллі, прама на ранняе сонца.
І жменя за жменяй — бераце з лубкі
і сееце, распускаючы залатым веерам перад сабою,
жыццё.
Бачу Вас, Антон Цвірка — вялікі пчаляр
(на ўсіх вакольных дубах
звіняць пчоламі Вашы калоды);

Вас, Бэрнусь Паўловіч, — скрыпач-чараўнік
(колькі шчаслівых слёз
выбраў з сэрцаў людскіх Ваш смык!);
Цябе, Сымон, конюх-філосаф
(я цябе вышэй бы паставіў за многіх з тых,
хто выседзеў нават гросбухі
доктарскіх дысертацый);
Вас, цётка Хрыстына,
найлепшая з лекарак, якіх я ведаў
(як рукой здымаюць хваробу ў дзяцей
Вашы незразумелыя і такія ласкавыя словы!)…
Няхай некаторыя з Вас даўно
парацць ужо на жоўтым пагосце косці,
але для мяне Вы заўсёды жывыя,
мае землякі.
І пра кожнага з Вас,
калі ў мяне хопіць сілы і таленту,
я напішу яшчэ — абавязкова! —
па самай светлай паэме.

*1966*

## ЗЯМЛІ ПАТРЭБНЫ ПАЭТЫ…

Зямлю — не ашукаеш:
у складках-скібах яе —
Вякоў незлічоных мудрасць.
Над чорнымі грудамі
лёгкі туман, як кастрыца.
Выслухвае хмаркі зямля,
капілярамі ўсімі адкрытая.
Яна, як дзяўчына,
чакае кагосьці, чакае.
Старая, як свет,
і, як лотаці цвет, маладая.
Нявеста найбагацейшая,
не змераць яе пасагу:
Нязведаны скарб у сховах
замкнула яна да часу.
Не кожнаму толькі рада
Аддаць яна ў рукі ключы
ад запаветных складаў.

Зямлі патрэбны
        не трактарысты,
        не ўчотчыкі,
        не палольшчыкі,
        не дырэктары.
Зямлі патрэбны —
        паэты,
Якія
        ёю жывуць і дыхаюць,
        аб ёй, як аб мацеры, дбаюць,
Якія,
        перш чым з плугам прайсці,
        думкамі
        яе саграваюць.
Яны яшчэ ў снежні снежным,
        калі за хатамі свет увесь белы,
У галаве
        раўнютка ўзаруць яе
        і прабарануюць!
Яны яшчэ ў лютым лютым,
        калі замятае снег зоры,
Кожны палетак засеюць
        зярнят золатам.
А потым зноў яго перасеюць,
        і не раз,
        а разоў, можа, дваццаць ці сорак.
І доўга думаць будуць,
        дзе жыта пусціць, дзе проса,
        куды колас вось гэты
Паставіць звінець…
Адным толькі ім, паэтам
        (сапраўдным, не вершаплётам),
        рада
Аддаць зямля ў рукі ключы ўсе
        ад залатаносных складаў.
Тых жа, хто да яе прыходзіць,
        каб выпрацаваць мінімум,
        каб не адрэзалі соткі,
        каб атрымаць рублі ў касе,
Зямля не прызнае…

*1966*

## ЦЕЦЕРУКОВА МОВА

Ці чулі вы, пра што каля ракі
Балбочуць нацямку цецерукі?

Вясной, калі на ліпе, як кілішкі,
Зазвоняць хмелю поўныя пупышкі,
Калі старыя пні на расцяробах
Пад сонцам здзенуць ледзяныя робы,
А ў снезе запяюць на ўсе гаі,
Льючыся проста ў сэрца, ручаі, —
Цар-цецярук балбоча звонка:
«Прадам кажух — куплю жонку,
Прадам кажух — куплю жонку…»

Калі ж засвішча ў лесе сівер,
Мароз развесіць іней сівы,
Дарогу сцісне ў груду-храпу,
Балбатуну прыхваціць лапу,
Мяняе мову цецярук:
«Прадам жонку — куплю кажух,
Прадам жонку — куплю кажух…»

*1966*

## САБАКІ

Паважныя, ляныя, ля двара
Яны снуюць, паснедаўшы нядрэнна.
Палац уласніка-гаспадара
Вартуюць кожны дзень і ноч нядрэмна.

Ледзь выйдзе, як яны — ну як мінуць! —
Адразу ўсёю зграяю ахвоча
Кідаюцца, каб бот яму лізнуць,
Хвастом вільнуўшы, зазірнуць у вочы.

Ён строгі сабакар, іх гаспадар —
Заўсёды верны, паслухмяны будзь ты.
Штодня кідае ім агрызкі ў дар,
Дае за службу ўсім па цёплай будцы.

Дык як жа за яго ім не брахаць?
За костку — дайся толькі ім у знакі! —
Яны любога могуць разарваць…
Ды я не іх віню: яны — сабакі.

*1966*

* * *

Зноў вярнуўся я ў бацькаў свет палявы —
У першабытнасць дрэў і травы.
Авяваюць мяне вольныя крылы радзімы —
Вёсны ды зімы.

О як хораша — толькі з парога — піць
Маладыя настоі раніц!
Аб галінку шыпшыны лясной
(Як матылі, яе кветкі абселі)
Палец раніць!

Грае вечную арыю бор —
Я пайду без дарог, як вецер.
Можа, ўбачу, як ладзіць бабёр
Свой прытулак на гэтай планеце.

Блісне мне ля тваёй дзеразы
Бліскавіца-яшчарка, лесе.
А мо стрэну пагляд казы,
Што пасецца ў зялёным леце?

Там з-за хвой, дзе сцежка лася,
З-за галін вербалозу, здалёку
Мне, як радасць, адкрыецца ўся
Азярына — зборнік аблокаў.

Будзе плёхаць хваля ў трысці,
Асыпаць пялёсткі каліна…
Гэта шчасце, што ёсць у жыцці
Родны бацькаўскі свет каляінны!

*1967*

* * *

Замятае, лісцем замятае
Поплаў, пасекі, раўкі далін.
Завядзі, дарожка залатая,
У краіну вольх і арабін.

Там цвіце — мой сон заўсёдны — верас,
Па нізах віецца дзераза
І блішчыць расінка раннем шэрым
На травінцы кожнай, як сляза.

Хай бягуць за голлямі аблокі…
Годы уцякаюць — не лічы…
Глянь, пад елкай — рыжык крутабокі
Ды баравікі, нібы карчы,

Ды ў агні нягаснучым асіны —
Не атушаць іх і туманы —
Сняць свае, зялёныя і сінія,
Чэрвеньскія ночы, як чаўны…

*1968*

## ЖУРАЎЛІНЫЯ ЯГАДЫ

За лесам сінім, на градцы нязнанай
Спялілі ягады журавы.
А ўвосень сабралі і ўсім караванам
Панеслі ў кошыках да сінявы.

Хацелі данесці да цёплага поўдня
Роднага краю дары.
Ды свіснула бура і з дзюбаў раптоўна
Сарвала кошыкі ўсе ўгары.

Як сонцы маленькія, на імшары
Скаціліся ягады з вышыні.
Ад той пары журавы і зараз
Шукаюць, шукаюць іх дзень пры дні.

Знайшлі іх і людзі, аблюбавалі,
І вось, калі загарацца кляны,

Ідуць на балота і, нібы каралі,
Збіраюць у кошыкі ды ў збаны
Чырвоныя ягады жураўліныя —
Журавіны.

*1968*

* * *

Аднекуль з-пад воблачка —
        любуйся любы! —
Злятаюць на мой падаконнік
        птахі нябёс — галубы.
Чысцяць дзюбамі пер’е — вур, вур.
Абадкамі вачэй
        ловяць раніцы сіняву.
Галубы, галубы —
Яны ніколі не вешаюць галавы.
Яны сумаваць не ўмеюць,
        галубяцца любою парою.
Натрапяць на хлеба скарынку —
        падзеляць заўсёды пароўну.
Я ніколі не бачыў,
        каб біліся яны між сабою
За ежу ці месца
        для гнёздаў сваіх пад страхою.
У жыцці для іх
        многа не трэба:
Адно блакітнае неба!
Жывуць у ім, купаюцца ў ім.
        Калі ж адпачыць захочуць,
Злятаюць на мой падаконнік
        І — ціха вуркочуць.
Вуркачыце ж сабе,
        вуркачыце —
Людзей жыць
        вучыце.

*1968*

* * *

Далёка ад азяродаў,
    там, дзе між хмарамі-марамі
    зоркі ледзь-ледзь мігцяць,
Гусі — га-га! — ляцяць.
Над прыгорбленымі стрэхамі
    што маўчаць
    каля ліп нерухомых,
Над гразёю — аж дрыжыкі! — вуліц,
    над блішчастых лужын холадам,
Над гарадамі-сотамі
    (дзе ў светлых ад электрыкі вокнах
    снуюць людзі
    ў піжамах бяссонна),
Над соткамі
    (якія хавае змроку заслона),
Над прыазёрнымі чаратамі,
    над маякамі,
    над вякамі,
Як гуслі —
Гусі.
У вырай, у вырай, у вырай —
Гусі ляцяць.
Ізноў ім, ізноў ім, ізноў ім
    за далячыняю далячынь
Звонкім ключом адмыкаць.
Будуць пад імі плысці
    рэк паясы
    і ветрам абсвістаныя даліны
Украіны.
Са сваёй вышыні
    яны павітаюцца
З аграмадай Эльбрусам
    пад белым абрусам.
Пройдзе паціху
Пад крыламі іхнімі,
Як Зямлі блакітная латка,
Адрыятыка.
А там —
    мурожнай саванай-выганам —
    гэй, прапусці,
    маладая вясёлка-арка! —

Афрыка…
Далёка ад азяродаў —
    што ім дарогі і межы,
    што ім граніцы дзяржаў! —
Гусі ляцяць.
Дзікія гусі ляцяць.

*1969*

## КАЛІНОЎСКІ — АПОШНЯЕ СЛОВА

Бывай здаровы, мужыцкі народзе.

*Яська-гаспадар з-пад Вільні*

Такі іскрысты сёння снег!
Такія белыя аблокі!
Тут, на зямлі, — не ў сне, не ў сне! —
Апошнія лічу я крокі.

Да перакладзін чорных тых
(Чаму бялеюць іх сукі?)
Ўсе дваццаць шэсць гадоў маіх
Вядуць сталёвыя штыкі.

Даруй мне, тата, і бывай:
Я не вярнуся ў нашу хату.
Больш не адчуць рукою, знай,
Тваёй далоні вузлаватай.

Даруй, Марыська, родны птах,
Я і цяпер, нібы дарункі,
На збітым твары, на губах
Нясу твае ўсе пацалункі.

Даруй, даруй: б’е час разлукі
І тую шыю, што твае
Так моцна абвівалі рукі,
Вяроўка сёння абаўе.

Даруйце мне, што ў час юначы
Сябе я гэтак не бярог.
Паверце вы: я жыць іначай
Не мог, не мог, не мог, не мог.

Пячэ мне сэрца боль другі:
Як ластаўку, на згубу
Няшчасны край мой дарагі
Дзярэ арол двухдзюбы!

Мужык, у крук сагнуты, тут —
Ці спёка, ці разводдзе —
Валочыць паншчыны хамут
З стагоддзя у стагоддзе.

Цар толькі прывід волі даў:
Па ўсіх палях наўкольных
Адзін бізун, як і гуляў,
Ізноў гуляе вольна.

Цары ж са смакам хочуць жыць,
Народ ім трэба, каб давіць,
Народ ім трэба, каб даіць.

Ну, а каб лёгка клаўся ён
Пад царскія падэшвы,
Вылазяць зграі халуёў
Для «апрацоўкі грэшных».

О, я вас знаю, халуі,
Пасобнікі разбою!
Адна ў вас мара — на чаі
Вам кінулі б паболей.

Перад дваром вы — бараны,
Угоднікі, маўчальнікі —
Вам хоць бы выбіцца ў чыны,
Пралезці б у начальнікі.

Што праўда вам, што вам народ,
Што Бацькаўшчыны гора!
Вам свой напхаць бы толькі рот,
Сваё здаволіць горла б.

Вы ўміг тупы цара дэкрэт
«Правесці ў жысць» гатовы.
З усіх амвонаў і газет
Нам «чысціце» галовы.

А пікні вам — як чорны зброд,
Вы ўсіх распяць ахвочы.
Заткнулі вы народу рот
І завязалі вочы.

О так! З народа можна ўсё рабіць:
Масты масціць, вяроўкі віць,
Гнуць дугі, круціць атосы,
Калі ён нямы, безгалосы!

Вось так, народ, ты ланцугі
І цягнеш век, нябога.
Табе убілі у мазгі,
Што гэта ўсё ад Бога.

Ты за цара ў агонь прывык
Ісці, хлуснёй аглушаны,
А цар тваёй рукой, мужык,
Цябе ж самога й душыць…

Калі на край наш крумкачы
Ляцелі хіжым роем,
Вучыў мой бацька: лепш маўчы
Ды беражы здароўе.
Я не паслухаў, выбачай:
Безабаронны, клікаў край.

І я пайшоў у навальніцу,
У бой зацяты — нож на нож.
«Мужыцкай праўды» бліскавіцай
Я рассякаў нямую ноч…

Цяпер — бывай, бывай, народ.
Даруй за мой канец такі.
Зрабіў я ўсё — на эшафот
Вядуць сталёвыя штыкі.

Усё маўчыць, за небакраем —
Палёў заснежаных абрус.
Мая прыгнутая, глухая,
Мая льняная Беларусь.

Там да сяўбы — мне добра бачна —
Ўжо ладзяць новыя плугі.

Ты знай, жандар: не ўсё ў нас страчана —
У далях спее бой другі.

На скатаванае зямлі
Збірай жа, люд мой, новы гром.
Я знаю: прыйдзе час, калі
Тут станеш ты гаспадаром.

*Бывай,здаровы мужыцкі народзе,*
*Жыві у шчасці, жыві у свабодзе*
*І часам спамяні пра Яську свайго,*
*Што загінуў за праўду для дабра твайго.*

*1969*

* * *

Так кожнаму наканавала
Доля — міл ці не міл:
Усе мы адыдзем памалу
За небасхіл.

Ды ў сонечным свеце, за брамай, —
Залётная каня, крычы! —
Будуць цвісці гэтаксама
Яблыні і касачы.

Белай сям’ёю крылатай —
Новага лета паслы —
Будуць на поплаў за хатай
Зноў апускацца буслы.

Я зноў іх убачу! Ахвоча
На свет гэты, тут і там,
Будуць глядзець мае вочы,
Што ўнукам я перадам.

*1969*

* * *

Былі тады — ноч, ты ў слабенькім паркаліку, арэшнік
Ды я, грэшнік.
А зоркі ўсе стаялі, як адна,
У возеры расчыненым, без дна.
А ў беразе праз сон (ці ад савіных лап?) з адчаем
Крычала чайка.
І вабна слалася нам да сцяжыны
Квяцістаю пярынай — канюшына.

І ў шчасця свет вяла (так блізка блузка!)
Конікаў язычніцкая музыка.

*1970*

## Я ПРЫЙШОЎ ДА ВАС

Я прыйшоў да вас, каб сказаць,
Што за горадам ноч, як дзень:
Каля рэчак вербы не спяць,
Ясны месяц стаіць у вадзе.

Там, пры сцежцы, ажыны цвітуць,
Май шугае праз берагі.
Там дзве пары слядоў вядуць
У някошаныя мурагі.

Я прыйшоў да вас, каб сказаць,
Што не раз можна ў свеце кахаць:
Гэта ўсё хлусня, ўсё мана,
Што любоў можа быць адна.

Хай замерла зямля, як струна,
Хай замоўкла ў палоне сноў,
Цёплым крыллем махне вясна —
Расцвітаюць яблыні зноў.

Я прыйшоў да вас, каб сказаць,
Што няма на зямлі небыцця:
Будзе вечна пад сонцам граць
Залатое кола жыцця.

Як заманліва ўсё наўкол!
Правады на слупах гудуць.
Недзе рэжа сінь ледакол,
Электрычкі па свеце бягуць.

Я прыйшоў да вас, каб сказаць,
Што для нас гэта зоры гарац ь,
Што не згасне ў крыві маладосць
І што шчасце на свеце ёсць!

*1971*

## ПЕСНЯ ПАРТЫЗАНА

Ты думаў, фашыст,
    што, кінуўшы голае цела маё ў лёд сцен,
Ты ўсё ў мяне адабраў:
    кашулю, якая ад смерці халоднай ратуе;
    край мой,
    што буслам клякоча над галінастай вярбою;
    мову маю беларускую,
    што звеку крыніцай у хатах цурчыць, не сціхаючы;
    волю, што крылы дае для самых высокіх палётаў.
Ды ты пралічыўся:
    забыў ты пра песню,
    якая ў сэрцы маім засталася.
І гэтая песня вярнула мне ўсё:
    кашулю, якая ад смерці халоднай ратуе;
    край мой,
    што буслам клякоча над галінастай вярбою;
    мову маю беларускую,
    што звеку крыніцай у хатах цурчыць, не сціхаючы;
    волю,
    што крылы дае для самых высокіх палётаў!

*1972*

* * *

Ты мне казала:
        — Без цябе дайду дадому, адыдзі!
А вочы гаварылі:
        — Правядзі…
Ты мне казала:
        — Ну! Без рук! Пусці хутчэй!
А твае рукі:
        — Прыгарні яшчэ!
Ты мне казала:
        — Не цалуй мяне, благі!
А губы зноў шапталі:
        — Дарагі…
Ты мне казала:
        — Што ты! Нельга! Цвёрда кажу я!
А сэрца стукала:
        — Твая, твая…
І добра ўсё ж, што ў часе залатым
Паверыў я зусім не словам тым,
А твайму сэрцу,
        трапяткім губам,
Рукам гарачым,
        ласкавым вачам!

*1975*

* * *

Рассыпала ноч алмазы
Па дахах дамоў, па рамах.
Блішчаць усе яны разам
У мілых вачах таксама.

Збірайце ж вы іх, збірайце,
Збірайце, пакуль маладыя,
І ў сэрцы сваім зберагайце
Алмазы найдарагія.

Дарога жыцця — немалая,
На ёй будуць церні і цені,

І часам аслепіць — бывае! —
Вам вочы чорная цемень.

Ды вы любыя запруды
Адолееце адразу,
Калі асвятляць вам будуць
Дарогу тыя алмазы!

***1976***

* * *

І дабрата і прыгажосць —
Гляджу: такое спалучэнне!
А можа, гэта ўсё і ёсць
Душы высокае свячэнне?

Прамень твайго святла і я
Злавіў вачмі ў паглядзе шыбкім,
І адгукнулася мая
Душа на промень той, як скрыпка.

Імчала электрычка нас,
За шклом мільгалі святлафоры
І неба немае, дзе — час! —
Збіраўся зор высокі форум.

Дзесь ля Ушы, нібы рака,
Вагон запоўніла вяселле,
І ўжо віхуру гапака
Панеслі колы між аселіц.

Нас грэў вясёлы танец той,
І падпяваў паціху кожны:
Ты —
        ява казкі залатой,
І я —
        вандроўнік спадарожны.

На развітанне з цеплынёй
Ты пасміхнулася мне ветла,

І ў чорнай цемені начной
Мне раптам стала гэтак светла!

Ішоў я, повен мараў-сноў,
Асенняй вуліцаю хліпкай,
І пела, пела, пела зноў
У сэрцы сонечная скрыпка.

***1976***

* * *

Хто месяца жарыну
Ў надбор'е запусціў?
О як ён азярыну
Начную асвяціў!

Паслаў — каму пад ножку? —
Жывую, з серабра
Нябесную дарожку
Па хвалях і вірах!

Пайшла яна — успышкамі —
Па беразе ў расе,
По голках хвой, па шышках,
Па верасе.

Хто месяца жарыну
Ў надбор'е запусціў?
І чый там, у ажынніку,
Гарачы шэпт: «Пусці!»

***1976***

* * *

Каташкі на вольхах, каташкі…
Нібы залатымі кутаскамі,
Зноў паабчапляліся ляскі
Ля маёй Дубровы каташкамі.

Край бацькоўскі! Я ізноў жыву!
Тыя ж хмаркі белыя ў блакіце,
Так жа каня падае ў траву,
І жаўцее лотаць у ракіце.

Ля дарогі рупны трактарок
Ходзіць полем з жаваранкам спеўным.
Там — пастух ля статка: хто — здалёк
Мне не пазнаць, ды ён дуброўскі ж, пэўна.

Падыду да дзядзькі. Пастаім
Ля дымка ягонай папяроскі.
Як вядзецца, пагамонім з ім
Пра жыццё, пра ўсе навіны вёскі.

Я не госць тут. Тут — мая зямля.
І свой край я не аддам нікому!
Забрыду за свет хай, дый здаля
Сцежка прывядзе мяне дадому.

Азярко сінее між куп'я,
Устае зара — зямлі карона —
Над вясёлым жытам. Я тут — я.
Тут мае і карані і крона.

*1976*

## РЫЖКІ

Я ўжо знайсці іх і не марыў:
За дзень бадзяння па гаях
З дзясятак бабак і свінарак
У кошык свой і ўкінуў я.

І вось пад елачкамі — неруш:
Яны, рыжманыя кружкі!
І тут і там — вачам не веру —
Па травяным лужку — рыжкі!

На крохкіх ножках-карацельках —
Няйначай, зверанят сям'я —
У зелянявых жылках ценькіх
Застылі ў страху між куп'я.

Я не спяшаў іх рэзаць, рыжых,
Хадзіў ля іх, паўз той лужок.
А калі браў, падоўгу слізгаў
У пальцах, як жывы, рыжок.

*1976*

* * *

Жыву каля рэха.
        Вечарам, калі за акном леснічоўкі
        ўлягуцца ў нагах хвой
        баранчыкі хваляў азёрных,
Прыходзяць ка мне
        ласі ды зоры.
Далёка ўбаку (нібы на другой планеце)
        застаўся свет мой штодзённы, прывычны,
        які даўно ўкруціў мяне ў свае колы:
Я ўцёк ад яго — на цэлы месяц —
        у гэта зацішша.
Думаў, тут адпачну без яго.
Ды толькі дарэмна:
        усе мае паўсядзённыя клопаты,
        якія я дома пакінуў,
Знайшлі і ў пушчы глыбокай мяне,
        прымчаліся ўсе, як адзін!
І вось раяцца ў маёй галаве,
        варочаюць начамі мяне з боку на бок,
        кідаюць у сне.
Не, тут нішто іх не перапыніць —
        ні звон трамвая,
        ні грукат бабы чыгуннай
        аб непадатны асфальт,
        ні крык дзіцяці за мембранай-сцяной…
Колькі ж змагу я пабыць
        сам-насам з вечнасцю?

*1977*

* * *

Зноў — сівец, і хвойкі, і дымок,
Як калісь, над станам пастуховым.
Я тут гэтаксама недзе мок
Пад шумлівай сховаю альховай.

Добры дзень, далёкая смуга!
Добры дзень, маіх узлескаў лісце!
Тут расой крутой мая нага
Апяклася, босая, калісьці.

Вунь і ты, чысцюткі ручаёк!
Як я рад, што ў пераплёт маліны
З той пары замглёнай ты не ўцёк,
Што вярнуў мае гады малыя!

Хутка мой раскручваецца век,
І вясны жыцця хіба не шкода:
Чалавек таму і чалавек,
Што Учора ў ім жыве заўсёды.

Нарадзіў мяне вось гэты край,
Крылы ў вырай тыя хаты далі:
Хто я, вам раскажа той вунь гай,
Тых палёў падсіненыя далі.

Лог і луг, крынічная бруя,
Сцежак ласка, халадок дасвецця,
Людзі нашы, мова — гэта я,
І без іх мяне не зразумець вам.

*1977*

* * *

Няхай табе даўно за сорак,
Ці ж варта аб гадах тужыць?
Адно: пад водбліск рэк і зорак
Цяпер паўней спяшаеш жыць.

Ды жураўлінай чарадою
Ляцяць пад воблакамі дні.

Схапі іх паспрабуй рукою,
Ты паспрабуй іх супыні.

Я час прыточваць не бяруся
І перад доляй не дрыжу,
Ды кожным днём, што зноў прачнуўся,
Як падарункам, даражу.

У звоне пчол, шматкаляровы,
Ідзе ён — далі расчыняць…
Баюся толькі: выпадкова
Падараваны дзень праспаць.

У кожным дні — свой спей, свой вецер,
Свае вясёлкі, горан свой…
Іграйце ж, дні мае, у свеце,
Раскручвайся, жыцця сувой!

***1977***

## ФРАНЦЫСК, СКАРЫНАЎ СЫН

Блукаў па свеце пілігрым —
Развеяў столькі лет і зім!
Цяпер ад тых чужых дымоў
Спяшыць Скарынаў сын дамоў.

Паўз балаты — далёкі шлях! —
Ляціць кібітка, нібы птах.
Як плешча возера ў лазе!
Як блешча сонца ў полазе!

Як пахнуць вязелем лугі,
Дзе кнігаўчыныя кругі!
А вунь і першы йдзе зямляк!
Хто ж гэта? З торбаю жабрак!

А там хто — нейкія крукі?
Ды гэта ж полюць лён жанкі,
Сагнуўшы спіны. Стаўбуном
Цівун над імі з бізуном!..

Ляціць кібітка. Паўз бакі
Мільгаюць хаткі-катушкі,
Дзе вечны чад, дзе вечны бруд,
Дзе слепне ў цемры родны люд…

Ляціць кібітка ўдаль, ляціць,
Спяшае доктар Русь лячыць —
Ад нематы, ад глухаты,
Ад пракавечнай цемнаты.

*1977*

## КВЕТКІ ЧАРНЫШЭЎСКАМУ

Як квэцалі ўшыр і ўдоўжкі
(пабольш каламазі на швабры!)
Таго эшафота дошкі,
куды вялі яго шаблі!

Закасвалі рукі каты
і — на вачах у Расіі —
Да слупа прыкоўвалі клятага
яе найвялікшага сына.

Стаяў ён, з журбою на твары,
і, ланцугом бразгочучы,
За частаколам жандараў
людскія шукаў вочы.

Ды стулена, уся ў парасонах —
няўжо гэтак дождж палошча? —
Маўчала ўперадзе сомам,
вады ў рот набраўшы, плошча.

Маўчала… Ні голасу… Чайкай
білася сэрца аб грудзі:
Усё ж зламілі — крычаць бы! —
ў сіло хлусні вас, людзі?

Прыспалі ўсё ж калыханкамі
злачынцы, што гэтак царуюць,
Што кінулі Русь у ахранку
і чацвяртуюць?

Змірыліся як, што каты —
        трэба ж гэтак злаўчыцца! —
Краіны усёй адваката
        запісваюць у злачынцы?

А можа, сябе, як паходню,
        у свет выносіў дарэмна?
Няўжо ж і не ўстане, уходаны,
        агромністы край пад’ярэмны?..

Грымеў прысуд над вухам,
        ды падалі словы трухою:
Біла яго абухам
        маўчанне людское.

І вось — як узнагарода,
        як выбух пад небам імглістым,
У ногі… яму… калодніку —
        ружаў букет агністы!

Ад плошчы абуджанай рэха
        ляцела майскім абшарам:
У мёртвай цішы прарэху
        ужо не залатаць жандарам!

Яснеў небасхіл за палеткамі,
        зноў вочы глядзелі ўперад…
Пісаць бы паэму пра кветкі,
        што ўратавалі веру!

Былі потым лёду годы,
        але і ў вілюйскія сцюжы
Грэлі яго заўсёды
        тыя ясныя ружы.

*1978*

## ПРА СТАРУЮ АДЭЛЮ

На душы ў яе сёння —
нядзеля:
Ладзіць градкі
старая Адэля.
Пускае ў разорку з пальцаў,
як жывое, насенне —
Буракоў ды гуркоў
сем'і.
А казала ж мне ўвосень
(сядзела з кійком яна каля хаткі),
Што не трэба ўжо будуць
ёй градкі.
З усім яна разлічылася
тут, на свеце, —
Работу ўсю парабіла,
дарогу дала дзецям.
Даўно сабралася
ў найдалёкую Адэля дарогу:
Дзевяць дзясяткаў на свеце —
ні мала ні многа.
У куфры ўсё ўжо да смерці
ў Адэлі падрыхтавана:
І сарочка, і андарак, і хуста,
і грошы на пахаванне.
Толькі смерць затрымалася нешта
за небасхілам —
Зноў не прыйшла па Адэлю,
зноў на яе забыла.
Зноў, нібы падарунак —
вясна ля прыселля…
Ладзіць градкі
старая Адэля.
Раўняе граблямі іх,
разоркі значыць рукою,
Як і гэта зямля,
счарнелай такою.

*1978*

## ІСЛАЧ

Яшчэ ў жыцці адкрыцце — Іслач:
Як яшчарка, сярод травы
Пад шчырым сном вярбы навіслай
Па камяньках — струмень жывы.

Між двух бароў, паўз сосны-промні —
Лужкоў прырэчных дываны.
У калідор шырокі поймы
Заходзяць ранкам туманы.

Праз бор-гусцёр неспадзявана
Малая сцежачка з сяла
У гэта стойбішча туманаў
Мяне таксама прывяла.

Над рэчкаю з вярбой-гарбулькай
Стаю і ў прозалаці дня
Лаўлю, як ласку, ціхі булькат
Пад нізам дзесь, у каранях.

*1978*

## ЯТВЯГІ*

Хто ўкраў сёння сонца з неба,
пераплёў шляхі каранямі?
Хоць крычы: дзень, як луг у цэбры, —
затапіла свет туманамі.

* Ятвязь — такую назву носяць некалькі вёсак на Гродзеншчыне. Ёсць там і рэчка Ятвязь, на якой стаіць сяло Ятвеск. Гэтыя назвы — ад ятвягаў, колішніх насельнікаў краю, паходжанне якіх канчаткова не высветлена. Рускі гісторык XIX ст. С. М. Салаўёў, адзначаючы смеласць і непакорлівасць гэтага «загадкавага народа», пісаў, што «ятвягі ў бітвах ніколі не ўцякалі і не здаваліся ў палон, а гінулі разам з жонкамі». Ятвягі былі амаль поўнасцю вынішчаны ў няроўных бойках з іншаземцамі. С. М. Салаўёў даводзіць, што рэшткі ятвягаў быццам бы заставаліся яшчэ ў яго час на Скідальшчыне: «Яны рэзка адрозніваюцца ад беларусаў і літоўцаў смуглым тварам, чорнай вопраткай, норавамі і звычаямі, хаця ўсе ўжо гавораць на беларускай мове з літоўскім акцэнтам».

Недзе пікамі далеч ашчэрыў
вораг —
што ж, аб крыжацкія лбы
памацуем нашы сякеры:
мы — ятвягі,
мы — не рабы.

Дзеці лесу, мы воляй гордыя —
віся, восеньскіх лісцяў рой!
Колькі раз чужацкія орды
край капыцілі пад зарой!

Нам багоў сваіх неслі і ёрмы,
ды праз вываратні і равы
гналі прэч іх ад нашых зор мы:
мы — ятвягі,
мы — не рабы!

Сойкі сокат ускрай дарогі…
Граюць сосны па-над грудом…
Пушчы звонкія, пералогі —
гэта наша радзіма, наш дом.

І яго мы, яго мы, яго мы,
покуль жывы — ведай любы! —
адабраць не дадзім нікому:
мы — ятвягі,
мы — не рабы!

Неба чорным услана дымам,
нашы хаты гараць і ёўні:
у цісках чужынцаў радзіма,
вораг хіжы лютуе сёння.

Асталася нас жменька толькі
ад крывавае малацьбы,
ды ізноў мы шукаем бойкі:
мы — ятвягі,
мы — не рабы!

Край зрабіўся суцэльнай магілай,
крык дзіцячы ў хвоях растаў, —
як атаву, смерць нас касіла,
ды ніхто на калені не стаў.

Рвіце, коні, глей капытамі!
Стан варожы!
Няма ў нас слабых —
мужна зложым галовы там мы:
мы — ятвягі,
мы — не рабы!

Станем зорамі.
Як паходні,
будзем з неба свяціць заўжды.
Ад Драгічына да Гародні
пашукайце нашы сляды!

Завірыць хай завея над імі,
ды ў вякі панясуць,
сцяг нібы,
рэкі чыстыя наша імя:
мы — ятвягі,
мы — не рабы!

*1978*

* * *

*Янку Сіпакову*

Ці ж ведаў хлапчук,
    на якую раду
Тату з мамай пагналі
    ад ганка прыклады?

Толькі гэтак калола
    нязвыклае слова — гестапа!
…Двое добрых людзей
    да нелюдзяў трапілі ў лапы.

О, я́к іх дапытвалі ўмела —
    з падмогай навукі!
Жалезам хітрым выкручвалі
    іх сялянскія рукі.

Рукі, што ведалі толькі
        тронкі плуга ды граблі.
Што над пасцелькай дзіцячай
        снавалі, як гралі!..

І вось да сцяны іх паставілі —
        крычы не крычы пад вачэй гэтых лёдам…
І ўпалі яны — бывайце, няспраўджаныя надзеі!

        У тым лёху,
Глухім,
        голым…

Ды ў свеце застаўся
        іх голас.

*1978*

* * *

Зары запозненай каснік
Хто ў ціхі час згубіў за пожняй?
На момант выслізнуў і знік
За хмаркаю, як прывід, поўнік.

Ты не прыйшла… Клён пацямнеў.
Зямлі шматфарбнасць гасіць вечар.
І холад нізавы мяне
Патроху ўжо бярэ за плечы.

Ты не прыйшла… Мо твой цягнік
Сышоў на перагоне з рэек?
Ці недзе сон, як чараўнік,
Скаваў няўзнак праменні веек?

Ты не прыйшла… Што без цябе
Мне гэты свет — яго б не браў я!
Што мне на ўзгоркавым гарбе
Шалёны водар разнатраўя!

*1978*

* * *

Палессе… Рэха правадоў сустрэчных.
Ваюе наш аўтобусік з пяском.
Пад вечар — песня ціхая — Славечна
Дарогу перайшла нам пад мастком.

Куды ляцім, этнографы?
Ля песні
Палатку ўскінем —
Пачакае час!
Тут, пад зарой,
Калі камар не з’есць нас,
Палесся нораў вывучым мы ўраз!

Якая ціш!
Чуваць крынічкі мова —
Хто кінуў нітку срэбную са стром?
А звечарэла — з чарнаты альховай
На ўсё Палессе —
Салаўіны гром!..

Зеленакрылы край славян — Славечна…
Дзесь скрыпнуў граб —
Ці мо чумацкі воз?..
Стаю і слухаю самую вечнасць,
Што захавалі голлі вербалоз.

***1979***

* * *

Не шкадуйце добрых слоў жанчыне.
Стрэўшыся, кажыце ёй часцей
Аб яе красе, аб дабраце,
Аб вачах яе, чароўных, сініх.
З ружай параўноўвайце, з вяргіняй —
І яна, як кветка, расцвіце!

***1979***

* * *

З вёскі далёкай лясной
(ці ж мала зведала Тэкля там гора?)
Забраў яе сын да сябе, у горад
(на колькі гектараў зямлі ён —
у гаме і громе — разгорнут?).
Не ў хаце драўлянай жыве цяпер Тэкля:
у доме каменным высозным —
Акон там,
што ў рамцы з пчалінага вулля сотаў.
У рай, ды і толькі, трапіла Тэкля:
якія тут люстры! А вазы!
Аж ззяе ўсё і зіхціць тут —
ад ручкі дзвярной да ўнітаза!..
Жыць бы ды жыць тут.
Вось толькі няма дзе рук дзець Тэклі,
Рук, што ўвесь век свой
грэблі зямлю дзень пры дні,
сечку свінням секлі,
Бралі лён (як ён пазвоньваў пры гэтым,
рыжагаловы!),
Граблямі луг у копы збіралі
падляскат пуг перуновых,
Жыта святлянае, многагалосае
(што разлівалася да небасхілу)
за хваляю хвалю
У сціpты ўкладалі,
Хлеб мясілі ў дзяжы,
у печы яго, як добрага князя,
мясцілі,
А трэба было —
за пілу ды сякеру браліся,
малацілі, аралі, касілі…
Тупае, тупае Тэкля з пакоя ў пакой,
у пакой з пакоя —
Шукае
спакою.
А ў галаве думак тых —
сотні:

Няма ёй спакою, няма спакою
у раі гэтым высотным.

*1980*

## Я СЕЮ ЖЫТА

Час паваенны! Не багата
Тады, ў бясхлеб'е, меў я святаў.
Адно па сёння не забыта:
Я
сею
жыта.

Малому — гэтакі давер мне!
Уздзела маці лубку з зернем,
І вось у полі, пад блакітам
Я
сею
жыта.

Тут ліха колькі год гуляла,
Па мхах-карчэўях нас ганяла,
Вясне зямля цяпер адкрыта:
Я
сею
жыта.

Не елі хай як след даўно мы,
Хай ні скарынкі хлеба дома,
Ды будзем жыць, як і жылі тут:
Я
сею
жыта.

У халадок зярнят нырае
Рука штораз, і, залатая,
Вясёлка пырскае з рукі той:
Я
сею
жыта.

Іду сабе ды йду з сяўнёю,
І пахне хораша зямлёю,
І сонцам цэлы свет заліты:
Я
  сею
    жыта.

*1983*

* * *

Зноў забралі цябе шляхі,
Засланілі агні і ліўні.
Скверык рэдкі. Тапчу сухі
Ліст рабінавы — покліч жніўня.

Хай далёка ты, у акне
У тваім хай вятрыстая Поўнач,
Ты ўсё роўна са мной, ты ўва мне,
Я да краю табою поўны.

Празваніў за Нямігай трамвай…
Мы ідзём, як раней, па алеі…
Гэтак хораша!.. Нібы май
Затрубіў зноў у рог алені.

Рукі цёплыя. Зноў бяру
Іх у пальцы свае: ці можна?
Мне насустрач вачэй зару
Ускідаеш — трошкі трывожна.

Што ж ты гэтак? Ну, хіба ж змагу
Хоць чым-небудзь пакрыўдзіць цябе я?
Я ад бед цябе ўсіх зберагу,
Засланю ад любых завеяў!

*1983*

## СПАРТАК

Коней ржанне ў сінечы
Разарванай начы.
Не, мяне у той сечы
Не пасеклі мячы!

Смерць навек я адолеў
Хіжым красам* на страх:
Вы нідзе і ніколі
Мой не знойдзеце прах!

Конь аб дол капытамі
Зноў татахкае ў такт —
Гэта я пралятаю
Па планеце,
Спартак.

Сонца ўсходзіць, заходзіць —
Па карчах, чаратах
Са стагоддзя ў стагоддзе
Я лячу, нібы птах.

Гэй, чые там па полі
У пакоры гарбы?
Досыць гнуцца ў няволі!
Людзі, вы — не рабы!

У расяным прыволлі
(Свет як песня — наўсцяж)
Мы народжаны доляй
Несці радасці сцяг.

Спіны ўсе разгінайце —
Знікні, рабства арба!
У сабе забівайце
Палахліўца-раба!

Ды зрывайце без страху
Ланцугі — з ног і з душ:

---

* Крас Маркт Ліцыній — рымскі палкаводзец, які задушыў паўстанне Спартака.

Лепей легчы на плаху,
Чым звівацца, бы вуж!

Мчу туды, дзе ў нядолі
Люд зняволены спіць.
Там, дзе я — сонца волі
Над зямлёй зіхаціць.

Баль канчай, рабаўласнік!
З трона злазь, злы тыран!
Адчыняй свет для шчасця,
Ўсенародны ўраган!..

Зноў аб дол капытамі
Конь татахкае ў такт —
Гэта я пралятаю
Па планеце,
Спартак!

*1984*

## ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВА

Тут мой стол, пры акне…
        Ходзікаў — дзе яны? — ціканне…
Добрым госцем
        сонца
        заходзіць праз шыбы ў пакой да мяне,
        ціхае.

Па дошках падлогі памытай
        да драўлянага цягнецца ложка,
        дзе так соладка спалі мы колісь,
        малыя,
Крадком успаўзае на коўдру,
        што ткалі на кроснах
        матчыны рукі
        (даўно адляцелі ўжо ў вырай
        гады незваротныя тыя).

Тут нават сцены мне памагаюць.
        Кожны сучок на іх,
        шчылінка кожная

Казку маленства
        раскажуць
        найгожую.

Тут мой стол, пры акне…
        За сценкаю, як і тады,
        маці — здароўя ёй толькі б —
        тупае,
Грукае вілкамі ды чыгункамі,
        міскамі бразгае,
        рупная.

Тут мой стол, пры акне…
        Я ізноўку вярнуўся дадому,
        бадзяка.
Госціць сонца цяпер у мяне…

*1984*

* * *

Дзень прапаў у мяне…
        А як хараша ён пачынаўся!
Як ён птахам дзівосным увысь узлятаў,
        як іскрыўся і ззяў,
        калі я прачынаўся!

І не згледзеў,
        калі адляцеў і сканаў,
        склаўшы — ціха так — крылы
(Толькі стужкай расстайнай зары памахаў
        мне з небасхілу).

Дзень прапаў…
        У мяне яго ўкралі з-пад носа
(І чапляўся ж ён так за мяне
        пальцамі сонечных промняў з нябёсаў).

Дзень прапаў…
        Не пярсцёнак,
        не золата,
        не каралі —

Дзень укралі ў мяне,
дзень укралі!

Я прыгадваць пачаў,
хто ж украў яго ўсё-такі, дзень мой,
Дзе шукаць яго толькі,
у якіх — мо хто бачыў — зладзеяў?

Так, зладзеі былі!
Вунь ён, злодзей — тралейбус
(Як ён пхнуўся па вуліцы,
турзаўся,
як ён бяздарна людзей вёз!).

Сход — другі са зладзеяў
(Так пакрасамоўнічаць там
хацелася кожнаму!
Гадзіны мо тры таўклі ваду ў ступе,
пералівалі
з пустога ў парожняе!).

Трэці злодзей быў лектар
(«Атрымалася накладка, таварышы,
казаў прафорг, трошкі яшчэ пацярпіце:
Хай сваё аддалдоніць —
і яму ж трэба жыць як!»).

Чацвёртым злодзеем была чарга,
што вілася змяёю ля крамы —
вы даруйце мне, вікінгі,
Я недзе пасля пра вас пачынаю:
нешта выкінулі!

А яшчэ… Ды ці злічыш зладзеяў усіх,
якія
(мо трэба было трымаць абцугамі?)
Па хвілінах
мой дзень,
як ваўкі, расцягалі!

Дзень прапаў у мяне…
Дзень гэты доля дала мне,
спусціўшы на сонечных струнах —

Каб іграў і свяціў…
Які зраўняцца з ім можа
дарунак?

Ён адзіны быў. Гэткага болей не будзе!
І вось у бездань стагоддзяў
(паспрабуй адшукаць цяпер там)
ён кануў.
Як камень.

Дзень прапаў у мяне!
Дзень!

*1984*

## АГОНЬ У КАМІНЕ ДОМА ЛІТАРАТАРА

Яго, як ваўка, мы —
за дзверы, за дзверы! —
Электрыкі пугай
зганялі з кватэраў.
Ён зубы ашчэрваў —
так раптам стаў лішні? —
І бег падалей ад нас,
хвост падтуліўшы.
Здалёк абмінаў —
лепей дождж самы слотны! —
Ён стойбішчы гулкія
гмахаў высотных.
Імчаўся палямі
і ў хатах старэчых
Заскакваў, шчаслівы,
у грубкі ды ў печы.
Яшчэ мо ў турыстаў
альбо ў пастухоў дзе
У сівер і ў золь
ён прыстанак знаходзіў.
А сёння праз гэтулькі сценаў,
аж дзіва,
У светлы палац наш
убег хапатліва.

І во ўжо ў каміне —
 глядзі, хто не бачыў! —
Жывы, нерастрачаны,
 весела скача.
Той самы, што некалі,
 ясны, штовечар
Збіраў нас зімой
 ля камінка, малечу.
Той самы, што ў восеньскі дзень
 ад напасці
Дажджоў-імжакоў
 бараніў нас на пасце…
Вярнуўся да нас ён
 і ў зале, на сходзе,
Усіх нас, з кім знаўся калісь,
 пазнаходзіў.
Патрэсквае звычна
 й паленне з сучкамі
Дрыготкімі ліжа сабе
 языкамі.
Як хутка ў палацы
 асвоіўся, шустры!
Так пераліваецца
 чырванню ў люстры!
Як добра нам з ім
 тут сядзець, ля каміна,
Ды грэцца маленства
 жывым успамінам!
Дый хай жа не гасне
 у сценах ён гэтых,
Дзе ў спрэчках скрыжоўваюць
 коп'і паэты.
Здаецца мне, будзе
 тут вельмі дарэчы,
Калі і ў радках
 ён чыіх затрапеча!

*1985*

# ПАЭМЫ

## ХАТ ВЯЧЫСТЫ ДАР*

### I

Усё — замкнёны кабінеты,
Што засланялі нас ад свету!
Гудзе аўтобусік, як жук, —
Хутчэй, хутчэй, спяцы навук!
Хоць адарваць сябе не проста
Вучоным ад сталоў-фарпостаў,
Ад скрэпак, папак, ад папер
І ад высокіх іхніх сфер,
А ўсё ж сядзенні пакрысе
Займаюць.
— Ну, цяпер усе?
Усе? Ніхто з нас не забыты?
Мо хто заспаў? — Усе, нібыта…
Пстрык! — і захлопваюцца дзверы,
Матор вурчыць нязлосным зверам,
І вось плыве ў вір вуліц чоўнам
Аўтобус, фалькларыстаў поўны!
Бывай, бывай, наш храм навук!
Даволі цяжкіх творчых мук,
Даволі рад, нарад і сесій,
Даволі сектараў і секцый,
Вучоных пік, саноўных шпаг —
Спявай сваю нам песню, шпак!

* У аснове паэмы — адна з фальклорных экспедыцый Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дзе працаваў аўтар.

Імчымся мы. Пры кожным — клумак
І, пэўна ж, свой клубочак думак.
Паўз нас плывуць дамы, дымы —
У свет зялёны едзем мы.
Там, за палямі, за лясамі,
За рэчак сініх паясамі
Пры паплавах, пры курганах
Схаваны вёскі ў туманах.
А ў вёсках тых — касілак лёскат,
А ў вёсках — бела ад пялёсткаў,
А ў вёсках — сонечныя будні,
А ў вёсках — сеялкі і бубны.
У вёсках — хаты, хаты, хаты,
І ў кожнай хаце — скарб багаты…
Унь бабка — час ёй неўпрыкметку
Твар у маршчыны ўзяў, бы ў сетку.
А ў іх, маршчынах тых глыбокіх,
Жыцця яе і часу крокі,
Усе вятры, усе дажджынкі,
Усе дакопкі і дажынкі,
Усе вяселлі і купаллі,
Што ў памяць да драбніц запалі…
Бяжыць аўтобус пад аблокі,
У сінь надземнай павалокі.
Там недзе ў хатах песня спіць.
Нам трэба песню пабудзіць.

*

Мы едзем роўна, нетаропка:
На карце выбрана ўжо кропка
(Каля яе — дарогі нітка,
Уся ў кружочках сёл, як нізка.
А побач — свет травы і красак? —
Нязнанай рэчкі сіні пасак).
Вірыць асфальт-шаша, грукоча:
Ўсе ціхаходы — да абочын!
Насустрач — плынь ракі машыннай.
Шуршаць, з шашою шэпчуць шыны…
Машыны — то з пяском, то з лёнам,
З жалезам, з мурагом зялёным.

А вунь ажно сцяна з праёмам
Дзвярным плыве, за ёй — паўдома.
Там, за бартом — куды? — паўз гоні
Мільгнуў табун панылы коней…
Пад поўдзень за вясёлым гаем
З асфальту проста ў поле джгаем.
Ды пыл нам не зніжае тонус —
Бяжыць-куляецца аўтобус.
То дзікам шлях пясчаны рые,
То ў гойны гай нырае рыбай.
Па вокнах голле вольх шаргоча,
Як быццам не пусціць нас хоча.
За лесам — зноў прастор адкрыты:
Да небасхілу ходзіць жыта!
А там — ківаемся праз сёлы:
Каменным брукам скачуць колы.
Як мак, дзятва ў пяску за брукам,
У агародах — цёткі крукам.
Мільгаюць студні, бэзу лісце
Ды разьбяроў паэмы — ліштвы…
А во ўказальніка страла
І з назвай «нашага» сяла!
Глядзім маўчком — не чутна жарту:
Што ж тут параіла нам карта?
Куды нас сёння занясло?
Ці хоць «фальклорнае» сяло?

*

Абапал шляху, у даліне,
Схаваны хаты ў зеляніне.
Імчым туды і плюшчым вейкі:
Пыл хмарай з вуліцы-гравейкі.
Спярша глядзім, праўленне дзе тут —
Пытаць не трэба нам пра гэта,
Бо знаем (люд жа мы вучоны!):
Шукай яго там, дзе чырвона!
Такой методай вельмі скора
Гуртом знаходзіцца кантора.
Аўтобус робіць разварот
І сцішваецца ля варот,

Клубамі пылу акаціўшы
Будынкі ў бэзавым зацішшы.
Праўленне — дом двухпавярховы,
Цагляны, шматаконны, новы.
Ён — ад падмурка і да латаў —
Зіхціць ад лозунгаў, плакатаў.
Іх аж не месцілі ўжо сцены,
Дык ім паставілі вунь стэнды.
І тут і там — слоў звонкіх веліч
І лічбаў самых розных безліч.
На тых плакатах, дыяграмах
Усё падлічана да грама:
Якога ў годзе тым навару
Калгас чакае ад гектару,
Па колькі ў хлеве парасятак
Мець будзе ён ад свінаматак.
«Падбіты» малако і мяса.
І нават сіласная маса.
Вядома нават, што ўжо будзе
Налета ў гаспадынь на блюдзе.
Да лічбаў тых у падмацунак —
На кожным са шчытоў малюнак.
Во кура — знесла кучу яек,
Аж вылезці ёй з іх няма як.
Там, на шчыце — як нейкі кліч,
Свіны, з ружовым ротам лыч.
А унь — шуканняў творчых вынік —
На цэлы шчыт кароўе вымя…
Паўз тыя стэнды і плакаты
Ідзём да кіраўнічай хаты.
Ідзём утрох мы — як звычайна,
Спярша Фядосік, наш начальнік,
За ім — шыракаплечы, грузкі
Яго намеснік з папкай — Гурскі
(Фядосік, каб хадзіць улегцы,
Яму даў кіраўніцтва лейцы).
І з імі — я: ў любы «вапрос»
Мне рупіць усадзіць свой нос.
Мы калідорамі грукочам —
Кіруем на таблічкі вочы.
Так, на дзвярах таблічак шмат:
Напэўна, немалы тут штат

Майстроў высокіх ураджаяў,
Што кожны год зямля раджае…
Во дзверы й галавы калгаса —
Сціхаюць тут нашы абцасы.
Бяром за ручку асцярожна
І адчыняем дзверы:
— Можна?
За скрэмзаным сталом шырокім
Стаіць сюды, к дзвярам, паўбокам
З траскучай трубкай тэлефоннай
Мужчына ў тэнісцы з нейлону.
Ён праз плячо зірнуў на нас
І адвярнуўся ў той жа час,
Бо трубку тую шчыра слухаў,
Не адрываючы ад вуха.
І толькі зрэдку дзёўб, як грак:
«Так-так!», «Так-так!» Зноў: «Так-так-так!»
Мы сталі ля стала, стаім,
Мяняем ногі перад ім.
Нарэшце трубка-балбатуха,
Глядзім, адносіцца ад вуха,
І нетаропка гаспадар
К нам паварочвае свой твар.
У пільным позірку нястрогім
Мільгае водсвет насцярогі:
Хто ж гэта! Што йшчэ за назолы
Яму зваліліся на голаў?
Мо зноў якія штурхачы,
Што шныраць днямі і ўначы?
Так, знаю, шмат ён іх пабачыў —
Ад іх старшыні здаўна плачуць.
Бывае, снег яшчэ на полі,
Марозік раніцаю коле,
А тут па бездаражы ўскач
Ляціць вось гэтакі штурхач:
— Чаму не сееш? Кажаш — гразь!
Дык сей у гразь! Ці з крэсла злазь!
Так і становіцца на глотку:
Яму патрэбна лічба ў зводку!
А вырве — хлоп яе да папкі,
І толькі бліснуць яго пяткі!
Сюды і нос больш не заверне,

Не папытае, як там зерне —
Ці узышло хаця яно?..
Заняты іншым ён даўно!
А старшыня? Зноў чухай цемя,
Звані ў званы — шукай насенне,
Мудруй, кліч люд на разнарадку —
Распачынай усё спачатку.
Таму, каб неяк адчапіцца
Ад папіхайлы-плішчаніцы,
Давалі гэтакаму тыпу
Часамі чысценькую ліпу
І зноў рабілі сваю справу —
Жыты ўзгадоўвалі на славу…
Пра штурхачоў было нямала
Гаворкі ў найвысокіх залах,
Ды хоць з трыбунаў іх клянуць,
Па сёння штурхачы жывуць
І хлеб спакойненька жуюць!..
Каб нам не быць якой загадкай,
Не мучыць старшыню здагадкай,
Адразу кажам, што й к чаму,
І руку ціскаем яму.
А каб было к нам больш даверу,
Фядосік цягне і паперу.
Яе, разважны, нетаропкі,
Чытае старшыня да кропкі.
А прачытаўшы, свой аловак,
Якім вадзіў пад кожным словам,
Прывычным, ледзь прыкметным рухам
Чамусь закладвае за вуха
(Так — помню я з малой пары —
У нас рабілі цесляры,
Як размяралі бервяно,
Каб роўна легла ў зруб яно)
І са смяшынкаю, ахвоча
На нас скіроўвае ўжо вочы.
З яго прыветлівага твару
Сышла і насцярогі хмара,
Бо ўбачыў: не з таго мы складу,
Каго чакае ён, як граду —
Не штурхачы, не рэпарцёры,
Не душадзёры-рэвізоры.

— Вам трэба песні? Што ж, паможам…
Чым толькі паслужыць вам можам?
(Хаця вучоныя ўсё ж мэты,
Відаць, у песнязборцаў гэтых
І іх няма чаго баяцца,
Ды… лепей паасцерагацца,
Бо ўсё-ткі ж і яны — пісакі,
Якіх пабойваецца ўсякі.
Тым больш старшыні — хто з іх грэху
Не зробіць дзе-небудзь у спеху?)
Вас, значыць, раскватараваць?
Што ж, трэба тут памазгаваць…
«Памазгаваўшы», ключ бярэ ён
І стукае па батарэі.
На гук-сігнал той праз хвіліну
Ў дзвярах выроствае жанчына
І застывае ля парога
Перад даўгім сталом Самога,
Чамусьці ўся, аж да пражылак,
Напяўшыся, нібы спружына.
Ёй старшыня пра нас тлумачыць
І ставіць важную задачу:
Па хатах, у людзей шаноўных
Цяпер жа размясціць вучоных.
— Ну, добра, што ж, — нас трох жанчына
Абводзіць хуткімі вачыма.
Яна папраўдзе рада, бачым,
Рашыць складаную задачу.
І мы ўстаём, ідзём за ёй,
Раскланяўшыся з старшынёй.

*

І вось аўтобус наш лабаты
Памалу ціснецца паўз хаты.
Між нас — жанчына-павадыр,
Важаты наш і правадыр.
Мы ёй, жанчыне той з праўлення,
Ўступаем першае сядзенне —
Каб добра хаты аглядала,
Хутчэй нас раскватаравала.

Ля дома новага, пад вязам
Спыняемся. З жанчынай разам
І мы удвух з Антонам Гурскім
Ідзём дваром зялёным, вузкім.
Насустрач — рада ці не рада —
Ўстае і гаспадыня з градаў
(Што за дваром адразу, з краю),
Падолам рукі выцірае,
Абводзячы нас пільным вокам,
І к нам шыбуе борздым крокам…
— А, на пастой! Са сталаваннем?
Чаму ж ка мне з такім пытаннем?
Ты ж ведаеш сама, Пятроўна,
У полі я дзянёчак поўны!
Дзе ж часу я, скажы, знайду,
Каб гатаваць людзям яду?
Ды што ім вельмі і згатовіш?
Як ты людзям тут унаровіш?
А людзі ж — не абы-якія —
Вучоныя, бач, гарадскія!
Тут гаспадыні мы з Антонам
Адказваем вясёлым тонам,
Што хоць мы ў горадзе жывём,
Ды ўсё вясковае жуём,
Ды і раслі ж мы не ў дамах —
Таксама ў вёсцы, на камах.
Яды асобай нам не трэба —
Абы знайшлася луста хлеба
Ды, можа, скварка з агурком
Ці бульба з кіслым малаком.
Усё, што прынясе нам цётка,
Мы ўмомант падмяцём, як шчотка,
Пасля ж расплоцімся з ахвотай
І за яду, і за турботы.
— Што плата…— тут яна камечыць
Свой сказ: ці варта ўсё ж пярэчыць? —
Адзін ёсць толькі непакой:
Каб крыўды не было якой…
— Не будзе крыўды ў нас ніякай —
За ўсё вам скажам толькі дзякуй, —
Спяшаем мы запэўніць цётку —

Хутчэй узятую высотку
Замацаваць.
— Ну, што ж, раз гэтак,
Вазьму двaіх, толькі кабетак:
Хоць будуць лішнія турботы —
Ці ж начаваць людзям пад плотам?
Мы да аўтобуса шыбуем
І там ахвотніц дзвюх вярбуем.
Аднёсшы ў хату чамаданы
Жаночых розных прычындалаў,
Мы зноў пускаемся ў дарогу —
Далей, да новага парогу.
А сустракаюць нас усяк:
Той доўга лоб свой трэ — нібыта
Карову прадае ці быка,
Пасля ж згаджаецца так-сяк.
Другія — тут жа даюць згоду,
А іншыя дык і выгоду
Тут хочуць мець:
— От каб, Пятроўна,
Хоць слоўка за мяне тактоўна
Закінула ты старшыню —
Мне б шыферу на варыўню…
— Ну, што вы, цётка, я б з ахвотай,
Ды ён не дасць раскрыць мне й рота…
Я, цётачка, зусім з канторай
Разлічвацца ўжо буду скора.
Мне там выструньвацца абрыдла.
Я даглядаць пайду лепш быдла
Ці буракі палоць у поле —
Там хоць цяжэй, затое — воля…
Памалу, з толкам наш важаты
Ўсіх растасоўвае па хатах.
Ёй, той жанчыне нешматслоўнай,
Мы кажам дзякуй, і Пятроўна
Нам зычыць поспеху ў адказ
І падбадзёрыць хоча нас:
— Вам працаваць тут добра будзе:
Усё ж някепскія ў нас людзі.

II

Як колісь, будзяць мяне пеўні
У сучкаватых сценах спеўных.
Сюды, без лішняга вагання,
Ўзяла нас з Лісам цётка Ганя —
Сівая ціхая жанчына
З надзіва сінімі вачыма.
Жыве у хаце той са скрухай
Яшчэ старэнькая свякруха.
Два ложкі іх каля сцяны
Стаяць за шырмай — два чаўны,
Што праз залеву і кудасу
Плывуць кудысь ракою часу.
Нам цётка адвяла святліцу —
Ўвесь дзень тут сонца залаціцца.
Чысцютка, ясна ў гэтай «зале»
З фіранкамі ды абразамі.
Ля покуці — канапа-ложак,
Цяперашняе наша ложа.
На ім пярыны і — пад вушкі
Нам, нібы воблакі, падушкі,
Тут з Лісам — кожны з нас паўголы —
Спім пад багамі, як анёлы.
Я прахапіўся, мусіць, рана —
Шарэе ў шыбе неба цьмяна.
Над вухам дзесь, малы званар,
Звініць на хату ўсю камар.
Гергечуць гусі каля ганку,
Свайго чакаючы сняданку.
За ліштвай галубы буркочуць
Ды крыллем аб сцяну шаргочуць.
Мой зрок спыняецца на куфры —
Там нейкі водсвет скача: з кухні?
А! Гэта паліцца ж у печы —
Унь і ў акне агонь трапеча.
Вада пад накрыўкай сіпіць:
Так, цётка ўжо даўно не спіць.
Зайшла у хату во з двара —
Бразгоча восілкай вядра,
Ляскоча ў місцы лыжкай ёмка,
Стукоча глуха ў печы ёмкай.

А вось — як выбух: на патэльні
Штосьь зашыпела — цеста, пэўне.
І папаўзла па хаце змейкай
Дымочку сіненькая шлейка.
Пасля ж, як казка даўніны,
Запахлі хораша бліны.
І мне здалося: зноў я ў маці,
У той дзяцінай нашай хаце,
Адкуль за мараю услед
Даўно мы вылецелі ў свет.

*

Хай стол не ломіцца у цёткі
Ад страў няведамых, а ўсё-ткі
Тут можна добра і са смакам
Пад'есці нам, такім бадзякам.
Сярод стала неспадзяванкай —
Яда малечых год — мачанка,
Што на патэльні, як жывая,
Яшчэ унь бурбалкі ўздувае,
Такая пахкая, з дымком
І нават — там-сям — з вугальком
(Ад дроў бярозавых, што ў печы
«Пастрэльвалі» так недарэчы).
Там — міса з бульбаю-разваркай
(На бульбіне жаўтком — прыгарка),
Ад місы белаватай хмарай
У столь, пад бэльку верне пара.
Ля бульбы, трошачкі ўбаку,
На чыстым — з лёну — ручніку
(Даўно адзначыў чуйны нос) —
Бліноў прыпухлых ладны стос.
А побач — і смятанка ў місе…
Ну, што ж, цягні, брат, лыжку, Лісе!
Памалу, быццам нехаця,
Бяромся за яду, хаця
Мы ўжо даўно глыталі сліну —
Чакалі гэтую хвіліну.
— Вы ешце, ешце, — цётка просіць
І малака гладыш падносіць, —

Мо што й не так, ды чым багата,
Як кажуць, тым і рада хата…
Мы гаспадыніны сумненні
Развейваем тут у імгненне,
Налёгшы шчыра, са стараннем
На шчодрае яе сняданне.
За тым сняданкам неўпрыкметку
Распачынаем мы разведку:
Дзе ж тут (як кажуць у сталіцы)
Б'юць песень чыстыя крыніцы?
Ці мо не трэба нам шукаць іх?
Мо ёсць яны і ў «нашай» хаце?
Так, песні ёсць тут, і багата!
Ды… прыбылі мы пазнавата
Па іх. …Калісьці — на выгодзе,
За прасніцай, у агародзе,
Удзень і ўвечар іх, бывала,
Свякруха цётчына спявала.
Спявала — сэрца расчыняла,
Бяду ды смутак разганяла…
Ды разагнаць вось не змагла:
Бяда ў ціскі яе ўзяла
І крукам кінула на ложак,
Адняўшы мову. Хто ж тут можа
Цяпер у бабкі песні ўзяць,
Цудоўны мех той развязаць,
Дзе, звонкія, яны сабраны,
Навек жывымі пахаваны?
Вось так іх, пэўна, бабка ўсе
У іншы свет і аднясе…
А можа, словы і напеў нам
Тых песень цётка дасць? Напэўна,
Ад свекрыві ж пераняла,
У памяці прыберагла?
Так, цётка знала тыя песні,
Ды ўжо не ўспомніць іх, хоць трэсні:
— Мне, дзеткі, не да іх было, —
Хмурнее цётчына чало.
…Ад воч сватоў ды ад маністаў
Свяціўся дзень той прамяніста.
Шалелі коні — ад прыселля
Няслі ў прастор віхор вяселля.

Там, на вазах, грымелі бубны,
Ім падпяваў сам вецер буйны.
У віхры тым — рука ў руку —
На размалёваным вазку
Сядзелі ў стужках ды ў вяргінях
Ён і яна — князь і княгіня!
Ён быў яе навечна, любы,
Яго усмешка, вочы, губы!
І тыя коні, тыя песні
Дзяўчыну проста ў шчасце неслі…
Ды па зямлі зеленалістай,
Па красках, хвалі каласістай,
Па росах, па шляхах краіны
У тыя ж самыя хвіліны
Паўзла ўжо ў сполаху пажараў
Вайна — крывавая пачвара.
І мары-шчасце маладых
Яна перавярнула ўміг.
Яшчэ не знялі шлюбны ўбор,
А ўжо трубілі трубы збор.
І ноч іх першая на свеце
Была й апошняй. Грозны вецер
Вайны — народнае бяды —
Як падхапіў хлапца тады,
Дык і па сёння, родны, ён
Прыходзіць толькі цётцы ў сон…
Змаўкае цётка тут, вачыма
Нацэліўшыся ў фотаздымак,
Што на сцяне, у рамцы простай:
Ва ўборах шлюбных, напаўросту,
З адкрытым позіркам юначым —
Цяпер мы толькі гэта бачым —
Ён і яна; на кожным твары —
Яшчэ ні ценю страшнай хмары.
А побач — і другая рамка:
У цётчын свет сямейны брамка.
Між здымкаў картачка адна
Нам кінулася: зноў — яна,
А на руках яе — дзіцятка:
З-пад локця — пухленькая пятка.
— Сын. Ад яго ж, — гне цётка голаў
Ніжэй.— Радзіўся ж от на гора…

Так, гора цётцы з ім хапіла!
Пад віскат бомбаў, у бахілах,
У ашкамётках брудных світкі,
Яна, прамоклая да ніткі,
Мо з месяц — дзе і брала сілы? —
Дрыгву хлюпоткую мясіла.
Блакада! Ў твань, у буралом
Людзей смерць гнала напралом.
У пекле тым бясконцым маці
Не выпускала з рук дзіцяці.
Хоць у жанчыны ад знямогі
І голаду ўжо млелі ногі,
Але, прысеўшы дзе на грудзе,
Зноў совала дзіцяці грудзі,
Пакуль зусім не апусцелі:
Ледзь дух трымаўся ў яе целе.
Ды людзі, гэткія ж выгнанцы,
Бяздомнікі і абадранцы,
Ёй з дзіцем не далі загінуць.
Хтось удзяліў ёй сахарыну.
Разбавіўшы яго вадой,
Балотнай, бруднаю, рудой,
Рабіла — важны быў дарунак —
З анучкі суслу-паратунак…
Пасля ў зямлянцы падрыжала,
Пакуль не схлынула навала…
Калі ж з балот дамоў прыйшла,
Не ўбачыла свайго сяла.
Гуляў між печаў толькі вецер,
Ды клён маячыў з чорным веццем.
А дворык з роднай хатай мілай
Для бацькі й маці стаў магілай…
У спадчыну ж ад іх — ці смешкі? —
Ёй дасталіся галавешкі.
Зноў у зямлянку лезь сырую —
Ў магілу гэтую жывую.
Ўзяла к сабе яна таксама
Свякруху, што назвала мамай.
Бо хто ж яе глядзець бы ўзяўся:
Сын, муж, дачкі дзве — ўсіх вайна
Ў яе прыбрала: старана
Тут партызанскаю была ўся.

Сама свякруха толькі цудам
Жыць засталася: тым прыблудам
Папала ў лапы; карнік ботам
У яблык збіў яе. З балота
Яна ўсё ж выпаўзла, хаця
Ужо для мукі, не жыцця.
І цётка колькі год ад ложа
Яе ўжо адысці не можа.
А сын? Жывы. Уберагла —
Ўсё ж маці смерць перамагла.
А пазмагалася нямала!
Гарбом хлеб чорны здабывала:
Касіла, жала, будавала —
Калгас з руінаў уздымала.
Бывала, і ў ярмо — магла! —
Ўпрагалася замест вала.
Цяпер, як стаў хлапец на ногі,
Гукнулі ў свет яго дарогі.
Забраў ад маці сына горад —
Што ж, хай бы жыў, ды зноў ёй гора:
Няладна ў сына штось — запіў,
На хату матчыну забыў.
Вось год чакае, ды дарма:
Штось ні самога, ні пісьма.
Дык ці ж наўме ёй тыя песні?
Іх дні турбот даўно растрэслі…

Што ж да сяла, яшчэ павінны
Бруіць там песень ручаіны…

*

На вуліцы — знаёмы рух:
Брыдуць паважнай чарадою
Каровы з ранак — сырадою
Плыве духмяны пах наўкруг.
Сваіх падласак каля плота
Чакаюць цёткі ўжо, вароты
Парасчыняўшы ім. Падласкі
Ў двары заходзяць без падказкі.
На іх акруглыя бакі
Глядзяць-любуюцца жанкі

І ў хлеў праводзячы, як паваў,
Штось кажуць да кароў ласкава…
У чысты двор, даўгі таксама,
Мы з Лісам адшчапляем браму.
Тут, як сказала гаспадыня,
Жыве пяюха, Дрозд Аўгіння,
Якая, каб ахвота, скора б
Нам наспявала песень кораб.
Пад хлеў расчынены прастуем
Адразу мы: там недзе — чуем —
Аб дно драўлянае даёнкі
Пабрэньквае струменьчык тонкі.
Падпёршы плечукамі хлеў,
Мы ціха слухаем той спеў,
Ласкавы, просты і лагодны,
З малечых дзён знаёмы, родны.
Во спеў змаўкае ўжо, і хутка
Ў дзвярах хлява мільгае хустка.
У гаспадыні — грубы твар,
На твары — як зямля, загар.
Застыўшы ў сполаху, з прахона
Дзвярэй глядзіць на нас здзіўлёна.
Але ўсё ж дыпламат Арсень
— Перш-наперш, цётка, добры дзень!
І проста, хараша, з пашанай
Ён растлумачвае старанна,
Хто мы, адкуль, якія мэты
Нас прывялі ў падворак гэты.
Сцярожкі цётчын твар адразу
Яснее, і замест адказу
Жанчына звыкла ставіць доле
Даёнку з белым сырадоем
І з дапамогаю калена
Хлеў зачыняе свой, паленам
Падпёршы дзверы.
— А якія
Вам трэба песні — веснавыя?
Жніво? Калядныя? Вяселле?
Ці што купальскай ноччу пелі? —
Дваровай выбітай сцяжынай
Вядзе пад хату нас жанчына.
…Мы песні розныя збіраем:
Усе ж яны — багацце краю.

У іх — лятункі-сны людскія,
Народа думы векавыя.
Пустога ў песнях тых няма:
Яны — гісторыя сама,
Сама зямля, яе прырода,
Душа адкрытая народа.
— Што ж, можна спець, — здымае з плота
Цадзілку цётка, — ды работа
Мяне чакае: сёння наш
Канец ідзе ўвесь на сянаж…
А мо за вёску той парою
Падацца б варта й вам са мною?
Там, як нідзе, маглі б пабачыць
Адразу ўсіх, што ёсць, спявачак…
— Чаму б і не! Ну хто ж не рады
Паслухаць добрае парады?

*

Як пчолы, абляпілі густа
Вяскоўцы бурт: скрозь — шапкі й хусты.
Ледзь паспяваюць самазвалы
Траву падвозіць. Цэлым валам
Яе бульдозеры-хапугі
На бурт унь сунуць без патугі.
Там людзі вал высокі гуртам
Хутчэй разгрэбваюць па бурту.
Пасля, змяніўшы сахары,
Ізноў гуркочуць трактары.
Сваім цяжарам мнагатонным
Яны ўціскаюць бурт зялёны,
Па ім катаючыся ўсяк —
І ўпоперак, і наўскасяк.
Траву, што спадвае з гары,
Другія ўнізе сахары
Бяруць на зубы-раскіракі
І ўскідваюць назад, пад тракі.
Нам, песнязборцам, дружнай працай
Няёмка збоку любавацца,
І мы здымаем пінжакі,
Плюём ахвоча ў кулакі
І — што ж, няхай жыве работа! —

З рук сахары бяром у цётак.
Такая праца — як бальзам
Заўсёды нам, сяла сынам.
Не толькі — каб тугі быў мускул
Ці сэрцу даць усё ж нагрузку,
А каб душой устрапянуцца,
У паўзабыты свет вярнуцца.
Ці ж не губляем паступова
Мы ў завірусе папяровай
Маленства свет, свае вытокі,
Зямлі бацькоў жывыя токі?
Ну, а без іх, без гэтых токаў,
Мы — нібы дзерава без сокаў,
Нібы без глебы жалуды
Або як рыба без вады.
Нуль мастаку — без токаў гэтых,
Без іх паэты — не паэты.
Іх верш — душой як ні крыві —
Без токаў тых, як без крыві…
Хоць твары ў нас блішчаць ад поту,
Ды мы не кідаем работу —
З дзядзькамі поруч ды з жанкамі
Працуем спорна сахарамі.
Калі ж на колькі там хвілінак
Надарыцца нам перапынак
(Відаць, у торфе дзесь на лузе
З травой цяжкой машына грузне),
Мы сахары ў зямлю ўтыкаем,
На тронкі стомлена складаем
Крыж-накрыж рукі (часам цёткі
Яшчэ ўскладуць і падбародкі)
І ўжо — такая завядзёнка —
Няспешнай бавімся гамонкай.
А мова больш за ўсё ідзе
Пра сена для кароў: і дзе
Яго вось нарабіць — загвоздка,
І тым турбуецца ўся вёска.
Ў людзей надзея на атаву:
Яна належыць ім па праву
(Сабраць тут першы ўкос калгасу
Хацяў б хапіла сіл і часу),
Ды ўсіх трывога есць такая:

— Ці парасце атава тая?
З самой вясны — і што за годы! —
Няма, хоць ты крычы, пагоды.
Як заступілі халады,
Дык і не сходзяць нікуды.
Дасюль яшчэ — хоць лезь на печ —
Куфаек не здымалі з плеч!
Цяпер жа — суш яшчэ ў прыдачу:
Дык як жа думаць тут пра ўдачу?
Ад той атавы паступова
Пасля кіруецца размова
На іншы троп ужо — на жука.
Калгаснікам з ім — проста мука:
Як ні збірай, як ні палі,
А ён ізноў, як з-пад зямлі,
На бульбу сунецца, увішны,
Абсядзе цяўнік той, як вішні.
Не даглядзі, дык — от жа ўдасца! —
Усё падчысціць гэта трасца.
— Каб знаў, хто гэтую заразу
Занёс сюды, здаецца б, зразу,
Як жабу, разадраў таго —
Унь колькі шкоды ад яго!
— Ды што размахваць тут рукамі,
Мянціць дарэмна языкамі,
Дазнацца б, як вайну от весці
З ім, каб са свету пошасць звесці…
— А мо паслухаем вучоных?
Мо ў іх мацнейшы, чым праклёны,
На жука сродак ёсць? — да нас
Пытанне рубам: мы ў адказ
Ляпечам штось пра курапатак,
Пра розных доследаў пачатак
І кажам, што усё ж навука
Управу знойдзе і на жука.
— Ну, а цяпер як быць?
— Цяпер, — тут збоку дзядзька не ўцярпеў
(Папыхваў люлькай ён паволі), —
Насып на хвост яму ты солі!..
Лепш у людзей от папытай,
Што робіцца сягоння ў свеце
(Мо знаюць больш, чым е ў газеце?) —

Што там у Чылі, як Кітай?..
Ды наша гутарка-гамонка
Тут абрываецца: «трохтонка»
Ужо да бурта падкаціла,
Абдаўшы нас гарачым пылам.
Хоць рукі трошкі ў нас паслаблі,
Памалу сахары ды граблі
Каля травы зноў захадзілі —
Цяпер вяскоўцам не да Чылі.

*

Над буртам — сонца. Твар свой яркі
На міг схавае ў вэлюм хмаркі
І зноў глядзіць сабе з блакіту
На нас вясёла і адкрыта.
Няўзнак — таго не ўбачыш ходу —
Яно кіруе ўжо к заходу.
Усе мы гэта заўважаем
І бурт патроху ўжо звужаем.
Глядзіш, там будзе і канец —
Работы нашае вянец.
Ды тут выходзіць нечакана
Замінка: покуль мы аддана
З травой змагаліся, прыцыркаў
Сюды з сяла на матацыкле
Хлапчына з чубам пакручастым
(«То заатэхнік наш, начальства!»),
Маўчком бурт абышоў навокал,
Прыкідваючы штось на вока,
І ўзняў руку — увагі знак:
— Не так вы робіце, не так!
Мы разгінаем моўчкі плечы:
Што ж тут зрабілі недарэчы?
— Не трэба ўверсе гэты выгіб! —
І ўсім тлумачыць, колькі выгад
Тут будзе ўсё ж, калі без слова
Перарабіць той верх нанова.
Але «без слова» не выходзіць:
— Калі ты ўзяўся верхаводзіць,
Дык верхаводзь як трэба — дзе

Да гэтакай пары сядзеў?
— Мо гару дзе смактаў пад кустам
З хаўруснікамі?
— Замест сусла!
Па хлопцу ўсе адразу цёткі
Тут застрачылі, як трашчоткі.
Ды хлопец не вядзе і вухам —
Відаць, не раз такое слухаў!
Стаіць, грызе сабе травінку —
Чакае на жанок упынку.
Жанчыны ж свой зарад памалу
Губляюць і, хоць без запалу,
Бяруцца выгіб той спраўляць,
Нанова верх перарабляць.
Траву, што ўкладвалі пластамі,
Што трактары тут упляскалі,
Ужо як трэба мы складаем
І к вечару той бурт канчаем —
Цяпер калгасныя цяляты
Мо ў хлеве не аголяць латы?
А што прыйшлося тут патраціць —
На пераробку лішак працы,
Не страшны гэтыя пралікі —
Усё ж маштаб іх невялікі.

III

У хату дзверы — грук ды грук:
— Ці можна?
— Просім, просім!
Круг
Жанчын, што ўсё займаюць лавы, —
Штораз цясней: адклаўшы справы,
Ідуць кабеты й маладзіцы
Са светам песняй падзяліцца.
Спявачкі нам ужо знаёмы:
Аўгіння, гаспадыня дома,
Дзе мы прызначылі свой збор
(Для песень, праўда, тут прастор:
У доме ж светлым тым яна
Жыве — з вайны ўдава — адна;
Усе яе — чацвёра — дзеці

Ўжо разляцеліся па свеце;
Цяпер чакай, чакай, жанчына,
Пакуль хто возьме адпачынак
Ды замест тых пансіянатаў
Да роднае заверне хаты).
А во ў дзвярах — сама Графіня,
Пяюха, маці-гераіня:
Хоць дзетвары дом цэлы мае,
Ды спеваў цётка не мінае,
Яна спявала — песню ж цэняць! —
І на сталічнай нават сцэне.
Графіня — гэткае дало
Жанчыне прозвішча сяло.
Жыў граф тут колісь. Ну, а ў графа
Быў нос кручком — нібыта ў грака.
Такі ж во нос, як і той пан,
Займеў сялянскі сын — Сцяпан.
Так стаў ён Графам. Ну, а жонка
Назвалася Графіняй звонка.
Графіня, Граф — іх толькі й звалі.
Як клікаў Мінск яе, казалі:
«Спяваць паехала Графіня,
А Граф мяшанку носіць свінням!»
На сход зайшлі во наш — пачулі! —
Яшчэ пяюхі дзве — бабулі
Ва ўбранні колішнім (іх памяць
Нямала захавала, мабыць!).
За імі дзверы адчыняюць
Жанкі шчэ… Ды хай выбачаюць,
Пра іх скажу я неяк потым —
Час прыступаць нам да работы!
Мы ля стала магнітафон
Пакручваем — хаця ж бы ён
Не здрэйфіў! Не, ўсё ж робіць, здэцца!
Аж адлягае ў нас ад сэрца.
— Ну што ж, пачнём?
У хаце ўмомант
Жаночы сцішваецца гоман.
— Пачнём! Але з чаго? З вяснянак?
З каляд? Жніва? Ці, можа, з Яна?
— Пачнём з каляд — каб нам з пачатку
Год абысці ўвесь па парадку.

*

…Зіма. Рукою зухаватай
Мароз нябачны ў абцугі
Узяў, скаваў палі-лугі,
Занёс, закідаў белай ватай.
Спіць свет. Знямеў, застылы, змоўк.
І толькі глуха ў голым голлі
Бяроз, што сталі сярод поля,
Завея вые, нібы воўк.
Дзень, як матыль, мільгне, прагляне
На міг, і зноў — як не было:
Зноў шапку цемры на чало
Зямлі насоўвае ноч-паня.
Штораз яе гусцее цень.
Захопніца, з прыходам кожным
У дня адмервае вяльможна
Надзелы — карацее дзень!
Што ж будзе ўжо далей? Што стане,
Як дзень той сыдзе неўпрыкмет?
Ды гэта ж скончыцца так свет!
Жыццё зямное ўсё завяне!
Ды вось — у ладкі бі, народ! —
Сказала сонца ночы: хопіць!
І ноч спыніла ўжо захопы:
Дзень, уставай — цяпер твой ход!
Якая змена! Хто ж не рады?
Святло змагло злых сілаў звод!
Святкуй жа, свет, сонцазварот,
Спявай, гуляй — спраўляй Каляды!
        — Прыехала Каляда у вазочку
        Ды на сівенькім канёчку…
        — Прыехала Каляда звечара, звечара
        Ды прывезла дудак рэшата, рэшата…
        — А вы, дудачкі, іграйце, іграйце,
        А вы, дзевачкі, гуляйце, гуляйце,
        А вы, хлопчыкі, свішчыце, свішчыце,
        А вы, бабачкі, скачыце, скачыце!..
У хаце бацькавай бярвеннай
Ад сонцаў-пірагоў праменнай,
Прыбранай, радасна-іскрыстай
Ад Каляды, што урачыста

Да нас, чаканая, прыйшла,
Дарункаў безліч прынясла,
Дзятва, пад коўдрамі, у марах,
Мы спім з усмешкамі на тварах.
І сніцца нам: у хвалях мора
І караблі, і белы горад,
Дзе ходзіць сонца па харомах
Ды водзяць віцязі ў шаломах
Ля ўсіх варот, з усім народам
Пад песні й скокі карагоды…
І раптам — дзе тут сон, дзе ява? —
Нас праўда будзіць — звон не звон —
Дзівосны спеў, што ад акон
Па хаце ўсёй плыве яскрава!

— Добры вечар, пане гаспадару!..
Адчыні аконца на ўсход сонца!..
— У тваім дварку, як у вянку —
Тры церамы з прыцяромкамі…
— У адным цераме — ясен месяц,
У другім цераме — красна сонца,
У трэцім цераме — дробны зоркі…
— Ясен месяц — сам гаспадар,
Красна сонца — жонка яго,
Дробны зоркі — дзеткі яго…

Адкуль жа спеў той, поўны ласкі?
З самога неба мо? Ці з казкі?
Глядзім мы ў вокны на ўсе вочы:
Што ж дзеецца там сярод ночы?
Што чыніцца ў снягах зімы?
І дзе там тыя церамы
З дзвярамі ясна-люстранымі
Ды з цуда-ганкамі разнымі?
У шыбах — зорак буйных збор.
А можа, песню нам зямную,
Што гэтак вабіць і чаруе,
Ён і пяе, той зорны хор?
Ды не, здаецца: на падворку
Людскую чуем мы гаворку!

— Масці кладку,
Заві ў хатку!..

…Не спяць ні бацька ўжо, ні маці —
Замітусіліся па хаце.

Во бацька корпаецца ў кноце:
Штось лямпа не гарыць на дроце.
— А каб ты спрахла ўжо! — Але
Жаўтлявы язычок у шкле
Заморгаў, засвяціў, і хутка
Змрок ад святла ўцёк па закутках.
У сенцы бацька йдзе, памалу
Ў дзвярах адсоўвае завалу,
І ў хату лезе — бокам, бокам —
Каза рагатая з падскокам!
А разам з ёю — што за дзіва! —
Ступаюць праз парог імкліва
Якіясь людзі — ці мо чэрці?
Ад страху можна тут памерці!
І мы пад коўдры — нашы сховы! —
Хутчэй засаджваем галовы.
Але ж і глянуць нам цікава,
Што гэта ў хаце за праява!
І з коўдраў мы, як ваўчаняты,
На хату косім вачаняты.
Там, за казою страшнай тою,
Дзед нейкі ходзіць з барадою!
А барада — аж да падлогі!
За ёй не бачны нават ногі!
У нейкіх посцілках за дзедам
Ці не вядзьмаркі скачуць следам?
За імі лезуць ад парогу,
Пусціўшы холад на падлогу,
Яшчэ унь плоймаю шумлівай
Якісь хлопцы нецярпліва!
Тым часам дзед той барадаты
Па хаце кіем сукаватым
Казу калматую кругамі
Ганяе, тупае нагамі.
Каза ж брыкаецца, якоча —
Чамусь не надта бегаць хоча.
Старому дзеду ў дапамогу
Тут гуртам хлопцы ад парогу
На хату ўсю — казе пад нораў —
Ўсчынаюць раптам песню хорам:
— Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра!

Ты расхадзіся,
Развесяліся
Па ўсяму дому
Гаспадарскаму…
Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе каза нагою,
Там жыта капою,
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам!..
Ад песні, што каля дзвярэй
Так загучала адмыслова,
Каза — што значыць хвалы слова! —
Заганарылася мудрэй.
Зусім хадзіць тут перастала!
Пасля глядзім, цішком прыўстала
Ды грук аб землю — і ні руху:
Ляжыць, рагатая, без духу!
Бацькам, вядома, непакой
Ад яснай выхадкі такой:
Калі каза тут не паходзіць,
У полі жыта не зародзіць!
І маці — не было б няўроду! —
Ў камору лезе і, не ў шкоду,
Брус сала цягне і кілбасы,
Хоць мы і самі на іх ласы…
— Гаспадыня йдзе,
Каляду нясе…
Каза, угледзеўшы той дар,
Што гаспадыня й гаспадар
Паднеслі механошу разам,
На ногі ўскоквае адразу
І ну хадзіць, і ну скакаць!
Не трэба нават падганяць!
У такт казіным скокам бурным
Загаварылі скрыпка й бубен
Пайшлі у скокі і вядзьмаркі
Ў сваім убранні доўгім, яркім…
Панаскакаўшыся да поту,
Напеўшы песень у ахвоту,

Начныя госці адбіваюць
Паклон бацькам і адбываюць.
А «дзед» з дзвярэй на адвітанне
Яшчэ шле бацьку пажаданне
Заўсёды дужым быць, здаровым,
Нібы крапак-рыжок баровы,
Ну, а пасля яму, ахвочы,
Пра новы год яшчэ прарочыць:
Каб быў ён з ранняю вясною,
З травой густою, сакаўною
Ды з жытам цяжкім, каласістым,
З адборным зернем ядраністым…

*

І рада маці, бацька рады —
Цяпер за поле ўсё і грады
Яны спакойныя: наўрад
Іх возьме суш ці выб’е град.
Ім сілы ўсе спрыяць павінны:
У меру — сонца, ў меру — ліўні…
Пайшлі каляднікі, панеслі
Далей сялом па ночы песні,
А ў хаце ў нас ад песняў іхніх
Гамонка доўга шчэ не ціхне.
І нам, малым, ніяк не спіцца:
Ну, як жа тут не падзяліцца
З сваімі гэтым дзіўным дзівам,
Што ўбачыць даў нам лёс шчаслівы!
Мы засынаем дзесь пад ранне,
Ды ў нас і ў снах — калядаванне.
А бацьку сёння недзе сніцца
Пад белай хмаркаю пшаніца,
Што, як той бор, шуміць наўкола,
Б’ючыся коласам аб колас,
А ў каласах, як звераняты,
У цэлых шэсць радоў зярняты!
Вось бацька сцежкаю ў пшаніцу
Заходзіць, быццам бы ў святліцу.
Ідзе між каласоў, якія
Гамоняць з ім, нібы жывыя.

К сабе іх горне ён лагодна,
І тыя, нібы дзеці, згодна
Яму пашоргваюць па твары —
Яго надзеі, яго мары…
Назаўтра, толькі заяснее,
Снег па падворку засінее,
Праз сад пусты, што вымер нібы,
Кіруе бацька за сядзібы.
Там, пад пярынай снегавою,
Спіць рунь яго. Хай па-над ёю
Зіма клубкі мяцеліц круціць,
Зямлю і неба каламуціць,
Хай змерзла тая руні траўка,
Завяла, кволая маляўка,
Ды знае бацька: як здаўна,
Жыве усё-такі яна!
Пакуль нічым яна не значна
І воку простаму не бачна,
Ды за зямлю ўжо каранямі
Ўчапілася, як кіпцюрамі.
Пусціла ў глебу іх глыбока —
Да жыватворных родных сокаў.
Патроху п’е іх, цягне ў жылы —
Падспудна набірае сілы.
А час праб’е, заграе маем —
І што яе тады ўтрымае?
Устане, вырвецца са схаваў…
Яна сваё шчэ скажа слова!

IV

Мароз трымаў яшчэ ва ўціску
Раллю, і рэкі, і бары,
Жучкоў, і вожыка ў нары,
Што ўсё хаваў у поўсці пыску.
А сам, вось так суняўшы рух
Усёй наўкол жывой прыроды,
Далей хадою ваяводы
Ступаў у шалях завірух.
І перад ім, перад тыранам,
Нямела ўсё. У звоне дзён

Гуляў і, пэўна, думаў ён,
Што век над светам будзе панам.
Ды з поўдня, пасланец цяпла,
Падпольшчыкам — ці хто прыкмеціў? —
Зусім нячутна свежы вецер
Прыйшоў пад вечар да сяла.
Заняўшы вуліц скрыжаванні,
Двары, лядовыя масты,
Ён ціха паздымаў пасты
Марозу грознага да рання.
Сарокі тую вестку-дар
Разнеслі ўміг ва ўсе староны:
— Уставайце, — скінут сёння з трону
Зямлі найлюты валадар!
І ўстрапянуліся бярозы,
Хваіны стрэслі снег з плячэй,
Шляхамі небнымі шпарчэй
Хмар пацягнуліся абозы.
Але яшчэ ў палоне сноў
Маўчала немая зямля ўся
І зрынуты мароз кідаўся
У рукі ўзяць яе ізноў.
У наступ рваўся з новай сілай,
Прыхватваў раніцы, ліхі,
Заблытваючы ўсяк шляхі
Вясне, што блізка дзесь блудзіла.
Каб памагчы ёй адшукаць
Дарогу, ранкам сіняватым
На ўзгорак выбеглі дзяўчаты
Усёй гурмой — вясну гукаць.
        — Гу-гу, вясна!
        Гу-гу, красна!..
І ўжо ва ўсе бакі зямлі
Шырока песні паплылі.
Вясна за краем неба мглістым
Пачула спеў дзявочы чысты,
Высока крыллем узмахнула,
Цяплом, нявідная, дыхнула
І, ўзняўшы сонца над сабою,
Наўпрост упэўненай ступою —
Ці гай, ці поплаў, ці палянка —
Пайшла насустрач тым вяснянкам,

І тут жа, днямі і начамі
Сваімі звонячы ключамі,
Зямлю ўзялася адмыкаць,
З турмы лядовай выпускаць.
Паўсюль змываючы з угрэваў
Снягі направа і налева —
Аж люба — ручаі рухава
Панесла сонца па канавах.
І ўжо, сваю пачуўшы волю,
У наступ — як тут утрываць! —
Пайшла няўрымслівая трава
Па курганах, лагах ваколіц.
Ля хвой з-пад снегавой цямніцы
Пралескі вылезлі з іглiцы.
І кураслеп, і сон, і браткі
Наўкол збіраюцца у статкі.
І збажына, пачуўшы волю,
Ужо — глядзі — займае поле…
　　— Нясі, вясна, нясі
　　На зямліцу — травіцу,
　　На травіцу — расіцу,
　　На лясочак — лісточак…
Пяюць жанкі, пяюць ахвоча,
І свецяцца, блішчаць іх вочы,
На ўсё забыліся жанчыны,
І з твараў іх — глядзі — маршчыны
Знікаюць тут усе як ёсць:
Вяртаюць песні маладосць.
Хай непрыглядную, цяжкую,
Але ўсё роўна дарагую!
За песняй вольна песня льецца,
Ды часам спеў іх абарвецца.
— А як далей? Працяг які? —
Пераглядаюцца жанкі
Ды ўсё прыгадваюць па слову
Даўно не петай песні мову.
— От каб сюды Лях Станіславу!
Яна папела б тут на славу!
Зацягне колісь — век бы слухаў:
На ўвесь раён была пяюха!
— Была? А дзе ж цяпер яна?
— Цяпер? — уздых цяжкі.— Вайна…

Тут расказаць пара мне, мусіць,
Пра той найчорны дзень сяла
(Дзён гэтакіх вайна дала,
Не скупячыся, Беларусі!).

*

…Світала. Над зямлёй знямелай
Далёкі неба схіл нясмела,
Бы твар дзяўчыны сарамлівай,
Займаўся чырванню цнатлівай.
Пра поступ сонца, што нясло
Дзень найцудоўнейшы ў сяло,
Паведаў голасна, з ахвотай,
На радасць, першым певень з плота.
І, як спрадвеку, як заўсёды,
Забразгалі па хатах вёдры,
На ўсіх падворках песню будняў
Запелі жураўлі ля студняў.
Дзень пачынаўся. Ясны, сіні.
Уходжваліся гаспадыні
Барзджэй: быў касавіцы час,
І ўсе спяшаліся якраз
На сена — з камінoў у высі
Дымы над хатамі віліся.
Салодка спалі толькі дзеці,
І ў іх — што бачылася ў снах? —
Гулялі ўсмешкі на губах,
Як і ў дзяцей на ўсёй планеце…
І ў гэты самы міг чароўны,
Шпачыных перасвістаў поўны,
Сюды, да ціхага сяла,
Да гэтых мірных хат, прыйшла
Бяда — у рабых маскхалатах,
У чорных касках седлаватых.
У лес вакольны ад бяды
Не многія ўцяклі тады.
У школу ўсіх сабралі каты —
Ніводнай не мінулі хаты.
Пра тое, як гарэла школа,
Як доўга крык не моўк наўкола,

Як дзеці з маткамі сваімі
Палалі свечкамі жывымі,
Жанкі без слёз, як іх ні гоняць,
Не могуць расказаць і сёння…
Жанок жа, што спяваюць тут,
Збярог, няйначай, толькі цуд.
Як іх круціла ў сваіх спіцах
Вайны ліхая калясніца!
Вялі на допыт іх, згіналі,
Рабынямі ў чужыну гналі…
У хаце мы сярод спявачак
І нашу гаспадыню бачым.
У гурце і яна нямала
Забытых песень прыгадала.
Ізноў гучаць яны — нібыта
Ускрэслі, даўнія, з нябыту…

*

…У гудзе пчол, у шале кветак
Ідзе па днях-прыступках лета.
Зямля, абласканая сонцам,
Такім старанным і бяссонным
(Унь як гарыць яно ў зеніце!),
Ад шчасця расцвіла — зірніце,
Як раскашуюць яе лозы,
Яе чарэмшыны, бярозы,
Як зіхацяць яе лугі,
Яе рачулак берагі!
Нібы жывое, пад блакітам
У полі гойдаецца жыта.
Час налівання — важкі колас
Патроху ўжо схіляе голаў.
За жытам і ячмень вусаты
Напоўніў малаком зярняты.
А па садах, між лісцяў вабных,
Яснее вішня, спее яблык.
Плады свае раскрыўшы, ціха
Ляжыць зямля, як парадзіха.
Усё народжанае ёю
У рост ідзе само сабою,

У трубкі круціцца, буяе,
Насенне сокам налівае…
Дык як не славіць момант гэты,
Пару красы зямной, пік лета!
Сягоння ўранку — шмат хто бачыў! —
Над лесу грабянцом зубатым,
Ледзь выплыўшы — такое дзіва! —
Гуляла сонца зіхатліва!
Ад залатой яго кароны,
Адняўшыся, ва ўсе староны
Ішлі, скакалі агнявыя
Кругі чырвоныя, жывыя!
Гуляла сонца, абвяшчала
Пра свята светлае — Купала!
Дзяўчаты з раніцы ў прыселле
Гурмой вясёлай беглі ў зелле.
Даўно манілі іх купалкі,
Што расцвілі пад сонцам палкім.
Мядункі, сонцы, васількі —
Усё ўпляталася ў вянкі.
А як дадому паўз дуброву
Ішлі са спевам, на галовах
Цвілі ў вянках дзявочых зёлкі
Усімі фарбамі вясёлкі.
　　— А на Йвана сонца грала,
　　Ой рана на Йвана…
Адгаманіў, як год, вялікі
Дзень песнядайны, ясналікі.
Пашчыраваўшы, споўз за вербы
Чырвоны сонца круг ля грэблі.
І вось на горцы, у прыволлі —
Яму на змену — па-над полем
Смалой абмазанае кола
На жэрдцы ўспыхнула, наўкола
Змрок разганяючы начыста.
Міг незабыўны, урачысты!
Дзяўчаты, хлопцы дружным строем —
Усе ў святочных, лепшых строях —
Вакол агню пад песень гукі
Пайшлі, пабраўшыся за рукі,
У шчыры свой танок з падскокам,
Б’ючы у ладкі ненарокам,

Штораз барзджэй, штораз жвавей,
Штораз шчаслівей і жывей.
Калі б хто глянуць мог з-пад высяў
Сюды во, на зямлю, здзівіўся б:
На ёй яшчэ адно вясёла
Круцілася жывое кола!
Ноч на Купалу невялічка —
Што птушка хуткая, ноч-знічка:
Адна зара не ўспее згаснуць,
А ўжо другая неба ясніць.
Так, хоць малая ночка гэта,
Ды ў песень безлічы апета:
Яна ж — так лічыцца між люду —
Ноч незвычайная, ноч цудаў!
У гэту ноч, што мчыцца хутка,
З карчэўя, з нор, з усіх закуткаў
Вылазяць ведзьмаў плоймы сціха.
І борзда — хто на чапяле,
Хто на круку, на памяле —
Ляцяць да сёл: чакайце ліха!
А ліха ведзьмам трэба многа
Зрабіць людзям: без ліха тога
Пражыць не могуць яны й тydня —
Такая ўжо натура ў злыдня!
Другая — шчурам ці тхарком —
У хлеў прасочыцца цішком
І там такога ўжо натворыць —
Ніхто нічым не загаворыць!
Часцей — падкраўшыся са схновы,
Так выссе вымя у каровы,
Што малака з яе, хоць лопні,
Ужо не выдбаеш і кроплі.
А то, бывае, апаўночы
У жыта, збродлівая, ўскочыць
Ды ўтворыць свой ліхі залом,
Звязаўшы каласы вузлом.
А ад яго, таго залому,
Бяды ўжо не мінеш — ці дома,
Ці тут, у полі, з ураджаем,
Якога ўсе штогод чакаем!
Таму, каб не пусціць у шкоду
Злы дух вядзьмарскі, перашкоду

Яму здаўна прыдумваў тут —
Абараніцца б толькі — люд.
Больш адганялі ліха тое
Ад хат пякучай крапівою,
Якой вароты ўсе й парканы
Заўжды былі паабтыканы
У ноч купальскую: не вельмі
Тады маглі пралезці ведзьмы!
А іншы раз — не мецъ бы гора —
Сяло з палеткамі разорай
Аперазаць, нібы папругай,
Рашалі: свежую, з-пад плуга
Раллю — падвох, напэўна, нечыйсць! —
Пераступаць не смела нечысць.
Чынілі ведзьмам перашкоды
І тыя песні, карагоды,
Агонь купальскі, тое кола,
Што ў неба ўспыхвала вясёла…
У ноч купальскую у лесе,
Дзе з хвояў мох бароды звесіў,
Дзе елкі — воіны ў шаломах —
Цара пушчанскага харомы
(Пра іх паслухай казкі-былі)
Маўклівай вартай абступілі,
Дзе між камлёў, нямых, няветлых,
Блішчаць зайчыных сцежак петлі
І ў цемрыве — казы ці воўка? —
З-пад вываратня свеціць вока,
Дзе каля пнёў пасталі войскі
Грыбоў рудых, з луской, нясвойскіх,
А па баках, як летуценні,
Істот нязнаных ходзяць цені,
Дзе сонна ўздрыгвае лаза,
Дол аплятае дзераза,
У гушчары, глухім, далёкім,
Куды не глянуць і аблокі,
На нейкі міг, кароткі самы,
Над казяльцом, над верасамі,
Над дзьмухаўцовым сном нясмелым,
Свет азараючы знямелы,
Ўся распускаецца, без сведкаў,
Як сонца, папараці кветка.

Пра кветку-папараць стагоддзі
Жылі лятункі-сны ў народзе.
Каму, казалі, між завалаў
Знайсці б яе пашанцавала,
Ў таго б уміг — такія чары —
Збыліся ўсе надзеі-мары!
Зямля — о момант незвычайны! —
Яму б усе раскрыла тайны.
Пачуў бы ў свеце, вечна новым,
Ён зор, і дрэў, і птушак мову.
Пазбыўшы слёзы, ўсе пакуты,
Глухіх вякоў цяжкія путы,
У шчасця мілую краіну
Знайшоў бы ўрэшце ён сцяжыну.
Сцяжына ў шчасце! Спраку веку —
У хлюпату, у дождж, у спеку,
У золь, у люты вецер сцюжны —
Шукаў яе наш люд лапцюжны.
Да шчасця, знаў, дарогі лёгкай
Няма — сякерай ды рыдлёўкай
Ён церабіў свой шлях круты
Праз бураломы, чараты.
Яго, яго ён вёў-праторваў,
Той шлях, калі ірваў-разорваў
Сахой-крывуляй, зноў і зноў,
Мур скамянелы дзірваноў,
Калі ў зямлю, якую ў пальцах
Усю да крошкі перамацаў,
Не скупячыся, што ні год,
Упарты, нёс і кроў і пот.
Ды на яго шляху заўсёды
Свае завалы-перашкоды
Стаўляў, выходзячы на ловы,
Цмок ненажэрны шматгаловы.
Вякамі з ім, звыродным цмокам,
Што краю сілы ўсе высмоктваў,
Народ вайну вёў: о, як яра
У схватках-сечах з той пачварай
Змагаліся — хай смерць, хай згуба —
Яго асілкі-вернідубы!
Ці бачыў, люд, ты ў гэтым цмоку
Гайню вяльможных крывасмокаў,

Што над табою стаўбунамі
Спрадвек стаялі з бізунамі,
Што край укралі твой, а з краем,
З зямлёй і волю ў цябе ўкралі?
Бы цацкаю, табой вярцелі
Уладакрады, як хацелі.
Ты быў для іх падрубай, глінай,
Нямой рабочаю скацінай.
Каб быў пакорным ты, ціхмяным,
Хадзіў у іх валом слухмяным,
Табе з амбонаў дні і ночы
Яны хлуснёй кадзілі ў вочы.
Так, як маглі, цябе цямрылі,
Пасля ж з тваёй цямноты й кпілі.
Як з «хама-мужыка» ў палацах
Умела панства пасмяяцца!
Як твае думы, тваё слова
У гразь таптала адмыслова!
Ды, зубы сціснуўшы, ты й далей
Тарыў сваю дарогу удалеч.
Не складваў рук, бо знаў, бо верыў:
Твае расчыняцца ўсё ж дзверы!
Не ты, дык сын, унук ці праўнук,
А ўрэшце ўсё ж здабудзе праўду!
Сахой ды граблямі, зацяты,
Сваю гісторыю пісаў ты.
А час прыйшоў, і з светам цэлым,
Атросшы сон стагоддзяў, смела
Загаварыў ты — не гаротны! —
Купалы голасам грымотным…
О кветка-папараць! О казка
Зямлі чароўнай, шчасця краска!
У час юначы, светлы час,
Хоць і не верылася ў дзівы,
1 мы шукаць яе хадзілі
У пушчу цёмную не раз.
Было: хлапчына светлачубы
З той, найдарожшай, што галубіў
Даўно ў найсветлых самых снах,
Цяпер — звіні ў душы, вясна! —
Рука ў руку, зусім не ў мроях,
Зямлёй прыціхлай пад зарою

Ішоў па росах, без дарогі —
Вялі абаіх самі ногі.
Ўвесь свет зіхоткі, як дарунак,
Ляжаў прад імі ў ціхіх рунах.
Як слаліся да ног ім зёлкі,
Туман клубкі разматваў, золкі!
Як конікаў аркестры ім
Жыцця ігралі вечны гімн!..
Праз ноч усю — адны ў сусвеце —
Блукалі так у спелым леце,
У хмелю траў, і шчасця кветку
Усё ж знаходзілі нярэдка!
Малую ночку на Купалле
Дзяўчаты й хлопцы год чакалі.
Варожбы, песні, шал гулянак,
Што не змаўкалі да заранак.
Ім аж да новае вясны
Яшчэ варочаліся ў сны.

V

Узгор'ем, долам, мройным лугам —
Прастор і воля! — беглі цугам,
У буйнатраўі па калені
Дні — хутканогія алені.
Штодзень — званчэлі далягляды,
Яснелі воблакі-панады
У сінізне: ішло згары
Дыханне іншае пары.
Ўначы над хатамі ў пакоры
Віселі, нібы слівы, зоры.
А ранкам гулкім за аблогай
Перад нязведанай дарогай
Шпачкоў-сяголетак чародкі
Ужо збіраліся на сходкі…
І ніва, што ўсё лета млела
Ў абдымках сонца, гэткіх хмельных,
Дажджы і ліўні прагавіта
П'ючы карэньчыкамі жыта,
Стамлёная, ўжо ледзь трымала
Ўраджаю ўласнага навалу.

З сяла сцяжынкай травяною
Прайдзі пад вечар у жытное —
Пад белай зоркаю нямой
Там у трывожным шматгалоссі
Жывога, ройнага калосся
Пачуеш спеў зямлі самой…
Паспела жыта. Каласы,
Да долу звесіўшы вусы,
Угнуўшы дугамі сцябліны,
Сярпа чакаюць штохвіліны.
І ўсё настойлівей, ахвоча
Руплівых жней і ўдзень і ўночы —
Не перастояць жыту б толькі —
У поле клічуць перапёлкі:
Жаць, жаць! Жаць, жаць! Якое ж сэрца
На гэты клік не адгукнецца?
Сягоння маці яшчэ зрана
Падлогу вымыла старанна,
Прыбрала ў хаце і ўрачыста
Заслала стол абрусам чыстым.
Зажынкі — гэта свята з святаў
Ужо даўно чакала хата.
А больш дзятва: шчэ з дзён вясновых
Салодка хлеб нам сніўся новы.
Прыйшоў, прыйшоў той светлы дзень!
Ужо да шафы маці йдзе,
Паважна дастае са сховы
Убор свой лепшы, паркалёвы,
Прыбралася — глядзіць шчасліва,
Пасля з паліцы беражліва
Бярэ у чысценькую хусту
Клін сыру, соль ды хлеба лусту,
Што дзесь з ранейшага прыпасу
Была прыхована да часу,
Кладзе на плечы звычна серп
І хоць паўдня шчэ*, ды — няўсцерп! —
Кіруе ў поле. Каля нівы,
Ля віру каласоў шумлівых
Спыніўшыся — такі закон, —

* Звычайна на зажынкі ішлі ў суботу надвячоркам, каб закончыць работу — нажаць цэлую бабку жыта — пасля заходу сонца.

Яе вітае і паклон
Ёй адбівае, ніве роднай,
Заўжды спагаднай, шчодрай, плоднай.
Сказаўшы ёй падзякі словы,
Свой серп назублены сталёвы
Здымае з плеч — і жыта спела
Пад ім ужо зашаргацела.
Аж люба — з мацерыных рук,
Святляныя, за пукам пук
На перавясла каласы
Кладуцца — поля галасы…
Пасля, накінуўшы сноп-шапку
На светлую — «што слонца» — бабку,
З хусціны маці дастае
Прыпасы сціплыя свае
І йдзе ўжо да суседак-жнеек:
Зажон адзначыць трэба ж неяк!
А вечар — першы сноп нажаты
Нясе, шчаслівая, дахаты.
У кут чырвоны ганаровы
Стаўляе гэты сноп жытнёвы,
Які ў народзе — нівы дар —
Ад даўна клічуць — «гаспадар».
Так, гаспадар. Не ў сне, не ў мары,
А ў хаце хлеб хай гаспадарыць!
Яму усе ў нас, без прынады,
Служыць былі заўсёды рады.
Абы не кідаў нас і зроду
Каб не было яму тут зводу.

*

Як хлебадар, пад небам ясным,
Падперазаны перавяслам
(Звісалі гроны каласоў
Замест украсы-кутасоў),
Па бальшаках, па светлай ніве
Ішоў-званіў руплівы жнівень.
І гэты звон шматструнны жніўня
(Ад малку чуецца ён з ніў мне!)
Глушыў спеў птушак, гук касы,

Усёй прыроды галасы.
Жніво, жніво… І песні нават
Прымоўклі ўсе. Наўкол яскрава
Адных сярпоў гучала мова:
Яны сваё казалі слова
Ў руках у жней. Хацеў бы я
Прапець тут гімн табе, жняя.
Ты, колькі свет іскрыцца гэты,
На постаці сваёй — праз леты —
З цямна ў нясцерпны самы скваp
(Аж залівала потам твар!)
Стаяла крукам. Цераз рукі
Твае, жняя, — што ў іх за рухі! —
Прашалясцелі, праплылі
Жыты усіх эпох зямлі.
Ты кожны колас, што раджала
Зямля, ў руках сваіх дзяржала.
Ды хоць ля жытняе сцяны
Не разгінала ты спіны,
Хоць несла кожны дзень дадому
Цяжкую, нібы камень, стому,
Хоць сонца жар круты цярпела
На ржэўніку, ўсё роўна пела
Душа: твой труд, твой пот салоны
Пярэсціў бабкамі загоны,
Свяціла золатам жытцо —
Твая трывога, сны, жыццё!
І вось — выпроствайце, жанчыны,
Свае натруджаныя спіны —
Апошняя палоса зжата!
Хіба ж для жней малое свята?
На ніве голай гурт жанок
Малы калосся астравок
(Хто ў вёсцы «барады» не знае?)
Вясёлым колам абступае.
Верх «барады» — такая звычка —
Абвязваюць чырвонай жычкай,
Пяюць ёй песні і, каб ніва
Зноў каласілася шумліва,
У «бараду» хлеб-соль з пашанай
Кладуць. І, калі ўжо аддана
Найшчодрай ніве чэсць, дадому

Ідуць жанкі й з сабой — вядома ж! —
Нясуць вянок са спарышоў —
Шчаслівых самых каласоў.
Надзенуць той вянок вясёла
Жанкі гаспадару на голаў
Са спевамі, і гаспадар —
Калі ён не з апошніх скнар —
У самым лепшым месцы хаты
За свой накрыты стол багаты
Пасадзіць жнеек, павіншуе
І ўсіх як трэба пачастуе.
Ідуць жанкі, ідуць дарогай,
Пускаюць голас свой дубровай.
Хай гулкі голас галасуе,
Хай свет увесь навокал чуе,
Як жнеі поле зваявалі,
Як мора жыта ўтаймавалі…
Ноч. А жанкі ўсё нам спяваюць —
Зямлі гісторыю гартаюць.
Ад працы ўгрэўся наш «Рамантык» —
Хоць падстаўляй яго пад кран ты.
Але яму і на хвіліну
Мы з Лісам не даём спачыну:
Ці ж можна з песні, штораз новай,
Нам прапусціць адно хоць слова?
Бяжыць, віецца змейкай стужка —
За песняй песню «піша» служка.
Усё, як ёсць, магнітафон
Бярэ — і галасы, і фон.
Цяпер мы ведаем: у Лету
Не кануць песень самацветы.
Праз многа год, ужо без нас,
Вось гэту стужку — добры спадак! —
Кране ўключальнікам нашчадак,
І ажыве аджылы час.
З яго лясамі, галасамі,
З расой палёў, з яго слязамі,
З яго праклёнамі і смехам,
З бязглуздых войнаў горкім рэхам,
З трубой літой яго парадаў,
З яго і крыўдаю і праўдай!

*

Спіць вёска ў свеце. Тонуць хаты
У змроку — цьмяныя квадраты.
Заснуў і вецер пасля дня
Бадзяння. Зорак мільгатня.
Спяць людзі, спяць — нам жыць без спешкі б —
Падворкі іхнія і сцежкі.
Іх студні, лаўкі іх ля весніц,
Бэз перад вокнамі і песні.
Адзін у ліпе салавей
Ніяк не ўспіць — яшчэ жвавей
Навокал сыпле на прысады
Свае высокія рулады.
Лавіць бы, слухаць іх да рана,
Як спраку веку, закаханым,
Ды толькі ў цені ліп густых
Мы не страчаем штосьці іх.
Нідзе не рыпне і гармонік —
Нядаўняй вёскі неўгамоннік.
Яго ад гэтых ліп, ад зорак
З сабою моладзь знесла ў горад.
Ну, што ж, ну, што ж, юнацтва крылы
Няслі і нас за небасхілы.
У небывалыя ясноты
Нам адчыняліся вароты.
Вось толькі там, у яснай далі,
Ці ўсё знайшлі мы, што шукалі?..
А дома, на сваёй зямлі,
На той, на той, дзе мы раслі,
Дзе ўсе пачаткі, ўсе крыніцы,
З якіх нам піць і не напіцца,
Дзе ў рэдкіх ценях хвой застылых
Дзядоў і прадзедаў магілы,
Як і жылі, жывуць па сёння
Ў заведзеным з вякоў законе,
Бацькі — зямлю штогод аруць,
Гной растрасаюць, сеюць, жнуць.
У роўным ланцугу бясконцым
Ратаяў, змалку дружных з сонцам,
Яны — адно звяно жывое,
Навек спаянае з зямлёю.

А мы? Што з дому нас звяло?
Куды ты, наша пакаленне?
Ад тога хлебаробаў племя
Мы — адарванае звяно.
Шуміць, гамоніць наша крона
Усё далей у вышыні.
Ды засталіся карані
У глыбіні зямлі замглёнай.
Не аслабела б толькі ніць
Між каранямі й кронай гэтай:
Бацькоў высокі свет, сагрэты
У сэрцах, чым нам замяніць?..
Тут ручаёк жывы гаворкі
Мы з Лісам — хай маўчаць падворкі —
На тое зводзім, што бліжэй,
Што, як-ніяк, нам даражэй:
На наша пісьменства, што свету
Вядома, на сяброў-паэтаў,
Што — праз паэму, верш, аповесць —
З зямлёю ўсё ж мацуюць повязь.
Як нас, пасляваенны вырай,
Дзяцей палёў з душою шчырай,
Што ў Мінск, бы птушкі ад шпакоўняў,
Зляцеліся ад хат, ад ёўняў,
Якісьці крытык незнарок,
Хоць ведаў шмат ён, без сумнення,
Філалагічным пакаленнем
Па блізарукасці нарок.
Нас, на каго з гарматных жэрлаў
Глядзела смерць не раз, нас, нас,
Чыё маленства — светлы час —
Вайна ў жалезнай пашчы зжэрла.
«Канвой», «гестапа», «краты», «штых»,
«Блакада», «голад», «ачапленне» —
Не, гэтых клятых слоў значэнне
Пазналі мы зусім не з кніг.
Паласавалі свет ракеты…
Лес партызанскі, чараццё,
Канцлагеры з сірэн выццём
Былі ў нас за ўніверсітэты.
Ад куль, ад шомпалаў, ад мін
На целе мы рубцы ды шрамы

Ды раны ў сэрцах гэтаксама
З прасёлкаў ціхіх неслі ў Мінск.
Былі равеснікі малыя
Не ўсе між нас. Як многа іх
Пад жвір лягло ў кастрах людскіх —
Па іх і сёння сэрца ные…
Прынеслі ў горад мы з сабой
Найгоркі плач па блізкіх стратах,
Сум воч сірочых, слёзы матак,
Па растаптаных душах боль…
Не ціхне боль бяссонны гэты
У нас ні ў якую пару.
Жывы, ён зноў і зноў пяру
Дыктуе тэмы і сюжэты…
Ды часам меціць збіць убок
Нас крытык-праведнік вучоны,
Што зазубрыў усе каноны,
Усе законы назубок.
Той-сёй, бывае, на хвіліну
Паддасца нуднай траскатні
І даўняй злыбядзе — хлусні —
Ужо, глядзіш, нясе даніну.
А ёй, хлусні, не многа корму
І трэба (хто тут знае норму?):
Там — дробязь нейкую, там — крошку,
Так назбіраецца патрошку
І зноў жыве сабе, круглее
Ды раздуваецца, шалее,
І не згадаеш, як, малая
Раней, хлусня ліхая тая
Перарасце — к таму вяду —
У найвялікшую бяду,
З якой — нікога не пагладзіць! —
Ужо не проста будзе зладзіць…
Спіць вёска. Спіць сабе, не чуе,
Што мы тут пра яе такуем.
Спіць, як дзіця, і мо не знае,
Што ў новым дні яе чакае…
— Ты кажаш, што яна адпела
Сваё, у песнях адзвінела?
І век цяпер свой дажывае,
Людзей карміцелька старая?

Мо раптам можна й без яе
Нам абысціся будзе скора?
Ну, а зямлю, што — возьме горад
У рукі ўладныя свае?
Яе размеціць, расплануе,
Абмерае, распаласуе
І ўчасткі згодна пастаноў
Да прадпрыемстваў і ўстаноў,
Як неабходную нагрузку
(Мець хочаш на стале закуску?),
Бестэрмінова прымацуе —
Каму каторы пашанцуе.
Той будзе выдзелены ўчастак ТЭЦ-3?
А гэты — «Тэрмапласту»?
Той — Мінскпіўпрому? Той — БелАЗу?
Ці Белсаўпрофу? Галоўгазу?
Той — атэлье? А той — спортклубу?
Той — Дому мод? Той — Дому шлюбу?..
Далей уявім, днём вясновым
Начальству проста на галовы
Чарговы запыт громам з неба
Зляціць з палёў падшэфных: трэба
Людскія рукі для калгаса —
Сяўба ўжо там распачалася!
…— Ну, хто з вас на сельгасработу
Паехаць выкажа ахвоту?
Каго нам вызваліць ад спраў
На час? — загадчык установы
Адной даследча-навуковай
Свой персанал увесь сабраў
У кабінет і вось без шалу,
Бы нож, пытанне персаналу
Пад горла проста прыстаўляе. —
Дык што — ніхто з вас не жадае?
У кабінеце шэфа — ціша:
Замерлі ўсе, ніхто не дыша.
— Што ж, раз ахвотнікаў няма,
Тады, як селі, па парадку
І распачнём тут разнарадку —
Што валаводзіцца дарма!..
Пачнём з цябе мы спіс, Цярохін…
Што? Бюлетэнь?.. Тады — Панчохін!

І ты не можаш? Гаймарыт?
Не? Што ж тады? Радыкуліт?!
Ну, а ў цябе што, Карпушкова?
— Ды я… Заўсёды я гатова,
Паехаць рада б я — чаму ж,
Але ў камандзіроўцы муж,
Дзіця ж са мной: хіба ў прыполе
Я павязу яго на поле?
— То мо паедзе Каспуровіч?
Дзіцё таксама? А Курловіч?
Яе хлапец даўно ж у школе —
Насіць не трэба мо ў прыполе?
Што-што? Не можа без бацькоў?
Баіцца ў хаце ён ваўкоў?
— А Кухаронак? — Кухаронак
Ад воч начальства ў застаронак
Улезла б, хоць віны яе
Няма: экзамены ж здае!
— Тады запісваю Зацірку!
— Заціркам зноў хацелі б дзірку
Заткнуць? Не ўдасца: во даведка —
Майго рэўматузоса сведка!
Чарга тут даць Лялькову слова,
Ды абмінае шэф Лялькова:
Таго ізноў уберагла —
Яго надзейны шчыт — кіла.
Ён пра яе даўно — ці ж дробязь? —
Разнёс усім, нібы пра доблесць…
Вядзе далей шэф наступленне,
Ды, як ні б’е ён на сумленне,
Ніхто свае для поля рукі
Адняць не хоча ад навукі.
— Дык, можа, мне самому ехаць? —
Шэф выцірае пот на плеху…
Усё ж знаходзіць навукоўцаў
Траіх — жанчыну і двух хлопцаў.
Жанчына — сталая, няўломак
І адарваць сябе ад дому
Сама дала начальству згоду:
Выкручвацца не ўмела зроду.
Ну, а хлапцы? Калісьці мамы
Сваіх дзяцей (найлепшых самых!),

Займеўшы там дзе трэба «руку»,
Сілком упхнулі у навуку.
Ды тыя ў ёй — ні бэ ні мя:
Чаго няма, таго няма!
Пра гэткіх людзі не без смеху
Гавораць так: што ўбіў, што ўехаў
Ці: ні ў салдаты, ні ў матросы,
А толькі загваздка ў калёсы.
Але жывуць, не знаюць мукі —
Прыгрэліся каля навукі.
Навука ж церпіць, бач, такіх —
Ці мо патрэбу мае ў іх?
Ну, хоць бы імі ад калгаса
Як-небудзь адчапіцца часам?
Як кажуць часта: на, нябожа,
Табе, што нам самім не гожа!
Якой жа можна ў полі працы
Ад пасланцоў тых дачакацца?
Мо будуць надта шчыраваць?
Душу калгасу аддаваць?
Як трэба агарод засеюць?
Зямлю дагледзяць, абнадзеюць?..
Так, не стаіць наш час нязменна —
Нясецца ўперад вокамгненна!
Перарабляецца нанова
Зямля людзей. Век перуновы!
Ужо — глядзі — ракетнай сталлю
Мы неба зорнага дасталі…
Ды толькі вось пад гром авацый
Ці ж ад зямлі нам адрывацца?
Зямля — ці ж толькі касмадром?
Калыска родная, наш дом,
Асноў аснова, поле, паша,
Радзіма ўсім нам, маці наша,
І на яе глядзець звысоку?
Палеткі абрабляць з наскоку?
Не, не гасцей тых мімалётных
Зямля чакае ў дзень самотны.
Не прыхадзень, не птах спаднебны —
Ёй гаспадар, зямлі, патрэбны.
Па ім, па ім зямля сумуе,
Яго, яго штодня пільнуе,

Яго з туманаў выглядае —
Нібы нявеста маладая
Свайго найлюбага з далёкай
Дарогі, доўгай і нялёгкай.
Ён, толькі ён адзін здалее
К ёй падабраць усе ключы.
Яе так будзе берагчы!
Яе атуліць, абагрэе,
Душу ўсю ёй аддасць і сэрца,
І ажыве, устрапянецца
Зямля. І скарбы ўсе, якія
Хавала, з радасцю раскрые…
Спіць вёска. А над ёй, над вёскай,
Ужо ружовая палоска,
Гляджу, ледзь бачная, нясмела
На небакраі заяснела.
І пакрысе ўстаюць з цямноты
Кляны за вуліцай, вароты,
Бэз ля акон, трава ў расе…
Што ж, што ён, новы дзень, нясе?

VI

Ізноў па вулачцы пясчанай
Пыляць дзве пары ног аддана.
Мы песень новыя слаі
Ўздымаць — хто скарб жывы стаіў? —
Шыбуем паўз платы і брамкі,
Ад клямкі і да новай клямкі:
Мо нам адкрыюцца глыбіні
Жыцця у просценькай хаціне?..
Ды тут на паўдарозе нас
Аўтобус заспяе якраз.
Ён, крута пылам нас абдаўшы,
Спыняецца. Ды гэта ж нашы!
Унь ціснуць важна з дзверцаў вузкіх
Фядосік, Грынблат, Малаш, Гурскі…
А з імі й Цішчанка шумлівы
Прастуе ўзбуджаны, шчаслівы:
Ён быў у горадзе заграз —
Здаваў чарговы том якраз

Фальклору нашага да друку,
Цяпер дагнаў нас, цягне руку.
Вітаемся, сустрэчы рады.
Так сярод вуліцы нарада
Ўзнікае імправізавана:
Увесь жа сектар тут сабраны!
— Дык як ідзе ў нас песнязбор?
І ці багаты тут фальклор?..
Спярша расказвае Фядосік
Пра свой узятак: удалося
Яму адкрыць — хоць цісні ў звязак! —
Сапраўдныя паклады казак
На хутарку. Там пад клянамі,
Пад хмаркамі, пад перунамі,
На сонечнай палянцы-грудзе,
Між кветак, у пчаліным гудзе,
Пры маладым беразняку,
У звонкім, хоць старым, дамку
Знайшоў дзядулю ён сівога,
Вясёлага ды гаваркога,
Што ў памяці ўхаваў ад даўніх
Гадоў зямлі сваёй паданні.
Вядома ж, не губляў тут час
І Грынблат — найстарэйшы з нас:
Легенды, прыказкі, замовы,
Загадкі, песні, проста словы —
Па вёсцы гроб ён усё чыста
У мех шырокі фалькларыста.
А Гурскі больш шукаў па сховах
Хоць што з калядак ды шчадровак:
Ён разрабляў сваю дзялянку
Ў навуцы, і цяпер ад ганку
Да ганку — ўсё ёсць паміж люду! —
Цягаў магнітафон-няўклюду.
Дарма і Малаш не хадзіла
Сялом: натрапіла на жылу
Вясельных песень; бабкі іх
Па памяці з гадоў былых,
Нібы па нітачцы якой,
Адну цягнулі за адной.
І Скідан быў таксама рады:
Знайшоў у вёсцы ён балады…

— Што ж, неблагі мы плён сабралі.
Цяпер у новыя мо далі
Пусціцца нам? Ды Грынблат слова
Бярэ хутчэй:
— Ёсць прапанова
Яшчэ нам на дзянёк астацца,
Для кожнага тут будзе праца:
Сягоння цэлаю капэлай
Нас запрашаюць на вяселле!
Ці ж на такую прапанову
Даць можа фальклярыст адмову?

*

Каля вясельнай хаты — вір:
Сустрэчу маладых пабачыць
Сышлася вёска ўся, няйначай —
Ля весніц топча гравер-жвір.
Ды штосьці ўжо занадта доўга
Не чуць дружыны маладога.
Унь маці тупае: не тоіць
Сваёй трывогі-неспакою.
У двор раз-пораз выглядае
З-пад вэлюму і маладая.
Мо перадумаў малады?
Мо не прыедзе ўжо сюды?
Бывала ж так: жаніх другую
Знаходзіў раптам маладую…
Але дарэмныя трывогі:
Матораў гул плыве з дарогі!
І вёскай — трэба ўсім жа ведаць —
Ляцяць малыя:
— Едуць, едуць!
Ад хат, гародчыкаў сваіх —
Не прапусціць бы важны міг! —
З усіх бакоў на крыкі тыя
Бягуць і дзеці, і старыя…
І вось па вуліцы, што ў рух
Прыйшла ўся, урачысты цуг
Машын імчыцца — аб бакі іх
Шары пашлёгваюць тугія

Ды ўюцца побач — клопат дружак —
Вясёлкі радасныя стужак.
Ужо к нявесціным варотам
Вяселле блізіцца. Ды што там?
Дзяўчаты, хлопцы — што за мода! —
Дарогу нейкаю калодай
Перагароджваюць са смехам,
За ёю строячыся спехам!
Што ж зробіш тут: перад заслонам
Машын спыняецца калона.
І ўжо ад першай, зухаваты,
Шыбуе важна сват вусаты.
Усе тут знаюць яго мэту:
Яму б зняць перашкоду гэту!
І перад сватам, гаманкая,
Яшчэ шчыльней — сцяна людская.
Ды той пужаецца не надта:
Ачысціць шлях ёсць сродкі ў свата!
Пускаць жа ў ход іх не спяшае —
Язык пацешыць свой спярша ён!
— Што тут за шум? Што за праява?
Дарогу даць нам — жыва-брава!..
Ды голас свата ваяўнічы
У дружных крыках тоне зычных:
— Вас знаць не знаем! Хто такія?
— Мо то разбойнікі якія?
— Не, не прапусцім — хоць чалом бі!
— Назад вярні свае аглоблі!..
Ад шуму-гаму, што аж глушыць,
Сват затыкае шчыльна вушы.
І да баярак і хлапцоў:
— Мы — людзі добрыя, з купцоў!
Да вас з двароў-харомаў ясных
Купляць тавар мы едзем красны!..
Ад напамінку аб тавары
У маладзіц яснеюць твары:
— Не траціце лепей час свой марна:
Не па кішэні вам тавар наш!..
За словам слова — каля свата
Торг разгараецца заўзята.
Ды ўрэшце сцішвае той гул
З жывою вадкасцю баул,

Што сват прыносіць пераможна:
Усё цяпер дружыне можна!
Сустрэчы міг! З сваёй дружынай
У двор вясельны ад машыны
Сам малады кіруе, горды,
І дружнай музыкі акорды
Яму насустрач урачыста
Ляцяць з-пад пальцаў баяністаў.
Пяюць, пяюць, пяюць баяны —
Вяселля покліч найжаданы.
І ў двор шырокі пад іх голас
Плыве рака гасцей вясёла.
Там, як спрадвеку, маладога
Ужо страчаюць ля парога.
    — Выйдзі, мамачка, на ганачак —
    Паглядзі,
    Ці харошага табе зяця прывязлі…
Струн чуйных сэрца ўладары,
Ваўсю стараюцца музыкі,
І гімнаў радасныя зыкі
Ужо не месцяцца ў двары.
І галасісцей, і гусцей
Ільюцца — хораша, суладна.
І так выказваюць дакладна
Усё, што на душы ў гасцей!
    …— Вітайся, братачка, вітайся,
    Пра здароўечка пытайся:
    Ці так здарова, як зямля,
    Ці так дужа, як вада…

*

Ад галасоў — такое свята! —
Гудзе, як вулей ройны, хата.
А гэтым гудам, люду рад,
Як маг, кіруе хвацка сват.
Апаясаны ручнікамі,
Устаў, паводзячы вусамі;
З хітрынкай слухае хвіліну
Людской гамонкі мешаніну

І — ўлады знак — кій з булавою
Ускідвае ўраз над галавою:
— Прашу увагі — злева, справа!
Наліць кілішкі — жыва-брава!..
І нейкі міг адзін чуцён
Навокал шкла найтонкі звон:
Прыходзіць час іскрыстых тостаў,
Што ўсе ідуць ад сэрца проста!..
У гамане, у чарак звоне,
У шчырых позіркаў палоне —
Яны, шчаслівыя такія,
Выбранцы долі — Маладыя.
Іх зорны час! Для іх — цудоўны
Дзень гэты, ўсмешак цёплых поўны.
Для іх — душ блізкіх парыванні,
Усе і песні, і вітанні,
Для іх, для іх, для іх, буяны,
Грымяць і бубны і баяны,
Што да нябёс узносяць сёння
Іх, Маладых, на шчасця троне:
Хай шчодрасць сэрцаў у дарогу
Сваю ад светлага парогу
Нясуць з сабой праз золь, туман,
Як лепшы дар, як талісман.
Яны ж — пачатак новых дзеяў,
Жыцця зара, зямлі надзея…
Пакуль з віном слоў рэчка льецца,
Сват паслабляе трохі лейцы.
І шум суняты — паступова
Тут наплывае хваляй новай…
Сярод людзей, іх воч іскрыстых
І мы ў застоллі, фальклярысты.
Жарт, песня, прымаўка, выслоўе —
Усё, усё мы прагна ловім,
Усё ўбіраем мы душою,
Зачараваныя красою
Вячыстай мовы нашай роднай,
Напеўнай, шчырай і лагоднай…
Каб не ўпусціць чаго выпадкам,
На лаве ўключваем мы ўкрадкам,
З дазволу, свой магнітафон —
Ці ж можа тут прастойваць ён?

Няхай вясельную гамонку
Усю бярэ жыўцом на плёнку!
Ды Грынблат, фальклярыст стары,
На хітрай тэхнікі дары
Не любіць надта пакладацца:
Цішком — ці ж трэба выстаўляцца? —
Маленькі свой блакнот-паўмерак
Ушчэмлівае між талерак
І неўпрыкметку ўжо алоўкам
Нясе туды за слоўкам слоўка.
Ў сваю стыхію трапіў тут
І Цішчанка: вяселля гуд
Яго настроіў з Жыва-Бравам
(Празвалі свата так яскрава)
Уступіць — хто на язык больш востры? —
У слоўнае адзінаборства.
І вось скрыжоўваюцца шпагі!
Смех, воплескі! Але на вагі
Тут не кладуць чыюсьці вартасць:
Любым вяселле рада жартам…
Як макаў цвет — і ад чаго б так? —
Заружавелі шчокі ў цётак.
Больш не сядзіцца маладзіцам —
Хіба ж у жылах іх вадзіца?
— Мае ножкі шчыкочуць —
Пагуляннейка хочуць…
Той спеў хлапец з віхром агняным
Уміг падхватвае баянам,
На хату йдзе, такі рыжман,
І у руках жывой вужакай
Віецца, бліскаючы лакам,
Збудзіўшы гукі ўсе, баян.
І быццам вецер — рукі ў бокі —
Ляцяць жанкі з застолля ў скокі:
— Дайце круг, дайце круг,
Дайце толькі топнуць!
Ці ж у хаце ў Міхаліны
Падваліны лопнуць?
І ўжо — ці бачыў гэта браце? —
Мяце мяцеліца па хаце!
— А Лявоніху Лявон палюбіў —
Лявонісе чаравічкі купіў…

На хату сваццял вылятае —
Нагамі петлі выплятае:
— А Лявоніха — душа ласкавая —
Чаравічкамі палясківае…
У скокі йдуць малы й стары,
І табурэткі, і сталы.
Ірвецца бабка ў круг сівая —
А гаварыла ж, што слабая!
Мажная цётка на скаку
Хлапца хапае пад руку:
— Дзевяратка мой мілюсенькі,
Вядзі мяне памалюсеньку.
Не вядзі мяне па межачцы,
А вядзі мяне па сцежачцы.
Па межачцы мае ножкі не ідуць,
А па сцежачцы яны самі бягуць…
Тачыў даўно й прыданку верад —
Унь прабіваецца наперад.
Дарогу торыць лакаткамі,
Сячэ чачотку чабаткамі:
— Шэры боб, шэры боб,
Тры гарошынкі.
А хто мяне пацалуе —
Той харошанькі!
А баяніст па хаце ходзіць —
Ва ўсе бакі мяхамі водзіць!
Вакол жа — вось дык заваруха! —
Вірыць жывая завіруха.
Мо хто прыйшоў сюды з хмурынай —
Яе развейвае ў хвіліну!
Усё, усё цяпер забыта,
Чым галава была забіта.
Вяселле шал! Скачы, скачы!
Не скачуць толькі тут сычы!
І хто асудзіць, хто аблае?
Усё набок — душа гуляе!..

*

Аб шорсткі жвір шаргочуць шыны:
Праз каласоў жытнёвых строй

Жывы, праз сонцавы настой
Тарфянікаў, праз грай шпачыны
Бяжыць аўтобус наш. За ім,
За пылу полагам сівым,
Сяло вачмі акон на нас
Глядзіць услед апошні раз.
Хоць пабылі тут мы ўсё ж мала,
Ды, як сваё, сяло нам стала.
І мы вязём адсюль з сабою
Яго турботы ўсе і болі,
Ды галасы, воч цеплыню,
Адкрытых сэрцаў дабрыню…
Шаргочуць шыны. Нейкі час
Маўчым мы — што чакае нас
У новых далях? Толькі знаем
Адно мы: там, за небакраем,
У вёсках, у камбайнаў гудзе,
Жывуць — таксама ж нашы — людзі.
З зямлёй, з святлом дуброў і рэк
Яны заручаны навек.
У словы іх, дзяцей узлескаў,
Гаёў, дзядоўскіх жаўтапескаў,
Услухайцеся без прынукі:
Чуваць у іх — стагоддзяў згукі,
Сны навальніц, гул крыгаходаў,
Кліч жніўня, горны сонцаўсходаў,
Спеў зім, палёў вячорны звон,
Вятроў кастрычніцкіх разгон…
Там кожны дзядзька, дзед, любая
Бабулька — гэта сказы краю,
Яго агні, дарогі, вёсны,
Жыцця шматзвонны гімн узнёслы…
Бяжыць аўтобус наш. Насустрач —
Слупы, аблокі, плёсаў люстры…
За той смугой — зноў хаты, хаты,
І ў кожнай хаце — скарб багаты.
Там недзе ў хатах песня спіць:
Нам трэба песню ў лёт пусціць.

*1977–1980*

## ДОМА

I

З бярозы ліст ляціць
У белы свет, як позва.
Я зноў душу лячыць
Прыйшоў да гэтых пожняў.

Ні сходаў, ні хлусні,
Ні мітусні, ні ліха.
Плывуць, бы лодкі, дні
Мае пад небам ціха.

Зноў у руках — каса,
Зноў, як калісь, ля Ставу
У вал, пакуль раса,
Сцялю, сцялю атаву.

Прастор. Зары клінок
Між хмар. У барве ўзлесак.
Паслаўся туманок
Ля ног асін, бялесы.

Бацькоўскі свет… Дзядоў
Зямля… Хай мне даруе
Чытач, што сёння зноў
Яе ў свой верш цягну я —
Мой лёс, мой боль, мой сон,
Далёкіх вёснаў рэха…

*

Тут сонца дні здавён
Віло —
Зямлі на ўцеху.

Між грабаў ды рабін —
Не, ў цемры свет не згіне! —
Усход, нібы рубін,
Гарэў пад птушак гімны.

А спагадзя крыху —
Ты чуў той гуд над долам? —
Спяшалі на круху —
Ізноў іх свята — пчолы…

Сюды, у ціхі свет
Бяроз ляных і шчаўя, —
Было — ў лапцях мой дзед
Прыйшоў калісь па шчасце.

Дрымотны дзікі кут…
Глухіх карчэўяў тайны…
Адвеку з небам тут
Лес гаманіў бяскрайны.

Ён тут людской ступні
Не знаў ніколі нават.
Сядзіба камарні
Густой. Ваўкоў дзяржава.

І вось на лес сякер
Упаў тут стук нярэдкі.
І скалануўся верх
У хвоі-двухсотлеткі.

Змятаючы суччо —
Прэч, хто там у ламаччы! —
У чарнату карчоў
Ляцелі хвоі-мачты.

Адвечны каравул
Заканчвалі:
Камлямі — аб дол,
І доўга гул
Ішоў-гуляў гаямі.

І хутка (тут піла
Як след пашчыравала!)
Лясны гушчар страла
Дарогі пранізала.

Стралой раўнюткай той
Па каляях сталёвых
Паплыў у свет ракой
Стозвонны лес мясцовы…

І дзед мой, хлебароб —
На гора ці на ўцеху? —
Прыдбаў той пацяроб,
Увесь у пнях, бы ў плехах.

Усё ж — «зямля»! Аб ёй
Ён толькі й сніў, зацята
Ёй трызніў, той зямлёй,
Бяздомнік-арандатар.

Службовец панскі, раб
З цяжкім ярмом на шыі,
Даўно ён марыў, з лап
Вяльможных уцячы як.

Ну й што ж, што навакол
Тут непралазь глухая,
У бураломе дол
Ды заедзь найліхая,

Яму было відно
Скрозь пні ды хмыз той стылы
Ўжо залатое дно
І ў сонцы — бераг мілы.

*

Як карчавалі пні,
Як спіны ў поце гнулі
Дзяды, я ў нашы дні
Не раз чуў ад бабулі.

У доказ мукаў тых
Яна — глядзіце, ўнукі! —
Паказвала ў крутых
Рубцах мазольных рукі.

Зямлю, што дзед прыдбаў,
Што ў пальцах перамацаў,
Ён дзецям перадаў —
Шануйце, нібы маці!..

2

Я — дома. Устаю
Ізноў пад голас пеўняў.
Ізноў дасхочу п’ю
Настоі раніц спеўных.

Тут воля, тут мае
Найсветлыя прычалы.
Увосень высь пяе
Журлівымі ключамі.

Тут, дзе туман з лагоў,
У нашай ціхай хаце
Пад лікамі багоў
Мяне радзіла маці.

Гула ў равах вясна,
Грачыным грала граем…
Была ў той час яна
Такая маладая!

Яе быў свет наўкол.
На ўгрэве гэтак сон цвіў!
Тут з краскамі ў прыпол
Яна збірала сонца.

Дзень, нібы горан, гас
Між стрэх і сліў купчастых.
Тут у высокі час
Сваё спаткала шчасце…

*

Ён, бацька мой, быў сын
Зямлі рабіннай гэтай,
Дажджоў касых, расы,
Жытоў і яснацвету.

У спадчыну, як дар,
Надзел узяў ён дзедаў.
Тут змалку жніва сквар
І цвердзь касільна зведаў.

Тут рукі аж гулі,
Калі ішоў ён з луга.
Прывычныя былі
Яны да цэпа й плуга.

…Ён сёння ўстаў цямком —
Вылежвацца даволі!
Ранюткім жаўруком
Яго ўжо звала поле.

Пад сівізной нябёс
(Дзе ён, вяшчун вясёлы?)
У прыцемку калёс
Затахкацелі колы.

Пад лесам, дзе між хвой
Дубок выглядваў зграбны,
Зраўнянаю раллёй
Чарнеў палетак вабны.

Мой бацька уздзяваў —
Паважна так — сявеньку
І на раллю ступаў:
Час сеяць памаленьку.

І вось хадзе у такт
З рукі — прымай жа, ніва, —
Рой залатых зярнят
Ляцеў немітусліва.

*

Ды толькі ў свеце час
Быў не для працы ціхай.
Сваю сяўбу якраз
Ужо ўсчынала ліха.

Не жытам, не аўсом,
Не ячмянём, не просам —
Жалезам ды свінцом
Зямлю ўсявала ўдосталь.

Ад д’ябальскай сяўбы
Ў палях, на жвіры плёсаў

Раслі, нібы грыбы,
Узрывы да нябёсаў…

Ад любых стрэх, ад ліп,
Ад араллі, ад пашаў,
Нібыта з дрэва ліст,
Гвалтоўна адарваўшы,

У свой шалёны вір
Вайна пад свіст завеяў
Навекі — не заві! —
Ўкруціла хлебасея…

3

За вёску, без сцяжын,
Праз луг, туману поўны,
Далёкі успамін
Мяне павёў у поле.

Во той дубок, той лес —
Нахмураны, маўклівы,
Во — той? — наперарэз
Ляціць каршук лянівы.

А во і бацькаў груд!
След каляі калёснай…
Яго, ратая, тут
І леты ўсе, і вёсны.

Зямлю — ці золь, ці дождж —
Араў сваёй парой ён.
Упоперак і ўдоўж
Абхаджваў з бараною.

Апеты быў з вясны
Ён птушак галасамі.
Тут бацькавыя сны
Ўставалі каласамі…

І вось — недаараў
Палетак, недасеяў.
Самога дол забраў
Яго, душу адвеяў…

Цяпер сама вазьмі
Плуг, удава, аберуч…
Найшчодрымі слязьмі
Паліт ён, груд, без меры!..

Той паваенны час
Мне не забыць ніколі,
Як на сабе не раз
Аралі ўдовы поле.

За плуг, такі цяжкі,
Мяне — кіруй, хлапчына! —
Знямоглыя жанкі
Стаўлялі — як мужчыну.

А самі, пот з вачэй
Змахнуўшы, сцёршы з твараў,
Прыладжалі лаўчэй
К грудзям жардзіну-барак.

— Ну, паганяй! — так мне,
Жартуючы, казалі.
І ўжо — штораз мацней —
Пастромкі напіналі.

Хоць я ледзь даставаў
Яшчэ да плуга ў час той,
Хоць моцна прыставаў
І з ног збіваўся часта,

Ды плуг, як ні пацеў,
Не выпускаў усё-ткі —
Так памагчы хацеў
Жанкам засеяць соткі.

Маёй падмогі той
Было не шмат, вядома.
— Бяжы гуляй з дзятвой, —
У рэшце рэшт, малому,

Казалі мне жанкі —
Ласкава, са спагадай,
І бег я напрасткі
Гуляць з сябрамі, рады.

Я цешыўся гульнёй —
На вуліцы і ў хаце,
Хоць знаў, якой цаной
Хлеб здабывала маці.

Заўсёды, як удоў
Я долю ўспамінаю,
Хоць шмат прайшло гадоў,
Ізноў сябе караю,

Што неяк памагчы
Я ім усё ж не здолеў,
Не змог — хоць як, хоць чым —
Я іх аблегчыць долю…

*

Што ж сёння бачу тут?
Дзе поле? Як жа гэта?
Удзірванеў той груд!
Пустуе сярод лета!

Мо рукі не дайшлі?
Ці ўжо ён нам не трэба?
Мо лішнія палі?
Наеліся ўжо хлеба?

Не, хоць яго й стае
Ва ўсіх нас — еж уволю,
Ды толькі на стале
Не лішні хлеб ніколі.

Дык хто ж палетак мог
Аддаць сіўцам нязводным?
Чаму ж ён сёння лёг
Аблогаю бясплоднай?

Пра гэта ў іншы час
Спытаў я ў брыгадзіра.
— Рук нестае, — ў адказ
Пачуў.— І ўсё тут дзіва!

Рук не хапае, рук…
Іх, хлебаробаў рукі,

Шукайце там, дзе брук,
Дзе джаза перагукі…

Зямля… Чыя ж віна,
Што мачыхай сягоння
Нам сталася яна,
Што сірацеюць гоні?

Як так, што ў час цяжкі
Зямлю пад крыкі кані
Узорвалі жанкі —
Ўсю! — голымі рукамі,

А сёння й з талакой
Падшэфнаю — ці ж гожа? —
Пры тэхніцы такой
Мы абрабіць не можам?

Хто перадаў на здзек
Чыноўнай тлі святое?
Зрабіў зямлю — навек? —
Калгаснай, нічыёю?

4

Ляціць з бярозы ліст…
Як пацішэла ў свеце!
Зрыжэлы, нібы ліс,
Лясок з-за шляху свеціць.

Усюды — лісця рух…
Агонь свой восень сее…
…Нас з маткаю на луг
Пазвала сёння сена.

Скрозь у пракосах лог.
А во й мае, пры грабе.
Ля іх — спрыяй нам Бог —
З плячэй здымаем граблі.

Хвіліну пастаяць
Нам пад смугой нябёсаў.
І вось — пайшлі гуляць
Грабелькі па пакосах.

Адказны сена час!
Адно — за лавай лаву —
Качай тут ды качай
Шархоткую атаву…

Свой дзённы круг прайшло
Ўжо сонца над абшарам —
Чыёсь у вёсцы шкло
Гарыць ім, нібы жарам.

Ужо вунь — след у след —
Ідуць каровы з луга.
За імі наш сусед —
Іван — пляцецца з пугай.

Але, хоць і цячэ
З нас пот салоны градам,
Па лузе ўсё яшчэ
Шчыруюць нашы граблі…

*

Сялянскай працы свет…
Пад небам, дзе аблокі,
Жыў ёю ў змене лет
Мой продак найдалёкі.

Красу мазольных рук
Мы славілі ўсё ж мала —
Ад іх зямля наўкруг
Святляна красавала.

Ці будзе далей так?
Мо я апошні з роду,
Хто знаў той працы смак,
Утомы асалоду.

Хто чуў душой, як рунь
У рост ідзе наўкола,
Як з росамі зару
П’е за сядзібай колас?..

Цяпер і я даўно
Ад поля ўсё ж далёка.

Тут, у сябе, адно
Бываю — так! — наскокам…

Што ж, не сунімеш час!
Ды хлынуць дум лавіны:
Хто ж прыйдзе пасля нас
У светлы край дзяцінны?

Ці скажа хто «люблю»
Яму?
У часу плыні
Мы на каго зямлю
Дзядоў,
Наш свет
Пакінем?

*1980–1986*

# ВОЎЧАЯ ВЫСПА
## *Раман*

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

#### 1

Лес, якому, здавалася, не будзе канца, прыкметна парадзеў, і паміж парэпаных хваёвых камлёў засвіцілася раптам дзіўнаясная чырвань: ці не пажар які запалыхаў уперадзе? Ды не, гэта быў не пажар: там заходзіла сонца. Калі Ігнась прадраўся праз узлесныя кусты крушынніку, перад ім адкрылася нешырокая, прадаўгаватая лугавіна, якая, выгінаючыся, слалася між дзвюма сценкамі лесу ў адзін і ў другі бок. Уся яна была азорана вялікім счырванелым сонцам, што вісела над пацямнелай паласой дальняга лесу ў канцы правага крыла лугавіны.

Куды ж гэта ён выйшаў? На лугавіне зелянеў роўны майскі травастой. Тут, каля лесу, трава была рэдзенькая, чэзлая, дзе-нідзе, нібы зялёныя вожыкі, вытыркаліся стаўбунаватыя купінкі кругляцу. Далей ішла прыземістая мурожная асочка, з якой зіркалі жоўценькія вочкі казяльцу. На другім баку лугавіны цямнеў алешнік, за ім цягнуліся ўверх кучаравыя хвоі ўперамешку з светла-зялёнымі бярозамі. Толькі калі ў левым баку лугавіны, сярод даўгаватай грывы прыкметна буйнейшай асакі вока выхапіла счарнелыя, утаптаныя ў падсохлую ўжо тарфяную гразюку аскабалкі старой грэбелькі, ён як не ўскрыкнуў ад радаснай неспадзеўкі: дык гэта ж Альхоўка! Іхны сенакос! Вунь, у правым кутку, чарнеецца і стары, можа, ужо струхлелы адзёнак, які, здаецца, зусім нядаўна ладзіў ён з бацькам, рыхтуючыся кідаць тут стог.

Няўжо ён дома? За гэтым жа во Альхоўскім лесам — яго родная Воля!

У яго аж падкасіліся ногі ад раптоўнай слабасці. Хіба ж дзіва: за плячыма асталіся тысячы вёрстаў ляснога непралазу, праз які прадзіраўся ён сюды з выклятай Богам Сібіры.

Але ўсё ж такі ён дайшоў! Дайшоў!

З грэбелькі, ведаў Ігнась, шыецца берагам лесу ў яго вёску каляіністая дарога. Ступіць на яе — і менш чым праз гадзіну ты ў сваёй хаце!

Але ісці туды дарогай зусім не выпадала. Ён павінен падысці дадому незаўважна, нікому не пападаючыся на вочы.

Ды яно калі б і напаткаўся яму хто з волеўцаў, дык не толькі не пазнаў бы цяпер Ігнася Караленю, але, убачыўшы, насмерць перапалохаўся б. Такі ён быў страшны: увесь зарос, абкалмаціўся, з-пад зімовай аблезлай шапкі-аблавушкі лезлі на лоб і на вочы даўно нястрыжаныя валасы — дзед дзедам! На ім была абшмуленая, з павыступанымі касмылямі ваты куфайка і такія ж паабдзіраныя ватныя штаны, на нагах — ушчэнт стаптаныя скураныя лапці.

Ён асцярожліва перайшоў па слізкіх папярэчынах грэбелькі лугавіну і — лесам, лесам — пабраўся ў бок вёскі.

Ногі бэрсаліся ў папаратніках ды буячніках, з усіх бакоў яго дзёрлі густыя і надта ж злыя ажыннікі. Але Ігнась як і не чуў іх балючых уколаў. Тут жа былі ўжо ваколіцы роднай Волі, дзе яму мілы кожны кусцік, кожная купінка, кожны грудочак.

Між прысадзістых цёмных елак у вочы кінуліся галінастыя кусты арэшніку — гэта ж тыя самыя, дзе некалі малым вымацваў у густой лістоце шышакі арэхаў. Каб іх дастаць, ён падскокваў, чым вышэй хапаўся за таўставатую, не вельмі падатную галіну і, перабіраючы рукамі, лез уверх, пакуль яна не згіналася так, што яго ногі датыкаліся да зямлі. Трымаючы адной рукой галіну, другой узахапкі рваў ды барзджэй, пакуль пругкая арэшына не вырывалася са здранцвелай рукі, запіхваў у кішэні, за пазуху ці ў палатняную пастуховую торбачку тыя любыя вясковай дзятве лясныя ласункі.

Уперадзе зацямнелася сваёй шырознай кронаю і даўняя Ігнасева знаёмка — незвычайна вялікая, раздвоеная ад сярэдзіны, разгатая хвоя. Малым ён збіраўся пашукаць там гняздо дзікіх галубоў, што выпырхвалі з яе дупла — надта ж рупіла паглядзець яечкі гэтых вуркатлівых, з чысценькім пералівістым апярэннем таямнічых птахаў. Ад гэтай хвоі і ўвесь лес навокал у Волі называлі Разгатая Хвоя.

Хоць у гушчы лесу наўрад ці можна было гэтакай парой з кім спаткацца, усё ж Ігнась стараўся не шамацець кустамі, ісці

ціха: а раптам хто-небудзь затрымаўся ў лесе? Калі наступаў на які сучок, сунімаўся, прыслухоўваўся: ці не пачуў хто?

З гушчарніку Разгатай Хвоі ён вельмі скора выйшаў на гала.

Гэта былі ўжо волеўскія Падзеры! Шырокія лугі-пералогі, спаконвечная паша для кароў і коней і галоўныя сенакосы волеўцаў.

Бязмежная лугавая прастрань Падзераў, што раскінуліся ў паўднёвым ад вёскі баку, вельмі часта ўставала ў Ігнася перад вачыма на мулкіх нарах нявольніцкіх баракаў як відочны вобраз вольнай волі, як нешта вельмі любае і радаснае, як нейкая дарагая страта.

Пасярэдзіне Падзераў далёка цягнулася ўзвышаная града. З прымружанымі хмызнячкамі, з вясёлымі гуртамі лісцёвых дрэў, з мяккім покрывам куп'істага сіўцу ды роўнымі лапінамі шматколернага мурожнага разнатраўя, у якім заўсёды пабумквалі на аблюбаваных лугавых красках калмата-паласатыя чмялі, капашыліся, коратка пабзыкваючы, залётныя пчолы, мільгалі матылі і стракозы.

Падзеры! Няўжо гэта напраўду, а не ў сне іх бачыць ён сёння? Тут жа пад зычнае кігіканне кнігавак і многагалосыя жабіны хоры хадзіў-гуляў ён некалі з касой, зграбаў у летні сквар з усімі дамашнімі і кідаў у стагі пахкае, як чай, мурожнае сена, сустракаў золкія расяныя раніцы і ясную чырвань вячэрніх зарніц.

Тут, у Падзерах, успыхнула было ў школьныя гады і першае Ігнасева каханне.

Волеўская моладзь ганяла сюды на начлег коней. Вадзіў свайго Гнядога і кабылу Машку з гадавалай жаробкай і Ігнась.

Якія гэта былі дзівосныя ночы!

З'язджаліся сюды — кожны на сваім кані — на захадзе сонца. Ігнась, вывеўшы за падворак свайго Гнядога, уздзяваў на яго аброць, моцна браўся за грыву і з маху ўскідваўся яму на спіну. Хлопец кожным разам ганарыўся сам перад сабою, што так спрытна, бы кавалерыст, мог ускокваць на каня. Дагэтуль жа — мо які год назад — ён узбіраўся на яго па-дзіцячы: кідаў перад канём жмут травы і, калі той нагінаўся, каб падабраць яе сваімі тоўстымі рухлівымі губамі, садзіўся задам яму на шыю, конь адразу ўскідваў тады галаву, і сядок — гоп! — апынаўся ў яго наверсе. Паганяючы лейчынай ці якім дубцом перад сабою Машку з жаробкай, Ігнась выкіроўваў коней на начную пасьбу. Але калі і прыганяў, не заўсёды злазіў адразу з свайго слухмянага Гнедкі — хацелася, пакуль яшчэ зусім не сцямнела, хоць

трохі пагарцаваць на ім. Прышпорваў яго сваімі босымі пяткамі, сцёгаў лейцамі ззаду па шырокім конскім крыжы, і конь пускаўся наўгалоп. Ігнась вылятаў на ім на бітую палявую дарогу і віхрам нёсся па ёй — толькі пыл курэў ззаду. Праўда, пасля такой маладзецкай язды, моцнага гоцання на вострым конскім хрыбце ён доўга не мог нідзе прысесці і дні тры хадзіў раскірэчыўшыся.

Начлежнікі спутвалі сваіх коней і пускалі ў лог на траву, а самі падыходзілі пад ранейшае вогнішча на адкрытым, без кустоў грудку — з яго добра была відаць уся паша — і раскладвалі агонь. Каля яго і круціліся ўсю ноч, тут і спалі на зямлі, падлажыўшы пад бок хто світку, хто прынесеную з дому посцілку. Начлежнічалі больш хлопцы і падлеткі, але былі і маладзіцы ды дзеўкі. А дзе зборы моладзі, там і гульбы, жарты, смех. Ну і заляцанні ды любошчы.

Прыводзіла на начлег свайго адзінага, немаладога ўжо коніка і Авалінчына Ганька. Бацька яе, казак-кавалерыст Астап Кавальчук, прыйшоўшы з польскай вайны, сканаў дома ад ран. У мацеры на руках асталіся дзве дачкі — Ганька і зусім маленькая Рэнька. З равесніцай Ганькай Ігнась малым гуляў ва ўсе дзіцячыя гульні — хата ж Кавальчукоў за два двары ад Караленяў. Кожны дзень бачыўся з ёю і калі падрасла. Ды была яму, як і ўсе. Нічога такога Ігнась у ёй не бачыў. Вельмі кідалася ў вочы яе рабаціннe. Ім быў абсыпаны не толькі твар і носік — як у таго драздзіка, але і рукі. Можа, і ўсё цела яе было ў рабаціннi? Калі яна была малая, у яе пыталіся:

— Ты, мусіць, ластаўчына гняздо спарола, Ганька, што гэтакая рабенькая?

— Не, — адказвала дзяўчынка, — я не спорвала. Мама казала, што гэта ад цукру. Але я больш не буду ў яго лазіць.

Пры начлежніцкім агні Ганька па дзіцячай звычцы прыстройвалася з посцілкай каля Ігнася, стрыманага, ніколі не кплівага. Але яму было ўсё роўна, ці гэта яна каля яго сядзіць або спіць, ці хто з хлопцаў.

Ды раптам усё змянілася. У госці да волеўскіх сваякоў прыехаў з Гомеля ўжо сталы хлопец, кавалер, рослы, з чарнявым кучаравым чубам, што фарсіста выбіваўся з казыркастай форменнай шапкі — ці то пагранічнікавай, ці то лясніцкай. Звалі яго Іван. Казалі, быў ён нібыта артыстам нейкага тэатра. Гэта відаць было і з яго паводзінаў. Ён здзіўляў усіх нязвычнай для волеўскіх хлопцаў разухабістасцю ды нахабствам. Ігнася ўразіла было, як гэты артыст, калі волеўскія хлопцы і дзяўчаты, пабраўшыся за рукі, ішлі з песнямі вуліцай, бесцырымонна

ўклініўся ў іх сплёт і адразу ж, стараючыся ўсіх перакрычаць, голасна падхапіў нейкую песню. Сам Ігнась яшчэ не асмельваўся тады хадзіць з дзеўкамі «пад ручкі», нават у гурце. А гэты, бач, і знаць не знаў ніякага сораму.

І от той гомельскі артыст пачаў праводзіць з гулянак дадому яе, Ганьку, — не глядзеў на яе рабаціння. Ідучы раз вечарам па вуліцы, Ігнась заўважыў Ганьку каля яе варотцаў з гэтым прыезджым кавалерам — той трымаў дзяўчыну за абедзве рукі. Ігнася тады як варам усяго абліло.

Чубаты хлопец з Гомеля нібы адкрыў яму вочы на Ганьку. Прыглядаючыся на яе пасля гэтага, Ігнась убачыў, што Ганька, аказваецца, была вельмі мілавідная, вельмі гожая дзяўчына — карыя, з нейкай таямнічасцю вочы, светлыя шаўкавістыя валасы, заплеценыя ў таўставатыя косы з ружовымі банцікамі на канцах, як бы вільготныя, трошачкі прыадкрытыя губы маглі завабіць любога. Здаецца, упершыню ўбачыў Ігнась і два зманлівыя набухлыя ўзгорачкі грудзей пад тонкім кужалем яе сукенкі і чырвонымі ўзорамі вышыўкі. Цікава, што і вяснушачкі на твары здаліся ўжо Ігнасю мілымі і прывабнымі.

Гомельскі хлопец, як было відаць, настойліва абхаджваў Ганьку. От і на начлег у Падзеры прыджгаў з коньмі сваякоў. Ясна, дзеля яе. Ігнась тады пазнавата прыгнаў сваіх коней. Калі, пусціўшы іх на пашу, падышоў пад агонь, Ганькі там не ўбачыў — ляжала толькі на сваім месцы яе клятчастая посцілка. Не было відаць і Артыста (так ужо звалі прыбыша з Гомеля), хоць Ігнась бачыў, як ён сюды выпраўляўся. Начлежнікі забаўляліся каля агню, хлопцы лавілі жартам дзяўчат, каб укінуць у агонь. Аднаму Ігнасю было не да гуляў. Апаныла стаяў ён каля агню ды адчужана падварушваў палкай галавешкі. Яму ўяўлялася, як пасярод гэтай ціхай, з рэдкімі зорачкамі на воблачным небе летняй ночы, па сіўцах ды мурагах Падзераў, дзе ўсюды панастаўляны стагі духмянага, яшчэ зеленаватага сена, спрактыкавана ашчаперыўшы за плечы, вядзе яго Ганьку той чубаты спрытнюга, і ў Ігнася на душы шкрэблі кошкі.

Але мучыўся Ігнась не доўга. Скора Ганька выскачыла з цемрыва пад агонь. Адна. Спатыкаючыся, падбегла пад Ігнася, прыхінулася да яго пляча, горача зашаптала:

— Абарані мяне, Ігнаська…

Яна ўся дрыжала. Дрыжала не ад холаду, хоць была ў лёгкай сіняй жакетцы, накінутай паверх яшчэ больш лёгкай сукенкі, а ад нейкага перапуду. Ігнась мімаволі сціснуў палку, якой падварушваў вуголле, азірнуўся. Ды ў тым баку, адкуль прыбегла

Ганька, нікога не было відаць. Толькі праз хвілін пятнаццаць выступіў з чарнаты ночы і яе праважаты.

— Я не буду больш гуляць з гэтым грубіянам. З табой хачу быць, Ігнась, — казала Ганька, мацней ціснучыся да яго.

Артыст жа, як толькі паявіўся, з ходу пусціўся ў скокі, якія з перапынкамі ладзілі каля агню «пад язык» начлежнікі, пачаў выбрыкваць розныя выкрунтасы, высока ўскідаючы ногі.

Назаўтра, трымаючыся каля Ігнася, Ганька папрасіла яго:

— Ігнась, я, мусіць, кепска спутала свайго Сіўку. Можа б, ты памог мне яго перапутаць?

З радасцю пайшоў ён тады памагчы Ганьцы.

Хоць Сіўка мог бы хадзіць і так, як спутала яго Ганька, але Ігнась узяўся яго перапутваць: усё ж блізкавата сцягнула яна каню ногі, хай будзе яму слабадней.

Калі развязваў пута, пачуў шчакой яе валасы — яна таксама схілілася каля яго. Гэты лёгкі дотык Ганьчыных валасоў пранізаў яго, як токам, аддаўся ўсярэдзіне гарачай хваляй любасці да яе. Ён знарок марудзіў з перапутваннем каня, каб даўжэй казыталіся аб шчаку яе мяккія кудзеркі.

А як ішлі назад, ён упершыню ўзяў Ганьку за руку, і яна, надзіва, не аднімала яе. Ён асцярожна, нясмела перабіраў, пагладжваючы, яе тонкія даверлівыя пальчыкі, і ў яго душу ліліся рэкі нязнанай яшчэ пяшчоты.

— Давай яшчэ пагуляем, — падыходзячы пад агонь, сказала Ганька нейкім надта мілым, ласкавым голасам. — Вельмі сёння тут хораша…

І праўда — вельмі слаўна было тады ў травяных Падзерах. Сцішыўшы ўсе дзённыя гукі, там гаспадарыла ноч. На высокім небе, то заплываючы за цёмныя аблачыны, то выбіваючыся з іх у прагаліны, слізгаў ясны чаўначок месяца. На фоне неба чарнелі кусты і дрэвы, а між імі ясна вырысоўваліся сілуэты волеўскіх коней. Чуваць было, як яны ціха пафырквалі, ходзячы па ядкой мурожнай траве.

Ігнась з Ганькай доўга хадзілі тады па грудка́х і лагах Падзераў, слухаючы ноч, а ў ёй меладычныя, ніколі не дакучлівыя рулады салаўёў, што проста заліваліся ў арэшніках ды вербалозах.

Каля нізкаватага балоцістага хвойнічку, што падступаў пад груд, над самымі іхнымі галовамі махнулася раптам нейкая цёмная птушка.

— Вой, што гэта? — прыкрываючы рукой галаву, спалохана прытулілася да Ігнася Ганька.

— Гэта кажан, не бойся.

— Кажан? Няўжо ён? Я чула, што, калі кажан сядзе каму на галаву, той перастане расці, скажанее.

— Гэта байкі.

Птушка чамусьці вярнулася зноў, праляцела перад самымі іхнымі тварамі — нібы хацела пацікавіцца, хто гэта тут расхаджвае поначы. Добра відаць былі яе доўгія вострыя крылы.

— Не, гэта не кажан, Ганька, я падмануў цябе. Гэта ляляк: бач, які вялікі. У Расеі яго завуць яшчэ казадой.

— Што, ён доіць коз?

— Хто яго ведае. Мусіць, ізноў людскія выдумкі.

З таго разу Ігнась з нецярпеннем чакаў кожнага вечара, каб пагнаць на начлег коней і сустрэцца з Ганькай. І вельмі засмучаўся, хадзіў, як у ваду апушчаны, калі там яе не заставаў: маці не заўсёды выпраўляла дачку пасвіць уночы іхнага Сіўку. Калі ж Ганька паяўлялася каля начлежнага агню, Ігнась проста расцвітаў душой. Дзяўчына ахвотна ішла тады з ім блукаць па ціхіх лугавых прасторах Падзераў.

Ім не замінаў ужо і гомельскі зух: паехаў у свой Гомель. Адно толькі шкодзіла Ігнасю: яго сарамлівасць. Сплючы дома ў пасцелі, ён толькі і сніў сваю Ганьку, а ў снах так горача, так смела абдымаў яе, прытуляў да грудзей, цалаваў і мілаваў. Калі ж, ходзячы па мурожных долах Падзераў пад цёмным, у зорах небам, ён аставаўся з ёй сам-насам, яго нібы нешта скоўвала. Гаварыць то ён гаварыў з ёю, але, як і раней, толькі пра ўсё звычайнае. Калі ж хацеў выказаць тое, што ў яго на душы, якая была перапоўнена ёю, сказаць, што ён любіць яе, тут язык яго нібы заклінівала, ён рабіўся цяжкі, як камень, і непаваротлівы, як калода.

Памагла Ігнасю навальніца. У небе пагрымлівала яшчэ звечара, на яго пацямнелым заходнім схіле ўспыхвалі і тут жа гаслі далёкія бліскавіцы. Ноч была цёплая, і Ігнась з Ганькай пайшлі ад агню пад яе цёмны полаг. Яны былі ўжо каля далёкай, акаймаванай кусцістым дубнячком лагчыны, як з захаду насунулася з грымотамі і маланкамі, заняўшы паўнеба, чорная хмара. Калі ж лінуў дождж, яны пабеглі пад бліжэйшы малады дубок. Але доўга не стаялі пад яго шумлівым густалістым шатром: ад ліўня не вельмі і пад ім схаваешся. Адтуль рвануліся да недалёкага стога, які высвеціла маланка. Ігнась борзда разгроб з падветранага боку сена, і яны ўкінуліся ў зацішны, зусім сухенькі схоў.

Цяпер Ганька апынулася ў Ігнасевых абдымках. На яго радасць, яна не толькі не вызваляла сваіх плячэй ад ягоных рук,

а сама абняла Ігнася, яшчэ шчыльней тулячыся да яго ўсім сваім гарачым целам. Губы іх самі сабой зліліся ў шчаслівым пацалунку.

Кругом бушавала навальніца. Лівень быў такі буйны і шумны, што, здавалася, само неба абрынулася на зямлю. Адна за адной бліскалі, асвятляючы да драбніц лугавую прастору, вогненныя пугі маланак, ні на мінуту не сціхалі грымоты. Часам гром ляскаў так блізка, так аглушальна, што Ганька ўся сціналася на Ігнасевых грудзях ад страху.

Пасля гэтай бурнай начной навальніцы яны нібы нарадзіліся нанава. Цяпер нават хвіліны не маглі быць адно без аднаго, шукалі любой нагоды, каб сустрэцца. Ад Ганьчынага шчырага, зусім цнатлівага кахання ў Ігнася нібы выраслі за спіной крылы. Свет зрабіўся шырокі і радасны.

Невядома, чым бы ўсё кончылася, калі б Ганьчына маці, якой усё цяжэй было адной упраўляцца на сваёй невялікай гаспадарцы, не змушана была выехаць з дзецьмі да сваіх бацькоў недзе аж пад Смаленск.

Калі Ігнась успамінае той апошні развітальны вечар каля яе варотцаў, ён і праз гады чуе на сваёй шчацэ казытлівыя Ганьчыны слёзы, якіх яна ніяк не магла стрымаць, павіснуўшы ў яго на шыі. Ды і яму нешта цвёрдае сціснула было тады горла.

З таго часу яны ўжо ніколі не сустрэліся: мусіць, так было напісана ў іх на раду. Развітаўшыся з Ганькай, Ігнась нібы назаўсёды развітаўся і са сваім юнацтвам. Ім жа абаім было тады ўсяго па якіх сямнаццаць гадоў. Ад Ганькі астаўся ў Ігнася толькі светлы ўспамін, ад якога заўсёды рабілася цёпла і хораша на душы.

Уцягнуты потым у жорсткі вір падзеяў, гвалтоўна адарваны ад роднай зямлі, Ігнась ужо не спадзяваўся, што калі-небудзь ізноў убачыць свае Падзеры, з якімі звязана ў яго гэтулькі светлага і дарагога. І от яны — перад вачыма.

У такія майскія дні звычайна і пасля заходу сонца яшчэ доўга стаіць на зямлі шырокая яснасць. Асабліва на такой адкрытай, амаль бязлесай прастрані, як Падзеры. Над імі ўсё яшчэ свяціла азоранае неба.

Ігнась пастаяў у беразе лесу, прыслухаўся. Цішыня. Ні пафырквання коней, ні людскіх галасоў не ўлоўлівала вуха. Можа, пры калгасах перасталі ўжо вадзіць на начлег коней?

Хілячыся бліжэй да хмызняку, ён пайшоў травяным грудам. Ды раптам аж прысеў ад неспадзеўкі: за лазовымі кустамі, у куртатым дубнячку зашабуршэла пад кімсьці сухое леташняе

лісце! На фоне непацямнелага яшчэ неба вока выхапіла і чорную чалавечую постаць! Ігнась уцягнуў галаву ў плечы, прынік да зямлі, увесь сцяўся між травяных купін. Няўжо хто яго змеціў? Што рабіць? Уцякаць? А калі той нехта (ён жа, мусіць, з волеўцаў, з сваіх) пусціцца яго даганяць? Як злодзея? Ды і дагоніць, стомленага, знясіленага. Тады ўсё прапала! Мігам разнясецца вестка, што вярнуўся Ігнась Караленя, у той жа дзень даляціць яна і да міліцыі. Шабуршэнне мацнела, набліжалася. Трохі заспакойвала толькі тое, што ішло яно не проста на яго, а наўскасяк. Праз якую хвіліну шабуршэла ўжо зусім блізенька — як рукой падаць. Але дзіва: Ігнась нікога там не бачыў! Нібы перад ім праходзіў нехта невідочны, бесцялесны. А гэта яшчэ больш паддавала яму страху. Ды тут раптам у хмызняковым прагалку — і хто б мог падумаць! — выкаціўся, вылузаўшыся з-пад леташняга лісця, цёмны рухавы клубочак. Вожык!

— Ах ты, мой харошы! Мой зямляча! — з палёгкай выдыхнуў Ігнась. — Гэтак напужаць!

«Чалавечая ж постаць», якую ён быў згледзеў, аказалася не чым іншым, як простым ядлоўцам. От што робіць страх!

Ігнась пастаяў з хвіліну перад гэтым мілым, зусім бяскрыўдным звярком, які, не зважаючы на яго, пакручваючы ў бакі сваю чорную востранькую пыску, спакойненька перасек з наколатым на іголкі жухлым дубовым лістком дарогу ў бок густога лазовага куста. Там, мусіць, была яго норка. Ну але, у кожнай жывой істоты ёсць сваё месца на зямлі, свой дом.

Азіраючыся па баках, баючыся, каб і праўда на каго не наткнуцца, Ігнась пабраўся далей. Каля ясеневых кустоў убачыў і знаёмае счарнелае вогнішча — старое вуголле шчыльна ўпляскана дажджамі ў сівы прысак, з бакоў нясмела падступае пад яго рэдзенькая і кволая траўка: мусіць, не надта кідаецца яна расці на пагарэлым. Во і сіўцовае куп'ё, на якім рассцілала некалі сваю посцілку Ганька, а побач умешчваўся і ён, Ігнась. Гэтае вогнішча, гэтае куп'ё — жывы напамін пра тое, што даўно адляцела.

## 2

Ужо была ноч, калі ён, абагнуўшы Падзеры, падышоў да прысядзібнага поля з патрэбнага боку. Падышоў роўным, як калідор, міжраддзем высаджанага гадоў пятнаццаць назад і, здаецца, яшчэ не прарэджанага хвойніку. Суняўся, не адрываючыся ад яго — колкая хваёвая лапка церлася каля вуха.

Уперадзе, за полем, роўным шнурком хат чарнелася яго Воля.

Вёска ўжо спала — нідзе ні агеньчыка. Ці то ад ружаватага ражка месяца, які толькі што ўзышоў і выблытваўся з хваёвага голля, ці то ад рэдкіх зорак, што ляніва паміргвалі паміж белаватых воблакаў, хаты хоць і цьмяна, але праглядваліся ў цемнаце.

Сваю сядзібу ён распазнаў па высокай размашыстай ліпе, што стаяла ад вуліцы. Сама хата злівалася з надворнымі будынкамі ў адзін цёмны сілуэт.

Ён памкнуўся быў ісці да сядзібы проста па полі, але тут жа суняў сябе: яно было нечым засеяна. Падышоў, вырваў каліва. Таўставатая, яшчэ кволенькая сцяблінка з кулачком скручаных лісцікаў — лубін. Адным ім — да папярочнай дарогі ўперадзе — было засеяна поле. Ну але: цяпер няма ўжо тут волеўскіх палос, на якіх хто што хацеў, тое і сеяў. Цяпер гэта — абагуленае, калгаснае поле.

Калі б ён пайшоў наўпрост, маглі б згледзець яго сляды на пульхнай яшчэ глебе. Не, лепш і тут паасцерагацца. Паўзлеснай разорай ён дайшоў да дарогі, што вяла праз поле на загуменне, асцярожна пасунуўся па ёй — цяпер якраз так было менш небяспечна: хто ж на ноч гледзячы пацягнецца сюды з вёскі, яму насустрач?

Гэтай дарогай хадзіў некалі Ігнась у грыбы. Тут, за маладым хвойнікам, тады яшчэ полем, пачыналіся мешаныя волеўскія лясы, у якіх ён ведаў гэтулькі грыбных месцінак! Сюдой ездзіў ён — спярша з бацькам, а потым і адзін — у дровы: як цяпер, чуецца яму рып колаў пад цяжка нагружаным возам, пырханне каня, які, напінаючыся, з усіх жыл цягнуў яго па гэтай во дарозе. Ды ці мала чаго хадзілася і ездзілася сюдой у лес, у свой, волеўскі лес?

Цяпер ён ідзе тут, па сваёй зямлі, крадучыся, як злодзей.

Але ж ён ідзе дадому! Варочаецца ў сваю хату, у якой не быў, здавалася, цэлую вечнасць.

Так, мінулася ўжо нямала часу, калі ў Волю, у хату Караленяў прыйшла тая бяда. Прынесла яе д'ябальская бальшавіцкая задума — пазаганяць сялян у «калекцівы». З гаспадароў зрабіць усіх рабамі.

Доўга супраціўляліся волеўцы гвалту, не спяшаліся здаваць усё нажытае ў агульны кацёл ды ісці ў калгасаўскі «рай», які так распісвалі агітатары. Асабліва не маглі змірыцца людзі з тым, што нехта будзе імі камандаваць, няхай гэты «нехта» разумны-разразумны. Ды ўлада не думала адступацца. Над тымі,

што вельмі ўпарціліся, навісла пагроза раскулачвання. Найперш над самымі моцнымі гаспадарамі.

Баяўся гэтага і Ігнасеў бацька — Сцяпан Караленя. На адно толькі спадзяваўся ён, былы кавалерыст-чырвонаармеец: што возьмуць пад увагу яго заслугі перад уладаю. Ваяваў жа за яе, нават кроў праліў, калі гнялі белагвардзейскі мяцеж пад Псковам, — накульгваў з таго часу на адну нагу, у якой засела куля.

Не, ні на што не паглядзелі: надта ж моцным гаспадаром стаў Сцяпан Караленя, а значыцца, зрабіўся самым першым ворагам той улады, якую абараняў са зброяй у руках.

Выходзіць, віна яго была ў тым, што не ўмеў лайдачыць, што дзень пры дні, ад цямна да цямна не даваў рукам упыну, дбаючы пра гаспадарку, сваю, уласную гаспадарку на выдзеленай яму ўладаю зямлі. Што любіў яе, сваю зямлю, што стараўся гаспадарыць на ёй разумна, з падмогай навукі, скарыстоўваючы парады лепшых аграномаў і вопытных гаспадароў, дзеля чаго выпісваў сабе на дом адмысловы часопіс для сялян, у кніжкі заглядваў.

Вінаваты быў Сцяпан Караленя, што, адгукаючыся на яго шчыраванне, як ні ў кога, радзіла ў яго збажына, расла на лес гледзячы, што больш чым хто намалочваў ён усяго з сваіх палос.

Асаблівая віна яго была тая, што — на сваю пагібель — прыдбаў конную малатарню. Уся Воля везла вазы са снапамі пад Сцяпанава гумно, дзе яна стаяла. Дагэтуль кожны малаціў сваю збажыну цэпам. Бывала, людзі да Каляд гопалі цапамі па распушчаных на таку ў гумне снапах. Усе сілы адбірала ў волеўцаў гэтая работа. А колькі пылу трэба было за ёю папаглытаць! А тут за які дзень, а то і за паўднёўку ўсю сцірту можна было прапусціць праз жалезную пашчу малатарні. Сцяпан нікому не адмаўляў, усім даваў змалаціць сваё. Платы за гэта не ўстанаўліваў. Як людзі плацілі яму, так і добра было. Часцей за ўсё нечым адраблялі: хто жыта ці пшаніцу зжаць памагаў, хто бульбу выкапаць. А то і за дзякуй абмалочваў збажыну волеўцам Сцяпан Караленя. Ды хоць усім на руку была яго малатарня, хоць кожнаму давала вялікую палёгку, хоць нікому не шкодзіла — чым жа тут шкодзіць? — гаспадара за яе аб'явілі начальнікі «міраедам», «эксплуатататарам».

І яшчэ адну вялікую памылку зрабіў Сцяпан Караленя з сынам Ігнасем. Што пабудаваў за вуліцай, напроці сваёй, старой ужо, хаты вялікі, большы чым у каго ў Волі, вельмі адметны дом з часанага бярвення, пад нямецкі вугал. Асабліва калоў зайздроснікам вочы пафарбованы ў чырвонае бляшаны дах, якім

так неабачліва пакрыў Сцяпан Караленя дом: вунь які багатыр, які кулак завёўся ў Волі!

Раскулачваць волеўцаў раённыя ўпаўнаважаныя з міліцыяй прыехалі яснай, хоць і асенняй раніцай. Ведама ж, пачалі з Караленяў — як самых заможных у Волі. Але адначасна загадалі збірацца і яшчэ дзвюм сем'ям. З «кулацкіх» хат жывасілам выпіхвалі і змушалі садзіцца на вазы ўсіх падчыстую — і старых, і малых. На зборы давалі зусім мала часу. Браць з сабой дазвалялася толькі самае патрэбнае. Калі адвозілі «кулакоў», немы крык, плач дзяцей, жаночы лямант і праклёны разлягаліся па ўсёй Волі.

Не абышлося тады і без супраціву. Калі пад'ехалі раскулачваць канцавога Гаўрылу Падаляку і пачалі выturваць з хаты яго сям'ю, гаспадароў сын Антошка кінуўся на міліцыянера з сякерай. Але той паспеў ухіліцца ад яе, а другі міліцыянер з усяго размаху аглушыў хлопца прыкладам сваёй даўгой вінтоўкі, стукнуўшы ў плячо. Хлопца скруцілі, увязалі вяроўкамі і, як мяшок, кінулі на калёсы з клумкамі.

Усё, што тады адбывалася ў Волі і на сядзібе, Ігнасю здавалася нейкім кашмарным сном. Плач, лямант, крыкі так агаломшылі яго, што ён зрабіўся як чужы самому сабе, не ведаў, за што хапацца, што чыніць. У яго трэсліся рукі. Адно ён зразумеў ясна: да іх прыйшла вялікая бяда. На калёсах апынуліся яго бацькі, бабуля Манька (бацькава маці), дзве меншыя за яго сястрычкі Марылька і Алеська і дзевяцігадовы брацік Косцік. Пацягнулі на воз і яго Хрысціну з двума хлопчыкамі-блізняткамі на абедзвюх яе руках — яны былі ў спавітку: усяго тры месяцы як нарадзіліся. Ігнась хацеў абараніць яе, але яго адціснулі прыкладамі вінтовак і самога штурхнулі на калёсы міліцыянеры. Асабліва раз'ятрылася была Ігнасева маці. Кленучы гвалтаўнікоў, яна з усёй сілы адпіхвала іх, не давала садзіць на воз нявестку з двайняткамі. Ёй памагала бабуля і дзве яго сястрычкі. З крыкамі, з галашэннямі наперабой даказвалі раскулачвальнікам, што маленькія дзеткі загінуць у дарозе на холадзе. Ды тыя і слухаць не хацелі.

— Нам приказано забирать и детей — всех!

Падчас гэтага галасу і лямантy ў двор ступіў раённы ўпаўнаважаны — высокі, хударлявы, як жэрдка, чалавек у блішчастай чорнай скуранцы з доўгім наганам пры боку.

— В чем задержка, Филимонов? — строга папытаў ён у старшага з раскулачвальнікаў-міліцыянераў.

Міліцыянераў адказ заглушылі жаночыя галашэнні і зычны дзіцячы плач. Ігнасева маці, убачыўшы ўпаўнаважанага, яшчэ мацней загаласіла і, паказваючы на захутаных у посцілкі маленькіх дзетак на руках у нявесткі, з плачам і енкам пачала ўпрошваць яго не забіраць на немінучую пагібель хаця б дзяцей.

— Ладно, сделаем исключение — оставим мать с младенцами пока дома, — распарадзіўся ўпаўнаважаны. — А всем остальным — на телеги! Да поживее, поживее!..

3

Падышоўшы пад сваю сядзібу, Ігнась і ў цемнаце ўбачыў змены. Найперш — не стала наводшыбе гумна. Нібы яго карова языком злізала. Ясна — перацягнулі разам з малатарняй у калгас. Адтуль, дзе яно стаяла, патыхнула зляжалай цвілой саломай ды перагнілым колішнім сенам. Нешта балючае варухнулася ўсярэдзіне. Бацькава гумно было вялікае, прасторнае, з дваіма дзвярыма. У адной палавіне складалі снапы, у другой — сена. У дзяцінстве ён любіў гуляць тут з суседскімі хлапчукамі: залазілі на самы верх шорсткіх, прапахлых полем сціртаў, дзе з-пад цемнаватага застрэшша ў дзірку ў шчыце — віць, віць! — шмыгалі спужаныя ластаўкі. Паўкруглыя чорныя злепкі іхных гнёздаў на стыку крокваў былі над самай галавой. Рукі так і свярбелі залезці туды і пагладзіць тупадзюбыя рабенькія яечкі. Але калі Ігнась і браў з адно ў пальцы, то заўсёды, пакачаўшы ў далоньцы, асцярожненька клаў назад. І не таму, што баяўся, каб твар і рукі не абсыпала рабаціннем, а проста шкадаваў іх глуміць. Вельмі добра гулялася малым на сене. Гулялі больш у хованкі, рыючы ў ім норы. А хлопцам любіў Ігнась у гумне на сене спаць. Сена туды скідалі самае лепшае, мурожнае, і яно пахла ўсімі зёлкамі і красками волеўскіх ваколіц. Сюды ж прывозілася з поля і канюшына, у якой і пасля сушкі на сонцы не ўся сыходзіла з шабуршных галовак-кветак чырвань. Натузаўшыся за дзень на ворыве ці намарыўшыся на якой іншай рабоце, Ігнась спаў на мяккім і пахкім сене без задніх ног. Раніцай будзіў яго казытлівы прамень сонца, што прабівалася праз шчыліны ў шчыце. Яркія прамяні-палосы пранізвалі ўсё падстрэшша. У іх —мусіць, паднятыя сонцам — скакалі, нібы вечарам машкара на пагоду, ружовыя сянныя пылінкі.

У гумне заўсёды, нават у самы летні сквар, стаяў здаровы халадок. Як люба было прывезці сюды наладаваны жытнімі ці якімі іншымі снапамі і моцна ўціснуты гладкім, аж бліскучым

яловым рублём высозны воз. Пасля моцнага калывання па калдобінах і выбоінах (так і бойся, каб не абярнуцца) ды частага буксавання ў глыбокім пяску палявой дарогі, калі аж рыпелі ад конскай натугі гужы, так лёгенька, нібы нічога і не было на калёсах, каціліся-татахкалі абабітыя жалезнымі шынамі колы па цвердзіні гладкага глінянага току, што ішоў адразу ж ад дзвярэй да задняй сцяны гумна.

Расперазаўшы воз, адкінуўшы ўбок рубель, Ігнась падчэпліваў драўлянымі віламі сноп і ўскідаў наверх, на сцірту. Там яго асцярожна здымаў рукамі бацька і роўненька складаў пададзеныя снапы адзін пры адным. І так пакуль не пусцеў увесь воз. Бацька ж любіў акуратнасць. У гумне кожная збажына — жыта, пшаніца, ячмень, грэчка — займала свой куток, кожная складала сваю сцірту. А ў сцірце сваё месца меў і кожны сноп. Хто можа ў калгасе наводзіць такі лад?

Хлявы ж у двары, здаецца, асталіся: былі ўжо не новыя, калгас на іх не паквапіўся. Але яны маўчалі. Там было глуха. Ні ўздыхаў каровы, ні патупвання коней у стайні, ні тоўхання авечак аб бярвенне сцен, ні парохквання свіней — нічога не ўлоўлівала вуха. Няўжо нічога з жывёлы не пакінулі? Няўжо ўсё вымелі падчыстую?

Можа, і саму Хрысціну выгналі з дому разам з малымі дзецьмі? Ці перабралася ў Пясчанку да мацеры?

Счакаўшы хвіліну, ён асцярожна прасунуў руку праз адмысловую дзірку ў дашчаных варотцах і адапхнуў з сярэдзіны дубовую завалу. Пачуўшы яе глухі стук, недзе каля ганка заварушыўся і забурчаў сабака — здаецца, ён, іхны Босы! У Ігнася адлягло ад душы — значыць, Хрысціна з дзецьмі тут. Сабака ўжо бег пад яго ад ганка. Толькі ці пазнае свайго былога гаспадара? На ўсякі выпадак не расчыняў да канца варотцаў, ціха паклікаў:

— Босы, Босы…

Пачуў. І адразу, відаць, пазнаў яго — ляціць насустрач! Радасна павіскваючы і павільваючы хвастом, кінуўся паўзверх варотцаў яму на грудзі, нават умудрыўся лізнуць вільготным языком у нос.

Ігнась выйшаў з-за варотцаў у двор, прытуліў сабаку, вялікаватага, падобнага да аўчарку, да грудзей і ўткнуўся тварам у яго мяккую рыжаватую поўсць.

— Босы, Босы, родны мой…

Ласкаючы яго і не даючы надта радавацца, Ігнась пайшоў к хаце. Яна цьмяна шарэла ў цемрыве ночы. Збоку, выцягнуўшы

ўверх «шыю», застыў журавель калодзезя. Пры ім на плоце цямнеліся насаджаныя ўверх дном на частаколіны два слоікі. Да раскулачвання, калі дома было малако ад сваіх кароў, тут многа сушылася гэтак і слоікаў, і гладышоў.

А во і ганак. Ён быў крыты, стаяў на чатырох, выштукаваных разьбою, стоўбіках, знізу абіты габлёванымі, пафарбованымі на зялёна дошчачкамі. На ганку, па абодвух яго баках, ішлі лаўкі. На іх добра было пасядзець у вольную хвіліну, палюбавацца на кветкі.

Кветак пры хаце было многа. І самых розных. Вельмі ўпадала за імі маці, хоць і без іх было ў яе клопату пад завязку. Ёй з вялікай ахвотай памагалі Марылька з Алеськай.

Пад вокнамі хаты, колькі помніцца, цвілі чырвоныя і белыя півоні, жоўтыя вяргіні, малінавыя гірляндачкі боцікаў, сіненькія скакункі. Па баках дарожкі, што вяла ад ганка на вуліцу, завіваліся больш нізкарослыя кветкі — разнаколерныя настуркі, флёксы, серабрыстыя канваліі, цёмна-сінія, нібы аксамітныя, касачы. Напроці ганка была невялікая авальная клумба кветак. Там асабліва радавалі ўсіх раней невядомыя ў Волі ярка-пунсовыя цюльпаны — іх аднекуль прывёз бацька. Прыгледзеўшыся, Ігнась заўважыў, што яны і цяпер цвілі на сваім месцы. Толькі ў цемнаце ночы былі чорныя. Як і ўсе кветкі. Добра, не звяла іх Хрысціна, даглядае.

З заміраннем сэрца ступіў ён на першую прыступку ганка, узяўся за халаднаваты бакавы стоўбік, прыслухаўся. Ні гуку. Хрысціна ўжо недзе спіць з дзецьмі. Няўжо ён можа ўсіх іх убачыць? Хлопчыкі ж павырасталі ўжо, бегаюць па хаце, па вуліцы. Усе гэтыя гады ён толькі і думаў пра іх, песціў, папраўдзе песціў мару абняць іх, узяць на рукі, прытуліць да грудзей. Ну, ведама ж, не мог не нудзіцца і па Хрысціне. Не было таго дня, каб не абдымаў яе ў думках, не мілаваў. Пры адным толькі ўспаміне пра яе цяплела на душы.

От толькі ці чакае яго? Ці чакае? Гэтулькі ж прайшло часу. А яна маладая, прыгожая. І ведае, што ён ужо ніколі не вернецца. Вораг народа. Цяпер яна вольная.

Калі пасля шлюбу ён прывёз Хрысціну з Пясчанкі да сябе ў Волю, усе мужчыны на яе заглядаліся. Заглядацца то заглядаліся, але ж пра нейкія там любошчы не маглі і думаць: не было такой моды — чапаць замужніх. Хіба што, можа, толькі ўздыхалі ўпотай. Далей за ўздыханні пайшоў толькі Раман Праташчык. Пасля доўгай службы недзе на флоце ён чамусьці вярнуўся ў

чыне мічмана дадому. Калі паявіўся ў Волі ва ўсім флоцкім — у шапцы-бесказырцы, чорных расклёшаных штанах, высокі, плячысты — усе вясковыя дзеўкі гатовы былі кінуцца яму на шыю. Але таму ўпала ў вока Ігнасева Хрысціна. Не зважаючы на яе замуства, з бычынай просталінейнасцю пачаў ён заляцацца да яе, шукаць з ёй патаемных сустрэч. Прысачыў быў яе раз на сенакосе пры свежай капе сена і адразу ж кінуўся абдымаць. Ды Хрысціна так штурханула тады яго ў грудзі, што паляцеў потырч. Пра гэта яна сама расказала Ігнасю, папрасіўшы толькі не чапаць гэтага тупаватага салдафона. Балазе ён пасля яе рашучага адпору перастаў чапляцца. Ды і пасада яго ўжо не дазваляла такога: нядаўняга мічмана Рамана Праташчыка прызначылі старшынёй сельсавета, цэнтр якога быў у суседнім Залужжы.

Пасля родаў Хрысціна яшчэ больш папрыгажэла. Расцвіла як жанчына. Ігнась не мог і паўдня пабыць без яе: што б дзе ні рабіў, бег дадому, каб скарэй абняць, памагчы ў чым-небудзь. Чуць яе, бачыць — ужо адно гэта было шчасцем. От так — не мог пабыць без жонкі і паўдня, а давялося разлучыцца на доўгія гады.

Тады, дома, вельмі чакала яго з работы і яна. А як цяпер, калі гэтулькі ўцякло вады? Ці не забыла яго? Ігнасю аж горача стала: як яго сустрэне Хрысціна? Можа, яна цяпер не адна? Ад адной гэтай думкі ў яго памуцілася ў вачах.

## 4

Першы раз ён убачыў яе на вечарынцы ў Пясчанцы. Пясчанка — шляхецкі засценак, за шэсць кіламетраў ад Волі. Такая ўжо завядзёнка ўстанавілася ў волеўскай моладзі — хадзіць гуртам на вечарынкі ў суседнія сёлы. Асабліва калі прачувалі ў якім вяселле. Прыходзілі чужыя хлопцы з дзяўчатамі і ў Волю. Калі ў самы разгар скокаў увальваліся яны ўсёй грамадой у школу, якая з дазволу дырэктара прыстасоўвалася вечарамі пад клуб, гарманіст, вітаючы гасцей, аж прыўставаў з крэсла, каб шырэй расцягнуць сваю хромку, і на ўсю моц націскаў на клавішы. Слухмяная гармонь аж захлёбвалася тады ў яго руках. На зазыўны ўсплеск музыкі ніхто ўжо не мог уседзець — усе, і свае, і прышлыя, пускаліся ў круг і да ўпаду кружыліся ў віхурыстым танцы.

У Пясчанцы Ігнась быў тады на вечарынцы першы раз. Клубам там служыла простая хата. Хата была на дзве палавіны. Гаспадыня, адзінокая, ужо немаладая жанчына (звалі яе цётка

Марцiся) спала ў меншай палавіне, а большую, пярэднюю аддавала моладзі для вечарынак.

Пасярэдзіне з бэлькі звісала лямпа, якая добра асвятляла хату-клуб. Пры ўсіх сценах на лавах сядзелі засцянковыя жанчыны — пэўне ж, мацяркі тых хлопцаў і дзяўчат, што там танцавалі: надта ж цікава ім было паназіраць, хто з кім «гуляе», асабліва паглядзець, з кім любяцца іхныя «дзеці». Многія жанчыны трымалі на каленях верхняе адзенне сваіх дочак. А тыя, разагрэўшыся ў танцы, падносілі і кідалі ім пад рукі яшчэ то шалік, то касынку, то якую жакетку. У кутку пры печы на засланым клятчастай посцілкай ложку сядзела, гамонячы з такімі ж пажылымі суседкамі, сама цётка Марцiся. Адтуль добра было паназіраць за ўсім, што робіцца ў хаце.

Ігнасевы хаўруснікі з Волі, як толькі ўвайшлі ў хату, адразу ж пусціліся ў скокі — яны тут ужо не раз бывалі і, як відаць, добра асвойталіся. Ігнась жа стаў пры сцяне недалёка ад дзвярэй і хацеў спярша прыгледзецца да ўсяго. Нікога тут ён не ведаў: волеўцы з пясчанкаўцамі жылі ўсё ж адасоблена, мала дзе сутыкаліся.

— Ты што сцяну падпіраеш? — калі пачаўся новы танец, падышоў пад яго волеўскі сусед, Ігнасеў равеснік Коля Акуліч, маларослы, але жвавы, заўсёды вясёлы. — Думаеш, разваліцца? Ідзі танцуй. Тут людзі простыя — не бойся. Дарма што шляхта. А на пачатак — давай разаб'ём вунь тую пару. — Ён кіўком галавы паказаў на дзвюх паненак, якія, не чакаючы запрашэння хлопцаў, пайшлі кружыцца ў вальсе самі з сабой.

— Ну, давай, — не вельмі рашуча адказаў Ігнась, але ўсё ж ступіў следам за Колем у круг.

Коля, падышоўшы пад дзяўчатак ушчыльную, галантна пакланіўся ім і нават ботамі прыстукнуў.

— Дазвольце!

Паненкі ахвотна расшчапілі рукі і пайшлі танцаваць з хлопцамі.

Рэй у хаце вёў засцянковы музыка — ужо немалады, з залысінамі, але вельмі рухавы нізкаваты таўстун. Ён аж падскокваў на сваім круглым рыплівым крэсле з вытачанай фігурнай спінкай, па-заліхвацку іграючы на новенькім блішчастым баяне. Часам, не перастаючы іграць, ён прыкладаўся да свайго баяна вухам, нібы выслухоўваў, што ў ім там, усярэдзіне, дзеецца. А потым зноў ажыўляўся, зноў хадуном хадзіла пад ім крэсла.

Ігнась, кружачыся ў вальсе з незнаёмай дзяўчынай, не паспеў яшчэ і словам з ёй абмовіцца, як баяніст раптоўна змяніў тон музыкі, устаў з месца і пачаў расхаджваць між танцорамі, паварочваючыся то ў адзін, то ў другі бок і шырока расцягваючы мяхі баяна. Пры гэтым узяўся выдаваць у такт сваёй музыцы вясёлыя прыпеўкі. Яму з месца лоўка падбіваў-падляскваў на пастаўленым між каленяў вялікім турэцкім барабане з меднымі талеркамі паўзверх зусім малады дзяцюк у фарсіста заламанай набок казыркастай кепцы. От баяніст знізіў тон музыкі, размашыста грукнуў аб падлогу падкаваным хромавым ботам і голасна, з прытоптваннем, у поўным суладдзі з сваім баянам пачаў прыпяваць:

Бацька біў мяне абухам…
(«Бух-бух!» — падхапіў барабаншчык.)
Каб не бегаў к маладухам…
(«Бух-бух-бух! Лясь-лясь-лясь!»)
Разляцеўся ўвесь абух…
(«Бух-бух!»)
Я ж лячу да маладух!
(«Бух-бух-бух! Лясь-лясь-лясь! Бух! Лясь!»)

Выцясняючы танцораў, у круг ускочылі самі «маладухі» — дзве бойкія дзеўчынёхі. Прытанцоўваючы ў такт музыцы, яны пачалі выдаваць свае вельмі складныя і смешныя прыпеўкі. Якраз у гэты момант на зазыўныя гукі музыкі ў хату ўвалілася ладнае папаўненне — кампанія пажылых мужчын і жанчын, якія спраўлялі ў некага радзіны і захацелі тут «развеяцца». Адна чырванашчокая, мусіць, разгарачаная гарэлкай мажная жанчына, сарваўшы з галавы хустку і шырока размахваючы ёю, адразу з дзвярэй пусцілася «памагаць» дзеўчынёхам:

Ду-ду-дý! Ду-ду-дý!
Ў мяне цыцкі па пуду.
Хто мне чарку паднясе,
Той за цыцкі патрасе!

Ёй напярэсцігі вырвалася з той жа кампаніі яшчэ адна нізкаватая, у расхрыстанай малінавай жакетцы маладзіца.

Сербіянка, мая мамка,
Не хадзі на вуліцу…

Слухаючы тое, што зробяць з «сербіянкі» хлопцы, калі яна выйдзе на вуліцу, іншыя маладыя дзяўчаткі маглі б згарэць ад сораму і выскачыць за дзверы, але, на Ігнасева здзіўленне, усе толькі весела смяяліся. Зрэшты, што тут такога, падумалася тады яму: усе ж у хаце дарослыя, усе ўсё разумеюць.

Такая разняволенасць была вельмі да душы Ігнасю, унепрыкметку раскавала яго, зняла напружанасць, і ён смялей ужо тут пачуваўся.

З усіх пясчанкаўскіх дзяўчат асабліва кінулася яму тады ў вока адна чарняўка з сінім бантам у праборы валасоў над цемем. Застаяцца на месцы ёй не давалі кавалеры: то адзін, то другі падыходзіў і запрашаў на танец. Кожнаму з іх яна прыязна ўсміхалася і адразу ішла насустрач. Кавалер адной рукой браў яе руку, другую клаў на плечы, прытульваючы да сябе. Кружачыся ў танцы, дзяўчына не пераставала міла ўсміхацца яму, пра нешта перамаўляючыся. Ігнась толькі і шукаў яе вачыма, перад ім так і мільгаў мілы сіні бант.

Каб не здавацца нейкай застыглай муміяй, ён таксама ішоў танцаваць. Абы з кім. Танцуючы з якой-небудзь дзяўчынай, не выпускаў з вачэй і тую гожую і ўсмешлівую чарняўку. Часам апынаўся з ёй у крузе побач, і яна здавалася яшчэ харашэйшай, яшчэ больш вабнай. Ігнась заўважыў, што і яна разы два затрымала на ім позірк сваіх карых вачэй. Але гэта, можа, звычайная цікавасць да новага чалавека, і толькі. Гэтак жа сама, мусіць, можна глянуць і на сцяну.

Калі б Ігнась мог паглядзець на сябе збоку, дык зразумеў бы, што вельмі недаацэньваў сябе як кавалера. Быў ён, як гэта кажуць, статны хлопец і даволі паглядны. У меру высокі, з прыгожай русявай чупрынай, з тонкімі рысамі твару і прамым носам. Бяда толькі, што залішне быў сарамяжлівы, нясмелы. Ён сам гэта ўсведамляў і не мог нічога зрабіць з сабой, мучыўся ад сваёй нерашучасці.

Па сканчэнні аднаго танца Ігнась завёў сваю паненку на месца, а сам адступіў к сцяне. І тут нечакана ўбачыў зусім блізка ад сябе тую гожую чарняўку. Выпадкова ці не перайшла яна з нейкай таварышкай на гэты бок? Можа, не выпадкова? Як бы там ні было, ён не павінен страляць варон! Трэба неяк запрасіць яе на танец. Акурат музыкі зайгралі кадрыль. Ігнась не асмеліўся першы ісці на круг — не надта добра ўмеў яшчэ танцаваць. Думаў счакаць, пакуль хто-небудзь іншы пачне танец. Толькі калі пачала кружыцца першая пара, памкнуўся да дзяўчыны з бантам, якая краем вока, здаецца, убачыла яго парыванне. Ды

позна: яго апярэдзіў пясчанкаўскі хлопец. Ігнась ізноў пайшоў падпіраць плячыма сцяну: з іншымі танцаваць не хацелася.

Пасля кадрылі баяніст голасна выгукнуў:

— Белы вальс!

Палілася плаўная музыка вальса, і дзяўчаты — іх права! — адна за адной пайшлі выбіраць сабе кавалераў. Ігнась нікога не чакаў, таму спакойна стаяў і глядзеў. І тут зусім нечакана перад ім стала яго чарняўка з сінім бантам на галаве!

— Можна?

Яшчэ як можна! Ужо ад аднаго гэтага запрашэння хлопец быў на сёмым небе. Збылося тое, чаго хацеў увесь вечар: ён — твар у твар, грудзі ў грудзі — танцуе з ёй! Яе мілая ручка — у яго руцэ, другая — на плячы. Далонь яго рукі таксама ляжыць на яе худаватых плечыках пад тоненькім шоўкам белай кофтачкі.

— Цябе зваць Ігнась? — неяк вельмі проста папытала яна.

— Ігнась. Але адкуль ты гэта ведаеш? — здзівіўся ён.

— Ведаю, — хітра ўсміхнулася дзяўчына. — І яшчэ ведаю, што ты едзеш вучыцца ў Мінск.

Гэта яшчэ больш здзівіла Ігнася, бо ён асабліва не расказваў нікому, што здаў дакументы для паступлення ў БДУ — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Не расказваў таму, што не ведаў, ці паступіць: яшчэ ж трэба экзамены здаць уступныя.

Ігнасю не адзін раз удалося тады станцаваць з чарнявай пясчанкаўскай дзяўчынай, якая назвалася Хрысцінай. Сардэчная цеплыня да яе перапаўняла хлопца. Пад канец вечарынкі папытаў у Хрысціны, ці можна правесці яе дадому. Дзяўчына не адмовілася.

Яны ішлі пясчанкаўскай вуліцай у вечаровым прыцемку, і Ігнасю — надзіва самому — лёгка і проста гаварылася з Хрысцінай. Такая яна была непасрэдная і адкрытая.

Супыніліся каля яе варотцаў. Варотцы былі акуратныя, са шчыльна збітых дошак, пафарбаваных у цёмна-зялёны колер, з вузкім дашкам наверсе. Упрытык да іх падыходзілі справа такія ж шчыльныя і акуратныя, хоць і не вельмі новыя вароты для ўезду ў двор, таксама пад дашкам.

Злева, за роўненькім частаколам, узвышалася ладная хата, а лепш сказаць дом з шырокімі, цяпер цёмнымі вокнамі (там ужо, пэўне ж, спалі), з драначным дахам. Стаяў ён зусім блізка ад вуліцы, упоперак да яе. Ад варотцаў проста к ганку, што быў акурат пасярэдзіне дома, бегла белаватая, вытаптаная ў траве сцежка. Ганак быў пад такім жа, як і ў Караленяў, двухскатным дашкам, таксама з лаўкамі па баках, але адкрыты. Замест сценак

віліся па нацягнутых зверху тонкіх вяровачках нейкія павойныя расліны.

Хрысціна падзякавала Ігнасю, што правёў, і адразу ж падала руку на развітанне. Але ён затрымаў яе цёплую ручку ў сваёй руцэ і папрасіў не спяшацца — яму край не хацелася расставацца з дзяўчынай. Яна паслухала яго, але пастаяла з ім так — рука ў руку — не доўга.

— Мне трэба ісці: мама будзе крычаць — позна ж ужо. І табе далёка дадому. Як ты зойдзеш цёмначы? Ды па лесе?

Развітваючыся, Ігнась памкнуўся абняць яе і пацалаваць у губы, але яна, смеючыся і нагінаючы ніжэй галаву, вылузалася ад хлопца і слізганула ў варотцы.

Ужо зусім сцямнела, калі ён адыходзіў ад Хрысцінінага двара. Сваім хаўруснікам з Волі загадзя сказаў не чакаць яго, і яны, добра разумеючы сябра, адразу пасля вечарынкі пайшлі дадому. Цяпер ён астаўся адзін.

Дарога з Пясчанкі ў Волю ішла праз поле і лес. Праз ноч. Ды што яму лес, што яму ноч! Калі з ім, у кожнай яго жылцы была яна, Хрысціна! Ад яе свет зрабіўся прасторны і радасны. Ён не чуў пад сабой зямлі, яго нібы неслі над ёю нябачныя крылы. Хацелася пець, галёкаць. Песняй яму стала само імя — Хрысціна. Ён ішоў і бясконца паўтараў: «Хрысцінка… Хрысцінка… Хрысцінка…» Як саму радасць.

Праз тыдзень ён ізноў быў там, на вечарынцы ў пясчанкаўскай хаце-клубе. Увесь вечар танцаваў толькі з ёю. І яна таксама хінулася да Ігнася, не адыходзіла ад яго пасля кожнага танца. Калі яны танцавалі, усе бачылі, як свяціліся іхныя вочы. Ды не ўсім гэта было даспадобы. Ігнась заўважыў, што нешта часцей чым трэба шмыгалі паўз яго пясчанкаўскія хлопцы, а згрудзіўшыся каля дзвярэй, пра нешта гаварылі ціхом, бліскаючы на яго вачыма.

Калі пасля чарговага танца Хрысціна адышлася да сваіх таварышак, а Ігнась стаяў каля сцяны, да яго падышоў невысокі, абсыпаны параздзіранымі вуграмі пясчанкаўскі хлопец, паманіў пальцам:

— Выйдзем на мінутку — трэба пагаварыць.

Нічога не падазраючы, Ігнась выйшаў за ім у двор, дзе пахаджвалі яшчэ пясчанкаўскія хлопцы.

Зусім нечакана нехта збоку ўхапіў яго за плячо і, крута павярнуўшы да сябе, з усяго размаху стукнуў кулаком у твар. Ды так моцна, што Ігнась пачуў на губах нешта ліпкае і салонае — кроў? Другі пясчанкавец балюча ўцяў яму нагцаком у жывот,

і Ігнась аж скурчыўся ад рэзкага болю. Нехта яшчэ пачаў біць яго, біць па чым папала, бязлітасна, не шкадуючы. І ён раптам абмяк, страціў прытомнасць.

Калі расплюшчыў вочы, то ўбачыў над сабой вялікі гурт хлопцаў і дзяўчат, якія абступілі яго з усіх бакоў. Уся вечарынка была тут. Сам ён ляжаў на зямлі, каўнер кашулі, шыя, валасы былі мокрыя. Ага — яго адлівалі. Тут вока — адно вока, бо другое чамусьці зліплася, — выхапіла і твар Хрысціны — яна стаяла над ім з касынкай у руках, ёю, відаць, толькі што выцірала яму твар ад крыві.

Ён памкнуўся ўстаць, але ўсяго працяў такі востры боль, што ён мімаволі зноў апусціўся на зямлю.

Потым… Потым Ігнась апынуўся ў… Хрысцінінай пасцелі. Нібы праз сон бачыў, як яна нахілялася над ім, нацягвала яму пад падбародак посцілку, нешта падносіла. На яго глядзелі яе пяшчотныя, поўныя любасці чыстыя вочы, вырысоўваўся родны мілы тварык.

Назаўтра яго адвезлі ў раённую бальніцу. Толькі калі Ігнася паставілі там на ногі і выпісалі, ён дазнаўся пра ўсё.

У Хрысціны, аказваецца, быў кавалер. Ён і ўстроіў усю гэту калатушу. З рэўнасці.

Ігнась успомніў яго. Быў то паўнаваты хлопец, з падрумяненымі, што ў жанчыны, шчокамі. Ён хоць і не часта, але таксама танцаваў з Хрысцінай. І неяк занадта вольна абыходзіўся з ёю: яго, бок, паненка, ім «занятая». І не баяўся, калі хто са сваіх пясчанкаўскіх хлопцаў браў яе ў танец. «Твой супрацiўнiк — глядзі», — папярэджвалі Ігнася сябры з Волі. Хоць вострай іголкай і калолі недзе ўсярэдзіне гэтыя словы, але Ігнась і не падумаў тады паасцерагацца.

Хрысціна адразу, калі ён паправіўся, сказала яму, што пасля ўсяго і знаць не хоча свайго ружовашчокага кавалера, які ўчыніў такую дурноту, такую гадасць.

Неўзабаве Ігнась паехаў у Мінск здаваць уступныя экзамены. Здаў іх на выдатна, і яго залічылі студэнтам універсітэта.

Перад ад’ездам на вучобу ён цэлую ноч гуляў з Хрысцінай у Пясчанцы. Развіталіся пад раніцу. Калі Ігнась абняў дзяўчыну апошні раз, яна, не хаваючы сваёй трывогі, гледзячы яму ў вочы, папыталася, ці не забудзе яе ў сталіцы: там жа вунь колькі будзе дзяўчат, маладых студэнтачак. «Ніколі!» — горача адказаў ён, цалуючы дзяўчыну, ад якой доўга не мог адарвацца.

Тое, што не паспелі выказаць тады пры сустрэчы, дагаварвалі ўжо ў пісьмах, у якіх шчыра кляліся ў вернасці. Але ва

універсітэце ў яго так павялося, што ён змушаны быў кінуць вучобу. Наважыў назаўсёды вярнуцца дадому, рабіць на зямлі.

Бацька і маці не пярэчылі яму ў гэтым. Яны і самі хацелі, каб сын астаўся пры доме, на гаспадарцы. Балазе работы было тут хоць адбаўляй.

Не пярэчылі бацькі Ігнасю і тады, калі ён зажадаў ажаніцца. З ёй, з Хрысцінай.

Ды не так было ў Хрысцініных. Уперлася маці.

— Ісці замуж у Волю? Не і не! Ён жа рускі, твой кавалер! З мужыкоў! Хто ў нас калі з імі жаніўся? Жаніх у цябе ёсць свой, з палякаў. Як і ты. От і ідзі за яго!

Пра ўсё гэта Ігнась з Хрысцінай раней ужо гаварылі. Хрысціна таксама сумнявалася, ці добра парушаць звычай, даўно ўсталяваную завядзёнку. Ігнась, які чытаў кнігі, расказаў Хрысціне пра вялікую людскую памылку. У Беларусі здаўна прыжыліся дзве веры — праваслаўная і каталіцкая. Праваслаўная лічылася рускай верай, каталіцкая — польскай. Тых, што вызнавалі праваслаўе, называлі рускімі, а католікаў — палякамі. Хоць і тыя, і тыя — ніякія не «рускія» і ніякія не «палякі», а беларусы. А што яна, Хрысціна, — шляхцянка, як і многія ў Пясчанцы, дык цяпер гэта толькі назва. Цяпер усе роўныя, усе земляробы. І хто больш стараецца на зямлі, той і пан.

Ясна растлумачыў ёй Ігнась, цалкам пераканаў яе. А дагэтуль жа думала так, як і маці. Бо і школа-сямігодка, якую яна скончыла, была ў Пясчанцы польская: так дабіліся ад улады засцянкоўцы, перакананыя, што яны — палякі. Хоць ва ўсім засценку ніхто з гэтых «палякаў» і слова польскага не мог вымавіць.

Ды ніякія довады не пераконвалі Хрысцініну матку: не аддам дачку за рускага, за мужыка, і кончана! Калі б жыў бацька, добры, памяркоўны да дзяцей, ён ніколі не глядзеў бы — «рускі» ў дачкі жаніх ці «паляк»: абы чалавек быў. Але бацька даўно недзе зямлю парыць: не вярнуўся дадому з вайны. Пробаваў заступіцца за Хрысціну старэйшы за яе на два гады яшчэ не жанаты брат Адам. Толькі і яго слухаць не хацела маці.

Але і Хрысціна не адступалася ад свайго: кожны вечар бегла на сустрэчу з Ігнасем, да раніцы з ім гуляючы ды мілуючыся. Убачыўшы, што надта далёка пачынае заходзіць іхнае «гулянне», маці нарэшце здалася, дала дазвол на шлюб.

Верхам Ігнасевага шчасця было вяселле. Для вясельнага поезду маладога падабралі лепшых волеўскіх коней, якіх пазапрагалі ў размалёваныя і ўпрыгожаныя разнаколернымі

стужкамі брычкі, срэбрам і золатам пералівалася на жарабкахстаенніках збруя, на адмысловых, аздобленых разьбярамі дугах living рознымі ладамі вызвоньвалі — толькі крані — літыя, таксама з аздобамі мілагучныя званкі.

Ехалі ў Пясчанку з музыкай, з песнямі, якія далёка разлягаліся па наваколлі. На пясчанкаўскай вуліцы маладога не раз перапынялі ўвішныя засцянкоўцы, перагароджваючы дарогу жэрдкамі ды сталамі, сустракаючы яго хлебам-соллю і пад вясёлыя прымаўкі ды жарты здзіраючы «заслужаны» выкуп.

Перад дваром маладой фурманы сунялі разгарачаных коней вясельнага поезду. Гаманкая вясёлая дружына маладога адразу ж высыпала з брычак. Музыкі, таксама павыскакваўшы са свайго воза, сталі каля варот паўколам і грымнулі прывітальную. Аж захліпалася ў руках гарманіста галасістая хромка, таненька пілікала-старалася скрыпка, зычна галасіў, беручы за жывое, доўгі блішчасты кларнет, як шалёны, трося, рассыпаючы звон сваіх шамкоў, бубен. Не перастаючы іграць, музыкі рушылі ў насцеж расчыненыя перад імі вароты. З імі пайшлі, голасна спяваючы ў такт музыцы ды прытанцоўваючы, і госці ад маладога. А з двара ім насустрач ляцела ўжо развясёлая музыка ад маладой, бухкаў, падляскваючы меднымі талеркамі, барабан. Здавалася, нежывога падняло б тое ўрачыстае рознагалосае гранне.

У дзвярах сустракалі маладога з сватам поўнымі чарачкамі на падносе родныя маладой, а калі Ігнась пераступаў парог, маці маладой, Хрысцініна маці, што раней так працівілася шлюбу, з добрай усмешкай запрашала яго ў хату, даючы пры гэтым пакаштаваць з драўлянай місы найсвяжэйшага грачнёвага мёду, зачарпнуўшы яго таксама драўлянай лыжкай, — каб соладка жылося маладому з маладой, Ігнасю з Хрысцінай.

Усё вяселле з даўно заведзенымі абходзінамі, з вясёлай музыкай і галасістымі спевамі падпітых жанок і дзяўчат, зваліхвацкімі скокамі і прыпеўкамі, з віншаваннямі, з зычлівымі жартамі і дзяльбой караваю зводзілася да аднаго: каб быў моцны шлюб, каб у любасці і шчасці жыла і множылася новая сям’я. Вясельнікі, блізкія і родныя маладых, нібы бласлаўлялі іх на сумеснае жыццё, на добры быт, адганяючы злыя духі. Тым жа самым адкідаўся як нешта лішняе і даўнейшы звычай жаніцца толькі з аднаверцамі. Два роды з рознымі верамі добраахвотна паяднoўваліся паміж сабой любоўю і зычлівасцю, утвараючы сваю малую, але моцную унію.

Ігнась праз усё вяселле побач з сабой, локаць аб локаць, чуў Хрысціну, такую любую, такую чароўную, амаль незямную

ў раскошным вясельным убранні. Ён бачыў, як іскрыліся непадробным шчасцем яе вочы, калі глядзела на яго, і яму яшчэ больш радасна і цёпла рабілася на душы. Здавалася, ён узносіўся на нябачных хвалях у нейкія дзівосныя завоблачныя вышыні. Часам не верыў, што ўсё гэта наяве, што так проста спраўдзілася яго самая вялікая мара.

А які ён быў шчаслівы, калі Хрысціна апынулася ў яго роднай хаце, калі пасля вяселля як паўнапраўная ўвайшла ў сям'ю Караленяў. Усе — і яго маці, і бацька, і бабуля, і дзве маладзейшыя сястрычкі, і брацік Косцік — прынялі яе як сваю.

Маладым адвялі асобны пакойчык у хаце: яго загадзя зладзілі бацька з Ігнасем, адгарадзіўшы ад святліцы дошкамі і акуратна абклеіўшы шпалерамі. Гэта было часовае жытло для маладых. Новы дом тады сама будаваўся.

Не было канца радасці маладажонаў, калі яны зразумелі, што ў іх будзе дзіця. Радасць іх падвоілася, як Хрысціна ўзяла ды нарадзіла аж двух хлопчыкаў-блізнятак.

Не мог наглядзецца ды нацешыцца сынкамі Ігнась. Кожны раз, прыйшоўшы з поля ці лугу дадому, найперш бег да іх — як жа яны? А колькі ўцехі было ў яго і ў Хрысціны, калі хлопчыкі на іх прыцмокванні пачалі ўсміхацца!

І от акурат у гэты час увалілася ў хату Караленяў тая бяда.

## 5

Ігнась падышоў пад акно, дзе павінна была спаць Хрысціна. Ціхенька пастукаў костачкай сярэдняга пальца ў шыбу, прыслухаўся: ні гуку. Моцна стукаць баяўся: адно — каб не пачулі суседзі, а другое — каб не напалохаць Хрысціну. Пастаяў і, паглядзеўшы на цьмяныя хаты суседзяў, якія, відаць, усе ўжо спалі, яшчэ два разы, толькі цяпер мацней, стукнуў у раму акна. Пачулася, як скрыпнуў ложак, у хаце матнуўся цень. Хто ж, калі не яна, Хрысціна? Падбегла да акна.

— Хто там? — Ігнась хутчэй здагадаўся, чым пачуў яе голас.

— Гэта я, Хрысціна, Ігнась! — сказаў як можна выразней.

Разабрала праз шыбу яго словы ці не, але махнула рукой у бок сенцаў і сама матлянулася туды. Адчыніла дзверы сянец і ў сполаху адхіснулася назад:

— Вой, хто гэта?

Не дзіва тут было спужацца: гэтакае страшыдла явілася перад ёй у цемрыве ночы.

— Гэта я, Хрысцінка, я — твой Ігнась…

— О, Божа ж мой!..

Няма чаго казаць, як узрушыла, як усхвалявала іх абаіх гэтая сустрэча.

— О, Божа мой, о, Божа мой, о, Божа мой, — толькі і паўтарала Хрысціна, мітусячыся па хаце. Кінулася запальваць лямпу, але ён папрасіў спярша завесіць вокны.

Пры святле запаленай лямпы Хрысціна здалася яму яшчэ больш прывабнай і мілай у сваёй просценькай льняной кашулі, чым раней, была яна гэтакая дамашняя і родная. Памкнуўся прытуліць яе да сябе, каб расцалаваць усю, якая яна ёсць, задушыць у сваіх абдымках, але, успомніўшы, які ён запушчаны, абарваны, брудны, устрымаўся. Хрысціна ж не паглядзела ні на што, кінулася яму на шыю.

Ігнасю не цярпелася ўбачыць і сваіх родных хлопчыкаў. Калі ён сказаў пра гэта Хрысціне, у яе горле раптам нешта захрасла, яна ўткнулася галавой яму ў грудзі і ўся затрэслася ў несуцешным плачы. Плач гэты нядобрым прадчуваннем паласнуў Ігнасю па сэрцы. Ён баяўся нават папытаць, што з імі, адцягваў цяжкі момант.

Калі вывезлі раскулачаную сям'ю Караленяў і Хрысціна асталася адна з дзецьмі, то доўга не магла апомніцца, не ведала, што ёй рабіць, за што ўзяцца. Канфіскавалі тады амаль усю маёмасць «кулака» Каралені. Забралі абодвух коней са збруяй, з усімі санямі і калёсамі, жарабя, абедзвюх кароў з цялушкай, усіх авечак, свіней. Не палавілі толькі курэй. Апрыходавалі толькі што пабудаваны дом пад бляшаным дахам за вуліцай, гумно з малатарняй, збожжа ў засеках, усе калоды пчол. Абрэзалі па вуглы зямлю. Жыві як хочаш. Нават у калгас не прынялі Хрысціну: адроддзе «ворагаў народа». Добра, што хоць памагала маці з братам. Ды нядоўга: іх абклалі «цвёрдым заданнем» — проста драпежным падаткам, якога немагчыма было выплаціць. За гэта яе матку і брата таксама раскулачылі, далі па дзесяць гадоў турмы і недзе вывезлі, адабраўшы хату і ўсю маёмасць. Цяпер Хрысціна асталася зусім без куска хлеба. Дзякуй, не далі памерці з голаду суседзі, а яшчэ Ігнасева цётка, сама галетніца. Ды ці ж можна было вечна жыць на адных падачках? Хто мог доўга ўтрымліваць яе з дзецьмі? Асабліва цяпер, з прыходам калгасаў, калі ўсіх агалілі, зраўнялі з беднякамі. Хрысціна білася як рыба аб лёд. Нехта падказаў ёй падысці да ўпаўнаважанага з вобласці, што прыехаў у волеўскі калгас па нейкай праверцы. Узяла Хрысціна ў абедзве рукі сваіх малых крыкліўцаў і пайшла ў калгасную

кантору, дзе ён адзержаўся. Выслухаўшы Хрысціну, якая ўсё перад ім выклала, упаўнаважаны, паўнаваты, ужо сталы чалавек, крутнуўся на крэсле, павярнуўся да калгасных верхаводаў: «Вы што, звяры?» Прысаромленыя начальнікі адразу прынялі яе ў калгас. Тады яшчэ нешта давалі на працадні. Толькі як іх зарабляць з маленькімі дзеткамі на руках? Прыходзілася браць з сабой на работу. Ды ніякай палёгкі ад калгаснага начальства чакаць няможна было. Наадварот, яно старалася ўсяляк помсціць ёй за тую скаргу. Асабліва як знялі з работы таго ўпаўнаважанага: казалі, пакаралі так за залішняе далікатнічанне з «ворагамі народа», за «мяккацеласць».

У той дзень Хрысціну разам з іншымі волеўскімі жанчынамі паслалі на праполку і прарэджванне калгасных буракоў. Выдзелілі ёй такую ж шырокую паласу-«дзялку», як і ўсім. Як заўсёды, улажыла яна дома ў шыракаватым лубяным корабе сваіх двайнятак, увязала кораб у лясёнку, закінула за плечы і пайшла ў поле. Дзень выдаўся цёплы, сонечны. Разаслала на мяжы складзеную ў дзве столкі цырату, на цыраце разгладзіла добрую коўдрачку, пакарміла дзяцей і, напяваючы ім «ката», паклала спаць. Каб іх не паліла сонца, наламала ў блізкім лесе альховых ды бярозавых галінак, наўтыкала вакол дзіцячага ложа, а сама пайшла к буракам.

Радок за радком праполвала іх, прарэджвала лішнія і складала ўсё ў кучкі. Раз-пораз разгіналася і прыслухоўвалася, ці не прачнуліся яе хлопчыкі. Ды яны і гуку не падавалі: так добра спалася малечы на вольнай волі, пад павевамі лёгкага ветрыку.

Нішто не прадракала бяды. Адкуль яна магла ўзяцца гэтакім спакойным і ціхім днём? Ды бяда прыйшла. Вялікая і непапраўная. Прыйшла адтуль, адкуль зусім не чакалася.

Хрысціна адразу пачула яе ў перапалоханым крыку суседкі-палольшчыцы, які вострым нажом паласнуў па сэрцы:

— Хрысціна, воўк!..

Разагнуўшыся ад буракоў, Хрысціна аслупянела ад жаху: вялікі, нейкі як бы ўзлахмачаны руды воўк бег-куляўся ад загона з нечым белым у зубах! Яе хлопчык! Яе Янка! Ён ляжаў бліжэй ад лесу.

Не помнячы сябе, з немым крыкам пусцілася даганяць ваўка. Усе палольшчыцы таксама кінуліся ад сваіх загонаў ратаваць дзіця. Але дарэмна: воўк мігам ускочыў з ім у лес, прапаў з вачэй. Дарэмна бегалі па лесе ды галёкалі жанчыны, дарэмна кідалася ў самыя густыя хмызнякі, рвучы на сабе валасы, Хрысціна, дарэмна лётала яна, як звар'яцелая, па кустах ды бураломах.

Ваўка і след прастыў. Нічым не маглі памагчы ўжо і волеўскія мужчыны ды маладыя хлопцы і падлеткі, якія паспяшаліся з вёскі. Да самай ночы шнырыла ўся Воля па лесе, шукаючы ваўка з дзіцем. Але папробуй знайдзі яго ў пракаветнай пушчы, якой не было ні канца, ні краю.

І на другі, і на трэці дзень з самай раніцы бегла Хрысціна ў лес, пакінуўшы другога свайго хлопчыка ў суседзяў, абшнарвала ўсе далёкія і блізкія кусты ды лясныя закуткі: можа, кінуў дзе звер яе дзіця? Ды лес глуха маўчаў.

Знясіленая і апанураная, валаклася яна вечарам дадому. Сустракаючыся з людзьмі, моўчкі праходзіла міма: нікога не бачыла, нікога не заўважала. Усе са спагадай глядзелі на прыбітую горам маладую жанчыну: хаця б не звар'яцела.

Звар'яцець не даў другі яе хлопчык Стасік: яго ж трэба было глядзець, карміць, укладваць спаць, суцяшаць, калі плакаў. Увесь свой клопат перанесла цяпер Хрысціна на яго, яшчэ больш трэслася над ім: хаця б з ім усё было добра. Гэта ж цяпер асталася яе адзіная ўцеха.

Пачутае пра Янку было для Ігнася як абухам па галаве. Гэтая жахлівая вестка пра сына яго проста агаломшыла, прыгняла. Прыбіты ёю, Ігнась доўга снаваў па хаце з кута ў кут з апушчанай галавой, не мог супакоіцца.

— Нічога ўжо не паробіш, Ігнаська: так, мусіць, даў Бог, — загаварыла яна, счакаўшы. — Трэба неяк змірыцца з нашым горам. Янкі ж ужо ўсё роўна не вернеш. Будзем гадаваць нашага Стасіка.

Хлопчык сама спаў на сваім ложку ў бакоўцы, калі Хрысціна падвяла пад яго Ігнася. Спаў напалову раскрыўшыся і шырока раскінуўшы рукі. Калі праз расчыненыя дзверы бакоўкі на яго твар упала святло ад лямпы, паварушыўся, памыляў губкамі, нечаму свайму ўсміхнуўся ў сне і, павярнуўшы набок галаву, зноў пачаў роўненька пасапваць носам.

Усёй сваёй істотай Ігнась памкнуўся да сына. Яму так хацелася прыхінуцца да яго, узяць на рукі, моцна прыціснуць да грудзей, панасіць па хаце. Ды не, ён не мог дазволіць сабе гэтага шчасця. Нават і стаяць няможна было доўга перад сынам і глядзець на яго: а раптам прачнецца і ўбачыць бацьку? Адно — што не на жарт перапалохаецца, убачыўшы перад сабой такое калматае страшылішча, а другое — дзе-небудзь ды прагаворыцца пра яго.

І ўсё ж Ігнась не ўстрымаўся, на адыходзе ціхенька прыклаўся губамі да мякенькай і цёпленькай сынавай шчочкі.

## 6

Ужо з самых першых хвілін сустрэчы Хрысціна засыпала была Ігнася роспытамі: як жа там усе свае, куды іх завезлі, як абжыліся на высылцы…

Ігнась толькі хмурнеў ад гэтых роспытаў і ўвесь сцінаўся, нібы ад пякучага болю, а потым выціскаў:

— Не ведаю, Хрысцінка… Нас разлучылі… Нічога добрага… Нічога…

Бачачы, як гэта яму балюча, Хрысціна не падганяла Ігнася: сам раскажа, калі палічыць патрэбным.

Калі першы раз яна ўбачыла яго пры святле лямпы, то проста жахнулася: як ён змяніўся, схуднеў, як глыбока запалі вочы! Запалі і нібы зрабіліся нейкія зусім інакшыя. У іх недзе глыбока на дне застыў вялікі нязбытны боль, выблісквалі сполахі трывогі і страху.

Яго цяпер трэба хоць як-небудзь заспакоіць, прывесці да ладу. Хрысціна пасадзіла яго на зэдлі за кухонным сталом, а сама паспяшалася к печы. Стаўшы на палок, зашабуршэла за комінам смалякамі: туды, колькі ён помніць, заўсёды закідваліся яны сохнуць. Саскочыла з палка, трымаючы на сагнутым локці і прыціскаючы да пляча бярэмца распалу, скінула яго рыўком пляча на прыпек і, перагнуўшыся, склала на подзе печы ў кучку, падпаліла. Сухія трэскі з смалякамі тут жа ўзяліся агнём, патрэскваючы і страляючы ў бакі іскрамі. Паверх распалу Хрысціна паклала некалькі тонкіх хваёвых паленцаў, што ляжалі ўнізе пры печы — іх адразу ж схапіліся лізаць агняныя языкі. Цяпер, калі ўзгарэліся дровы, можна было патушыць лямпу: а раптам хто ўгледзіць тут праз якія шчыліны святло? Нагнуўшы лямпу, Хрысціна хукнула зверху ў вузкую шкляную адтуліну, і хату запоўніў густы змрок. Толькі каля самай печы было больш-менш светла.

Хрысціна махнулася ў бакоўку, накінула нейкую жакетку і выбегла з хаты. Стараючыся не вельмі грукаць дзвярыма, прынесла яшчэ бярэмя колатых бярозавых дроў і, трымаючы іх на левай руцэ, правай пачала па палену закідваць у печ, у самы агонь. Праз хвіліну ўся печ запоўнілася полымем, ружовыя сполахі яго заскакалі па кухонным стале, за якім сядзеў Ігнась, па жаўтаватых, падвыцвілых ужо шпалерах сцяны, жывым жарам заварушыліся, адбіваючыся ў акне — акурат напроці пячнога вусця.

Нязвыкла было Ігнасю сядзець у сваёй хаце ўпоцемку, у гэтых мігатлівых сполахах агню з печы, што кідаліся па хаце

і не толькі не асвятлялі яе, але яшчэ больш адцянялі цемнату. Яны нечым ціснулі на Ігнася, прыгіналі яго, нібы напамінаючы пра яго хісткае, няпэўнае становішча. Хрысціна, адчуваючы гэты яго гнятлівы настрой, увесь час падбадзёрвала Ігнася добрымі словамі, старалася адвесці яго думкі ад усяго благога, ад агульнага для іх гора, адшуквала нейкія прасветліны ў чорных хмарах іхнай невясёлай долі, хоць вельмі мала знаходзіла тых прасветлінак.

Ён з любасцю глядзеў, як яна спрытна ўвіхалася каля печы ў лёгкай сукенцы, якую паспела накінуць паверх кашулі, такая зграбная, з прыкметна пабольшанымі грудзьмі. Яна сустракала яго позірк і ўсміхалася яму той жа па-дзявочы вабнай усмешкай. Толькі гэтая ўсмешка чамусьці хутчэй, чым яму хацелася б, згасала, нечым стрымлівалася, і яна барзджэй бегла зноў уходжвацца. Ну, ведама ж: і яе добра асадзіла ўсё перажытае.

Хрысціна спяшалася накарміць яго, зняможанага і згаладалага. Як толькі загарэлася ў печы, паставіла туды такой знаёмай яму чапялой-ёмкай скаваради з нарэзаным скрылікамі салам, і от яно засквірчэла, аддаючы ні з чым не зраўнаным, такім зваблівым з дзяцінства пахам. Трохі счакаўшы зманліва запыхкалі сярод пацямнелых скварак узбітыя Хрысцінай яйкі. І во яшчэ дымная скаварoдка, зрываючы нос, стала перад ім на стале. Тут жа, пад ручніком, знайшоўся і хлеб. Гэтакі, як некалі пякла маці, а потым і яна, Хрысціна, чорны аржаны хлеб з патрэсканай збоку хрусткай жаўтаватай скарынкай і ледзь прыкметнымі вадзянымі пісягамі зверху — ад вады, якой звычайна апырсквалі яго, калі вымалі на лапаце з печы: каб трохі астудзіць.

Ігнась даўно не еў такой прывычнай змалку, лепшай за любыя прысмакі яды. Там, у няволі, і калі прабіраўся з Сібіры дадому, чаго толькі не даводзілася браць у рот, каб хоць як прыглушыць голад, каб выжыць.

Пaступова Ігнася размарыла, сама сабой пачала хіліцца і падаць на грудзі галава: гэтакі быў стомлены, ды і не помніў, калі спаў. Ён як сядзеў пры сцяне на зэдлі, так і асунуўся на яго за сталом: праваліўся ў сон, як у бездань.

Набліжаўся ўжо дзень, і Хрысціна пайшла шукаць Ігнасю хованку: разумела, што, апроч яе, ніхто ў Волі не павінен пра яго ведаць.

Запаліўшы ліхтар, залезла па пристаўленых у сенцах драбінах на гару, расчысціла ад усякай непатрэбшчыны зацішнае месца ў застрэшку, потым прынесла ў лясёнцы з хлява саломы,

што ляжала там на вышках, акуратна разаслала яе роўным пластом — зрабіла Ігнасю ложа. Другім заходам прынесла пасцель.

Раніцай, прачнуўшыся, ён туды і перабраўся.

7

К вечару Хрысціна напаліла лазню, наліла там у кадзь вады, прынесла звязаны з наламаных на бярозе галінак зялёны, яшчэ з клейкімі лісточкамі венік. Ну і падрыхтавала ў што яму пераадзецца.

Перад тым, як ісці ў лазню, Ігнась папрасіў Хрысціну пастрыгчы яго, зняць усё лішняе валоссе. Яна хоць і не вельмі ўмела, але добра абірычыла яго нажніцамі.

У лазню, як добра сцямнела, як усе ў Волі ўжо спалі, яны пайшлі разам. Там Хрысціна, нібы клапатлівая маці сваё дзіця, узялася вымываць Ігнася. Намыльвала і церла яму галаву, шаравала намыленай мачалкай плечы, спіну, сцёгны. Мыла Ігнася, і ў яе не магло не сціснуцца сэрца: так павытыркалі, сталі аж вострыя ў яго лапаткі, так павыступалі рэбры, якіх раней нават і блізка не заўважала, — хоць іграй на іх, водзячы дзяржаннем драўлянай лыжкі. У Ігнася ж ад яе клапатлівых рук, ад яе пяшчотных дотыкаў разліваліся па ўсім целе цэлыя рэкі раскошы.

Спаць леглі не на сваім ложку ў бакоўцы (каб там яго не ўбачыў, прачнуўшыся, сын), а ў пярэдняй хаце, пры печы, дзе спалі Ігнасевы бацькі.

Калі ляжалі ў пасцелі, Ігнась не мог паверыць, што ўсё гэта праўда, што з ім не ў нейкім дзівосным сне, а напраўду яго Хрысціна, пра якую ўсе гэтыя гады толькі і мроіў, якую толькі бачыў перад вачыма, жаданую і недасяжную, як міраж.

— Раскажы больш, Хрысцінка, як цяпер табе ў калгасе? — калі ўсё абгаварылі, папытаўся Ігнась. — Мо палепшала трохі? Павінны ж быць і тут нейкія зрухі…

— Якія зрухі? — крыва ўсміхнулася Хрысціна. — Зрухі, ды толькі навыварат.

З болем у сэрцы слухаў Ігнась, што расказвала Хрысціна. Кожны дзень, і ў будні, і ў нядзелі, старшыня і яго памагатыя гоняць усіх на работу. З раніцы да вечара ўсім трэба быць у полі ці на сенакосе. Сеяць, садзіць бульбу, палоць, прарэджваць, матычыць гародніну, грэбці, складаць у копы і стагаваць сена, жаць сярпамі жыта ды пшаніцу, браць лён, сушыць, трапаць яго ды ці мала што яшчэ. І ўсё пад наглядам звеннявых, брыгадзіраў і старшыні. Калі якая гаспадыня не паспявае раніцай ўхадзіцца

дома, старшыня нарываецца ў хату, бярэ вядро з вадой і бухае на агонь у печы.

Добра, каб хоць давалі што за штодзённую работу, а то… Звычайна калгас разлічваецца з людзьмі толькі адзін раз на год, увосень, калі ўсё збярэцца з поля. І толькі пасля таго, як здасць нарыхтоўку дзяржаве. Калгаснікам раздаюць тое, што астаецца ад нарыхтоўкі. А астаецца — курам на смех. За цэлы год працы ў калгасе Хрысціне адмералі мяшок жыта, скрыню бульбы і два кашы буракоў. От і жыві тут! Так-сяк выручаюць волеўцаў хіба што прысядзібныя соткі, на якіх можна пакапацца толькі вечарам, пасля нялёгкай калгаснай работы. Няйначай, вярнуўся прыгон. Толькі, можа, яшчэ горшы, чым некалі. Адно, што замест пана цяпер прызначаюць служаку-старшыню, які падбірае брыгадзіраў ды звеннявых — новых прыганятых.

Усе яны парабіліся такімі начальнікамі, так насы пазадзіралі, што і качаргой не дастанеш, не падступішся да іх, каб папрасіць што.

Не вельмі даўно моцна захварэў быў Стасік, увесь гарэў, кідаўся на ложку і крычма крычаў, не сціхаючы.

— Барзджэй вязі да доктара, — раілі ўсе.

Кінулася Хрысціна да старшыні калгаса. Ён якраз ішоў з канторы да свайго вазка пры плоце.

— Няма коней, усе ў рабоце! А мне трэба ехаць забяспечваць здачу сена дзяржаве, — рэзка, з нейкай незразумелай злосцю адказаў ёй старшыня Рабцаў, тут жа скокнуў на скуранное сядзенне свайго вазка і, шлёгнуўшы лейчынай па спіне жарабка, пакаціў па вуліцы.

Хрысціна мусіла браць на рукі хлопчыка і несці ў мястэчка, за блізкі свет. Добра, дактары аказаліся спагадлівыя, адратавалі Стасіка, лекаў далі з сабой.

І адтуль несла яго дадому на руках. От так, трое коней здалі Караленi ў калгас, а ў бальніцу ў мястэчка трэба на руках несці хлопчыка.

А ўзараць соткі, прывезці дроў — ізноў трэба ісці да гэтых фанабэрыстых калгасных начальнікаў, прасіць іх, умольваць, амаль на калені станавіцца, каб не адмовілі. Не тое, як было да калгасаў: хочаш куды ехаць — запрог каня і каці хоць на край свету.

«Гэта ж у калгасе такія самыя парадкі, як і ў сібірскіх лагерах, — прамільгнула ў Ігнасевай галаве думка. — Адна толькі розніца, што людзі ў калгасе жывуць на вольным пасяленні, без калючага дроту».

Апошнімі днямі Хрысціна хадзіла на скапцы — калгасны брыгадзір загадаў жанчынам перабіраць бульбу для сяўбы: увосень скапцы накрылі мокрай саломай, і палавіна бульбы пагніла. Жанчыны садзіліся перад скапцамі і ад ранку да вечара выбіралі з гнілога халоднага месіва здаровыя, хоць і мокрыя, слізкія бульбіны, адкладаючы іх у кашы, каб потым высыпаць у мяшкі. Дні былі яшчэ сцюдзёныя, з халоднымі вятрамі, і Хрысціна не магла браць з сабою на работу Стасіка. Адводзіла яго суседцы — добрай бабцы Настусі, балазе яна глядзела і свайго ўнука.

За калгаснай работай Хрысціна не спраўлялася ўходжвацца на сваёй сядзібе, не паспявала зрабіць усё ў агародчыку і на невялічкіх сотках, якія аддалі ёй загадам таго добрага ўпаўнаважанага з вобласці.

Вельмі трывожылася яна за бульбу. Пад яе Хрысціна адвяла большую палавіну сотак. Пад лапату ўсю не пасадзіш — тут трэба конь. А даваць на гэта калгасных коней праўленне пастанавіла толькі тады, як «адсеецца калгас». А калі ён «адсеецца»? Пасадка бульбы ідзе што мокрае гарыць. Да чэрвеня калгас з ёй не ўправіцца. Значыцца, толькі летам калгаснікі на сваіх сотках могуць укінуць у зямлю тую бульбу. Ці ж паспее яна як трэба вырасці?

Калі бацька быў на вайне, Ігнась, яшчэ падлетак, сам гаспадарыў на сваёй зямлі, сам араў, баранаваў і сеяў. І рабіў усё ў пару. Нават з нецярпеннем чакаў, калі яна настане, тая жаданая пара — любіў гэтую работу. Конь заўсёды быў да паслуг гаспадара: бяры за грыву, уздзявай аброць, запрагай і едзь куды толькі душа пажадае. Бо гэта быў свой конь. Калі надыходзіла пара араць, Ігнась упрагаў яго раніцай у калёсы, ускідаў на іх плуг з баркам і тарахцеў у поле, дробна патрэсваючыся на біле драбінаў. Як нешта самае шчаслівае і радаснае, успамінаецца яму той час. Сонца толькі што выплывала з-за лесу, вялікае і чырвонае, падзалочваючы, а потым неўпрыкметку разганяючы туман, што ўсюды клубіўся з ночы. Пад’ехаўшы да свайго поля, Ігнась распрагаў на яго краі, пры лесе, каня, браў з калёс і прывязваў пастронкамі да гужоў барак, падчэпліваў плуг. Ставіў плуг акурат пасярэдзіне загона, тады браўся за драўляныя тронкі і навязанымі на іх лейцамі лёгенька шлёгаў каня: «Но, кося!» Конь пакорліва ступаў уперад, а Ігнась упускаў плуг у зямлю — і ішла тады слацца па полі, паблісківаючы тлустай чарнатой, першая стужка баразны. За ёй — яшчэ і яшчэ. Яму добра ступалася па гладкім і цвёрдым, як ток, дне баразны, спрактыкаваны конь увесь час ставіў свае капыты па яе краёчку, нікуды не збочваю-

чы, так што Ігнасю заставалася толькі роўна трымаць плуг, каб ён не выслізгваў наверх. Услед па свежай, з лёгкай парай раллі беглі ўпадскок — і дзе толькі браліся — чорныя, як вугаль, гракі: нешта ж там знаходзілі. А ў небе аж заходзіліся ў сваіх спевах жаваранкі, з глыбіні лесу падавала свой няспешны голас зязюля. На ўсёй зямлі былі тады шырыня і воля. Воля і шырыня.

Калі б заставаўся і цяпер у стайні свой конь ды калі б сам Ігнась быў вольны, ні ад кога не хаваўся, як жа лёгка, з якой ахвотай ён усё ўзараў бы і засеяў! Ён і сам, здаецца, ажыў бы за такой работай, забыў бы ўсё ліхое. І зноў пачуў бы сябе чалавекам.

— Хрысцінка, пакуль я тут, можа, я памог бы табе хоць дзёран той у садзе ўскапаць пад агарод?

— Добра было б, Ігнась, толькі як ты гэта будзеш рабіць — цябе ж убачаць…

— А давай я от цяпер, пакуль не развіднела.

— Выдумаў! Як жа ты будзеш капаць цёмначы?

— Нічога, зямлю ж убачу.

— Не выдумляй абы-што, Ігнась. Што гэта за капанне ўночы?

— А ўсё ж я папробую. Што мне тут валяцца дарэмна? Прынясі толькі рыдлёўку.

— Рыдлёўка каля ганка, злева…

Ноч была не зусім каб цёмная. Хоць неба і ўкрывалі ў вышыні цёмна-сінія хмары, за імі недзе плыў ражок месяца, зрэдку выслізгваючы ў іх разрыве.

Сад Караленяў пачынаўся адразу за глухой сцяной хаты. Ён сама цвіў. Але цвету не было відаць — ён зліваўся з чарнатой ночы. Ігнась толькі мог памацаць пальцамі мяккенькія жывыя суквецці на галінцы яблыні.

Капаць ён узяўся ад вуліцы, трохі ад яе адышоўшыся, — там жа стаялі радком старыя камлюкаватыя ліпы. Рыдлёўка пад ціскам нагі лёгка ўвайшла ў падатную, хоць і густа пераплеценую травяным карэннем зямлю. Перавярнуўшы дзярніну набок, рыдлёўкай намацаў, дзе капнуць далей: вочы гэтага ў цемнаце не распазнавалі. Мацаючы так рыдлёўкай, Ігнась злаўчыўся даволі шпарка ўскопваць уцвярдзелы садовы дзёран. Капаў ён асцярожліва, стараўся не стукнуць рыдлёўкай аб які камень ці жалязяку і ўвесь час вадзіў па баках вачамі ды прыслухоўваўся да кожнага падазронага гуку. Але было ціха. Вёска спала. Толькі зрэдку пабрэхвалі сабакі — мусіць, чулі ў недалёкім лесе ваўка ці ліса.

Капаючы, Ігнась на ўсе грудзі ўдыхаў такі знаёмы, такі родны пах свежай раллі, які пачаў ужо забывацца ў адлучцы і цяпер так добра заспакойваў яго. Вяртаў яму ўпэўненасць у сабе, уліваючы ў душу ціхую радасць ад судакранання з зямлёй.

Ён так заняўся работай, што не адразу заўважыў, як на ўсходзе пасвятлела: ішоў дзень. Але нічога: большую палавіну міжраддзя ў садзе ён усё ж ускапаў.

Калі ішоў пад ганак, здалося, што за варотцамі на прыгуменні матлянуўся нейкі цень. Ён абамлеў: няўжо хто ўбачыў яго? Як на бяду, акурат у гэтую хвіліну з-за хмары выблісну маладзічок, і Ігнася можна было лёгка згледзець. Ён на момант застыў на месцы. Але, як ні прыслухоўваўся, не пачуў, каб нехта там праходзіў. А, яму проста здалося: у страху заўсёды вочы вялікія.

Назаўтра, калі Хрысціна выйшла паглядзець ускапаны агарод, з-за плота выглянула суседка Волька Саракавік, якую празвалі ў сяле Сарока, — такая яна была шустрая і гаманкая: як пачне, сустрэўшыся з кім, лапатаць — не супыніш. Абапёршыся аб матыку, якой нешта матычыла ў сваім агародзе, і папраўляючы тыльным бокам рукі скасабочаную рыжаватую хустку, наставіла на Хрысціну свае зіркатыя вочы на хударлявым твары:

— І калі ета, дзеўка, ты ўправілася падняць гэтакі дзірван? Учора ж ішчэ аблогай ляжаў, здэцца. Ці не сам Бог спускаўся з неба памагчы табе, га?

— Ну але, Бог… — падтрымала жарт Хрысціна, хоць усярэдзіне кальнула трывога.

Калі Хрысціна расказала пра тую гутарку Ігнасю, ён занепакоіўся: каб не разнесла па сяле сваё здзіўленне Сарока.

8

З маленькага акенца ў шчыце хаты, якое ўжо добра працёр пакуллем ад старога павуціння і ўцвярдзелага, аж чорнага ўнізе даўнейшага пылу, Ігнасю відаць было ўсё як на далоні.

За вуліцай перад ім пераліваўся на сонцы густой чырванню бляшанага даху і глядзеў на свет вялікімі вокнамі выштукаваны яго і бацькавымі рукамі вунь які зграбны, на высокім падмурку дом — жывая мара Караленяў, так гвалтоўна ад іх адабраная. За гэтыя гады сцены мала пацямнелі, усё яшчэ выглядалі як новыя, з гладзенькімі рыжаватымі вочкамі сучкоў, на якіх тамсям застылі бурштынавыя кропелькі смалы. Нямецкі вугал яны выструньвалі з бацькам разам, дбайна раўнялі яго пілой і добра наточанымі сякерамі, сцінаючы кожную нават непрыкметную

іншаму воку касабокасць ці выступчык. Бярвенне ачэсвалі таксама ўдвух: адно — бацька, другое — Ігнась. Ён і цяпер пазнаваў у сценах «свае» бярвёны — над кожным жа даводзілася тады доўга гарбець, падганяючы адно пад адно. Калі паклалі апошні вянок і бацька стукнуў у сцяну абухам сваёй сякеры, увесь дом згодна загуў-зазвінеў, што арфа. А калі зусім заканчвалі будоўлю, дык усёй сям'ёй пачыналі прыкідваць, якія ў ім рабіць пакоі, чым і як абстаўляць ды ўхарошваць. Але Каралені не паспелі яшчэ, можна сказаць, нагой ступіць у сваім новым доме, як былі з яго вытураны. Цяпер гэта ўжо чужы дом. І не проста дом: на ім, над уваходнымі дзвярамі, цьмяна паблісквала слюдзяная шыльда з нанесенымі на ёй словамі: «Волеўскі калгасны клуб». Ну, ведама ж, і ўся зямля Караленяў вакол «клуба» і за ім, аж да лесу, іхная валока — ужо калгасаўская. Там, далей, зелянее ўжо чужая збажына — здаецца, жыта.

На вуліцы, трохі лявей ад клуба, гулялі дзеці. Гулялі ў «адкавала-закавала». Пасярэдзіне вуліцы на расколатым напал бярозавым палене была прыкладзена выгладжаная рукамі палка. Каля яе круціўся шчупленькі хлапчучок — «пастух», ён «пасвіў» тую палку. Стараючыся далёка не адбягацца ад яе, малы (адсюль было не пазнаць, чый гэта) кідаўся зазірнуць то за плот, то за куст бэзу ў суседнім агародчыку, то за складзеныя каля плота Есіпа Пінчука і ачэсаныя ўжо калоды — той, мусіць, наважыў перасыпаць сваю падгнілую ў падрубах хату. Адсюль, зверху, Ігнась бачыў, дзе хаваюцца ад «пастуха» каторыя з гулькоў. От адзін хлапчук, здаецца, Есіпаў сын, які стаіўся быў за шулам сваіх варотцаў, высунуўся з-за яго, каб барзджэй падбегчы да палкі і чым далей яе закінуць — хай бы пабегаў «пастух», несучы палку на сваё месца. Але «пастух» змеціў яго.

— Ага, Паўлік! Бачу, бачу!

І, апярэджваючы Паўліка, першы падскочыў да палкі, схапіў і, стукаючы ёю па палене, голасна, каб усе чулі, абвясціў:

— Адкавала-закавала!

Дзеці павыбягалі са сваіх схованак на вуліцу, і «пастух», цяпер ужо былы «пастух», размахнуўшыся, далёка шпурнуў палку ўперад. Пакуль новы «пастух» бег па яе, дзеці, як тыя верабейкі, зноў шухнулі па сваіх патаемных кутках.

Трохі правей ад «клуба», на лаўцы Юркевічаў, убачыў Ігнась старую Настусю з унукам. Хлопчык гуляў з нейкай бляшанкай на горцы жоўтага пяску пры плоце — мусіць, наўмысна для яго насыпаў таго жаўтапеску бацька Іван Юркевіч, добры сусед Караленяў.

Унізе скрыпнулі свае варотцы. Гэта выходзілі на вуліцу Хрысціна з Стасікам — яна прыйшла ўжо з работы і паспела накарміць сына. Прыхінаючы яго да сябе, павяла пад бабку Настусю. Ведала, што яго зверху бачыць бацька: хай палюбуецца на сына. Хрысціна прысела да старой на лаўку, загаманіла з ёй, а Стасік адразу далучыўся да Настусінага ўнука. І от яны, абодва белагаловыя, нешта пачалі ляпіць там з пяску. Ігнась з любасцю глядзеў, як сын заклапочана, трошкі адставіўшы губы, ладзіў нешта з макраватага пяску.

Ужо вечарэла, і Хрысціна доўга не заседжвалася на Юркевічавай лаўцы. Калі ішла назад, зноў узяўшы Стасіка за руку, непрыкметна ўзняла на акенца ў шчыце вочы, па-змоўніцку ўсміхнулася Ігнасю. Ён са свайго гледзішча зноў залюбаваўся ёю: якая яна ўсё ж зграбная ў сваёй простай сукенцы, якая вабная і мілая!

Няўжо не будзе ў яго такога шчасця — вольна хадзіць побач з роднай жонкай і сынам па сваёй зямлі, па двары, па вуліцы, нікога не баючыся? Бачыцца і гаманіць з суседзямі, з усімі волеўцамі, з якімі яшчэ змалку зжыўся, як з роднымі? Разам спраўляць гадавыя святы, вяселлі, радзіны, праводзіць усёй вёскай у апошнюю невясёлую дарогу тых, хто адхадзіў сваё на гэтым свеце?

Нібы застылы, стаяў Ігнась каля акенца, абапёршыся рукой аб грубую, неабгабляваную перакладзіну шчыта, і не спускаў воч з вуліцы, на якой недзе асталіся адбіткі яго дзіцячых босых ног і на якой ён ведаў кожны агародчык, кожную хату.

Нехта з дзяцей апавясціў, што ідуць з поля каровы. І от яны запылілі па вуліцы. Ужо не здалёк, а зблізку, з сваёй верхатуры ўбачыў іх Ігнась. Каровы былі ў Волі самай рознай масці — чырвоныя, белыя, рыжыя, малінавыя, сіваватыя, але не суцэльнай афарбоўкі, а з усякімі плямамі і крапінкамі. Жывы букет, ды і толькі! Раней Ігнась многіх кароў ведаў па мянушцы, распазнаваў, чыіх каторая гаспадароў, бо, калі прыходзіла чарга, быў часта падпаскам у пастуха-найміта.

Каровы ішлі спакойна, здавалася, нават з разуменнем сваёй важнасці, шырока ступаючы па вулічным пяску. Зрэдку каторая сунімалася пасярод вуліцы, адварочвала назад галаву і, лізнуўшы разы два чырванаватым языком па баку, ступала далей, кіруючыся на свае вароты.

Іх там ужо чакалі жанчыны ці хто з дамашніх, каб упусціць у двор. Вунь і суседка Настуся сустрэла сваю чырванаватую, з белымі крапінкамі на баках і спіне Мурашку. Увайшоўшы ў двор, карова сунялася каля калодзезя напроці ганка, абнюхала

таз з бульбянымі лушпайкамі і адвярнулася, пайшла ў адчынены перад ёю хлеў. Трохі счакаўшы, з хаты выйшла старая Настуся з драўлянай даёнкай. За ёй падскокваў і ўнук, круцячы ў руцэ белую алюмініевую конаўку — ну, ведама: папіць цёпленькага, толькі з-пад каровы сырадою.

У Ігнасевага такой раскошы не было: пасля раскулачвання Хрысціна і падумаць не магла, каб займець карову, бо хто ж на яе нарабіў бы сена, хто б адпасваў? Ды і за што яна прыдбала б яе?

Ігнась памкнуўся ўжо адысці ад акенца, як згледзеў на вуліцы вельмі адметную ад усіх волеўцаў постаць. У выцвілай ваеннай гімнасцёрцы, падпяразанай навыпуск шырокім армейскім рэменем з мядзянай спражкай, на якой была выціснута вялікая пяціканцовая зорка з сярпом і молатам пасярэдзіне, у строгай, таксама нібы ваеннай шапцы з аколышам, толькі ўжо без зоркі (такую можна было ўбачыць на партрэтах Кірава і іншых бальшавіцкіх правадыроў), у цёмна-сініх штанах-галіфэ і ў чорных высакаватых ботах ён ішоў узбочнай сцежачкай і, нібы гуляючы, пашлёгваў па халявах дубчыкам. Ці мо шомпалам? Два разы ступіць і — ляп-ляп, ляп-ляп па халявах. Ігнась пазнаў. Гэта быў волеўскі начальнік, калгасаўскі старшыня Рабцаў, які разам з раённымі ўпаўнаважанымі раскулачваў волеўцаў. Не хто іншы, як ён, загадаў быў тады абрэзаць па вуглы зямельны надзел Караленяў, пакінуўшы толькі агародчык ды садок за хатай, і не даваў ніякага ходу Хрысціне — жонцы «ворага народа», пакуль яго не асек абласны ўпаўнаважаны. Рабцава прыслалі сюды арганізоўваць калгасы аднекуль здалёку. Быў ён нібыта з фабрычных рабочых. Калі яго прызначылі тут старшынёй калгаса, то напачатку стараўся хадзіць на работу разам з радавымі калгаснікамі — падаваць ім прыклад «ударнай» працы. Праўда, гэта не заўсёды яму ўдавалася. Калі калгаснікі першы раз выйшлі гуртам касіць, ён таксама пайшоў з імі на сенакос. Але калі далі яму касу, дык не ведаў, як яе і ў руках трымаць. Нават грэбці сена не ўмеў. Адно добра навучыўся — камандаваць. Жыў ён у Волі адзін, заняўшы хату высланых «кулакоў». Недзе ў райцэнтры ў яго заставалася сям'я, да якой ён ездзіў на сваім старшынёўскім вазку, запрэжаным хвацкім, добра дагледжаным жарабком-стаеннікам.

Задоўга да калгасаў быў ён камандзірам чырвонаармейскага «харчатрада», з якім конна шастаў па сёлах і хутарах, выграбаючы з сялянскіх засекаў і вывозячы на ссыпныя пункты «лішкі» збожжа — для «голодающего пролетариата».

У нейкай вёсцы адзін селянін быў закапаў сваё жыта за дваром у яме. Чырвонаармейцам жа, якія ўварваліся да яго ў двор, сказаў, што ў яго нічагуткі няма. Кляўся ў гэтым і бажыўся. Калі ж «харчатрадаўцы», перапароўшы штыкамі ўсю яго сядзібу, урэшце наткнуліся на закапанае, камандзір — сённяшні волеўскі старшыня — выцягнуў з кабуры свой наган і на вачах у дамашніх і вяскоўцаў застрэліў «ашуканца савецкай улады». І гэта быў не адзін такі выпадак. Казалі, ён шмат каго паставіў да сценкі ў сваіх рэйдах па нарыхтоўцы збожжа. Затое не толькі выконваў, але і перавыконваў заданні свайго начальства, за што атрымліваў узнагароды, падвышэнні па службе.

Ідучы па вуліцы, старшыня заглядваў у кожны двор і агародчык — мо для нечага прыкідваў, як хто жыве?

От ён параўняўся з іхнай хатай. Ігнасю здалося, што занадта пільна паўзіраўся ён у двор, нібы шукаючы чаго там вачыма. А калі мінуў хату, за якой быў Караленеў сад, суняўся, падышоў да плота, абапёрся локцямі на штыкеціны і, трохі нават падцягнуўшыся, паглядзеў у глыбіню саду. У Ігнася пахаладала ўсярэдзіне: няўжо зацікавіўся свежаўскапаным між яблынямі агародам?

9

Зноў яны разам у ложку. У хаце — цемень. За акном бакоўкі — чарната ночы. Ціха. Толькі зрэдку брынкне ў акне, мусіць, няшчыльна прыладжаная шыбіна — спрабуе ўскінуцца вецер.

Ігнась заклаў за галаву рукі, утаропіўся ў нябачную столь.

— Сёння пад раніцу пайду адсюль, Хрысцінка. Пакуль не позна.

Хрысціна даўгавата не адказвала. Яна таксама выпрасталася, падцягнула коўдру. Ляжалі, маўчалі.

— Мо пачакай троха — унь ішчэ якія ночы золістыя, — нарэшце азвалася Хрысціна. — Ды і як жа жыцьмеш там, у лесе? А, Ігнась?

— А як тут, Хрысцінка? Цэлымі днямі сядзець на гары? Хавацца ад людзей? Ад сына роднага? Ды ішчэ рукі склаўшы? Нічога не памагчы табе… Лішні рот толькі ў хаце…

— Што рот… Ты ж не чужы, Ігнась. Як-небудзь будзе ўжо…

— Не, Хрысцінка, я пайду. От толькі пасплю ішчэ з табой. Каб успамінаць, якая ты харошая ў мяне… Але не бадзяцца

пайду па лесе. Я пайду шукаць месца, дзе можна будзе нам з табой жыць… Жыць вольна, без калгасаў, без прыганятых…

— Дзе ж ты знойдзеш такое месца, Ігнаська? Усюды ж цяпер калгасы…

— Знайду, Хрысцінка, знайду і забяру туды цябе з Стасікам. Выбаўлю з ярма гэтага. Толькі не зразу…

— Тады не спяшайся так. Мо заўтра хоць пойдзеш? За дзень збяру табе чаго.

— Не знаю…

Ён павярнуўся да яе, прытуліў пад коўдрай, заклаў руку ёй за шыю, даткнуўшыся выгібам локця да цёплых, пяшчотных грудзей, пачаў перабіраць пальцамі яе раскіданыя па падушцы валасы, гладзіць ёй шчокі. Так і заснуў. Ды спаў неспакойна, усё ўскідваўся, варочаўся з боку на бок. Спаў і не спаў. Нарэшце сон яго ўзяў у свае абдымкі. Ігнась як адключыўся ад усяго.

І прыснілася яму, што ён… спіць. Спіць у зоне, абведзенай высокім плотам з калючага дроту і абстаўленай вартавымі вышкамі з вытыркнутымі адтуль рулямі кулямётаў, з лютымі аўчаркамі ўнізе. Спіць ён там наверсе двух’яруснага ложка ў халодным бараку. Спіць адзін. Усіх яго таварышаў па няшчасці нібыта пагналі на работу — валіць у тайзе таўшчэразныя хвоі. Самому яму таксама трэба туды ісці. Але ён не можа падняцца, яго нібы прыкавалі да ложка і ўзвалілі на грудзі і ногі шырокі пляскаты камень. Ігнась сіліцца скінуць яго з сябе, але не можа і паварушыцца. І чуецца яму ўжо злосны сабачы брэх, грукат у дзверы і грозны голас дзяжурнага наглядчыка:

— Эй, отворяй быстрее!

Яго раскатурхала Хрысціна.

— Ігнась, скарэй адзявайся — нехта стукае!

Нейкае імгненне Ігнась не мог зразумець, дзе ён і што тут да чаго. А калі ўцяміў, мігам уздзеў штаны, ускінуў паверх кашулі фрэнч, пхнуў пад яго, пад паху кашулю і джгануў у сенцы. Хрысціна, знарок прамаруджваючы, падышла пад знадворныя дзверы, у якія грукалі невядомыя людзі, не без сполаху папыталася:

— Хто там?

— Милиция! Отворяй, едрёна вошь!

— Зараз, зараз, толькі пайду адзенуся.

— Быстрее! — грымеў голас ад дзвярэй, што хадзілі ходарам і, здавалася, вот-вот выскачаць з прабояў.

Ігнась тым часам скокнуў па драбінах на гару і, стараючыся не грукнуць, падцягнуў іх за сабой, палажыўшы збоку пад стра-

ху. А сам стаў за комінам, прыхінуўшыся да яго цаглін спіной. Павадзіў нагой — знайшоў сякеру. Яе прынёс сюды ў першы ж дзень, калі атайбаваўся тут, на хаце. На ўсякі выпадак. Адсюль, з гары, Ігнасю было чуваць усё, што рабілася ўнізе. На ганку, не перастаючы грукатаць у дзверы, тупалі людзі, чуліся іх галасы. Босы, які спярша кінуўся быў брахаць на прыхадняў, цяпер, пры моцным грукаце ў дзверы, толькі ціхенька павіскваў у сваёй будцы каля ганка: пэўне ж, яго лёгка сцішылі начныя налётнікі прыкладамі вінтовак ды нагцакамі.

От рыпнулі дзверы з хаты ў сенцы — гэта ішла ўпускаць няпрошаных начных гасцей Хрысціна. Адсунула завалу знадворных дзвярэй. Па падлозе сенцаў загрукалі многія боты.

— Баранов, Савельев, осмотрите здесь, — пачуўся той жа ўладны голас, што даносіўся толькі што з-за дзвярэй. — А мы зайдём в дом.

У сенцах забліскала святло ліхтарыкаў, забразгалі закінутыя па кутках старыя бляшаныя вёдры ды міскі, грукнула аб падлогу перавернутая кадушка. У хаце глуха рыпелі пад цяжкімі ботамі маснічыны, ляснулі дзверы шафы — відаць, заглядвалі і туды. Нешта цяжкое (мо ложак ці камоду) соўгалі па падлозе.

Скора шукальнікі выйшлі з хаты ў сенцы. Акурат у гэты ж час, грукнуўшы дзвярыма, з двара зайшоў сюды яшчэ нехта.

— Ну, что там в сараях — есть что подозрительное? — папытаў той жа ўладны голас.

— Ничево не нашли, товарищ капитан.

— А здесь, в сенях?

— Тоже ничево, товарищ капитан.

— Проверить еще чердак, — распарадзіўся капітан. — Есть где-нибудь здесь лестница?

— Да вот не видно нигде.

— Тогда так залезть! Ну, кто более ловкий?

— Может, Лёня Яцевич? Он самый лёгкий и вёрткий.

— А, наш Трэба? Правильно! — згадзіўся капітан. — Только подсобите ему! Ну, давай полезай, Трэба!

— Слушаюсь! Толькі вяроўку мо трэ… надо закинуть за бэльку?

— Бэльку, бэльку. Сам ты бэлька!

Унізе зарагаталі.

— Зачем верёвка, — казаў далей капітан. — И без неё тебя забросим.

Ігнась стаяў за комінам ні жывы ні мёртвы. Усё — папаўся! Папаўся па-дурному. Гэта ж трэба было столькі выцерпець за

ўсе гады няволі, столькі стрываць, з такой цяжкасцю ўцячы, тысячы кіламетраў змераць нагамі, каб во так просценька зноў апынуцца ў драпежных кіпцюрах энкавэдыстаў! Адсюль дарога цяпер толькі адна — тая ж Сібір, калючы дрот лагераў, злосны выскал раз'юшаных аўчарак, гатовых за адну хвіліну разарваць на шматкі, нечалавечыя пагыркванні і маты-праматы азвярэлых канваіраў, вечны голад і холад у краі вечнай мерзлаты, на вечным лесапавале, што адбірае ўсе сілы, усе думкі, усю волю. Не, больш ён нізашто не дасца ў лапы нелюдзям. Ён будзе адбівацца ад іх да канца! Пакуль не заб'юць! Хай лепш смерць. Затое хоць пахаваны будзе ў сваёй зямлі, разам з дзядамі і прадзедамі, разам са сваімі і ўсімі волеўцамі. Хоць сын з Хрысцінай прыйдуць калі на магілу.

Ён нагнуўся, падняў сякеру, прыставіў тапарышчам уверх — к назе, гатовы ў любую хвіліну ўхапіць сваю зброю, каб адбівацца.

Зусім блізка, справа ад сябе, пачуў сапенне гэтага Яцэвіча-Трэбы. От ён, гоцнуўшыся, пераваліўся цераз верхняе папяproчнае бервяно сцяны сюды, на хату, і, стаўшы на ногі, засвяціў па застрэшшы яркім ліхтарыкам. Доўгія кучныя снапкі святла захадзілі па шэрым пяску столі, па негабляваных дошках шчыта з акенцам, па запавуціненым падстрэшшы, выхопліваючы там часаныя, з трэшчынкамі пасярэдзіне, пацямнелыя ад часу кроквы, тонкія, дзе-нідзе яшчэ з рэшткамі кары па баках латы, жоўтую, роўненька выкладзеную — сцяблінка да сцяблінкі — кулявую салому страхі. Во ліхтарык ізноў слізгануў уніз, знайшоў толькі што пакладзеныя збоку драбіны, паволі прайшоў па іх з канца ў канец і назад, адтуль перакінуўся далей і ўрэшце — ну, усё! — высвеціў Ігнасева лежбішча — няроўна разасланы на саломе, пры вытыркнутым бервяне бакавой сцяны стары сяннік са згамтанай і кінутай там старой дзяругай і скручанай світкай. На гэтым лежбішчы больш чым дзе затрымаўся ліхтарык: было ясна Трэбу, хто тут вылежваўся. Стаіць ён — справа ад Ігнася — зусім блізенька: два разы ступіць ці раз скокнуць. Ігнась уціснуўся ў комін, амаль зліўшыся з ім, стаіў дыханне — можа, усё ж не заўважыць, можа, абміне яго? Ды не, не абмінуў. Святляны сноп ліхтарыка ад Ігнасевага лежбішча пераскочыў проста на комін, на яго. Во асвяціў Ігнасевы босыя ногі (не паспеў абуцца), пайшоў па правай калашыне штаноў, па фрэнчы і суняўся на твары, яго правым баку — пачаў гладзіць шчаку, нос, вуха. Ігнась не варушыцца, глядзіць прама, на шчыт з акенцам, і вока не паварочвае ў бок міліцыянера. У галаву нават залятае бязглуздая

думка: можа, той палічыць, што гэта не жывы чалавек стаіўся тут, зліўшыся з комінам, а якая статуя? Чакае Ігнась, не дыхае.

— Эй!.. — пачаў быў ужо звацць сваіх Трэба, ды, заглушаючы яго, адначасова знізу загрымеў злосны голас капітана:

— Ну, что ты, едрёна вошь, стал там, как столб? Есть там кто, Трэба?

Трэбу нібы зарвала нешта. Ён памаўчаў з хвіліну і ўжо нейкім прыкметна пацвярдзелым голасам адказаў:

— Не! Німа нікога! Пуста тут!

Ігнась, які ўжо наважыўся брацца за сякеру, вушам сваім не паверыў: гэты ж Трэба бачыць яго як міленькага!

— Я ўсё агледзеў — злажу! Падтрымайце там, — патушыўшы ліхтарык, гукнуў уніз нябачны ў цемнаце неспадзяваны Ігнасеў выратавальнік і пачаў пашоргваць ужо наскамі ботаў аб бярвёны сцяны. Унізе чуліся галасы тых, хто памагаў яму злазіць.

Калі за міліцыянерамі зачыніліся дзверы сянец і паўз хату затухкалі іх боты, Ігнась асцярожліва падышоў пад сваё акенца ў шчыце. Цьмяныя постаці міліцыянераў з варотцаў пасунуліся вуліцай налева. Там, у аддаленасці, пад ліпамі Міхальчукоў — не вельмі далёкіх адсюль суседзяў — Ігнась змеціў цёмны сілуэт крытай машыны. За яе — мусіць, ззаду былі дзверцы — і пачалі заходзіць міліцыянеры. Скора машына зафыркала і, узвыўшы, папаўзла ў гэты бок вуліцы. Не даязджаючы двара Караленяў, развярнулася і, разагнаўшыся, пагазавала назад. Няўжо такі мінула бяда?

Бачыла машыну і Хрысціна. Счакаўшы, пакуль ад'ехала міліцыя, яна выйшла ў сенцы і ціхенька гукнула Ігнася. Той, усё яшчэ не даючы веры, што выйшаў сухі з вады, апусціў долу драбіны і злез па іх з гары. У яго яшчэ татахкала ў грудзях сэрца і дробна патрэсваліся рукі.

Хрысціна расказала, што міліцэйскі начальнік пабудзіў быў і Стасіка, пачаў распытваць яго, ці быў у хаце бацька. Ды хлопчык нават не зразумеў, што ў яго пытаюць, толькі няўцямна глядзеў пры святле лямпы на незнаёмых дзядзькоў у міліцэйскай форме. Міліцыянеры ўбачылі, што хлопчык не сустракаўся з бацькам. Выходзіць, сын таксама памог яму ўратавацца.

Цяпер Ігнась і не думаў затрымлівацца ў хаце: міліцыя магла вярнуцца ў любую хвіліну. Пэўне ж, ёй недзе паведамілі пра яго ўцёкі з Сібіры, і Ігнасеву хату цяпер не пакінуць у спакоі. Ён адразу ж засабіраўся, каб яшчэ да світання сысці з дому. Хрысціна ўжо не ўгаворвала яго: бачыла, у якой ён небяспецы. Забегала, замітусілася, каб сабраць усё самае патрэбнае.

## 10

Ноч стаяла ціхая, без ветру. У чорным, з рэдкімі воблакамі небе ціхамірна паблісквалі векавечныя зоркі.

Ігнась увайшоў у лес яшчэ зацемна. За спіною, у Волі, спявалі, мусіць, ужо трэція пеўні. Чуць прыкметна пачынала світаць.

Ішоў па знаёмай дарозе, якую ледзьве распазнаваў па трохі святлейшых каляінах і выбітай пасярэдзіне конскімі капытамі сцежачцы. У гэтую пору, каб і хацеў, ані душы на ёй не сустрэнеш.

Адзеты быў ён па-сялянску. У шэрай суконнай світцы (ночы ж яшчэ халодныя), у звычайных палатняных портках. На галаве — даўно не новая шапка, на нагах — толькі ўчора сплеценыя ім самім лапці, праўда, са старога, знойдзенага ў сенцах лыка. У іх толькі і хадзіць па лясах ды балотах. Калі і ўбачаць яго дзе, ён не павінен выклікаць нейкага падазрэння: ідзе звычайны селянін, цяпер — калгаснік, ды і толькі. Адно хіба можа навесці каго на непажаданую думку: яго вялікі заплечны мяшок накшталт вайсковага, толькі значна большы, — унь аж вытыркаецца з-за спіны над галавою. Зладзіў яго для нечага яшчэ бацька. Два брызентавыя жаўта́выя рамяні (мусіць, з вайсковага ранца) вельмі шчыльна прыціскалі мяшок да плячэй. Уперадзе, на грудзях, Ігнась сцягнуў іх вяроўчынай. Вялікія пальцы абедзвюх рук заклаў на грудзях за тыя рамяні і трошкі адцягваў іх уперад — каб мяшок не целяпаўся за плячыма, шчыльна прылягаў да спіны.

Куды ісці, Ігнась ведаў. На Воўчую выспу. Ляжыць яна пасярод самага, мусіць, вялікага на Палессі балота, якое называецца Гіблым, а яшчэ — Чортавым. Калі ён наважыўся вярнуцца з Сібіры дадому, дык думаў якраз пра яе, гэтую выспу, дзе можна надзейна схавацца ад людскога вока.

Воўчую выспу паказаў Ігнасю дзед Базыль, бацькаў бацька, які памёр незадоўга да раскулачвання сям'і. Некалі ён быў замешаны, як сам казаў, у вялікім мяцяжы проці цара. У адным баі казакі разбілі атрад, у якім ваяваў дзед, і яму разам з іншымі ўцалелымі мяцежнікамі ўдалося ўцячы ў лес. Тады і апынуўся з таварышамі на Воўчай выспе, якая ляжала сярод непраходных балот.

Дарогай Ігнасю ішлося лёгка. Дарма, што зрэдчас спатыкаўся ў цемнаце аб хваёвыя карані, якія павыступалі на дарозе. Затое

ногі ў лёгкіх, вельмі ходкіх лапцях добра чулі заспакаяльную цвердзь зямлі.

Заспакойваў і лес. Паўздарожныя хвоі стаялі зусім нерухліва — нібы ўстылі ў чаканні новага дня. Цемень, якая тут, у лесе, была прыкметна гусцейшая, чым на гале, не ціснула на Ігнася, а, наадварот, памагала яму стрэсці, нібы кастрыцу, надаедную насцярожлівасць, хоць на нейкі час вызваліцца ад яе. Ды і прывык ён за доўгую дарогу з Сібіры дадому да цемнаты. Яна — яго хаўрусніца.

Ігнась далекавата адышоўся ад сваёй Волі, калі ў лесе пачало святлець. Гэта было вельмі на руку яму, бо калёсная дарога кончылася, распаўзлася між хвой ды рэдкіх бяроз. Цяпер яму трэба было ісці лесам, напрасцяк да свайго месца. Некалі дзед вазіў яго туды на падводзе шырокай шляхавой дарогай, якая ішла недзе па левую руку, з паўвярсты адсюль. Але па ёй ісці Ігнасю не выпадала: там людзі. Ды яна і не даходзіла да самага балота.

Пад нагамі бэрсаліся пруткія мяцёлачкі шорсткага верасу, храбусцелі нізенькія, пераплеценыя між сабой кусцікі чарнічніку, па каленях шлёгалі, крутнуўшыся на сваіх сцяблінах, сухія леташнія папараці. Дзе-нідзе слаліся пад ногі мяккія дыванкі зялёнага ляснога моху.

Калі хвоі расступіліся і Ігнась выйшаў на зарослую лазнякамі ды вольхамі лугавіну, ужо было зусім светла. Увесь усход гарэў ружовым пажарам: вот-вот там павінна паказацца сонца. На лугавіне стаяў белы туман. Усюды цілінькалі, заліваліся на розныя лады птушкі.

Ігнась аж прыпыніўся на хвіліну: якое кругом хараство! Як добра, што ён вырваўся з няволі! Толькі б дабрацца цяпер да ратоўнай Воўчай выспы. Там ужо яго ніхто не дастане.

Сонца павярнула ўжо з паўдня, калі Ігнась падышоў пад той дуб. Велічэзны, з густой раскідзістай кронай, ён высока ўздымаўся над хмызнякамі. Ігнась затрымаўся каля яго, правёў рукой па шорсткай, парэпанай кары, падзівіўся на таўшчэзныя вузлаватыя галіны, якія далёка паадкідаў у бакі гэты велікан. Пэўне ж, не адну сотню, а мо і цэлую тысячу гадоў падпірае ён тут неба, глыбока пусціўшы ў зямлю свае разгалінаваныя карані. Колькі вятроў і завірух вытрываў ён тут за свой век, якія буры давялося яму адолець? І во стаіць, як стаяў, і будзе стаяць на сваёй зямлі, пакуль не сыдзе яго вызначаны прыродай тэрмін.

Дуб-волат служыў цяпер Ігнасю, як раней яго дзеду Базылю, арыенцірам для пераходу на Воўчую выспу. Акурат напроці яго, за лугавінаю, павінен быць той пераход.

Па схіле грудка, на якім стаяў дуб, Ігнась апусціўся ўніз і, праціснуўшыся праз лазовыя кусты, што перагароджвалі дарогу, выйшаў на край балота.

Балота было галістае. Яно вольна раскінулася па абодва бакі ад Ігнася і недзе на даляглядзе незаўважна гублялася ў сінім размытым мроіве. Уперадзе ж балоту не давала разгарнуцца панурая, даволі шырокая сцяна цёмна-зялёнага алешніку, з-за якога — яшчэ далей — выглядвалі трохі святлейшыя вяршыні хвой. Гэта і была яна, тая Воўчая выспа.

Сонца раўнамерна асвятляла і гэты алешнік з аддаленымі вяршынямі хвой, і ўсю ўтравелую прастору балота, якое здалёк выдавала звычайным ялавым полем. Але толькі выдавала. Зблізку добра была відаць яго няўстойлівая паверхня з кволенькімі рыжаватымі травінкамі, што там і там прабіваліся з твані, і параскіданымі то ў адным, то ў другім месцы купінкамі асакі напалам з кругляцом. З нагрэтай сонцам твані, што, нібы падыходнае ў дзяжы цеста, пыхкала бурбалкамі, несла настоеным смуродам даўно перагнілай травы, якая асядала тут, можа, спракувеку.

У многіх месцах паверх твані стаяла вада, зацягнутая тоненькай шэрай плеўкай раскі. З-пад яе выглядалі лупатыя зялёныя жабы. Калі Ігнась падступаў пад іх бліжэй, яны, растапырыўшы свае шырокія ногі-лапы, з булькатам ныралі ў глыбіню, і раска доўга гайдалася тады, як студзень.

Перайсці гэтае дрыгвяністае балота ніхто і думаць не думаў. Чалавек, які адважыўся б ступіць на яго, тут жа апынуўся б з галавой у рудым тваністым месіве. Не выручылі б яго і тыя асаковыя купіны, што там-сям зелянеюць пасярод балота. Ступіш на якую, і яна разам з табой адразу паляціць уніз, у бяздонную прорву. Бо не ў зямлю пусціла трава карэнне, а толькі зачапілася ім за вадзяную каламуць багны. Недарэмна празвалі балота Гіблым, або Чортавым. У Волі і ў іншых бліжэйшых адсюль вёсках добра ведалі пра гэта і таму нават носа сюды не патыкалі. Яшчэ больш баяліся людзі Воўчай выспы, лічылі яе нячыстым месцам, прыстанішчам усякіх чарцей і злых духаў.

Ігнась з усмешкай згадваў гэтыя байкі, не даючы ім веры. Тое ж, што балота і праўда тут гіблае, непраходнае, ён ведаў ад дзеда і бацькі. Ды і сам бачыў. Проста так яго, як бы ні хацеў, не пяройдзеш.

Разлічваў Ігнась толькі на тую затопленую ў багне ладу, па якой правёў быў яго, малога, на Воўчую выспу дзед Базыль. Змайстравана яна была з шырокіх і доўгіх дубовых плашак,

шчыльна пакладзеных на тоўстых дубовых крыжавінах, надзейна ўвагнаных пад багнай глыбока ў зямлю. Лава ніколі не выступала наверх, заўсёды ляжала ў вадзяністай багне, без паветра, таму, відаць, і не паддалася гніенню.

Пра лаву ніхто з навакольных сялян не ведаў. Ды калі б хто і наткнуўся выпадкова на яе, дык палічыў бы за чортаву штучку і яшчэ здалёк абыходзіў бы. Лава цераз Чортава балота была родавай таямніцай толькі Караленяў, ды і то не ўсіх.

Раскрываючы калісь гэтую таямніцу, дзед Базыль паказаў Ігнасю на краі балота вялікі камень-валун, ад якога і пачыналася лава. Людзі называлі яго Чортаў камень. Дзед расказаў тады і паданне пра яго. Нібыта нячысцік знайшоў далекавата адсюль валун і хацеў перанесці цераз балота ў сваё лагавішча. Ды якраз заспяваў певень, і чорт выпусціў камень з рук. З той пары і ляжыць ён тут, пры балоце, гэты Чортаў камень-валун.

Ігнась пачаў шукаць валун вачыма. Ён жа другі пасля дуба арыенцір, што паказваў дакладнае месца лавы. Без яго наўрад ці знойдзеш пераход. Ды як Ігнась ні ўглядаўся, не знаходзіў на беразе Чортавага каменя. Дзе ж ён мог дзецца? Мо хто забраў на жорны? Але ж не — рабіць з чортавага каменя жорны ніхто і падумаць не мог бы. Ды і падняць яго не падымеш. А калі б і падняў які асілак ды ўскаціў на калёсы, дык ніякі конь іх і з месца не крануў бы: па ўтулку ў зямлю ўехалі б. Ігнась прайшоў туды-сюды берагам, і ў яго адлягло ад сэрца: камень ляжаў на месцы, толькі яго прыкрыў сабою лазовы куст, якога раней тут не заўважалася, — ці доўга выцягнуцца лазе?

Камень быў цёмна-рудага колеру, амаль круглы. І гладкі, аднародны, не з такіх зярністых, што часта пападаюцца на полі. Можа, гэта граніт? Ігнасю ён быў па пояс. А яшчэ ж, мусіць, большая яго палавіна ляжала ў зямлі. Яго не толькі не паднімеш, але і з месца не скранеш. Наўкруга каменя тапырыліся купінкі сіўцу, залацелі галоўкі адуванчыкаў.

Адышоўшыся ў недалёкі хмызняк і дастаўшы з-за пояса пад світкай сякеру, Ігнась, не здымаючы з плячэй мяшка, высек даўгаватую бярэзінку, ацерабіў яе і вярнуўся з шастом пад камень.

Уперадзе ляніва пабумквалі жабы, іх заглушалі вострыя крыкі бакасоў, якія чамусьці закружыліся туды-сюды над балотам: можа, згледзелі яго і чагосьці затрывожыліся?

Таўсцейшы канец бярэзіны-шоста вельмі скора даўся ў вадзяністай твані аб цвёрдую плашку пераходу. Ігнась уваткнуў шост у багну (адтуль шыбануў уверх цэлы фантан рыжаватых

смярдзючых бурбалак) і ступіў лапцямі на нябачную ўнізе лаву. Плашкі лавы былі слізкія, і ён, каб утрымацца, узлёг на шост, які дастаў на сподзе да цвярдзейшага, хоць і вязкага грунту. Выцягваючы сваё апірышча з густой вязкай твані і асцярожліва перастаўляючы яго ўперад, ён па калені ў каламутнай вадзе патроху пасоўваўся па плашках лавы далей і далей.

Мусіць, з добрыя паўгадзіны балансаваў гэтак па ёй, пасоўваючыся чарапашым ходам, пакуль урэшце не ўхапіўся рукой за сук першай альшыны. Вольхі раслі тут з высакаватых травяных купін, паміж якімі цямнеў густаператаптаны дзіковымі ды ласінымі капытамі шэры глей — тут, мусіць, толькі нядаўна сышла вада пасля вясновай паводкі. Такія ж стаўбункі купін з чорнымі пеньчукамі аджылых ужо альшын тырчалі паміж жывымі вольхамі. Асцерагаючыся ступаць у густую вязкую гразь, абмінаючы слізкае альховае лам'ё, Ігнась даўгавата скакаў з купіны на купіну, пакуль не ступіў на цубчэйшае.

Гэта пачынаўся ўжо сушэйшы лес — хвоі з бярозамі. Ды і ён не вельмі радаваў: дзікі, змрочны, з жоўтымі падушкамі балотнага моху, з п'янлівым багуном ды гусцейшымі кусцікамі буячніку, што не даваліісці, адбіралі сілу.

Ігнась аж уздыхнуў з палёгкаю, калі пад нагамі пачуўся цвярдзейшы грунт і захрабусцеў крохкі сівенькі машок баравіны.

Найперш яму трэба было адшукаць на выспе месца прыстанку колішніх «мяцежнікаў», якое паказаў яму некалі дзед Базыль, — невялікую палянку з высозным і разгалістым яварам на краі.

Успамінаючы, як яны туды дабіраліся, Ігнась павярнуў налева. Ішоў, як і тады, самым грэбнем нешырокай баравіны. І здалёк убачыў між разрэджаных хвой густую, нібы хмару, крону таго старога, мо тысячагадовага явара. Падышоўшы пад яго, Ігнась нібы апынуўся пад праўдзівай страхой.

Тут ён і суняўся. Скінуў з плячэй свой цяжкі мяшок і ў знясіленні апусціўся на негустую, бледна-зялёную траўку, лёг спіной. Цяпер яму хацелася аднаго: адпачыць, забыцца на ўсё.

Толькі доўга ляжаць сабе не дазволіў: трэба ж было падумаць пра начлег. Як зрабіць на зямлі пасцель, ён добра навучыўся ў доўгай дарозе з Сібіры: пад бок — ахапак яловых лапак, скруціўся абаранкам — і пасапвай сабе носам пад мігатлівымі зоркамі, што так і заглядваюць на цябе з-за галля сцішаных хвояў ды бяроз. Але паблізу не было відаць аніякіх елак, і яму давялося добра пахадзіць па лесе, пакуль адна ўсё ж папалася на вочы, высокая, разгалістая, а за ёю яшчэ некалькі. Павесіўшы

на высахлы, але яшчэ моцны сук явара свой мяшок, выслаў з наламаных лапак сякое-такое ложа і, не раздзеючыся, лаўчэй умясціўся-ўціснуўся на сваёй калючай пасцелі. Здарожаны, дашчэнту змораны за цяжкі дзень, заснуў ён імгненна. Заснуў моцным, амаль дзіцячым сном, цалкам адключыўшыся ад усяго на свеце.

Упершыню за многія гады спаў Ігнась у супакоі, не баючыся ні пагоні, ні звышпільнага чэкісцкага вока — сюды, у гэтую балотную неруш, пэўне, ужо не дабяруцца яго неадступныя апекуны з наганамі.

Але, аказваецца, і тут яму было чаго паасцерагацца. Недзе перад світаннем яго змецілі гаспадары выспы — ваўкі. Абнюхваючы незнаёмца, яны зусім ціха падышлі пад яго і паселі наўкруга. Цэлай зграяй. Ігнась спаў, але чуў іх. Чуў нейкім сваім чуццём. А пачуўшы, толькі ледзь-ледзь прыадкрыў павекі і праз іх вузенькія шчылінкі пачаў назіраць за сваімі грознымі гасцямі. І ўсё гэта — не прачынаючыся. На мяжы сну і нясну. Калі б не спаў, пэўне ж, куляй ляцеў бы ад іх. А сплючы, ён іх не баяўся: ведаў, што на соннага ваўкі не нападаюць, гэтага ім не дазваляе іхны ваўчыны закон. Ігнась так намарыўся за дзень, што, каб і хацеў, сілы ўжо не меў падняцца і ваяваць з ваўкамі. «А, пасядзяць і адыдуць», — думаў у сне. Так яно і было. Ваўкі пакружылі вакол Ігнася, пасядзелі каля яго і на світанні пакінулі незнаёмца. І тады ён заснуў канчаткова.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### 1

Разбудзіла яго сарока. Змеціўшы на свежым лапніку незвычайнага тут прыхадня, яна ўстрывожана застракатала на недалёкай хвоі, неспакойна падскокваючы і пакручваючыся то ў адзін, то ў другі бок. Пры гэтым яе доўгі чорны хвост так і хадзіў уверх-уніз. Калі Ігнась падняўся, сарока кульнулася з галінкі ўніз і — рыўкамі, рыўкамі — падалася некуды між хвой. Можа, далей панесла цікавую вестку?

Раніца была хмурная, золістая. Увесь хмыз палянкі і навакольны лес заліло, нібы малаком, белым туманам. Накрапваў ледзь заўважны дожджык.

Недзе ўверсе ціліlінькалі птушкі, у глыбіні лесу пробаваў стукаць аб гулкую (мусіць, з дуплом) сухадрэвіну дзяцел. З боку

балота даносіўся прарэзлівы, толькі прыглушаны адлегласцю гартанны крык журавоў.

Дзе, у якім свеце ён апынуўся? Рупіла барзджэй агледзець увесь груд. Ці знойдзе ён тут чаканы прытулак? Ці зможа ўхавацца ад злога вока? А мо хто адшукаў ужо сюды дарогу, раскрыў таямніцу Караленяў?

Доўга не збіраўся. Засунуў за вераўчаную апаяску світкі неразлучную сякеру і пайшоў знаёміцца з сваім выбраным прытулкам.

Знаёмства было несуцяшальнае. Ён убачыў, што гэта быў добры прытулак толькі для ўсякага звяр'я, а не для чалавека. Усю выспу займаў пракаветны, нікім не чапаны дзікі лес, часам вельмі змрочны, пануры, здавалася, нават пагрозлівы, варожы — з бураломам, з вываратнямі, пад якімі мог стаіцца любы драпежнік, гатовы кожную хвіліну кінуцца на двухногага незнаёмца, што парушыў яго спакой. Дарогу ўвесь час перагароджвала Ігнасю лам'ё засохлых на карані і пападаных дрэў, прагнілае, замшэлае, слізкае. Часта даводзілася прадзірацца праз густыя лясныя зараснікі, блытацца ў высокіх калючых папаратніках, у буячніках ды малінніку. Між дрэў панаваў вечны прыцемак, праз суцэльную гушчыню самкнутага ўверсе голля, мусіць, ніколі не прабіваўся ніводзін промень сонца. Было сыра, як у склепе. Рукі і твар секлі камары, упіваліся ў шыю пляскатыя і вельмі пякучыя сляпні, у валасы каля шапкі з лёту ўшываліся праціўныя ласіныя кляшчы. У гэтай панурай глушэчы ў галаву лезлі цяжкія гнятлівыя думкі, на душы ляжаў камень, якога, здавалася, ніпто не магло тут зрушыць. Адсюль, нібы з глухога падзямелля, хацелася барзджэй выбавіцца на свет Божы, уцякаць куды толькі глядзяць вочы.

Але ўцякаць Ігнасю з гэтай дзікай непрытульнай выспы не было куды. Ён мусіў тут абжывацца.

Дзесьці пад паўдня вярнуўся пад сваё лежбішча. Адпачыўшы, пачаў абследаваць другую, значна меншую палавіну выспы, яе паўднёвы рог. Ужо з палянкі ў нешырокім разрыве лесу, які атуляў яе з усіх бакоў, яго завабіла нейкае светлае гала, за якім на схіле неба бялелі, аж сляпілі вочы, клубкастыя воблакі.

Пайшоў на іх, каб агледзець тое гала. Гэта было не вельмі даўняе пагарэлішча, якое шырока разлеглася паміж двума паўколамі лесу — хваёва-бярозавага на вышэйшым і алехавага ў лагчыне. Па ўсёй прасторы тырчалі чорныя, з абгарэлай карою абрубкі хвояў і месцамі ўсё яшчэ белыя, але падгнілыя ствалы бяроз, падзяўбаныя да дзірак дзятламі. Здавалася, што

гэта пасля невядомай прыроднай катастрофы асталіся рэшткі нейкага таямнічага старажытнага горада з яго калонамі. Зямлю ўкрывала пабэрсанае лам'ё дрэў, падгнілыя ўжо, замшэлыя камлі і голле. Але іх можна было ўгледзець толькі зблізку, бо ўсё ламачча і пні хаваліся пад густа парослым маладняком — вельмі цяністымі, амаль лапушыстымі бярэзінкамі, таўсматымі пryземістымі хвойкамі, пруткімі дубкамі, гонкімі асінкамі з вялікім ружаватым лісцем ды тапырыстымі кусцікамі арэшніку. Нібы стараючыся абагнаць, заглушыць гэты настырны параснік, пусцілася між дрэўцамі ў рост нязвычна высокая тут пажарніца і надта ж выгonісты скрыпень, які пазней ускіне тут уверх гожыя стаўбункі бледнавата-ружовых сукеццяў.

Пасярэдзіне гала Ігнась убачыў і прычыну ляснога пажару — расшчэплены напалам тоўсты камель магутнага дуба, чорныя аскабалкі якога і таўшчэразныя галіны былі параскіданы наўкруга: у яго ўцэліў пярун. Ясна: ад перуна і загарэўся быў лес.

Ігнасевы вочы прыцягнуў да сябе яшчэ шкілет некалі высокага і даволі тоўстага граба. На ім абсыпалася кара, і пашчапаны ўверсе ствол так абветраў, што зрабіўся белы, як костка. Ігнась падышоў пад граб і здзівіўся: адна галіна, што ішла ад камля крута ўверх, была зялёная, уся ў шорсткім сяткастым лісці. Яна яўна не думала здавацца, не давала канчаткова засохнуць грабу, прагла, нягледзячы ні на што, жыць, расці і радавацца сонцу і аблокам над галавой. «Гэта ж я!» — ледзь не сказаў уголас Ігнась.

За драбналессем ён нечакана напаткаў невялічкае азярцо. Адзін бераг быў стромы, сюды падступалі старыя камлюкаватыя хвоі. У канцы азярца, на ніжэйшым, купчасціліся вербалозы з пасівелымі ўжо коцікамі.

Ігнась здзівіўся, якая чыстая, без раскі ў азярцы вада. Разгадку гэтай чысціні ён знайшоў, калі спусціўся берагам ніжэй. З азярца там і там выбягалі, паблісквaючы на сонцы і расцякаючыся між алешын, расплывістыя па траве ручаіны. Значыць, з зямлі тут недзе б'юць крыніцы — яны, пэўне, і ўтварылі гэтае азярцо.

Азярцо прыпадняло Ігнасеў дух: гэта ж так добра будзе паблізу яго зладзіць прытулак. Не адкладаючы на далей, ён тут жа вярнуўся назад і, аблюбаваўшы каля палянкі, у беразе лесу сухое і роўнае месца, пачаў мудраваць сабе будан. Наважыўся зрабіць яго проста: на сукі дзвюх, адлеглых адна ад адной метры на чатыры хвояў умясціў канцамі высечаную паблізу жэрдку, прыставіў да яе некалькі бакавых жардзінак з сукамі,

папрывязваў на іх ракітавымі дубцамі высечаныя з больш тонкіх хваінак латы — як і для звычайнай хаты. Роўна накрыў будан наламаным пры балоце сухім леташнім чаротам, добра прыціснуўшы яго бярозавымі і лазовымі паплецінамі, якія зноў жа папрывязваў да лат ракітавымі дубцамі — так, як крыюць хаты. Дзверцы збіў з роўных хваёвых калкоў, якія шчыльна пераплёў лазовымі галінкамі — накшталт плятня.

Будан выйшаў што трэба. Не будан, а праўдзівая хатка. Хоць невялікая, але акурат на яго. У ёй можна і стаць на ўвесь рост, і пахадзіць. І што важна — утульная, зацішная. Ні вецер яе не прадзьме, ні дождж не прамочыць. Ды і ад любога звера можна ў ёй ухавацца.

Для большай надзейнасці Ігнась густа абклаў сваё жытло яшчэ яловымі лапкамі, якія таксама пераплёў лазою. Пад лапнікам яно не так і на вока кінулася б, калі б хто з людзей якім-небудзь неверагодным чынам трапіў на Воўчую выспу.

Цяпер у будане Ігнась змог ужо развязаць і заплечны мяшок, каб агледзець усё сваё багацце, прыкінуць, з чым апынуўся на гэтым бязлюдным востраве. У мяшку ён убачыў складзеную Хрысцінінай рукой простую посцілку, прасціну і дзве сшытыя з трох бакоў палатніны — матрац для сенніка. З яды, што сабрала яму Хрысціна, у хатулі знайшоў добры брус сала, абгорнуты ў некалькі столак чысценькай марляй, паўбохана хлеба, укручанага ў кужэльны ручнік, якім накрываўся на стале, палатняную торбачку ржаных сухароў (паспела такі насушыць яму жонка), крупы ў невялічкіх мацерчатых мяшэчках, ладнаваты мяшэчак гароху, рукавок солі і на дне загорнутыя ў паперу некалькі бульбін ды цыбулін. От і ўвесь яго запас.

Затое з ім было такое-сякое і гаспадарчае начынне, якое паспеў схапіць у спешцы. Найперш — сякера, якую заўсёды трымаў пад рукамі як прыладу працы і зброю ад усякага нападу. Яшчэ з Сібіры ляжаў у кішэні і яго важкі паляўнічы нож-складанец, а з ім — крэмень і сухі трут: здабываць агонь. У мяшку знайшоў з’іржавелую, але цэлую, зусім здаровую рыдлёўку (ведама ж, без дзяржання), таксама не новую пілу-аднаручку (абломак звычайнай пілы), запавуціненую касу і гэтакі ж серп, а яшчэ малаток, гэблік і іншую драбязу. Дастаў і прыхопленую ў апошні момант бляшанку з пагнутымі і паржавелымі цвікамі, што адслужылі былі ўжо сваю службу, але якіх ні ён, ні бацька не выкідалі — не заўсёды дакупішся новых.

Добра, што Хрысціна здагадалася яшчэ ўкінуць у хатуль задымлены чыгунчык для варыва, невялічкую скавародку і

трошкі пагнутую алюмініевую конаўку. Прыемна ўсцешыла Ігнася і старая, даўно ўчарнелая кляновая лыжка дзеда Базыля: не мог дзед прывыкнуць есці металічнай, думаў, што апячэ губы, беручы гарачую страву. Але Ігнась не будзе есці гэтай лыжкай, лепш захавае яе як памяць пра свайго любага дзеда. Для сябе ж наробіць тут якіх захоча.

Выклаў яшчэ з хатуля брытву-складанку, кавалак мыла. Ну і непачаты таўставаты студэнцкі сшытак — запісваць дні і месяцы.

О, з усім гэтым ён ужо тут не прападзе! Яму, новаму палескаму рабінзону, ёсць з чым абжываць бязлюдны востраў.

Усё сваё начынне і харчовыя прыпасы ўклаў назад у мяшок і павесіў на сук хвоі, на якой трымаўся задні канец перакладзіны будана і ствол якой апынуўся цяпер у ім.

Аставалася яшчэ зрабіць сабе ложа. Ён выклаў яго тымі ж яловымі лапкамі, на якіх спаў дагэтуль пад адкрытым небам. Каб было вышэй, наламаў на елках і наўскладаў на сваё ложа яшчэ новых. Паверх палажыў сяннік, які напхаў пакуль што навыскубанай пры балоце сухой леташняй травой — добра будзе на першым часе. Потым акуратна заслаў «ложак» Хрысцінінай посцілкай і прайшоў туды-сюды па сваёй «хаце»: ну, лепш не прыдумаеш!

Не хапала ў «хаце» толькі аднаго — кухні. Але ён зрабіў яе на «дварэ» — недалёчка ад уваходу. Знайшоў каля азярца тры вялікаватыя камяні, палажыў іх трохкутнікам блізка адзін каля аднаго, прымасціў на іх чыгунок з вадой і расклаў унізе агонь. Пакуль грэлася вада, дастаў з мяшка, ашчаджаючы, адну бульбіну, тоненька абабраў яе, парэзаў на крышанчыкі і, калі ў чыгунку забулькала, сыпнуў іх у кіпень — будзе булён. Скрылік сала адрэзаў з свайго запасу, дробненька парэзаў, кінуў на добра вымытую скавародку і паставіў пры чыгунку на агонь. Потым накрышыў туды цыбулькі. Калі сакваранае сала з цыбулькай укінуў у чыгунок, ад зваранага булёну пайшоў такі смачны, такі дамашні дух, што Ігнась мала не ап’янеў ад яго.

Яшчэ раней ён прынёс сюды з балота вялікаваты корч, пасцінаў сякерай лішнія сучкі, прыгладзіў гэблікам шурпатасці і добра ўціснуў яго ў зямлю. Выйшла ладнае крэсла. Нават з падлакотнікамі — двума паадкіданымі ўбакі і таксама падчышчанымі сукамі каранёў. «Сталом» у Ігнася стаў тоўсты пляскаты абломак хвоі, невядома як выламаны бурай і вылузаны з кары. Яго даволі было толькі трывала, каб не соваўся,

улажыць між сукамі на дзве адсечаныя з хвоі папярэчыны. Дзе яшчэ знойдзеш лепшую «мэблю для кухні»?

І от гарачы чыгунок з булёнам, ад якога проста ў неба заструменілася белаватая пара, — на «стале». У Ігнася, які вольна рассеўся ў сваім «крэсле», — у адной руцэ лыжка, у другой — луста хлеба. Здаецца, ён ніколі нічога не еў з такім смакам, як гэты звычайны, не надта каб і густы булён — ці не самую простую сялянскую яду.

2

Сёння першы раз ён лёг спаць як чалавек: скінуўшы з сябе ўсю вопратку, залезшы пад посцілку ў адным споднім. Дзверцы Ігнась уцягнуў бокам усярэдзіну, прыставіў да выхаду і з дапамогай двух убітых па баках калоў і добрых папярочных палак зачыніў іх так, што ў «хату» не мог бы пралезці ўжо ніякі чацверанogі ды і двухногі госць.

Цяпер, лежачы на мяккім сенніку, падсунуўшы пад галаву складзены ў некалькі столак фрэнч, ён мог спакойна падумаць пад манатоннае жабіна бумканне, што даносілася з балота. Дзіўна: за ўсе тры з лішнім гады няволі ён ні разу не меў нават гэтай раскошы — падумаць пра ўсё, паразважаць пра сваю долю. Увесь час быў як загнаны звер, які толькі і ведае, што ўцякаць, ратавацца, азіраючыся, каб не атрымаць па загрыўку, каб не нагнала і не зваліла з ног ашчэраная сабачая зграя. Усе думкі былі павернуты на гэтае асцерaганне, на выжыванне ад голаду і холаду, ад беспрасветнай катаржнай працы, што адбірала дарэшты і сілы, і волю.

Як магло стацца, што ён апынуўся за мяжой нармальнага чалавечага жыцця, зрабіўся бяздольным катаржнікам, бяспраўнай істотай, самай простай цацкай у руках катаў і забойцаў? Ну, быў бы ён злачынцам, ліхадзеем якім. А то ж душой ні ў чым і ні перад кім не вінаваты. Змалку сарамлівы, ціхі, ён і памысліць не мог, каб учыніць каму што кепскае. А бацька? Памяркоўны, заўсёды ўраўнаважаны, ён з усімі знаходзіў паразуменне, ні на кога не трымаў крыўды. Колькі помніцца Ігнасю, бацька ніколі ні з кім не сварыўся, нават голасу не падымаў. Што ж да маткі, дык яна зусім была мяккая і лагодная, спагадная да ўсіх. Такая ж была і бабуля Манька. А чым вінаватыя яго сястрычкі Марылька і Алеська, брацік Косцік, які яшчэ кацёлку ганяў па вуліцы?

Каму ўсе яны заміналі? Дзеля чаго звезлі іх з Волі на пакуты, на гібель? Ды і ці толькі іх адных? Эшалон за эшалонам

гэтакіх самых, як і яны, «ворагаў», пазапіханых, як жывёлу, у прасвістаныя вятрамі вагоны-цялятнікі, кожны дзень перлі ў Сібір пад сцюжы і лютыя маразы. За гады няволі Ігнась даволі наглядзеўся на бясконцыя сціжмы выгнаных з родных хат лапатных сялян. Выкінутыя з паяздоў проста на снег, яны гінулі цэлымі сем'ямі ад холаду і голаду, асабліва дзеці, многа дзяцей — у кожнай жа хаце іх было тады па добрым дзясятку. Ігнась стараўся адагнаць успаміны пра бачанае і перажытае, бо ад іх і цяпер балюча сціскалася сэрца.

Але неадступна лезла ў галаву адно і тое ж пытанне: як магло такое чыніцца ў «вялікай Краіне Саветаў»? Калі хадзіў у школу ды і пасля яе, Ігнась безаглядна верыў байкам пра тое, што Савецкі Саюз — гэта царства свабоды і справядлівасці, першая ў свеце дзяржава рабочых і сялян, якая створана бальшавікамі дзеля шчаслівага жыцця ўсіх працоўных людзей. Верыў і ганарыўся, што яму выпала шчасце жыць у такой краіне, што ён — савецкі чалавек.

Праўда, семя сумнення закінуў быў яму дзядзька Паўлюк, малодшы бацькаў брат.

Яго, як і бацьку, у грамадзянскую вайну мабілізавалі ў Чырвоную Армію. Але калі бацька да канца біўся там з белымі, дык Паўлюк дэзерціраваў з Чырвонай Арміі і перакінуўся добраахвотнікам у сваё, беларускае войска, якое зладзілася недзе пад Слуцкам. Беларускае войска ваявала і супраць палякаў, і супраць бальшавікоў-маскоўцаў. За вольную Беларусь.

Калі атрад, у якім служыў дзядзька Паўлюк, быў разбіты бальшавікамі, яму ўдалося разам з некалькімі таварышамі ўцячы. Дабіраючыся з імі пад польскую мяжу, аднае начы дзядзька заскочыў і дадому, у сваю Волю. Апоўначы забег і да брата, Ігнасевага бацькі — каб развітацца.

Ігнась тады чуў іх гутарку, калі яны сядзелі за кухонным сталом. Бацька раіў брату вярнуцца ў Чырвоную Армію і служыць новай уладзе.

— І не кажы мне пра гэта, Сцяпан. Каб я служыў нашым ворагам?

— Якім ворагам? Бальшавікам? Дык яны ж цара скінулі, свабоду далі людзям. Іхны Ленін за простага чалавека гарой стаіць. Хто як не бальшавікі зямлю адабралі ў паноў і нам, мужыкам, аддалі?

— Як аддалі, так і забраць могуць.

— Не гавары дурное, брат. Хто ж тады абрабляць яе будзе? Зямля навечна перададзена нам. Толькі рабі на ёй, то і хлеб будзе, і да хлеба…

— А не забыўся, як яшчэ летась з рота вырывалі ў цябе гэты хлеб бальшавіцкія шкурадзёры з харчовых атрадаў? А некага і да сценкі ставілі?

— Бо дзяржаве хлеб патрэбен быў, Паўлюк, рабочыя ў гарадах з голаду мерлі. Цяпер кончылася харчразвёрстка — заплаціў падаткі, і сам спажывай свой хлеб як хочаш.

— Да пары да часу, Сцяпан, усё гэта. Бо ўлада гэтая нялюдская, чужая нам. Ад яе ўсяго можна чакаць. Нам трэба свая, беларуская ўлада, беларуская дзяржава. Ні ад кога незалежная. Каб не палякі, не расійцы, а мы самі былі гаспадарамі на сваёй зямлі…

Ігнась быў тады на баку бацькі: як не разумее дзядзька Паўлюк, што ўсё робіцца ў савецкай краіне для шчаслівага жыцця простага чалавека, што кожны селянін можа працаваць цяпер на сваёй зямлі, што яе ніхто ўжо не можа ў яго адабраць?

Але от адабралі. І не толькі адабралі, але яшчэ і вінаватымі зрабілі тых, хто яе ўзяў, любіў яе, не даваў зарастаць пустазеллем. І хто гэта зрабіў? Тая ж самая савецкая ўлада, якая назвала сябе народнай. Выходзіць, праўду казаў некалі дзядзька Паўлюк пра яе нялюдскасць?

Уцякаючы з Сібіры, Ігнась ведаў, што дома, у сваёй роднай Волі, яму ўжо не жыць. Як не жыць вольна нідзе ў Савецкім Саюзе: ён жа — «вораг народа», бяспашпартны бадзяка, уцякач. Адзінае яго месца — за калючым дротам, пад бізуном канваіраў. Была ў яго думка — уцячы за мяжу. Але ён адразу ж яе і адкінуў. Адно, што туды не дадуць праскочыць пільныя савецкія памежнікі з іхнымі вывучанымі аўчаркамі. А другое: што яму рабіць там без Хрысціны, без дзяцей, без сям'і? Не, ён вернецца дадому. Толькі перачакае ліхі час на Воўчай выспе, як некалі рабіў яго дзед. І не проста будзе там хавацца, а пабудуе жытло, завядзе гаспадарку і ўрэшце забярэ туды Хрысціну з дзецьмі, вызваліўшы яе ад калгаснага прыгону. Яны будуць жыць там, як самі захочуць. Вольна. Нікому не падначальваючыся, нікому не кланяючыся ў ногі.

Выбраць месца то ён выбраў, але як зрабіць, каб можна было жыць тут з сям'ёй? Калі першы раз аглядаў востраў, зарослы бураломным лесам, дык апусціў быў крылы, душу гняло сумненне: ці здолее ён зрабіць гэты пакінуты людзьмі і Богам зямны куток прыдатным для жыцця, ці захоча перабрацца сюды Хрысціна са Стасікам?

Цяпер, калі сваімі рукамі зладзіў тут сабе гэтакі хвацкі будан, сумненні яго адпалі: ці ж ён, поўны сіл, здаровы і кемлівы

сялянскі сын, не абжыве гэты мядзведжа-ваўчыны кут? Ён жа адзіны тут гаспадар. Валадар усёй, хай і залесенай зямлі Воўчай выспы.

Хто не ведае, што значыць для селяніна зямля? Яна — аснова асноў яго жыцця, яго быту, яго дастатку. За яе селянін ішоў на вайну, рабіў рэвалюцыі. Каб прыдбаць шматок зямлі, ён, бывала, цягам усяго жыцця, галадаючы, адмаўляючы сабе ў самых пільных патрэбах, збіраў-запашваў грошы. Задыхаючыся ад беззямелля, вельмі многія з сялян кідалі свой родны кут, сваю бацькаўшчыну і выпраўляліся з скупенькім нажыткам на рыпучых калёсах у свет, у непрытульную, халодную Сібір, дзе вярбоўнікі абяцалі надзяліць іх зямлёй. Хрысцініна маці расказвала Ігнасю, як рады былі яе продкі, беззямельныя арандатары панскіх фальваркаў, калі ім удалося купіць у пана за немалыя грошы па паўвалокі свежага пацяробу. Каб ён стаў полем, новым гаспадарам давялося вырываць таўшчэразныя хваёвыя, бярозавыя, дубовыя пні, якіх тырчала на кожнай дзелі не адна сотня. Унь колькі поту трэба было праліць тады над кожным пнём, каб усяго толькі з дапамогай рыдлёўкі і сякеры выцягнуць яго напаверх разам з глыбокімі і шырока разгалінаванымі каранямі. Што тут казаць, многа хлебанулі тады гора пясчанкаўцы, але ўсё ж здабылі сабе зямлю, на якой потым пабудаваліся і пачалі жыць. Дык хіба ж не здолее ён, Ігнась, гэтакім жа спосабам разрабіць тут зямлю?

Разварушаны салодкімі марамі пра сваю, самім разробленую зямлю, пра вольнае на ёй гаспадаранне, Ігнась доўга не мог заснуць. У адкрытым падстрэшку над дзверцамі, што служыў яму акном, відаць быў краёчак неба. Адтуль на яго ў цёмны будан зазіралі тры маўчлівыя зорачкі. Сёння была ясная пагода, і імі недзе там угары ўсыпана ўся небная прастрань. Яны, зоркі, будуць цяпер яму самымі блізкімі, хоць і высокімі суседзямі.

Павярнуўшыся на бок і лепш нацягнуўшы посцілку, ён хацеў прымусіць ужо сябе заснуць. Але тут жа, нібы чым уколаты, рэзка ўскінуў галаву: з лесу, з самага гушчару, да яго вушэй данеслася спярша ледзь улоўнае, а потым усё больш выразнае, нейкае надта ж працяжнае выццё — ваўкі! Хоць для Ігнася гэта была не навіна і хоць быў ён цяпер у будане, у надзейным схове, але ў яго на галаве варухнуліся валасы. Ваўкі былі зусім недалёка. Ён нават разлічыў у тым выцці некалькі розных галасоў. Чаго яны завылі? Некалі мову ваўкоў добра разумеў дзед Базыль, ён адгадваў, калі яны апавяшчалі сваіх суродзічаў пра выяўленага недзе буйнога звера, якога можна аблажыць

толькі гуртам, пазнаваў, якімі галасамі паведамляюць яны пра нейкую небяспеку, ведаў, як выюць ад голаду, распазнаваў, калі ваўкі забаўляліся з ваўчанятамі ці самі з сабой, калі аплаквалі страчанага суродзіча. Дзед і малога Ігнася вучыў выць на кожны з такіх выпадкаў — усё можа спатрэбіцца ў жыцці. Хоць Ігнась даўно ўжо не пробаваў перагуквацца з ваўкамі, але цяперашняе іх жудаснае выццё было нечым падобнае да вельмі роспачнага плачу. Каго ж яны аплаквалі?

Але што б там у ваўкоў ні здарылася, Ігнась ім не паспачуваў бы. Ці ж мог ён забыць, якое гора яны прынеслі сям'і, схапіўшы на полі і загубіўшы недзе яго Янку? Што яны з ім зрабілі, з малым, безабаронным дзіцем? У галаве маляваліся жудасныя сцэны расправы ваўкоў з хлопчыкам. Ігнась заўсёды перапыняў тут сябе, стараўся не думаць пра гэта.

Вылі ваўкі не доўга. На выспе зноў стала ціха. Толькі не пераставалі бумкаць на балоце жабы. Пад іх бумканне Ігнась і заснуў.

## 3

Змайстраваўшы сваё, хоць і часовае, вельмі просценькае, можна сказаць, дапатопнае жытло, Ігнась акрыяў духам. Як-ніяк яму ёсць дзе цяпер прытуліцца, схавацца ад дажджу і ветру, адпачыць душой і целам.

Але яго ўвесь час не пакідала трывога: як ён тут выжыве, што будзе есці?

Таго, што ўлажыла ў хатуль Хрысціна, хопіць сама болей на тыдні два. А што далей? Як ратавацца ад голаду? Што ён знойдзе тут, на дзікім востраве сярод балот?

Калі яшчэ вучыўся ў Мінску на біяфаку, ён пахаўрусаваў быў з маладым, ненашмат старэйшым за яго выкладчыкам Аляксандрам Шпіленем, які быў родам з недалёкай Случчыны. Гэты яго амаль што зямляк скончыў аспірантуру і збіраў прыклады для дысертацыі. Тэма дысертацыі была не са звычайных. Ён коратка назваў яе так — «Голад». Пра тое, як у Беларусі ратаваліся людзі ў выпадку голаду, што тады ўжывалі ў ежу. Шчупленькі, невысокага росту, ён мала чым адрозніваўся ад студэнтаў. І быў з імі запанібрата, нічым не паказваў сваю вышэйшасць. Гаварыў як роўны з роўнымі, дзяліўся сваімі думкамі, з запальчывасцю расказваючы ім пра знаходкі па сваёй тэме. Ну, і прасіў кожнага студэнта, каб дома ў часы канікул параспытваў сваіх бацькоў і дзядоў, старых вяскоўцаў, чым яны харчаваліся, калі бываў не-

дарод ці якое бедства. Ігнась таксама тое-сёе запісаў для яго ад сваёй бабкі Манькі, ад дзеда Базыля і старых людзей у Волі. За гэта вельмі хваліў яго Аляксандр Шпіленя.

І лекцыі яго былі незвычайныя. Ён проста гутарыў з студэнтамі, ахвотна адказваў на ўсе іх пытанні. А калі не мог на што-небудзь адказаць, не выкручваўся, проста казаў, што не ведае, падбухторваў студэнтаў самім шукаць адказу. Таму і хадзілі ўсе на яго лекцыі з ахвотай, чакалі іх.

Ды аднаго дня не дачакаліся. Не прыйшоў выкладчык і на другі, і на трэці дзень. Што ж з ім магло здарыцца? Захварэў? Але ж толькі што хадзіў здаровы і вясёлы. Толькі потым студэнты даведаліся: выкладчыка біяфака Аляксандра Шпіленю забрала НКВД. Нібыта быў ён нацдэмам, ворагам народа, вёў антысавецкую прапаганду. Гэтую вестку студэнты перадавалі адзін аднаму шэптам. Для Ігнася яна была — як абухам па галаве. Няўжо гэты просты, адкрыты перад усімі і спагадны да ўсіх чалавек мог быць злачынцам, ворагам народа? Але раз яго арыштавалі, значыць, было за што. Ігнась цвёрда верыў, што савецкая ўлада не памыляецца. Ён дзівіўся тады, як лоўка выкладчык універсітэта замаскаваўся.

Успомніўшы цяпер Аляксандра Шпіленю, Ігнась зразумеў, што ўлады знайшлі тады ў яго дысертацыі пра голад палітыку. І гэтак жа, як цяпер Ігнася, зрабілі ворагам народа. Хоць той і думаць не думаў некаму нашкодзіць. Але папробуй дакажы энкавэдыстам, што ты не вярблюд, калі яны цябе ўжо так назвалі?

Тыя сакрэты выжывання, якія адкрываў Аляксандр Шпіленя і якімі дзяліўся з студэнтамі, добра памаглі Ігнасю, калі ён прабіраўся лясамі ды балотамі з Сібіры дадому. У той дарозе ён хоць нешта, ды знаходзіў, каб перабіць голад. Дасць Бог, знойдзе і на Воўчай выспе.

Калі думаў, як здабываць тут яду, першае, што яму прыходзіла ў галаву, — гэта паляўніцтва. Ну але, дзічыны на востраве многа — ён нямала сустракаў тут звяроў, бачыў безліч усякіх слядоў. Толькі што можна ўпаляваць без стрэльбы? Зрэшты, каб яна і была, ён наўрад ці падняў бы яе на якога звера, апроч хіба зайца. Ну, упалюеш аленя ці дзіка, асвяжуеш, а як ухаваць мяса? Солі ж у Ігнася — кот наплакаў. Дні два ці тры паясі свежыны — і выкідай вон? Летам як бач прысмердне. Нашто ж дарэмна губіць жывёлу?

Вельмі спадзяваўся Ігнась на рыбу. Ужо ў адзін з першых дзён знаходжання на выспе пайшоў ён у разведку. Спярша захацеў пільней агледзець сваё азярцо. Калі падышоў пад самы бераг і

ступіў на травяністую купінку каля водмелі, ад ног адразу ж шугнула, хаваючыся ў глыбіню, чародка вёрткіх лупатых малькоў. З другога спасцярожліва падплывала пад бераг другая — толькі малькі тут былі інакшыя, нібы карацейшыя і з больш цёмнымі спінкамі. Значыцца, рыба — і розных парод — ёсць у азярцы. Нібы ў доказ гэтаму на сярэдзіне возера нешта моцна пляснула. Што — Ігнась не паспеў угледзець. Але, мусіць, гэтае нешта было немалое — унь якія кругі пабеглі па люстранай азёрнай роўнядзі.

Берагам возера ён спусціўся ніжэй, туды, дзе точыцца ў вольхі вада. Куды ж яна ідзе далей? Каб не ступаць лапцямі ў мокрае, пайшоў, абгінаючы алешнік, схілам лесу. Калі алешнік кончыўся, перад вачыма адкрылася шыракаватая, вельмі вабная воку светлая лугавіна, якая ляжала паміж абрывістымі берагамі лесу, нібы ў карыце. З жаўтапеску абрываў тырчала галінастае карэнне старых хвой, што падыходзілі пад самы край. Ага, гэтая лугавіна-карыта, што ідзе, загінаючыся, недзе далей у міжлессе, вясной запаўняецца вадой, якая і падмывае берагі. Але адкуль яна тут бярэцца, вада? Разгадку Ігнась знайшоў адразу: пасярэдзіне лугавіны вілася, ідучы ад возера, пакручастая рачулка. Яе, як відаць, тварылі тыя ручаіны, што выцякалі з азярца. Ён пазнаў рачулку па ланцугу хмызнякоў, што шчыльна яе абступалі з двух бакоў. Значыцца, яна, выходзячы з берагоў, і разліваецца тут, калі растае снег. Ігнась пайшоў берагам. Гэта была рэчка-быстрацечка. Вада аж бурліла, калі натыкалася на які корч ці камень. Была яна чыстая і празрыстая, як свежавымытае шкло. На неглыбокім дне рэчкі праглядваўся кожны каменьчык. У адным месцы пры беразе Ігнась убачыў крынічку, што, пабулькваючы, пульсавала проста з зямлі і, разліваючыся па траве, тоненькім раўчуком збягала ў рэчку. Другі раўчук сачыўся з абрыву, спадаў, як маленькі вадаспад, уніз і, абмінаючы купінкі і ўзлобкі, таксама спяшаўся да рачулкі. Яе, значыцца, жывілі, як і вышэй азярцо, крыніцы.

Ні рыбы, ні малькоў Ігнась у рэчцы не заўважыў. Але нейкае ўнутранае чуццё падказвала яму, што рыба жыве і тут. І, мабыць, не абы-якая. Можа, нават стронга. Яна ж любіць во такую чыстую праточную ваду.

Ён дайшоў лугавінай да таго месца, дзе рэчка шырока разлівалася ў бакі, неўпрыкмет пераходзячы ў балота і ўтвараючы на сутоку з ім яшчэ адно невялікае азярцо. У ім Ігнась разы два чуў раптоўныя ўсплескі, на месцы якіх разыходзіліся кругі хваляў, — гуляла рыба. Ясна — і ў азярцах, і ў рэчцы

рыба ёсць. Толькі рыбка ў рацэ — яшчэ не ў руцэ. Яе трэба неяк налаўчыцца лавіць.

Хадзіць на рыбу ён любіў змалку. Больш на возера, што разлеглася ў імшаных берагах сярод скажанелага рэдкага хвойнічку непадалёк ад Волі. Праўда, у ім вадзіліся толькі дзве пароды рыб — акунь і шчупак. Ігнась добра навучыўся вудзіць акуня. Пробаваў лавіць і шчупака на жыўца.

Можна б і тут палавіць гэтакімі ж спосабамі. Але от бяда — не падумаў прыхапіць дома што-небудзь з рыбацкага начыння. Хоць бы кручкі ўзяў. Усё астатняе змайстраваў бы. А так прыйдзецца шукаць інакшыя спосабы лавіць рыбу.

Некалі дзед Базыль ставіў у азёрнай затоцы сплецены з ракіты буч, а на канаве карыстаўся — таксама ракітавай — таптухай. Пэўне ж, і тут прыдаліся б такія прылады.

Не адкладаючы на потым, тут жа пайшоў шукаць ракіту. Лазовых кустоў — з сівым карабатым голлем — пападалася яму шмат. Ракіта ж з яе блішчастымі прадаўгаватымі лісцікамі і гонкімі — зялёнае з рыжым — дубцамі траплялася на вока рэдка. Вялікі ракітавы куст убачыў Ігнась за прадаўгаватай завоінкай, што адбеглася ўбок ад рэчкі, цалкам аддзялілася ад яе — высах, зарос асакою нават невялічкі перашыек паміж імі. Падысці пад куст можна было толькі праз гэтую завоінку з нерухомай цёмнай вадой між зарослымі травою берагамі. Каб не мачыць лапці з анучамі, ён разуўся на беразе і, высока падкасаўшы штаны, босы палез у ваду. Спярша яна здалася халоднаю, а як асвоіўся, то і не чуў яе — усё ж настаялася на сонцы. Месячы ліпкую гразь на дне завоінкі, дапяў да куста і пачаў чыкаць нажом гладзенькія дубцы.

Калі з ахапкам ракіты пялёхкаўся праз завоінку назад, пад нагою пачуў раптам нешта жывое, слізкае. Ён ледзь не выпусціў з рук ракіту: мо на гадзюку наступіў? Але ў тую ж хвіліну заспакоіў сябе: чаго яна будзе тут у гразі, калі наверсе сонца, на якім вельмі ж любіць, скруціўшыся, выгравацца. Гэта — уюн!

Ігнась кінуў на бераг ракіту і, зняўшы з сябе кашулю і штаны, зноў палез у завоінку, пачаў мацаць нагамі ў ціне і гразі. Вельмі скора пачуў, як пад нагою заварушылася такое ж доўгае і слізкае. Не без боязі зацісьнуў яго спярша адной, потым яшчэ і другой нагой і, нагнуўшыся, моцна ўхапіў рукой. Ну але — гэта быў ён, уюн. Круглы, трошкі прыплюснуты, з падоўжанымі цёмнымі палосамі па абодва бакі, з натапыранымі вусікамі каля паўкруглага рота, ён так і звіваўся ў руцэ, з усёй сілы стараючыся выслізнуць. Але Ігнась барзджэй укінуў яго ў шапку. У завоінцы

ўюноў было нямала. Многім удавалася выслізнуць з-пад яго ног. Але некалькі добрых уюноў усё ж затрапяталася ў яго шапцы.

У Волі ўюноў лавілі здавён. Вадзіліся яны ў стаўках каля возера, пры балотах, у старых канавах. Дарослыя ставілі на іх адмысловыя кашы з канічнымі, накіраванымі ў сярэдзіну адтулінамі, бучы, каробкі, куды, бывала, шмат набівалася гэтых вяртлявых вусацікаў. Хадзіў на ўюноў і Ігнась. Асабліва любіў лавіць іх зімой. У стаўках ці канавах, дзе яны вадзіліся, прабіваў лёд і апускаў у палонку свой хітры кош ці каробку. Калі назаўтра прыходзіў, там часам іх аж кішэла: падплывалі да прадухі, каб глытнуць паветра. А летам намацваў іх у канавах, як і цяпер, босымі нагамі.

Уюноў у Волі варылі, смажылі, сушылі. Найбольш Ігнасю падабаліся смажаныя. От толькі не мог спакойна глядзець, калі маці, намазаўшы здорам і разагрэўшы ў печы на жары скавараду, кідала туды ўюноў жывымі. Тыя высока падскоквалі на гарачай скаварадзе, пакуль не сцішваліся.

Часта, асабліва ў галодныя гады, уюны вельмі добра выручалі волеўцаў. Таму кожная сям'я мела звычку іх сушыць. Пад весну, калі пусцелі засекі для збожжа, а ў кублах знікала сала, якраз і прыходзіла чарга сушаных уюноў. Іх ужывалі шмат у якіх стравах. Вазілі і на продаж. На кірмашах сушаныя ўюны былі нарасхват. За іх можна было разжыцца не на адну асьміну жыта, проса ці яшчэ якой збажыны, каб дацягнуць да новага хлеба.

Прынёсшы ўлоў пад свой будан, Ігнась расклаў на «кухні» агонь і, калі згарэлі паназбіраныя наўкруга дроўкі, угарнуў уюноў у гарачы прысак — як бульбу. Так рабіў ён малым з волеўскімі сябрукамі, пасучы свіней ці авечак. Калі ўюны пабялелі, упякліся ў прысаку, Ігнась справіў сабе праўдзівае свята жывата: тут яны здаліся яму яшчэ смачнейшыя, чым некалі. Замест хлеба еў іх з сакаўнымі белымі карэньчыкамі аеру, якога навырываў пры азярцы. З ім было яшчэ спажыўней і трывалей.

Першы ўлоў вельмі падбадзёрыў Ігнася: раз ёсць на востраве ўюны, ёсць рыба — ужо не прападзе. Нанасіўшы ракіты, ён тут жа ўзяўся рабіць начынне для лоўлі рыбы — не таптацца ж толькі босымі нагамі ў багне.

Самому Ігнасю не даводзілася плесці бучы, але бачыў, як рабілі гэта дзед Базыль і бацька, памагаў нават ім. Так што рамяство гэтае ведаў. Ён змайстраваў з лазовых галінак каркас і пачаў памалу пераплятаць яго ракітавымі дубцамі, якія расшчэпліваў напалам. К вечару буч быў гатовы. Атрымаўся не горшы, чым у дзеда і бацькі.

Адразу ж панёс яго на возера. У цішэйшым асаковым беразе ўвагнаў з высечанага дубка шост і, утапіўшы, прымацаваў да яго свой буч з хітрай гарлавінай. Там і пакінуў яго на ноч: лавіся, рыбка, малая і вялікая!

Чакаючы, што там зловіцца, Ігнась сплёў з ракіты і лазы яшчэ адзін невялікі, але вельмі хвацкі кошык з вечкам — для ўлову. Яно то можна б было і без яго абысціся — нанізаў рыбу на якую лазіну, і толькі таго. Але так было нецікава. Ад бацькі навучыўся ён усё рабіць як найлепш. Каб тое, што робіш, вока радавала, душу цешыла.

Калі назаўтра раніцай ён выцягнуў буч на бераг, у грудзях аж ёкнула ад радаснай неспадзяванкі: аб рабрыстыя бакі буча нешта моцна забілася, залапатала! Так і ёсць — рыба! Ды не адна, а цэлых пяць рыбін! Два паласатыя чырванапёрыя акуні, два гарбатыя жаўтаватыя ляшчы і шэранькі, з чорнымі плаўнікамі падлешчык.

У другі свой «выходны» дзень Ігнась яшчэ сплёў з ракіты таптуху — конусападобны кош з шырокай адкрытай адтулінай і адным плоскім бокам. Таптухай ён паспрабаваў лавіць у прыбалотным азярку. Палажыў яе плоскім бокам у неглыбокую затоку, разуўся, здзеў штаны і, залезшы туды, пачаў таптацца перад кашом, стараючыся замуціць ваду і ўвагнаць у сваю таптуху рыбу. Удача, хоць і невялікая, напаткала яго і тут: за нядоўгі час боўтання ў затоцы ён дастаў з каша-таптухі двух лупатых карасёў.

Цяпер амаль кожны дзень меў ён на сваім «стале» свежую рыбу. Часцей запякаў яе, як і ўюноў, у прысаку, абгарнуўшы жоўтым балотным мохам. Варыў у чыгунку і рыбную поліўку.

Яшчэ лягчэй стала Ігнасю з харчаваннем, калі пайшлі грыбы. Ён заспеў быў тут нават вяселікі — першыя вясновыя грыбы. Яны, праўда, адыходзілі ўжо — лопаліся, сохлі на карані. Але пападаліся і здаровыя. У Волі іх браць баяліся — каб не атруціцца. Але Ігнась ведаў з кніг, што есці іх можна. Толькі трэба ўмець гатаваць: адварыць, зліць ваду, добра прапаласкаць халоднай вадой, а тады кідай, як і звычайныя грыбы, на скавараду ці ў гаршчок ды стаўляй на агонь. Ігнась еў іх са смакам.

Ужо з чэрвеня знаходзіў ён на выспе і лісічкі, суравежкі, бабкі, нават натыкаўся на баравікі ды краснагаловікі. Усё ішло ў яго ў ход.

Цудоўным лясным дарам былі для яго яшчэ ягады. Першыя паспелі суніцы. Ён напаткаў іх на сваёй палянцы пры лесе. Калі ўбачыў першы раз, то аж рот раскрыў ад радаснага здзіўлення:

іх нібы нехта рассыпаў па траве — чырвоныя, вабныя. А які пах! Еў і шкадаваў, што не мог прынесці такі цуд Хрысціне і свайму Стасіку.

Потым узрадавалі буякі. Ён знайшоў іх купіны пры балоце, між рэдкіх куртатых хвоек. Сінія, прадаўгаваценькія ягады звісалі на пруткіх галінках, што вінаград. Кіславатыя на смак, яны, аднак, не прыядаліся: іх можна было есці і есці.

Наліліся сокам, пацямнелі і чарніцы. У старых хвойніках Ігнась знаходзіў іх цэлыя плантацыі. Калі б тут, на выспе, ён нічога больш не здабыў з яды, на адных толькі чарніцах можна было б, мусіць, пратрымацца летнімі месяцамі.

Пазней на ўзлессях завабілі вока салодкія маліны, за імі чарнелі ў сваіх калючых зарасцях іхныя родзічы, такія ж салодкія, толькі трошкі з гаркавасцю, ажыны…

Знаходзіў Ігнась спажыўнае і на зялёных лугавінках, у траве — шчаўе, снітку, крапіву, дзікі часнок. Для акрасы страў падшукваў шмат якія карысныя раслінкі. Іх жа процьма на Палессі. Толькі не ўсе людзі пра іх ведаюць.

## 4

У буйных кроплях расы, што звісала на вострых кончыках лугавой асочкі, паблісквала, пераліваючыся ўсімі вясёлкавымі колерамі, ранішняе сонца. Яно толькі што ўзышло з-за лесу і падымалася ў сіняе і чыстае, без аблачынкі, неба. Радыя яму, спявалі-заліваліся птушкі.

Сёння Ігнась намерыўся выбраць месца для сваёй сядзібы, на якой можна было б пабудавацца і куды ён забраў бы сям’ю.

Тыя глухія бураломныя нетры, якія напачатку так напалохалі былі яго сваёй панурасцю і непрытульнасцю, ён абмінаў. Шукаў весялейшыя, прасторнейшыя куточкі. І яны знаходзіліся. Асабліва там, дзе дрэвы якой-небудзь адной пароды, нібы згаварыўшыся, збіраліся разам, у свой родавы гурт.

Вунь за нешырокай паласой куп’істага балотца выструніўся таўстастволы беразак — здаецца, аж пасвятлела тут ад чыстай белізны яго стволля. Мусіць, добра ўсё-такі перашэптвацца ў сваёй сям’і бярозам-сёстрам. Кожная — як прыхарошаная маладзіца, што ўскінула на сябе лёгкія, з «разрэзам» зелянцовыя строі, якія бесцырымонна расхінае ветрык-дураслівец, агаляючы яе белыя грудзі.

Доўга тупаў Ігнась па зарослай кусцістым дубнячком ды маладым арэшнікам шыракаватай і ці не самай высокай градзе

Воўчай выспы. Гэтую граду ён назваў сам сабе Лысай гарой. Унізе, у канцы паўднёвага схілу, паміж цёмных хваін бяleліся не старыя бярозы, і лапаталі сваімі круглымі лісточкамі зеленаствольыя асіны, за якімі прасвечвалася гала — куп'істая балаціна. Калі б ачысціць ад хмызу ўвесь схіл — ці ж кепска было б паставіць тут, на сонечным угрэве, хату, разрабіць наўкруга пляц для двара, для саду і агарода?

У адным пералессі вельмі прывабіла яго зацішная мурожная лугавіна з цвёрдым грунтам. Пасярэдзіне яе шырока разрасліся купчастыя ясені, якія, збіўшыся ў адно месца і шчыльна пасплятаўшыся рукамі голля, утварылі як бы адзін вялікі куст. Мільганула нават думка, што нехта яго тут высадзіў дзеля красы — нібы своеасаблівую клумбу. Густалісты ясеневы куст так і клікаў паляжаць у яго цяньку, на мяккай траве. Мусіць, і тут можна было б пабудавацца.

Агледзеўшы ўсе больш-менш цікавыя куткі Воўчай выспы, Ігнась вярнуўся на свой прыстанак. З усяго агледжанага гэтае месца яму здалося найлепшым для сядзібы. Адсюль жа і азярцо блізка. Ды і сама палянка чым кепская? Мусіць жа, недарэмна атайбаваліся тут некалі «мяцежнікі».

Ігнась яшчэ раз прайшоў па ёй. Большая палавіна палянкі — цвёрды грунт, зарослы, праўда, быльнягом ды жоўтымі сухалеткамі. Другая ж, спадзістая, была ўкрыта сіўцом з рыжымі метлючкамі, а ніжэй — кусцістым кругляцом ды цёмна-зялёнай асакой. Па палянцы месцамі сіліліся расці куртатыя бярозкі з хвойкамі. Ад усяго гэтага яе не цяжка ачысціць. Усё — тут ён і будзе абжывацца!

У сваім абходзе палянкі Ігнасю закарцела пашукаць хоць які след «мяцежнікаў». Зарослую дзёрнам шыракаватую яміну, што асталася ад іхнай зямлянкі, Ігнась знайшоў адразу — яе паказаў яму пры наведанні выспы дзед Базыль, які таксама хаваўся ў ёй з сябрамі-паўстанцамі. Калі б добра тут пакапацца, мусіць, можна было б знайсці ад іх і якія памяткі — гэта ж такія былі б цікавыя рэліквіі! Калі-небудзь ён, можа, і зоймецца гэтым. Дзед Базыль хацеў паказаць тады і крынічку, з якой бралі ваду паўстанцы, але не было ўжо калі яе шукаць. Яна павінна быць недзе пры палянцы, у беразе лесу. Толькі ці ж магла зберагчыся праз гэтулькі часу? Пэўне ж, ужо даўно недзе перасохла. Усё ж захацелася знайсці хоць яе месца. Ён даўгавата хадзіў туды-сюды блізкім ад палянкі хмызам. І раптам пад разгалістым кустом каліны, якая так хараша распусціла і, нібы напаказ, павыстаўляла ўверх свае чысцюткія беласнежныя шышакі суквеццяў, кінуліся

ў вочы прымшэлыя, высакавата выкладзеныя роўненькім кружком камяні. Нахіліўся над імі і ледзь не войкнуў ад радаснага здзіўлення: там, ціхенька пабулькваючы, пульсавала крыніца! Глядзеў на яе, не верачы вачам. А калі складзенымі далонямі зачарпнуў вады, яшчэ раз здзівіўся: чыстая, як сляза! Папробаваў піць: халодная, аж у зубы заходзіць! Браў яе ў губы з нейкім новым, раней не ведамым адчуваннем: гэта ж ён п'е з той самай крыніцы, з якой некалі пілі паўстанцы Кастуся Каліноўскага!

Успомнілася, што расказваў пра тое паўстанне дзед Базыль. Стаў ён паўстанцам выпадкова. Яго ўзялі ў рэкруты, у царскія салдаты. Некалькі падвод такіх навабранцаў везлі здаваць у войска. І от калі праязджалі лесам, дарогу падводам раптам перагарадзілі невядомыя ўзброеныя людзі. Усіх канваіраў яны раззброілі і забралі ў палон. А рэкрутаў — зусім маладых хлопцаў — залічылі ў паўстанцы. Сярод іх апынуўся і Базыль Караленя. Туліліся паўстанцы ў лясах. Адтуль нападалі на царскія войскі. Вялася праўдзівая вайна з царом.

Добра запомніўся маладому Базылю Караленю прыезд у «мяцежніцкі» лагер самага высокага паўстанцкага начальства. Усіх ваяроў выстраілі ў шарэнгі на невялікай лясной палянцы. Да іх, навязаўшы да хвояў асядланых коней, падышлі прыезджыя, чалавек шэсць. Паздароўкаўшыся, пачалі гутарку. Пра ўсё, што турбавала. Адкрыта і шчыра. Больш за ўсіх спадабаўся Ігнасеваму дзеду самы галоўны з прыезджых, паўстанцкі верхавод. Быў ён невысокага росту, з пакатым лобам і добрымі светлымі вачыма. Ён здаўся Базылю Караленю зусім маладым хлопцам, ненамнога старэйшым за яго, тады дзевятнаццацацігадовага. Здзівіла яшчэ тое, што вельмі ж проста ён быў адзеты. У шэрай сялянскай світцы, накінутай паверх палатнянай сарочкі, і ў недарагіх, запраўленых, праўда, у скураныя боты штанах. Ды і трымаўся ён проста. Падышоў да паўстанцаў усутыч і пачаў адкрыта, як роўны з роўнымі, гутарыць з імі. Асабліва ўразіла ўсіх, што ён гаварыў не па-польску, як зазвычай пнуліся пшэкаць усе паны і падпанкі, а па-простаму, той жа мовай, якой гаварылі ўсе людзі па сёлах, па-беларуску. Адно гэта вельмі да яго ўсіх прыхіліла. Базылю нават захацелася падысці ды абняць яго за гэта, але пасаромеўся, стрымаў сябе. Паўстанцы ўбачылі, што гэта быў свой чалавек, зусім не фанабэрысты. Ён вельмі даходліва расказаў, чаго павінны дабівацца паўстанцы: вызваліць Беларусь ад расійскага панавання, ад царскага бізуна, каб беларусы самі сталі гаспадарамі на сваёй зямлі. Прыезджыя звалі гэтага маладога верхавода таксама проста — Кастусь. Быў ён нібыта з-пад Белавежскай пушчы, з роду нейкіх Каліноўскіх.

«Мяцеж» трываў нядоўга. Цар паслаў на Беларусь вялікія сілы, і многія «мяцежнікі» палеглі ў няроўных бітвах. Іншыя паўцякалі ў глыб лясоў, дзе думалі перабыць ліхі час. Малады Базыль Караленя з атрадам паўстанцаў апынуўся на Воўчай выспе, да якой уцекачы і праклалі цяперашнюю патаемную лаву на дубовых па́лях.

Як ні дзіўна, гэтае больш чым паўвекавой даўнасці паўстанне рыкашэтам зачапіла было і ледзьве не загубіла і самога Ігнася, унука «мяцежніка» Базыля Каралені.

А ўсё сталася праз Ігнасеву залішнюю, мусіць, цікаўнасць.

Калі вучыўся ва ўніверсітэце, яму вельмі захацелася даведацца паболей пра той «мяцеж». У падручніках па гісторыі гаварылася пра яго не шмат. Ды і трактаваўся ён як польскае паўстанне. Усе яго ўдзельнікі, у тым ліку і Канстанцін (ці Канстанты) Каліноўскі, намерваліся вярнуць самастойнасць быццам бы адной толькі Польшчы. Але гэта зусім не стыкавалася з тым, што расказваў Ігнасю дзед Базыль.

Разабрацца хлопцу памаглі кнігі і дакументы, якія знаходзіў у бібліятэках і архівах. З іх ён зразумеў, чаму ў «польскае» паўстанне пайшлі і беларусы. Яны ж, як і палякі, хацелі аднаго: аднавіць захопленую Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй Рэч Паспалітую, у якую апрача Польшчы ўваходзіла на роўных правах і самастойная беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае (так яна называлася ад наймення адной з заходніх частак Беларусі).

Самастойная беларуская дзяржава… Гэта было яшчэ адно адкрыццё для Ігнася. Усе падручнікі ўбівалі школьнікам і студэнтам у мазгі, што Беларусь у мінулым была лапатная, адсталая краіна, што яна нібыта ніколі не мела сваёй дзяржаўнасці, што толькі «Вялікі Кастрычнік» даў яе беларусам, даў БССР. Аказалася ж, што беларусы з вякоў жылі самі сабой. Спярша ў іх было Полацкае княства, а потым — Вялікае Княства Літоўскае, магутная беларуская дзяржава, слава пра якую грымела па ўсёй Еўропе дый у свеце ні мала ні многа — пяцьсот гадоў. Цэлае паўтысячагоддзе!

Пра яе, старажытную беларускую дзяржаву, пра тое, як некалі беларусы баранілі сваю зямлю ад татараў і немцаў-крыжаносцаў, ад польскіх каралёў і маскоўскіх цароў, Ігнась расказваў сябрам-студэнтам, з якімі жыў у адным пакоі ўніверсітэцкага інтэрната. Расказваў і думаць не думаў, што робіць гэтым нешта благое, крамольнае. Каб ведаў, што з гэтага будзе, і рота, мусіць, не раскрываў бы, трымаў бы лепш язык за зубамі.

У пакоі з Ігнасем былі яшчэ чатыры студэнты. Усе — вясковыя хлопцы. Нічым асаблівым яны не вылучаліся, апроч аднаго — Васі Мароза, які прыехаў вучыцца з-пад Віцебска. Быў ён скрытны, ціхі і вельмі палахлівы. Перад любым выкладчыкам дрыжэў, як асінавы ліст. Калі хто-небудзь рабіў яму самую бяскрыўдную заўвагу, ён увесь сцінаўся і з яго вачэй гатова была скаціцца сляза. Ад гэтага студэнты празвалі яго Слёзкам. Хадзіў Слёзка ўнурана, паволі, баючыся і ступіць не там, дзе трэба. Усе лічылі яго бяскрыўдным хлопцам. Лічылі, ды пралічыліся.

Прыйшоў аднекуль загад: апрача факультэцкай камсамольскай арганізацыі стварыць «ячэйкі» і па аддзяленнях. Сабралі арганізацыйны сход і на аддзяленні, дзе вучыўся Ігнась і яго аднакашнікі па пакоі. Уступаць у камсамол змушны былі ўсе, і студэнты глядзелі на сваё членства ў ім як на нейкую фармальнасць. Таму калі прыйшла чарга выбіраць кіраўніка «ячэйкі», яны, згаварыўшыся, дзеля смеху прагаласавалі за Слёзку.

Слёзка быў у замяшанні. Ён вельмі не хацеў куды-небудзь высоўвацца. Але і адмаўляцца пабаяўся. Так стаў ён верхаводам над студэнтамі аддзялення. Ад камсамольскага «важака» кіраўніцтва патрабавала канкрэтнай работы па камуністычным выхаванні студэнтаў, прынцыповасці ў выкрыцці ўсякіх недахопаў, перажыткаў капіталізму. Гэтыя «перажыткі» ён далёка не шукаў — знайшоў у сваім пакоі. І от на чарговым сходзе пачаў іх «выкрываць». Расказаў сходу, што Слава Зенька бегае да дзевак на птушкафабрыку імя Крупскай, што Раман Чахоўскі любіць многа паспаць і спазняецца на лекцыі, што Міша Скакун не мые ногі, а Ігнась Караленя расказвае ўсім пра даўнейшую беларускую дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае.

З першых трох хлопцаў тады весела пасмяяліся за іх «перажыткі», і толькі таго. Што ж да Ігнася Каралені, дык за яго ўзяліся сур'ёзна. Факультэцкі «важак» камсамольцаў, які сядзеў тады ў прэзідыуме сходу, вынес «справу Каралені» на агульны камсамольскі сход факультэта. Там універсітэцкія ідэолагі накінуліся былі на яго, як каршуны, абвінавачваючы Ігнася ў нацыяналізме. Той-сёй выказваўся за выключэнне яго з універсітэта, але на першы раз яму толькі «поставили на вид». Праз нейкіх паўгода за такія «злачынствы» ўжо садзілі за краты, давалі па некалькі гадоў зняволення. Прытым успаміналі і ранейшыя «грахі». Гэта была адна з прычын, чаму Ігнась зусім кінуў вучобу і вярнуўся ў сваю Волю, каб рабіць на зямлі і быць падалей ад палітыкі.

## 5

Яшчэ адзін раз абышоўшы палянку і ўзбярэжны лес, Ігнась убачыў, што лепшага месца для сядзібы і хацець не трэба.

Адразу ж пачаў акрэсліваць яе план. Каб дакладна ўсё размераць, выразаў з арэхавай палкі мерку, зрабіўшы на ёй сантыметровыя насечкі. Тут яму памог студэнцкі сшытак, разлінееды «ў клетачку».

Месца для хаты намеціў у пачатку палянкі, перад драбналессем, за якім ляжала азярцо. Частку палянкі зойме двор і гаспадарчыя будынкі. За прыгуменнем будзе ў яго сад і агарод. А там, дзе цяпер пусціліся ў рост хмызнякі драбналесся, адкрыецца небу поле — для збажыны, для бульбы, для лёну. Пад поле адвядзе потым і добры рог баравіны, што падыходзіць збоку пад драбналессе. Усё гэта ён павінен яшчэ расчысціць ад лесу, разрабіць.

У галаве — рой думак, думак-мрояў. Нібы пчолы ў вуллі, яны так і варушацца там, так і мітусяцца, тоўхаючыся аб сценкі чэрапа, не даючы Ігнасю заснуць. Ці ж дзіва: ён пачынае ўжо тварыць свой свет, вольны, нікому не падлеглы, такі, які сам хоча. Ужо не ў марах, не ў мроях, не ў снах, як дагэтуль, а папраўдзе.

Барзджэй бы тая раніца, барзджэй бы ўзяць у рукі сякеру. Яны, рукі, ужо свярбяць па ёй — Ігнась нават фізічна гэта чуе. І гэты сверб варочае яго з боку на бок, не дае супакоіцца.

Пачаць намерыўся з хаты. Ён пабудуе тут добрую, з усімі выгодамі сялянскую хату. Яе вымалёўваў Ігнась у галаве яшчэ ў Сібіры і калі варочаўся адтуль дадому.

Але за адно лета паставіць такую, якую задумаў, хату ён не паспее — гэта ж не так проста. Таму будзе будавацца ў два этапы. Спачатку зладзіць невялікую, на тры акны будыніну. А на другое лета, калі пераедзе сюды сям'я, далучыць да яе добры трысцен — з усімі выгодамі.

Звычайна дзерава для зруба нарыхтоўваюць зімой, калі яно яшчэ спіць — тады хата прастаіць доўга. Але ж Ігнасю трэба ўжо сёлета, яшчэ да маразоў, засяліцца, улезці ў хату. Потым, калі тут усё зладзіцца, ён здолее і замяніць бярвёны.

Як будаваць хату, ён ведаў: прайшоў гэтую навуку, калі выштукоўваў з бацькам свой дом-палац, які дастаўся цяпер чорту лысаму.

Спярша яму трэба нарыхтаваць дзерава. Тут, на Воўчай выспе, яго — хоць заваліся. І не трэба абіваць сельсавецкія, а цяпер, мусіць, і калгасныя парогі: ідзі ў лес і выбірай любы ствол, які толькі на цябе паглядзіць.

Хоць, разварушаны мроямі пра сваё жытло, заснуў недзе толькі апоўначы, але адразу, калі пасвятлела ў яго акенцы, прахапіўся.

І от ён ідзе за палянку ў мешаны лес. Па лязу сякеры, што прыладжана на локці левай рукі, слізгае, прабіваючыся праз голле дрэў, ружаватае ранішняе сонца. Яно скача і па сарочцы, па калашынах штаноў, гуляе па твары. Кругом выспеўваюць птушкі. Пераскакваючы з хвоі на хвою, здаецца, больш прыветліва, як дагэтуль, рассыпае перад ім кароценькія чэргі свайго чэкату порсткая сарока-белабока. Усё яму сёння спрыяе, усё прадракае добры пачатак.

Сёння ён павінен высекчы чатыры добрыя дубовыя бервяны — на падрубу.

Пад дуброву, што нагледзеў раней на выспе, Ігнась не пайшоў — адтуль далекавата цягаць дзерава. Дубы ж пападаліся і ў блізкім мешаным лесе. Праўда, няшмат. Бо вядома, якія яны маруды, дубы. Покуль убярэцца каторы ў сілу, покуль пачне цягнуцца ўверх, глядзіш — яго ўжо абступілі з усіх бакоў скорыя на рост бесцырымонныя бярозы ды хвоі, засланілі ад святла, і той памалу марнее, чэзне, а потым і зусім засыхае. Але то там, то там дубы ўсё ж працiскваюцца праз зараснікі дрэў-выскачак, упэўнена адпіхваюць іх у бакі і цвёрда займаюць сваё месца пад сонцам.

Не адразу назнаходзіў Ігнась такіх як хацеў дубоў. То занадта тонкі пападзецца, то залішне тоўсты, то крывы, то яшчэ які. Ды во запыніўся перад адным — роўны, у меру тоўсты і не надта сукаваты. Праўда, уверсе трохі скрыўлены, заламаў калена — мусіць, адступіўся ўбок ад занадта настырнай тоўстай і высокай асіны, што перагароджвала яму голлем дарогу ўверх. Ды Ігнась прыкінуў, што да таго калена яму хопіць гэтага дуба на адну падваліну і, папляваўшы спярша ў адну, потым у другую руку, пачаў яго падсякаць.

Сек не спяшаючыся, нібы расцягваючы ўнутраную радасць ад таго, што ён ужо наяве спраўджвае свой план-мару. Прыемна было глядзець, як адскокваюць у бакі белаватыя трэскі-карацелькі цвёрдага дзерава, як большае і большае паглыбленне ў камлі.

Калі падсечаны з усіх бакоў дуб, ломячы дрэвы і кусты падлеску, з грукатам гахнуўся вобзем, Ігнась з такой жа ахвотай узяўся ацярэбліваць дзерава. Кожны сук адсякаў упрыцірку да ствала, каб бервяно было гладкае, без задзірынак. Потым, адмераўшы сваёй меркай ствол на патрэбную даўжыню, адсек вяршыню-

лішніцу і тут жа пачаў акорваць бервяно. Хоць малазаўважныя зазубрынкі дзерава (такія бываюць толькі ў дуба, а яшчэ хіба ў лазы) і паўядаліся ў кару (мусіць, каб не так адставала), вострая Ігнасева сякера ўсё ж спраўна адлуплівала ды адскоблівала яе ад ствала. Пад акоранае, яшчэ макраватае і слізкае бервяно Ігнась з абодвух канцоў падклаў па добрым аскабалку ад таўсцейшых галін спушчанага дуба — каб сохла. Для гэтага ж павысякаў абапал дрэва і кусты, што засланялі бервяно ад сонца.

Ён не адразу адышоў ад бервяна, любаваўся ім, нават пагладжваў рукой па яго макраватай, не абсохлай яшчэ на сонцы і не абвеянай ветрам паверхні: гэта ж першая падваліна пад яго хату!

Такім жа спосабам Ігнась нарыхтаваў яшчэ тры дубовыя бервяны. Гэты дзень пайшоў у яго на падрубы. Ён так надзёўбаўся сякерай аб жалезнае дзерава дуба, што вечарам ледзь валачыў ногі, ідучы ў свой будан. Затое душа яго спявала: пачатак зроблены!

Назаўтра ўсхапіўся на самым цямку: рупіла барзджэй нарыхтоўваць бярвенне на зруб. Цяпер узяў з сякерай і сваю пілу-аднаручку. Выбіраў у лесе роўныя, у меру тоўстыя хвоі і, падсякаючы з аднаго боку ды падразаючы з другога, валіў долу.

Кожную спушчаную хваіну Ігнась распілоўваў на адмераную даўжыню, ацярэбліваў ад голля і акорваў — спярша сякерай, а потым двухручнай скобляй, якую выштукаваў з добра вытачанай каменем-тачылам жалязякі. Пасля гэтага пачынаў выбіраць сякерай роўненькі паз — каб бервяно шчыльна лажылася ў зрубе на другое бервяно. Гэта, бадай, самая марудлівая ў будаўніцтве работа, яна адбірае найболей часу. Але Ігнась гэтага не баяўся. Ён — мала сказаць з ахвотай — з радасцю браўся за яе і не разгінаўся, покуль не выдзёўбваў у бервяне паз да канца. Бо ведаў: кожнае гатовае для зруба бервяно — гэта набліжэнне яго мары мець сваё жытло, у якое мог бы забраць сваю Хрысціну з Стасікам. Ён сек па дзераве і, бачачы іх перад сабой, паўтараў — спярша шэптам, а потым і ўголас:

— Хрысцінка… Стасік… Люблю… Люблю… Люблю… І мы будзем разам, мае любыя! Разам! Тут будзе ў нас свая хата. Я збудую яе да зімы. Жыў не буду, а збудую! Збудую, збудую!..

Гэтае слова, вырываючыся з грудзей, цвёрда выгаварвалася ў яго з кожным стукам сякеры, ёй у такт:

— Збудую! — І падмацоўваў сякерай: — Гэх! Збудую — гэх! Збудую — гэх! Збудую — гэх!..

Так цэлымі днямі і разносіўся на бязлюднай Воўчай выспе, аддаючыся гулкай яхай у лесе, незвычайны дуэт чалавека з сякерай.

Больш за месяц падрыхтоўваў ён бярвенне. Але не спяшаўся выводзіць зруб: хай яно хоць збольшага падсохне на сонцы. А тым часам вычэсваў дошкі-дылёўкі для вокан, дзвярэй, падлогі ды столі.

## 6

Лета на выспе выдалася гарачае і сухое. З адкрытага, без воблакаў неба цэлымі днямі шчодра прыпякала сонца. Яно прашывалася праз самыя густыя зараснікі, абшнырваючы і асвятляючы сваімі пасланцамі-праменнямі заценены дол з травяністымі купінкамі і ягаднікамі.

Ігнась нават перастаў адзявацца, хадзіў па выспе голы, як маці радзіла: хто яго тут убачыць? Хіба што які звер ці птушка — а ім усё роўна, голы ты ці адзеты. Голы для іх, можа, больш зразумелы, не такі вычварны і страшны — як бы свой.

Дзіўна, калі пачаў хадзіць галяком, то звяры ды птушкі на выспе зрабіліся яму як бы свае, сталі больш блізкія і мілыя. Ён як бы зрадніўся з імі, зраўняўшыся ў становішчы.

У першыя дні Ігнася вельмі гняло тут адзіноцтва: ні з кім ні параіцца, ні абазвацца да каго словам, ні пачуць якую навіну. Адзін адным. Адарваны ад усяго свету. Гэта ж калі б, прыкладам, надарылася там, у краіне, вайна ці яшчэ якая завируха, ён і ведаць бы не ведаў.

Дзікія звяры, птушкі хоць неяк, але памагалі яму развейваць нуду адзіноцтва. Ён стараўся бліжэй з імі сысціся, пахаўрусаваць. Яго цягнула да іх нейкая душэўная патрэба. Гэта ж адзіныя яго суседзі на выспе.

Жывёлу Ігнась любіў змалку. Конь, карова, авечкі, нават свіння з парасяткамі — за ўсімі ён упадаў, з вялікай ахвотай памагаў бацьку дагледаць іх, карміць. Помніцца, які быў шчаслівы, калі зімой карова прыводзіла малое лупатае цялятка. Каб не замерзла, яго на першым часе бралі ў хату. Цяляці падсцілалі сена ў бліжэйшым ад дзвярэй кутку. Калі Ігнась падыходзіў пад яго, яно ўсхоплівалася і, пахістваючыся, станавілася на ногі, вялікія і яшчэ няўклюдныя, няўстойлівыя — здавалася, вось-вось упадзе. Але цялё не падала, неяк утрымлівалася. Ігнась вучыў яго піць пойла: абмакваў у ім пальцы і скоранька закладаў у цялячы рот, тут жа падносячы пад мызачку вядзёрка з тым пойлам.

Вельмі дружыў ён з сабакам і катом. А як быў некалі ўзрадаваўся, калі бацька прынёс з начлегу зайца. Заяц рыўкамі бегаў па хаце, смешна падтульваючы да спіны свае доўгія вушы. Ігнась мерыўся злавіць яго, каб хоць пагладзіць па мяккай шэранькай поўсці, але той спрытна адскокваў, хаваўся пад ложкам. Вельмі шкадаваў Ігнась, проста не знаходзіў сабе месца, калі, прачнуўшыся аднае раніцы, не ўбачыў у хаце зайца: уцёк праз прачыненыя некім дзверы.

Потым у Ігнася паявіўся вожык, якога знайшоў вечарам на дарозе за агародамі і прынёс у шапцы дадому. Для яго зрабіў ён у незанятым кутку гумна невялікую загарадку з палак. Падносіў у бляшанцы малако, кідаў хлеб, лавіў для яго ўсякіх жучкоў, конікаў ды мух, нават розныя ягады даваў. Але ён не вельмі еў усё тое, а нехта сказаў, што гэта можа быць вожычыха і ў яе недзе асталіся дзеці, якія не выжывуць, загінуць без яе. Таму ён выпусціў звярка на волю. Вельмі прываблівалі Ігнася яшчэ вужы. Ён лавіў іх і трымаў у патайным месцы. Часам браў аднаго ці адразу двух за пазуху і паказваў на вуліцы хаўруснікам, а то і маладым дзяўчатам, якія з піскам уцякалі.

Любасць да жывых істот і прывяла была Ігнася на біялагічны факультэт універсітэта. Хацелася глыбей вывучаць жывёльны ды і раслінны свет свайго краю.

Апынуўшыся на Воўчай выспе, ён, можа, яшчэ больш востра, чым тады, адчуў колішні дзіцячы поцяг да ўсяго жывога. Сама доля звязала яго цяпер з насельнікамі гэтага закінутага сярод балот астраўка зямлі.

Першай усцешыла яго порсткая сітавачка, якая пачала падлятаць пад будан. У Волі яе называлі чамусьці сытаўка, хоць яна ніякая не сытая, наадварот, шчупленькая, нават элегантная, белавата-шэрая птушачка з мілай чорнай манішкай на грудках. Занятая вышукваннем розных жучкоў і мушак, яна бесперастанку круцілася перад Ігнасем, раз-пораз лёгенька пераскокваючы з месца на месца і патрэсваючы ўверх-уніз сваім даўгаваценькім хвастком. Ігнась тады стараўся не варушыцца, каб не спужаць яе. А калі птушачка трохі звыклася з ім, пачаў лавіць ёй мух і асцярожна падкідаць — спярша далекавата, а потым усё бліжэй і бліжэй.

— Ну, ну, ідзі ж ка мне, птушачка, не бойся, — зваў яе ціхім і лагодным голасам.

Птушачка скора так асмялела, што падскоквала пад Ігнася і дзяўбла сваёй вастранькай дзюбкай спажыву з яго рукі.

Ігнасю добра было адчуваць, што ён можа загаварыць з жывой істотай, хоць трошкі адвесці душу.

Вельмі ўзрадаваўся ён, калі даведаўся, што ў яго ёсць цікавыя суседзі — цэлая сямейка баброў. Ён і раней бачыў каля рэчкі пагрызы на асінах і вербалозах, вастраватыя пянькі ад дрэў, але чамусьці не падумаў, чыя гэта работа. Толькі калі аднае раніцы ішоў чагосьці паўз рэчку, зусім неспадзявана наткнуўся на бабра. Той цягнуў, ашчаперыўшы пярэднімі лапамі-карацелькамі таўставатую асінку. Убачыўшы перад сабой чалавека, зусім невядомага «звера» на дзвюх нагах, бабёр выпусціў дзераўца з лап і ад нечаканасці застыў на месцы — шарсцісты, цёмна-буры, з маленькімі падтуленымі вушкамі, з-пад верхняй, трошкі раздвоенай губы бялелі два вялікія зубы. Стараючыся не пужаць звярка, Ігнась супыніўся і з цікавасцю пачаў яго разглядваць, чакаў, што ж ён будзе рабіць. Пярэднія, невялічкія, нібы недаразвітыя лапы ў бабра былі апушчаны над жыватом, а з маленькіх вочак раптам пацяклі слёзы: нібы прасіў у яго літасці. Як чалавек. Толькі тады Ігнась заўважыў, што стаяў на бабровай сцежцы. Калі сышоў з яе ўбок, бабёр гопнуўся пярэднімі лапкамі на зямлю і борздзенька пабег вытаптанай ім сцежкай у бок рэчкі. Прайшоўшы следам, Ігнась убачыў пасярод рэчкі заслонены ад лішняга вока лазовымі кустамі велікаваты стажок бабровай хаткі, зладжаны з усякага ламачча. Ну што ж, хай жывуць сабе ў ёй бабры — ён іх не зачэпіць, нават не падумае забіваць ні дзеля мяса, ні дзеля каштоўных шкурак, якія мог бы некалі добра прадаць. Бабры будуць яго добрымі суседзямі.

Быў у яго яшчэ адзін цікавы сусед — барсук. Спачатку Ігнась напаткаў недалёка ад свайго будана, на баравым узлобку сярод рэдкага верасу яго нару. Пры ёй на жоўтым пяску ўбачыў характэрныя адбіткі барсуковых ног — прадаўгаватыя задніх і кароткія пярэдніх. Барсук доўга не трапляўся яму на вочы, бо ўдзень ён звычайна хаваецца ў сваёй нары, з якой выходзіць мышкаваць толькі ўночы. Аднаго разу Ігнась, стаіўшыся ў кустах, усё ж прысачыў яго на змярканні. Спярша з нары паказалася белая прадаўгаватая галава, якой ён пачаў круціць па баках — відаць, прынюхваўся. Ігнася, мусіць, не пачуў, бо ён ляжаў у лазе так, што вецер ішоў з боку нары. Доўга разглядаць сябе барсук не даў, бо адразу ж пасунуўся ў кусты напроці і знік з вачэй.

Яно, калі падумаць, Ігнасю на невялікім востраве можна было лічыць сваімі суседзямі ўсіх яго насельнікаў — адных блізкімі, другіх больш ці менш аддаленымі ад будана. Праўда, не адразу ўдавалася пазнаёміцца з імі.

Часцей натыкаўся ён на зайцоў. Яны здаліся яму не такія пужлівыя, як былі ў Волі. Убачыць яго каторы, адбяжыцца трошкі і сунімецца, паварочваючы галаву назад: што гэта за звер такі на дзвюх нагах?

Сустракаліся Ігнасю і дзікі. Першы раз убачыў іх каля балота, куды яны ішлі цэлай чарадою. Сярод іх былі і вялізныя, з натапыранымі хібамі — мусіць, кабаны, і крыху меншыя — пэўне ж, свінні. З імі беглі і іх дзеці — большыя, ужо ашчаціненыя, пацямнелыя і зусім маленькія, паласаценькія — парасяткі. Потым дзікі траплялiся на вочы не раз — і сем'ямі, і па адным.

На Воўчай выспе вяліся ўсе тыя звяры, што і ў ваколіцах Волі — мядзведзі, ласі, ваўкі, алені, лісы, козы і яшчэ шмат якія. Толькі тут іх было, як ён заўважыў, значна больш: звяроў жа на выспе ніхто не чапаў, ніхто ніколі не паляваў на іх, не забіваў. Тут — праўдзівае іхнае каралеўства.

Вялікім адкрыццём было для Ігнася, што на Воўчай выспе знайшлі сабе прытулак і схоў не толькі даўно знаёмыя яму звяры, а, можна сказаць, і рэліктавыя.

Пайшоў быў ён нечага ў лес. У рэдзенькім падлеску старога таўстастволага асінніку, перамяшанага з калматымі елкамі, зусім блізка пачуў трэск. Прыгледзеўся: нейкая рыжаватая жывёліна ростам з добрае цяля аб'ядала лісце маладой рабінкі, нахіляючы набок галаву і падчэпліваючы кожны лісцік языком. Падкраўся бліжэй: была яна таўсматая, з густой поўсцю, з вялікай шыракаватай галавой і нізкім, нібы ўсечаным ілбом. Што гэта? Ніколі раней не траплялася Ігнасю такое стварэнне. Загадка, дый годзе. Кідаўся ў здагадках. Ды праз якую хвіліну разгадку… убачыў вачыма: збоку, з-за шырокай галінастай елкі, высунулася раптоўна вялізная, як цёмная гара, касматая жывёліна з высокім гарбом і барадою, з кароткімі, увагнутымі ў сярэдзіну рагамі — зубр! Тое, што ўбачыў спачатку, было зубраня. Прыгледзеўшыся, трохі далей заўважыў яшчэ аднаго зубра (ці зубрыху?). Зубрыная сямейка! Вось дык дзіва! Жывыя зубры! А лічылася ж, што ўсе яны ўжо вынішчаны каралямі ды царамі, а найбольш сваімі вандаламі. Ва ўніверсітэце на лекцыях расказвалася, што апошні ў Еўропе зубр быў забіты зусім нядаўна, ужо пры савецкай уладзе. Значыць, не да ўсіх дацягнуліся хцівыя рукі, усё ж зберагліся ў Беларусі зубры! Ён адзін толькі ведае пра гэта, больш аніхто. Але хай лепш не ведаюць.

Зубры згледзелі Ігнася, ды і вухам не павялі: мусіць, не бачылі ў ім пагрозы, чулі сябе тут поўнымі гаспадарамі. Ведама ж, ён іх не зачэпіць, мо нават паспрыяе чым. Гэта ж так здорава, што

яны, беларускія зубры, не вывеліся канчаткова, асталіся жыць на Зямлі!

На Воўчай выспе Ігнася і яшчэ чакалі дзівосы, пра якія ён нават падумаць не мог.

Аднае ночы яго разбудзіў якісьці вельмі гулкі і часты тупат, падобны да конскага. Нібы паўз яго будан па палянцы з боку драбналесся праскакаў галопам атрад нейкіх коннікаў. Няўжо знайшоўся сюды ход?

Не на жарты затрывожыўся Ігнась. Ужо і заснуць не мог. Што, калі гэта які міліцэйскі дазор, у якога сюды свая патайная дарога? Калі яна і праўда ёсць, тады ён прапаў, тады ўсе яго планы ляснуць у адзін міг, яго мроі пра жыццё на волі развеюцца, як сіні дым.

Як Ігнась ні прыслухоўваўся, нічога больш не пачуў. Стаяла нямая перадсвітальная ціша. З «акна» над дзверцамі спакойна глядзелі на яго тыя самыя тры зорачкі, з якімі ён ужо зжыўся і якія зрабіліся яму як свае.

Можа, ён дарэмна спалохаўся таго тупату? Гэта ж магла праляцець чародка аленяў ці яшчэ якіх чацвераногіх насельнікаў выспы, за якімі пагналіся ваўкі. Мусіць, ён сам сябе так наструніў, што ў галаву лезуць усякія страхі.

Усё ж, калі развіднела, паспяшаўся шукаць слядоў. Пачаў агляд з Пагарэлішча (ён так назваў тое блізкае ад яго драбналессе). Скора ўбачыў на роснай траве ўмяціны. Але чые яны, не адразу разабраў. Толькі калі ў адным месцы згледзеў сляды вялікіх раздвоеных капытоў, зразумеў: ласі. Няўжо гэта яны праскочылі ўночы каля яго будана? Ды не, сляды ад капытоў павярнулі ўбок, у лес. А на палянку павялі другія сляды — на сівой ад расы траве выразна цямнеліся зялёныя дарожкі. Хто ж іх праклаў, чые ногі пазбівалі расу? Пільна прыглядаючыся на ўмяціны, пайшоў па гэтых дарожках уперад. Памог яму разабрацца ў слядах крот. На выкінутай ім кучцы зямлі ясна адбіўся конскі капыт! Значыць, самае горшае Ігнасева прадчуванне спраўдзілася: нейкія невядомыя яму коннікі знайшлі сюды дарогу і недзе гойсаюць па выспе! Хто ж яны? Водзячы ва ўсе бакі вачыма, пайшоў па слядах. Але ў лесе яны згубіліся.

Цэлы дзень прахадзіў ён па выспе, шукаючы тых загадкавых коннікаў. Хадзіў асцярожна, не вельмі вытыркаючыся з лесу, — каб заўважыць іх першым. Ды яны як скрозь зямлю праваліліся.

Толькі вечарам, калі апанураны плёўся назад, раптам пачуў збоку конскае фырканне. Хаваючыся за тоўстыя камлі асін і

за кусты падлеску, стараючыся не наступіць на які сухі сучок, пакраўся ў той бок. Скора перад ім адкрылася ў вячэрнім прыцемачку невялікая лугавіна з лазовымі кустамі пасярэдзіне. Ледзьве выйшаў на яе ўскраек, як тут жа, нібы ўджалены, адскочыў назад, пад хвою: збоку, зусім блізка ад сябе, убачыў коней! Але чаго ён спужаўся: яны ж былі не асядланыя, без седакоў. Адхінуўшы хваёвую галінку, асцярожліва выцягнуў галаву. Коні — было іх пяць ці шэсць — мірна пасвіліся на лугавінцы, пры самым лесе. Але чаму яны такія дзіўныя: нейкія нізкарослыя, таўсматыя, усе попельна-шэрай масці, з чорнымі грывамі і хвастамі, з гэтакімі ж чорнымі палосамі ўздоўж спін? Ды гэта ж тарпаны! Дзікія лясныя коні, якія лічыліся, як і зубры, ужо вынішчанымі, прычым даўно. Праўдзівае адкрыццё!

Ён доўга стаяў і любаваўся гэтымі дзівоснымі вяртанцамі з далёкай мінуўшчыны. Ах, як хораша яны глядзеліся, чарнагрывыя крапакі ў перадначным сутонні! Толькі калі памкнуўся падысці пад іх бліжэй, яны, высока пападымаўшы галовы і з цікавасцю гледзячы на нябачаную дагэтуль двухногую істоту, патупацелі — далей ад ліха! — у лес.

Выходзіць, Ігнась апынуўся ў краі няпужаных звяроў, у створаным самой прыродай запаведніку жывёльнага свету Палесся!

Старажытныя волаты-зубры, дзівосныя коні-тарпаны… Адно ўсведамленне, што яны не вымерлі, не вынішчаны хцівай чалавечай рукой, што яны асталіся ўсё ж на Зямлі, што ён адшукаў іх і можа расказаць пра іх зберагальнікам прыроды, хай пакуль што гэта і немагчыма, неяк па-асабліваму падымала яго дух, падвышала перад самім сабой. Ён жа цяпер носіць у сабе вялікую, вельмі важную для людзей тайну.

Але не ўсе сакрэты Воўчай выспы мог так шчасліва разгадаць Ігнась. Былі і такія, што не паддаваліся ніякаму тлумачэнню.

Таго разу ён лёг спаць раней, чым дагэтуль: надта ж знямогся за дзень, абчэсваючы дылі. Заснуў, як толькі даткнуўся галавой да падушкі.

Сон яго быў роўны і глыбокі, можа, нават бестурботны, бо ўсе думкі круціліся вакол прыемнага — будоўлі, якую меўся распачынаць. Ды недзе сярод ночы Ігнася нібы што кальнула: яму здалося, што на яго нехта глядзіць, глядзіць чалавечымі вачыма! Ён нават пачуў нейчае дыханне. Калі знянацку ўсхапіўся з пасцелі, дык у слабым святле прышчэрбленага месяца выразна змеціў, як ад «акенца» над яго прыстаўнымі дзверцамі нешта адхіснулася і, чуваць было, патухкала паўз будан.

Ён кінуўся да выхаду, скоранька адхінуў убок дзверцы і выбег на свой двор. Уперадзе зашастала ў кустах, і ён згледзеў, як нешта цёмнае борздзенька мільганулася ў цьмяным месячным сяйве і знікла ў лазняку. Што ж гэта магло быць?

Раніцай пайшоў паглядзець сляды. Некалькі разоў абышоў будан, пачаў кружыць далей. Асабліва пільна прыглядаўся там, дзе прабягаў яго дзіўны начны госць. Але на траве, на цвёрдым лясным доле, засланым рыжым шыпульнікам, няможна было нічога разгледзець. Толькі на адной пескавой лапінцы ўгледзеў адзін разлапісты воўчы след. Але ж то відочна быў не воўк.

Тады што, што? Што яшчэ можна яму чакаць ад Воўчай выспы, ад Чортавага балота вакол яе? Мо і праўда тут зачараванае месца, прыстанішча нячыстай сілы, злых духаў?

Цэлы дзень хадзіў Ігнась па выспе ў глыбокім одуме, вышукваючы хоць якія сляды незвычайных, невядомых яму істот? Але нічога такога тут не знаходзілася. Ды трывога не пакідала, у галаву лезлі самыя чорныя думкі. Не хацелася і за работу брацца. У яго проста апускаліся рукі. Можа, зусім не трэба яму і думаць тут пра будоўлю?

Але адступаць не было куды. Паступова супакоіў сябе. Пачаў нават у думках сябе ўшчуваць: даволі распускаць нюні! Што, ён не зможа знайсці сродкі, каб абараніцца ад нейкай там нячыстай сілы? Ды і якая можа быць нячыстая сіла? Страшней за чалавека няма на свеце ні звера, ні чорта!

Назаўтра ён зноў пайшоў выдзёўбваць пазы ў бярвенні, ачэсваць дылі. Работа трохі яго заспакоіла.

Усё ж у перапынках зноў хадзіў па лесе: ці не ўбачыць чаго падазронага? Стараўся пападацца на вочы сваім суседзям — чацвераногім насельнікам выспы. Хацелася цясней з імі сысціся. Дзіўна: сярод звяроў шукаў ён сабе апору. Асабліва хацеў зблізіцца з ваўкамі, якія, відаць было, вяліся зусім не далёка ад яго.

## 7

На пачатку жніўня ўзяўся Ігнась ладзіць зруб. Акуратна расчысціў сякерай ад кустоўя пляцоўку, выбраў рыдлёўкай дзёран, добра разраўняў. Потым, вымераўшы сваёй арэхавай меркай даўжыню і шырыню хаты, паўбіваў па яе вуглах калкі і пайшоў шукаць камяні пад падрубы. Добра давялося папацець, пакуль напрыкочваў іх і, пакручваючы, глыбей улажыў на месцы тых калкоў. Затое хата будзе стаяць на камянях трывала, як трэба.

Нямала папатузаўся ён і з падрыхтаванымі на падрубы цяжкімі, як жалеза, дубовымі калодамі, сцягваючы іх на пляцоўку. Тут добра памаглі яму высечаныя з хвояў калодкі-каткі, па якіх ён і папрыкочваў калоды.

Не менш давялося павалтузіцца, калі ўскладаў іх на камяні і звязваў першы вянок. Каб хата была роўная, збіў з арэхавых палак прастакутнік і вымяраў ім вуглы. А каб бярвёны ў зрубе лажыліся на адным узроўні, зрабіў свой «ватэрпас» — роўную абчасаную паляняку з жалабком для вады, што вельмі дакладна паказвала, які канец апусціць ніжэй, які прыпадняць.

За два дні першы вянок з падрубаў быў гатовы. Усё — хата закладзена!

У Волі на закладзіны хаты гаспадар зазвычай склікаў радню і бліжэйшых суседзяў. Гэта ж быў урачысты момант. Тут, на бязлюдным востраве, Ігнасю не было каго паклікаць. Ды ён хоць у думках, але сабраў усярэдзіне закладзенай хаты ўсіх сваіх, хто ў яго астаўся пасля раскулачвання, — найперш Хрысціну з Стасікам, потым цётку Ганну з сынам Валодзькам, суседзяў. Паставіў на абчасанай дылі чыгунок з рыбнай юшкай, паклаў хлебныя сухарыкі, якія спецыяльна пакінуў для гэтага выпадку, прымасціў берасцяную каробачку з чарніцамі. Укленчыўшы, памаліўся Богу, як рабіў у Волі кожны гаспадар пры закладзінах хаты, а потым устаў і абвёў вачыма пакліканых.

— Ну, а цяпер, — сказаў ён уголас, — проша ўсіх за стол! — І, паварочваючыся то ў адзін, то ў другі бок, туды, дзе нібы стаялі ўсе «сабраныя», пачаў гаварыць да кожнага паасобку: — Частуйся ж, Хрысцінка, частуйся, сынок, частуйцеся, цётка Ганна, частуйся, Валодзька, частуйцеся, цётка Настуся…

Ён цяпер часта гаварыў уголас — то да некага з радні, з блізкіх, з добрых знаёмых і суседзяў, якія, нібы жывыя, уставалі перад яго вачыма, то да птушак і звяроў, якія тут сустракаліся, то проста сам да сябе. Гаворка ўголас памагала праганяць нудумаркоту, развейваць цяжкія хмары думак, вымятаць з галавы здрадлівыя сумненні ва ўсім тым, што ён задумаў і што рабіў тут, на Воўчай выспе, куды загнала яго нядоля і дзе знайшоў адзінае месца для існавання.

Помніў Ігнась і яшчэ адзін звычай пры закладзінах хаты. Сюды трэба прынесці што-небудзь са старой хаты, любога смецця ды рассыпаць у падрубах. Дзеля чаго гэта рабілі? Мусіць, каб у ёй заўсёды трымаўся дух сям'і, роду, дух блізкіх і далёкіх продкаў, якія з іх вечнасці нябачна ва ўсім спрыяюць сваім нашчадкам, зычаць ім дабра, шчаслівай долі.

Толькі от як можа ён прынесці цяпер што-небудзь з роднай хаты, пабудованай некалі яшчэ дзедам? І ўсё ж, падумаўшы, знайшоў выйсце. Развязаў у будане свой заплечнік з начыннем і рэштkамі прыпасаў і, перабраўшы, перамацаўшы і абдзьмухаўшы кожную рэч, пераклажыў усё ў зробленую раней лубяную каробку. Мяшок, на дне якога асталася ўсялякая пацяруха ды дробныя аскепкі розных жалязяк, вытрас паміж падрубамі. Усё ж гэта было з дому, з хаты Караленяў. Зрэшты, і тыя хатнія рэчы, якія ён прыцягнуў на выспу, апынуцца потым у яго новай хаце. Так што родавая ніць Караленяў не будзе перарвана і тут!

Звычай казаў яшчэ гаспадару, каб у першым вянку зруба, там, дзе сыпнулася смецце ад старой хаты, ён паспаў адну ноч. Тады яму прысніцца прарочы сон, які падкажа, што рабіць далей. Ігнась і тут пайшоў за звычаем. Ён паклаў на сярэдзіну зруба некалькі яловых лапак і, цяплей адзеўшыся, лёг спаць пад адкрытым небам, якое было ўсыпана зоркамі.

Заснуў скора: надта ж натузаўся за дзень з падрубамі. Як прадракаў звычай, яму і праўда прысніўся ўночы сон. Сон нечаканы, балючы. Нібыта да яго ў зруб прыйшоў бацька. Спачатку ён убачыў яго вочы. Тыя ж добрыя, вельмі ласкавыя, але надта нечым засмучаныя. Убачыў яго нейкія зусім сівенькія валасы, загарэлую залысіну між імі, сетачкі маршчын на лобе і каля вачэй. Бацька глядзеў на яго нібы з дакорам, са шкадаваннем. Счакаўшы, тым жа сваім мяккім голасам сказаў:

— Чаму ж ты не пазваў мяне на закладзіны, сынок? І ўсіх нас? Мы ж так хацелі пабыць з табой разам…

Тут жа, за бацькавай спіной, трошкі збоку Ігнась убачыў і матку. Яна стаяла ціхая, зажураная, але такая ж ласкавая і добрая, як заўсёды. Як радасна зрабілася ў яго на душы ад мацерынага позірку!

Каля маткі ўбачыў і брацiка Косціка. Толькі цяпер родны брацік чамусьці не кінуўся з радасцю да яго, як раней, калі Ігнась прыходзіў дадому з работы ў полі ці з якой паездкі. Стаяў нейкі сцішаны, баязліва тулячыся да мацерынай спадніцы, і з насцярогай, нібы на чужога, глядзеў на яго.

Сцішаныя былі і трохі большыя за Косціка сястрычкі Марылька і Алеська, абедзве з заплеценымі ў коскі банцікамі. У меншай, Алеські, на галаве быў хораша ўкладзены вяночак з палявых красак.

Ігнась не запомніў, ці гаварылі яны што-небудзь. Запомніліся толькі іх сумныя вочы, у якіх ён прачытаў нейкую просьбу да яго, запытанне. Але, каб вымавіць хоць слова, папрасіць нешта, яны

чамусьці не маглі нават паварушыць губамі. І яшчэ адчуваўся ў іхных вачах нейкі нібы затоены папрок яму. Мо за тое, што не ўратаваў іх? Але ж як мог ён уратаваць сваіх родных, калі сам быў гэтакі ж зняволены?

Астаўся ён жывы, не загінуў тады з імі чыста выпадкова.

У Сібір іх везлі са станцыі поездам, у вагонах, якія называлі цялятнікамі. Усе гэтыя вагоны былі біткам набітыя «кулакамі». Праз шчыліны дзвярэй дзьмуў вецер, халодны, сіберны. Каб не замерзнуць, людзі ціснуліся адзін да аднаго, ускідалі на сябе ўсё, што толькі было можна.

Вельмі цяжка пераносіў холад малы Косцік. Усю дарогу плакаў, калоцячыся ад холаду. Як яго ні туліла да сябе маці, чым толькі не ўкрывала, ён не мог сагрэцца: так прастудзіўся. Залажыла нос, пачаў біць кашаль, хлопчык увесь гарэў.

Хоць бы можна было даць папіць яму вару. Толькі дзе яго ўзяць?

На адной станцыі пры супынку поезда Ігнась папрабаваў пашукаць там кіпеню. Яму ўдалося выбавіцца з вагона. Хацеў неўпрыкмет прашмыгнуць з кацялком паўз канваіра ў станцыю. Ды той заўважыў уцекача і, гасячы яго па плячах прыкладам вінтоўкі, пагнаў зноў у поезд. Толькі не ў той вагон, адкуль Ігнась выбег, а ў бліжэйшы да канваіра. Ігнась пачаў даказваць, што гэта не яго вагон, але канваір і слухаць не хацеў.

— Ану лезь, куда тебе говорят!.. Пошёл, пошёл!

Штурхаючы прыкладам вінтоўкі, канваір увапхнуў яго ў чужы, здаецца, яшчэ больш перапоўнены цялятнік.

Ігнась меркаваў пры першым жа зручным выпадку перабегчы да сваіх. Ды сталася нespадзяванае: частку вагонаў адчапілі, пакінуўшы на месцы. Акурат у адным з адчэпленых вагонаў былі Каралені. Вагон жа, у які ўвапхнуў канваір Ігнася, паравоз пацягнуў далей. Як выявілася, эшалон з «кулакамі» быў вельмі перагружаны, і ў паравоза неставала сілы цягнуць яго. Меншую палавіну вагонаў, што асталася стаяць на станцыі, павінен быў забраць нейкі іншы транспарт.

Ігнась апынуўся сярод чужых людзей, што сядзелі і ляжалі пры сваіх клумках, гэтак жа тулячыся адзін да аднаго, накрываючыся чым папала, каб хоць трохі сагрэцца. Тыя ж дзіцячыя енкі, плач, буханне ад кашлю, той жа смурод, тая ж безвыходнасць.

Недзе пад раніцу поезд, грукнуўшы буферамі, супыніўся. Забразгала завала дзвярэй, і яны шырока расчыніліся. У прахоне

стаяў канваір у вайсковым бушлаце, у шапцы-вушанцы, на якой блішчала рубінавая зорка, з вінтоўкай за плячыма.

— Всем вылезать — приехали! Да поживее!

Ігнась быў пры самых дзвярах, таму першы саскочыў з вагона. Даючы дарогу людзям, ён адступіў на ўзбочыну і адразу апынуўся па костачкі ў снезе — і калі ён тут выпаў?

Пашукаў вачыма станцыю, але на гэтым баку не ўбачыў аніякіх пабудоў. Мо яна на другім баку дарогі? Ды калі поезд, выгрузіўшы ўсіх з вагонаў, пачучухкаў далей, адкідаючы назад белую грыву дыму, Ігнась і там не ўбачыў ні станцыі, ні хоць бы якой хацінкі ці будкі. Значыць, проста на снег выкінулі канваіры «кулакоў»!

На ўсім палатне чыгункі як кінуць вокам расцягнуўся жывы ланцуг людзей з клумкамі і хатулямі — мужчыны, жанчыны, старыя, прыгорбленыя дзядулі, бабулі, дзеці. Найбольш было дзяцей — ад самых маленькіх на руках у жанчын да падлеткаў. Сем'і ж тады былі вялікія, мнагадзетныя! Каля Ігнася стаяла нізенькая жанчынка з чатырма малымі дзецьмі. Адно, увязанае ў нейкія посцілкі, яна, тупаючы на месцы, патрэсвала на руках — суцішвала ад плачу. Трое астатніх — дзве дзяўчынкі ў вялікіх ваўняных хустках, перакрыжаваных на грудзях і завязаных на вузлы за спінамі, і маленькі, гадоў трох хлопчык, гэтак жа ўхутаны з галавы да ног клятчастым, відаць, з старой коўдры, рызманом, перавязаным вяроўчынай, як світка. Тулячыся да мацерынай світкі і турзаючы за крысо, ён бесперастанку румзаў:

— Мама, дамоў хоцу-у-у! Мама, дамоў… Дамоў хоцу-у-у…

Людзі як вылезлі з вагонаў, так і тоўпіліся на месцы, не ведаючы, што рабіць, куды кінуцца. Па абодва бакі чыгункі стаяў у ранішнім паўзмроку маўклівы, непрыветлівы, пракаветны лес — тайга. Толькі ў адным баку ў глыбіню лесу ўкліньвалася прадаўгаватая палянка. Усе скіравалі туды вочы.

Першыя апомніліся мужчыны ў дальнім канцы шарэнгі. Пачалі таптаць снег, праторваць на палянку дарогу. Да іх далучыліся і ўсе іншыя мужчыны і хлопцы-падлеткі. Ігнась таксама ўзяўся памагаць ім.

Калі дарога была пракладзена, на сярэдзіне палянкі пачалі раскладваць агні — кожная сям'я свой. Пры агнях узяліся ладзіць буданы з голля і хваёвых жардзінак, якія выломлівалі рукамі, — сякер жа ніхто не ўзяў, ды іх і не далі б з сабою браць: ці мала што каму ўздумаецца?

Ігнась падручыўся памагчы той жанчынцы з чатырма дзецьмі. З ёй былі яшчэ свёкар, свякруха і зусім старая, з запалым, мусіць,

бяззубым ротам бабулька. Удвух з свёкрам той жанчынкі яны з горам напалам зладзілі невялікі будан, накідаўшы на яго колькі было можна зялёнага хваёвага галля і добра прыціснуўшы выламанымі сухастоінамі. Усярэдзіне будана, на подзе, таксама густа панакідалі галінак, паверх якіх жанчыны паслалі прывезеныя з сабой посцілкі ды ўсякія лахманы.

Як перабыць халады ў такой «хаце», Ігнась не ўяўляў. Адно, што можна пагрэцца каля агню. Але ж спаць пры ім не будзеш — адзін бок прыпячэ, а другі ад холаду зойдзецца. Холад холадам. А як быць з ядой? У кожнай жа сям'і прыпасаў — на тыдні два ці тры, ну можна расцягнуць на месяц, не болей. А чым харчавацца далей? Выратуешся ад холаду, а як выратавацца ад голаду ў гэтай глухой таежнай пустэчы?

Разважаючы так, Ігнась зразумеў: усіх іх наўмысна выкінулі сюды на пагібель. Гэтакім спосабам выконвалася ўсеагульная дзяржаўная дырэктыва: «Ликвидировать кулаков как класс».

Значыць, «ліквідацыі» падлягала і сям'я Караленяў. Толькі яе і ўсіх, што асталіся ў вагонах на станцыі, быў прачуў Ігнась, павінны адправіць баржай па рацэ на поўнач. Яго родных гэтак жа сама выкінуць недзе на снег, на мароз. Зразумеўшы гэта, Ігнась наважыў вярнуцца па шпалах на тую станцыю, дзе яны асталіся ў адчэпленым вагоне: можа, ён знойдзе іх, і яму з бацькам разам удасца ўратаваць сям'ю.

Са страхам паглядзела на яго жанчынка з дзецьмі, калі ён сказаў, што пойдзе шукаць сваіх: яна ж так спадзявалася на яго помач у бядзе! Ды і яму было шкода гэтых выпадкова напатканых сяброў па няшчасці. Былі яны таксама з Беларусі, з таго ж, што і ён, раёна. Гаспадар жанчынкі, бацька чацвярых малых дзяцей, калі пачалі зганяць усіх у калектыў, як расказала бабулька, пайшоў у лес, «у бандыты», і яго забілі чырвонаармейцы. Гледзячы на гэтых асуджаных на пагібель бездапаможных дзетак, Ігнась адначасна бачыў перад сабою і сваіх малых сястрычак і брацікa, якія трапілі ў такую ж бяду, і нічога іншага не мог прыдумаць, як ісці шукаць іх: калі гінуць, дык ужо разам са сваімі.

Колькі дзясяткаў (ці соцень?) кіламетраў яму трэба трапаць да той станцыі, ён не ўяўляў. У кожным разе — нямала: гэта ж амаль ноч ішоў адтуль поезд. Але колькі б ні было, ён пайшоў бы ўсё роўна. Сядзець на адным месцы і чакаць з мора пагоды — не ў яго натуры.

Колькі сутак ішоў Ігнась па шпалах, не ведаў. Ішоў, ішоў і ішоў — снег не снег, вецер не вецер. Калі зусім пакідалі сілы і марыў сон, падаў у адхоне ў снег і тут жа засынаў. Усхопліваўся, калі яго да самых костак прабіраў холад. І ішоў далей.

Калі ён перабіраў нагамі шпалы, туды-сюды грукаталі доўгія саставы цялятнікаў. Кожны раз, пачуўшы набліжэнне поезда, Ігнась сыходзіў з палатна чыгункі ў бліжэйшы лес і, схаваўшыся ў хвоях, чакаў, пакуль састаў прамчыць далей. Інакш адтуль маглі заўважыць уцекача і далажыць куды трэба: адусюль жа цікавалі за ўсім вочы «органаў». Можа, на чацвёрты, а можа, на пяты дзень пад вечар перад ім замаячыла знаёмая вадакачка той станцыі. Але там Ігнась не ўбачыў ужо тых адчэпленых вагонаў. На пуцях стаялі іншыя эшалоны — як відаць, з новымі партыямі «кулакоў». Адзін з іх якраз «дагружалі» людзьмі, якіх прывозілі знекуль на станцыю на сялянскіх падводах, — іх на прыстанцыйным пляцы грувасцілася, як на нейкім вялікім кірмашы. Усюды, куды ні глянь, пярэсціліся людзі з клумкамі — мужчыны, жанчыны, дзеці, старыя. І там, і тут іх падштурхоўвалі прыкладамі вінтовак шматлікія канваіры. Дзіцячы плач зліваўся ў адзін суцэльны гул, які разрываў сэрца. «І гэтак жа цяпер на кожнай станцыі», — падумалася Ігнасю. Як быццам зрушылася з месца ўся Расія, увесь вялізны Савецкі Саюз.

Каб не папасціся на вочы энкавэдыстам, Ігнась адышоў на ўскраек прыстанцыйнага паселішча з нізкімі драўлянымі дамкамі, пачаў асцярожна распытваць сустрэчных пра вагоны-цялятнікі, якія ў панядзелак (а гэта было акурат у панядзелак) адчапілі ад поезда. Яму ўдалося даведацца, што людзей з тых адчэпленых вагонаў перавялі на баржу і што катар пацягнуў тую баржу ўніз па рацэ, прытоку адной вялікай сібірскай ракі, якая цякла на поўнач, у Ледавіты акіян.

На прыстані яму паказалі той катар. Ды на ім ён нікога не ўбачыў. Яму даўгавата давялося пасланяцца па беразе, пакуль перад катарам паявіліся два яго гаспадары ў адмысловай матроскай форме. Падбег пад іх. Ды яны нічога не маглі сказаць, куды завёз гэты катар «кулакоў»: абодвух толькі што прызначылі на яго замест ранейшай каманды, якую чамусьці звольнілі.

Мусіць, так нічога і не даведаўся б Ігнась пра сваіх, калі б не выпадковае знаёмства. З былым вартаўніком на прыстані, які недалёчка ад яе дажываў у адзіноце свой век у старой і не надта дагледжанай хаціне. Гэта быў моцна прыгорблены, сівенькі, як лунь, дзядок. Ён, прыгнуўшыся, сядзеў у вечаровым суцемку пры дашчаным плоце на лаўцы. Да пляча быў прыхінуты даўжэйшы за яго, да бляску вышмулены кій.

— Здрастуйце, дзядуля, — суняўся каля яго Ігнась. — Можна прысесці?

Дзядок выпрастаўся, паглядзеў на яго сваімі бляклымі вачыма пад навіслымі брывамі.

— Садись. Места не просидишь.

Ён трошкі пасунуўся з кіем убок, вызваляючы на лаўцы месца, і зноў апусціў галаву.

— Аддыхаем, дзядуля? — каб неяк раскатурхаць старога, папытаў Ігнась.

Дзядок не адказаў. Але Ігнасю рупіла сваё.

— Дзядуля, мо падказалі б, дзе тут можна пераначаваць?

Дзядок разагнуўся, пільней глянуў на Ігнася.

— Что это ты раздекался, друг ситный? Не литвин ли будешь?

Ігнась спярша быў сумеўся ад нечаканасці, але тут жа адказаў:

— Ну але, я літвін. Толькі цяпер мы завёмся беларусамі.

Дзядок прыкметна ажывіўся, у вачах нібы нешта бліснула.

— Раз так, могу пустить в свою хибару. Если не побрезгуешь. Иди за мной.

Абапіраючыся на кій, дзядок устаў і, моцна прыпадаючы на адну нагу, пачыкільгаў у двор.

Хатка была цесная і цёмная, з двума толькі акенцамі.

Пасадзіўшы Ігнася за невялічкі столік, дзядок дастаў з печы чыгунок з добра ўпрэлымі крышанамі бульбы, паставіў перад госцем. Да бульбы прынёс яшчэ аднекуль у місцы качанчык кіслай капусты.

За гэтай простай ядой яны памалу разгаварыліся. Дзядок, як аказалася, таксама быў «літвінам». Чаму і пусціў да сябе Ігнася. Як земляка. Яго бацька — родам з-пад Барысава. Выслалі бацьку ў Сібір за тое, што быў замешаны ў нейкім «мяцяжы». «Ды гэта ж у тым самым, што і мой дзед Базыль», — падумалася Ігнасю. Мо і сустракаліся дзе разам? Услед за бацькам, расказаў дзядок, пусцілася ў Сібір, як тая дзекабрыстка, і маці разам з малым дзіцем — іхным сынам: з ім — цяперашнім гаспадаром хацінкі. Як гаравалі бацькі ў Сібіры, як сам тут жыў, дзядок расказваць не захацеў. Сказаў толькі, што ў бацькоў была вельмі цяжкая работа на станцыі — вечныя загрузкі і разгрузкі вагонаў. Яны і звялі абаіх без пары са свету. Дзядок з маленства астаўся адзін адным.

Яму заўсёды рупіла хоць разок з’ездзіць у сваю «Літву», у бацькаву вёсачку пад Барысавам. Але і для яго, сына ссыльных «мяцежнікаў», дарога туды была перакрыта.

Ён папрасіў Ігнася расказаць пра іхную «Літву». Яму хацелася пачуць, як жылі і як цяпер жывуць на яго радзіме людзі, які там клімат, якая прырода.

Калі Ігнась расказваў, гаспадар лавіў кожнае яго слова. Вочы дзядка свяціліся, сам ён нібы ажыў, скінуўшы з сябе ранейшую панурасць, абыякавасць да ўсяго. Даслухаўшы госця, сцішана, як бы самому сабе пачаў паўтараць пачутыя словы:

— Жыта… Калыска… Кужаль… Бусел… Крынічка… Журавіны… Боже мой, ведь это всё мамины слова! Когда ты рассказывал, я как будто услышал свою мать, своего отца. Они точно так говорили. Я был мальчиком, когда их не стало. Потому забыл уже их говор, наш литвинский, или, как ты называешь, белорусский язык. Забыл самое дорогое. Я сделался здесь россиянином…

Дзядок расказаў, што яго бацька і маці вельмі тужылі па Беларусі, па зямлі, на якой яны гаспадарылі. Сваю тугу па радзіме маці выказвала ў песнях, якія спявала за прасніцай.

— Для прядения она где-то доставала шерсть, которую называла «вовна»… нет, вот так — «воў-на»… Песни ее были протяжные, жалостные. Я очень жалею, что не запомнил их… В памяти осталась мелодия только одной песни.

Ён падняўся з зэдліка і прынёс старую, пашарпаную скрыпачку.

— Отец иногда играл на ней. А как заболел чахоткой, забросил. Теперь я, когда разжалоблюсь, играю… Вот эта мелодия. Правда, запомнились только первые слова песни…

Ён ізноў прысеў на зэдлік перад Ігнасем, прыклаў да пляча скрыпачку, схіліў галаву і паверх яе пацягнуў смычком:

Ты ж мая, ты ж мая
Перапёлачка…

Ігнась ведаў гэтую песню і адразу ж, памагаючы дзядку, падхапіў яе:

Ты ж мая, ты ж мая
Невялічкая…

І, паўтарыўшы яшчэ раз, зацягнуў далей пад гукі скрыпкі:

А ў перапёлкі
Ды галоўка баліць.
Ты ж мая, ты ж мая
Перапёлачка…

Дзядок з усёй стараннасцю падыгрываў Ігнасю, і ў яго вачах — відаць было і ў прыцемку хаткі — блішчалі слёзы. Калі песня скончылася, ён устаў і, паклаўшы на зэдлік скрыпачку, захадзіў, кульгаючы, па хатцы. Туды — сюды, туды — сюды…

Толькі яго доўгі кій ківаўся над галавой. Трохі заспакоіўшыся, дзядок суняўся перад Ігнасем:

— Спасибо тебе, сынок, что ты вернул мне мамину песню. Теперь я буду напевать ее со словами, утешать ею свою душу… И умирать будет мне с нею легче…

Са шчырай спагадай выслухаў дзядок і Ігнася, які паведаў яму, як апынуўся тут, у Сібіры, як адстаў ад сваіх, як цяпер іх шукае. Калі расказаў, што яго бацькоў з усёй сям'ёй кудысьці павезлі ў гэты панядзелак на баржы, дзядок ізноў захадзіў па хаце, пастукваючы кіем аб падлогу. Тупаў і маўчаў, тупаў і маўчаў… Доўга тупаў. Доўга маўчаў. Потым суняўся перад ім і сказаў са спачуваннем у голасе:

— Больше не ищи их, сынок, не ищи. Ты уже их не найдешь, их нету…

Тое, што паведаў дзядок, ашаламіла Ігнася. Баржу, на якую загналі «кулакоў» з адчэпленых у панядзелак вагонаў і якую пацяглі катарам па рацэ далей на Поўнач, затапілі на глыбокім месцы… разам з людзьмі. Каб ніхто з «кулакоў» не мог уцячы, калі баржа апускалася ў ваду, на дно, іх замкнулі ў жалезных трумах-клетках. Пра ўсё гэта дзядку як свайму расказалі па сакрэту на прыстані, дзе ён да апошняга часу рабіў вартаўніком («Я же вынужден был служить этим извергам»). Дзядок расказаў далей, што ў падобных выпадках энкавэдысты ўсіх, каго пасылаюць на гэтакае злачынства, пасля арыштоўваюць і нібыта «ліквідоўваюць» — каб не аставалася ніякіх сведак, каб усё было «шыта-крыта» і савецкія людзі спалі спакойна. У канцы дзядок толькі папрасіў Ігнася нікому не расказваць, хто яму пра гэта паведаміў.

— Хотя я уже ничего не боюсь: мне все равно умирать.

Не помнячы сябе, Ігнась хадзіў пасля гэтага куды вочы глядзяць. Ён блізкі быў да таго, каб самому ўтапіцца.

Цяпер не прыпомніў бы нават, дзе і калі яго затрымалі міліцыянеры, — так яму было тады ўсё роўна.

Апомніўся ўжо толькі ў канцэнтрацыйным лагеры, куды яго запраторылі як уцекача, як бяспашпартнага бадзягу.

Калючы дрот лагера, вартавыя вышкі з кулямётамі, злыя, чалавеканенавісныя аўчаркі, гатовыя разарваць любога на шматкі, штодзённая непасільная праца на лесапавале, крыкі і бізуны канваіраў, халодныя нары баракаў, прасвістаных наскрозь лютымі сібірскімі вятрамі, вечны голад, які ніколі не заспакойвалі скупыя пайкі хлеба і бляшанкі баланды, — усё гэта Ігнась зведаў напоўніцу.

Лагернымі гадамі, гадамі бясконцых пакут і здзекаў, Ігнася трымала, не давала яму зламацца і ўпасці духам толькі перад самім сабой пастаўленая з першых дзён зняволення цвёрдая мэта: уцячы. Дагэтуль усё, што ён ні задумваў, выконваў. Выканае і цяпер! Хоць гэта і неверагодна цяжка. Вырвацца з ачэпленага калючым дротам канцэнтрацыйнага лагера, з-пад звышпільнай яго аховы ды ўцячы з закіданай непраходнымі снежнымі гурбамі бяскрайняй Сібіры ніхто з зэкаў не мог і падумаць. Але Ігнась насуперак усяму наважыў вырвацца з апрыкрай няволі. Рыхтуючыся ўцякаць, ён кожны дзень адшчыпваў па маленечкім кавалачку ад скупога хлебнага пайка, высушваў яго і запіхваў найдалей у складкі і пад латкі сваёй зэкаўскай куфайкі. Бо голад у бясконцай дарозе з Сібіры, казалі, быў самай непераадольнай перашкодай пры ўцёках.

Спосаб выбавіцца з лагернага пекла ўбачыў Ігнась, калі яго з групай зняволеных затарабанілі машынай на чыгуначную станцыю загружаць вагоны звезеным туды аднекуль дробным вугалем. Маланкай мільганулася ў галаве думка: гэта ж можна зашыцца ў вагоне пад вугаль! А там хай вязе цябе поезд на вольную волю!

Беручы з насыпанай каля адхону груды, шуфель за шуфлем кідаў Ігнась з сябрамі па няволі за дашчаныя барты вагона вугаль і неўпрыкмет вадзіў навокал вачыма: як укінуцца туды самому? Але незаўважана не ўскочыш: за спінамі ж — канваіры. Ды і на вачах у сяброў-зэкаў рабіць гэта было нельга: а раптам падаткне каторы канвою, каб выслужыцца? Ці проста прагаворыцца ненаўмысна?

Менш вачэй скіроўвалася на вагоны ў перакур і перад пачаткам работы, калі раздавалі шуфлі.

Ды каб і ўдалося неўпрыкмет ускочыць у вагон, схавацца пад вугалем, дзе гарантыя, што цябе адтуль не выпаруць? Ігнась з жахам назіраў, як канваіры з усяго маху пратыкалі кожны нагружаны вагон доўгімі вострымі штырамі-пікамі. Значыць, не адзін ён мерыўся гэтакім спосабам вырвацца на волю. І, значыць, трэба добра падумаць, перш чым лезці ў вагон пад вугаль.

Асабліва прыгнёў яго, зняверыў у намеры адзін выпадак. Пратыкаючы аднаго дня тымі вострымі штырамі вугаль, канваіры напароліся такі на зэка. Загадалі разгрэбці вугаль і дастаць няўдачлівага ўцекача. Калі яго выбавілі адтуль, зэкі ахнулі: гэта быў Коля Колас, ціхі, маўклівы хлапчук гадоў чатырнаццаці, якога ўсе звалі Каласок, — ці то ад прозвішча, ці то ад тых каласкоў, якіх ён назбіраў пасля жніва на калгасным полі, каб

маці магла зварыць малым дзецям зацірку, і за якія яго засудзілі, запраторыўшы сюды, у Сібір. Казалі, дома ў яго асталася толькі маці з дзвюма малымі Колевымі сястрычкамі. Коля быў адзіны ў сям'і мужчына. Тут, у лагеры, ён рабіў усё, што загадвалі. Здавалася, што ён звыкся ўжо, змірыўся са сваёй злой доляй. Аж, бач, не змірыўся. Коля быў яшчэ жывы. Ён канвульсіўна ўздрыгваў усім целам і закатваў — недзе аж пад лоб — вочы. Страшна было глядзець на бялкі, якія асабліва выразна бялелі на засыпаным чорным вугальным пылам твары. Увесь ніз жывата быў у хлопца мокры ад крыві — таксама чорнай ад вугальнага пылу.

— Ну, есть еще охотники прокатиться на поезде? — абвёў вачыма зняволеных старшы з канваіраў, якія сышліся паглядзець на здарэнне.

Зняволеныя, абступіўшы смяртэльна параненага хлопца, з якім толькі што кідалі вугаль, панура маўчалі. Маўчаў і Ігнась. У яго, як, мусіць, і ва ўсіх таварышаў-зэкаў, ныла душа па хлопцу, з якім іх звязала і во цяпер разлучыла доля.

Жудасна было ўявіць сябе на яго месцы. Але адступацца ад свайго Ігнась не думаў: лепш памерці, чым жыць у няволі. І ён шукаў зручнага моманту.

Калі чарговым разам раздавалі зняволеным шуфлі, Ігнась «пад шумок» барзджэй кульнуўся цераз борт платформы ўсярэдзіну. Прыслухаўся: не, ніхто не падымаў шуму. Значыць, не змецілі.

Звычайна канваіры, як ён заўважыў, абтыквалі насыпаны вугаль больш па кутках і па баках платформы, таму Ігнась, скурчыўшыся, лёг у самай яе сярэдзіне.

І от па драўлянай падлозе платформы, па яго плячы, па галаве, па руках і нагах загопалі цвёрдыя кавалкі вугалю. Іх грукат глушыў усё на свеце, горкі і ўдушлівы вугальны пыл забіваў дых. Калі загрузілі платформу даверху, ён не мог паварушыцца пад гарой вугалю. Але ўсё гэта выцерпеў бы Ігнась. Толькі б не дапароліся да яго, як-небудзь абмінулі.

Калі наверсе затупалі, зашасталі вугалем канваіры, пранізваючы пікамі да самага поду вугальную груду, Ігнась увесь сцяўся і шчыльней утуліў у плечы галаву. Спачатку пікі чуваць былі далей ад яго, а потым зашоргалі зусім блізка. Вастрыё адной з іх слізганула па яго локці, другая грукнула аб под платформы зусім недалёка ад нагі. А пасля нешта так моцна разанула па патыліцы, што Ігнась страціў прытомнасць.

Ён не ведаў, колькі праляжаў без памяці. Калі апрытомнеў, платформу, пагойдваючы, мерна падкідвала на рэйках, грукацелі

ў разгоне колы, стукаліся буферы. Няўжо ён уцёк, няўжо выбавіўся з энкавэдысцкіх абцугоў? Няўжо вязе яго поезд на волю?

Вугальная гара па-ранейшаму ціснула на яго, не давала дыхаць. Таму ён з вялікім намаганнем разгроб вугаль і вылез наверх. Была ноч. Цёмнае неба ўсыпалі яркія і, здавалася, буйнейшыя, чым звычайна, зоркі. Справа над галавой ён знайшоў коўш Вялікай Мядзведзіцы. А вунь і Палярная зорка — як спакойна яна паміргвае! Значыць, поезд ідзе правільна, на захад. Вязе яго дадому!

Выскокваць ён не спяшаўся: хай чым далей адвязе адсюль. Але пакінуць платформу Ігнась павінен да яе разгрузкі. Інакш вельмі просценька можа зноў папасціся ў лапы энкавэдыстаў.

Толькі калі здалёк убачыў агні нейкай станцыі, сказаў сабе: пара! Злез з платформы на буфер, які так і хадзіў пад нагамі, і калі, не даязджаючы станцыі, поезд пачаў зніжаць хуткасць, скокнуў у цемру. Што будзе, то будзе…

Той сон у першым вянку зруба Ігнась разгадаў проста: недзе падспудна тачылася ў яго душы віна перад бацькамі, перад яго роднымі. Віна за тое, што ён адзін выратаваўся, што ён жыве, радуецца сонцу, а яны гэтае сонца ўжо ніколі не ўбачаць, іх праглынула вечная цемра.

Ігнась стараўся адганяць цяжкія думкі пра гібель сваіх родных. Не лажыцца ж і яму жывым у магілу ўслед за імі? Тым болей, што на ім цяпер клопат пра сваю сям'ю — пра Хрысціну з Стасікам ды і пра цётку Ганну з браценікам Валодзькам. Яны ж усе апынуліся цяпер у калгасным прыгоне. Жывому трэба думаць пра жывое.

## 8

Будаўніцтва паглынула яго з галавой. Кожнай раніцай ледзьве прачынаўся, як ужо бег на сваю будоўлю. Не вылазіў адтуль дацямна. Адлучаўся толькі, каб згатаваць якую яду і прагнаць голад.

Акуратненька выбіраў-выдзёўбваў сякерай чашкі вуглоў, роўна ўсцілаў вянкі зруба мохам, які загатовіў загадзя, шчыльна ўкладваў паверх новыя бярвёны.

Самае цяжкае было ўсцягваць бярвёны наверх. Нават удвух з бацькам, калі будавалі свой дом, добра даводзілася папатузацца над гэтым. А тут ён адзін, ніякай ні ад кога помачы, ніякай

падмогі. Але ўсё ж прыладзіўся неяк успіхваць тыя бярвёны на зруб, прыстаўляючы да яго розныя падстаўкі, на якія клаў спярша адзін канец бервяна, а потым — другі. І так вянок за вянком.

Тым часам на выспу непрыкметна падкралася восень. Ад пажоўклых бяроз, ад залатога полымя клёнаў, ад ясных ясеняў мякка і хораша асвяцілася наваколле.

Рыхтаваліся ў адлёт птушкі. Ігнась бачыў, як збіраліся ў чародкі кулікі. Яны з шумам ускідваліся над шэрымі балотнымі купінамі і зноў садзіліся недзе за лазнякамі. Адразу прыпыняў ён сваю работу, калі чуў уверсе адрывістыя крыкі жураўлёў. Задраўшы галаву, глядзеў, як ішлі яны не вельмі роўным, пераменлівым клінам высока ў паднябессі, ішлі спакойна, размерана — строга на поўдзень, нікуды не зварочваючы. «Крлн, крлн, крлн» — так і ляцела згары, западаючы яму ў душу.

Многа гáласу рабілі дзікія гусі. Яны малымі і вялікімі чародамі прылятаілі аднекуль вечарам і, пакружыўшыся, апускаліся на астраўныя азерцы, — бліжэйшае, якое Ігнась назваў Крынічнае, і больш аддаленае, што расплывалася пры балоце ад рэчкі — Прыбалотнае. Гусі заляталі сюды начаваць і нечым пажывіцца перад вялікай дарогай. Да Ігнася даносілася шумнае лопанне іхных крылаў па вадзе, іхныя ўскрыкі. Раніцай, яшчэ нацямку, гусі з гогатам падымаліся і, пастроіўшыся, як і жураўлі, клінам, ляцелі далей — у вырай. Ён доўга слухаў іхныя развітальныя крыкі, якія ўсё цішэлі і цішэлі і ўрэшце прападалі ў затуманеных далячынях.

Птушыныя адлёты наганялі на Ігнася тугу, у яго апускаліся рукі, не хацелася нічога рабіць. Адзін на бязлюдным востраве, ён яшчэ больш адчуў сябе адзінокім. Нават птушкі пакідаюць яго.

Але мімалётная нуда ўсё ж адступала ад Ігнася, і ён зноў браўся за работу. Работа суцяшала яго, бо ён разумеў, што ад яе залежыць усё. Яго доля. Доля сям'і.

А работы яму было яшчэ тут процьма. Паставіць да зімы хату, парабіць самае патрэбнае начынне, назапасіць яды і разрабіць поле для веснавой сяўбы. Прыход восені падганяў яго, не даваў ні на міг складваць рукі.

Вянок за вянком, хоць і марудна, але зруб рос, падымаўся ўверх. Перад апошнім вянком на бярвёны папярочных сцен шчыльна ўлажыў у выемкі абчасаную з чатырох бакоў і добра, да бляску выгладжаную гэблем тоўстую і моцную бэльку-траму, што ішла акурат пасярэдзіне зруба — на яе і на выступы бакавых бярвён пакладуцца потым дошкі столі.

Нарэшце Ігнась паклаў апошні вянок — зруб быў гатовы. Калі, адышоўшы, агледзеў яго, дык сам сабе не паверыў, што хата зрублена. Гэта ж такі быў для аднаго труд, такі верад! Няўжо ўсё асталося ззаду? У яго гулі рукі, гула спіна, гулі ногі — гуло ўсё цела. Дзіва што: усе дні ён толькі і знаў, што турзаўся з цяжкім бярвеннем зруба. З самай раніцы і да познага вечара. Ды і начамі зруб не пакідаў яго. Нават у сне яго бачыў, імшыў ды ўкладваў вянкі, перад закрытымі вачамі так і мільгала: мох — бервяно, мох — бервяно, мох — бервяно… Затое як лёгка ўздыхнуў, якую радасць пачуў цяпер на душы: ён жа завяршаў самае цяжкае, адолеў амаль неадольнае!

Ігнась хадзіў вакол зладжанага ім зруба, пагладжваў даланёй нагрэтыя сонцам, у кропельках залацістай смалы акруглыя бярвёны сцен, датыкаўся пальцамі да спрасованага ў пазах жаўтаватага машку, што выступаў між бярвён, яшчэ не абсечаны, не падраўняны, і не мог налюбавацца сваёй работай.

Пасля зруба адразу ўзяўся за кроквы. Над імі таксама давялося добра павалаводзіцца. Для счэпкі верху кроквін загадзя парабіў выемкі і падрэзы і злучыў адну з адной, добра змацаваўшы дубовымі штырамі. Калі будаваўся ў Волі новы дом Караленяў, дык счэпленыя кроквы Ігнась падымаў удвух з бацькам — адзін стаяў на адной сцяне зруба, другі — на другой. Лёгка і проста. А як падняць іх аднаму? Зноў давялося прыдумляць тут усякія падпоры і падпоркі, каб падняць счэпы ўверх і наглуха ўставіць ніжнія канцы кроквін у гнёзды верхніх папярочных бярвён зруба.

Так устанавіў чатыры пары крокваў — дзве па баках і дзве пасярэдзіне, на роўнай адлегласці адна ад адной. Адразу ж, каб не разгайдаў вецер, пачаў прыбіваць латы. Прыбіваў старымі цвікамі з прыхопленай дома бляшанкі, выроўніваючы іх малатком. Лата за латай абрашэціў увесь зруб. Па абодва бакі хаты да выступаў лат папрыбіваў гладка выгабляваныя вузкія дошкі — закрыліны. На пярэднім, фасадным баку даху верхнія канцы перакрыжаваных закрылін аздобіў разьбой — двума пеўнямі. Ах, які гожы і вясёлы атрымаўся вільчык!

Зноў захадзіў-затупаў Ігнась навокал, любуючыся зробленым: аснова хаты, яе шкілет ёсць! Няхай і невялічкая будзе хата, але на першым часе хопіць для іхнай сямейкі.

Нарэшце прыйшла чарга і крыць хату. У Волі звычайна крылі кулявой саломай, радзей — дранкай і зусім рэдка, больш заможныя, — бляхай. Нічога гэтага тут, на востраве, не было. Затое

каля рэчкі і пры балоце рос чарот. Высокі, роўны. Яго — яшчэ раней — і нарыхтаваў Ігнась, прынёс пад зруб.

Прыладзіўшы пры сценах свае простыя рыштаванні — жэрдкі ў расохах укапаных у зямлю слупоў, ён паўсцягваў туды ахапкі чароту і пачаў таўставатым пластом раскладваць іх на латы, падбіваючы-раўняючы выштукаванай надоечы стрыхоўкай. Кожны пласт шабурсткога чароту ўціскаў, як і салому, калі крыў будынкі ў Волі, абчасанай з аднаго боку бярозавай паплецінай, моцна звязваючы яе ракітай з латаю пад нізам — каб не чапаў, не раздзімаў аніякі вецер. Паплеціны, якія лажыліся паралельна латам, над імі, закрываліся новымі пластамі чароту. І гэтая работа была марудная, ды яна не стамляла Ігнася — прыемна было бачыць, як моцна ўціскаецца чарот, чуць, як шорхае стрыхоўка па пруткіх яго сцяблінах, не даючы вытыркацца. Страха станавілася роўная, толькі не залацістая, як з саломы, а непрывычна шэрая, ды ўсё ж вельмі паглядная. Галоўнае, тоўстая, нейкая па-асабліваму ўтульная і цёплая — пад ёй будзеш як у Бога за пазухай.

Калі страха была гатова, Ігнась адразу ж узяўся вымайстроўваць шчыты — без іх, калі б чаго добрага завінулася бура, яна магла б пашкуматаць, а то і зрынуць страху. Прыладжваў дошкі-дылі да папярэчын старымі выраўненымі цвікамі і дубовымі штырамі. Не забыў і пра акенца ў пярэднім шчыце — адсюль, як на далоні, відаць было ўсё возера з берагамі і ланцуг хмызнякоў паўз рэчку. Акенца, праўда, было пакуль незашклёнае — закрываў яго дошчачкай-засаўкай.

Не проста было Ігнасю і паслаць падлогу ды вылажыць столь. Асабліва многа важдаўся з падгонкай дошак на стыку — каб шчыльна прылягалі адна да адной, каб не было шчылін. Прыбіваць дошкі пакуль не прыбіваў — хай добра прасохнуць. Ды і цвікоў пакуль не хапае — можа, пасля знойдуцца.

Нямала часу пайшло ў Ігнася на рамы для вокан і на дзверы. Вокны пакуль што былі волакавыя — закрываў іх дошчачкамі; уставяцца нармальныя шыбы, калі здабудзецца шкло. Зноў жа не было завесаў на дзверы. Таму паўбіваў перад парогам калкі і за імі ставіў дзверы, хоць трохі прыкрываючы так прахон.

Збудаванай хата лічыцца тады, калі ў ёй стане печ. У Волі ён складваў печ з бацькам, добра ведаў, як гэта робіцца. Але ж там закуплялася для печы цэгла. А дзе тут яе ўзяць? Аставалася адно: рабіць печ з гліны. Глінабітную. У Волі ён бачыў такую печ у адной старой хаце. Нават пацікавіўся ў гаспадара, сівога

дзядулі, як яна муравалася. Простая цікаўнасць цяпер вельмі прыдалася Ігнасю.

Да гліны, хоць і не адразу, дакапаўся на абрывістым беразе рэчкі. Гліна аказалася тлустая, ліпкая — лепшай і не трэба. Напрыносіў яе пад парог цэлую горку.

Спачатку зладзіў драўляную аснову печы з хваёвых стоўбікаў і дыляў. Не забыў пакінуць і адтуліну для падпечка — дома ў маразы там трымалі курэй.

Вельмі доўга важдаўся з устаноўкай дашчанага каркаса самой печы, з утрамбоўкай глінянага замесу паміж яго сценкамі, з выштукоўваннем вусця, пячуркі, камінка, з вывядзеннем коміна.

Гатовай печ была толькі тады, калі, прасушыўшы, паздымаў дошкі і стоўбікі каркаса, выгладзіў яе — усярэдзіне і звонку — роўнай дошчачкай.

І от настала пара запаліць у печы. Прынёс стружак з трэскамі, склаў іх на подзе, бліжэй да прыпека, у стосік і, выкрасаўшы агонь, падпаліў. Агонь тут жа зачапіўся за сухое, пабег з трэскі на трэску і праз хвіліну ахапіў увесь стосік, весела патрэскваючы і пастрэльваючы іскрамі.

Ігнась яшчэ раз выйшаў на двор і зарадаваўся: рэдкі сіні дымок спакойненька выплываў з коміна, адразу ж развейваючыся ўверсе. Значыцца, печ — як мае быць! Цяпер — хата жыве!

А раз жыве хата, жыве і ён! Будзе дзе жыць і яго Хрысціне з Стасікам.

Зладзіўшы печ, сам ён ужо мог перабірацца сюды з будана, праўляць улазіны.

У Волі гэта было радаснае свята. Перад засяленнем многія пускалі ў хату на ноч пеўня і ката. Певень сваім кукарэканнем павінен быў адпужваць з хаты ўсякую нечысць, а кот абжыць новае жытло. Запрашалі яшчэ з царквы бацюшку, каб ён акрапіў хату свянцонай вадой — на шчасце. На ўлазіны збіралася ўся сям'я, склікаліся блізкія і суседзі. Вельмі ўрачыста прыносілі з старой хаты абразы — іх вешалі ў красным куце, акрываючы чысценькімі набожнікамі. Гэтак жа ўрачыста пераносілі ў гаршку з старой у новую печ жар ці проста вуголле — каб у новую хату перайшоў спрыяльны дух продкаў. Да познага вечара гула за шчодрым сталом вясёлая бяседа. Спяваліся песні, госці зычылі гаспадарам добрай долі і дастатку ў новай хаце.

Збіраліся адзначыць уваходзіны і Каралені, калі Ігнась з бацькам скончылі будаваць свой дом. Бацька ўжо з'ездзіў быў у мястэчка, каб прывезці адтуль бацюшку для акраплення новага жытла. Але яго там ужо не знайшоў: аб'явіўшы рэлігію «опіумам

для народа», бальшавікі закрылі царкву, а святара зняволілі і недзе выслалі. Думалі спраўляць свята без акраплення, чакалі толькі з'яўлення на небе поўнага месяца: казалі, калі ўваходзіны спраўляюцца на поўнік, у хаце будзе ўсяго поўна. Ды Каралені так і не дачакаліся таго поўніка: акурат перад ім прыехалі з раёна па іх душу раскулачвальнікі.

Тут, на выспе, Ігнасю таксама хацелася справіць улазіны, як спрадвеку спраўлялі ў Волі, — каб сям'і шчасліва жылося ў збудаванай ім хаце. Рабіў гэта як мог. Раз няможна было паклікаць святара для акраплення хаты, ён надумаўся акрапіць яе сам. Зачарпнуўшы карцом у крыніцы паўстанцаў чыстай вады, памаліўся на яе і тры разы перахрысціў. Гэта як-ніяк была ўжо асвечаная вада. Ёю і апырскаў вуглы, сцены хаты і печ — хай жа ўсё будзе тут добра. Што ж да абразоў, дык іх ён прыхопіць, калі будзе забіраць з Волі сваю Хрысціну з Стасікам. Возьме тады і некалькі вугалькоў з печы. Ну, а цяпер можна клікаць радню і суседзяў на свята. Рабіў гэта ў думках, як і пры закладзінах хаты. Радасна гаманіў з Хрысцінай і Стасікам, з гасцямі, запрашаў узяць чарку, спяваў разам з імі вясёлыя застольныя песні. Ён так жыва ўявіў усё гэта, што пасля святкавання ў душы асталася ціхая радасць, якая не пераставала грэць, давала новы прыліў сіл.

Зусім не азмрочвала гэтую радасць і тое, што ў хаце пакуль што былі толькі голыя сцены, што спаў ён замест ложка яшчэ на раскладзеных тут яловых лапках, куды перанёс з будана сваю пасцель. Не бяды! У яго хаце будзе ўсё, што трэба! Самая лепшая мэбля!

Усё ж самае патрэбнае — ложак і кухонны стол — ён наважыў зрабіць не адкладваючы. Дні чатыры патраціў на іх, але затое як прытульна зрабілася ад гэтага ў хаце! Асабліва радаваўся збітаму з гладзенька выструганых дошак і дыляў ложку, крэпкаму, шырокаму — акурат на дваіх з Хрысцінай. Нават вымастачыў фігурныя спінкі — такія, як і дома, у Волі. Будзе ім давольная і Хрысціна, як сюды перабярэцца. Захацелася абнавіць і сяннік. Выкасіў бы дзе для яго травы, ды не была гатова каса. Выручыў серп, які здагадаўся дома ўвапхнуць у заплечнік. Навыжынаў каля рачулкі лепшай мурожнай травы і, калі высахла на сонцы, напхаў сяннік свежым сенам. Вечарам, як лёг на ім спаць, проста панам сябе адчуў: было мякка, што на пярыне. А які пах ішоў ад свежага, з дзікімі зёлкамі і краскамі мурагу!

9

Пасля хаты Ігнасевы рукі трымцелі ад нецярпення ўзяцца за зямлю. Гэтага моманту чакаў даўно: зямля ж — аснова асноў усяго. Ды і любіў ён працу на ёй.

На сямейным надзеле Караленяў перапробаваў з бацькам усе сялянскія работы. Араў, баранаваў, сеяў, звозіў снапы, абмалочваў іх — раней цэпам, а потым на бацькавай малатарні, веяў намалочанае, малоў на жорнах ды ці мала што яшчэ. Але адно рабіць пад каманду, хай і бацькаву, а зусім другое — самому. Не сказаць, каб бацька надта вісеў над ім, каб ушчуваў, калі сын рабіў нешта не так. Не, ён ніколі гэтага не дапускаў, заўсёды быў вытрыманы, спакойны. Калі трэба было што паправіць, папраўляў Ігнася з лагодай у голасе, без ценю раздражнёнасці, заўсёды з любасцю да сына. І ўсё ж ён быў у бацькі толькі памочнік, падручны, рабіў тое, што казаў бацька. Праўда, бацька, перш чым пачынаць якую работу, раіўся з сынам, усё абгаворваў з ім. Але, як бы там ні было, апошняе слова аставалася за бацькам. І Ігнась не пярэчыў яму: хай будзе па ім, ён жа — гаспадар, ён лепш ведае.

Рабіць усё па-свойму, так, як самому захочацца, як сам задумае, Ігнась мерыўся тады, калі стане поўным гаспадаром на выдзеленай паўвалоцы, — акурат гэтулькі зямлі дакляравалася яму, калі думалі яго аддзяліць. Час гэты быў ужо блізка. Аставалася толькі перабрацца ў новы дом. Ды тут унь што ўчынілася. Усё ў адначассе перавярнулася дагары нагамі.

Мара жыць асобна, самастойна, сваёй сям'ёй, на ўласнай гаспадарцы ні на міг не пакідала Ігнася і ў высылцы, за калючым лагерным дротам, заўсёды сядзела ў галаве.

Можна сказаць, яна, высненая ў снах залатая мара, і прывяла яго на гэтую закінутую людзьмі, дзікую і непрыветлівую Воўчую выспу.

Спярша яму захацелася прывесці да ладу палянку, на якой заснаваў сваю сядзібу. Ачысціў яе ад хмызу, размеціў месца для саду і агарода. Нават калкі паўбіваў па кутах — каб былі ў яго роўныя і акуратныя грады, каб усё радавала вока.

З ахвотай, з радасцю пачаў ускопваць зямлю. Гэта ж ён папраўдзе ўжо тут абжываецца.

Палянка была добра ўтравелая, і Ігнась выкопваў дзёран квадрацікамі ды перакідаў іх травою ўніз — за зіму перапрэюць, і вясной, калі трэба будзе нешта садзіць, усё лёгка перакапаецца нанова, зямля стане тады мяккая і прыдатная для пасеву.

Хоць дзірваністая была зямля на палянцы, але ён за кароткі час ускапаў, што намеціў. Суцэльнай чорнай раллёю ільснілася на сонцы ўскапанае, абуджаючы самыя шчаслівыя надзеі.

Дачакаўшыся пары, узяўся закладваць і сад. Вышукваў у лесе дзікія яблынькі ды грушкі і пераносіў разам з зямлёй, з дзёрнам у выкапаныя загадзя ямкі. І от на адведзенай пад сад дзялянцы, за будучым прыгуменнем, перад ускапаным агародам заківаліся пад ветрам першыя дрэўцы. Укараняцца, увойдуць у сілу — прышчэпіць на іх добрыя свойскія гатункі, нарэзаўшы як-небудзь чаранкоў у сваім волеўскім садзе. Знойдзе спосаб перанесці адтуль і вішанек, сліў, кусцікаў садовай смуродзіны, маліны, ажыны — каб была ў садзе і свая ягада.

Але самы большы быў яго клопат — поле. Яго лепш чым дзе мог ён разрабіць на драбналессі. За гэтую работу Ігнась таксама ўзяўся не адкладаючы надалей.

Калі яшчэ раз прайшоў туды-сюды па тым драбналессі, дык пазмрачнеў: як укараніўся ўжо тут густы хмыз, колькі яшчэ здаровых шырачэзных пнёў тырчала адзін пры адным! Як да ўсяго гэтага прыступіцца? Гэта ж за цэлы год не ацярэбіш, не выбавіш ад старога і новага карэння ранейшае пагарэлішча, якога, каб разрабіць, на першым часе акурат хапіла б для поля.

Ды ён павінен зрабіць гэта. І зробіць, быць не можа, каб не зрабіў. Усе сілы пакладзе, касцьмі ляжа, але зробіць.

Каб лягчэй было разрабляць драбналессе, надумаў падпаліць яго. Унь колькі тут усюды ламачча, колькі гніе павалу!

У тым баку драбналесся, адкуль ішоў вецер, расклаў агонь. Ад агню адразу ж занялася сухая леташняя трава, якой яшчэ хапала сярод новай, зялёнай. А ў траве агонь знаходзіў і леташняе лісце, усякае лам'ё, дробнае і буйнейшае. Усё ён прагна хапаў сваімі чырвонымі языкамі. Яго добра падганяў вецер, які якраз усхадзіўся ў гэты дзень.

Праз кароткі час агонь, весела патрэскваючы, шырокай паласой бег па драбналессі ўперад. Густы дым клубамі валіў паперадзе агню, ахутваючы кусты і дрэўцы.

Ігнась хадзіў па краях драбналесся і сачыў, каб агонь не перакінуўся з яго на ўзбочны лес. Гэтага ніяк няможна было дапусціць. Дзе топчучы яго нагамі ў лапцях, дзе сцёбаючы зялёнымі галінкамі дрэў, дзе перакопваючы рыдлёўкай агню дарогу, адганяў яго, калі той заскокваў куды не трэба. Так што згарэла толькі тое драбналессе, што кінулася расці на ранейшым пагарэлішчы. Што тут казаць, карціна выйшла непрыглядная:

чорнае, без жывога дрэўца амярцвелае гала, на якім яшчэ тамсям курэў дым: мо дагараў які трухлявы пень ці гнілая калода.

Цяпер усё гэтае чорнае пагарэлішча ён павінен зрабіць полем.

Прыйшоў сюды назаўтра ж. З рыдлёўкай і сякерай. Самая вялікая работа — ачысціць пагарэлішча ад пнёў, малых і вялікіх. Больш вялікіх. Яны хоць і паадгаралі зверху, але ў зямлі сядзелі моцна, нязрушна.

Падышоў пад першы, хваёвы. Пачаў абкопваць вакол зямлю. Ды вастрыё рыдлёўкі кожны раз натыкалася на цвёрдыя, як костка, разгалінаваныя карані. Тады ён адкідаў убок рыдлёўку і браў у рукі сякеру. Каранёў было многа, яны далёка адыходзілі ад пня, лезучы ўглыб. Даводзілася доўга турзацца, каб выбавіць іх адтуль, не пакінуць у зямлі. Самы большы, стволавы корань зусім не было як падсекчы ў глыбіні. Тады ён падклаў пад яго ладную дубовую ва́гу і доўга разгойдваў непадатны пень, пакуль той не захістаўся і нарэшце зусім не выскачыў наверх.

У-ух! Ігнась выцер рукавом сарочкі пот, што буйнымі кроплямі выступіў на ілбе і, сцякаючы, казытаў шчокі. Выпрастаўшыся, абвёў вачыма ўсю сваю «зямлю». На ёй спрэс тырчалі недагаркі пнёў. Колькі ж яшчэ трэба будзе выліць тут вёдзер поту, каб ачысціць поле?

Раскарчоўка поля стала цяпер самай важнай для яго работай, якую перапыняў толькі на здабыванне яды і загатоўку харчоў на зіму.

Кожны дзень выцягваў ён з зямлі па некалькі пнёў. Вечарамі прыходзіў у сваю хату ледзь жывы. А клаўся спаць — перад вачамі так і маячылі тыя ўчэпістыя пні, мітусіліся падсечаныя карані.

Затое як радавалі, як лагодзілі душу расчышчаныя ад пнёў, разраўняныя і акуратненька перакапаныя ўсё новыя і новыя палоскі зямлі!

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### 1

Загадка, якую зноў задала яму Воўчая выспа гэтым разам, была самая неспадзяваная, самая таямнічая. Яна збунтавала ўсе яго думкі, закінула ў душу трывогу і неспакой.

Перад тым ён лёг спаць трохі раней: на дварэ ўсхадзіўся вецер, нанёс дажджу. Лежачы ў сваёй хаце на яловых лапках і слухаючы няроўны шум недалёкіх хвой і шамаценне дажджу аб чаратовую страху, неўзаметку заснуў. Прачнуўся, калі ў волакавым акне, у якім заўсёды была адсунута верхняя дошчачка-фортка, засінела раніца.

Адзеўшыся і ўзяўшы кошык з накрыўкай, адразу пайшоў пад азярцо праверыць буч — каб вытрасці рыбу і згатаваць што паесці.

Раніца была ціхая: вецер, пабушаваўшы, ужо недзе ўлёгся, склаў свае крылы. На траве, на кустах паблісквалі буйныя каплі расы. Сонца яшчэ не ўзышло, і над азярцом стаяў белы туман.

Каля самага азярца, на прыбярэжным жоўтым пясочку, што ўночы ўвільготніў і ўшчыльніў дождж, Ігнась убачыў свежыя воўчыя сляды — і вялікія, і малыя. Ну, ясна — воўчая сям'я прыходзіла на вадапой. Пачаў разглядаць сляды, прыкідваць, колькі ж тут было ваўкоў, і раптам аслупянеў на месцы: сярод воўчых слядоў выразна адбіўся чалавечы след! След дзіцячай ножкі! І ў адным, і ў другім месцы. Толькі чамусьці глыбей заходзіла ў пясок яе пярэдняя палавінка з пальчыкамі. Пятка ж адбілася слабей, але ўсё роўна была добра відаць. Толькі на адным маленькім пясчаным наносе і ўбачыў Ігнась дзіўныя дзіцячыя сляды, далей яны губляліся ў траве. Што ж гэта магло быць? Ці не прабегла тут тая самая істота, што заглядала ў яго будан пры месячным святле?

След ашаламіў Ігнася, яго ўсяго як токам працяло, галава пачала пухнуць ад думак. Выходзіць, ён не ведае яшчэ, дзе апынуўся, якія тайны хавае ў сабе Воўчая выспа. Успомніліся многія людскія пагалоскі пра нячыстую сілу, якая нібыта апанавала Чортава балота і Воўчую выспу, пра ваўкалакаў, якія нібыта знайшлі тут сабе прыстанак, ды пра ўсякія здані, што не раз да смерці палохалі людзей. Няўжо ўсё гэта праўда, а не людскія выдумкі? Ці не ёю, гэтай нячыстай сілай, трэба тлумачыць тыя неразгаданыя таямнічыя цені, што начамі шмыгалі паўз яго будан, тыя дзіўныя начныя крыкі і енкі, што часта даносіліся да яго з лясной глушыні і з балота, раздзіраючы душу? Можа,

тыя здані, тыя прывіды, што сустракаліся тут людзям, зусім не здані, а нешта рэальнае? Тады што? Што?

Ён нават забыў пра буч, забыў, чаго прыйшоў пад азярцо. Адразу памкнуўся шукаць, куды ж павёў след. Згубіўшы яго ў траве, панура, у глыбокай трывозе паплёўся дадому. Як жа сюды забіраць сям'ю, як жыць на выспе, калі гэта нячыстае месца?

Ці, можа, тут захаваліся з даўніх часоў якія невядомыя яму чалавекападобныя істоты? Гэтак жа як лясныя тарпаны і зубры? Толькі чаму сустрэўся яму не след дарослага чалавека, а дзіцячы? А можа, на выспе знайшло прытулак якое старажытнае племя карлікаў?

Як бы там ні было, ён павінен да ўсяго дайсці, дакапацца, разгадаць загадку. Іначай не будзе яму спакою.

Пачаў меркаваць, як адшукаць, як убачыць тую дзіўную істоту. Раптам цюкнула: чаму яе след адбіўся сярод ваўчыных? Выпадкова гэта ці не?

З ваўкамі ён сустракаўся тут часцяком. Убачыўшы іх, Ігнась не ўцякаў ад іх і не адпужваў ад сябе. Рабіў выгляд, што яны яго не цікавяць. Ваўкі таксама ім не цікавіліся. Пры сустрэчы ішлі сваёй дарогай, не затрымліваючы на ім вачэй. Між імі і Ігнасем устанавілася поўнае мірнае суіснаванне.

Цяпер, калі сярод ваўчыных слядоў ён убачыў чалавечы, захацелася даведацца, ці ёсць тут якая сувязь.

Сама лепш было б знайсці воўчае логава. Ігнась здагадваўся, што яно не вельмі далёка ад яго хаты. Але дзе? Папробуй адшукай. Ваўкі так ухоўваюць, так маскіруюць сваё жытло, што будзеш хадзіць побач і не заўважыш. Тут трэба асабліва пільнае вока.

Цэлых паўдня шнырыў Ігнась па лясных гушчарах, прыглядаўся да кожнага вываратня, да кожнай яміны, але так нічога і не знайшоў. Але ён усё роўна яго знойдзе. Не трэба толькі мітусіцца і браць абы-што да галавы. А рабіць сваё. Як і рабіў. Галоўнае для яго: стварыць на выспе ўсе ўмовы для сям'і. Што б там ні было, але ён забярэ яе сюды. Бо толькі тут, сярод звяроў, ён з сям'ёй зможа жыць па-чалавечы. Як гэта ні дзіўна.

Не давала толькі як след разгарнуцца няхватка шмат якіх простых прылад для работы, струманту, то тых, то другіх матэрыялаў. Хоць бы таго шкла для вокан. Вельмі ж нязручныя яго волакавыя вокны. Калі летам іх можна прыадчыняць, каб убачыць што на дварэ, дык як быць зімой, у маразы? Пазачыняеш іх — і сядзі ў хаце як у цямніцы? Прачнешся калі — і не

пазнаеш, раніца гэта ці яшчэ ноч. А ў Волі ж у адрыне цэлая скрынка шкла асталася ад будаўніцтва новага дома.

— Трэба хоць адзін раз сходзіць яшчэ ў Волю, — сказаў ён сабе. — Можа, забыліся там пра мяне энкавэдысты? Забыліся не забыліся — не будуць жа яны выседжваць цэлы год каля хаты, каб мяне высачыць.

Але галоўнае, што штурхала яго наведацца ў Волю — гэта вялікае, нясцерпнае хаценне пабачыцца з любай Хрысцінай, Стасікам. Здаецца, яму было б тады лягчэй. Яны ўсё часцей мроіліся, прыходзілі ў сон.

Адзін сон быў для яго вельмі дзіўны і трывожны. Прысніўся ён апошнім часам, калі Ігнась рабіў спіс таго, што трэба было яму ўзяць дома, калі туды наведаецца. Бытта Хрысціна паявілася тут, на Воўчай выспе. Ён убачыў яе на беразе возера, зусім раздзетую. Яна ішла да яго па ранішняй расістай траве, у ружовым сяйве туману — бы ў лёгкім вэлюме. Туман ружовіла сонца, якое толькі што ўзышло. Хрысціна ішла і, ускінуўшы перад сабой рукі, радасна ўсміхалася — такая гожая, вабная. Вочы яе былі скіраваны ў яго бок. Але — што гэта? — глядзелі яны не на яго, а на… другога мужчыну, які спяшаўся ёй насустрач, — таксама, як і яна, раздзеты дагала, без аніякага адзення. Хто гэта быў такі, Ігнась не разгледзеў, бо бачыў яго са спіны. Радасныя і шчаслівыя, яны набліжаліся ўжо адно да аднаго, каб кінуцца ў абдымкі.

Ігнась так быў узрушаны нечаканым відовішчам, што тут жа прачнуўся. А прачнуўшыся, пачуў, як у грудзях часта-часта тутухкае сэрца.

Гэты сон быў апошняй кропляй, якая пераважыла яго на тое, каб схадзіць дадому.

## 2

З самай раніцы неба было абложана шэрымі хмарамі, што ледзь заўважна плылі і плылі на ўсход. Разы два пробаваў пырскаць дождж, але, нібы спахапіўшыся, тут жа пераставаў.

Мусіць, ад гэтай асенняй хмурнасці раней, чым звычайна, пачало і сутонець.

На самым сутонні і выбраўся Ігнась у Волю. Так, каб ісці дадому ўночы, каб ніхто яго не заўважыў.

Калі падышоў з шостам у руках да лавы, ужо амаль сцямнела. Але ён скора зарыентаваўся і гэтак жа, як і дабраўся на выспу, перайшоў назад, на бераг, дзе ляжаў Чортаў камень.

Адтуль ранейшай дарогай папраставаў лесам пад сваю вёску. Як і тады, абыходзіў сустрэчныя сёлы, каб хаця не трапіцца каму на вочы.

На ўскраек лесу перад Воляй падышоў апоўначы. Тут, як і ў лесе, было цёмна — хоць вока выкалі. Хаты зусім не праглядваліся — адна суцэльная прадаўгаватая пляма. Глуха, як з бочкі, пабрэхвалі сабакі. Няўжо хто можа прысачыць яго ў гэтакую пару?

Усё ж ён пастаяў трохі пры лесе, прыслухоўваючыся і ўзіраючыся ў цемру. Не пачуўшы і не ўбачыўшы нічога падазронага, пайшоў полем туды, дзе павінна быць дарога ў вёску. Па нагах зашлёгалі вострыя струкі лубіну, таго самага, усходы якога бачыў ён у маі. Ігнась толькі здзівіўся, чаму яго не зааралі на ўгнаенне. Ці мо на насенне пакінулі? Але ўсё роўна яго даўно трэба было б сабраць — струкі так і лопаліся пры дотыку.

На двары яго зноў сустрэў Босы. Як і тады, ён ні разу не брахнуў на Ігнася — нібы разумеў, што не трэба падымаць шуму. Толькі радасна павіскваў, лашчачыся да яго.

Здаецца, і да ганка падышоў ён незаўважна. І без шуму ўпусціла яго ў хату Хрысціна. Але ўсё ж Ігнась быў як напяты. Гэтая напятасць, насцярожанасць вельмі азмрочвала яму радасць сустрэчы. Асабліва калі Хрысціна расказала, што ў Волі ўсё ж неяк уведалі, што ён прыходзіў дадому, што вярнуўся з Сібіры. Ігнась абдымаў і цалаваў жонку, такую падатную, ласкавую, такую любую, і не мог адагнаць ад сябе трывогі. Ведаў, што дзеля таго, каб потым быць разам, каб мець некалі праўдзівае, нічым не азмрочанае шчасце, ён павінен цяпер асцерагацца.

З асцярогай падышоў ён і да сынавага ложка. Хоць соннага, хоць пры слабым водсвеце лямпы, але ўсё ж пабачыў роднага хлопчыка. Калі глядзеў, як мыляе ён у сне губамі, у Ігнася сціснулася сэрца. Ці скора будзе тое свята, калі ён зможа адкрыта сустрэцца з Стасікам, узяць яго за руку, вольна хадзіць з ім па вольнай зямлі, гаварыць з ім, вучыць яго гаспадарыць? Як шкода, што ніколі не будзе ўжо з ім другога сынка — Янкі. Ды што ўспамінаць пра страчанае, лішні раз душу вярэдзіць. Усё роўна не вернеш яго другога хлопчыка.

Зусім нядоўга пабыў ён гэтым разам з Хрысцінай. Як ні хацелася яму астацца, трошкі болей памілавацца з ёй пад цёплай коўдрай, ён пасля першых пеўняў усхапіўся з ложка і пачаў адзявацца.

Шкло Ігнась знайшоў на тым жа самым месцы, дзе і пакінулі яны з бацькам. Акуратна склаў тры вялікаватыя шыбіны ў

рэзгіны, абгарнуўшы палатнянай прасцінай, што паднесла яму Хрысціна. У аб'ёмісты заплечнік, што таксама прыхапіў з сабой, накідаў ўсякага струманту і начыння, розных жалязяк і цвікоў. А яшчэ папрасіў Хрысціну ўлажыць у мяшок колькі было можна насення рознай збажыны і гародніны, ну і бульбы-насенкі. Ведама ж, не забылася Хрысціна пакласці і таго-сяго з яды.

І яшчэ адно край захацелася Ігнасю ўзяць з сабой. Коціка. Аднаго з трох кацянятак, якія, тоненька памяўкваючы, бегалі ўсё па хаце ўхваста за паважна-спакойнай шэра-паласатай, як тыгрыца, кошкай, якая даўно жыла ў Караленяў. Хрысціна знайшла для малога піскляткі невялічкую бяроставую вярэньку з накрыўкай. Гэтую вярэньку з коцікам Ігнась і закінуў за плечы.

Выйшаўшы першай з хаты і ўпэўніўшыся, што на дварэ ўсё спакойна, Хрысціна правяла Ігнася да задніх варотцаў. Там яны і развіталіся.

Але не ўсё гладка было ў іх пры сустрэчы. Калі ўпакоўвалі ўсё ў хаце ў Ігнасеў мяшок, яму раптам трапілася на вока незнаёмая кепка на цвіку ў сцяне. Убачыўшы яе, ён падняўся ад мяшка і з кепкі перавёў вочы на Хрысціну.

Яна спярша была нібы разгубілася. Але тут жа авалодала сабой і паспяшалася развеяць яго падазрэнні:

— Гэта твайго браценіка Валодзькі. Памагаў мне калоць дровы. Я пачаставала яго за гэта. Сядзеў тут з намі і шапку забыўся.

І, нібы спяшаючыся памяняць гаворку, прыхінулася да яго грудзей, горача, амаль плачучы, пачала прасіць:

— Ігнаська, родны, забяры нас адсюль. Забяры — нам трэба быць разам. Забяры хоць куды…

— Пакуль што няма як забіраць, Хрысцінка, — адказаў ён, расчулены ад жончынай гарачнасці. — Пацярпі трохі, налета падрыхтую ўсё і забяру. Пацярпі. Мы будзем жыць разам. Жыць вольна, як самі захочам. Я ўсё раблю для гэтага. Толькі пацярпі.

Ужо ідучы лесам назад, на сваю Воўчую выспу, Ігнась уздумаў пра Валодзькаву помач Хрысціне. Валодзька помніўся яму цыбатым нясмелым хлапчуком. Быў ён зусім малы, калі бацька пайшоў ваяваць з бальшавікамі. Гадаваўся адзін у мацеры, вельмі зацюканай, баязлівай жанчыны — жонкі «ворага народа». Ігнасеў бацька ўсяляк памагаў братавай. Ну, а цяпер от братавая з сынам стараліся памагчы нечым яго нявестцы. Усё правільна. Толькі чарвячок трывогі не-не ды і варушыўся недзе ў Ігнася ўсярэдзіне. Прыкінуў: гэта ж Валодзька цяпер ужо ладны недзе хлопец — гадоў дзевятнаццаць будзе. Усяго гады на чатыры маладзейшы за Хрысціну. Сама кроў іграе.

Ігнась уявіў: сядзіць, частуецца ў Хрысціны за сталом Валодзька. А яна ўся ў яго перад вачыма, гожая, гасцінна-ласкавая, ва ўсёй красе расквітнелай жаноцкасці. Валодзька ведае, што Хрысціна даўно адна, што браценіку Ігнасю не дадуць зноў з ёй сысціся. Як жа тут утрымацца, каб не паглядзець на яе мройным вокам, каб урэшце не кінуцца абняць яе, а там — цалаваць, мілаваць. Асабліва калі ў галаву шыбане гарачы хмель першачка, абавязковага пры пачастунку. І як ёй, маладой, поўнай жадунку, абараніцца ад яго? Адно, што можа стрымліваць Валодзьку, — гэта яго сарамяжлівасць, ціхмянасць. Толькі ж і ў ціхім балоце чэрці водзяцца.

Але, як ён даўно прыкмеціў, звычайна не ўсё робіцца так, як малюецца ў галаве. Таму ці трэба ўбіваць у мазгі тое, чаго, можа, зусім няма. Ды яно і быць не можа: Хрысціна не з тых, каму можна ўскружыць галаву, хто захоча, каб пра яе пляскалі па сяле языкамі, бо, калі б што пачалося паміж ёю і Валодзькам, людзі мігам праведалі б. Ну, а галоўнае — Хрысціна ж кахае яго, Ігнася, з кахання ж і замуж за яго выйшла. І ўсе дурныя думкі яму трэба выкінуць з галавы.

Амаль увесь дзень, сунімаючыся ў гушчарах на прывалы, каб перадыхнуць, дабіраўся Ігнась да сваёй Воўчай выспы. Спераду ў яго звісалі рэзгіны са шклом, якія былі звязаны з заплечнікам моцнымі шырокімі паскамі і якія ён прытрымліваў рукамі. Ён аж угінаўся пад гэтымі дзвюма ношкамі — пярэдняй і задняй. Дзіва не дзіва, але яму памагала ўсё несці тое малое піскляня ў вярэньцы, што слізгала перад ім па рэзгінах: гэта ж ён нясе на выспу жывую душу з роднай хаты, часцінку хатняга духу Караленяў.

Непасільная для іншага чалавека паклажа ўшчэнт змучыла Ігнася. Але ўсё ж данёс яе. Затое — ён цяпер князь. У яго ўжо ёсць усё, з чым можна закончыць хату і з чым пачаць тут гаспадаранне.

Калі ўвайшоў у сваю хату, адразу ж выпусціў з вярэнькі коціка. Той як скокнуў з яе на падлогу, так і астаўся стаяць, не зрушваючыся з месца, усё аглядаўся навокал, нібы гадаючы, куды трапіў. Выглядала, што баяўся чужога незнаёмага месца. Толькі калі Ігнась захадзіў па хаце, коцік пабег за ім, не адрываючыся ад яго ног і тоненька памяўкваючы.

Ігнась уголас пачаў заспакойваць яго, гутарыць з ім. Не трэба казаць, як ён быў рады, што ў хаце будзе цяпер у яго хаўруснік, з якім можна заўсёды пагаварыць.

Адпачыўшы пасля дарогі, Ігнась зноў узяўся даводзіць да ладу хату. Найперш захацелася ўставіць вокны. Як люба, як прыемна было даставаць гладзенькі, з зелянцой на кантах шкляны ліст. Асцярожна клаў яго на падлогу, адмерваў сваёй роўнай самаробнай лінейкай і адразаў старым, але вострым, уедлівым бацькавым алмазам шыбу. Потым гэтак жа асцярожна ўкладаў яе ў раму, падстругваючы долатам няроўнасці ў пазах. Прымацаваўшы маленькімі цвікамі, злёгку страсянуў раму, каб праверыць, ці не хістаецца, не дрынкае шыба. Не, ляжыць як улітая! Гэтак жа, не спяшаючыся, прыладзіў і астатнія шыбы. Зашклёную раму, узяўшы яе па краях аберуч, з асцярогай уставіў у асаду. Першае акно ёсць! Гэтак жа акуратна паўстаўляў і астатнія два акны. Нават кітам абмазаў, каб добра сядзелі ў пазах шыбы, не надта падзынквалі ад ветру. Цяпер можна выйсці на двор, адступіць трохі далей і паглядзець на хату. Ах, як яна павесялела, як засвяцілася, калі замест цёмных дошак глянула на свет адкрытымі вачамі чысценькіх вокан! Цяпер па-новаму зайгралі на сонцы жаўтавым бярвеннем і бурштыновымі кропелькамі смалы і сцены хаты, уся хата пад цёплай чаратовай страхой. Эх, не бачыць яе Хрысціна! Як бы яна тупала каля сваёй хаты, аздабляла вяргінямі ды півонямі агародчык перад вокнамі. А як пахаджвала б у самой хаце, парадкавала б усё там, засцілала квяткастымі посцілкамі ложкі, уходжвалася каля печы! І як люба было б яму бачыць яе ў гэтым яе клопаце! Не, ён усё зробіць, каб прыблізіць гэты час.

Пасля вокан узяўся за дзверы. Тут ужо было прасцей. Праўда, прыйшлося паваждацца, калі — дзе гэблікам, дзе долатам — падганяў іх да асады, каб шчыльна зачыняліся, не прадзьмуваліся ветрам. Тады папрыбіваў завесы, насадзіў дзверы і прымацаваў да іх старыя, ужо карыстаныя ручкі. Пачаў адчыняць-зачыняць свае дзверы — ходзяць як мае быць!

Не забыўся Ігнась прыхапіць з дому і ключ — жалезны шворан з рухомым язычком на канцы і зазубраную, таксама жалезную завалу. Такім простым, зробленым у кузні прыстасаваннем замыкалі раней Каралені дзверы, пакуль бацька не купіў у краме фабрычны замок. Добра, што хоць не выкінулі, прыхавалі гэтае старое прыстасаванне замыкаць дзверы. Ігнась пракруціў свярдзёлкам (і яго прыхапіў дома) у вушаку навылет дзірку, акурат пад ёй прыбіў з сярэдзіны завалу. Прасадзіўшы праз дзірку ключ, паспрабаваў язычком падчапіць і насунуць на дзверы завалу — яна лёгка пайшла ўлева, замкнула хату.

Яму можна было б абысціся і без замыкання: ад каго ж тут што хаваць? Але ўсё ж спакайней будзе на душы, калі захоча куды адвінуцца.

## 3

Завяршыўшы пабудову хаты, Ігнась павесялеў, адчуў сябе трывалей і больш упэўнена: як жа — цяпер ён не бяздомнік, цяпер ён — праўдзівы жыхар Воўчай выспы, паўнаўладны гаспадар на ўласным падворку. Збіраючыся куды-небудзь ісці, ён заўсёды сунімаўся, каб яшчэ раз глянуць на сваю хату, палагодзіць ёю душу.

Тут, на выспе, вельмі цешыў Ігнася і коцік, гэты шэры перасяленец з Волі, з роднай хаты. Ён бегаў па хаце, тоненька мяўкаў або, забраўшыся на печ, ціха сабе мурлыкаў. Але часцей цёрся ў Ігнася пад нагамі, туліўся да яго. І ад гэтага на душы рабілася спакойна і добра. Як-ніяк, з ім Ігнась не адзінокі, нават пагаварыць можна з гэтай жывой ласкавай істотай. Так, пагаварыць. Дарма, што той нічога не разумее, але ўсё ж ёсць перад кім душу вылажыць. Для большай уцехі Ігнась і імя яму даў не абы-якое, важкае — Пан Мурлыковіч. Лепш, весялей гаманілася яму з Панам Мурлыковічам, чым з простым катом!

Але ўсё роўна гэта мала ратавала Ігнася ад нуды па сваіх, па родным Стасіку і Хрысціне. Асабліва калі клаўся спаць на сваім двухспальным ложку. Дома Хрысціна звычайна спала пры сцяне. Ігнась і тут пакідаў ёй такое ж месца. І часта ў паўсне-дрымоце яму здавалася, што яна і ў гэтай хаце ляжыць побач каля сцяны. Ён паварочваўся ў той бок, працягваў руку, каб узяць яе за такія ж хударлявыя, як і былі, калі першы раз танцаваў з ёй у Пясчанцы, плечыкі, каб прыхінуць да сябе, упіцца ў ахвотна раскрытыя яму насустрач павільгатнелыя губы, а потым абкідваць няўтрымнымі пацалункамі яе шыю, рукі, спіну, грудзі — усю. Яшчэ больш разгараўся ён, калі Хрысціна абвівала яго шыю сваімі пяшчотнымі рукамі, а з яе грудзей — у адказ на яго бурныя парыванні — вырываўся мілы нутраны смяшок радасці. Ігнась проста перапаўняўся тады бязмежнай любасцю да яе.

Цяпер, калі рука не знаходзіла яго Хрысціны на сваім месцы, ён у роспачы адварочваўся на спіну і доўга не мог заснуць, мілуючы яе ў думках.

Удзень нуду па Хрысціне ён гасіў работай. А вечарам, калі клаўся спаць, гэтая нуда ізноў кідала яго з боку на бок, гонячы

сон. Ён ужо шкадаваў, што паспяшаўся паставіць у хаце ложак на дваіх, нават падумваў знесці яго куды-небудзь з вачэй, а ўзамен збіць для сябе аднаго, вузейшы.

Ды тут у галаву ўбілася рызыкоўная думка: забраць сюды Хрысціну з Стасікам цяпер, не адкладваючы на лета. Хата ж, хоць пакуль і невялічкая, ёсць, дроў тут — заваліся. Будзе цёпла і ўтульна ў любыя маразы. Што ж да харчоў, то ён плазам ляжа, а забяспечыць імі сваю сямейку. Ды і адтуль жа, з дому, можна нешта ўхапіць, перанесці сюды ўдваіх з Хрысцінай.

От толькі ці згодзіцца, ці не пабаіцца яна зімаваць у гэтай глушэчы, у бязлюддзі? Але ён пераканае яе, запэўніць, што гэтак будзе лепей для іх усіх.

Добра ўсё абдумаўшы і ўзважыўшы, Ігнась ізноў — што будзе, то будзе — пусціўся ў дарогу.

## 4

Дзень быў пахмурны, шэры. Кусты і дрэвы праглядваліся толькі зблізку, далей жа яны танулі ў сутоністым тумане, а праўдзівей — у густой імжы, што, нібы рассыпаная кімсьці ў паветры кастра-пацяруха, таўклася перад вачыма, не ападаючы долу.

Ён знарок выбраў такі прыцемнены, глухі дзень.

Калі прайшоў з палову дарогі, з нізка навіслых хмараў пачаў сеяцца дробненькі дождж. Думалася, папырскае, папырскае — і перастане. Ажно не пераставаў. Усю дарогу цадзіўся і цадзіўся. Так разам з ім і падышоў Ігнась пад Волю. Усё на ім змокла ў квач. З шапкі збягалі за каўнер, за шыю праціўныя халодныя струменьчыкі, паўзлі між лапатак уніз па спіне. Але дарма: дома ён адагрэецца, абсушыцца. За яго возьмецца Хрысціна.

Ігнась бачыў ужо, як яна, спагадна павойкваючы, памагае яму распранацца, барзджэй адносіць мокрую, хоць выкручвай, адзежу на печ, а яму, дастаўшы з шафы, падае вялікі махрысты ручнік і прыхаваную там чыстую кужэльную кашулю, споднікі, знаходзіць і ўскінуць што на плечы. Ну а потым яна, ведама ж, пасадзіць яго за стол, каб накарміць з дарогі, мо знойдзе што і для сугрэву. А там, а там, як верх шчасця, будзе нагрэтая ёю пасцель, сама яна — любая, пяшчотная…

Ён ужо ўвайшоў у прыволеўскі лес. Калі, прабіраючыся праз кустоўе, плячом датыкаўся ў цемнаце да якой галінкі, яго абдавала з галавы да ног халоднай дажджавой расой. Ды ён ужо не сцярогся гэтага: усё роўна прамок да ніткі.

Хоць было цёмна і глуха, як у мяшку, ён нейкім сваім чуццём усё ж знайшоў дарогу, што вяла ў Волю. З радасцю пачуў яе нагамі, цвёрдую, аплеценую павыступанымі каранямі хвояў.

Выйшаўшы на волеўскае поле, суняўся, як і тыя разы, пры лесе.

Было так цёмна, што вёска амаль не праглядвалася. Можна было б адразу і пайсці такой цемнатой пад сваю сядзібу. Ды яго стрымліваў нейкі занадта ж дружны сабачы брэх. Даносіўся ён і з аднаго, і з другога боку вёскі. Чаго яны ўсхадзіліся? Мо пачулі якіх ваўкоў? А, ці мала чаго захочацца сабакам пабрахаць. На тое ж яны і сабакі.

Усё ж пастаяў каля лесу, паслухаў тыя пярэбрахі, што чамусьці не аціхалі. Тады памалу, час ад часу сунімаючыся і прыслухоўваючыся, пайшоў уперад.

Ціхенька падышоў пад свой двор. Асцярожліва паклаў руку на штыкеціны прыхлеўных варотцаў. Па вёсцы ж усё яшчэ перабрэхваліся сабакі. Каля вулічных варотцаў ім адгукаўся і Босы — Ігнась здалёк пазнаў бы яго густы бас. Каб падазваць сабаку, разы два страсянуў варотцамі. Босы пачуў — падбег ад вуліцы. Але — от дык дзіва! — не толькі не ўзрадаваўся гаспадару, не толькі не кінуўся да Ігнася, каб палашчыцца, а, наадварот, зласнавата гаўкнуў на яго, як на чужога. Гаўкнуў і паляцеў назад, яшчэ мацней заліўшыся каля вуліцы брэхам. Ігнась знерухомеў пры варотцах, не ведаючы, што і думаць. А Босы ізноў падскочыў сюды з вуліцы, ізноў два разы гаўкнуў на яго, свайго гаспадара, і пабег, як тады, назад, не перастаючы брахаць на некага. Усё ясна — Босы, яго слаўны разумны сабака, адганяў Ігнася ад двара, бо ісці туды было небяспечна: мусіць, нехта чужы швэндаўся па вёсцы.

Значыцца, да Хрысціны цяпер лепш не стукацца. Што ж тады рабіць? Пасля такой дарогі яму, зморанаму, змокламу, не заскочыць хоць на трошкі ў сваю хату? Не абняць Хрысціну, не глянуць хоць краем вока на роднага сына?

Нічога не зробіш, трэба ўстрымацца: ці ж пароць тут гарачку? Адным такім «заскокам» можна сапсаваць усё. Трэба перачакаць дзе-небудзь, добра прыслухацца да ўсяго, прыгледзецца. Можа, дарэмна ён спалохаўся, мо з нейкай сваёй, нязначнай прычыны разбрахаліся гэтак сабакі?

За прыгуменнем, недалёка ад сядзібы Караленяў, трохі збоку, была даўно перасохлая сажалка. Некалі малым Ігнась бегаў сюды з сябрукамі купацца — надта ж цёплая была ў ёй настоеная на сонцы вада. Дарма, што так і шмыгалі ў ёй чорныя

галавасцікі — вёрткія, з маленькімі хвасткамі і вялікімі галовамі апалонікі, жабіны дзеці. Цяпер сажалка пачала абрастаць лазняком і дробным бярэзнічкам. Туды, прыгінаючыся, асцярожна ступаючы, і адышоў Ігнась. Прысеў на сушэйшым краі сажалкі і пачаў назіраць за вёскай.

Дождж ужо суняўся, і цяпер трохі лепш віднеўся ў чарнаце ночы цьмяны шнур волеўскіх хат.

Ігнась намерыўся сядзець, пакуль не ўпэўніцца, што нічога ў вёсцы яму не пагражае.

Сабачы брэх то аціхаў, то ўсчынаўся з новай сілай. Апроч гэтага брэху, яго чуйныя, настаўленыя на слых вушы нічога іншага, нічога падазронага не ўлаўлівалі.

Сядзеў ён даволі доўга, нават прылёг быў на сіўцовых купінках, з прыемнасцю чуючы, як гудуць, аддаючы зямлі стому, ногі, плечы, усё цела.

Калі здалося, што сабачы брэх пацішэў, ён падняўся з наседжанага (і належанага), нават трохі сагрэтага сваім нутраным цяплом месца і зноў пацíху, пацíху пакраўся пад сваю сядзібу. Мо гэтым разам яго разумны Босы не будзе адганяць свайго гаспадара тым спалохана-трывожным гаўканнем, пусціць яго ўсё ж у двор?

Ды раптам Ігнась стаў як укопаны: на сярэдзіне вуліцы, расхінуўшы на міг цемру, калыхнуўся шыракаваты пук святла! Калыхнуўся і тут жа згас. Машына! Стаіць там, сцішаная. І, відаць, даўно. Бо не чуваць жа было ніякага гуду, нічога. І гэта не чыя іншая машына, як энкавэдысцкая! Бо ў волеўскім калгасе машын пакуль што і заваду няма. Як, мусіць, і ва ўсіх калгасах раёна. Толькі мо хіба галоўнаму раённаму начальніку далі ўлады якую машыну ды энкавэдыстам — звозіць ворагаў народа.

Выходзіць, гэта яны растрывожылі сабак. Толькі што ім трэба ў Волі? Няўжо ўсё яго высочваюць? Ці мо яшчэ каго ловяць? Толькі чаго так доўга стаіць тут машына? Сапсавалася? Ці мо заваліліся міліцыянеры да каго на самагонку?

Як бы там ні было, Ігнась мусіў барзджэй выносіць адсюль ногі. Не раздумваючы.

У роспачы варочаўся ён на сваю Воўчую выспу. Але суцяшаў сябе тым, што пачакае там яшчэ з тыдзень-другі, пакуль усё ўляжацца, паспакайнее ў Волі, ды ізноў прыйдзе, каб усё ж вырваць адтуль сваіх.

5

Нізка — здаецца, працягні руку і дастанеш — навісла над выспай хмарнае, без прасветлінкі неба. З яго, як з частага сіта, ужо каторы дзень, ненадоўга перапыняючыся, ізноў сеецца і сеецца лянівенькі дожджык-імжак. Што тут скажаш — восень. Не згадаеш, як услед за ёю засвішча, заскуголіць усімі вятрамі, усцілаючы свет бялюткімі гурбамі-дзюнамі снегу ды выскаляючыся не надта літасцівымі маразамі, яго першая тут зіма.

Блізкі прыход зімы змушаў Ігнася жвавей паварушвацца, каб як можна болей нарабіць запасаў на гэтую ліхую пару года, якую неяк трэба тут перабыць. Асабліва калі забярэ сюды Хрысціну з Стасікам.

За лета ён таго-сяго неўзаметку наскладаў у свае пляцёнкі ды лубянкі, якія ўжо добра налаўчыўся выштукоўваць. Вельмі давольны быў Ігнась уюнамі, якімі проста кішэлі прыбалотныя затокі і якіх ён насушыў вялікі ракітавы пляцень. Гэта ці не самы большы будзе тут падмацунак. Дармавата насушыў — на сонцы, калі не было печы, а потым і на ёй — таксама ягад, якіх колькі хочаш можна было назбіраць на выспе. Больш назапасілася чарніц ды буякоў. Ну, і для лякарства — трохі малінаў з ажынамі і суніцамі. Усю зіму будзе ў яго хаце тонкі водар ягаднага лета.

Назапасіў Ігнась яшчэ і брусніц. Наткнуўся на іх пры адной баравіне, на сонечным угрэве. Убачыўшы іх, аж падскочыў ад радаснай неспадзеўкі — ад гэтых крамяных, добра ўжо выспелых ягад дол у прагалінах быў увесь чырвоны! У Волі ніколі не бачыў, каб іх было дзе так густа — ягада пры ягадзе. Быццам бы з іх, усё адно як з якога бісеру, нехта выаздабіў тут дзівосныя казачныя дываны — любуйся, неба! Раслі брусніцы шышакамі, браць іх было — адна любата: падсаджвай пад ніз руку з растапыранымі пальцамі і грабі сабе ды грабі ў шырокі кораб, аб гулкія лубяныя бакі якога так і барабаняць гэтыя яшчэ цвёрдзенькія ягады.

Ігнась нанасіў у хату брусніц удосталь. Калі вылежаліся, зварыў іх у печы і выклаў у выдзеўбаную з ліпавага камля ладную бочачку. У Волі звараныя гэтак, без цукру, брусніцы стаялі ў халодным месцы ўсю зіму. Іх елі з бульбай замест кіслага малака — гэта калі запускалася карова. А яшчэ лепш ішлі звараныя кісленькія брусніцы з мёдам — дзяцей не адцягнуць было ад такой яды! Ну і тут знойдзецца з чым іх спажыць.

Яшчэ прасцей было назапасіць журавін, якіх таксама шмат наспела гэтым летам. Нашукаў іх на цвярдзейшым трохі балоце,

паміж рэдкіх куртатых бярозак і хвоек. Журавін як хто насыпаў там на пухкім жаўтавым імху. Гэтак жа проста іх захоўваць — насыпаў у лазовую пляцёнку, і будуць стаяць у кладоўцы хоць да новых.

Меркаваў назапасіць на зіму і арэхаў. Яны так добра завязаліся былі на ляшчынах, якія шмат дзе кусціліся на выспе. Ды, мусіць, летняя спёка не дала ім як трэба наліцца: у бальшыні былі пустыя або ў вугаль счарнелыя ўсярэдзіне — у Волі сказалі б, што іх папаліла маланка.

Затое добра ўрадзілі жалуды. Ігнась нацягаў іх дадому як можна болей — гэта будзе хлеб.

Вельмі спадзяваўся яшчэ на грыбы. Летам, калі добра прыпякала сонца, іх знаходзіў няшмат — як паесці.

І от пайшлі дажджы. Дажджы-грыбасеі. Не можа ж быць, каб яны нечага не прынеслі.

Дачакаўся нядзелі і, ускінуўшы на локаць рукі сплеценую з хваёвага карэння карзіну, падаўся ў проведы.

Хадзіць у грыбы Ігнась любіў змалку. Калі яны паяўляліся, ён забываў на ўсё — яго тады як магнітам цягнула ў лес. Вакол Волі ведаў усе грыбныя месцінкі, знаў, дзе якія з грыбоў і ў якую пару браць. Вышукваючы баравікоў, мог цэлымі днямі кружыць па лесе.

Тут, на выспе, ён даўно нагледзеў мясціны, дзе яны павінны расці. Туды і павярнуў цяпер. Нагам у лапцях мякка ступалася па зелянцовым імху, на якім зрэдку кусціўся буячнік і нязвычна высокі тут верас. З заміраннем сэрца чакаў радасных знаходак. На вочы траплялся пакуль што суравежкі. Ён не абмінаў іх, як некалі ў Волі. Тут у яго пойдуць любыя грыбы — што адразу спажывецца, што высушыцца на зіму. Падышоў пад вялікаватую, але яшчэ не старую чырвоную суравежчыну. Сваім нязменным паляўнічым нажом, які трымаў напагатове, падрэзаў крохкі белы корань. Быў ён у кропачках — не, чарвівыя грыбы Ігнась ніколі не браў, не будзе браць і цяпер. Нагінаўся толькі перад маладзенькімі, з нераскрытымі шапачкамі, — яны былі ў бальшыні чыстыя.

У лагчыне напаткаў яшчэ некалькі бялявых і цёмнагаловых бабак, маладых краснагаловічкаў — чырвоных і жоўтых, сямейкі лісічак, што павыскоквалі на ўсланыя старым зляжалым бярозавым лісцем цубкія прагалкі спаміж моху і верасу. Усё ўкладваў Ігнась у карзіну, ніякіх грыбоў не адкідваў.

Пад нагамі захрабусцеў сівы сухі машок баравіны. Хвоі на ёй рэдкія, але густыя, прысадзістыя, з далёка паадкіданымі ў

бакі лапкамі, ніжнія аж па зямлі пасслаліся. Ігнась пайшоў між хваін, пільна прыглядаючыся перад сабой. Каля адной хвойкі вока выхапіла круглую, цёмна-рыжую шапачку, уціснутую ў мох. Баравік! Аж сэрца ёкнула з радасці. От цікава: колькі папабраў Ігнась баравікоў у Волі, але кожны раз гэтак во радаваўся, як знаходзіў. Ён нагнуўся, выкруціў-вырваў цвёрды, з таўсцявым коранем баравічок, акуратна абрэзаў кончык разам з наліплай зямлёй, яшчэ раз парадаваўся, што чысты, і беражна паклаў у кош. Але не спяшаўся адыходзіць, прысеў і павадзіў наўкруга вачыма: баравікі не любяць расці па адным, недзе яшчэ павінны сядзець. Ну але — вунь другі вытыркнуўся каля маладзенькай хвойкі. Не ўспеў яго сарваць, як у вочы кінуліся яшчэ таўсматыя рыжманы. А за імі новыя павылазілі з моху. О, іх тут цэлая калонія! І ўсе грыбы яго, аніякіх канкурэнтаў! Хадзі сабе і не аглядвайся, каб хто яшчэ не наскочыў.

Поўную карзіну набраў Ігнась грыбоў, больш за ўсё баравікоў — аж люба было паглядзець на іх, маладых, крэпкіх. Клаў туды і пажаўцелыя спадыспаду, але таксама цвёрдыя, чысценькія.

Яшчэ два разы за дзень справіўся ён схадзіць у баравікі. Тры паўнюткія кашы назбіраў.

От бачыла б гэта Хрысціна! Уявіў, як яна радасна здзівілася б такому багаццю, такому хараству. Як перабірала б грыбы, чысціла, раскладвала — каторы куды: гэты — на варку, той — на смажанне, іншыя — на сушку, на солку.

Пакуль жа ўпраўляцца з грыбамі ён будзе сам. Пачысціўшы іх, параскладаўшы, запаліў у печы. Як разгарэлася, паставіў у чыгунку ваду, каб абварыць тыя, што пойдуць на варку і смажанне. Калі выгарала ў печы, адгроб самім жа зробленай з дзерава качаргой яшчэ не зусім патухлы жар далей, паставіў на гарачым подзе двух'ярусную, сплеценую з арэхавых і лазовых дубцоў адмысловую сушылку, на якую параскладаў адзін пры адным баравікі і некалькі краснагаловікаў, прычыніў вусце драўлянай засланкай — хай жа высушваюцца. Як добра там прагрэліся, правяліліся, дастаў іх з печы і параскладаў на гарачым чарэне — дасушвацца. На зіму лепш за ўсё грыбы сушыць — з сушаных можна рабіць што хочаш.

Лепшымі для сушкі заўсёды лічыліся ў Волі, ведама ж, баравікі. Сушылі і зусім маладзенькія, і паджоўклыя, і старыя, толькі здаровыя, чыстыя. Яго заўсёды вельмі радавалі высушаныя маладыя баравічкі. Такія яны рабіліся беленькія спадыспаду — што фарфоравыя. У дзяцінстве ён любіў сабраныя і

высушаныя ім самім такія баравічкі нанізваць на складзеныя ў некалькі столак ніткі і падвязваць дзе-небудзь каля печы. Вельмі люба было час ад часу паглядзець на гэтыя беленькія грыбочкі, ну і перад равеснікамі пахваліцца.

З такіх баравічкоў некалі ў аплеценым дротам гаршку ах якую смачную варыла маці мачанку! Не даказала б ёй і тая, што была з курынага мяса. Калі маці вылівала яе з гаршка ў агульную вялікую місу, ад мачанкі, трошкі рыжаватай ад баравічкоў, як бы паджуранай, ішла ўверх белая пара і па хаце разыходзіўся густы грыбны пах, які проста зрываў насы. Пры місцы на ручніку маці наўскладвала і ладную горку пухкіх жытніх, а часам і пшанічных бліноў, а то і грачанікаў. Дзеці, пасеўшы за сталом, разрывалі іх на часткі, насаджвалі на відэльцы і тыцкалі ў мачанку. Добра ў ёй абквэцаўшы свае бліны, барзджэй, каб не капала з іх, неслі ў рот. Любілі відэльцамі вылоўліваць у місцы ўсё яшчэ цвёрдзенькія, з прыемным саладкаватым смакам грыбкі. Здаецца, нічога смачнейшага за мачанку з маладзенькімі баравічкамі Ігнась ніколі не еў.

Толькі ў мачанцы чамусьці і запомніліся яму маладыя сушаныя баравікі. Ды, мусіць жа, і яшчэ ў шмат якое варыва ўкідвала іх маці. Баравічкі маглі ісці ўсюды, на акрасу любой стравы. Пэўне ж, іх, вымачыўшы, можна і смажыць на скавародзе. Але на што, на што, а на смажанне іх не ўжывалі ў Караленяў ды і ў любой волеўскай хаце. Гэта ж, лічы, пускаць ну хай не на глум, то на марнатраўства гэтакі дарагі прадукт.

Вельмі ішлі шмат у чым і старыя сушаныя баравікі, асабліва ў зваранай у печы капусце, ад якой так па-дамашняму пахла ў хаце.

Пакуль раслі, Ігнась хадзіў цяпер па выспе ў грыбы кожны дзень, стараўся, што б там ні было, выкраіць на іх час. Больш набіраў зноў жа баравікоў, заўсёды несучы іх у сваю хату як радасць.

Прыносіў ён нямала і краснагаловікаў. Хоць пасля сушкі рабіліся яны чорныя, як тыя карчы, затое вунь як добра калісьці еліся дома звараныя з імі буракі, што ў горадзе называюць баршчом. Са старымі сушанымі краснагаловікамі зімой часта варыла маці і квас з буракамі, парэзанымі шырокімі лісцінамі, і з цэлымі галоўкамі цыбулі ў лупінах. Для кіслаты ўлівала ў чыгун капуснага расолу. Елі квас больш з печанай бульбай. Цэлага паўкаша яе, бывала, укідвала маці ў толькі што выпаленую печ з неатухлым яшчэ жарам. Вельмі добра выручаў квас сям'ю ў пост, калі няможна было есці скораму. У пост маці і проста адварвала часам сушаныя краснагаловікі, старыя і маладыя, у

салёнай вадзе. Выняўшы з печы чыгун, дзе яны варыліся, яна агортвала яго кухонным ручніком, каб не апячыся, і несла аберуч к сталу. Выкідвала парэзаныя на палоскі грыбы апалонікам у міску, палівала іх алеем і гукала дзяцей есці лясное «мяса».

Ігнасю помніцца, што было гэтае «мяса» не горшае за праўдзівае. Слізкаватыя і праўда мясістыя, добра вывараныя краснагаловікі дзеці ўходвалі ў адзін міг. Пасля яшчэ і ў чыгун заглядвалі, нагінаючы яго: ці не прыкарэла там хоць палоска грыба?

Сушыў Ігнась яшчэ бабкі, маслякі, махавікі, палявыя баравікі — усё, што здаўна спажывалася і сушылася ў Волі. Яно то можна было б пасушыць яшчэ суравежкі ды падбалоцінкі. Але ўжо і без іх яму хапала грыбоў.

Не мог устрымацца Ігнась яшчэ ад сушкі апенек. Гэты грыб волеўцы чамусьці ніколі не бралі: лічылі яго воўчым. Пра тое, што гэта свойскі і вельмі добры грыб, ён уведаў, як вучыўся ў Мінску. Калі яны паявіліся ў лесе, імі быў завалены рынак, і там яны ішлі нарасхват. Дома прынёс ён раз іх з лесу і папрасіў у мацеры зварыць. Але яна толькі рукамі замахала: «Атруціцца захацеў?» Тады Ігнась сам зварыў іх з дробна парэзанай бульбай і падсмажанай на сале цыбуляй. Булён з апенькамі выйшаў хвацкі! Усе елі і толькі хвалілі. Апенькі ў булёне былі мяккія, далікатныя — аб’ядзенне! Пасля таго маці ўжо з ахвотай варыла іх, калі хто прыносіў з лесу, але сама браць у лесе апенек не адважвалася: баялася зблытаць з воўчымі, атрутнымі.

На выспе ён наткнуўся быў на іх у адным толькі месцы — у нізкім драбналессі з рэдкімі старымі елкамі. Спачатку згледзеў за лазняком нейкую здань. Аж адхіснуўся быў назад. Ды калі прыгледзеўся, дык убачыў, што гэта ніякая не здань, але ўсё роўна дзіва: падгнілы бярозавы ствол-абрубак без кроны ўвесь ад нізу да верху быў аблеплены рабенькімі апенькамі — нібы які вадзянік лускавінамі. Ад камля апенькі разбягаліся проста па зямлі, абсядалі пні, ускоквалі на гнілыя ствалы даўно паваленых дрэў. Праўдзівае нашэсце грыбоў!

Нямала было Ігнасю марокі, калі ён прыносіў кашамі апенькі дадому і пачынаў іх парадкаваць, адразаючы па самыя шапачкі тонкія пругкія ножкі з беленькай аблямоўкай плеўкі ды ачышчаючы ад наліплага лісця. Затое, высушыўшы, цэлую горку назапасіў ён хрусткіх грыбочкаў, з якіх не горшае чым са свежых будзе ў хаце зімовымі месяцамі варыва.

За грыбны сезон Ігнась насушыў поўны мех грыбоў — ужо з аднымі імі можна б было перазімаваць, ды і надалей іх хапіла б.

Узяўся быў ён і саліць грыбы. Для гэтага з бяросты і лубу парабіў шчыльныя каробачкі, як навучыў яго яшчэ некалі дзед Базыль. На засолку маглі б пайсці шмат якія грыбы, але, ашчаджаючы соль, ён пасаліў толькі найбольш прыдатныя для гэтага маладыя белыя грузды ў адной каробцы і ў другой рыжкі. Саліць іх — яшчэ была яго адна ўцеха з дзяцінства.

Асабліва ўпадаў Ігнась за рыжкамі. Бывала, як толькі яны паяўляліся, ён абшнырваў усе волеўскія ваколіцы і — патроху, патроху — дармавата іх назбірваў. Для рыжкоў маці ўдзяляла яму выдзеўбаны з дубовага ствала кадоўбчык, а калі іх знаходзілася няшмат — адмысловую берасцяную каробачку.

У Волі рыжкі раслі больш пры сцежках ды дарожках, на скапычаных каровамі хвойных прылесках, на маладых хвойных пасадках. Пры ельнічках трапляліся трохі танчэйшыя, цямнейшыя колерам, з зеленаваценькімі кругамі яловыя рыжкі. І хваёвыя, і яловыя рыжкі, як заўважыў Ігнась, любілі расці, дзе было больш стаптана, — людзьмі ці жывёлай. Тут жа, на дзікім востраве, рыжкоў было няшмат. Ігнась знаходзіў іх на прылесных сіўцовых лугавінках, на ласіных ды дзіковых сцежках.

## 6

Калі хадзіў па грыбах, рабіў на зіму запасы, раскарчоўваў поле, у Ігнася не выходзілі з галавы тыя загадкавыя сляды каля азярца. Хто ж іх там пакінуў? Кожны раз, адлучаючыся з дому, ён пільна прыглядаўся да кустоў і дрэў. Калі чуў якое шамаценне, прыпыняўся і, стаіўшыся, чакаў, хто ж адтуль пакажацца. Пападаліся Ігнасю на вочы і лісы, і козы, і ваўкі, і барсукі, многія вядомыя яму звяры. Толькі не тая загадкавая істота.

Убачыў яе Ігнась зусім нечакана. З акна сваёй хаты. Ранічкай, калі збіраўся схадзіць на азярцо па рыбу. Спярша змеціў, як штосьці мільганулася пазаваконню. Падскочыў пад акно — ваўкі! Нешта абнюхвалі на палянцы. Мо ён пакінуў там якую костку? З імі было і нешта зусім на іх непадобнае. Прыгледзеўся — чалавечае аблічча, як бы нейкае хлапчанё! Зусім голае. З раскудлачанымі валасамі на галаве. Яно разам з двума ваўкамі-недаросткамі — нос пры носе — нахілілася да зямлі. Але добра разгледзець тое дзіва Ігнасю не ўдалося: ваўкі толькі на імгненне затрымаліся перад ім і тут жа патрухкалі ў лясны гушчар. З імі пакулялася на ўсіх чатырох і тое дзіўнае стварэнне.

Барзджэй адзеўшыся, Ігнась выбег з хаты: што ж яны там нюхалі? Ды нічога на тым месцы не ўбачыў. Што гэта за насланнё? Адкуль магло ўзяцца на бязлюдным, закінутым сярод непралазных балот чалавечае адроддзе? Ці мо зусім не чалавечае? Мо якое іншае, невядомае яму стварэнне? Проста чалавекападобнае? Якую ж, якую тайну хавае яшчэ Воўчая выспа?

Што б там ні было, яму трэба адшукаць, а лепш злавіць тую дзіўную істоту, добра разгледзець, разгадаць яе загадку. Інакш не будзе яму тут спакою.

Адно ясна: жыве гэтая дзіўная чалавекападобная істота разам з ваўкамі. Значыць, яму трэба шукаць дарогу да ваўкоў.

З ваўкамі ён даўно хацеў зблізіцца. Бо замысліў быў злавіць і прыручыць якога малога ваўчка замест сабакі — хай бы ж была пры хаце свая варта, яму памочнік. Але дасюль недабіраў часу, каб заняцца гэтым.

Цяпер трэба знайсці такі час. Ён павінен прывучыць ваўкоў не баяцца яго, зрабіцца сваім. Найперш трэба прыманіць чым-небудзь, прынадзіць да свайго двара. Але чым жа, калі не мясам, іх можна сюды завабіць? От так — і яму, і ваўкам трэба мяса. Як ні круці, ён мусіць заняцца паляваннем. Толькі як? Без стрэльбы і сабак што тут упалюеш? Але ж трэба.

Узяўся майстраваць лук. Як першабытны чалавек. З маладога пруткага дубка высек даўгаватую, больш чым метровую дужку і, сагнуўшы, прыматаў да яе прыхоплены дома тонкі медны дрот, скруціўшы яго для крэпасці ў тры столкі. Папрабаваў расцягваць — цаціва што трэба! Хоць з натугай расцягваецца лук, затое далей паляціць страла.

Стрэлаў навыразаў з пруткіх дубовых дубцоў і прамых яловых лапак. Цяжэй было з наканечнікамі — дзе іх тут возьмеш? Усё ж некалькі вырабіў з адшуканых у сваіх запасах жалязяк і цвікоў, добра расплюскаўшы іх малатком.

Пацяжэлыя ад наканечнікаў стрэлы папрабаваў папускаць перад сабой у неба — яны аж звінелі ў лёце. Нават азарт узяў Ігнася — так прыемна было страляць з лука. Як некалі ў дзяцінстве.

Толькі от што можна застрэліць з гэтай дапатопнай зброі? Хіба што зайца ці якую птушку. А ці праб'еш стралою цвёрдую скуру дзіка ці лася?

Нядзельнай раніцай з лукам на плячы і стрэламі ў торбе ўсё ж паківаўся ў лес.

Глуха і пуста стала ўжо ў лесе. Недзе пастукваў дзяцел, у хвоі з сука на сук паскоквала, нібы сама з сабой гуляючы, сінічка-

зеленагрудка з чорным загрыўкам і шара́вымі крыльцамі. Што ён знойдзе ў гэтакую пору?

Стараўся ісці ўзлессямі, па хмызняках, па лясных прагалках. Нідзе нічога. Нібы ўсё пахавалася ад яго. Толькі вароны зрэдчас пакарквалі ўверсе. Мо падстрэліць каторую? У Волі нават падумаць гідзіліся забіваць на мяса варону. У любы голад. Але ваўкі, можа, не адкінулі б і яе? Ды Ігнасю і для іх не хацелася з ёю пэцкацца.

Амаль дзень прабадзяўся Ігнась па лесе. І ўсё — упустую. Толькі дарэмна ногі набіў і дарагі час патраціў.

У адным месцы, праўда, нарваўся быў на зайца. Ён выскачыў амаль з-пад ног. Лук са стралой Ігнась трымаў напагатове. Тут жа і нацэліў яго на шарака. Да адказу нацягнуўшы, пусціў стралу. Ды дзе там — гэтак джгануў касавокі, што страла празвінела каля самых яго вушэй, не зачапіўшы. Той яшчэ больш паддаў ходу. Праўда, адбегшыся, суняўся ўсё-такі — паглядзець, што гэта такое незнаёмае, ніколі не бачанае дзіва, паквапілася на яго ў лесе? Другі раз Ігнась не страляў ужо: бачыў, што не пацэліць здалёку. Ды і заяц не затрымліваўся на месцы, пакуляўся далей, у хмызнякі — толькі мільгаў белаваты карацелька-хвосцік.

На другі дзень трапіўся яму лось, рослы, падгалісты, з вялікімі разгалінаванымі рагамі. Якраз гэтыя рогі і згледзеў быў спярша Ігнась у негустым хмызнячку. Здзівіўся быў нават: хто гэта корч закінуў у голле дрэў? Рагач адразу ўбачыў яго, але як стаяў, перамолваючы сваімі зубамі галінку, здаецца, асінавую, так і астаўся стаяць, нават з месца не зрушыўся. Толькі павярнуў на Ігнася галаву і не без насцярогі пазіраў на яго: чаго хоча гэты дзіўны звер на дзвюх нагах? Быў ён, як гэта кажуць, на адлегласці стралы, і Ігнась, добра паднатужыўшыся, мог бы пацэліць у яго. Але страла яўна не праткнула б ласіную скуру. Ігнась пачаў неўпрыкмет пад яго падкрадвацца. Вельмі асцярожна падкрадвацца, без рэзкіх рухаў. Ступіў — суняўся — пастаяў, ступіў — суняўся — пастаяў. Нібыта лось яго зусім не цікавіць. Такім спосабам зусім блізка падступіўся пад лася. Во ён, па-ранейшаму павярнуўшы на Ігнася сваю прадаўгаватую галаву, паволі варочае сківіцамі, не спускаючы з яго вачэй. Які ён усё ж стройны, можна сказаць, элегантны! Скура аж ільсніцца. Вочы вялікія, спакойныя. Ігнась паволі падымае лук. Цэліць проста ў шыю. Скура на ёй нібы танчэйшая, больш далікатная. Папасці ў яе зусім лёгка. Страла павінна яе праткнуць. Калі ён не заб’е лася адразу, дык моцна параніць. А тады можна дагнаць і з усяго маху даць сякерай па ілбе. Лось будзе яго. Па-

куль жа той спакойненька глядзіць на скіраваную ў яго стралу. Не ведае, што гэта такое. З нацягнутай цецівой Ігнась ціхенька ступае яшчэ бліжэй. Ужо бачыць самыя малыя складачкі на шыі. Астаецца толькі расшчапіць пальцы, што трымаюць канец стралы. Ды пальцы не расшчапляюцца — бы прыраслі да яе. Як забіваць такую мірную істоту, што гэтак даверылася яму? Такога страйнягу? Такога веліканa? Ну, заб'е, разбярэ тушу. Колькі ён спажыве таго мяса? Калі б было досыць солі ці хацябы стаяў мароз на дварэ, то, панятна, збераглося б, надоўга яго хапіла б. А так дні чатыры, ад сілы пяць-шэсць паесць і ўсё — выкідай вон! Ваўкам. Праўда, іх то ўжо прынадзіў бы. Але як дзеля іх губіць такога харашуна?

Разважаючы гэтак, усё ж бліжэй і бліжэй падступаў пад лася. А той усё з большай цікавасцю глядзеў на Ігнася, даверліва, спакойна, жуючы сваё голле. І толькі калі пад Ігнасевай нагой трэснуў сучок, лось раптам скокнуў убок і, ломячы хмыз, бурай паляцеў у лясны гушчар. Ігнась апусціў лук і з палёгкай уздыхнуў: ну і добра, што так усё кончылася.

Але, ідучы дадому, пачаў ушчуваць сябе:

— Ну, і дурань жа я, дурань! Ці ж у маім становішчы гэтак далікатнічаць? Чыстаплюй! Слімак! Такое мяса ўпусціў! Хоць бы з раз здаволіўся.

Ён уявіў, як варылася б, булькатала пастаўленае ў чыгунку ў печ першакласнае ласінае мяса, разносячы на ўсёй хаце гэтакі родны дамашні пах. А потым ён вывернуў бы яго на стале ў міску і ад тлустых кускоў ішла б смакотная саладка́вая пара. У Ігнася аж закружылася галава, а ў роце пагнала сліну.

Не, яму трэба перасіліць сябе, адкінуць гэтае шкадаванне. Даўно ж ведае: так ужо ўстроена ў прыродзе, што кожная зямная істота жыве за кошт іншых істот, што чалавек — не траваядны, ён, здаецца, ніколі не харчаваўся толькі зеллем ды пладамі лясоў і палёў. Ён заўсёды мусіў нешта забіваць, каб жыць. Гэта рэальнасць, такі закон прыроды. І не яму, Ігнасю, мяняць спрадвечны закон.

Калі падыходзіў пад сваю хату, зглёдзеў раптам на хвоі вавёрку. Рыжая, з высока ўскінутым пушыстым хвастом, яна, падбегшы аднекуль знізу (мо вышуквала грыбоў?), кінулася па тоўстым парэпаным камлі хвоі ўверх. Але скора сунялася і во глядзіць на яго сваімі бліскучымі чорнымі вочкамі-пацерачкамі. Зусім блізенька. Не баіцца яго. Бо не раз бачыла, як праходзіў тут, як любаваўся ёю і не думаючы яе чапаць. Цяпер, мусіць, вавёрачка хоча бліжэй разгледзець яго. Самы раз падняць лук

і пусціць у яе вострую стралу. Увобміг зляцела б, шмякнулася б яму ў самыя рукі. Толькі як губіць такое хараство? Не, ён не падыме на вавёрку лук — хай гуляе сабе па дрэвах, радуе яго, душу цешыць. Для вавёркі зробіць ён выключэнне.

Так што і гэты раз прыйшоў Ігнась дадому з пустымі рукамі.

7

Ён з усёй сілы шчыпаў сябе, адцягваючы і бязлітасна пакручваючы пальцамі скуру вышэй локця і на сцёгнах, біў кулаком па баках, па рэбрах, па твары: не можа быць, што гэта не сон! Гэта сон! Трывожна-мройлівы, зацяжны сон, з якога ён усё не можа выйсці, вырвацца з яго абцугоў. Бо як жа паверыць у такое?

Было гэта ў нядзелю. Устаўшы раніцай, ён не пайшоў, як усе дні, на раскарчоўку поля. У гэты святочны дзянёк яму захацелася зрабіць пярэдых ад усіх сваіх гаспадарчых турбот, адпачыць. А які можа быць для яго лепшы адпачынак, як грыбы? Спакваля, не спяшаючыся, вышукваць іх у лесе?

От і памкнуў туды з кашом у руцэ. Ногі самі павялі пад той рэдкі ўзгорысты хвойнік з белым мохам між камлямі. У ім, гэтым імху, гусценькім, схоўным — улюбёныя баравіковыя седлішчы.

Напярэдадні перамяніўся вецер. Ён памалу разгроб, разагнаў у небе хмары. Пасля нудных імжыстых дажджоў і густых сівых тумановў на выспе ўстанавілася цёплая сонечная пагода. Праўдзівае бабіна лета.

Лісцёвыя дрэвы стаялі ўжо голыя, і ў лесе было далёка відаць. Выспа быццам папрасторнела, павесялела. Бо і сонца свабодна заглядвала цяпер у самыя глухія, раней недаступныя куточкі.

Не даходзячы да белага баравога моху, Ігнась убачыў пры асінніку ў траве ладную чырвоную шапку — краснагаловік! Падрэзаў — хоць і стары, але чысты. Паклаў у кош. Калі глянуў уперад, ледзь не войкнуў: адзін пры адным стаялі між травяных купін яшчэ краснагаловікі, ды маладзенькія, з нераскрытымі шапачкамі — што таўкачыкі! Пабраў іх, цвёрдзенькіх, крэпенькіх, і пайшоў узбор'ем далей, дзе яны павінны расці між асін — баравікі хай пачакаюць у белым імху, нідзе не дзенуцца ад яго. Ці ж кепска нарэзаць і гэтых цыганістых харашуноў?

Заўсёды, калі Ігнась трапляў на грыбную месцінку, дык добра абшнарваў яе, снуючы то ў адзін, то ў другі бок, стараючыся не прапусціць ніводнай лапінкі, ніводнай купінкі. Так рабіў і цяпер. І недарэмна. То там, то там натыкаўся на чырвоныя і жоўтыя краснагаловікі.

Ён так захапіўся грыбамі, што не адразу заўважыў ваўкоў, якія праходзілі каля яго. Яны, як відаць, раней змецілі свайго старога знаёмца, занятага нечым для іх незразумелым, але не надта зважалі на яго: даўно ўжо звыкліся з гэтым двухногім дзіваком. Першы трапіў яму на вочы вялікі, трохі ўскудлачаны воўк — выйшаўшы на прагалак паміж ляснога падлеску, ён абыякава зіркнуў на Ігнася нейкімі нібыта стомленымі вачамі і пасунуўся далей у лес. За ім патрухваў меншы воўк — можа, ваўчыца? За ваўчыцай па чарзе паказваліся з-за калматай хвойкі яшчэ ваўкі — большыя і меншыя. Пэўне, гэта была ваўчыная сям'я, якая перабіралася аднекуль — можа, з начнога палявання? — сваёй раней вытаптанай сцежкай. Убачыўшы блізка ад сябе ваўкоў, Ігнась і выгляду не падаў, што баіцца іх. Знарок нахіліўся і падняў з-пад ног яшчэ адзін краснагаловік, пачаў спакойна абразаць корань. Але ні на міг не спускаў з ваўкоў вачэй. Нават пачаў лічыць іх: адзін, два, тры, чатыры… І раптам яму заняло дых: сярод ваўкоў ён убачыў тую дзіўную істоту. Скура на ёй была без поўсці, гладкая, да чарнаты загарэлая. Ігнась інстынктыўна ступіў насустрач гэтаму дзіву. На трэск сучка пад Ігнасевай нагой дзіўная істота павярнула на яго галаву. Ігнась аслупянеў: на яго з-пад раскалмачаных валасоў глядзеў… сын Стасік!

Але які тут можа быць Стасік? Гэта здань! Усё роўна ён кінуўся яе лавіць. Ды здань надзіва спрытна скокнула на сваіх чатырох нагах убок і маланкай сiганула ў густыя кусты падлеску — услед за ваўкамі. Ігнась рынуўся даганяць. Ды дзе там — здані і след прастыў.

У глыбокім ачмурэнні і замяшанні Ігнась паплёўся назад. Па дарозе наткнуўся на свой кош з краснагаловікамі, які ён адразу быў тады кінуў. Бяздумна ўзяў яго на локаць, нават не падняўшы тых грыбоў, што павыкідаліся з каша.

Прыйшоўшы ў хату, прылёг не раздзяваючыся на ложак, але тут жа ўстаў, захадзіў па хаце. Тады і пачаў шчыпаць ды біць сябе, каб дайсці, спіць ён ці не спіць. Ну, пэўне ж — ён спіць. Бо толькі ў сне можа паявіцца такая здань.

Але чаму не праходзіць боль ад сваіх жа шчыпкоў ды грымакоў? Вунь і краснагаловікі ў кашы на зэдлі, якія толькі што прынёс з лесу, глядзяць на яго. Не прытрызненыя, праўдзівыя. З густачырвонымі шапачкамі, з чорна-рабымі таўсматымі ножкамі. І пахнуць, як трэба. Краснагаловікамі, а не лісічкамі ці якімі рыжкамі.

Чаму тая дзіўная істота здалася Ігнасю падобнай на яго Стасіка? Ну ясна — ён усё думае пра сына, мроіць пра яго, от ён і прымроіўся. Прымроіўся на мяжы сну і нясну. Гэты стан Ігнась не раз заўважаў у сабе пасля ўцёкаў з Сібіры.

Стараючыся супакоіцца, ён узяўся перабіраць і крышыць грыбы. Але тут жа апусціў на стол нож. Перад вачамі стаяла ўбачанае, зноў і зноў усплываў смуглявы, нейкі быццам учарнелы і так падобны да Стасікавага тварык той дзіўнай істоты.

Раптам Ігнась падскочыў, як уджалены: а можа, ён сустрэў тут Стасікавага двайнічка Янку? Ігнася нібыта абліло ўсяго варам. Няўжо? Божа! Не, гэтага не можа быць!

Ігнась захадзіў па хаце, яго проста насіла з кута ў кут, з кута ў кут, галава пухла ад думак.

— Божа мой, Божа мой, Божа мой, — толькі і паўтараў ён, хапаючыся, як звар'яцелы, за галаву, нідзе не знаходзячы сабе месца.

Няўжо можа быць такое, няўжо праўда тут, на Воўчай выспе, іхны з Хрысцінай даўно страчаны хлопчык? Што, гэта занёс яго сюды воўк, выкраўшы тады ў Хрысціны? І тут яго выгадавалі ваўкі ў сваім логаве? Але як ён мог выжыць сярод іх? Голы і босы, зусім бездапаможны? Як перабыў маразы і зімовыя сцюжы? Няўжо бегаў босы па снезе? Як не замёрз? А што еў? Сырое мяса, што здабывалі ваўкі? Неверагодна, неверагодна!

Ігнась ведаў з кніг, што такіх выпадкаў, калі ваўкі выгадоўвалі ў сваім логаве людскіх дзяцей, было нямала ў свеце. Спярша ваўчыца выкормлівала іх разам з уласнымі ваўчанятамі сваім малаком. Як легендарных Ромула і Рэма, што быццам бы заснавалі горад Рым у Італіі. Калі дзеці падрасталі, дык разам з ваўчанятамі, сваімі «пабрацімамі», прывучаліся есці і сырое мяса. У маразы, пэўне ж, і саграваліся з імі ў бярлозе, тулячыся адно да аднаго.

Калі ўсё гэта праўда, калі не сон, не нейкае зацяжное Ігнасева трызненне, дык якое гэта было б для яго і для Хрысціны шчасце!

Цяпер, як ніколі, пашкадаваў ён, што няма побач Хрысціны. Ён зразу ж прыбег бы расказаць ёй пра здань іхнага хлопчыка. Не трэба казаць, як бы яе гэта ўсхвалявала. Яна б то разважыла тады, здань яму явілася ці напраўду знайшоўся Янка. А так ён верыць і не верыць убачанаму. Яму заўсёды будзе думацца, што гэта была здань.

Можа, у галаве ў яго якое памутненне? Калі так, ці ж ён гэта зразумее сам? Толькі яна, яго Хрысціна, магла б тут усё

паставіць на месца, заспакоіць яго. Але ж дарога да яе ў Волю пакуль што перакрыта.

8

«Як жа мне параіцца з табой, Хрысцінка? Як развеяць свае цяжкія думкі?»

Ды адсюль ён нічога ў яе не дапытаецца, нічога ёй не паведае. Але ён усё роўна будзе пра ўсё ёй расказваць. Праз пісьмы. Дарма, што адсюль іх пакуль што няма як пераслаць. Ён усё роўна будзе ёй пісаць, будзе расказваць пра ўваскрэслага роднага сына. Бо як жа ўтрымаць у сабе буру? Некалі Хрысціна прачытае яго пісьмы. А цяпер ён хоць душу адвядзе праз іх.

І ён дастаў з шуфляды шафы свой студэнцкі сшытак, свой паўсядзённік, у якім запісваў дні і месяцы, паставіў на стол чарніліцу з чарнілам, узяў ручку з пяром.

ПІСЬМО ПЕРШАЕ

*Мая родная, мая залатая Хрысцінка! Пішу табе з нашай новай сядзібы, з нашай хаты, якую я збудаваў на бязлюднай Воўчай выспе, пасярод непраходных балот і дзе мы скора будзем жыць. Але пра гэта — потым. Цяпер жа я рвуся перадаць табе зусім неверагодную, але вельмі радасную, можна сказаць, ашаламляльную вестку. От толькі не ведаю, як цябе падрыхтаваць да яе. Бо яна цябе вельмі, вельмі ўсхвалюе. Такая яна незвычайная, нават фантастычная. Слухай жа, слухай, мая любая Хрысцінка: знайшоўся наш сынок Янка! Чуеш ты гэта ці не, Хрысцінка?! Ну, ясна, ты чуеш, але не верыш. Думаеш, я тут з глузду з'ехаў на адзіноце, звар'яцеў. Не, Хрысцінка, не! Я, здаецца, не памяшаўся, я не трызню: знайшоўся наш Янка!*

*Тады воўк занёс яго сюды, на Воўчую выспу, у сваё логава. Дзіва не дзіва, ваўкі не загубілі яго, а выгадавалі разам са сваімі ваўчанятамі! Тое, што гэта ён, наш Янка, — сумненняў не можа быць: ён як дзве каплі вады падобны на свайго двайнічка Стасіка. Я бачыў яго зблізку. Толькі ён уцёк ад мяне: ведама ж, здзічэў, жывучы са звярамі. Цяпер я раблю ўсё, каб адабраць яго ад ваўкоў, вярнуць да сябе ў хату.*

*Напісаў табе гэта, а ў галаву ізноў лезуць сумненні: можа, і праўда мне ўсё прымроілася? Можа, мне явілася здань нашага хлопчыка? Ці які заварот мазгоў у мяне? Як гэта тут праверыць без дактароў, без людзей?*

*Але ўсё гаворыць, што няможна сумнявацца. На Воўчай выспе — наш сынок!*

## ПІСЬМО ДРУГОЕ

*Хрысцінка, пішу табе на другі дзень. Калі я ўбачыў, што ўсё гэта не сон, што праўда тут наш хлопчык, адразу ж пайшоў шукаць воўчае логава. Я ведаў, што яно не вельмі далёка ад мяне, ведаў і ў якім баку, толькі дзе, у якім месцы, не прыкмеціў: што мне раней было да яго? Цяпер наважыўся знайсці. Знайсці, каб выбавіць адтуль Янку. Не думай, што гэта проста: ваўкі так ухоўваюць, так маскіруюць сваё жытло, што будзеш хадзіць побач і не змеціш.*

*Каб агледзець у іхным баку лес, я ішоў па ім не напрасцяк, а снаваў умітусь — так, як і шукаючы грыбоў. Спярша, забіраючы як мага шырэй, у адзін бок, потым, падаўшыся ўперад, — у другі. Туды-сюды, туды-сюды. Гэтак снуючы, я ўшываўся ў самыя глухія гушчарнікі. Пільна прыглядаўся да кожнага вываратня, да кожнай яміны. Але, пратупаўшы да вечара, нічога падобнага да логава так і не ўгледзеў.*

*Хоць і нацягаўся за дзень, але доўга не мог заснуць. А калі ўдавалася праваліцца, як у яму, у сон, тут жа ўскідваўся, як уколаты. З галавы не выходзіў наш хлопчык. Ці ж можна дапусціць, каб ён заставаўся сярод ваўкоў, самых драпежных звяроў? Я павінен як найбарзджэй вырваць ад іх хлопчыка. Толькі дзе, дзе маглі яны ўхаваць сваё логава? Але ж недзе яно ёсць, недзе ж туліцца ў ім і наш Янка.*

## ПІСЬМО ТРЭЦЯЕ

*Ведаю, Хрысцінка, як табе не церпіцца даведацца пра мае пошукі. Бо і мне да нясцерпу хочацца барзджэй знайсці ваўчынае жытло.*

*Зноў пайшоў раніцай у лес. Заглыбляўся ў глухія нетры, абшукваў густыя зараснікі. Нідзе нічога! Хоць бы які знак!*

*І толькі калі прыйшоў сюды назаўтра раніцай, змеціў за кустом арэшніку штосьці белае. Падышоў — абгрызеная костка нагі нейкай жывёліны! Трошку далей — яшчэ косткі. Ды не выпетраныя — свяжуткія, нават крывяныя пісягі чырванелі на выгінах галёнак. Ці не ваўчыная гэта сталоўка? Значыць, недзе паблізу павінна быць і іхная хата! Толькі дзе?*

*Пачаў прыглядацца да вываратняў, пад якімі звычайна ладзяць ваўкі сваё жытло. Вунь адзін чарнее непадалёк растапыранымі каранямі, другі. Я і раней бачыў гэтыя вываратні — там пуста. Даўно згнілі, спарахнелі паваленыя некалі бурай елкі, пад вывернутым карэннем зямля ўжо абсыпалася, пабралася жаўтаватым зязюльчыным лёнам. Апроч гэтых двух старых вываратняў больш і воку не было тут за што зачапіцца. Там і там маячылі сярод бяроз і хвой размашыстыя зялёныя яліны, купчасціліся хмызы ўжо зусім бязлістага падлеску. Пачаў яшчэ раз абследаваць кустоўе. Ды і вельмі хадзіць тут не было чаго: праз голле ўсё і так добра праглядвалася. У лесе ціха, ні гуку.*

*І раптам уперадзе, каля шырознай старой елкі, мільганулася нешта сівое. Воўк!*

*Я з асцярогай падышоў пад елку, якая стаяла на ўзвышэнні, абышоў вакол яе: воўк як скрозь зямлю праваліўся! Мо ў кусты дзе шмыгнуў ці за якой купінай стаіўся? Ды не падобна — усё ж тут відаць, як на далоні.*

*А мо стаіўся пад елкай? Яе далёка паадкіданыя ад ствала лапкі звісалі да самай зямлі, канцамі пераблыталіся з травой, з папаратнікам. Я асцярожна расхінуў іх і тут жа адскочыў назад: нара!*

*Як паспеў змеціць, нара была даволі шырокая і, мусіць, глыбокая, над ёю звісала аблупленае (можа, абгрызенае ваўчанятамі?) жывое карэнне елкі. Перад вусцем жаўцеў пясок. Ну, ясна: гэта лісіную нару аблюбавалі ваўкі, выгнаўшы законных гаспадароў. Толькі, відаць, добра яе пашырылі, прыстасавалі пад логава, панаграбалі туды сухога моху і лісця. Дык во дзе гібеў наш хлопчык! Можа, і цяпер ён там? Я адхінуў лапкі і памкнуўся пад нару. Ды з яе чарнаты бліснулі злыя агеньчыкі ваўчыных вачэй і пачулася пагрозлівае звярынае гірчанне. Ну, так — ці ж дапусцяць ваўкі ў сваё жытло чужака? Ды хоць бы я і ўплішчыўся туды, ці ж ухапіў бы нашага здзічэлага хлопчыка ў цемнаце нары з яе разгалінаваннямі? Дзіва яшчэ, што ваўкі так блізка падпусцілі мяне сюды. Відаць, у нары аставаліся ваўчаняты — меншыя і большыя. Самыя дужыя ваўкі, пэўне, падаліся недзе на начное паляванне. Можа, і Янка з імі? Ці ён усё ж астаўся ў логаве?*

*Як бы там ні было, мне не проста будзе адабраць Янку ад ваўкоў, з якімі ён зжыўся. Я зразумеў, што тут не трэба пароць гарачкі. Адной сілай яго не вырвеш, тут трэба добра пакруціць галавой, каб як найлепш здружыцца з ваўкамі, паддобрыцца пад*

*іх. Для гэтага трэба прыходзіць да іх з гасцінцамі. А які лепшы можа быць для ваўкоў гасцінец, чым мяса?*

*Значыць, мне трэба было заняцца паляваннем, барзджэй здабываць дзічыну. Але бадзяцца па лесе з лукам — толькі марнаваць дарагі час.*

*Трэба знайсці інакшыя спосабы, народныя.*

*Мусіць, самы просты з іх — лоўчыя ямы. От і падаўся я ў лес з рыдлёўкай. Каб адшукаць звярыныя сцежкі, падышоў спярша пад сваё азярцо: сюды сходзяцца звяры на вадапой. Па слядах на беразе я знайшоў ласіныя, аленевыя, дзіковыя і казіныя сцежкі-дарожкі. На іх і павыкопваў на рознай адлегласці ямы, добра іх замаскаваў, паслаўшы паверх лёгкія жардзяныя памосты і вылажыўшы іх мохам і лісцем дрэў. Няўжо ж не ўваліцца які звер?*

*Адначасна пачаў вымудроўваць усякія самаробныя пасткі і сілкі, якія здаўна рабілі ў Волі і якія сам пробаваў майстраваць некалі ў дзяцінстве. Праўда, пакуль што не выстаўляў іх у лесе: для іх зноў жа патрэбна была прынада.*

*Кожны дзень хадзіў правяраць ямы. Але мае хованкі былі нечапаныя: мусіць жа, не такія дурныя звяры, чуюць нешта не тое і абыходзяць іх. Відаць, трэба чакаць, пакуль яны звыкнуцца з маімі хітрымі насцІламі.*

*Але чакаць з мора пагоды я не мог. Хадзіў і хадзіў па выспе з сякерай за поясам і лукам у руках: няўжо ж не ўдасца хоць што раздабыць маёй дапатопнай зброяй?*

*І такі ўдалося. Праўда, не з яе дапамогай, а дзякуючы шчасліваму выпадку.*

*Бадзяючыся так па выспе, я быў заблудзіўся. Пакуль агледзеўся, дзе я, ужо сцямнела. Добра, выплыў між дрэў месяц. Арыентуючыся па ім, я пайшоў па лесе пад сваё селішча напрасцяк.*

*Раптам у глыбокай вячэрняй цішыні ўперадзе пачуўся нейкі шум, трэск ламачча, чыёсьці цяжкае дыханне. Выхапіўшы з-за пояса сякеру, кінуўся туды. І от у прыцененым голлем дрэў месячным святле ўбачыў на зямлі валтузню нейкіх дзвюх цёмных істот. Пры маім набліжэнні адна з іх адскочыла ўбок і злосна акрысілася на мяне. Рысь! А на зямлі ляжаў, яшчэ канвульсіўна падрыгваючы нагамі, задраны ёю алень.*

*Рысь не ўцякала і тады, калі я падышоў пад аленя. Толькі, ашчэрыўшыся, яшчэ больш пагрозліва зашыпела на мяне.*

*— Ага! Табе не хочацца аддаваць здабычу! Ну дык пачакай жа! — уголас сказаў я і, зняўшы з пляча лук і да адказу нацягнуўшы цеціву, пусціў прама ў яе стралу.*

*Здаецца, страла зачапіла злую лясную кошку, бо яна імгненна ўзвілася ўверх і маланкай сiганула на шырокую разгалістую хвою, знікла ў яе гушчыні.*

*Значыць, здабыча цяпер цалкам мая! Нібы дзівосны падарунак выспы. Гэта быў малады алень. З гладзенькай скурай, з кароткімі таўставатымі рожкамі, з дзвюма белымі плямкамі на задку. Галава яго была адкінута, з перакусанага горла сцякала на траву кроў. Калі я крануў яго за нагу, алень яшчэ папрабаваў слаба адбрыкнуцца ёю, але тут жа сцішыўся. Быў ужо нежывы. Я папрабаваў прыўзняць яго за заднюю нагу: ого — цяжэзны! Але ж занесці трэба — гэтакі дарунак! Пахадзіў вакол, пачакаў, пакуль перастала ісці з горла кроў, і стаў да аленя спіной. Прысеў, ашчаперыў яго адной рукой за самкнутыя заднія, а другой за пярэднія ногі і з сілай ускінуў сабе на плечы. Аж угнуўся ад цяжару. Але пайшоў. Ступіў разы чатыры і ўсё ж скінуў з плеч: целяпалася, білася аб бок і пырскала крывёю на світку галава. Дастаў сякеру і не без жаласлівасці адсек яе зусім. Ды і рысі ж нешта трэба пакінуць — каб не вельмі злавалася на мяне, што так беспардонна адабраў яе законную здабычу.*

*Дома разабраў тушу, большую палавіну пасаліў, выклаў у збіты раней кубел і апусціў яго ў свой склеп-яму пры хаце. Астатняе мяса пакінуў спажываць адразу. Ну і для задобрывання ваўкоў. Для ваўкоў — у першую чаргу.*

*Пад вечар, калі старыя ваўкі звычайна ідуць на паляванне, панёс аленеў сцягняк пад логава.*

*Яшчэ не даходзячы да яго, я ўбачыў уперадзе, за невялікай лугавінкай, воўка. Не вельмі вялікі, але не малады, ён сядзеў на чуць прыкметнай ваўчынай сцежцы і сачыў за мною. «Ваўчыца», — мільганула ў галаве. Яе вочы пагрозліва блiснулі, скура на пераноссі зморшчылася, прыўзнялася, адкрыўшы белыя клыкі, пачулася глухое вурчанне. «Ага, я, значыцца, тут непажаданы госць. І мне лепей не дражніць яе». Выдавала, што пасля майго візіту пад логава, дазнаўшыся па паху, ваўкі намерыліся не падпускаць болей сюды гэтага двухногага нахабніка — мяне, значыцца. Нібы пацвярджаючы маю здагадку, з хмызняку на лугавінку выскачыў даволі рослы воўк з натапыраным хібам і рынуўся мне насустрач. Люты ашчэр зяпы і нядобры бляск раскосых вачэй не пакідалі сумнення пра яго намер. Я памкнуўся быў уцякаць, каб ускочыць на якую хвою, ды тут жа спыніў сябе: дагоніць і мігам разарве. Як на тое, гэтым разам не ўзяў з сабой сякеры. Што ж рабіць? Пасля ўсяго, што перажыў, вырваўшыся з энкавэдысцкіх кіпцюроў, пасля таго, як адолеў не-*

*адольнае, як знайшоў страчанага роднага сына, загінуць ад звычайных воўчых іклаў? Не, дудкі — я і тут не дамся! Сабраўшы ўсю сваю злосць, я высока ўскінуў кулакі і — што будзе, то будзе! — з усёй рашучасцю кінуўся насустрач ваўку з крыкам:*

*— Ану закрыць зяпу, воўчае мяса! Назад! Назад! Назад!*

*Воўк, як было відаць, не чакаў такога ад двухногага прыблуды і суняўся ў замяшанні. Гэтае замяшанне прыдало мне ўпэўненасці, і я, махаючы кулакамі і не перастаючы крычаць, рынуўся на яго. Воўк закруціўся на месцы і пусціўся наўцёкі.*

*Я ж больш не гнаўся за ім: ці ж трэба варагаваць мне з апекунамі нашага хлопчыка? Я суняўся, але не адыходзіў назад — хоць мяне ўсяго трэсла ад перажытага страху. Гэтая сутычка паказала мне, што з ваўкамі трэба трымацца смялей. Але не забываць і пра асцярожнасць. Можа, нават пра тактоўнасць да іх.*

*Цяпер мне лепш было адысці ад ваўкоў, не цвяліць іх. А як жа быць з гасцінцам? Ладна, гасцінец пакіну ім — мо тады падабрэюць. Дастаў з пляцёнкі аленевы сцягняк, палажыў на купіне.*

*Палажыў і адступіў назад. Але вельмі далёка не адыходзіў — прыхінуўся да камля бярозы і пачаў назіраць за ваўкамі. Ды яны не накінуліся на пачастунак. Хоць добра бачылі і нюхам чулі мяса. Іхныя вочы былі скіраваны на мяне. Усім сваім выглядам яны паказвалі поўную гатоўнасць абараняць сваё жытло з ваўчанятамі. Я стаяў, падпіраючы плячыма бярозу, і чакаў, што будзе далей. Раптам аж сцепануўся: з другога боку яшчэ адзін воўк высунуўся з-за хмызу. Здаецца, яшчэ большы за таго, што нападаў на мяне. Важак? Я ўбачыў злосны ашчэр яго зяпы. Таму мусіў адступіць далей. Але так, каб усё ж маячыць перад ваўчынымі вачыма, паказваючы, што я не збіраюся рабіць ім што-небудзь кепскае.*

*Ваўкі прапалі з поля майго зроку, але я ўсім нутром чуў, што яны блізка і не перастаюць цікавацца за мною.*

*Да самага вечара тупаў я непадалёку ад логава, але так і не асмеліўся пераступіць тую забароненую мяжу, што адкрэслілі перада мною ваўкі. Ведаў, нахрапам тут нічога не даб'ешся.*

*Змарнаваўшы дзень, у поўнай роспачы, што не мог нават падступіцца да Янкі, я паплёўся дадому.*

*На выспу легла ўжо цемрыва ночы. На чарнаце неба паблісквалі зоркі. З-за лесу выслізнуў чырванаваты круглы месяц.*

*Увайшоўшы ў хату, я нават не прысеў да стала, каб што перакусіць. Ва ўсім целе пачуў такую млявасць, такую ўтому,*

*што ледзь дайшоў да ложка і, не распранаючыся, упаў на засланую пасцель. У адзін міг я праваліўся ў сон, як у бездань.*

## ПІСЬМО ЧАЦВЁРТАЕ

*Я не ўтаміў цябе, Хрысцінка, сваімі доўгімі пісьмамі? Але ж я хачу расказаць табе ўсё па парадку, каб нічога не прапусціць, я прашу цябе толькі чытаць уважліва, бо хачу, каб ты памагла мне ва ўсім разабрацца, падказаць, што мне рабіць. Слухай жа. Добра было б, каб тое, пра што расказваю, ты ўявіла так, як яно было са мною.*

*От устаю я з ложка. Выходжу з хаты. Двор, палянка, лес — усё заліта бледным, нейкім нетутэйшым, нязвычна прывідным святлом ад поўніка, што ідзе са мною збоку. Як жывы. Дзіўна, я адразу ступаю на сцежку, што вядзе пад логава. Сцежка цяпер зусім не заўважная на траве і апалым пачарнелым лісці. Але я добра чую яе нейкім самому невядомым чуццём. І пазнаю кусты і дрэвы, паўз якія ішоў сюды першы раз. Вунь тая га́лістая балоцістая лагчынка з высокай, парадзелай ужо асакой, той невысокі ды галінасты, каструбаваты ў камлі дубок, які з усіх бакоў цесна абступілі маладыя гонкія асінкі, нібы намерыліся задушыць яго тут, не даць яму падняцца ўверх. Але ён не здаецца ім, адпіхвае іх сваімі пруткімі галінамі. На асінках ужо ні лісціка, адно сіваватае голле цьмяна паблісквае пад ясным месяцам. Дубок жа яшчэ дзержыць сваё лісце, праўда, зрыжэлае ўжо, скурчанае, нібы апечанае агнём — не спяшаецца стрэсваць яго з сябе, быццам намерыўся затрымаць тут восень. А вунь і тая разложыстая елка, пад якой устроілі сабе хату ваўкі. Я іх цяпер зусім не баюся, яны ўжо мне як свае, як нечым родныя. Я нават чую ў грудзях цеплыню да іх, шчырую любасць. Мне хочацца прытуліць іх да сябе: хто ж, апроч мяне, бачыць, колькі ім, бедным, даводзіцца цярпець усяго ў лесе. Я рассоўваю дрэўцы і кусты хмызу і іду пад іхную елку. Адхінаю яловую лапку, нагінаюся, каб лезці ў чарнату ваўчынай нары. Ды з яе выскокваюць на месячнае святло мае знаёмцы — тыя два рослыя ваўкі. Яны чамусьці ашчэрыліся на мяне — вунь як бялеюць іхныя вялікія вострыя іклы. Але я і не зважаю на ваўчыныя пагрозы, зусім-зусім іх не баюся. Спакойна, з замілаваннем гляджу на гэтых драпежных звяроў і ціха, з лагодаю ў голасе кажу ім:*

*— Мае даражэнькія ваўкі! Вы ж мае добрыя суседзі. Я прыйшоў падружыцца з вамі. Вы — добрыя. Вы толькі самі не ведаеце пра гэта. З вамі жыве мой сынок. Вы яго выгадавалі.*

*Дзякуй вам за гэта. Мы цяпер свае. Я хачу, каб вы прыходзілі да мяне як да свайго сябра. А я — да вас. Калі мы будзем сябраваць, будзе добра і вам, і мне. Бо я ж тут, на Воўчай… выбачайце, на вашай выспе адзін… Мне так хочацца пагладзіць вас па вашай поўсці — толькі не трэба яе гэтак дыбіць перада мной і выскаляць зубы. Любыя мае…*

*І бачу я: ваўкі схавалі свае іклы, прыселі на заднія лапы і слухаюць мяне. Я чую, што мае словы маюць нейкую, мне самому невядомую сілу, што яны нібыта заклінаюць, зачароўваюць ваўкоў. Я падыходжу пад важака, працягваю руку і пачынаю гладзіць яго па загрыўку: воўк слухае і не адбягаецца ад мяне. А мне здаецца, што гэта я гладжу свайго Пана Мурлыковіча, і той лашчыцца да мяне, выгінае спінку.*

*— Харошы мой, бедненькі… Які ж ты мякенькі, цёпленькі…*

*Воўк слухае і не адбягаецца ад мяне.*

*Тут я заўважаю, што з чорнай прорвы логава на мой голас вылезлі астатнія ваўкі: спярша тыя меншыя, мусіць, двухгодкі, якіх я бачыў пры сустрэчы. Яны таксама прыселі і слухаюць мае такія незразумелыя, але ласкавыя словы. А за імі выкаціліся, як клубкі, малыя ваўчаняты — трое ці чацвёра, з чорнымі вугалькамі вочак, з карацелькамі-хвосцікамі. Не надта цырымонячыся, падбеглі пад мяне, труцца аб мае ногі тупенькімі пыскамі.*

*І раптам мяне як нешта працяло: з логава выкуліўся гэтак жа, як і ўсе ваўкі, на карачках і Янка! Не помнячы сябе, я кінуўся да яго, каб схапіць і бегчы з ім у сваю хату на выспе. Але калі я абхапіў яго аберуч і прыцягнуў да сябе, ён моцна кусануў мяне за руку і вырваўся з маіх абдымкаў. Не паспеў я і вокам міргнуць, як ён юркнуў у воўчую хованку. Я памкнуўся за ім, але тут ваўкі перагарадзілі мне дарогу…*

*І ў гэты момант я прачнуўся. У вокнах было ўжо сіне. Я ўбачыў, што ляжу на ложку адзеты і ў лапцях.*

*Увесь сон быў у мяне перад вачыма. Як я мог такое сасніць? Вельмі ўсхваляваны і ўзбуджаны, я падняўся і захадзіў па хаце. У грудзях часта-часта стукала сэрца.*

*Ходзячы туды-сюды па хаце, я чуў шчымлівы боль у руцэ — ён, гэты боль, мусіць, і падняў мяне раней часу з ложка. Спярша я не зважаў на яго: ат, падвярэдзіў сплючы. Але боль здаўся мне большы, чым ад вераду, і ніяк не праходзіў. Я падышоў пад акно, каб глянуць, што там такое. Глянуў і аслупянеў: на ёй чырванелі глыбокія свежыя ўмятасці ад моцнага ўкусу — два радкі вострых дзіцячых зубоў, верхніх і ніжніх, зубоў нашага Янкі!*

*Значыцца, гэта быў не сон! Я папраўдзе хадзіў пад воўчае логава і абдымаў нашага сына! Хадзіў у сне! Ці ты чула калі гэтакае, Хрысцінка? Мне самому цяжка ў гэта паверыць. Але ж гэта было, было! Во ён у мяне перад вачыма, той моцны, як звярыны, Янкаў укус.*

*Але от толькі як мяне магло занесці ў воўчае логава? Ды так, каб я не помніў сябе? Ах, як бы я хацеў, каб ты памагла мне ўсё гэта разблытаць, Хрысцінка, каб ты хоць сказала, ці няма ў мяне памутнення якога, ці не зрабілася што з маёй галавой.*

*Скажу табе, што нешта падобнае бывала са мною і раней. Калі дабіраўся сюды з Сібіры. Я клаўся спаць дзе-небудзь у стозе сена ці проста пад хвояй на яловых лапках і тут жа засынаў. Сон мой быў перарывісты, але моцны. І сніліся мне тады самыя дзіўныя дзівы. І што цікава: я часам не мог адрозніць, што рабілася са мною ў сне, а што наяве. Я здагадваўся, што часам хадзіў у сне, як лунацік.*

*Паслухай, што было са мною аднаго разу. На краі лесу дарогу перагарадзіла мне невялікая рэчка. Яна нядаўна вызвалілася ад лёду, па ёй плылі яшчэ рэдкія абломкі крыгаў. Я доўга хадзіў па беразе — спярша ў адзін бок, потым у другі, шукаючы якіх кладак. Ды нідзе там сярод лесу, ведама ж, іх не знайшоў. Недалёка ад рэчкі мне кінуўся ў вочы свежы лоўж — нехта высякаў тут падлесак і складаў усё ў кучы. Я выцяг з лаўжа два дубкі. Паабломваў, паадцінаў нажом голле, пакінуўшы трохі ніжэй таўсцейшыя сукі. Выйшлі добрыя хадулі. Панёс іх пад рэчку, паставіў і, стараючыся не пахіснуцца, моцна трымаючыся за верхнія іх канцы, ступіў на тыя сукі. Але хадулі так захадзілі, так захісталіся ў маіх руках, адна ў адзін, другая ў другі бок, што я тут жа грымнуўся вобзем. Прыйшлося адкінуць іх убок. Калі пачало змяркацца, я зладзіў з яловых лапак сабе ложа і, скруціўшыся на ім абаранкам, праваліўся ў сон. А прачнуўся… ужо на другім беразе! Нібы ў якой казцы. Толькі ўжо не ляжаў, а стаяў там, на новым месцы. Над галавой свяціў месяц-поўнік, залiваючы нейкім фасфарычным сяйвом травяністы бераг, рэчку з абломкамі лёду, блізкія хвоі. Я пачаў абмацваць сябе: мусіць жа, вымак, пералазячы рэчку? Ды от дзіва: на мне ўсё асталося сухое! Як жа магло быць, што я ў праўдзівым сэнсе слова выйшаў з вады сухі?*

*Агледзеўшыся, убачыў каля сябе два невялікія дубовыя шасты з сукамі. Тады ўсплыло ў памяці, як я ў сне ўзяў адкінутыя хадулі, стаў на іх і адразу ж роўненька пайшоў з берага ў рэчку. Была яна неглыбокая, і я лёгка перайшоў яе, ні разу не пахіснуўшыся*

*і нават не памачыўшы ног. Усё гэта я зрабіў у сне. Ці, можа, у нейкім паўсне. Толькі калі саскочыў на другім беразе на зямлю з хадуляў і яны ўпалі, стукнуўшыся аб камяні, мой сон-трызненне зняло як рукой.*

*Як жа мне ўдалося ўтрымацца на хісткіх хадулях у рэчцы, у вадзе? Загадка, якую я доўга тады разгадваў і не мог разгадаць. Толькі потым, абдумваючы ўсё па парадку, я зразумеў: са мной зрабілася нешта ад той вострай энкавэдысцкай пікі, што зачапіла была маю галаву і шыю, калі ляжаў у вагоне пад вугалем, — я табе расказваў пра гэта. Пасля таго мне доўга балела галава, а сон стаў нейкі неспакойны і перарывісты.*

*Раскажу і яшчэ пра адзін выпадак, з якога я сам заўважыў у сабе новыя, раней мне невядомыя здольнасці.*

*Гэта было таксама па дарозе з Сібіры. Хоць ужо ішла вясна, але зіма не спяшалася здаваць ёй свае ключы. У лесе яшчэ там-сям ляжаў лапінамі снег, ціскалі начамі прымаразкі. Аднае марознае начы выйшаў на гала. Неба было ўсыпана зоркамі, між белых рэдзенькіх воблакаў слізгаў рог месяца. Перада мною ляжала вялікая палянка, пасярэдзіне якой цягнуўся цёмны шнур хат — нейкая вёсачка. Тут, на палянцы, снег ужо сышоў — толькі цьмяна бялелі рэдкія яго лапіны, уцвярдзелыя, як ільдзіны. А што, калі схавацца ад марозу ў якой будыніне? Не, у хату да каго-небудзь я і думаць не думаў прасіцца: дазнаюцца пра нейкага валацугу, адразу ж дакладуць куды трэба.*

*Прыблізіўшыся да загумення, я згледзеў каля крайняга двара вялікую, пэўне, вывернутую з воза кучу сена. Ляжала яна напроці глухой сцяны нейкай прадаўгаватай будыніны, што ішла ў двор. Ад бліжэйшага кута будыніны, тарца гэтай сцяны, цягнуўся плот-частакол, што адгароджваў двор ад поля. У шчыце чарнела палоска да канца не зачыненых дашчаных дзверцаў, да якіх былі прыстаўлены лескі. Ну, ясна: гаспадар закідваў сюды сена. Значыцца, гэта была адрына. Ну што ж, самы раз перабыць там ноч, у сене. Доўга не думаючы, ступіў на лескі і пралез праз дзверцы ў сярэдзіну. Узяўшыся за верхняе бервяно сцяны і слізгаючы нагамі ў пазах між ніжэйшымі бярвёнамі, скокнуў уніз. Сена было там не многа (відаць, гаспадар толькі што яго прывёз), і я пачуў нагамі жэрдкі памоста, на якім яно ляжала. Добра, што яшчэ ўдала скокнуў, не выцяўся. Далей памост быў амаль голы — не прыбітыя да лагаў, хоць абчасаныя з двух бакоў жэрдкі так і хадзілі пад нагамі. Пачаў упоцемку збіраць сена ў адно месца, пры сцяне. Сабраў невялікую кучку і лёг. І тут пачуў глыбокія і шумныя ўздыхі: карова. Калі вочы*

*прывыклі да цемені, я ўбачыў яе за жардзянай перагародкай, што аддзяляла адрыну ад хлява. Яна ляжала спіной да мяне з паднятай галавой: здаецца, жавала жвачку.*

*Гэтыя помныя з дзяцінства каровіны ўздыхі, спакойная цішыня і цемень адрыны, нейкі дамашні пах сена і хлява размарылі мяне, і я, змучаны дарогай, тут жа заснуў. Але спаў нядоўга: вельмі памацнелы гэтае начы мароз прабраў мяне да касцей. Як ні падграбаў я пад сябе сена, як ні сцінаўся, ні скручваўся ў тры пагібелі, ніяк не мог сагрэцца. Мяне трэсла, пачалі дробненька ляскатаць, адбіваць чачотку зубы. Дзе дзецца, каб не зайсціся ад холаду?*

*І от на мяжы сну і нясну я ціхенька пералез цераз перагародку і, дрыжучы, памаленьку пачаў падступацца пад карову, каб сагрэцца каля яе. Карова турзанулася была, сілячыся ўстаць і адысці ад гэтага начнога прыблуды, які невядома што замысліў. Ды я стаў, не рухаючыся, сцішана пастаяў і зусім непрыкметна пачаў пасоўвацца бліжэй, ціха гаворачы ёй ласкавыя, добрыя словы, паўтараючы ўвесь час: «Цёлачка, цёлачка, цёлачка» — гэтак некалі звала сваю карову маці, ідучы яе даіць. Я так пяшчотна, так шчыра прасіў карову супакоіцца і не баяцца мяне, што не дапускаў і думкі, што яна будзе ўцякаць. Карова, наставіўшы вушы, слухала мяне, гатовая вот-вот ускочыць на ногі, але, не пачуўшы і не ўбачыўшы нічога пагрозлівага, так і не паднялася, дала мне пагладзіць яе. Павадзіўшы рукой па яе гладкай спіне, я ціхенька апусціўся каля каровы на падасланую, здаецца, свежую салому і лёг побач, прытуліўшыся спіной да яе цёплага рабрыстага бока.*

*Паступова сагрэўшыся, я праспаў каля каровы да раніцы. Спаў і сніў, як маці падносіць мне, яшчэ малому, кубак цёпленькага, толькі з-пад каровы, сырадою, і я, пафукаўшы на яго і здзьмуўшы белы, зусім бязважкі шум, што лез аж на берагі кубка, памалу цягнуў губамі, смакуючы, тое гойнае малако. Цягнуў і чуў, як яно разліваецца недзе ўсярэдзіне, і мне робіцца ад яго цёпла і хораша. Прачнуўшыся, я зразумеў, чаму так снілася: ад каровы ішоў такі знаёмы, такі вабны пах малака, які я пачаў ужо забываць.*

*Пабудзіў мяне тады рып дзвярэй недзе ў глыбіні двара — ведама ж, у хаце. Прачнуліся гаспадары! Я адразу ж падняўся, каб барздзжэй уцякаць. Але ўбачыў, што на дварэ ўжо зусім развіднела: з дзверцаў шчыта і з усіх шчылін цадзілася сівенькае святло досвітку. Не, да лесу незаўважна ўжо не дабяжыш. Трэба зноў перабыць тут дзень. У адрыне сядзець было не-*

*бяспечна: у любую хвіліну можа зайсці гаспадар. Згледзеў над каровай, на жардзяных вышках хлява салому, якая звісала з іх. Туды, на вышкі, таксама былі прыстаўлены каля сцяны невялікія драбіны. Я і ўскочыў па іх наверх. Вышкі былі закіданы саломай напалавіну, і я лёгка знайшоў сабе ў ёй збоку, пад самай страхой, схоў.*

*Прабавіўся я там увесь дзень, слухаючы прыглушаныя гукі сялянскага падворка, дзе стукалі дзверы, час ад часу рыпеў журавель калодзезя, бразгалі вёдры, сакаталі, відаць, ходзячы па двары, куры, рохкалі і павісквалі свінні, чуліся галасы гаспадароў і дзяцей. Разы два адчыняліся дзверы хлява: заходзіла, як чуваць было па голасе, гаспадыня — даіла карову, падкідвала ёй сена, нешта да яе прамаўляла. Пад полудзень прыйшоў пад адрыну гаспадар — да сцяны, дзе ляжала вывернутае сена. Глуха пастукваў аб бярвёны драўлянымі віламі, шамацеў сенам, якое закідваў праз тыя самыя дзверцы ў шчыце сюды, у адрыну.*

*Вечарам, калі зноў сцямнела, калі сцішылася на двары, мне можна было спакойна вылазіць з хованкі і ісці далей сваёй дарогай, але зноў браўся нанач мароз, і я наважыўся заначаваць тут яшчэ раз. Можна было б неяк сагрэцца і перабыць ноч і ў саломе на вышках хлява, і ўжо ў адрыне, якую цяпер гаспадар закідаў сенам да бэлек. Але я палічыў лепш за ўсё паспаць, як і першую ноч, пры карове, каля жывога цяпла. Карова і цяпер мяне падпусціла да сябе — ужо як свайго.*

*Гэтым разам я не чакаў раніцы. Калі запелі другія пеўні, недзе перад світаннем, падняўся, каб ісці. Ды мяне стрымаў зманлівы пах малака, які ішоў ад каровы і які проста п'яніў. У мяне аж жывот падцягнула — так захацелася малака.*

*У сваім хатулі я насіў знойдзеную ў дарозе прымятую алюмініевую фляжку, якую стараўся напаўняць больш-менш чыстай вадой з якой-небудзь рэчкі, з крыніцы, а калі ўдавалася, і з калодзезя. Цяпер я дастаў яе з хатуля, вытрас рэшткі вады і падышоў з ёю пад карову. Зноў ласкава загаварыў да яе, пяшчотна гладзячы па яе цёплай шыі, па пысе, напускаючы на яе ўсе свае чары і просячы падняцца. Карова паслухала мяне, паднялася, і я нацыркаў цэлую фляжку малака, якое тут жа з прагнасцю выпіў. На адыходак надаіў яшчэ поўную фляжку і ўзяў яе з сабой у дарогу.*

*Раз здолеў я гэтак улагодзіць чужую карову, раз знайшоў схаваную ў самім сабе нейкую стоеную чарадзейную сілу, якая такім неверагодным чынам памагла мне пераправіцца цераз рэчку на хадулях, урэшце, патрапіць у воўчае логава і абняць*

*там выгадаванага ваўкамі нашага хлопчыка, дык няўжо я не змагу і адабраць ад іх Янку? Самае важнае, мусіць, тут — адкінуць, забіць у самім сабе страх і смела ісці на збліжэнне з ваўкамі. Але адначасна я павінен усё рабіць, каб не перарваць тую тоненькую нітачку даверу, якую ўдалося мне працягнуць між сабой і ваўкамі, і яшчэ больш умацаваць з імі таварышаванне. Смеласць і шчырая дабрата да іх — во тыя два ключы, якія павінны адамкнуць дзверы ў іхныя... мусіць жа, сэрцы. Хай і звярыныя, але ж яны ў іх ёсць. І гэтыя сэрцы таксама, відаць, нешта адчуваюць. Недарэмна ж ваўкі так чула клапоцяцца пра сваіх ваўчанят. Ды, зрэшты, і любая жывая істота вельмі тонка чуе, з дабром да яе ідуць ці з ліхам.*

## ПІСЬМО ПЯТАЕ

*Усю раніцу хадзіў я сам не свой, не помнячы, што раблю. Усе мае думкі былі павернуты на ваўкоў, сярод якіх бегаў недзе і наш Янка.*

*Трэба зноў ісці да іх. Раз яны пусцілі мяне да сябе, калі прыходзіў у сваім дзіўным сне-трызненні пад іхнае логава, дык мо і цяпер не будуць на мяне кідацца?*

*Выбраўся туды пад вечар — мо старыя ваўкі пайшлі ўжо на сваё паляванне? З сабой захапіў і прынаду — добры кавалак аляніны. Акруціў мяса палатняным мяшком, не засоўваючы ў сярэдзіну, і ўзяў пад паху.*

*І от перада мной тая елка. Падышоў і стаў непадалёк. Ніхто адтуль не выбег мне насустрач. Усё правільна: ваўкі падаліся недзе на паляванне. Ваўчаняты ж, астаўшыся адны, стаіліся ў сваім логаве. Толькі ці з імі Янка? Яго ж, здаецца, бралі часам ваўкі ў свае паходы.*

*Я разгарнуў мяшок і паклаў на траву мяса. Сам жа адышоўся трохі далей, не спускаючы вачэй з логава пад елкай.*

*Але там было глуха. Мо з паўгадзіны прачакаў, і нічога ў прахоне не паказвалася. Успомнілася дзіцячая казачка пра пеўніка, якому, сабраўшыся ісці ў лес на паляванне, яго пабрацім коцік строга наказаў нікога не пускаць у іхную хатку, але які адчыніў усё ж яе хітрай лісіцы, што падрабіла свой голас пад коцікаў, і апынуўся ў яе лапах. Можа, і ваўчаняткам наказалі неяк бацькі не выходзіць з логава?*

*Я сабраўся ўжо сам лезці туды, каб даведацца, ці астаўся там хто, як адтуль выбегла такі адно ваўчанё. Павяло ў адзін, у другі бок сваёй куртатай пыскай, прынюхалася і пакулялася*

*да мяса. Я баяўся нават паварушыцца. На мяне яно глянула так, нібы гэта стаяла дрэва. Няўжо асвоілася са мной, калі прыходзіў сюды ў сне? За першым ваўчанём выкуліліся з чорнага прахону логава і астатнія тры і падбеглі да першага. Усе ваўчаняты дружна накінуліся на мой гасцінец, адпіхваючы адно аднаго. На мяне — нуль увагі. Тут у прахоне логава паказаўся і ён, наш хлопчык!*

*Такі ж чорны — ці гэта ад загару, ці ад бруду? — і такі ж раскудлачаны, якім бачыў і раней. Янка толькі адзін раз — і то неяк няўцямна — глянуў на мяне і, не баючыся, вельмі спрытна падскочыў на карачках да ваўчанят. Тыя хацелі не падпусціць яго да мяса, але ён з ходу параспіхваў іх рукамі ў бакі і пачаў прагна абгрызаць кумпяк. Ваўчаняты, што якія клубкі, зноў падкочваліся пад мяса, стараючыся хоць грызянуць яго з наскоку. Янка не адганяў іх, але цалкам завалодаць кумпяком ім не даваў.*

*У мяне крывёю аблівалася сэрца, калі глядзеў, як наш бедны сынок хапатліва еў, адрываючы зубамі ад косткі, сырое мяса і выпэцкваючы ім рот. Я асцярожненька — хаця б зноў не спужнуць — пачаў падбліжацца да Янкі. Толькі б даўся схапіць яго. Тады я — хай брыкаецца, хай кусаецца — барзджэй панясу яго адсюль. Панясу ў сваю хату. Дадому.*

*От я ўжо зусім блізка — разы чатыры ступіць — ад Янкі. Але хлопчык, грызучы костку, цяпер ужо з насцярогай пачаў касіцца на мяне, сачыў вачыма за кожным маім рухам. Ваўчаняты таксама зіркалі на мяне сваімі чорнымі, як смуродзіны, і бліскучымі вочкамі. Я сунімаўся, даючы ўсім ім супакоіцца. Пастаяўшы, зноў пачаў, зусім непрыкметна, пасоўвацца ўперад. Нарэшце падышоў усутыч да Янкі і павольна працягнуў руку, каб пагладзіць па цёмных касцістых плечыках, па галоўцы. Але толькі дакрануўся да яго агрубелай, нейкай шорсткай скуры, як хлопчык, адхінуўшыся ад мяса, раптоўна ўзвіўся ўгору і, па-звярынаму клацнуўшы каля маёй рукі зубамі, пакуляўся на карачках у логава. Таўсмаценькімі мячыкамі пакаціліся за ім і спалоханыя ваўчаняты.*

## ПІСЬМО ШОСТАЕ

*Ох як мне не хацелася адыходзіць ад нары, дзе сядзеў наш бедны хлопчык! Але я мусіў вярнуцца ў сваю хату. Ішоў і разважаў: дзе мая памылка? Зразумеў адно: трэба ўвайсці ў давер да ваўкоў, у поўны давер. Цярпліва дабівацца яго.*

*Я спаў і не спаў. У галаве віравалі адны думкі: як адабраць ад ваўкоў Янку?*

*Назаўтра, у гэтакую ж самую пару, я зноў прыйшоў пад логава з такім жа гасцінцам — другім кумпяком. І з тым жа мяшком. Кумпяк гэтым разам палажыў бліжэй да логава. Палажыў і пачаў прахаджвацца туды-сюды каля мяса.*

*Цяпер чакаць давялося даўжэй. Можа, ваўкі нейкім чынам далі наказ ваўчанятам і іхнаму апекуну — нашаму Янку — больш не выходзіць з логава зусім?*

*Ды калі пачало ўжо змяркацца і я зусім знябыўся, чакаючы, ваўчаняты з Янкам усё ж вылезлі са сваёй хованкі і адразу памкнуліся да мяса. Я пачаў снаваць каля іх, робячы выгляд, што яны мяне зусім не цікавяць.*

*Так снуючы, я набліжаўся і набліжаўся пад іх. Ваўчаняты з Янкам так захапіліся мясам, што толькі зіркалі на мяне. Памалу я падышоў пад іх усутыч. Стаў і знерухомеў. Потым ціхенька падняў расхінуты мяшок і адным рэзкім махам знянацку накінуў яго на галоўку і плечы нашага хлопчыка і моцна абхапіў яго аберуч. Ох, як ён заёрзаў там, закруціўся! Але я з усёй сілы ашчаперыў яго абедзвюма рукамі, прыціснуў да грудзей і подбежкам панёс пад сваю гасподу.*

*І от ён дома! Калі я выпусціў на хату нашага хлопчыка, ён адразу ж памкнуўся ўцякаць. Забегаў на карачках па падлозе, закруціўся, дзіка водзячы спалоханымі вочкамі. Кінуўся ў адзін куток, у другі, у трэці — усюды сцены! Тады паспрабаваў скокнуць у акно. Добра, што я паспеў перахапіць яго — мог бы пабіць шыбу і ўцячы. Калі прыціснуў Янку спінкай да сваіх грудзей, хлопчык з адчаем пачаў малаціць па мне ручкамі і ножкамі, меціў укусіць мяне за рукі, скрыжаваныя на яго жывоціку. Тады я ўзяў мяшок і, скруціўшы накшталт тоўстай вяроўкі, абхапіў ім хлопчыка па грудках і пад пахамі, адале завязаў за спінкай на вузел. Знайшоўшы простую вяроўчыну, працягнуў яе за скручаны на Янку мяшок і прывязаў да ложка. Цяпер хлопчык ужо не мог уцячы ні праз вокны, ні праз дзверы — толькі бегаў па хаце на гэтай сваёй повязі. Хоць і не хацелася мне прывязваць так сына, але я заспакойваў сябе тым, што адразу ж развяжу яго, калі прывыкне да хаты.*

*Бачыла б ты, як бегаў і бегаў на карачках па хаце, нібы загнаны звярок, наш хлопчык, выглядваючы, як вырвацца, як уцячы ад мяне, свайго бацькі, на волю. Да ваўкоў. А калі ўрэшце змогся, калі ўбачыў, што яму няма адсюль ніякага ходу, ён, наш маленькі Янка, — ты не паверыш, Хрысцінка, — закінуў уверх*

*галаву і... завыў. Ты ніколі не адрозніла б яго выццё ад воўчага. Ён выў з нейкімі пераліvамі, працяжна і, як мне здалося, вельмі жаласна. У мяне аж мароз пабег па скуры. А Пан Мурлыковіч, які пры паяўленні ў хаце Янкі куляй сігануў быў на печ (мусіць, учуў у ім нешта ваўчынае), цяпер зашыўся там у самы дальні куток, за смалякі і ўвесь сцяўся ў камячок — на ім аж дыба ўстала поўсць.*

*Жудаснае Янкава выццё запаўняла ўсю хату. Каб хто, не бачачы, пачуў яго, ніколі не сказаў бы, што гэта вые не воўк. Можаш сабе ўявіць, Хрысцінка, як было мне яго слухаць. У мяне проста разрывалася сэрца за нашага няшчаснага хлопчыка.*

*Вельмі скора ў адказ на яго выццё завылі ў лесе ваўкі. І ў адным, і ў другім баку, а потым — з усіх бакоў. Яшчэ больш жудасна, падвываючы ў розныя галасы. Здавалася, пералівіста, наводзячы жах на ўсё жывое, выла-галасіла ўся Воўчая выспа.*

*З кожнай хвілінай гэтае шматгалосае выццё мацнела, набліжалася. З ім злівалася і Янкава. Ты не можаш і ўявіць, Хрысцінка, як жудасна і балюча было мне гэта слухаць. А Пан Мурлыковіч аж зліўся з чарэнем печы за смалякамі — так уціснуўся там ад страху.*

*А потым, потым... Я ўбачыў праз акно, як у месячным святле замільгалі каля хаты цёмныя цені. Ваўкі! Многа ваўкоў. Падбягалі яшчэ новыя і новыя. Яны падступілі пад самую хату, пачалі скрэбці аб сцены, падскокваць к вокнам. Ім насустрач з усёй сілы кідаўся, вырываўся ад маёй повязі наш Янка. Я ўхапіў качаргу і пачаў замахвацца на ваўкоў, каб адагнаць іх ад вакон — хаця б не ўзяліся разбіваць шкло ды ўскакваць у хату! Гэта ж яны так хацелі вызваліць свайго сямейнага хаўрусніка — нашага сына. Каб сказаў ад каго — ад яго ж бацькі!*

*Толькі раніцай, калі добра развіднела, ваўкі ўціхамірыліся, пачалі памалу разыходзіцца. Змогшыся, сцішыўся і лёг у сваім кутку хаты і наш Янка.*

## ПІСЬМО СЁМАЕ

*Доўга не пісаў табе, Хрысцінка, бо ўсе думкі мае былі звернуты на Янку. Я адразу ўбачыў, што вырваць яго ад ваўкоў — гэта далёка-далёка не ўсё. Самае цяжкае — вярнуць яго ў чалавечы стан. Я амаль не адыходжу ад нашага здзічэлага сына.*

*Не проста было мне нават пакарміць яго. Я клаў перад ім на адмысловым «стале» — збітых дошчачках — зваранае ў печы мяса, ставіў перад ім міску з вадой. Спярша хлопчык доўга ні*

*да чога не дакранаўся. Толькі на другі дзень пачаў піць і есці. Варанае мяса, якога дагэтуль ніколі не еў, як відаць было, ён упадабаў. Калі я асцярожненька падштурхоўваў Янку да пакладзенага на «стале» кавалка аляніны з печы, ён хапатліва разрываў мяса і мігам праглытваў. Цяжэй было з вадой. Толькі пачне хлябтаць з міскі, як тут жа яе незнарок аберне. Тады я выдзеўбаў з круглага бярозавага камля карытца, у якое наліваў ваду. Знізу кругляк абчасаў так, каб ён трывала ляжаў на падлозе і хлопчык не мог яго перавярнуць.*

*Класці яго спаць на ложку я не думаў. Янка прывык да логава, і я зрабіў нешта да яго падобнае, прынёсшы ў хату ахапак мяккага моху. Акуратна разаслаў яго ў бліжэйшым ад свайго ложка кутку. Туды ж пераставіў і карытца з вадой, «стол» для яды. Хай прывыкае да новага «логава».*

*Есці і піць я яго прывучыў. Тут не магло быць складанасці: голад жа — не цётка. А от як адвучыць яго ад ваўчыных звычак? Ён жа ўсё ўзяў ад ваўкоў, стаў нечым непадзельным з імі, сам зрабіўся ваўком, толькі ў чалавечай скуры. Змянілася, падладзілася пад ваўчыную ўся яго псіхіка. Можна сказаць, яго цяпер трэба лячыць ад цяжкай псіхічнай хваробы.*

*Скора гэта не зробіш. Тут спатрэбіцца, мусіць, не адзін год, каб ён пачуў сябе чалавекам, маленькім чалавечкам. Але я цвёрда намерыўся паскорыць гэта, каб ты, калі я цябе сюды забяру з Стасікам, толькі парадавалася нашаму знойдзенаму і вылечанаму сыну.*

*Як жа можна лячыць псіхіку? Я думаю, так, як звеку лячылі ўсякія хваробы нашы бабкі-шаптухі. Калі добра падумаць, яны сваімі таямнічымі шэптамі, чарамі сваіх слоў прымушалі людзей, асабліва дзяцей, паверыць у іхную моц.*

*Успомнілася, як мяне, калі быў малы, лячыла бабка Прузына, нейкая далёкая мацерына сваячка. Жыла яна адзінока ў другім канцы сяла. Калі занядужвала каторае з нас, дзяцей, і няможна было даць рады хваробе, маці ішла прасіць помачы ў яе.*

*Бабка Прузына была высакаватая, хударлявая жанчына з надзіва чыстымі і добрымі вачыма. Заходзячы ў хату, яна развязвала сваю жаўтаватую вязаную хусту, скідвала з сябе чорную блішчастую плюшаўку, клала ўсё на зэдаль пры парозе і, расчасаўшы негустыя, сівыя, як кужаль, валасы ды папраўўшы яркі клятчасты андарак, які з'язджаў набок, ішла к ложку да хворага.*

*Апярэджваючы яе, маці падносіла туды маленькі ўслончык, і бабка Прузына, прысеўшы на яго, пачынала сваё лячэнне.*

*Лячыла яна шмат якія хваробы. На кожную ў яе былі свае спосабы.*

*Калі аднаго разу ў мяне, малога, моцна забалеў жывот, маці прывяла ў хату бабку Прузыну. Седзячы каля ложка на ўслончыку, яна закасала мне да падбародка кашульку і пачала павольна качаць па голым жываце халаднаваты шарык з хлебнага мякішу, увесь час нешта шэптам прыгаворваючы. Гаварыла яна многа, але мне запомніліся чамусьці толькі словы: «Шапату-лапату, ліха твайму жывату» і тое, як яна, павярнуўшы галаву ўбок, казала, каб хвароба сышла на сухія лясы, на махавыя балоты і яшчэ некуды. Напаследак яна адкасала назад маю кашульку, ласкава пагладзіла мяне па галаве і, аддаючы мне скачаны хлебны шарык, сказала кінуць яго сабаку — толькі не раней, як зойдзе сонца.*

*Пасля яе лячэння болю ў жываце як і не было.*

*Другім разам бабка Прузына лячыла мне пярэпалах. Мяне, тады малога хлапчука, напалохаў стары дзед, які невядома адкуль і чаго прывалокся ў Волю і прысеў быў на нашай прывулічнай лаўцы. Я акурат бег з дзіцячых гульбаў дадому. Суседка Адарка, якая сядзела з тым дзедам на лаўцы, хаваючы ўсмешку, падазвала мяне:*

*— Ці бачыў ты, Ігнаська, прыбалотнага лесуна? Гэта ж ён прыйшоў па цябе.*

*Сівая рэдзенькая барада, няголены твар з трэшчынамі маршчын ды шчарбаты рот, з якога вытыркаўся адзін вялікі зжаўцелы зуб, і праўда прыдавалі яму нешта дзікае, д’ябальскае. Нібы пацвярджаючы Адарчыны словы, дзед павярнуў на мяне схаваныя пад густымі брывамі вочы і пасунуў з-за спіны да сябе вялікую зрэбную торбу, перакінутую на такім жа зрэбным паску цераз плячо. Паверыўшы, што мяне хоча забраць гэты страшны дзед, я закрычаў немым голасам і кінуўся ўцякаць.*

*Адарка, зразумеўшы, што перасаліла сваім дурным жартам, хацела заспакоіць мяне, выгукваючы мне наўздагон, каб не баяўся: гэта яны з дзедам толькі пажартавалі. Але я ўжо нічога не чуў. Я прыбег у хату, і мяне тут жа вырвала — ад моцнага спалоху.*

*З вялікай цяжкасцю маці ўлажыла мяне спаць. Але я ўсю ноч кідаўся ў сне і крычаў. Маці брала мяне на рукі, хадзіла са мной па хаце, заспакойвала, патрэсваючы, як зусім малое дзіця. Але я як і не чуў яе. Толькі пад раніцу заснуў, усё яшчэ ўздрыгваючы ў сне. Назаўтра было тое ж самае, і занепакоеная маці паслала па бабку Прузыну.*

*Цяпер яна лячыла мяне трохі інакш. Спачатку падышла да майго ложка і пачала гладзіць мяне па галаве, паволі вадзіць рукамі па плячах, па жываце, па нагах. Потым дастала з торбы пучок засушаных зёлак і запаліла перада мной. Калі дагэтуль я быў у стане бяспамятнага трызнення, дык цяпер да мяне раптам вярнулася памяць. Ну але — яе вярнулі гэтакія ласкавыя бабчыны рукі і такі нязвычны ў хаце агонь ад запаленых зёлак, які весела патрэскваў у бабчыных пальцах, абсыпаючыся іскрамі. Запомніўся мне і вельмі прыемны пах тых зёлак, які хацелася нюхаць і нюхаць. Але асабліва заспакойвалі мяне ціхія, казаныя шэптам словы бабкі Прузыны, нейкія таямнічыя, дагэтуль ніколі не чутыя і такія добрыя, жаданыя. Я напінаў увесь свой слых, каб не прапусціць якое слова, каб пачуць усё, што яна мне вышэптвала. Яны і цяпер стаяць у маіх вушах, дасюль не забыліся: «Зара-зараніца, нябесная святліца! Да цябе слонца заходзіць, там ночку праводзіць, карагоды з яснымі зоркамі, з божымі анёлкамі водзіць. Вазьмі ж, зара-зараніца, да сябе на неба й малога Ігнаську, хай жа паглядзіць ён, якая светлая ў слонца святліца! От толькі выгавару з Ігнаські ўпуд-упудзішча, выгавару з буйной галавы, з русага воласа, з шчырага сэрцайка, з гарачай крыві, з касцей-пакасцей, з сямідзесяці жылак-пражылак, з сарака суставаў-суставак. Выходзь жа, выходзь, упуд-упудзішча, з маленькага Ігнаські, уцякай ад яго на сухія імхі, на балоты, на гнілыя калоды, на ніцыя лозы, на ракітавае карэнне, на белае каменне. Рассыпся там, ляк, на дробны мак. Хай цябе дзікія звяры падбіраюць і больш да Ігнаські не пасылаюць...»*

*Дзіва дзіўнае: бабка Прузына аднымі толькі чарамі, сваімі таямнічымі словамі як рукой зняла мой вельмі сур'ёзны пярэпалах, які яшчэ не скора прайшоў бы і — без сумневу — пакінуў бы глыбокі след у маёй псіхіцы. Ніякія дактары так добра, так борзда мяне тады не змаглі б вылечыць.*

*Такім от уздзеяннем на псіхіку, як кажуць вучоныя, я думаю, Хрысцінка, і можна вылечыць нашага Янку. Праўда, у яго не простая хвароба, не нейкі там «упуд-упудзішча». Ваўкі ж, можна сказаць, перакінулі нашага маленькага хлопчыка ў ваўка. Ім гэта лёгка ўдалося: з маленькага дзіцяці-немаўляці, калі яно і хадзіць яшчэ не навучылася, можна было «ляпіць» усё, што хочаш. Ваўкі «зляпілі» Янку на свой, на ваўчыны капыл, ён пераняў ад іх усе іхныя звычкі, усе іхныя паводзіны, іхны розум. Мне цяпер трэба перавярнуць яго з воўчага стану ў чалавечы. Праўдзівага ваўка на чалавека, ведама ж, не вывучыш. Тут жа*

*я спадзяюся на тое, што раз Янка нарадзіўся чалавекам і ў яго асталіся, нідзе не дзеліся ўсе чалавечыя задаткі, дык іх можна разварушыць, раскатурхаць, паўздзейнічаць на іх.*

*Ах, як памагла б тут добрая бабка Прузына! Ды няма ўжо бабкі Прузыны на свеце. А калі б яна і жыла, як бы я даставіў яе сюды, на Воўчую выспу?*

*Мне асталося адно: самому ўзяцца за вылечванне сына. Хто можа лепей за бацьку зрабіць гэта? Займацца ж пераўзгадоўваннем хлопчыка трэба не дзень, не тыдзень, не месяц — доўга, вельмі доўга. Я, толькі я магу вылечыць тут Янку. Бо ў каго ж больш, чым у бацькі ці мацеры, будзе на гэта хацення? Калі б і ты была тут, Хрысцінка, удваіх мы зрабілі б гэта найлепш. Але я буду думаць, што і ты са мною, што мы разам вылечваем нашага хлопчыка.*

*Каб не трымаць Янку на повязі, я папрыбіваў на вокны калкоў, праз якія ўжо нельга было пралезці. Цяпер сыну адкрылася воля, хай сабе і ў межах хаты.*

*Бегаў Янка неспакойна, тыкаючыся аб сцены, залазячы пад стол, пад ложак, у самыя цёмныя куткі — толькі вочкі адтуль паблісквалі. Я і не думаў ніадкуль выпорваць яго — хай сам асвойваецца.*

*Шчырым маім клопатам стала яда, кармленне нашага хлопчыка. Варыць сыну адно толькі мяса — наўрад ці пайшлося б яму на карысць. Таму стараўся гатаваць у печы і якое-небудзь варыва, закідваючы туды ўсякую прыправу — высушаныя карэньчыкі і лісце знойдзеных на выспе карысных раслін, якіх я назапасіў на зіму.*

*Для рэдкіх страў, гэтак жа, як і для вады, я выдзеўбаў у ачасанай знізу і зверху калодцы яшчэ адну адмысловую «міску». Выштукаваў для Янкі і драўляную лыжку. Але ён і блізка нічога гэтага не захацеў прызнаваць, бо зусім не прызвычаіўся браць што-небудзь рукамі. Рукі яму служаць толькі як пярэднія ногі. Варыва ў «місцы», як і ваду, ён хлебча па-воўчы, спрытна хапаючы ротам. Ротам прыхоплівае і кавалкі мяса ды гушчу, што астаецца на дне «міскі».*

*Але не бойся, Хрысцінка, я навучу яго есці як трэба. Бо адразу гэтага не зробіш.*

*Найперш мне трэба дабіцца, каб ён мяне не дзічыўся, каб сын не баяўся бацькі. Калі ён, забіўшыся ў самы цёмны куток хаты, баязліва зіркае на мяне сваімі насцярожанымі вочкамі, у мяне разрываецца сэрца, а на вочы набягаюць слёзы. Я аддаў*

*бы немаведама што, каб толькі наш хлопчык мяне не баяўся. Я прысядаў перад ім і ўгаворваў:*

*— Не бойся мяне, сынок, маленькі мой хлопчык, не бойся. Я ж твой тата. Я ж хачу, каб табе было добра, каб ты быў здаровенькі і разумны. Каб ты вярнуўся ў сваю сям'ю. У цябе ж ёсць і мама. Ты ж і не ўздумаеш, як яна будзе рада, якая будзе шчаслівая, што ты знайшоўся. Як яна будзе цябе любіць! І брацікa свайго ты ўбачыш, Стасіка. Будзеш з ім гуляць. Мы ўсе зажывём разам. Гэта ж такое будзе шчасце…*

*Янка сцішваўся, услухоўваўся ў мае словы. Ведама ж, нічога не разумеў, але добра чуў, што ад гэтых маіх шчырых слоў ідзе яму ў вушы нейкая новая, зусім ужо забытая лагода, нешта вельмі добрае, зманлівае. Ды калі я падбліжаюся пад яго, наш хлопчык зноў спрытна адскоквае ад мяне ўбок і ўцякае. І гэтак кожны раз. Кожны раз. А я толькі стаю і ў роспачы гляджу на свайго сына, бяссільна апусціўшы рукі.*

## ПІСЬМО ВОСЬМАЕ

*Хрысцінка, спяшаю падзяліцца з табой радасцю: Янка даўся сябе абняць! Я вельмі асцярожліва трымаў яго на каленях, седзячы на калодцы. Мой лагодны голас, мая шчырая просьба паслухаць мяне (гаворачы, я гатоў быў заплакаць) ды ласкавае пагладжванне па галоўцы памалу заспакойвалі нашага хлопчыка. Праўда, ён — не-не ды і парываўся выслабаніцца з маіх рук. Я тады трошкі паслабляў іх — хай чуе, што яго не няволяць, што яму можна ў любую хвіліну, калі толькі захочацца, скокнуць на падлогу. Даўшы Янку адчуць гэта, я зноў прыціскаў сына да сябе. Але ненадоўга: хай патрошку, па каліву прывыкае да бацькі. Так будзе трывалей.*

## ПІСЬМО ДЗЯВЯТАЕ

*Хрысцінка! Сынок наш перастаў ужо мяне дзічыцца! Якая гэта радасць! Ён ужо ахвотна ідзе да мяне на рукі. Я абдымаю яго і нашу па хаце.*

*Цяпер я па-сапраўднаму за яго ўзяўся. Сама перш трэба было абрэзаць яго склычаныя ў лямец валасы. Пасадзіўшы сабе на калені і добра прыціснуўшы, каб не вырываўся, я дагала абстрыг сына нажніцамі. Праўда, зусім роўна, як пад машынку, у мяне не выйшла: хлопчык увесь час турзаўся, хацеў вылузацца з маіх рук,*

*і галоўка асталася паласатая, рабенькая. Як у пастрыжанай авечкі. Але дарма: хто тут, на выспе, з яго пасмяецца?*

*Цяжэй было абрэзаць на ручках і ножках кіпці, якія даўно паадрасталі, паскручваліся, пакарабаціліся, паабломваліся: Янка ніяк не даваўся такому над ім гвалту. Ды, убачыўшы, што ў яго нічога не забалела ад такой аперацыі, супакоіўся.*

*Не вельмі проста было і вымыць Янку. Для такога мыцця я яшчэ раней выдзеўбаў з тоўстага асінавага камля шырокія і глыбакаватыя ночвы. І от цяпер, паставіўшы каля парога, напоўніў іх нагрэтай у печы вадой. Узяў сына на рукі і пасадзіў у цёплую ваду. Ледзьве даткнуўшыся да яе, наш хлопчык у жаху турзануўся, каб выскачыць адтуль, ды мае рукі моцна трымалі Янку. Пачуўшы прыемнае цяпло, ён памалу ўціхамірыўся і ўжо сам не хацеў вылазіць з ночваў. Толькі слухаў, як я асцярожненька шараваў яго змочанай і добра намыленай «мачалкай» — жменяй мяккага жоўтага моху з балота, а потым абліваў яго з прыгаршчаў той жа цёпленькай вадою. Відаць было, што яму спадабалася «лазня».*

*Выцершы мяккім ручніком, першы раз надзеў яму чыстую кашульку, сшытую перад гэтым з кавалка кужэльнага палатна, які ты ўлажыла ў хатуль. Янку была зусім непрывычная адзежына, і ён стараўся сарваць яе з сябе. Тады я падпеѕразаў нашага хлопчыка вяроўчынай, што трапілася мне пад рукі, і Янка, паёрзаўшы, памалу змірыўся з накінутай на яго новай «скурай».*

## ПІСЬМО ДЗЯСЯТАЕ

*Цяпер я ўзяўся, Хрысцінка, за самае цяжкае, за самае складанае і самае важнае: навучыць Янку хадзіць і гаварыць. Калі мне гэта ўдасца, лічы, наш хлопчык будзе выратаваны.*

*Хадзіць я вучу яго так: бяру за пальчыкі рук і, прыўздымаючы, вяду на сябе. Але ножкі ў нашага сынка самі сабой падкурчваюцца, соўгаюцца то ўперад, то назад, то ў адзін бок, то ў другі. Яны ледзьве датыкаюцца да падлогі. Так што яго больш за ўсё трэба проста валачы па падлозе. Калі ж я адпускаю яго ручкі, ён вельмі спрытна, неяк аж весела пускаецца бегчы-куляцца на карачках па хаце — так яму прывычна і зручна.*

*— Гэта ж ты скрывіў так спінку, сынок, жывучы з ваўкамі, — кажу яму ўголас: хай слухае чалавечую гаворку, некалі ж ён яе зразумее. — Твая спінка пайшла складвацца на воўчы капыл, расці не туды. Мы павінны з табой спыніць гэта,*

*зрабіць так, каб ты рос правільна. Якім спосабам? Спачатку ты павінен навучыцца стаяць на ножках, сын. Павінен! Павінен!*

*Калі я загаварыў, Янка суняўся і, гледзячы на мяне са сваіх карачак, лавіў кожнае маё слова. А раз ён слухае, дык некалі і зразумее, што я кажу яму. Ці ж не так?*

*Вылечванне Янкі цяпер у мяне на першым плане. Я не прапускаю ніводнага дня, ніводнай вольнай хвіліны, каб з ім не пазаймацца. Каб скарэй навучыўся ён стаяць і хадзіць, я змайстраваў сыну простую дзіцячую стойку, у якую і паставіў яго. Калі Янку надакучвае абапірацца локцямі аб краі стойкі, ён мусіць станавіцца на ножкі — някепская выходзіць у яго практыка. А каб хлопчык вучыўся не толькі стаяць, але і хадзіць, я зрабіў яму яшчэ і хадунок — паставіў сярод хаты шарнірна злучаны з падлогай і бэлькай шост, наглуха прыбіў да яго гарызантальную палку і да яе канца добра прымацаваў трывалы драўляны кружок-абруч. Ледзьве толькі я паставіў туды Янку, як ён, абапёршыся локцямі аб кружок і заперабіраўшы ножкамі, пабег вакол шаста. Ведама ж, без хадунка ён не мог бы і разу ступіць. Я думаю, што гэтае разумнае людское прыстасаванне, праз якое прайшлі, мусіць, усе ў Волі, і не толькі ў Волі, павінна навучыць калі-небудзь і нашага сына хадзіць самастойна.*

*З першага ж дня пачаў я вучыць Янку і гаварыць. Я думаю, сама лепш, калі ён будзе як можна часцей чуць людскую гаворку. А ад каго ж ён пачуе яе тут, калі не ад мяне, свайго бацькі? Балазе мне самому хочацца гаварыць. Апынуўшыся на выспе адзін, я спярша адводзіў душу тым, што гаманіў з птушкамі, з вавёркамі, з усімі сустрэчнымі звярамі, з жучкамі і кузуркамі, а то, сорам прызнацца, і з зёлкамі, з дрэвамі, з бярвеннем, з дошкамі і нават з маўклівымі сценамі і камянямі. А калі прынёс сюды ад цябе Пана Мурлыковіча, дык гаварыў з ім. Цяпер іншы выпадак. Цяпер я не проста размаўляю з нашым Янкам, а лячу яго гэтым. Таму гавару да яго цэлымі днямі, у любую вольную хвіліну. Што-небудзь расказваю яму, часцей за ўсё пра цябе, яго маму, пра яго брацікa, пра нашу Волю, суцяшаю яго, усяму-ўсяму вучу. Не можа быць, каб мае словы не адкладваліся недзе ў дзіцячай галоўцы. Апроч гэтага, я пачаў памаленьку вучыць Янку і самому прамаўляць словы, найперш самыя простыя: мама, тата. Праўда, нялёгка яму гэта ўдаецца. Колькі разоў, калі я адкрываю перад ім свой рот, паказваючы, як трэба прамаўляць якое слова, ён, гледзячы на мяне, доўга варушыць губкамі, а потым яны складваюцца ў трубку і на хату вырываецца нялюдскае, працяглае: ву-у-у-у! Ваўчынае выццё!*

9

На выспу прыйшла зіма.

Легла яна не адразу. Па ўмерзлай зямлі цэлымі днямі шастаў вецер, ганяў апалае, пачарнелае ўжо лісце. Уволю нагуляўшыся, ён уціхамірваўся, і ў нерухомым паветры пачыналі кружыць рэдзенькія лянівыя сняжынкі, якія, здаецца, і да зямлі не датыкаліся, губляліся ў аголеным голлі сцішаных дрэў і кустоў. Потым неба раз'яснівалася, і снег, так і не сабраўшыся, зусім пераставаў. І гэтак не раз і не два.

І от Ігнась прачнуўся ад нязвычнай яснасці ў хаце. Глянуў у акно: а там — усё белае.

Янка яшчэ спаў, і Ігнась, адзеўшыся, ціхенька выйшаў на двор. На яго дыхнула свежасцю, асляпіла першароднаю чысцінёй. Уся зямля была ўкрыта роўным снежным покрывам. Снег ляжаў на калматых хвоях, на таўсцейшых галінах бяроз ды асін, ім былі абкладзены ўсе купіны і купінкі. Захацелася, як некалі ў маленстве, пабегчы па гэтай нечапанай белізне першага снегу.

Бегчы ён нікуды не пабег, але прайсці па мяккім белым пуху не ўстрымаўся.

Ішлося лёгка: снег быў неглыбокі, толькі прыкрываў зямлю, яе цвердзіня добра чулася пад нагамі ў лапцях. За палянкай, у беразе лесу, застракатаўшы, шмыгнула перад ім з хвоі сарока — з галінкі, на якой сядзела, сыпнуўся снежны пылок. Відаць, і ёй, бесклапотнай стракатусе, нязвыкла было бачыць раптоўна зыначаны белым снегам свет.

Ігнась мімаволі павярнуў на сваё поле. Дагэтуль ён не прапускаў і дня, каб не прыйсці сюды з сякерай і рыдлёўкай. Нават калі ўкавала марозам дол, прымудроўваўся выкарчоўваць пні ды выцягваць учэпістае карэнне. Ведаў: будзе ў яго зямля — будзе ўсё.

Яго пакуль што толькі часткова разробленае маленькае поле ўжо было ўсё пад снегам. Толькі дзе-нідзе чарнелі грабяні не разраўняных яшчэ грудаў. Ды скора снег закідае і іх: на выспе ж загаспадарыў снежань.

Цяпер Ігнась на ўсю зіму пакіне дзялянку ў спакоі. Балазе хоць трошкі, але разрабіў яе. Даволі, каб вясной засеяць прыхопленым з дому насеннем.

Агледзеўшы поле, ён вярнуўся дадому.

Янка ўжо ўспароўся. Пакульваўся на карачках па хаце —ваўчок ваўчком. Калі ўвайшоў бацька, падбег пад яго: быў,

значыцца, ужо яму рады. А гэта ж, можна сказаць, немалы зрух. Ігнась узяў хлопчыка на рукі, прытуліў да сябе, стараючыся, як і кожны раз, распрамляць яго падкурчаныя ножкі, якімі сын так і торкаўся ў бацькаў жывот. Панасіў, ласкаючы, па хаце і паставіў у хадунок — бегай, родны, вучыся, выпроствайся. Сам жа прынёс з двара дроў, узяўся паліць у печы, каб згатаваць што есці і лепей нагрэць хату.

З прыходам зімы большая частка работы перанеслася ў Ігнася сюды, у хату. Да вясны ён павінен выштукаваць патрэбную для хаты мэблю, навырабляць усякага начыння — каб Хрысціне, калі забярэ яе сюды, усё было пад рукой, бо тут жа не пабяжыш пазычаць таго ды гэтага ў суседзяў.

…Доўгі зімовы вечар. За вокнамі завіруха, у блізкіх хвоях густа шуміць вецер, шлёгае аб сцяну хаты нябачнымі шлеямі, кідаецца ў шыбы снегам, галоднай ваўчыцай вые ў коміне.

Калі б хто трапіў нейкім чынам у гэтую адзінокую хату на забытай усімі Воўчай выспе, яму адкрылася б амаль ідылічная карціна. На камінку ярка палаюць складзеныя ў стосік сухія смалякі. Агонь добра асвятляе роўным, хоць трохі і мігатлівым святлом усю хату. Перад камінкам на тоўстай бярозавай калодцы, што замяняе табурэтку, сядзіць у расхрыстанай сарочцы і шэрых зрэбных нагавіцах маладжавы яшчэ гаспадар і выдзёўбвае з роўнага асінавага кругляка невялікі кадоўбчык. Блізка ад яго бегае ў хадунку на падкурчаных ножках, раз-пораз сунімаючыся перад ім, хлопчык з насцярожанымі пранізлівымі вочкамі. Аб нагу гаспадара лісліва трэцца, выгінаючы спінку і ціха мурлыкаючы, зіркаты коцік.

Паддаўшыся шэраму хітруну, гаспадар кладзе ўбок свае струманты, бярэ коціка на рукі, прытуляе да сябе, пагладжвае па мяккай поўсці і зноў пускае на падлогу. А сам устае, абтрэпвае з сарочкі і нагавіц смяцінкі ад свайго дзёўбання, бярэ з хадунка хлопчыка і, гаворачы яму нешта ласкавае, носіць па хаце.

— Ну, а цяпер я раскажу табе казку, — кажа Ігнась і садзіцца з сынам на калодку.

Казка яго пра казу Дзеразу, якая выгнала маленькага зайчыка з хаткі ў лесе і сама туды забралася, пра ваўка і мядзведзя, якія, убачыўшы, як зайка плача, захацелі яму памагчы, але, спалохаўшыся рагатай захопніцы, уцяклі, і толькі бясстрашны пеўнік адразу вытурыў няпрошаную госцю з зайчыкавай хаткі.

Расказваючы, Ігнась стараўся падрабляць плач пакрыўджанага зайчыка, галасы злой казы Дзеразы, грознага, але баязлівага ваўка, перапалоханага няўклюду мядзведзя, адваж-

нага пеўніка Пеці… Хлопчык, стаіўшыся, слухаў бацьку, яго тварык моршчыўся, броўкі сціскаліся на пераноссі: відаць, хацеў уцяміць, што тут да чаго.

Ігнасю прыходзілі на памяць усе тыя казкі, што расказвала яму ў дзяцінстве бабка Манька пра Піліпку-сынка, пра муху-пяюху, пра рэпку і дзедку, пра ката Мурлыковіча, які напалохаў усіх лясных звяроў, пра пеўніка, якога схапіла і панесла за высокія горы, за далёкія моры страшная лісіца-хітрыца і якога адабраў ад яе клапатлівы коцік…

Кожную казку Ігнась расказваў сынку з усімі адпаведнымі зместу інтанацыямі, умела пераўвасабляючыся ў яе герояў — звяроў ды птушак.

Не было такога дня, каб Янка не слухаў цікавыя бацькавы казкі. Хоць марудна, незаўважна, але ж гэтыя расказаныя ўмела, з цеплынёй казкі рабілі сваё, западаючы маломy хлопчыку ў памяць, змушаючы яго думаць, разважаць, паўтараць за бацькам асобныя гукі, а потым і словы.

## 10

Рып-рып, рып-рып пад нагамі снег. Апошнімі тыднямі снег ішоў ужо не раз. Напластоўваўся, ушчыльняўся, цвярдзеў на марозе. Але верхні пласт пакуль што зусім мяккі, пухкі: яшчэ ўчора кружыла тут белае пер'е.

Ігнась кожны раз абходзіў парошай свае ваколіцы. На свежым сняжку было відаць усё, як на далоні, — які звер дзе прайшоў, які якога лавіў, які куды ўцякаў.

Між тапырыстых дубцоў маладога арэшніку з блізкага ад хаты хмызнячку Ігнась наткнуўся на ланцужок выразна адбітых на снезе раздвоеных капыткоў. Адзін пры адным. Большыя і меншыя. Казіныя. Сляды вялі ўздоўж узвышанай баравіны — там нерухліва стаялі калматыя, абкіданыя снегам старыя хвоі: зялёнае з белым. Ігнась пабраўся па слядах. Праз нядоўгі час з боку баравіны пайшлі наўскасяк шырокія разлапістыя сляды, сляды яго «сяброў» — ваўкоў. Вунь яны злучыліся з казінымі, павіхлялі побач. Ясна: ваўкі пагналіся за козамі. Ігнась паскорыў хаду: ці хоць дагналі каторую? Калі дагналі і задралі, дык, можа, і з ім, сваім «сябрам», падзяліліся б здабычай? Як тая рысь?

Ён доўга ішоў уподбежку па слядах. Перад балотам, якое ляжала цяпер пад снегам, сляды павярнулі ўбок — і казіныя, і ваўчыныя. Сляды былі размашыстыя, кладліся далёка адны ад адных — відаць, і козы, і ваўкі імчаліся на ўвесь свой дых.

Адных гнаў страх трапіць у драпежныя зубы, другіх — прага здабыць мяса, задаволіць вечны голад.

Перад чорным, аголеным алешнікам сляды павялі ўсё ж на балота. Праглядвалася яно далёка. Але ні коз, ні ваўкоў там не было відаць. Пэўне, забеглі ўжо ў тыя скажанелыя хвойкі, што купчасціліся ўперадзе. Ісці туды Ігнась не адважыўся: не згадаеш, як уваліўся з галавой у якую прыцярушаную снегам чортаву яму. Чуйныя звяры такія ямы неяк абыходзяць. Няўклюдны ж чалавек як бач апынецца там. Да таго ж і сорамна перад самім сабой быць нахлебнікам у звяроў.

Назад пайшоў ён другім бокам свайго поля — чытаць далей кнігу зімы. Шмат дзе снег быў падрэпаны птушынымі лапкамі — не разабраць толькі якіх птушак. А вунь праскочыла па снезе вавёрка — сляды канчаліся пры камлі разгалістай хвоі. Няйначай, туды шмыгнула. Ігнась падняў галаву — так і ёсць: скокнуўшы з ніжэйшага на вышэйшы сук, насцярожана супыніла на ім свае чорныя ягадкі вочак.

— Не бойся, рыжуха, смела бегай сабе дзе хочаш — хіба ж я змагу зачапіць цябе, такую красуню? — сказаў услых і далей пахрупаў лапцямі па снезе.

На падыходзе пад сваю хату нечакана наткнуўся на зусім свежы заечы след.

— Дзе ж ты тут, косы? — суняўся Ігнась, азіраючыся па баках. — Недзе ж блізка стаіўся. Толькі хіба ж цяпер згледзіш цябе, белага, на снезе? Але ўсё ж я знайду цябе ці каго з тваіх хаўруснікаў. Выбачай, павінен жа я ад вас, зайцоў, узяць хоць якую даніну.

Вярнуўшыся сюды вечарам, на заечых сцежках наўціскаў у снег свае калодкі з петлямі. Некаторыя петлі прымацаваў на галінкі дрэў, пад якімі прабягалі зайцы. Не можа быць, каб не ўскочыў каторы.

Ды калі назаўтра раніцай прыйшоў праверыць, ні адзін і не зачапіў яго петлі. Хітрыя зайцы абмінулі іх, прабеглі бокам. Толькі блізка каля петляў, нібы ў насмешку, сыпнулі сваіх кругленькіх шарыкаў.

— Ну, што ж, касавокія, сцерпім такую абразу. Але паглядзім, што потым скажаце. Смяецца той, хто смяецца апошні! — сказаў уголас Ігнась і павярнуў дадому, пакінуўшы петлі нечапанымі.

І от неспадзяванка. Калі на другі дзень прыйшоў сюды яшчэ раз, дык аж падскочыў ад радасці. Не адзін, а два зайцы сядзелі ў яго петлях!

Сляды на снезе памагалі яму і ў ловах. На ўзлеску нагледзеў адбітыя лапкі курапатак, знайшоў іхныя ямінкі ў снезе, дзе яны хаваліся ў маразы, начавалі там. Прысачыўшы аднаго вечара, калі яны, як мячыкі, паўскоквалі адна за адной у сваю хованку, Ігнась падкраўся і накрыў ямінку сплеценым з гнуткага хваёвага карэння шырокім сакам на доўгай ручцы. Ён аж спужаўся, калі з хованкі, гучна залопаўшы крыламі, выпырхнула цэлая чародка курапатак і са свістам узвілася ўверх. Усё ж адну ўдалося прыціснуць сакам і прынесці дадому. Добры быў тады абед для Янкі, Пана Мурлыковіча і самога гаспадара.

Але такія ловы адбіралі многа часу, таму Ігнась больш хадзіў на рыбу, дзе заўсёды што-небудзь пападалася ў яго каробкі, якіх насплятаў з ракіты ў форме глыбокага рэшата з дзіркай у дне, увагнутай у сярэдзіну. Ставіў іх у азярцы ў палонкі, высечаныя ў лёдзе. Рыба, якой пад лёдам не хапала кіслароду, сама лезла ў каробку, Ігнасю аставалася толькі вытрэсваць яе адтуль у які кош.

На выкапаныя ж раней лоўчыя ямы ён ужо не спадзяваўся: іх чамусьці абыходзілі звяры. Таму Ігнась заглядваў туды зрэдчас. Але калі раз завярнуў пад іх, дык вачам не паверыў: насціл над адной з ям быў прарваны, сярод белага снегу тырчала чорнае разварушанае лам’ё, а з чарнаты ямы на яго бліснулі спалоханыя вочы. У ёй стаяў казёл! Хоць малады, але ладнаваты ўжо козлік. Убачыўшы Ігнася, ён пачаў кідацца туды-сюды ў яме, прыўставаць і шкрэбаць пярэднімі нагамі аб яе сценкі, каб выскачыць наверх. Ды яма была даволі глыбокая. Ігнась падбег дадому і вярнуўся з вяроўкай. Навязаўшы яе козліку на рожкі, выбавіў яго з ямы і прывёў дадому. Пра тое, што было з ім далей, Ігнась расказаў у пісьме да Хрысціны.

## ПІСЬМО АДЗІНАЦЦАТАЕ

*Хрысцінка, спяшаю расказаць табе пра здарэнне, ад якога ўсё яшчэ не магу апамятацца, хоць прайшло ўжо з таго больш за суткі. У адну з маіх лоўчых ямаў уваліўся малады козлік. Я прывёў яго на вяроўцы дадому. Толькі не ведаў, што з ім рабіць. Ты ж знаеш, як мне цяжка было дома адсекчы на калодцы нават галаву курыцы. А гэта ж казёл! І так патрэбна тут нам усім мяса. Толькі як яго забіць? Даць абухам па ілбе? Паласнуць вострым нажом па шыі? Бр-р-р! Не магу. Што рабіць? У мяне ўжо канчаецца аляніна. Так добра было б наскладаць у кадоўбчык казляціны. Балазе цяпер мароз на дварэ, мяса добра зберaглося б і без солі. Я навязаў козліка на ўбіты каля хаты*

*стоўбік і доўга глядзеў, як ён турзаецца на вяроўцы, стараючыся вырвацца і ўцячы ў лес, на волю. Малады, стройны, поўны сілы. Захацелася паказаць яго і Янку. Адчыняю дзверы, вяду на вяроўцы ляснога госця ў хату. А ён, нібы пачуўшы там нешта нядобрае, упіраецца, не хоча пераступіць цераз парог. Ледзьве ўцягнуў у хату. Зачыніў дзверы, адпусціў вяроўку: бяжы на хату, гуляй! Ды козлік стаў у парозе як укопаны, ціснецца назад у дзверы, баязліва пазірае на хату, дзе ў сваім хадунку бегаў Янка.*

*— Не бойся, козлік, — заспакойваю яго, — гэта ж наш Янка.*

*Ды той толькі лыпае вачамі. А Янка, суняўшыся, таксама ўтаропіўся ў нечаканага госця.*

*— Ну, што, — кажу да нашага хлопчыка, — можа, пагуляеш з ім?*

*Я ўзяў яго з хадунка і пусціў на хату.*

*І тут адбылося нешта неверагоднае. Наш малы хлопчык маланкай кінуўся на козліка. І не паспеў той хоць бы адскочыць убок, як Янка спрытна ўчапіўся ў яго аберуч, мігам паваліў вобзем і ўпіўся зубамі козліку ў горла. Праз якую хвіліну той ляжаў каля парога мёртвы. З яго горла чырвоным струменем лілася на падлогу кроў. Ці можаш ты паверыць у такое? Я сам нізашто не даў бы веры, каб не бачыў гэта сваімі вачыма. Бедны наш хлопчык!*

*Пасля гэтага я яшчэ раз прыгледзеўся на Янкавы зубы. Якія яны сталі вялікія, моцныя, нейкія быццам агрубелыя. Па баках папраразалася нешта падобнае да іклаў. Як гэта магло так усё зрабіцца, Хрысцінка? А ўбачыла б ты яго рукі! Яны нязвычна вялікія, з цвёрдымі, як дубовымі, мазалямі-натоптышамі, з чэпкімі пальцамі.*

*Ды і ногі яго змяніліся. Вельмі моцныя, з уцвярдзелымі мазалямі пярэднія палавінкі ступакоў. Яны аж скрывіліся ўперад — пэўне ж, ад таго, што прывык бегаць на карачках.*

*Як бы там ні было, а сын памог бацьку здабыць мяса, пасарамаціў мяне.*

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

### 1

Па выспе гулялі мяцеліцы. Залётны вецер, нібы дурэючы, падхватваў з зямлі рассыпісты, яшчэ не зляжалы снег і з подсвістам, з вясёлым гіканнем гнаў перад сабой, засыпаючы белай пацярухай усе лагчынкі і ўпадзіны, заносячы яе ў дрэвы і кусты, ва ўсе куткі і куточкі Воўчай выспы. Зіма ўваходзіла ў поўную сілу.

Заняты сваімі турботамі, неадступным клопатам пра сына, Ігнась не згадаў, як падышлі Каляды.

Пры адной толькі згадцы пра іх у яго душы рабілася светла і радасна. Гэта ж было нараўне з Вялікаднем самае вялікае ў Волі свята: як урачыста і весела яно спраўлялася, колькі было варожбаў, жартаў і смеху!

А як жа правесці Каляды тут — без блізкіх, без суседзяў, без усіх волеўцаў?

Не, хоць як, але ён усё ж адсвяткуе Каляды і на Воўчай выспе з сваёй маленькай сямейкай.

У пярэдадзень свята Ігнась нагрэў у печы вады, напоўніў ёю больш чым да палавіны начоўкі і пасадзіў туды свайго Янку. Хлопчык захадзіўся плёхацца ў цёплай вадзе — аж пырскі ляцелі па баках. Плёхаўся і нешта давольна лепятаў, паварочваючы галаву да бацькі, нібы хацеў падзяліцца з ім сваёй радасцю. Ігнась не вымаў яго з начовак, пакуль Янка не здаволіўся. Пакупаўшы сына, адзеў яму свежую кашульку (сшыў яе з кавалкаў палатна для змены) і паставіў у хадунок — бегай, забаўляйся з коцікам, з якім ужо добра здружыўся. А тым часам палез у начоўкі і сам.

Назаўтра, на Куццю, з самай раніцы ўзяўся прыбіраць у хаце, адклаўшы ўбок прыладдзе сваёй майстэрні. Выкінуў на двор усё непатрэбнае, падмёў бярозавым венікам хату, памыў падлогу. Хата асвяжылася, павесялела.

Добра паламаў галаву, з чаго і як прыгатаваць куццю. У першы святы вечар яна павінна быць посная. Дома на посную куццю маці ставіла на стол не меней як сем розных страў. Пасярэдзіне дымілася ў гаршку сама куцця — каша з патоўчаных у ступе ячменных круп, якая падавалася з салодкай сытой. Былі на стале бліны з макам, селядзец з цыбуляй і алеем альбо смажаная рыба, квас з грыбамі, аўсяны кісель, звараныя сушаныя грыбы, адвар з сушаных ігруш, яблык і сліў.

З усяго гэтага Ігнась не шмат чаго мог тут згатаваць. Саму куццю ён усё ж зварыў, узяўшы з свайго насеннага запасу

паўжменькі зярнят: ашчаджаў для сяўбы. Хай чыста для знаку, але ўсё ж ніхто не сказаў бы, што на Куццю ў яго не было куцці.

Ах, як добра было б зварыць для святочнага стала мацерын квас з сушанымі краснагаловікамі! Аж слінкі пацяклі ў Ігнася, калі ўспомніў той квас. Згатаваў бы і тут яго, ды дзе на выспе возьмеш буракоў, капуснага расолу? Аставалася толькі пасмакаваць мацерын квас у думках.

Не знайшоў з чаго напячы і бліноў, якія падаваліся на гэтае свята з макам. Маці пякла іх з пшанічнай ці жытняй мукі, а калі і з грэчневай, добра змазаўшы скавараду ільняным алеем свайго вырабу. Ах, як яны пахлі, пульхныя, мякенькія — асабліва грачанікі! А як еліся з тым макам, перацёртым у макатры да белага малачка! Такія бліны можна было зноў жа пасмакаваць толькі ў марах. Як і селядзец, кісель.

І ўсё ж знайшлося ў Ігнася з чым справіць свята і тут. Найперш пусціў ён у ход усё сваё сушыва: грыбы, уюны, дзікія ігрушкі, яблыкі, ягады. Ну, і свежай рыбы налавіў у азярцы.

Свой пакуль што адзіны стол пераставіў ён у красны кут, перад іконкай, якую не забыўся ўсё ж прыхапіць з дому апошнім разам. Яшчэ завідна, да ўсходу сонца, прынёс у хату жменю пахкага мурожнага сена, палажыў на стол, накрыў сурвэткай і паставіў на яго сваю куццю ў глінянай місцы. А вакол куцці прымасціў скавародку з смажанай рыбай, міску вывараных грыбоў і на чыстай дошчачцы паклаў кучку сухіх уюноў. Паставіў у конаўцы і ўзвар з ігрушак-дзічак, падсаладжаны малінамі. Абвёў усё вачыма — чым не святочны стол? Нават традыцыі не парушыў: пяць (якраз няцотны лік) належных для гэтага выпадку страў на ім выстраілася.

— Ану, мая любая сямейка, за стол! Будзем свята святкаваць! — знарок зычным, урачыстым голасам пагукаў Ігнась.

Янка, які бегаў па хаце ў сваім хадунку, супыніўся на бацькаў голас, утаропіў на яго свае смуродзіны-вочкі: што ж гэта будзе? Бацька ўзяў сына на рукі і сеў з ім за стол, пасадзіўшы хлопчыка на правае калена. На левае падняў хітрага Пана Мурлыковіча, які даўно лісліва цёрся аб калашыны яго штаноў; катовыя ноздры проста распіраў зманлівы пах смажанай рыбы.

Але перш чым запрашаць сваіх сямейнікаў брацца за яду, Ігнась пачаў стукаць у акно, гукаючы туды на ўвесь голас:

— Мароз, мароз! Хадзі з намі куццю есці. Заходзь у хату, не саромейся! Толькі летам сюды не патыкайся, па полі не хадзі, яры не губі! — І ён, торкнуўшы драўлянай лыжкай-лапатачкай у міску з куццёй, паднёс яе да самай шыбы акна, за якім якраз

насіўся, падвываючы, халодны вецер, круціла мяцеліца. — Еш, каштуй нашу куццю! Каб і налета можна было яе пад'есці! Ну, а цяпер будзем і мы есці куццю, мае неслухі, — павярнуўся ён да Янкі і коціка.

Ігнась даў з лыжкі папробаваць куцці сыну. Той узяў у рот тыя тры ці чатыры развараныя ячменныя зернеткі, пачаў іх жаваць. Хоць, відаць было, і не пачуў у іх ніякага смаку, усё ж пракаўтнуў. І то добра!

— А зараз чарга шаноўнаму Пану Мурлыковічу есці куццю, — павярнуўся Ігнась да коціка і, дастаўшы з міскі лыжкай-лапатачкай ячменнай кашы, паднёс пад нос коціку.

Але той, панюхаўшы, адвярнуў сваю вусатую пыску ўбок.

— Ого, які ганарлівы Пан Мурлыковіч! Не надта і ўнаровіш яму. Хоць бы лізнуў для пры́клепу. Не? І лізнуць не хоча? Ганьбуе? Ну, што ж, не будзем сілком пхаць пану ў рот. Даруем такую непашану да свята. Тады мо хоць грыба панская мосць пасмакуе? — Ігнась падкалупнуў відэльцам у місцы з грыбамі добра развараны мяккі скрылік чорнага краснагаловіка, падаў коціку, ды той зноў адвярнуў свой нос. — І гэта зганьбаваў наш пан? Ці не занадта пераборлівы ты, Пан Мурлыковіч? Ладна, ладна, не будзем вас доўга мучыць, ведаем, на што ваша панская мосць ласая, бачым, куды яе зіркалы нацэлены! З рыбкі іх не зводзіць! Тады на табе во гэты акунёў хвост.

Узяўшы яго двума пальцамі са скавародкі, Ігнась пакруціў перад коцікам. Той мігам падскочыў уверх, спрытна ўхапіў зубамі пачастунак і кульнуўся з ім на падлогу — хаця ж бы не адабралі!

Янка на грыбы таксама не вельмі накідваўся: адвучылі ўсё ж ад іх апекуны-ваўкі. Затое рыбу і ўюноў уплятаў ужо як нішто лепш.

Першы перадкалядны дзень — Куццю — Ігнасева маленькая сямейка адсвяткавала па-людску. Хоць, можа, і не ў тым парадку, як трэба. Прыкладам, саму куццю — ячменную кашу — звычайна ядуць, ведаў Ігнась, апошняй. А каб яна добра елася пасля ўсякіх смачных страў, падавалася да яе ў місцы салодкая сыта.

Самі Каляды Ігнась захацеў зрабіць весялейшымі. Намнога весялейшым быў гэты дзень і ў Волі: на такое свята дазвалялася разгуляцца як хто хацеў.

Устаўшы раніцай, Ігнась адразу ж узяўся гатаваць каляду. Зварыў і ўпарыў у печы зайца, які папаўся ў яго пятлю. Добра ўварыў там і казляціну. Дастаў прыхаваныя да свята хлебныя сухары. Згатаваў узвар з сушаных яблык, ігрушак і ягад.

Усе былі вельмі давольныя калядой — і Янка, і сам гаспадар, і Пан Мурлыковіч. Елася і пілося ўсмак. Асабліва стараўся Пан Мурлыковіч, які, задаволена мурлыкаючы, абгрызаў і вылізваў кожную костачку. Яму Ігнась выдзеліў асобную місачку, якую паставіў побач з сабой на падлозе. Каля яе і завіхаўся коцік.

У Волі калядным вечарам звычайна хадзілі па хатах з «казой» калядоўшчыкі. Дзеці заўсёды чакалі іх як радасць, як самае найцікавае відовішча. Ігнасю захацелася і тут справіць гэты цікавы і вясёлы абрад, паказаць яго Янку.

І от калі, астаўшыся адны ў хаце, Янка з Панам Мурлыковічам забаўляліся пры святле запаленых на камінку смалякоў, за вокнамі пачуўся нейкі спеў. Янка падбег у сваім хадунку бліжэй да акна, наставіў вушы, ловячы нешта незвычайнае. Калі б ён разумеў, дык у тым працяжным і нейкім дзівосна-радасным спеве разабраў бы і простыя словы песні калядоўшчыкаў:

Прыехала Каляда ў вазочку-у-у,
На сівенькім канёчку-у-у,
Прыехала Каляда ўвечары, ўвечары,
Прывезла дудак рэшата, рэшата.
Паставіла дудкі на стаўпе.
Зайграйце, дудкі, на куце!
Зайграйце, дудкі, таненька,
Скачыце, дзевачкі, харашэнька…

Тут і праўда зайграла дудка, ды так спеўна, так галасіста, што Янка стаяў перад акном, як прычараваны. Не здагадваўся хлопчык, што гэта ж бацька так іграе, што якраз дзеля яго скруціў ён да Каляд з верхавінкі маладой хвойкі гэтакую дудку. Радаснае гранне запоўніла ўсю хату, пералівалася ў ёй зычнымі меладычнымі хвалямі. Потым падплыло да дзвярэй. Тут дудка зайграла яшчэ больш голасна і ўрачыста.

Потым яна заціхла. Дзверы шырока адчыніліся, і ў хату ўскочыла… каза! Калматая, з пакручастымі рагамі, з барадой! За ёю пераступіў парог невядомы барадаты дзед у гэтакай жа калматай вопратцы.

Пан Мурлыковіч увесь натапырыўся, выгнуў дугой спіну і пагрозліва засыкаў на страшную казу з дзедам, але, убачыўшы, што ніхто не баіцца гэтага сыкання, у адзін міг сіганув на печ — падалей ад ліха. Што ж да Янкі, дык ён адразу ж рвануўся быў на казу — відаць, ваўкі добра навучылі хлапчанё, на каго не толькі

можна, але і трэба нападаць. Невядома, як бы ён распраўляўся з казой, калі б не абруч хадунка, які не дапусціў яго пад парог.

Тым часам каза пачала скакаць па хаце, трасучы сваёй барадой і набэчваючыся рагамі. Стары дзед, які хадзіў след у след за казой, водзячы яе на павадку, тупнуў нагой і загаварыў моцным голасам:

Добры вечар вам,
Чэсным гаспадарам!
Мы не самі ідзём,
Мы казу вядзём!

І, павярнуўшыся да казы, зацягнуў песню:

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра!
Паварачвайся
Ды расхаджвайся…

Павярнуўшы вочы на Янку, які аж застыў ад незвычайнага відовішча, і нібыта нешта яму растлумачваючы, стары незнаёмы дзед нейкім усё ж знаёмым голасам заспяваў трохі цішэй і больш развважліва:

Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе каза нагою,
Там жыта капою,
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам!..

Паштукарыўшы, пакружыўшыся з казою па хаце, дзед раптам стукнуў сваім доўгім кіем аб падлогу, нібы просячы асаблівай увагі. Тады садраў з казы яе рагатую галаву з усім ашмоццем і адкінуў убок. Здзіўлены Янка замест казы ўбачыў сукаватую палку, якую пакручваў туды-сюды дзед: глядзіце і разумейце, Янка з коцікам, што гэта было проста штукарства! Услед за гэтым і з сябе сарваў дзіўны дзед зробленую з сухой травы бараду, скінуў свае штукарскія рызманы з драўлянай маскай, і Янка з коцікам, узрадаваўшыся, убачылі гаспадара хаты.

— Ну, што, мая малеча, — смеючыся, загаварыў Ігнась, — ці добра пакалядавалі мы сёння з вамі? Ага, бачу, што добра, унь як засвяціліся вочкі ў Янкі. Ды і Пан Мурлыковіч, мусіць, узрадаваўся, што знікла-прапала страшная каза, а з ёю і той сівы дзед з доўгім кіем, а? Адразу вылез са сваёй хованкі на печы, во ўжо замурлыкаў каля ног. Не бойцеся, мае любыя, са мною вы не прападзяце!

Янку Ігнась узяў з хадунка на рукі і, тулячы да сябе, захацеў хоць як патлумачыць яму, што тут да чаго.

— Сынок, — казаў ён, — сёння вялікі дзень: сонца, якое ўцякала, аддалялася ад нас, зноў павярнула назад. З кожным днём яно будзе цяпер патрошку прыбліжацца, каб сагрэць зямлю і прагнаць ад нас холад. Таму і радуюцца сёння ўсе людзі на свеце. А калі сыдзе снег, мы з табой пойдзем абрабляць наша поле. Пасеем там жыта, ячмень, проса, лён. Каб нам было што есці і ў што адзявацца…

Няхай Янка не разумеў бацьку, але з часам, калі ўсё гэта будзе рабіцца, прыйдзе і разуменне. У гэта Ігнась верыў цвёрда.

2

Яшчэ сплючы, Ігнась пачуў гэты незвычайны тут, нейкі вельмі родны спеў, які так хораша лагодзіў сэрца. Шпачыны спеў! Спярша падумалася, што ён спіць дома, у роднай хаце. Што вот-вот да яго падыдзе маці, якая, пагрукваючы вілкамі, уходжваецца каля печы, падыдзе і, асцярожна ўзяўшы за плячук, пачне, нібы вінавацячыся, будзіць: «Уставай, сынок, уставай, каровы ж ужо на чорнагалоў пара гнаць, уставай, потым даспіш…» Пры адной думцы пра чорнагалоў у Ігнася па спіне прабягаюць дрыжыкі. Чорнагалоў толькі што выскачыў з-пад снегу на недалёкай ад Волі балаціне, якая цяпер спрэс заліта талай вадой. З вады толькі тырчаць — дзе рэдка, дзе густа — сівыя купіны выцвілай леташняй асакі з белымі скрылямі не расталага яшчэ снегу. На іх, на гэтых купінах, і тапырацца вожыкамі шчыльныя купкі даўгаватых сцяблінак з мякенькімі чорнымі галоўкамі на канцах — чорнагалоў. Каровы ядуць яго ўзахапкі. Пацягне каторая з купіны жмут — і толькі мільгануць белыя карэньчыкі, што мігам пераціраюцца зубамі. Каровы зусім не баяцца ледзяной вады, смела плёхаюцца па калені ў ёй і хоць бы што. А як хадзіць па гэтакай вадзе пастуху? Звычайна Ігнась пасвіў кароў па чорнагалове ў лапцях. Гонячы чараду, мякка скакаў з купіны на купіну. Але купіны там розныя. Ступіш, бывае, на якую, а яна,

як у бездань, пайшла ў ваду! Выхваціш нагу, як з агню, скокнеш на другую купіну, а тая гэтак жа паверсе плавае. Зноў — боўць нага ў ледзяную ваду! Пакуль выберашся на сушэйшае, абедзве нагі мокрыя, як квачы. Добра, з лапцяў, як з таго рэшата, вада тут жа і сцякае. Але ўсё роўна нямала яшчэ трэба пахадзіць у мокрым, пакуль гнаць каровы дадому. Таму і не хочацца Ігнасю вылазіць з цёпленькай пасцелі. Ляжыць ён, спіць і не спіць, чакаючы, пакуль падыдзе маці будзіць. Радуецца, што яна доўга не падыходзіць, дае яму падрамаць, папесціцца ў цёплым. Але ж ён ужо добра наляжаўся, колькі хацеў напесціўся. Чаму ж тады ўсё яшчэ не падыходзіць маці? Зацікавіўшыся гэтым, ён устае сам, працірае вочы. Што гэта? Перад ім — зусім не тыя сцены, не родная бацькава хата. Але ўсё роўна нешта вельмі знаёмае! Ды гэта ж яго хата на Воўчай выспе! І ён у ёй — уцякач, дзяржаўны злачынец. Выгнаннік з роднага дому. І маці ўжо ніколі, ніколі не падыдзе да яго. Як бы ён ні хацеў.

Усё гэта яму прымроілася, калі пачуў шпачыны спеў. Толькі дзе ж ён цяпер, той спеў? Прыслухаўся — ціха за акном, не чуваць ніякага спеву. Значыць, і шпака ён сасніў? Але толькі гэта падумаў, як недзе зусім блізка зноў пачулася такое знаёмае з дзяцінства выспеўванне з радасным меладычным перасвістам. Ён, шпак! Прыляцеў такі пад яго хату!

Значыць, аплацілася Ігнасева старанне. Недзе адразу пасля Каляд ён збіў і вывесіў на сваіх харашунях-бярозах напроці хаты два вулейчыкі — так у Волі называлі шпакоўні. Вывесіў на ўсялякі выпадак. Не вельмі спадзеючыся, што шпакі знойдуць іх на дзікай выспе. Але ўсё ж знайшлі! Прачулі, мусіць, што тут пасяліліся людзі: шпакі ж толькі пры людскіх селішчах любяць весціся. Ігнасю гэта было асабліва радасна: адно, што даверылася от яму гэтая прыхатняя птушка, а другое — што ў яго будуць цяпер такія слаўныя падсуседзі.

Ведама ж, узрадаваў Ігнася і сам прылёт з выраю шпакоў. Гэта ж ужо — вясна! З іх прылётам яе ўжо нішто не спыніць на выспе.

Аж не верыцца Ігнасю, што ён яе дачакаўся, што перажыў нялёгкую зіму. Цяпер то ён ужо будзе жыць!

Зіма прайшла для яго не дарам. Не мог жа ён, сялянскі сын, сядзець тут склаўшы рукі. Не было такога дня, каб хоць штонебудзь ды не рабіў. І на падворку, і доўгімі зімовымі вечарамі ў хаце, пры камінку.

З гаспадарскага прыладдзя цяжэй за ўсё даліся яму жорны. Станок то збіў лёгка. А от камяні, якія яшчэ з восені прыцёг пад хату, доўга пападзюбаў долатам. Затое калі ўсцягнуў адзін за

адным на станок, калі сціснуў верхні камень арэхавым абручом і, уставіўшы ў проразь млён, пакруціў ім, аж душа запела: ёсць жорны — будзе і хлеб.

Ступу выдзеўбаў сама перш — таўчы ў ёй вымачаныя ў вадзе (каб сышла горыч) і здробненыя жалуды, а яшчэ падсушаныя карэньчыкі аеру ды рагозу. Хоць які, але ж налаўчыўся выпякаць у печы з усяго гэтага хлеб. А паявіцца збажына, будуць з яе тут і крупы.

З асаблівай любасцю ўзяўся Ігнась выштукоўваць мэблю. Не шкадаваў на гэта часу, стараўся, каб была яна ў яго не абы-якая, не простая, а з аздобамі, каб вока радавала ў хаце. Перш, апрача кухоннага, зладзіў стол для покуці. Амаль да бляску выгладзіў гэблем для яго дошкі, шчыльненька падагнаўшы іх адна да адной, каб не было відаць пазоў. Роўныя, таксама гладзенькія вымудраваў і чатырохкантовыя ножкі, раўнютка падгабляваўшы і вострыя канты. Нават шуфлядку вымастачыў і ўставіў у стол. З круглай грабавай ручкай-пупсікам. Калі паставіў сваё тварэнне ў красны кут, адразу павесялела ў хаце, яшчэ больш прытульна зрабілася. От толькі абруса не ставала на стале, але гэта ўжо будзе Хрысцінін радасны клопат.

Добра паваждацца давялося Ігнасю з шафай, пакуль выстругаў яе і збіў, а потым аздабляў, як умеў, разьбой, асабліва пярэднія куты і дзверцы. Хацеў, каб мела шафа выгляд, каб Хрысціне было люба падысці пад яе, адчыніць ходкія, не рыпучыя дзверцы, павесіць ці ўзяць што з адзежы. Унізе змайстраваў і дзве глыбакаватыя шуфляды — хай паслужаць замест куфра, пакуль не паявяцца ў сям'і — яго патаемная мара — дочкі ды, падросшы, не будуць рыхтаваць сабе пасаг.

Самы ж большы быў у яго клопат — сын. Ігнась рабіў усё, што толькі было можна, каб выбавіць свайго Янку ад згубнага ваўчынага ўзгадоўвання, якое парушыла ў хлопчыка псіхіку. За зіму не многа ўдалося тут змяніць Ігнасю. Адно добра: Янка пачаў ужо сам станавіцца на ногі, нават праходзіў трошкі па падлозе. Праўда, вельмі скора зноў апускаўся на рукі ды куляўся на ўсіх чатырох. Гаварыць таксама яшчэ не навучыўся. Праўда, зрэдку лепятаў нешта невыразнае. У яго лепятанні ўсё яшчэ чуліся ваўчыныя ноткі, нават падвыванні, якія вельмі засмучалі бацьку. Але ўсё ж не зняверvalі: і тут былі хоць невялікія, але зрухі, якія абнадзейвалі.

### 3

Вясна брала сваё. Ужо добра прыгравала сонца. Закапала са страхі, раніцамі звешваліся перад вокнамі доўгія, з завостранымі канцамі ледзяшы-шклянікі, якія недзе к палудню пачыналі плакаць на сонцы, а потым па адным адрывацца і — шлоп ды шлоп — падаць долу, разбіваючыся на бліскотныя крышталікі. Снег ужо асеў, пабраўся ледзяной карою. Ступіш на яго, і нага, праламаўшы тую кару, пайшла-паплыла ў зярністае снежнае месіва да самага нізу. Месцамі ў лагчынках можна было дастаць нагою і да вады, якая тут жа засмоктвала сабою след — жоўтая, каламутная. На палянцы, на ўсіх сонечных угрэвах і на разробленым Ігнасевым полі зачарнелі праталіны.

Лес яшчэ быў ва ўладзе зімы. Ён пакуль не прачнуўся ад доўгай, амаль паўгадавой спячкі. Дрэвы стаялі голыя, маўчлівыя, нерухомыя. Ад іх на пашарэлы снег падалі ўзорыстыя сінія цені.

Але памалу лес пачаў ачуньваць. Першыя адгукнуліся на вясновае цяпло прыбалотныя вербалозы. Іх голле набракла ўжо сокам, пажаўцела. І, не зважаючы на начныя маразы, там праклюнуліся, павыскоквалі маленькія шэрыя коцікі. Зусім неўпрыкметку ажывалі і ўсе дрэвы. Пачуўшы сонца, іх бяссоннае карэнне таксама пачало ўжо гнаць аднекуль з глыбіні ўверх, па камлях і галінах, свае сокі, жыватворныя сокі зямлі.

У маленстве Ігнась не мог дачакацца гэтай пары. Каб наспускаць салодкага кляновага соку, ён залазіў на свой разлапісты прывулічны клён і развешваў на надломах яго галінак бутэлькі і слоікі. За нядоўгі час у іх набягала да краёў празрыстага, як крышталь, кляновіка, які так хораша пах вясновай свежасцю.

Цяпер яму таксама захацелася здабыць кляновага соку. І не толькі каб папіць. Ён недзе чытаў, што ў Канадзе з кляновіка выпарваюць цукар. Адмысловы кляновы цукар. Чаму б і яму не папробаваць? Ці ж мала што ім можна было б падсалоджваць?

Ведама ж, з тонкіх галінак, як некалі ў Волі, не надта многа мог бы ён сабраць соку. Таму з дубовых аскабалкаў навыстругваў латакоў, каб спусціць сок з камлёў, як спускаюць звычайна з бяроз. Паклаў іх у кош, наскладаў туды паболей featureрознага посуду і падаўся з сякерай і долатам за сваю ў цёмных праталінах палянку, дзе, уціснуўшыся сярод хвояў, бяроз ды асін (было тут нізкавата), маўчліва стаялі рэдкія выгоністыя кляны. Калі камлі ў волеўскіх прывулічных кляноў былі карабатыя, з тоўстай гузаватай карой, дык тут, сярод ляснога гушчару, — роўныя, трохі зелянковыя, танкакорыя. Укленчыў перад адным з іх,

ацёр даланёй ад усяго ўсякага і з размаху, каб было глыбей, секануў наўскасяк — раз, другі, трэці. З расшчэліны пырснуў сок, змачыўшы лязо сякеры. Яго першыя мутныя каплі адна за адной пабеглі па ствале ўніз.

На іх дарозе і прабіў долатам неглыбокую шчылінку ды асцярожна ўвагнаў у яе абухом сякеры адзін з латакоў. Падставіў пад латак свой самаробны гладыш, і от капка за капкай пабрэнкала па яго гліняным дне. Каб сок не адхіляўся ў бакі, з падсеку працягнуў па латаку суравую нітку. З яе сок пабег ужо цурком, цяпер ужо чысцюткі, празрысты.

З пяці кляноў кожны дзень прыносіў Ігнась два-тры вядры духмянага салодкага соку. Праўда, выпарвалася з яго ў печы толькі па некалькі празрыстых, крыху жаўтавых цукровінак. Але за ўвесь час, пакуль ішоў сок, іх назбіраўся добры кубачак — выдатны дармовы цукар!

Пасля кляноў пусцілі сок і бярозы. З бярозавым сокам у Ігнася звязвалася многа чаго светлага і дарагога.

…Здаровая, з марозікам вясновая раніца. Вялікае ружовае сонца, якое толькі што выплыла з-за хвойных верхавінак лесу, пырснула на дарогу веерам касога прамення, бліскаючы па зашклёных за ноч тоненькім лядком лужынах ды каляінах, дзе ўчора беглі-спяшаліся кудысьці жвавыя раўчукі. Конскія капыты і колы калёс лёгка пёратрушчваюць слабенькія лядовыя шыбкі, мяшаючы іх з чорнай гразёй і рэшткамі снегу. Спераду на возе сядзіць, памахваючы лейчыной і панукваючы каня, бацька. За яго спіной тарахцяць на возе дзве добрыя дубовыя бочкі. Прытрымліваючы іх пры рэзкіх штуршках, горбіцца на біле калёс Ігнась. Палявая дарога ўцягваецца ў цемнаватую пройму лесу. Калёсы з бочкамі ляскочуць па выступах вузлаватых каранёў ды большых тут выбоінах. Сонца цяпер недзе за лесам. Але яно раз за разам выслізгвае з-за голых асін ды бяроз, скача па чырванавата-рыжай спіне каня, па калёсах і бочках на іх ды зноў хаваецца за лясную непралазь.

У глыбіні лесу дарога разыходзіцца ў розныя бакі, губляецца сярод дробнага падлеску. Бацька прыўстае на калёсах, выкіроўвае каня паміж дрэў, стараючыся не зачапіцца вобадам кола за які камель ці пень. Перад разрэджанай трохі баравінай сунімае каня і, саскочыўшы з калёс, навязвае на хвою.

На схіле баравіны сярод старых галінастых хвояў там і там, нібы вытачаныя калоны, бялеюць старыя размашыстыя бярозы, што ідуць далёка ў неба, у падвоблачную недасяжнасць. Камлі бяроз — у два абхваты. Унізе моцна парэпаныя, чорныя.

— Ну, якую выберам, сын? — пытаецца бацька і тут жа адказвае: — Давай во гэту — бач, якая тэўсць…

Ён абсякае перад бярозай дробныя дубчыкі лазы ды крушыны, на ўзроўні грудзей ачэсвае цвёрдую крохкую кару і робіць глыбокі касы надсек. Бяроза так набракла сокам, што ён аж пырскае з-пад сякеры. Увагнаўшы латак, бацька бярэ з воза першую бочку і, пакручваючы, ставіць пад бярозай. Спусціць сок з другой бярозы ён дае ўжо яму, Ігнасю, — каб вучыўся. Ігнась, як добры вучань, робіць усё спраўна, на выдатна вытрымлівае бацькаў экзамен.

Пад канец бацька сваім нязменным нажом-складанцам выразае з маладой гладкай бярэзіны роўную лісціну бяросты, скручвае ў конусападобную конавачку і, перагнуўшыся, зачэрпвае ёю з дна першай бочкі соку. П’е сам і дае папіць Ігнасю.

Сок хоць і не вельмі салодкі, але прыемны, мяккі. Нібы п’еш само настоенае на лясных пахах паветра.

Потым яны ўдвух накрываюць бочкі беленькімі, спецыяльна вымытымі маткай накідкамі з кужэльнага палатна — ад ласых на салодкае мурашак ды ўсякіх жучкоў, — абвязваюць вяроўчынамі: каб не скінуў вецер. Усё — хай набіраюцца сокам.

У гэтай глушы іх ніхто не кране, не ўгледзіць. Тут — поўны спакой, ціш. Толькі ўверсе, у дрэвах, ціліньканюць дробныя лясныя пташачкі ды недзе ў глыбіні лесу пастуквае ў сухастоіну дзяцел. Бочкі астануцца пад іх поўнай апекай.

Праз некалькі дзён Ігнась з бацькам, паклікаўшы каго-небудзь на падмогу, едуць забіраць напоўненыя свежым бярозавікам бочкі.

Звычайна ставіліся яны ў склеп, у холад. Укладалі ў бочкі добра падпражаны на скавародзе ячмень або падрумяненыя на ёй жа скарынкі чорнага хлеба. У дадатак закідвалі галінкі смуродніку. Ох, які хвацкі квас выброджваўся з бярозавага соку! У летнюю задуху, асабліва ў касавіцу, калі касілі і грэблі сена, яго было не адпіцца. Халодны, рэзкі, ён мудрэй за якое заморскае фабрычнае пітво праганяў смагу. На сенакос насілі яго за плячамі на брызентавым рэмені ў самаробнай бочачцы-біклазе з адной адтулінай, што затыкалася шпунтам. Пап’е гэтага ўсё яшчэ халоднага квасу-бярозавіку касец — і нібы новыя сілы ў жылы ўвальюцца.

Тут, на выспе, Ігнасю таксама будзе гарачае лета. Работы ж на ёй — рабіць не перарабіць. От тут і паможа яму выбраджаны ў халадку бярозавік.

Бяроз каля яго палянкі было многа. І Ігнась не прамінуў, каб нанасіць з іх соку ў зробленую ім ладную бочачку. Дзеля гэтага прыхаваў чатыры ці пяць Хрысцініных сухіх скарынак жытняга хлеба. Пражыць ячмень для соку пашкадаваў: ашчаджаў на насенне. Смуродніку ж наламаў каля рэчкі — яго там кусцілася многа.

4

Як толькі пачаў раставаць снег, Ігнась — не-не ды і заварочваў пад сваё пакуль што маленькае поле, каб паглядзець, як раскрываецца яно ад белага зімовага покрыва, палюбавацца, як ільсняцца пад сонцам чорныя, набраклыя талай вадою праталіны. Не цярпелася распачаць сваю першую тут сяўбу.

Акурат у гэтую пару, сплючы, зноў пачуў ён пад раніцу дзівосны спеў. Толькі цяпер ужо не шпачыны — да шпакоў ён прывык. Пад вокнамі чуліся людскія галасы, спявала нейкая вясёлая грамадка людзей: спявала ў такт скрыпкі, якая аж залівалася пад чыімсьці спеўным, вельмі ўмелым смыкам. Добра памагала скрыпцы і зазыўная, узнёслая дудка. У гэтым цудоўным суладным спеве ясна чуліся і словы песні, добрыя, спагадныя, звернутыя не да каго-небудзь, а да яго самога, да Ігнася, гаспадара хаты. Выбіваўся наверх густы бас запявалы:

Добры дзянё-ёчак, пане гаспада-ару!

Яго спеў адразу ж падхоплівала грамада:

Вясна-красна на ўвесь све-ет!

Звонкім ручайком ліліся спеўныя дзявочыя галасы:

У нядзельку паранюсенька
Ўзышло сонца весялюсенька…

Зноў усе радасна абвяшчалі:

Вясна-красна на ўвесь све-ет!

Словы песні разам з простай і такой душэўнай музыкай хораша лашчылі слых, ліліся ў самае сэрца. Ігнасю здавалася, што ён вольна плыве паміж небам і зямлёй на нечым мяккім і бязважкім.

Потым нехта зычна заспяваў у самае акно, і яго голас разлягаўся па ўсёй хаце:

Устань рана, мыйся бела,
Мыйся бела, як папера.
Глянь у ваконца
На ўсход сонца,
Што дзеецца, лялеецца:
У тваім дварку, як у вянку,
Сады цвіцяць, пчолкі звіняць…

Тут Ігнась прачнуўся. Прачнуўся і пашкадаваў, што ўсё гэта чуў у сне, а не наяве. Наяве было такое ў Волі. Адтуль і запомніліся чароўныя песні валачобнікаў, іх добрыя зычэнні бацьку і ўсёй сям'і.

І тады, і цяпер, успомніўшы, дзівіўся Ігнась, як угадвалі валачобнікі самыя патаемныя думкі-мары селяніна, як траплялі зычыць яму тое, што ён сам хацеў, пра што толькі і мроіў перад сяўбой, перад сваім новым хлебаробскім годам. Помніцца, як расцвітаў, як увесь свяціўся бацька, слухаючы шчырыя прароцтвы валачобнікаў, асабліва калі на адыходзе, атрымаўшы добры пачастунак, яны выгаворвалі яму сваім спевам усе яго спадзяванні:

Дай жа, Божа, пану гаспадару
Жыці-быці, жыта вазіці,
Жыта вазіці, ў торпы злажыці.
У торпах укладна, на таку ўмалотна,
На таку ўмалотна, у арудзе прысыпна,
У арудзе прысыпна, у печы прысушна,
У печы прысушна, у млыне прымольна,
У млыне прымольна, у дзяжы падходна,
У дзяжы падходна, у печы румяна,
У печы румяна, на стале сытна,
На стале сытна, у сям'і змірна…

Толькі чаму якраз сёння сасніўся яму такі сон? Успомнілася, што і праўда сёння была нядзелька. Але ці простая нядзелька? Ці не Вялікдзень сёння? Пэўне, ён! Сам Бог падказаў яму пра гэта. Бо Ігнась не ведаў тут, на які дзень прыпадае сёлета гэтае вялікае свята.

Значыць і сёння, і заўтра, і паслязаўтра ён будзе святкаваць Вялікдзень. Святкаваць як толькі зможа. З лепшай ядой, з

вясёлымі думамі, шчаслівымі надзеямі. Тое, што яму ці не сам Бог падказаў пра свята, яшчэ болей акрыліла Ігнася, дадало яму новай сілы, упэўненасці, што ўсё задуманае ён здзейсніць у гэтым годзе.

Калі на раскарчоўцы сышоў увесь снег, Ігнась, акінуўшы яе вокам, яшчэ раз парадаваўся ўскапанай аблозе.

Праўда, прыйдзецца яшчэ давесці ўскапанае да ладу, каб можна тут што пасеяць. Унь якія груды тапырацца па яго маленькім палетку: не надта каб і перапрэў за зіму дзёран.

Яшчэ летам — каб сохла — высек ён з елкі, з вершаліны добрую сукаватку, якой некалі, у дапатопныя часы, скародзілі і баранавалі поле. Цяпер ён дастаў яе з-пад страхі, ускінуў, ужо добра падсохлую, на плечы і панёс на сваё поле. Пачаў цягнуць за прыбітыя папярочныя ручкі: ого, добра тут трэба напінацца — завостранае зуб'е сукаваткі глыбока ўядалася ў зямлю, падчэпліваючы цяжкія дзярніны. Ігнась раз за разам прыпыняўся і адкідаў іх убок, аддыхваючыся. Тузаніна што трэба! Але яго гэта зусім не засмучала. Наадварот, толькі радаваўся, што яго раскарчованая цаліна памаленьку разгладжваецца бараной-раскіракай, робіцца праўдзівым полем.

Яшчэ большая была ў Ігнася радасць, калі ўзяўся засяваць сваё маленькае, такое пахарашэлае цяпер поле.

Засеўкі прымеркаваў да таго дня, калі ў небе выкругліўся поўнік. Якраз на поўнік звычайна рабілі гэта ў Волі.

Да засевак рыхтаваліся дома, як да свята. Уся сям'я мылася ў лазні. Маці прыбірала ў хаце, добра вымывала і вышароўвала падлогу, адзявалася сама і апранала дзяцей ва ўсё чыстае. Збіраючыся з сяўнёй на поле, чыста, па-святочнаму адзяваўся і бацька.

Не хацеў адступаць ад прыгожага звычаю і Ігнась. Як мог, падрыхтаваўся і ён да засевак. Прыбраў у хаце, пакупаў у ночвах Янку, сам памыўся, адзеўся ва ўсё лепшае, што ў яго знайшлося, і, усыпаўшы ў сяўню ўсю, што ў яго была, пшаніцу, пайшоў на поле. Укленчыў перад ім, памаліўся Богу і, устаўшы, ступіў босымі нагамі на халаднаватую раллю. І от першая жменя жаўтавых тупаваценькіх зярнят паляцела ў яе мяккасць. У праменні сонца, якое ўжо добра паднялося над зямлёй, кожная папушчаная жменя пшаніцы здавалася бліскотным залатым веерам. Радаваў, навяваў нейкі адвечны спакой і лагоду і вясёлы жаўраначак, што, заліваючыся ў сваім спеве, няўціхна трапятаў крылцамі на адным месцы высока ў небе.

Высеяную пшанічку Ігнась акуратненька забаранаваў граблямі. Тыя зярняты, што асталіся наверсе, утаптаў у зямлю пяткаю нагі — каб дарэмна не прапала ні калiва. Невялічкі лапік выйшаў у яго пшаніцы. Але для пачатку і гэта добра.

Потым пасеяў на яшчэ меншых лапіках аўсу, ячменю, лёну, проса, гароху. Хоць на насенне збярэ пад восень. Зладзіў каля хаты і невялічкія градкі для агуркоў, морквы, буракоў, бручкі, рэпы, гарбузоў, кропу. Пасадзіў для разводу і некалькі цыбулін, чатыры галоўкі часнаку, трошкі бульбы, папераразаўшы яе на часткі.

Калі ўсё пасеяў і пасадзіў, ціхая радасць асталася на душы: гэта ж заклаў тут першы свой ураджай.

5

Толькі якая можа быць гаспадарка без жывёлы? Без каровы, без каня, без свіней, без авечак? Ды без усякіх курэй-гусей?

У вёсцы кожны гаспадар найперш абзаводзіўся каровай. Без яе не магла абысціся ніводная сям’я. Свежае малако, сыр, масла, смятанка, тварог — кожны дзень ад яе можна было мець на стале. А яшчэ ж мяса ад бычкоў, якіх яна прыводзіла. Не менш важным для селяніна быў і той гной, што давала карова для поля, забяспечваючы яго ўрадлівасць. Недарэмна ж ласкава называюць яе ўсюды карміцелькай.

Неяк вельмі спакойна і прытульна, як яму цяпер помніцца, было дома з каровай.

Тут, на выспе, Ігнась жыў не будзе, а таксама завядзе карову. У думках ён ужо касіў для яе на лузе сена, зграбаў з Хрысцінай і прывозіў на прыгуменне, дзе скідваў у стог, а зімою, мурожнае, пахкае, прыносіў ахапкамі сваёй Падласцы ці Маліне ў хлеў, яшчэ ў сваіх мроях наразаў з саломы сечку для паранкі, якая дома заўсёды стаяла ў хаце пры дзвярах у вялікім вушастым цэбры і ў якую маці і яму, калі быў малы, і брату Косціку казала са смяшком паліць трохі з сваіх «струкоў» — карова любіла хоць гэтак падсоленую дзецьмі. Толькі, ведама ж, не адразу будзе ў яго тут карова, а як абжывецца на выспе, як трохі забудуцца на яго і як ён зможа наведацца ў якое бліжэйшае селішча, каб прыдбаць у каго-небудзь і неяк пераправіць сюды хоць малую цялушачку.

Ну, а пакуль тое будзе, тут, на выспе, каб дзеці не асталіся без малака, можна завесці хаця б якую казу. Коз жа на Воўчай выспе — процьма.

З іх ён і пачне абзаводзіцца тут сваёй жывёлай, з дзікай рабіць свойскую.

За год Ігнась зблізіўся з усімі звярамі Воўчай выспы, зрабіўся для іх нібыта сваім. Сустрэўшыся, яны не ўцякалі ўжо ад яго, спакойна праходзілі міма. Адно што ніяк не адказвалі яму, калі ён, як са знаёмцамі, здароўкаўся з імі. Нават падпускалі яго пад свае котлішчы. Што тут ні кажы, звяры выспы былі яго суседзямі. Калі ў які дзень ніводзін не трапляўся на вочы, Ігнасю ўжо рабілася ніякавата, нават трохі неспакойна. Звыкшыся, звяры не бачылі ў ім нічога для сябе пагрозлівага. Гэты давер да сябе ён стараўся ўсяляк падтрымліваць, умацоўваць.

Карыстаючыся такім даверам звяроў, Ігнась ужо мог без вялікай цяжкасці прыручыць якога з іх, прывёўшы ў свой двор.

З пудлівымі козамі ён асвоіўся не адразу. Убачыўшы невядомага ім звера на дзвюх нагах, яны, скубучы траву, здалёку з цікавасцю разглядалі яго. Але калі ён падбліжаўся, сыходзілі ў кусты, знікалі з вачэй.

Тады на той адлегласці, дзе яны пачыналі ўжо непакоіцца, ён сунімаўся і рабіў выгляд, што займаецца нечым сваім, а тым часам асцярожна, зусім незаўважна падступаўся да іх бліжэй і бліжэй. Часам лажыўся недалёка ад месца, дзе яны пасвіліся. Так што пастунова Ігнась прымільгаўся козам, і яны перасталі яго баяцца. Ён нават мог паднесці ім пучок лепшай травы, і смялейшая з іх брала яе з рук.

Вельмі кінулася Ігнасю ў вочы адна падгалістая, можна сказаць, элегантная козачка з двума казляняткамі. І яна быццам хінулася да Ігнася, з большым даверам падыходзіла пад яго. Яе і намеціў прывесці ў свой двор. Калі казіны статак прыйшоў папасвіцца на Ігнасеву палянку, ён асцярожна прыблізіўся пад яго і, выставіўшы ўперад руку з пучком сакаўнога агароднага зелля, пачаў ціха падзываць упадабаную козачку:

— Ко-озачка, ко-озачка, ко-озачка…

Спярша козачка толькі глядзела на яго, патрэсваючы зрэдчас галавой, а потым не без асцярогі ступіла насустрач. Даўшы зелля, ён спакойна накінуў ёй на галаву загадзя падрыхтаваны нашыйнік з прымацаванай вяроўкай. Звітая ім з валокан старой крапівы вяроўка была доўгая, і ён кожны раз падалей адпускаў яе, калі козачка парывалася вызваліцца з нечаканых абдымкаў. Так і прывёў яе на сваю сядзібу з двума казляняткамі, якія не адставалі ад маткі.

Тут зрабіў ім, цяпер ужо сваім козам, прасторную загарадку, абвёўшы частку двара высокім лазовым плятнём. На-

нач, упусціўшы іх у загарадку, зачыняў такімі ж плятнёвымі варотцамі. Раніцай адчыняў іх і, вывеўшы адтуль казу з казляняткамі, навязваў яе на ўбіты дубовы колік на сваёй палянцы з гусценькай мурожнай травой. Здаецца, козачка не вельмі была збянтэжана такой няволяй. Толькі, патузаўшыся з вяроўкай, часта пазірала на лес і жаласліва мэкала. Адтуль на яе голас часцяком завітвалі госці — другія козы, якія таксама аставаліся каля яе пасвіцца.

Спярша козачка дзічылася ўсё ж Ігнася, не заўсёды блізка падпускала да сябе, але потым звыклася з сваёй доляй і, калі ён падыходзіў, спакойна церлася сваімі бакамі аб яго ногі.

З козамі намнога весялей стала ў Ігнася на душы. Гэта ж першыя жывёлінкі ў гаспадарцы. З імі ўжо можна смела жыць тут з дзецьмі. Пробаваў ён і даіць сваю козачку. Ды тая не вельмі давалася. Але такой бяды: памалу прывучыць і да гэтага. Нідзе яна не дзенецца.

Думаў завесці на сваім падворку і свіней. Пакуль што, ведама ж, з дзікіх парасят.

Дзікоў таксама прывучыў не баяцца яго. Зблізіцца з імі памаглі жалуды. Зімой, калі снег добра ўкрыў зямлю і дзікам нялёгка было знайсці сабе чым пажывіцца, ён падкідаў ім жалудоў. Падкідаў непадалёк ад сваёй хаты, каб можна было ўбачыць іх прыход і паказацца лясным гасцям на вочы. Спосаб збліжэння з гэтымі, таксама як і козы, баязлівымі насельнікамі лесу быў у Ігнася той жа: асцярожнае паддобрыванне і ўжыванне ў звярыную сям'ю. Ён так асвойтаўся з імі дзякуючы жалудам, што цяпер мог ужо свабодна пахаджваць сярод іх. Нават пробаваў браць у рукі парасят, якія не вельмі ад яго і вырываліся, а іхныя маткі спакойна грызлі побач траўку. Мог бы гэтак і занесці якое парася да сябе і гадаваць на сваёй сядзібе. Але пакуль што ніякай патрэбы ў гэтым не бачыў. Для мяса яму і так можна было ўзяць з чарады сваю даніну. Потым жа, калі яго не будуць гэтак шукаць, ён прыдбае ўсё ж у якой вёсцы свойскіх парасятак, каб свінні былі ў яго гаспадарцы як свінні.

Яшчэ адно вельмі хацелася яму тут завесці — каня. Конь яму ўяўляўся душой гаспадаркі. Нароўні з каровай. Толькі карова — гэта больш радасць жанчыны, гаспадыні, конь жа — і радасць, і гонар гаспадара. Якая палёгка была б тут Ігнасю з канём! І ўзорваць (пакуль што, ведама ж, даўнейшай сахой, якую ён выштукуе), скародзіць, баранаваць, прыводзіць да ладу поле, што будзе ў яго з кожным годам пашырацца, і прывозіць снапы, сена ці якое бярвенне для гаспадарчых пабудоў (калёсы і сані

таксама змайструе — ці ж ён уломак?). Ды хіба мала яшчэ для чаго патрэбны гаспадару конь?

Калі з каровай Ігнась мусіць яшчэ пачакаць, замяніўшы яе на першым часе казой, дык каня можа мець на сваім падворку ўжо цяпер. Ведама ж, тутэйшага, з тых, што водзяцца на выспе, — з тарпанаў.

З імі, гэтымі дзікімі ляснымі коньмі, ён таксама збольшага зблізіўся. Ад частых з ім сустрэч яны паступова перасталі яго дзічыцца. Праўда, надта блізка не падпускалі пад сябе. Ледзьве падступаўся пад іх на якой лугавінцы, каб накінуць на галаву каторага спецыяльна зробленую ім вераўчаную аброць, як той, падазрона лыпнуўшы вачыма, тут жа адскокваў убок і ўцякаў у лес, а за ім, спудзіўшыся, тухкацеў і ўвесь табун. Тады Ігнась зладзіў, як рабілі некалі татары, аркан. Доўга пробаваў, прывучаўся, як яго трапна накідваць каню на галаву з адлегласці, на якую падпускаліся тарпаны.

Гэтым разам яны прыйшлі пасвіцца на яго палянку. Як і кожны раз, Ігнась не мог налюбавацца гэтымі хоць невялікімі, але грацыёзнымі, па-свойму вельмі прыгожымі гадаванцамі выспы, пасланцамі самой старажытнасці. З усяго невялікага табунка ён выбраў зусім маладзенькую жаробачку, якую, па ўсім было відаць, толькі нядаўна адлучыла маці ад цыцкі. Лавіць гадавалага тарпана Ігнась перадумаў: наўрад ці прывучыш ужо вольналюбага дзікуна да сахі ды хамута. Жарабя ж можна навучыць без вялікай цяжкасці ўсяму.

Як заўсёды ў такіх выпадках, ён, не спяшаючыся, тупаў непадалёк ад табунка, неўзаметку пасоўваючыся ўсё бліжэй і бліжэй і не выпускаючы з вачэй жаробачкі. А тая то церлася аб матчын бок, па прывычцы тыцкаючыся пыскай у вымя, ад якога кабылка адганяла яе падкурчваннем нагі, то, гулліва падбрыкваючы, пускалася бегчы па палянцы. Нават пробавала, дурэючы, падскочыць да Ігнася, але тут жа адлятала ад яго. Трымаючы напагатове вяроўку з пятлёй, ён чакаў, пакуль гэтая малая дурасліўка заспакоіцца. От яна, асмеліўшыся, зусім блізка сунялася каля Ігнася і быццам з нейкім выклікам ўтаропілася на яго. Але ён ведаў: варта яму варухнуцца, падымаючы вяроўку, як яе адсюль бы ветрам здуе. Таму дачакаўся, калі яна разам з усімі коньмі, большымі і меншымі, узялася пашчыпваць ядкую белую дзятлавінку на палянцы. Тады пачаў ціхенька падкрадацца пад яе. Калі жаробачка, падняўшы ад травы галаву, загледзелася на сароку, што застракатала на галінцы хвоі ў беражку лесу, Ігнась,

шырока размахнуўшыся, раптоўна папусціў на яе свой аркан. Ён сам не чакаў, што гэтак удала пацэліць. Пачуўшы нешта на шыі, малое пудліва хіснулася ўбок, рванулася бегчы, ды пятля зашмаргнулася да вялікага асцерагальнага вузла, супыніла жаробачку. Не даючы апамятацца, Ігнась пацягнуў яе ад табунка тарпанаў, якія пападымалі галовы і здзіўлена глядзелі, куды гэта, турзаючыся і ўпіраючыся пярэднімі нагамі, яна аддалялася ад іх.

Яшчэ адну загарадку, толькі ўжо жардзяную, зладзіў Ігнась на сваім двары — для малой жаробачкі. Яе таксама зачыняў на ноч, а ўдзень, навязаную на калок, выпускаў на палянку — гуляй сабе тут на доўгай вяроўцы, а каб было весялей — кліч да сябе сваіх суродзічаў.

Жаробачка была новая Ігнасева радасць. Яна разам з козамі стала яго шчаслівым штодзённым клопатам.

## 6

Але для паўнейшага гаспадарчага шчасця Ігнасю не хапала на выспе яшчэ аднаго — пчол.

У Караленяў пчолы вяліся заўсёды. Вельмі ўпадаў за імі дзед Базыль. У садзе за хатай стаяла многа пчаліных калод, выдзеўбаных з тоўстых камлёў хвояў ды асін. Трохі меншых калод-вуллёў наўсцягваў ён на дубы і старыя хвоі і ў ваколіцах Волі — для залётных раёў. Нават дагледжваў знойдзеныя ў лесе дуплы старых дрэў з дзікімі пчоламі — борці. Бацька таксама любіў важдацца з пчоламі, пераняўшы ад дзеда Базыля, свайго бацькі, гэты занятак. Ён добра налаўчыўся выдзёўбваць калоды для пчол. Потым прывёз быў аднекуль два рамачныя вуллі, пачаў пчалярыць па-новаму.

Дзед з бацькам падахвоцілі і Ігнася заняцца пчоламі. Мала-памалу ён някепска асвоіў пчалярскае рамяство. Сам ужо вырабляў калоды, ставіў у садзе пры яблынях ды ігрушах і асаджваў у іх раі, што выходзілі з вулляў. Любіў, гэтак жа як і дзед, усцягваць на вяроўцы воратам свае калоды на высокія грушы-дзічкі і ліпы за хатаю і на разгалістыя дубы недалёка ад Волі, у прылессі. Калі туды садзіліся пчолы, ён дзесьці ўвосень, перакінуўшы цераз плячо свой лазбень — хвацкую лубяную каробачку з накрыўкай і доўгай вяровачнай вочапкай, лазіў іх падглядаць. Хлопец быў на сёмым небе ад радасці, калі яму ўдавалася прынесці дадому ў лазбені жаўтавыя, як чысты бурштын, пахкія соты ляснога мёду.

На Воўчай выспе Ігнась яшчэ мінулым летам наткнуўся на гняздо дзікіх пчол. Ён тады вышукваў прыдатнае дзерава для будоўлі. На старой выжарыне яму кінуўся ў вочы таўшчэзны ствол высахлай асіны без верху, без голля, што, нібы нейкі стаўбун, высіўся сярод зялёнага драбналесся. Кара на ім даўно абсыпалася, адкрыты сонцу ствол стаў гладкі, і на гэтым асінавым ствале, высока ад зямлі, на месцы некалі адгнілага сука чарнела ў нарослым абадку, як вока ў птушкі, круглая дзірка, каля якой віліся пчолы. Ну але: там дупло.

Знайсці то знайшоў Ігнась пчалінае гняздо, а от як дастаць адтуль мёд? У вузкае колца дупла, што зеўрала на месцы выгнілага сука, далёка не засадзіш руку, ды і пчолы, як бы іх ні акурваў, не прамінуць накінуцца, каб абкусаць. Звычайна ў борці выдзёўбваюць прадаўгаватую адтуліну, праз якую і дастаюць, падразаючы, мядовыя соты. У адтуліну потым устаўляюць адмысловы брусок — доўжань, які шчыльна яе закрывае. Паверх доўжня яшчэ прымацоўваюць штырамі дубовую дошку— каб і шчылінкі не было. Давесці да ладу гэтакім чынам борць — вельмі складаная работа. Тут трэба ўмельства і цярпенне. Ды і адмысловы струмант, якога не мелася ў Ігнася. Даўнейшымі гадамі, як расказваюць, чалавек, знайшоўшы ў лесе пчалінае гняздо, каб дастаць з дупла мёд, проста вынішчаў пчол. Нават прымаўка з таго часу асталася: «Не перадушыўшы пчол, не есці мёду». Але Ігнась не мог пайсці на такое варварства. Лепш ён нарыхтуе калодных вуллёў, каб паставіць потым на сваёй сядзібе. Туды і пераманіць слепет.

Думкі пра пчол не пакідалі Ігнася ні на дзень. Гэта ж такое ім на выспе раздолле! Колькі тут усякіх раслін, якое мора кветак для ўзятку! Не, жыў не будзе, а развядзе тут на сваёй сядзібе пчолак, выстраіць з калод сваю пасеку.

Для селяніна ж пчолы — гэта верх дастатку. Толькі дбайны гаспадар мае іх у сваім садзе ці агародчыку. Як дадатак да ўсёй гаспадаркі. Самі руплівіцы-пчолы, іх аднастайны, але заўсёды мілы сэрцу звон, разліты ў паветры шырокі пах мёду і воску з вулляў, — усё гэта так хораша саграввае душу, настройвае яе на добры, папраўдзе шчаслівы лад. А сам мёд? Кожны раз, калі ён паяўляецца на стале — радасць для ўсёй сям'і.

Добра помніцца Ігнасю, як дома ў Волі чакалі дзеці першы пасля зімы падгляд пчол. Гэта было для ўсіх праўдзівае свята. Бацька, як і раней дзед, збіраючыся ў той дзень да пчолак, адзяваўся ва ўсё чыстае, святочнае. Услед за ім прыхарошваліся і ўсе ў хаце. Чакаючы ад пчол бацьку, дзеці не зводзілі з акон вачэй. І от ён, нават не адмахваючыся ад пчол, што ўсё яшчэ

віліся вакол яго, нёс у сенцы, трымаючы перад сабой абеоруч, вялікі медны таз з жаданай здабычай. Тут не марудзіла ўжо і маці. Засцілала чысценькім, з шафы, кужэльным абрусам у шашачкі вялікі святочны стол, што стаяў на покуці пад абразамі, і адразу ішла ў сенцы, адкуль праз хвіліны дзве ці тры ўносіла ў хату і ставіла на той стол у красным куце глыбокую драўляную місу, у якой вабна грувасціліся запоўненыя залацістым мёдам соты, месцамі запячатаныя ўжо тоненькай белаватай плеўкай воску — ад іх яшчэ чуўся пах дымка, якім бацька абкурваў пчолы.

Побач з місай мёду маці клала яшчэ на стол круглы бохан хлеба і ставіла талерку хрумсткіх агуркоў. Яны вельмі добра ішлі з салодкім мёдам. Смачна елася з мёдам і малако, якое маці таксама прыносіла ў гладышы.

Яшчэ перад вясной пайшоў Ігнась у лес вышукваць прыдатнае для калоды дзерава. Хацеў знайсці з дуплом, каб лягчэй было выдзеўбаць вулей. Пазнаваць дуплістае дрэва памагалі яму грыбы-трутавікі — якраз на такім любяць яны расці. З усіх дрэў, на якіх бачыў трутавікоў, выбраў старую тоўстую асіну. Каб адгадаць, ці праўда яна дуплістая, пастукаў па камлі абухам сякеры — асіна адгукнулася глухаватым нутраным гулам. Так і ёсць — у ёй дупло!

З асіны, над якой нямала прыйшлося папацець (дупло ў яе было зусім вузкае), ён выдзеўбаў не адну, а дзве калоды. Папрыкочваў іх дадому і там да самай вясны дзёўбаўся, вымудроўваючы вуллі. Калі яны былі гатовы, паставіў у рад акрай свайго высаджанага з дзікіх яблынек і ігрушак саду — тут будзе яго пасека.

Для заманьвання пчол ён, як рабілі ў Волі, акурыў вуллі падпаленым верасам і апырскаў настоем самых меданосных кветак. Цяпер аставалася чакаць, калі заўважаць і аблюбуюць пчолы гэтыя абсталяваныя для іх дамкі.

## 7

Травень выдаўся халодны, з сцюдзёнымі абложнымі дажджамі, з начнымі прымаразкамі ў канцы. Пачатак чэрвеня таксама быў не лепшы. Аднае раніцы, устаўшы, Ігнась аж прыжмурыў вочы: за вокнамі — усё белае. Снег! Дзіўнавата было бачыць ярка-зялёнае лісце бяроз ды асін пад беласнежнымі накідамі. Ад іх аж згіналася, дастаючы да зямлі, голле дрэў і кустоў. Але сонца, якое пад паўдня выблыталася з навісі шэрых хмар, да

вечара з'ела ўвесь гэты занадта пухкі, быццам няпраўдзівы снег, пакінуўшы на траве і лісцях толькі бліскучую вільгаць.

З сярэдзіны месяца зусім распагодзілася. У сінім небе высока бялелі рэдкія аблачынкі, якія неўзаметку знікалі, — мусіць, выпарваліся на сонцы. Сонца проста раскашавала ў мройнай сінізне, льючы на зямлю сваё расшчодранае цяпло.

Уся выспа была ў зяленіве і кветках. Дрэвы, кусты, трава — усё ішло ў рост, буяла і цвіло. Заліваліся ў спевах птушкі, над лесам з раніцы да вечара гулі, спяшаючыся па свой узятак, пчолы, у балоце ляніва бумкалі жабы, з глыбіні лесу чулася адвечнае зязюльчына куванне. З ім часам перагуквалася тутуханне жыдоўскай зязюлі — чубатага ўдода. Кажуць, крычыць ён на холад. Але прароцтва яго не збывалася: стаялі цёплыя лагодныя дні.

Вельмі радавала Ігнася яго маленькае поле. Усё пасеянае ім хораша і дружна ўзышло, што ні дзень набірала моцы, цягнучыся ўверх, к сонцу. Куды б ён ні ішоў, заўсёды заварочваў сюды, каб хоць зірнуць, як падрастае, круціцца ў трубкі, як высоўвае зялёныя рабрыстыя каласкі яго пшанічка, як тапырыцца яшчэ кволымі, зусім не калючымі вусамі прысадзісты ячмень, выструньваецца лён, выпускаюцца мяцёлачкі аўсу ды проса, як зацвітае прадаўгаватымі бела-сіне-ружовымі кветачкамі гарох, кусціцца, пускаючы глыбей у зямлю таўставаценькія караньκі, рыжаватая грэчка, што потым укрыецца, нібы снежнымі гурбамі, белым цветам ды ўся загудзе ад пчол. Дзе трэба, Ігнась праполваў свае пасевы, вырываў сярод збожжавых сцяблінак кожную зялінку, якую толькі заўважаў.

Больш клопату было ў яго з агародам. Палоць, прарэджваць, матычыць, падварушваць зямлю каля раслін. Усё гэта ён рабіў з ахвотай, вельмі шчыра даглядаў кожнае каліва. Затое люба было паглядзець, як усё там расло і лапушылася.

Пасля цёплых сонечных дзён у небе заклубіліся белыя воблакі. Там-сям яны цямнелі, наліваліся густой сінізной, недзе пробаваў вуркатаць гром. Мусіць, ішла пара навальніц. Ну і сенакосу.

У гэты час у Волі з усіх падворкаў ляцеў звонкі перастук малаткоў — мужчыны кляпалі косы. Кляпалі звычайна надвячоркамі, каб заўтра як мага раней выйсці на сенакос.

Ігнась пачаў рыхтавацца да яго тут, на выспе: раз завёў сваю жывёлінку — коз і жаробку, — трэба ж накасіць ім і сена на зіму. Ён дастаў прыхопленую сюды з Волі касу, беражна раскруціў з

анучыны. Хоць і падіржавелася ўжо трохі яго коска, узялася — і па палатне, і па жале — рыжымі крапінкамі, але ўсё яшчэ была моцная, стрункая: іржа прабегла толькі поверху.

Сеўшы каля хаты на калодку-табурэтку, ён паклаў касу на гладзенькую бабку, убітую ім пасярэдзіне другой калодкі, і пачаў дзюбкай малатка асцярожненька цюкаць па жале. Кончыўшы кляпаць, прыставіў касу пяткай да вока — жала было роўненькае, як струна. Ну, і як не трэба лепш стончанае.

Аставалася яе асадзіць. Кассё яшчэ раней высек ён з роўненькай елачкі. Акоранае, высахлае на сонцы, яно зрабілася цяпер лёгкае, ёмкае. Касу да яго прыладзіў бацькавай банькай і высечаным з дубовага аскабалка запатылкам. Ручку выстругаў з таўставатай лазіны, моцна сцягнуў яе на кассі крэпкай вяроўчынай. Пакруціў-павярнуў з боку на бок, зверху ўніз — каса што трэба! Спрытная, ходкая. Здаецца, сама просіцца ў работу.

Назаўтра выйшаў з дому яшчэ нацямку. Учарашнім днём прашумеў, пралапатаў па траве і лісці дрэў невялікі, але спорны дождж. І цяпер усюды было вільготна і сыра, па нізах стаяў густы туман.

Ігнась адразу ж павярнуў на пойму рачулкі. Уся пойма — ад лесу да лесу — была запоўнена, як малаком, белым туманам. З туману выступалі толькі вярхі паўзрэчных альшын.

Вясной, калі раставаў снег, усю пойму затапіла было вадою. Вада, праўда, стаяла там нядоўга. Праз які тыдзень яна спала, збегла рачулкай у Прыбалотнае возера. Затое па ўсёй пойме адразу ж кінулася расці трава.

Травы было тут — касіць не перакасіць. Бліжэй пад рэчку і на ніжэйшых, прыбалотных мясцінах ішла ў рост, буяла асака, высокая, шаблістая, вострая — ёю можна і парэзацца. У Волі, калі не знаходзілася чаго лепшага, касілі і яе. Тут жа Ігнась абмінаў асаку адразу: хапала і мурагоў.

Там, дзе рэчачка-вілюха адбеглася далей ад лесу, ён суняўся: шырокая, з рэдкімі лазовымі кусцікамі даліна, што рассцілалася перад ім, уся пярэсцілася шматколерным мурожным разнатраўем.

Касіць Ігнась зайшоў ад рэчкі. Яна блішчала ў разрывах кустоўя, за тапырыстымі асаковымі купінамі слюдзянай ранішняй шэрасцю, над ёй ледзь заўважна таўклася драбнюткая, таксама шэрая кастрыца туману. Тумановая кастрыца, хіба што, можа, больш разрэджаная, рабацінілася, не спяшала рассейвацца і над усёй поймай: было бязветрана.

Ігнась уваткнуў канец кассе ў зямлю і, узяўшы левай рукой касу пад паху, пачаў шастаць па ёй мянташкай. Мянташку змастачыў сам. Такую, як рабілі даўней, калі не ведалі яшчэ ніякіх брускоў фабрычнай работы: выстругаў з дубу плоскую лапатку, нарабіў на яе абодвух баках частых насечак, добра нацёр жвірыстым пяском — і мянташка гатова.

Пералівісты звон ад мянташкі паляцеў над поймай. Ляцеў і тут жа, нібы той мячык, адскокваў, аддаваўся ад блізенькага лесу назад. Ды так ясна, выразна, што, здавалася, нібы там услед за Ігнасем яшчэ нехта ўзяўся мянташыць касу.

Ігнась апусціў мянташку, і ў той жа міг на пойме зноў усталявалася ранейшая цішыня. Толькі чуваць было, як у прырэчных альшынах тоненька паціньквалі нябачныя птушачкі.

— Эгэ-гэ-гэ-гэ-э-э! Ого-го-го-о-о! — правяраючы, голасна пагукаў ён на лес.

— Эгэ-гэ-гэ-гэ-э-э! Ого-го-го-о-о! — адно ў адно паўтарыла, нібы падражніваючыся з ім, яха.

Але ж не забаўляцца, не падражнівацца з яхам прыйшоў ён сюды. Яму не цярпелася на ўсю шыр размахнуцца тут касой, успомніць сваю колішнюю шчаслівую касьбу ў Волі.

З трапяткім адчуваннем радасці апусціў касу ў гушчыню травы. Гаспадарскім вокам паспеў агледзець, што ў ёй ядкога. Сярод нізенькай мурожнай асочкі лапінкамі віўся шорсткі вязель з белым драбнацветам, выбліскалі ўсюды ярка-жоўтыя, нібы паглянцаваныя, зорачкі казяльцу, бялелі кусцікі дзятлавіны, дзенідзе вытыркаліся ружовыя галоўкі канюшыны, звісалі на тонкіх сцяблінках зусім бязгучныя блакітныя званочкі, выстаўляў свае паджоўклыя ўжо, лапатлівыя пры дакрананні семяннічкі-каробачкі званец.

Шырокім узмахам адвёў касу далёка ўправа і тут жа апусціў яе назад, у траву. «Ш-ш-шах! Ш-ш-шах! Ш-ш-шах!» — і гусценькі мурог — клубкамі, клубкамі — паляцеў убок, ужо ўлева, складваючыся ў роўны пракос-вал. Косячы, Ігнась прывычна ціснуў на пятку касы, не адрываючы яе ад зямлі, і каса выстругвала траву пад самыя каранькі. Толькі мільгалі-каціліся ўслед за ёй па колкай пакошы адцятыя сталёвым жалам белаватыя спадыспаду разлапістыя лісцікі прыземнай гусінай лапкі, не даючыся згортвацца ў пракос. Каса бегала ў Ігнасевых руках, як пёрка, да яе і сілы ніякай не трэба было прыкладаць. Нездарма ж кажуць, што калі каса добра наладжана і выванстрана, дык яна сама косіць, ты толькі ідзі ды ідзі за ёю.

Асабліва лёгка косіцца такой касой раніцай, з расою. Як во цяпер. Ад краплістай расы слюдзяна паблісквала густая травяная сценка, якую кожным разам адслойвала каса. У гушчыні травы раса доўга трымаецца і пасля таго, як узыдзе сонца, якое не адразу яе там дастане. Касцы заўсёды стараюцца кончыць касьбу, пакуль яно не прыгрэе і не высушыць траву данізу.

Ігнась лёгка прагнаў першы пракос, дайшоўшы да лесу, што чырванеў гладкімі, абветранымі ствaламі стрункіх хвой над абрывам з павытырканымі з жаўтапеску і дзе-нідзе паабламанымі разгалістымі каранямі. Не сунімаючыся, завярнуў назад. Калі зноў дайшоў да рэчкі, праз усю лагчыну ляжаў роўны, як вымераны, і досыць тоўсты пракос-склад, які люба было бачыць воку.

Цяпер, калі вырабіўся склад, касіць стала яшчэ лягчэй: сцінай ды сцінай касою падатную траву, якая сама складваецца з левага боку ў роўныя пракосы.

Над поймай бесперастанку снавалі туды-сюды крыклівыя бакасы. Мусіць, тут была іх па́ра. Яны — адзін з аднаго, другі з другога боку — часам блізка падляталі пад Ігнася, глушачы яго сваімі прарэзлівымі крыкамі. Пэўне, недзе недалёка было іхнае гняздо, і яны стараліся адагнаць ад яго гэтага двухногага прыхадня з касой.

Тым часам на ўсходзе ўсё больш і больш яснела, разгаралася ранішняю зарою неба. Вунь вярхі хвой над абрывам ужо зазалаціла сонца, адсюль, знізу, яшчэ не віднае. Радуючыся яму, здавалася, яшчэ весялей спявала дробнае лясное птаства.

Калі сонца, вялікае, чырвонае, выслізнула з-за хвойных вяршыняў, трава на пойме і Ігнасевы пракосы нібы акрыліся ружовай плеўкай. Але яны нядоўга так ружавеліся: падымаючыся, сонца неўзаметку зняло яе, асвяціла ўсё сваім прывычным роўным святлом.

Ігнась з усходам сонца не забавіўся на сваім сенакосе, паспяшаўся дадому: трэба ж было глядзець Янку, які якраз у гэты час прачынаўся.

Хоць добра такі натаміўся за раніцу, але ішоў Ігнась з ціхай радасцю на душы: ён жа па-праўдзіваму ўжо загаспадарыў на выспе, трывала тут атайбаваўся. От і сена робіць ужо на зіму. Як праўдзівы селянін. Зімою ж будзе ўжо тут уся яго сям’я. Яго Хрысціна з дзецьмі. Як жа гэта будзе добра, калі ўсе яны будуць разам!

## 8

Аднаго разу, варочаючыся пад полудзень з лесу, дзе збіраў ягады, ён пачуў у сваім садзе густы манатонны гуд. Пчолы! Паставіўшы на траву лубяную жаўтаватую каробку, поўную, з берагамі, цёмна-сініх чарніц, падышоў пад свае вуллі-калоды. Каля аднаго з іх хмараю віраваў-кружыў пчаліны рой. Пчолы проста сыпалі ў ляток, густа абляпіўшы яго з усіх бакоў, і адна перад адной лезлі-спяшаліся ў сярэдзіну. Радуючыся такому відовішчу, Ігнась стаяў і на ўсе вочы глядзеў, як яны садзяцца ў яго вулей. Рыжаватыя, з прадаўгаватымі празрыстымі крылцамі, пчолы так і шабуршэлі каля лятка. Якія ж гэта пчолы? Слепет? Ці рой з якой забалотнай вёскі выйшаў з нейчага вулля і ўцёк аж сюды, на выспу? Ды ці не ўсё роўна, дзікія гэта ці свойскія пчолы? Абы насілі мёд, абы гулі на яго сядзібе ды лагодзілі душу.

Цяпер і ён, як некалі дзед, а потым і бацька, зможа наладжваць для сям'і гэтае радаснае свята — падгляд пчол. Перад тым ён памыецца, папарыцца з бярозавым венікам у лазні (а яна ўжо сёлета будзе ў яго), адзене сваю чыстую кужэльную сарочку, якую так гожа вышыла яму яшчэ ў першыя месяцы замужжа Хрысціна, падпяража яе паверх свежавымытых нагавіц вузкім вясёлкавым поясам, можа, нават з кутасікамі збоку, адзене святочны саламяны капялюш (ён спляце і яго) і, узяўшы з сабой дымар і якую пасудзіну, пойдзе падглядаць пчол. У задняй сценцы калоды адыме прымацаваную па баках двума штырамі доўгую дошчачку-зачынку, дастане закладзены між краямі сценкі драўляны брусок і, пусціўшы праз адтуліну дым у вулей, дастане адтуль выструганую ім з моцных планак важкую крыжавіну, усю аблепленую поўнымі жоўтага мёду сотамі. Пчолкі адразу кінуцца бараніць свой скарб, але Ігнась лёгка супакоіць іх, папшыкаўшы гарачым дымам, адгоніць у вулей, скаранька уставіць на месца брусок і шчыльна закладзе зачынкай. А мёд урачыста панясе ў хату, дзе яго будуць ужо выглядваць з лыжкамі ў руках дзеці. Вялікую міску з нарэзанымі сотамі ён, з разуменнем усміхаючыся, пастаўіць перад дзецьмі пасярэдзіне стала, які перад гэтым засцеле чысценькім, у ценевых шашачках кужэльным абрусам яго Хрысціна, таксама пасвяточнаму адзетая, такая ж урачыста-радасная, са шчаслівай усмешкай на твары, якою ўся будзе так і свяціцца.

Мёд, які запахне на ўсю хату ўсімі зёлкамі дзікай выспы, зманліва засвеціцца ў шырокай місцы сваёй вабнай бурштыновай яснасцю. «Як слонца», — казала на такі мёд некалі маці. Хто ж

з дзяцей, ды і не толькі дзяцей, не захоча падчапіць лыжкай ці відэльцам і паднесці да вуснаў такога «слонца»?

Ігнась стаяў каля вулля, покуль рой, нібы нейкая жывая выгінастая істота, не ўцягнуўся туды праз ляток увесь. Цяпер з калоды ішоў глухі, нібы з-пад зямлі, гул. Пчолы, мусіць, рассаджваліся там, шукалі, куды ўплішчыцца, за што зачапіцца, а можа, чапляліся адна за адну, скручваючыся ў жывы клубок. Асобныя пчолкі ўжо вылазілі з вулля і кружыліся над сядзібай, нібы вывучаючы месца свайго новага жыхарства. Мусіць, яно было ім даспадобы. Зялёная палянка з маладым, толькі восенню пасаджаным садком, які мо налета дасць ужо і цвет, навакольны лес з кустамі крушынніку і лазнякоў ды ліловым верасам, недалёкае, яшчэ не да канца разробленае Ігнасем поле, дзе падрастае грэчка, а на градах жаўцее сваім зіркатым цветам лапушны агурочнік, недалёкія лугавіны з квяцістымі дыванамі разнатраўя — што болей трэба для пчолак?

Раз аблюбавалі пчолы адзін вулей, аблюбуюць і другі — ён жа нічым не горшы за гэты. Але цяпер Ігнась не будзе чакаць прылётнага рою. Ён перасадзіць пчол з нагледжанага гнязда ў асіне. Трэба толькі падлавіць момант. Памалу ў яго збярэцца пасека. Як добра будзе тады пахаджваць паміж вуллёў, слухаць, як пчолы гамоняць усярэдзіне, як ляцяць са звонам па ўзятак. Ажыве імі, яшчэ больш павесялее яго сядзіба.

## ПІСЬМО ДВАНАЦЦАТАЕ

*Даўно не пісаў табе, мая любая Хрысцінка. Бо многа чаго не давала. У мяне ж цяпер няма адхлання ад работы. Я вельмі хачу барздждэй забраць цябе сюды са Стасікам, каб нам можна было тут, на Воўчай выспе, жыць як трэба. Гэтым я заняты кожны дзень. Ды ні на міг не забываю і пра нашага Янку. Апошнім пісьмом я, мусіць, цябе засмуціў. Але ты ведай, што яго здзічэнне не беспаваротнае. Я неадступна займаюся сынам.*

*Хадзіць і гаварыць — галоўнае, чаму я хачу навучыць Янку. Стаць самому на ножкі добра памагае стойка, а хадзіць — хадунок. Але і сам я з дня на дзень вучу гэтаму нашага хлопчыка. Прысяду перад ім, вазьму пальцамі за яго пальчыкі і адступаю назад. Ён бяжыць на мяне. Часта і за адну ручку дзяржу яго. Ваджу так па хаце і пачынаю нават браць з сабой у поле, лес. Хоць ідучы ён усё падкурчвае ножкі, павісае на маёй руцэ, але зноў апускае іх на зямлю. А ўчора ён ужо сам ступіў некалькі разоў мне насустрач! Сам! Праўда, тут жа зноў апусціўся на*

*падлогу і пабег рачком. Але гэта нічога: патрошку-патрошку навучыцца. Важна, што пачаў ужо хадзіць! Пачаў, Хрысцінка, пачаў! Таму і спяшаю паведаміць табе пра гэта.*

## ПІСЬМО ТРЫНАЦЦАТАЕ

*Хрысцінка! У нас з табой радасць: наш Янка загаварыў! Чуеш, загаварыў! Загаварыў!*

*Калі я з ім гаманіў, расказваў яму розныя байкі, ён тадысяды ўслед за мною нешта пачынаў лепятаць, але нічога з яго лепету няможна было разабраць. Я ж з самага першага разу дамагаўся, каб ён мог вымавіць хаця б «мама» і «тата». Асабліва хацелася мне, прызнаюся, каб хлопчык навучыўся пазваць сваю маму, цябе, Хрысцінка. Уяўляю, як бы ты была рада, калі б пры першай сустрэчы са згубленым сынком, з якім даўно ўжо навекі развіталася, ён узяў ды сказаў табе: «Мама!» Я нават намаляваў тут твой партрэт на аркушы з майго сшытка. Добра цябе вымаляваў — я ж некалі малым любіў маляваць. Ты вельмі тут падобная. Я павесіў гэты твой партрэт на сцяну і кожным разам падводжу пад яго Янку. Паказваю на цябе пальцам і змушаю нашага хлопчыка паўтараць услед за мною:*

*— Ма-ма!*

*Янку доўга гэта не давалася. А потым яго як прарвала. Ён так і затараторыў:*

*— Ма-ма-ма-ма-ма…*

*Ведама ж, не разумеючы, што лапоча. Але я і гэтаму быў рады: усё ж улавіў хлопчык, што ад яго хоча бацька. Улавіў і вымавіў! Хай і не зусім так, як трэба. Галоўнае: з ім можна наладзіць кантакт, гаворку. Значыцца, ён не безнадзейны, пры большай настойлівасці можна і дабіцца ад яго большага.*

*Цяпер, калі хлопчык пачынаў без канца тараторыць гэтае «ма-ма-ма-ма-ма…», я перапыняў яго і голасна, як мага выразна, паказваючы на свае губы, прамаўляў слова як трэба. Доўга біўся над гэтым, але Янка як і не чуў мяне. Яму хацелася толькі лепятаць па-свойму. Выдавала, што хлопчыку нават падабаецца гэтак «гаварыць».*

*Я проста зноў быў у роспачы ад сынавай бяздумнасці. Гэта ж і птушкі так пераймаюць адна ў адной галасы, бяздумна. У сэрца пачынаў упаўзаць праціўны смоўж зняверлівасці: няўжо на гэтым і супімецца наш сынок, далей дасягнутай планкі, як пішуць у газетах, не падымецца?*

*І от з гэтага стану зняверлівасці мяне раптам вывеў сам Янка. Ён падбег — падбег ужо сам — да твайго партрэта на сцяне і, паказаўшы на яго, як і я, пальчыкам, вельмі ясна сказаў:*

*— Ма-ма…*

*Чуеш ты гэта, Хрысцінка, ці не? Я чуць не задушыў тады сына ад радасці і шчасця. Ты ж разумееш: гэта значыць, што наш дарагі хлопчык прарваў ужо сцяну маўчання, тугую сетку ваўчынага ўзгадоўвання, пачаў рабіцца чалавекам! Цуд спраўдзіўся, Хрысцінка!*

## ПІСЬМО ЧАТЫРНАЦЦАТАЕ

*Хрысцінка! Спяшаюся яшчэ паведаміць табе пра нашага хлопчыка. Так, як і на твой партрэт, я паказваў пальцам і на сябе самога, паказваў і гаварыў:*

*— Та-та!*

*І от яшчэ адна ў нас з табой радасць. Калі я дастаў быў раз з печы і паставіў на стол скавараду з падсмажанай рыбай, ад якой па хаце пайшоў надта ж смачны пах, Янка падбег на сваіх ножках пад мяне, схапіўся ручкамі за зэдлік і — ці ты паверыш? — ясна выгаварыў:*

*— Тата, на!*

*Я чуць не перавярнуў ад такой неспадзеўкі скавараду. Гэта ж хлапчанё выгаварыла ўжо не адно слова, а цэлую фразу! Значыць, ён ужо загаварыў як трэба! Дарма, што «на» ў яго — гэта «дай». Галоўнае, хлопчык сказаў, што ён хоча, ужо асэнсавана! Асэнсавана, чуеш, Хрысцінка!*

*Цяпер яго ўжо смела можна будзе паказаць табе: тваю вялікую радасць сустрэчы з неспадзявана ўваскрэслым сынам нічога ўжо не азмрочыць. Тое, што ён у многім адстаў ад свайго брацікa Стасіка, не павінна вельмі засмуціць цябе, Хрысцінка. Твая вялікая любасць да так шчасліва знойдзенага сына, твая пяшчота і ласка рана ці позна ўраўняюць яго з Стасікам. Ды і тое, што ён цяпер будзе кожны дзень з брацікам, што яны будуць гуляць і забаўляцца разам, канчаткова сатрэ паміж імі ўсякую розніцу. Ці ж не так, Хрысцінка?*

### 9

З раніцы паказвала на дождж. Але вецер памалу разагнаў шараватыя хмары, якімі мурзалася на захадзе неба, параскідаў іх па ўсёй нябеснай прасторы, паадсоўваў у самую высь. Замружанае

імі белае сонца нясмела паблісквала зверху. Гарачыня, што стаяла астатнімі днямі на выспе, спала. Уціхамірыўся, не шалясцеў у лісцях дрэў і вецер. Толькі на асінах ляніва пакручваліся кругленькія, белаватыя спадыспаду лісцікі.

Асабліва гадзіла сёння пчолам. Яны ішлі і ішлі ў лёт з Ігнасевага калоднага вулля. Над выспай вісеў, здаецца, пагусцелы сёння іх тонкі клопатны звон.

У гэтакі ціхі і лагодны дзень нават у думкі не прыходзіла што-небудзь кепскае. Ды і што можа зрабіцца кепскае тут, на бязлюднай выспе? Ад усякага ж ліха, якое можна чакаць толькі ад людзей, Ігнась з сынам надзейна адгароджаны непраходнымі дрыгвяністымі балотамі. Да таго ж ніводная душа і ведаць не ведае, што нехта мог атайбавацца на Воўчай выспе.

Перад палуднем Ігнась пайшоў аглядаць сваё маленькае поле. Узяў з сабой і сына, якога вёў за ручку, — так ён ужо мог ісці. За імі ўплянтаўся і прыкметна падрослы ўжо Пан Мурлыковіч. Ён смешна куляўся па купінах, часам адставаў, сунімаючыся каля якой-небудзь мышынай норкі ці выкінутай кратом грудкі зямлі, а потым з высока паднятым хвастом пускаўся даганяць.

Паўзбоч даўно пратаптанай Ігнасем сцежкі пстрыкалі з травы порсткія конікі, кружылі стракозы ды белыя матылькі, па бела已ружовых галоўках дзятлавіны, дзе-нідзе павыступалых з травы, лазілі, пабзыкваючы, пчолы. Вельмі многа капашылася іх і на рэдкіх лапінках нізенькага чабарку, што яркімі — ліловае з ружовым — дыванкамі слаўся на ўзбор'і, па вышэйшых узлобках у суседстве з сіўцом.

Птушак ужо не было чуваць. Толькі праляціць, бывае, нешта крумкаючы сваё, ленаватая варона ды імклівым ветрам шугане аднекуль чародка маладзенькіх, нейкіх рыжаватых, не пачарнелых яшчэ шпачкоў першага вывадку, тут жа апусціцца на лугавінку, у траву, але праз якую хвіліну зноў шумна ўскінецца ўгору. Ну, так: вучацца лётаць і набіраюць сілы перад першай вялікай дарогай, якая іх неўзабаве пакліча ў вырай, у невядомыя цёплыя краіны.

Колькі разоў ні прыходзіў Ігнась пад сваё поле, ён не мог ім нацешыцца. Цешыўся, як узыходзіла яго збажынка, як падымалася, круцілася ў трубкі, выпускала колас. Цяпер сама наліваліся зярняты, бралі ўсе, што маглі, сокі зямлі. Унь як выставіла ўверх рабрысты, чатырохкантовы колас яго пшанічка. А як патаўсцелі зярняты ў ячменю, аўса! Ужо заківаўся сваімі пакуль што зялёнымі галоўкамі лён, пачалі абкідвацца трохкутнымі

зярняткамі чырванаватыя сцяблінкі грэчкі. Усё паказвала, што дармаваты будзе ў Ігнася ўмалот.

Радаваў і агарод. Усё расло тут, як на дражджах. Буракі проста такі распірала на градзе. Ды і бручка з рэпай не адставалі. Некалі, калі не ведалі хлеба, якраз яны, бручка ды рэпа, замянялі яго людзям. І от жылі ж неяк без хлеба. Так што калі б падскрэбліся засекі са збожжам, дык успомніліся б тыя далёкія часы і неяк выжыла б сям'я. Але да гэтага не павінна дайсці. Не дойдзе ў яго!

Надзіва добра кусцілася і пасаджаная скрылікамі з адным-двума вочкамі бульба. Ігнась падлазіў быў ужо рукою пад карчы, каб праверыць, што ж там завязалася. Не, няма чаго грашыць: ладнаватыя бульбінкі намацваліся.

Сваёй радасцю ад раслінак на полі і агародзе Ігнасю хацелася падзяліцца і з сынам. Ён падводзіў хлопчыка да кожнага лапіка і градкі і расказваў, што там расце, што будзе гатаваць з усяго гэтага Янкава мама. Ведама ж, сын мала чаго разумеў, пра што так узнёсла гаварыў бацька, але ўсё ж бацькава радасць перадавалася і яму. А раз перадавалася, дык яна, радасць, рана ці позна павінна выказацца і словам.

Прыйшоўшы з поля і з агарода і папалуднаваўшы з Янкам і Панам Мурлыковічам, Ігнась узяўся аздабляць зробленую раней палічку для посуду. На дварэ адгабляваў роўненькую дошчачку для надлобка і прынёс у хату. Прысеўшы на калодцы напроці мыцельніка, пачаў нажом акуратненька выразаць у дошчачцы брыжыкі. Хацеў зрабіць так, каб палічка радавала Хрысціне вока, настройвала яе, ды і ўсіх у хаце, на добры лад. Зрэшты, усё, што ні рабіў тут Ігнась, ён хацеў, каб было даспадобы ёй, каб яна была рада.

Апошнім часам Хрысціна заўсёды стаяла перад вачыма. Станістая, гожая, яго родная, любая чарняўка. Мроіў ёю, сніў начамі, мілаваў у сне. Яна была для яго верхам шчасця. Увесь гэты год на выспе ён усё рабіў, каб вярнуць яе, каб жыць з ёю разам. Гэта яна змушала яго будавацца тут і абжывацца, заводзіць гаспадарку. Ці ж рабіў бы ўсё гэта толькі дзеля аднаго сябе? Зрэшты, каб не яна, не дзеці, ён, мусіць, і не ўцёк бы сюды з Сібіры. Для сябе аднаго, пэўне, не хапіла б на гэта сілы.

Здаецца, ён ужо ўсё зрабіў, каб яна магла тут жыць. Ёсць хата, добрая, з бярвення хата, з дзвярыма і вокнамі, з удалай печчу, з палком, палаткамі і камінкам, з усёй, якая толькі патрэбна, мэбляю — ложкамі, сталамі, кухонным і святочным, з зэдлямі і табурэтамі, з любасцю выштукаванай шафай для адзежы і во гэтай палічкай для посуду. А колькі начыння ўсякага

навыштукоўваў сваімі рукамі! Аж не верыцца Ігнасю, што ўсё гэта ён зрабіў адзін і ўсяго за год. А яшчэ ж поле, хай пакуль што і маленькае, раскарчаваў, засеяць яго здолеў збажыною, разрабіў і засадзіў агарод. Лічы, заснаваў і пасеку, сад пасадзіў. Ды і жывёлу пачаў заводзіць. Няма каровы? Пакуль казінае малако будзе дзецям ды і ім самім. Мяса? Ён ужо злаўчыўся здабываць яго на выспе. Потым жа з дзікіх парасятак развядзе сваіх свіней. Ведама ж, і птушка павінна быць на падворку. Найперш — куры. Хай бы таўкліся пад нагамі, сакаталі. Ад іх не толькі яйкі і мяса, але і пер'е ды пух на падушкі. Ды… і свой будзільнік — певень. Развесці курэй тут будзе няцяжка — варта толькі прынесці з дому хоць адну нясушку. Гусей ды качак можна дзікіх прыручыць, зрабіць свойскімі. Ну, а коні таксама будуць ужо ў Ігнася. Пачне іх завод з сваёй порсткай жаробачкі, што пасецца на палянцы за садком.

Забіраць Хрысціну з Стасікам ён намеціў быў пасля Пакроваў. Калі ўсё збярэ з поля ды ўпарадкуе. Але потым падумалася, што і яна хацела б разам з ім тут пазавіхацца, каб сабраць яго які-ніякі ўраджай. Усю жаночую работу Хрысціна, ведама ж, узяла б на сябе. Прыкладам, жаць, браць лён ці парадкаваць гародніну. Калі робіш на сябе, а не на чорта лысага, як у калгасе, дык работа тады не работа — а гульня, яна тады — радасць.

Калі ён адкладаў пярэбары на пазней, дык меркаваў, што на зямлю насунуцца тады доўгія цёмныя ночы, якія памаглі б яму з Хрысцінай і Стасікам непрыкметна выйсці з Волі, дабрацца да Чортавага балота і перайсці на Воўчую выспу. Але зноў жа разважыў: ужо больш за год прайшоў, як ён паявіўся на бацькаўшчыне, дык ці ж будуць усё яшчэ яго тут высочваць? Такую важную персону, такога вялікага злачынца, чыя віна толькі ў тым, што ён бацькаў сын.

Ён забярэ Хрысціну яшчэ да Пакроваў, мо хаця б пад канец жніва. Ночы і так ужо добра падаўжэюць. З вечара да раніцы можна будзе справіцца з пераходам.

Ужо цяпер прадумваў, як гэта зрабіць найлепей. Трэба ўсё прадугледзець, каб не папасціся ў лапы энкавэдыстам. Страшна падумаць, калі б што з ім здарылася цяпер. Страшна не за сябе — за Янку. Ігнась жа не можа ўзяць яго з сабой, хлопчык астанецца ў хаце на выспе, пакуль бацька пойдзе забіраць Хрысціну з Стасікам. Калі б, не дай Бог, Ігнась не вярнуўся, сын прапаў бы. Ужо, мусіць, і ваўкі б яму не памаглі. Гэтым разам Ігнась будзе звышасцярожны. Ён падбярэ які-небудзь хмурны, можа, нават дажджлівы дзень. Выйдзе на́двечар, каб быць у Волі, калі

ў вёсцы палягуць спаць. Пастаіць у беразе лесу, паслухае, ці ўсё там спакойна. Калі не пачуе нічога падазронага, паціху пойдзе пад сваю сядзібу. Ведама ж, па вёсцы, пачуўшы яго, мацней усходзяцца брахаць сабакі. Але на гэта ў Волі не надта зважаюць: ці мала чаго яны ўсчынаюць свае пярэбрахі?

Каля задніх дашчаных варотцаў яго зноў сустрэне Босы, з радасці кінецца на грудзі, каб лізнуць языком у твар. Потым, віляючы ад шчасця хвастом, правядзе пад хату. Азіраючыся па баках у цемень, Ігнась костачкай сагнутага пальца ціхенька пастукае ў акно і з заміраннем сэрца будзе чакаць, калі на стук у хаце мільганецца ў белай кашулі яго Хрысціна, прыпадзе да шыбы і, разгледзеўшы свайго Ігнася, войкнуўшы ад нечаканасці, пабяжыць у сенцы адчыняць дзверы. Ён адразу кінецца яе абдымаць, нагрэтую ў пасцелі, любую, родную. Іх губы сальюцца ў адно, ён будзе прагна піць яе ўсю, каб хоць трошкі спагнаць неспатольную смагу. Але тут жа прымусіць сабе адарвацца. Бо трэба спяшацца, каб сабрацца і да світання пакінуць родную хату.

Ведама ж, сабрацца за такі кароткі час вельмі не проста. Многа ж чаго захочацца ўзяць з сабою. Але яны змогуць прыхапіць толькі самае патрэбнае. З яды, з адзежы, з бялізны, з прыладдзя.

Шмат што з набытку прыйдзецца пакінуць. Як гэта ні шкода. Што тут казаць, вельмі шкода пазбыцца самога бацькоўскага дома, роднага гнязда Караленяў. Адно суцяшае, што яго ж мо не забяруць у калгас, ён астанецца стаяць на сваім месцы. Значыць, калі-небудзь, як мінецца ліха, можна будзе вярнуць. Як і ўсе надворныя будынкі. Шкода толькі, што могуць прапасці многія рэчы, можна сказаць, родавыя рэліквіі. Прыкладам, яшчэ некалі пакрытая чорным лакам, з вытачанымі аздобамі на дзверцах і па вуглах дзедаўская шафа, гэтакая ж чорная, усё яшчэ бліскучая, хоць і даўнейшая камода з акуратна выштукаванымі шышака́мі вінаграду на выгінастым яе верхнім выступе, элегантная чырвоная канапа з разьбянымі падлакотнікамі, круглыя крэслы з прыгожымі авальнымі спінкамі, драўляныя, таксама з аздобамі ложкі… Вельмі будзе шкадаваць Хрысцінка, што не зможа ўзяць з сабой і падушкі, коўдры, трубкі палатна. А што рабіць з кабанчыкам (яго ж недзе гадуе Хрысціна), з курамі? Не папрэш жа ўсё гэта на выспу. З курэй дык можна будзе адну ці дзве ўзяць, калі дзе ўмесцяцца.

Можа быць, што Хрысціна не захоча з усім гэтым расставацца. Але калі Ігнась скажа, што знайшоўся яе Янка, што ён

астаўся на выспе, яна ўсё кіне-рыне, на крыллях паляціць да свайго хлопчыка. Можна ўявіць, якое гэта будзе для яе шчасце.

Зрэшты, каб не прападала дабро, Хрысціна можа збегаць по-цемкам да Ігнасевай цёткі, перадаць ёй ключ ад хаты і сказаць, каб забірала з яе і з хлява ўсё сабе — хай спажывае з сынам на здароўе.

Уяўлялася Ігнасю, як ён пераправіць сюды, на выспу, сваіх. Хрысціна, ведама ж, адразу рынецца да знойдзенага сына, да Янкі. Божа, як яна будзе яго цалаваць, як плакаць!

Толькі калі нацешыцца ім, тады пачне ўжо прыглядацца да свайго новага селішча. Яно не можа ёй не спадабацца. Хата новенькая, з круглых хваёвых бярвенняў, цёплая, памшаная. Хоць малаватая, не такая прасторная, як у Волі, але ладная, жыць у ёй можна. А хіба ж не ўпадабае шафы, над якой ён добра такі папацеў, мудруючы аздобы? А ложак, шырокі, крэпкі? Да яе прыходу яшчэ саб’е і ложак для хлопчыкаў.

Усё, што трэба для жыцця, знойдзе тут Хрысціна — і мэблю ў хаце, і ступу ды жорны ў зладжаных пакуль што з жардзінак і яловых лапак сенечках, і ўсякае начынне, што вымастачыў за год Ігнась.

Пэўне ж, парадуецца і яго маладому садку, праўда, пакуль яшчэ дзікаму, сваім пчолкам. А яшчэ козачцы з казляняткамі, жаробачцы.

Сваімі вачамі ўбачыць Хрысціна, што тут ужо можна жыць. Чаго яшчэ няма, зробіцца, прыдбаецца разам.

Калі будзе паболей сеяцца лёну, ён выштукуе для Хрысціны кросны (не забыць бы толькі прыхапіць з дому бёрда), калаўрот, прасніцу і ўсё, што трэба для ткацтва. Ігнась жа не зломак — няма такой рэчы, якую ён не зрабіў бы.

Так, усё тут будзе для Хрысціны — жыві і не знайся. Праўда, аднаго вельмі будзе не ставаць на выспе — суседзяў, добрых людзей. Ні збегаць да каго, каб параіцца пра тое ды сёе, ні проста пагаманіць з кім, душу адвесці.

А як добра святкаваліся ўсёй вёскай розныя святы, гадавыя і не гадавыя. Каляды, Шчадрацы, Вялікадні, вяселлі, радзіны. Тых жа валачобнікаў на Вялікдзень — дзе тут знойдзеш? Не пачуюць іх ужо дзеці. Як і з казой на Каляды не заскочыць у хату вясёлая грамадка моладзі, не пачуюць дзеці вясёлых і таямнічых песень, не пабачаць скокаў. Ды і ў госці ні да кога не сходзіш, і ў сябе нікога не прымеш. Нуднавата будзе на бязлюднай выспе. Адно спадзяванне ў Ігнася — што, абжыўшыся тут, забярэ сюды цётку з сынам, выслабаніць ад калгасных путаў. А потым

і Хрысцініну цётку з дзецьмі, якая недзе гаруе вёрст за сорак ад Волі, перацягне сюды. А калі зменяцца часы, калі лопнуць, раскідаюцца некалі калгасы (хто ж захоча вечна батрачыць, гнуцца перад рознымі начальнікамі?), тады зусім можна будзе пракласці дарогу з выспы ў шырокі свет. Тады яшчэ нехта падселіцца сюды, калі захоча. Галоўнае цяпер: перабыць ліхі час.

Ігнасевы думкі перапыніў Янка. Ён прыкуляўся пад яго і, стаўшы на ножкі, пільна глядзеў, як бацька выразае на гладзенькай жоўтай дошчачцы роўненькія зубцы-брыжыкі, як з-пад яго нажа адслойваюцца і выскокваюць маленькія стружачкі. Паназіраўшы за бацькавай работай, хлопчык працягнуў да яго ручку і затараторыў сваё «на, на, на».

— Хочаш памагчы бацьку? Ну, давай, сынку, давай.

Ігнась пасадзіў малога сабе на калена, уклаў у яго далоньку тронак нажа, абхапіў паверх сынаву ручку сваёй шырокай далонёю і пачаў з ім выразаць новы зубец. Так яны разьбярылі, пакуль хлопчык не здаволіўся і не затурзаў сваёй ручкай, вырываючы яе з-пад бацькавай далоні.

— Ну, бяжы гуляй, сынок, бяжы. Яшчэ ўспееш навучыцца.

Ігнась прасачыў, як хлопчык прабег на ножках па хаце і сеў каля свайго хаўрусніка Пана Мурлыковіча, які чакаў яго на падлозе, не спускаючы з Янкі вачэй. Пры набліжэнні Янкі кот падняў на яго лапкі, нібы баронячыся. Хлопчык ухапіўся за іх, пацягнуў Пана Мурлыковіча на сябе, пачаў з ім дурэць. Усё ж добра, падумалася Ігнасю, што прынёс сюды з Волі коціка: як бы без яго забаўляўся тут Янка?

Кончыўшы разьбярыць, Ігнась акуратна прыбіў паверх палічкі выштукаваны надлобак. Адышоў паглядзець: чым горшая яго палічка за якую фабрычную? І думаць не трэба, упадабае яе Хрысціна, унь як рада будзе ёй.

За акном, выблытаўшыся з аблокаў, ужо весела свяціла паўдзённае сонца, снавалі шустрыя ластаўкі і недзе за глухой сцяной хаты — мусіць, на блізкай хвоі пры палянцы — адзінока пастукваў дзяцел. Цішыня і спакой, як і заўсёды, панавалі на выспе. Здавалася, што можа парушыць спаконвечнае ціхамірнае суладдзе на гэтай закінутай сярод багністых балот выспе, якое ліха можа тут здарыцца. Людзям жа ходу сюды няма — яго лавы ніхто не ведае. Прабірацца сюды праз багну — і думаць ніхто не падумае. Не раз Ігнась праходзіў з канца ў канец берагам выспы, доўгім шастом прамяраў глыбіню падступнай да яе багны. Не, калі б хто ступіў у яе, уміг засмактала б з галавой. Нядарам жа за год з лішнім і носа сюды ніхто не патыкаў ні разу.

Але не заўсёды бывае так, як думаецца. Хто можа ўсё прадугледзець, вываражыць? Часам можа здарыцца такое, чаго і ў голаў ніколі не прыйдзе, чаго і ў самым вычварным сне не ўбачыш.

Да вечара было яшчэ далёка, і Ігнась наважыўся схадзіць у буякі. Іх нагледзеў у негустым нізкаватым лесе пры балоце. Яны звісалі там на высакаватых кусціках цэлымі гірляндамі. Буйныя, прадаўгаваценькія — што маленькія гладышыкі. Месцамі было аж сіне ад іх. Гэтых ягад, якіх называюць беларускім вінаградам, ён насушыць на зіму паболей: яны будуць для дзяцей як разынкі.

Ён ужо сеў абувацца: у тым лесе нямала ўсякага лому, ды і на гадзюку можна лёгка напароцца. Абгарнуў трохі закарэлай анучынай нагу, усадзіў у лапаць, пачаў абвязваць аборкаю. Не паспеў яшчэ звязаць паверх укручанай нагі канцы аборкі, як тут жа перапыніў сваё абуванне: у акне нешта мільганулася! Павярнуўся туды і ўтрупянеў: па падваконні прасунулася чалавечая постаць! Калі б да яго заявіўся самы страшны звер, які-небудзь пачварны многагаловы змей з казкі, нават жахлівы чорт з рагамі, з рота якога жыгае агонь, дык Ігнась не так перапужаўся б, як чалавека. Ды не, гэтага не можа быць, гэта яму здалося, гэта здань! Адкуль жа мог узяцца тут, на бязлюдным востраве, чалавек?! Гэта яму вярзецца. І казаць не трэба — вярзецца! Бо вунь яшчэ нешта шахнулася каля хаты. А! Гэта, пэўне, сябры-мядзведзі надумаліся яго праведаць! Няйначай, яны! І ўсё тут! Калі першы раз Ігнась убачыў на выспе мядзведзя, гэтак жа сама быў спалохаўся: той не вельмі далёка стаяў у хмызнячку на задніх лапах, бокам да яго. Чалавек на выспе! Увесь пахаладзеўшы, Ігнась прыгнуўся, ступіў за куст крушыны. І толькі калі добра прыгледзеўся, калі ўбачыў калматую рыжую поўсць на тым «чалавеку», чарнаватую, нечым падобную да свінога лыча, пысу, у Ігнася адлягло ад сэрца: мядзведзь! А стаяў ён на задніх лапах, бо знайшоў высокі куст маліны і абіраў яго, горнучы да сябе пярэднімі, сагнутымі ўсярэдзіну лапамі аблепленае спелымі ягадамі вецце і спрытна мянташачы з боку на бок доўгім чырвоным языком. Ігнась тады знарок зашастаў крушынавымі галінкамі: ці спужаецца яго? Мядзведзь павярнуў на Ігнася галаву і нейкі момант глядзеў на яго, не зрушваючыся з месца. Ігнась знарок пайшоў міма, бокам, паказваючы, што мядзведзь яго не цікавіць. Правёўшы Ігнася вачыма і пастаяўшы яшчэ з хвіліну, нібы гадаючы, што гэта за звер, і не знайшоўшы, што яму з ім рабіць, зноў заняўся салодкімі малінамі.

З мядзведзямі Ігнась не раз сустракаўся на выспе, бывала, што лоб у лоб натыкаўся на іх. Але ні мядзведзі яго не чапалі, ні ён мядзведзяў. Жылі як добрыя суседзі. І каля яго хаты яны не раз праходзілі, сцены абнюхвалі. Мусіць, і цяпер, праходзячы міма, зазірнулі да яго.

Ды нядоўга цешыў ён сябе мядзведзямі. Паўз вокны праходзілі людзі, а не мядзведзі! У вочы кінулася казыркастая шапка з сінім аколышам і яркай чырвонай зоркай. Энкавэдысты! У яго ўсё апала ўсярэдзіне. Няўжо праўда? Гэта яму вярзецца! Гэта пачаў раскручвацца нейкі сон! Гэта ў сне чуе ён каля парога гулкі грукат цяжкіх ботаў. Гэта ў сне расчыніліся на ўвесь мах дзверы і ў хату ўскочыла адразу трое ў добра знаёмай яму энкавэдысцкай форме. Гэта ў сне бачыць Ігнась нацэленыя на яго дулы вінтовак і нагана.

— Ни с места! — грыміць над ім голас аднаго з міліцыянераў, першы за ўвесь год чалавечы голас на выспе.

Той, хто гэта сказаў, ступіў на сярэдзіну хаты, не адводзячы з яго свайго нагана. Невысокага росту, з трошкі раскосымі вачамі, якія так і забегалі па хаце, з коратка падстрыжанымі вусамі. Быў ён увесь у партупеях, што аж рыпелі на ім. Адразу кінуліся ў вочы і капітанскія адзнакі на каўняры яго гімнасцёркі.

— Так вот куда она закопалась, кулацкая сволочь! — загаварыў ён, суняўшыся перад Ігнасем. «Голас таго самага капітана, што прыходзіў па яго ў Волю!» — прамільгнула ў Ігнасевай галаве. — Думал, не найдём, не достанем? Найдём, достанем! От нас не уйдешь! И под землёй сыщем, едрёна вошь!

«Ну але, ну але — гэта сон! Страшнае, вычварнае трызненне», — думаў Ігнась, не даючы веры, што такое можа чыніцца наяве. Ці ж гэта першыня? Колькі разоў яму во так вярзліся ў снах усякія жахі, мучылі, кідалі на ложку з боку на бок. Ігнась турзаўся ад іх, як рыба ў сетцы, бараніўся ад жудасных пачвараў, якія навальваліся на яго і ўжо цягнуліся сваімі вострымі, паасаблівому загнутымі кіпцюрамі да горла. Здавалася, яшчэ міг — і яго разарвуць на шматы! Ды раптам — гоп! Ён прачынаўся. Збавенне! Як добра, што гэта быў толькі сон, што гэты кашмар кончыўся!

Асабліва часта сніўся яму сібірскі лагер за калючым дротам. Вартавыя вышкі, злосны ашчэр раз'юшаных аўчарак, гатовых — толькі спусці — разарваць чалавека на мэтлахі, свіст канваірскіх бізуноў па спінах і галовах зэкаў, знясіленых на лесапавале, маты-пераматы і нагцакі п'яных начальнікаў, бесперапынны голад і холад. І чамусьці ўсплываў перад вачыма ціхмяны Коля

Каласок, заколаты энкавэдыстамі, чорнае крывавае месіва на месцы жывата, якое жахнула ўсіх, калі хлопца выбавілі з-пад вугалю. Лагерныя сны былі для Ігнася самыя цяжкія, самыя жахлівыя. Можа, і цяпер нешта падобнае яму вярзецца? Але надта ж праўдзівае ўсё гэтым разам, надта ж яўныя перад ім энкавэдысты з чырвонымі пяціканцовымі зоркамі на аколышах іхных шапак з казыркамі, надта ж грукатлівыя іхныя боты. На нейкі міг яго спярша было як нешта адключыла ад усяго. Седзячы, нават страціў быў прытомнасць. Але толькі на міг, і гэта, здаецца, не заўважылі энкавэдысты. Яны пра нешта гаварылі паміж сабой — капітан у партупеях, што расхаджваў па хаце, яго памочнік, высокі, плячысты, з вялікімі грубымі рукамі, які астаўся стаяць у дзвярах з вінтоўкай напагатове, і трэці, які адразу ж пайшоў абшнарваць усе куткі хаты. Але да Ігнася не ўсё даходзіла. Ён чуў нейкую амярцвеласць усяго цела, яго прабраў пот.

— Ну, что поник, едрёна вошь? — зноў падступіў да яго вусаты капітан. — Будешь знать, как убегать от закона. Ану, вставай!

Ігнась хацеў падняцца з калодкі, але ўспомніў, што не кончыў абувацца, што адна нага ў яго босая. Нагнуўся, каб падняць анучу і загарнуць ёю нагу. Ды вусаты са злосцю ўхапіў яго за каўнер сарочкі, рвануў уверх.

— Ты что, не слышишь, ибёна мать? Уши заклинило? Мы их быстро прочистим, едрёна вошь! — і ён з усёй сілы даў яму ў вуха.

Ігнась з лагера ведаў, што такім пярэчыць — і думаць не трэба. Сваю нязгоду, свой гонар трэба прыхаваць да пары, да часу ў сабе, затаіць. Таму пакорліва ўстаў — адна нага босая, другая ў лапці. Ён пачуў, што і на абутай назе завязаныя не на вузел канцы аборкі разышліся, разбэрсаліся. Але ўжо нічога не папраўляў: хай як ёсць.

— Ну, что, так и пойдешь полуобутым, едрёна вошь? Одевай свои постолы, быстро!

Ігнась зноў сеў на калодку. Калі накручваў на другую нагу анучыну і завязваў на вузлы канцы аборак, рукі калаціла, як у ліхаманцы. Няўжо ўсё кончана?

— А это что за гадёныш? — утаропіўся вусаты капітан на Янку, які, калі ўваліліся ў хату гэтыя невядомыя істоты на дзвюх нагах, кульнуўся быў пад стол у красным куце і адтуль несцярожліва назіраў за ўсім, што дзеелася ў хаце. Пан Мурлыковіч дык той зразу куляй сігануў на печ.

— Гэта мой сын…

— Сын? Рассказывай сказки! Твой сын остался дома, у матери. Нам всё известно. Значит, с тобой ещё прячутся такие же, как и ты, сообщники. Попросили присмотреть его? Гнездо бандитское свили тут! Нет? Не хочешь сознаться? У нас сознаешься! Лучше говори теперь! Что, зря я тебя больше года разыскивал? Больше года висело на мне это дело. Как гиря. Соображаешь, едрёна вошь, что это такое на службе? Потому ты должен с лихвой оплатить это! Если всё расскажешь, обещаю послабку. Ну?

— Я адзін тут…

— Один? И дом один за год построил? Рассказывай сказки! Говори, где сообщники? Молчишь? Ну, тогда пеняй на себя, едрёна вошь! Пощады не жди!

Слабенькая надзея, што ўсё гэта сон, памалу развейвалася. Не, ён не спіць, усё гэта, як бы ён ні хацеў, — праўда. Горкая праўда. Яго пагібель. Ён пачаў ліхаманкава шукаць у думках нейкага выйсця. Трэба вырвацца з лап гэтых службоўцаў, уцячы! Толькі як? У дзвярах стаіць з вінтоўкай той грамідла. Скокнуць у акно? Але ж па падвоканні сноўдаюць яшчэ энкавэдысты. Іх тут цэлы аддзел. Абкружылі хату, аблажылі яго, як ваўка. Каб яшчэ сякера была пад рукой, то можна было б папробаваць: або пан,або прапаў. Ды сякера недзе ў падпечку — ці ж мог ён спадзявацца на такое? Толькі і гэта не ўсё. Аставалася ж самае важнае: калі б нейкім цудам і ўдалося яму ўцячы, дык як быць з Янкам? Не мог жа Ігнась пакінуць яго ў руках гэтых нелюдзяў. На ім, на сыне, помсціліся б тады, злосць сваю спаганялі б. Калі ўцякаць, дык толькі з Янкам. Але гэтак яшчэ цяжэй. Ды што цяжэй — безнадзейна. Яны то не ўпусцяць з рук здабычу. Такога выпадку, як першы раз, як на гары каля коміна яго хаты, ужо не дапусцяць.

— Так что, отмалчиваться будем? — падступаў пад яго капітан.

Ігнась ведаў: любы яго адказ не будзе пад нораў касавокаму, яшчэ больш раззлуе. Таму наважыўся лепш маўчаць.

— Седых, позови Савельева, — не дачакаўшыся адказу, кінуў капітан высокаму ў дзвярах.

— Товарищ лейтенант! — прачыніў той дзверы. — К командиру!

У хату ўвайшоў невысокі, але камлюкаваты, мусіць, вельмі дужы міліцыянер з лейтэнанцкімі кубікамі на каўняры.

— В наручники его! — загадаў капітан. — Да хорошенько заломи руки за спину! Мы найдём на него управу, едрёна вошь!

Той забразгацеў жалезам. Ігнась глянуў на свайго Янку. Сцяўшыся пад сталом у камок, хлопчык спалохана бліскаў адтуль сваімі вачанятамі, мусіць, не мог зразумець, што гэта такое незвычайнае робіцца ў хаце. Страшна падумаць, што будзе з ім, калі ўбачыць бацьку ў акружэнні гэтых злых і нядобрых дзядзькоў. Яго трэба толькі весці за ручку.

— Таварыш начальнік…

— Какой я тебе товарищ?! — перабіў Ігнася капітан. — Тамбовский волк тебе товарищ!

— Даруйце, калі ласка, г… грамадзянін начальнік. Але што хочаце са мной рабіце, толькі не звязвайце мне рукі. Бо прападзе хлопчык. Ён пойдзе разам, толькі калі я буду весці яго за ручку. Пайміце, грамадзянін начальнік, ён не можа яшчэ хадзіць сам…

— Что, без ног он, что ли?

— Ды не… — Ігнась хацеў расказаць, што сталася з хлопчыкам, як ён апынуўся на выспе, ды падумаў, што яму ж не паверaць, на смех толькі падымуць.

— Не виляй, едрёна вошь! Захочет, побежит следом, если он действительно твой сын.

— Не пабяжыць ён. Пайміце, — усё ж наважыўся сказаць Ігнась: паверaць ці не. — Яго ваўкі тут выгадавалі ў логаве, у мацеры ўкралі…

— Га-га-га! — голасна зарагатаў капітан. — Ну ж и сказитель народный нашёлся!

— Ха-ха-ха! — засмяяліся і яго памагатыя.

Ігнась заўважыў, што толькі той, які нешта шукаў па кутках хаты, не засмяяўся. Быў ён зусім маладзенькі, мусіць, нядаўна прыняты ў міліцыю, невысокі, шчуплаваты. Падышоўшы, ён з раскрытым ротам, нібы дзіця казку, слухаў Ігнася.

Камлюкаваты Савельеў з самім капітанам навaліліся на Ігнася, сілай пачалі скручваць яму рукі. Ігнась не даваўся, пачаў вырывацца, а сілы ў яго было не пазычаць. Тады капітан хапіў яго левай рукой за валасы, а правай пачаў з размаху біць кулаком па твары. З носа ў Ігнася пацякла кроў, закапала на падлогу, размазалася па твары. Гэтая кроў, мусіць, толькі раздражніла капітана, і ён яшчэ з большай лютасцю, ужо абодвума кулакамі, злева і справа, пачаў мясіць Ігнася, лупіць па чым папала.

І тут здарылася нешта неверагоднае. Янка, які са спалохам назіраў за ўсім, што дзеелася ў хаце, раптам выскачыў з-пад стала, з незвычайным спрытам скокнуў ззаду на раз’ятранага дзядзьку і ўпіўся зубамі яму ў гарляк, які — гэта пачулі ўсе — хруснуў! Капітан выпрастаўся, павярнуў галаву назад, каб па-

глядзець, што гэта на яго напала, ды тут жа абмяк і бразнуўся вобзем, стукнуўшыся галавой аб Ігнасеву калодку. З рота ў яго хлынула кроў. У першы момант энкавэдысты анямелі. Але тут жа кінуліся ратаваць свайго камандзіра. У суматосе хлопчык шмыгнуў у расчыненыя дзверы — і толькі яго бачылі. Услед за ім рвануўся быў бегчы і Ігнась. Але дарогу яму перагарадзіў той вартавы грамідла, якога звалі Сядых. Ён хоць і быў, як і ўсе, ашаломлены здарэннем, але пасля ўцёкаў незвычайнага хлопчыка апомніўся.

— Ану, назад! — грымнуў ён на Ігнася і, узяўшыся абедзвюма рукамі за рулю сваёй доўгай вінтоўкі, балюча садануў яму прыкладам у грудзі. Ігнась упаў галавой аб парог і страціў прытомнасць. Ён не чуў і не бачыў, што рабілася ў хаце. Не бачыў, як Сядых пусціўся быў са стрэльбай за яго сынам, ды толькі вельмі скора вярнуўся назад у хату: ясна, Янкі недзе і след прастыў у лесе.

Невядома, колькі ён так ляжаў, без памяці. Ачнуўся толькі тады, калі энкавэдысты бухнулі яму на галаву вядро вады. У хаце ўжо не было капітана — на падлозе асталася толькі вялікая пляма пацямнелай крыві. Калі Ігнась, хістаючыся, стаў на ногі, яго адразу ж ашчаперылі збоку і заламалі за спіну рукі. На запясцях ён пачуў холад жалеза, шчоўкнулі наручнікі: усё — Ігнасевы рукі пад замком! Цяпер — уцякай не ўцякай — ён прапаў! А значыць, прапаў і яго так шчасліва знойдзены сын. Усё прапала! Усё кончана!

## 10

Ніколі дагэтуль не бачыла Воўчая выспа такога дзіўнага шэсця: уперадзе два энкавэдысты неслі на насілках свайго, зноў жа гэтак дзіўна загінулага камандзіра. За імі яшчэ два вялі Ігнася з заломленымі за спіну рукамі, узятымі ў наручнікі: адзін — спераду, другі — ззаду.

Ігнась ледзьве цягнуўся, з цяжкасцю перастаўляў ногі — так быў збіты энкавэдыстамі. Балелі і заломленыя назад рукі, якімі ён не мог і паварушыць. Ды што гэты боль цела — балела, ныла, крываніла, разрывалася на часткі душа: што будзе цяпер з яго хлопчыкам, з малым Янкам, які толькі пачаў хадзіць на нагах, вызваляцца ад ваўчыных звычак, гаварыць? І казаць не трэба: прападзе тут адзін, без бацькі, на бязлюднай выспе. Ці прыстане да ваўкоў? Толькі ці прымуць тыя да сябе другі раз? Ну, а калі прымуць, дык што — стане чалавекам-воўкам? Ігнасю страшна

было падумаць, што будзе з сынам. Ды што думаць: як ні круці, не будзе ўжо ні ў яго, ні ў Хрысціны іхнага Янкі. Без Ігнася яго чакае на выспе гібель.

Ігнась ніяк не мог даўмецца, як яго тут высачылі энкавэдысты, у такой глушэчы? Ні адна ж душа на свеце пра яго схоў не ведала. Ён нават Хрысціне, сваёй жонцы, не сказаў, дзе знайшоў прыстанішча. А мо і праўда ў бальшавікоў, як казаў капітан, усюды ёсць вочы, нават на небе? Але якія там могуць быць вочы, на небе? На небе…

І тут Ігнасю ўспомніўся самалёт, які не так даўно пралятаў над Воўчай выспай. Пачуўшы гул, Ігнась выйшаў тады з хаты і паўзіраўся ўверх. Самалёт — гэта была двухкрылая «страказа» — ляцеў высакавата, нават разрэджаныя белыя воблачкі завіліся былі пад яго серабрыста-белымі крыламі з яркімі чырвонымі зоркамі. Але менш чым праз паўгадзіны Ігнась пачуў над галавой яшчэ больш моцны гул, у вуху выразна аддалося дробненькае дрыжанне металу. Гэта самалёт варочаўся назад, толькі цяпер ляцеў ён зусім нізка, відаць была нават маленькая галава лётчыка ў чорным шлёме, на якім бліснула шкло вялікіх прамавугольных акуляраў. Самалёт чагосьці пагайдаў з боку на бок сваімі крыламі і паляцеў за балота. Ігнась гэта і да галавы тады не ўзяў: ці мала лётчыкі бачаць з неба хат — на выспах, на хутарах, усюды? Аж, мусіць, незвычайнай здалася яму адзінокая хаціна на акружаным балотамі востраве. Таму і перадаў пра яе куды трэба. Выходзіць, і праўда нідзе не схаваешся ад энкавэдысцкага вока, яно і з неба цікуе за ўсім і ўсімі?

Энкавэдысты кіраваліся пад балота. Ішлі то лесам, то зялёнымі лугавінамі. Той, што ківаўся ўперадзе ( гэта быў мажны Сядых, які так моцна стукнуў у хаце Ігнасю ў грудзі), нечым вызначаў дарогу, вёў усіх упэўнена. Ігнась не мог зразумець, як яны сюды дапялі? Няўжо знайшлі тую даўнюю лаву паўстанцаў?

Сонца ўжо вісела над захадам. Цені ад дрэў выцягваліся, даўжэлі. І энкавэдысты спяшаліся. Ішлі яны маўчком. Перагукваліся толькі, каб не збіцца з дарогі. Пра незвычайную гібель капітана гаворку абміналі. Яго смерць, было відаць, усіх іх прыгняла, прыглушыла.

Ігнась, хоць і быў зусім знябыты, пачаў прыглядацца да энкавэдыстаў: чаго ад іх можна чакаць? Ад Сядых, што трымаў пярэднія канцы насілак, — пэўне ж, нічога добрага. Ззаду гэтаму тупаватаму грамідлу памагаў несці насілкі незнаёмы міліцыянер, таксама высокі, толькі хударлявы — ён, мусіць, дзяжурыў тады на Ігнасевым двары. Паперадзе Ігнася ступаў той маладзенькі

міліцыянерык, што аглядаў яго хату. Адзін ён, мусіць, мог бы ў нечым памагчы яму: не засмяяўся ж у хаце, калі Ігнась расказваў пра ўзгадоўванне ваўкамі сына, з усёй сур'ёзнасцю яго слухаў, з увагаю. Са спачуваннем паглядаў на яго. Толькі як ён мог бы гэта зрабіць? Ззаду ішоў, замыкаў шэсце той камлюкаваты Савельеў, які памагаў капітану скручваць Ігнасю рукі.

— Ану, не отставать, бляха-муха! — якраз ён, гэты камандзір, і вывеў Ігнася з задуменнасці, груба штурхануўшы ў плечы прыкладам вінтоўкі.

У Ігнася мільганула думка, што сярод энкавэдыстаў не было ўжо Трэбы, які выратаваў яго ў Волі пры налёце на хату Караленяў — ён бы яго пазнаў. Значыць, на якую-небудзь падмогу ці паслабку цяпер яму спадзявацца не было ад каго.

Уперадзе адкрыўся рэдкі скажанелы хвойнічак. На яго і кіраваліся энкавэдысты. Алешнік, за якім ляжала ў твані лава паўстанцаў, астаўся ўбаку. Значыць, у энкавэдыстаў быў нейкі другі ход на Воўчую выспу?

Чэзлыя, з высакавата прыўзнятымі мётламі кронаў хвойкі раслі на мяккім жоўтым імху, тым імху, які звычайна дзяруць на зрубы хат ды хлявоў. Ступаць па гэтай махавой падушцы было вельмі цяжка: яе даводзілася ўмінаць і ўмінаць нагамі, правальваючыся па калені. У нос шыбаў густы пах багуну, пруткія сцяблінкі якога з шорсткімі даўгаватымі лісцікамі так і шлёгалі па нагах. Ад душнага багуну ў Ігнася яшчэ больш разбалелася пабітая галава, рабілася млосна. Ён проста знемагаў ад утомы і ўжо ледзьве перастаўляў ногі, якія не хацелі слухацца, і на яго ўсё часцей мацюкаўся новаспечаны камандзір, не забываючыся пускаць у ход прыклад сваёй вінтоўкі.

Нарэшце мох скончыўся, і хоць пад нагамі зачвякала вада, але ступалася ўжо цвярдзей. Пайшлі, пятляючы між лазовых кустоў. За імі неўзабаве адхінулася гала — тое самае дрыгвяністае балота, што акружала выспу. Над ім ужо нізка вісела палагаднелае, не спякотнае цяпер сонца.

Як жа яны будуць пераходзіць? У балота ж — і не сунься. Дарма, што здалёку яно — як ялавае поле з сіваватай травою, па якой вольна гуляе вецер.

Пярэднія з насілкамі энкавэдысты на міг суняліся, паўглядаліся ў адзін, у другі бок і павярнулі направа, павялі ўсіх гразкім прыбалотным берагам, цаляючы ботамі на цвёрдыя, тут яшчэ ўстойлівыя травяныя купіны. Кіраваліся зусім у іншы, чым лава паўстанцаў, бок. Што ж там магла ў іх быць за пераправа?

Ігнась угледзеў энкавэдысцкі пераход, калі падышлі пад яго ўсутыч. Убачыў і здзівіўся: праўдзівы караван прывязаных адзін да аднаго плытоў, перакінуты цераз балота! Зроблены ён быў вельмі проста. Навыразалі ў лесе хвой-сухастоін, назвязвалі лазовымі віцамі з іх плыты, стачылі ўсе плыты ў адну лінію — от табе і дарога ад берага да берага! Аднак жа, калі падумаць, гэтулькі ўкладзена тут работы! Адных бярвенняў колькі трэба было тут нагатовіць! І дзеля чаго? Дзеля аднаго яго, уцекача Ігнася, гэтага надта небяспечнага дзяржаўнага злачынца, які і пальцам ніколі нікога не зачапіў.

Хоць бярвёны і пахістваліся пад нагамі, але ісці па іх было лёгка. Не тое, што мясіць махавую падушку.

Свет ад заходнага сонца быў увесь ружовы. Ружавела паўзбоч балотная пространь, ружавелі, як падпаленыя, параскіданыя па ўсім небе воблакі. Толькі ўперадзе, за балотамі, на разлітай на схіле неба светлай, яшчэ малінавай зары чарнеў пашчэрблены, нібы перавернутая ўверх зуб'ем піла, недалёкі лес. Бумкалі, дралі свае горлы нябачныя жабы. Збоку зусім блізка ўскінуліся дзве шэрыя качкі і, пасвістваючы крыламі, паляцелі ўздоўж балота.

На другім беразе, у рэдкім хмызнячку, акурат напроці насцілу, Ігнась убачыў яшчэ энкавэдыстаў. Ну але, гэта ўжо чакаюць яго, злоўленага злачынца, каб адвезці куды трэба. Колькі задзейнічана людзей, колькі сродкаў укладаецца на такую важную аперацыю! На аднаго яго!

Цяпер то яму ўжо не вырвацца з энкавэдысцкіх лап. Усё! Кончана! Не на такіх нарваўся! Цяпер яго запратораць туды, куды Макар і цялят не ганяў. На Калыму ці на другі які край свету. Упякуць у самы строгі канцлагер. Да канца сваіх дзён ён будзе толькі і ведаць, што нагайкі ды нагцакі канваіраў, люты ашчэр аўчарак, прасвістаныя вятрамі баракі, цвёрдыя жардзяныя нары, штодзённае — з году ў год — тузанне з пілой на лесапавалах, за што яго будзе чакаць тоненькая лісцінка хлеба на дзень ды кацялок рэдзенькай баланды з гнілой бручкай — яда, якая ні на міг не прыглушыць несканчоныя мукі голаду. Вечны голад і холад у краі вечнай мерзлаты. На вечнай катарзе. Без адхлання, без прасветлінкі.

І да ўсяго гэтага будзе заўсёды абліваецца крывёю сэрца па сыну Янку, якога, лічы, ён вярнуў з таго свету, паставіў на ногі, навучыў казаць першыя словы і пачаў адчароўваць ад ваўчынага закляцця. Цяпер усё пойдзе назад. Хлопчык уцёк ад людзей, якіх цяпер будзе лічыць страшнейшымі за любога звера. Зноў Янка

вернецца да ваўкоў. «Толькі ці доўга зможа сярод іх жыць? — зноў і зноў развважаў Ігнась. — А калі вырасце, няўжо зноў будзе бегаць на карачках, як нейкі чалавек-воўк? Як бы там ужо ні было, яго — раней ці пазней — чакае там, на выспе, адно: пагібель. А можа, наказаць як-небудзь пра Янку Хрысціне? Можа, яна знайшла б нейкі спосаб вярнуць з дзікай выспы дадому іхнага хлопчыка? Толькі як яна гэта зрабіла б? Ніяк не зрабіла б. Ці ж залезе яна да ваўкоў у логава, каб адабраць ад іх свайго сына? Ды каб і здолела гэта зрабіць, ці ж даўся б Янка ёй у рукі?» Не, без яго, Ігнася, не выбавіць з Воўчай выспы, не выратаваць Янку. Зрабіць гэта яму ўжо ніхто не дасць.

Пад нагамі яшчэ больш захадзілі, заплёхкалі аб ваду бярвёны насцілу. Тут была ўжо самая сярэдзіна балота. Па баках — суцэльная, без купінкі вадзяністая твань. Колішняе бяздоннае возера. Мінецца балота, і Ігнася перададуць тым, хто яго ўжо там чакае. Як важнага пана. Каб здаць куды трэба. Пахваліцца, што аперацыя па лоўлі ўцекача Ігната Каралені закончылася паспяхова. Тое, што адзін з яе выканаўцаў загінуў, — дробязь: у НКВД кадраў хапае. Галоўнае — небяспечны злачынец, злосны кулацкі элемент абясшкоджаны!

Уперадзе ў нецярпенні перабірае нагамі адзін з сустраканцаў — немалады, раздабрэлы энкавэдыст. Ды не просты энкавэдыст. Ігнасева вока выхапіла жаўтаватую шпалу на густа-чырвоных пятліцах яго вайсковай апранахі. Начальнік. Згледзеўшы з заломленымі назад рукамі Ігнася, пацірае, радуючыся, свае пухлыя рукі.

І што — ён, Ігнась, павінен от так лёгенька, без слова аддаць самога сябе на іх міласць, улезці, як загіпнатызаваная жаба ў пашчу ўдава, у невымернае, усёпажыральнае горла энкавэдысцкага цмока? У гэтыя спешчаныя службісцкія рукі, якія не ведаюць літасці? Нагуляўшыся ім, як цацкаю, уволю з яго наздзекаваўшыся, гэтыя нелюдзі ўкінуць яго ў нейкі смуродны цялятнік і патарабаняць як мага далей у глухія сібірскія далячыні, адкуль ніколі ўжо не будзе звароту назад. Там, на краі свету, ён зноў трапіць у рукі злюцелых лагерных служкаў, якія будуць спаганяць на ім сваю злосць, злосць за тое, што ім трэба пад маразамі ды сцюжамі валаводзіцца з гэтымі спрацівелымі дахадзягамі-зэкамі, людскім ашмоццем, з якім можна не цырымоніцца, біць і падбіваць, як тыя мячыкі, як толькі хочаш і колькі хочаш.

Не, Ігнась не дасць усім ім такой радасці, такой уцехі. Гэтая думка прыйшла ў галаву яшчэ тады, калі яму заламалі назад

рукі і ўзялі іх у наручнікі. Цяпер жа, калі ўбачыў перад сабою чырваназорых сустраканцаў, яна саспела канчаткова. Ён толькі выбіраў момант. А яшчэ… больш чыстую ваду. Бо яго аж скаланала ўсяго, калі ўяўляў, як будзе глытаць гэтую рудую балотную каламуць. Тут, на сярэдзіне, плёскаліся ў вадзе між бярвёнамі толькі рэдкія тарфяныя смяцінкі. Глянуў на насціл: пад яго ішла з балота зусім чыстая паласа вады. Што гэта магло быць: прабілася якая крыніца?

Яшчэ раз абвёўшы вачыма ўсю шырыню паружавелага балота, на нейкі міг затрымаўшы свой зірк на вялікім чырвоным сонцы, што ніжнім краем заплывала ўжо за лес, ён раптам адштурхнуўся ад круглых бярвён насцілу і кінуўся ў гэтую, як збавенне, чыстую вадзяную жылу сярод каламутнай твані.

Апошняе, што яшчэ пачуў на ляту Ігнась — гэта як спалохана ахнуў міліцыянер, які ішоў у яго паперадзе. Той маладзенькі міліцыянер, які не ў прыклад сваім таварышам так сур’ёзна, без ніякага смеху слухаў яго ў хаце пра выгадаванага ваўкамі сына. Не бачыў толькі Ігнась тады, як гэты міліцыянерык пры аглядзе хаты неўпрыкмет запіхнуў у свой заплечны ранец знойдзены ў шуфлядзе шафы яго сшытак-паўсядзённік з запісанымі ў ім і не адасланымі пісьмамі Хрысціне.

Падаючы ў вадзяную бездань, Ігнась краёчкам вока нечакана змеціў на беразе Воўчай выспы постаць свайго Янкі. Ён стаяў там на ўласных нагах і на ўсе вочы глядзеў, што дзеецца на перакінутым цераз балота дзіўным бярвенным насціле. Хлопчык адразу, калі гэтыя злыя чалавекападобныя істоты з зіркастымі чырвонымі зоркамі на шапках павялі з хаты збітага і скручанага бацьку, пабег назіркам услед і, не спускаючы вачэй, сачыў за ўсёй працэсіяй. Калі бацька са звязанымі назад рукамі раптоўна ўпаў у балотную ваду і больш адтуль не паказаўся, на вейках Янкавых вачэй затрымцела буйная сляза, у якой бліснула ясная чырвань вялікага заходнага сонца.

# БУДЗІЛА ВЁСКУ БЕРАСЦЯНКА

Stay, stay at home, my heart, and rest:
Home-keeping hearts are happiest.

*H. W. Longfellow.**

## ДАРОГА ДАДОМУ

Калісьці малым я прачытаў у адной кніжцы пра дзівосны лясны край — Палессе. У ёй з такой замілаванасцю расказвалася пра яго таямнічыя пушчы і салаўіныя гаі, пра шырокія квяцістыя лугі і абласканыя сонцам жураўліныя балоты, пра чыстыя крынічныя рэкі і сінія люстэркі азёр, што мне да нясцерпу захацелася пабываць там, каб на свае вочы пабачыць тую красу. Толькі значна пазней я даведаўся, што мая Зялёная Дуброва з усімі яе ваколіцамі, аказваецца, і ёсць тое самае Палессе! Праўда, яго поўнач. Гэта ж недалёка ад нас шыецца праз лясныя зараснікі крынічная Арэса, апетая Янкам Купалам у паэме пра асушку палескіх балот.

Лясы абступаюць нашу вёску — дзе бліжэй, дзе далей — з усіх бакоў. І цягнуцца яны ў некаторых кірунках без канца і краю. У школьныя гады я надумаўся быў дайсці ўсё ж да краю лесу, што ідзе на паўночны ўсход. Строга трымаючыся гэтага кірунку, прадзіраючыся праз лясныя гушчары, бэрсаючыся нагамі ў верасах ды папаратніках, я залез тады ў такія глухія нетры, што ледзьве адтуль выбавіўся, так і не дапяўшы да таго зваблівага канца-краю.

Сярод нашых лясоў можна напаткаць папраўдзе цудоўныя месцінкі, першародныя, не пачапаныя плугам меліяратара, з

* Астанься, астанься дома, маё сэрца, і адпачні:
Сэрцы, якія астаюцца дома, — самыя шчаслівыя.

*Г. У. Лангфела (англ.).*

жураўлямі і журавінамі балоты і балотцы, чыстыя, як слязіна, крыніцы і блакітныя, як само неба, азёры гаючай вады. Ды што тут казаць: на Палессі — як на Палессі!

На карце маю Зялёную Дуброву можна адшукаць на паўночным ражку Старадарожскага раёна. Ад Мінска да яе — пад сто трыццаць кілометраў.

Ездзіць туды можна двума спосабамі — на машыне і поездам.

На машыне, ведама ж, зручней чым як: сеў у кабінку, ці, як цяпер кажуць, у салон, прыстукнуў за сабой дзверцы і праз паўтары-дзве гадзіны ты на месцы: ступай на родны пясочак сваёй вуліцы.

Але гэта, калі хто ласкава запросіць у сваю машыну. Бо ад уласнай, на якой у свой час пафарсіў некалькі гадоў, я даўно з розных прычын вызваліўся. Цяпер часцей за ўсё мне даводзіцца ездзіць у Зялёную Дуброву, як і некалі, чыгункай.

Хоць гэтым спосабам значна даўжэй, ды і не так лёгка, як на машыне, але ўсё роўна кожная паездка дадому для мяне — свята.

От я закідваю за спіну свой дарожны хатуль, на хвілінку, як падказвае звычай, прысаджваюся ў «вітальні» на табурэцік, каб варухнуць мазгамі, ці ўсё, што трэба, узяў з сабою, і бяруся за ручку дзвярэй. Усё — я ў дарозе!

Першы мой «транспартны сродак» — ліфт. Цісну на пляцоўцы на круглую абшмуленую кнопку, і ён, здрыгануўшыся на нейкім з паверхаў нашага «хмарачоса», з глухаватым нутраным гудам тут жа ляціць на мой выклік ды паслужліва расчыняе перада мной свае дзверцы.

Спусціўшыся з неба, я амаль адразу лезу пад зямлю: гэта значыць, у метро, станцыя якога акурат напроці майго дома.

Там, не даўшы і хвіліны пастаяць на пероне, мяне падхоплівае порсткая электрычка і з подсвістам нясе ў бок чыгуначнага вакзала.

Некалькі хвілін вакзальнай штурханіны, і я з білетам у кішэні ўскокваю ў электрапоезд майго, асіповіцкага, накірунку. Звычайна ён адыходзіць недзе каля дзевяці гадзін раніцы.

У электрычцы я заўсёды выбіраю двухмесную лаўку пры дзвярах збоку — каб хоць неяк адасобіцца ад дарожнага люду. Калі гэта ўдаецца, выцягваю з хатуля загадзя падабраную для дарогі кнігу і аддаюся чытанню — што можа быць больш прыемнае? А натомяцца вочы, дастаю папку ці блакнот з нейкай распачатай сваёй пісанінай. Хоць трошкі, але за дарогу нешта ды ўсё ж дапоўніцца: вельмі ж добра думаецца пад аднастайны перастук колаў.

Праз дзве гадзіны такой язды голас з вагоннага рэпрадуктара абвяшчае, што электрапоезд прыбывае на канцавую станцыю Асіповічы.

Але мая дарога яшчэ не канчаецца: тут у мяне — толькі перасядка. Перасядка на дызель, які ідзе на Слуцак, а часта яшчэ далей — на Салігорск.

Звычайна да адпраўкі дызеля астаецца з паўгадзіны. Якраз — каб размяцца, зазірнуць у прывакзальныя крамы ды ларкі, перакусіць у станцыйным буфеце.

Да маёй станцыі Фалічы ад Асіповіч ехаць трохі менш за гадзіну. Тут едзецца весялей: гэта ж ужо мае ваколіцы. Вунь за акном выплылі з-за лесу знаёмыя хаты Дзярэўцаў, за імі мільгануў паўстанак Града, а за Градою па левую руку неўзабаве чырванее цэглаю станцыйны будынак з шыльдай на фасадзе — «Дараганава». Параўняўшыся з ім, раней я заўсёды прыўставаў з месца, каб паглядзець, ці не тупае там на пероне малодшы мацерын брат Толя Рымашэўскі, ды хоць павітацца з ім. Ён, займеўшы сям’ю, пасяліўся тут недзе ў пяцідзясятых гадах і зрабіўся быў дараганаўцам. Цяпер, калі яго не стала, я падыходжу да акна ўжо з правага боку і са смуткам у душы шукаю вачыма між дараганаўскіх будынкаў ладны, з шырокімі вокнамі Толеў дом, дзе асталася ўдава Галя і куды зрэдку пад’язджаюць яго дзеці (тры дочкі) ды ўнукі.

І яшчэ адзін боль чую я ў сабе, калі бачу сцішаныя хаты Дараганава. Боль па Янку Непачаловічу.

З ім я пазнаўся ў Мінску, калі яго запрасілі на работу ў выдавецтва «Народная асвета» рэдактарам. Да гэтага я ведаў яго як паэта. Паэта па-свойму цікавага, па-сялянску простага, часам, можа, прамалінейнага, але не без дасціпнасці. Жывучы сярод людзей «дарагога свайго Дараганава», размаўляючы з імі, ён добра ведаў, што іх цікавіць, што ім казаць. Яго вершы ўяўляюцца мне як бы працягам тых размоў з «дарагімі землякамі». Таму яны такія непасрэдныя, без паэтычнай мудрагелістасці:

Бору гукну — гулка бор адгукнецца,
Струн дакрануся — яны запяюць.
Верачы ў шчырасць вашага сэрца,
Насцеж душу адкрываю сваю.

Шчырасць і праўда — гэта было яго «крэда». Ён верыў, што праўдзівасць — тое галоўнае, што дае доўгае жыццё мастацкаму твору, любому вершу:

Гады яму пракладваюць
У будучыню шлях.
Не рыфмаю, а праўдаю
Звініць страфа ў вяках.

Мне пашчасліціла з’ездзіць з ім на літаратурныя сустрэчы ў Брэст. Я бачыў, як добра ўспрымалі людзі яго вершы. Чытаў ён болей «Стары халасцяк», «Позні паром», «Дараганава», не помню яшчэ якія. Слухачы, ажыўляючыся па ходу чытання, удзячна пляскалі за іх аўтару ў ладкі.

Цэлы тыдзень мы былі з ім у Брэсце, абхадзілі і аб’ездзілі ўвесь горад. Спачатку Янка Непачаловіч быў як бы нечым прыгнечаны, хадзіў сутулена, часта ўздыхаў, пра нешта задумваўся. Я тлумачыў гэта сабе яго нядаўным пераездам у Мінск, цяжкасцямі прывыкання да новай, невядомай яму работы і жыллёвай неўладкаванасцю. Сустрэчы з людзьмі прыкметна расцерушылі, развеялі яго клопатныя думы, далі пра іх забыцца.

Як землякі мы з ім за тыдзень уволю нагаварыліся, нажартаваліся. І па-добраму пасябравалі.

Апошні раз я напаткаў яго ў Асіповічах. Ён ехаў з Дараганава ў Мінск, а я — з Мінска ў сваю Зялёную Дуброву. Мы сустрэліся з ім, як свае, як паядналыя душэўнай роднасцю. Дасюль помніцца радасць гэтай сустрэчы. Ды пагаварыць нам не даў прыход яго поезда. Думалася, што мы яшчэ будзем не раз бачыцца ў Мінску.

Але я памыліўся. Летам 1969 года жыццё Янкі Непачаловіча так неспадзявана для мяне абарвалася.

Я перажываў гэта як вялікую асабістую страту. Страту добрага душою чалавека, старэйшага сябра, з якім можна было параіцца пра ўсё і які мог бы ў любую хвіліну прыйсці на дапамогу ў чужым яшчэ тады для мяне горадзе.

Пастаяўшы хвіліну ці дзве ў Дараганаве, дызель, грукаючы буферамі, зрушваецца з месца, каб імчаць далей. От ён, набіраючы хуткасць, ужо ляскоча па мосце цераз Пціч, што разліваецца ўнізе між лазнякоў ды чароту з аднаго і з другога боку. Па яе куп’істых берагах хадзіў і я, калі гасцяваў у Толі, нават прабаваў тут з ім рыбачыць, катаючыся на яго чоўне.

Ад Дараганава да Зялёнай Дубровы напрасцяк кіламетраў дваццаць, калі не больш. Аднаго разу школьнікам давялося мне змераць гэтую адлегласць уласнымі нагамі. Удвух з сябрам і аднакласнікам Жоржам Дубовікам мы былі завезены сюды

як арыштанты. А правінаваціліся тым, што ехалі са школы, са Старых Дарог, без білетаў, на падножках поезда, учапіўшыся рукамі за жалезныя поручні. Нейкім чынам нас змецілі кантралёры і паўцягвалі ў вагон, пачалі з намі разбірацца. Загадалі плаціць штраф за безбілетны праезд. Ды якія маглі быць грошы ў зайцоў? Нас пакаралі тым, што не выпусцілі на нашай станцыі і правезлі два перагоны далей. Назад поезда ў той дзень ужо не было, і мы мусілі ісці з Дараганава ў Зялёную Дуброву пеша. Ішлі глухімі ляснымі дарогамі ды звярынымі сцежкамі. Дома былі толькі позна ўночы.

Пасля Дараганава поезд сунімаецца на невялікай лясной палянцы — «астановачным пункце» Ульянаўка. Вялікая ці малая вёска Ульянаўка, якая, мусіць жа, павінна тут быць, я не ведаю, бо яе хаты хаваюцца недзе за лесам. Я даўно збіраўся, але так і не сабраўся сысці тут калі-небудзь з поезда і паглядзець, што гэта за Ульянаўка, і даведацца, чаму яна так назвалася. Тут жа, як расказвала мне мая цётка Волька, было некалі, яшчэ да савецкага часу, селішча Коўганка, што арандаваў яе дзед, а мой прадзед «па кудзелі» Аляксандр Рымашэўскі.

Наступная за Ульянаўкай станцыя — Фалічы, ужо мой прыпынак. Дызель татахкае туды даўгавата, перагон Ульянаўка — Фалічы, мусіць, самы тут вялікі. Бо на ім — ніводнага селішча, ніводнай будыніны: лес і лес. Не перапыняючыся, ён цягнецца да самай Зялёнай Дубровы і далей.

Я загадзя ўкладваю ў хатуль маё чытанне-пісанне і гляджу ў акно, каб не праварон іць сваёй станцыі. От ужо разышліся ў бакі беластволыя бярозы і змрачнаватыя хвоі, адсланіўшы першыя фаліцкія хаты, і праз хвіліну дызель сунімаецца перад цагляным станцыйным будынкам.

Сышоўшы з прыступак вагона і пачакаўшы, калі поезд прагрукае далей, я пераходжу рэйкі і апынаюся ў зусім другім свеце. Спачатку я не ўсведамляю, чаго гэта мне тут не хапае. Толькі потым да мяне даходзіць, што я ж не чую ўжо таго бесперапыннага гуду машын, з якім мы так зжыліся ў горадзе, што яго і не заўважаем, не бачу мітуслівага людскога мурашніка, у якім тоўхаемся ўсе з раніцы да ночы.

На вуліцы — ні душы, ні машыны. Што тут казаць: усяго пяць ці шэсць хат асталося па абодва яе бакі. У адным толькі двары заўважаю жаночую постаць: развешвае на вяроўцы бялізну. Ды яшчэ з-за адсунутай фіранкі ў акне бачу чыесьці цікаўныя вочы: кожны тут прахожы — маленькая падзея.

Я расслаблена тапчу плыўкі белаваты пясок фаліцкай вуліцы, выбіваючыся на цубчэйшую ўзбочную сцежачку з зялёнымі грыўкамі травы абапал.

У канцы вулічкі на месцы колішняй смалакурні, ад якой даўно ўжо не асталося і следу, весела глядзіць на мяне сваімі шырокімі вокнамі добры бярвенны дом нашага былога зялёнадуброўскага суседа Францішка Сянькоўскага, нядаўнага лесніка, а цяпер пенсіянера — вольнага гаспадара на ўласнай сядзібе.

Раней я спатыкаў на прывулічнай лаўцы яго матку — добрую ціхмяную цётку Марцісю, прысаджваўся да яе пагаманіць, успомніць мінулае, нашых людзей у Зялёнай Дуброве. Ужо даўно лаўка пустуе: няма цёткі Марцісі, а два гады назад не стала і Францішкавай жонкі Наташы — яе падтачыў цукровы дыябет. Францішак астаўся ўдаўцом — адзін на ўвесь вялікі дом. Добра, наведваюцца тады-сяды дзеці, якія не надта далёка паадляталі ад роднага гнязда, завёўшы свае сем’і.

Ад Фаліч да Зялёнай Дубровы — роўна сем кіламетраў. І, ведама ж, някепска было б на чым-небудзь туды пад’ехаць. Часам падкідваў мяне ў Зялёную Дуброву Францішак на сваім матацыкле ці на падводзе — у яго ж ёсць і свой конь. Але гэта калі ён, сустрэўшыся са мной, сам падручаўся. Мне ж самому няёмка было яго турбаваць. Я нават без патрэбы не заходзіў да яго ў дом, каб не падумаў, што напрошваюся падвезці.

Сказаць папраўдзе, ды я і не вельмі рваўся, каб мяне хто падвозіў. Мне заўсёды добра было прайсці дадому пеша.

Во мінуўся Францішкаў дом, люстраная сажалка за яго тыльнай сцяной з купкай сіваватага чароту — і я ўжо ў лесе. Іду калдобістай, аплеценай каранямі дрэў калёснай дарогай. Паўзбоч — маўкліваю вартаю старыя яснастволыя хвоі, якія, здаецца, стаяць тут вечна. Між імі — зялёныя лапіны моху, кусцічкі чарнічніку з сінявата-чорнымі пузаценькімі ягадамі: пашморгвай іх ды кідай у рот, халаднаватыя, заўсёды прыемныя на смак.

Вясной, на сутоку красавіка і мая, тут паміж хваёвых камлёў проста з зямлі і з травяных купін выскакваюць на высокіх калмаценькіх ножках сінія, як неба, кветкі сну. Аднаго разу, калі я праходзіў тут гэтакай парою, кіруючыся дадому, трохі далей ад дарогі, на вышэйшым, даступным сонцу ўзлобку, у мяне перад вачамі мільгнуўся быў як бы сіні туманок. Спярша я так і падумаў: лёгенькі туман астаўся з раніцы, яшчэ не развеяўся ў лесе. Але які мог быць тутака туман, калі гэтак прыгравае сонца, калі яно ўжо прасвечвае на доле кожную купінку? Прыгледзеўся

пільней: ды гэта ж ён, сон, сон-трава! Зразу тры ці чатыры кветы́ — недалёчка адзін ад аднаго — глядзелі на мяне сваімі шырока адкрытымі сінімі вачамі.

Звілістая калёсная дарога з міжхвойя выбаўляаецца скора на шляхавую, весялейшую — нашу Конку.

Конка даволі шырокая, з канаўкамі па баках. І прамая, як струна. Рассякаючы лес, яна ідзе аж да самай Зялёнай Дубровы і, пакінуўшы яе збоку, прастуе далей — да Дрычына. Струна даўжынёю чатырнаццаць кілометраў.

Абстаўленая дрэвамі і кустамі, яна выдае велічным зялёным тунэлем, які змыкаецца ўдалечыні і губляецца ў сіняй смузе.

Ісці з Фаліч Конкай — адна любата. Ціш і воля. Уверсе, на бярозах ды хвоях, радасна выспеўваюць свае просценькія песенькі, пырхаючы з галінкі на галінку, дробныя лясныя птушачкі. Зрэдчас над галавой паверх лесу няспешна пераляціць дарогу, з шумам махаючы крыламі, пакарякваючы пра нешта сваё, чарнуха варона.

Першы раз перада мной адкрылася ўся гэтая дарога ў далёкім 1945 годзе, калі мы з маткай і з суседкай, здаецца, Анцяй, ездзілі на дзвюх падводах за Фалічы ў капытнік — вельмі спажыўнае балотнае зелле для свіней, якіх тады ў нас не было чым карміць. Запомніўся мне нейкі незвычайны паўзмрок, у якім мы ехалі паміж дзвюма высокімі сценамі цяністага ўздарожнага лесу, за якім недзе хавалася сонца. Туды, улегцы, коні, пафыркваючы, беглі трушком, і іх капыты глуха тухкалі па роўным, неглыбокім пяску дарогі, а калёсы прывычна парыпвалі на выбоінах. Больш чым што ўразілі мяне тады травяныя ўзбочыны Конкі, чырвоныя ад пазёмак — так у нас завуць суніцы. Я саскокваў з калёс ды кідаўся збіраць гэтыя вабныя пахучыя ягадкі, якія, здаецца, самі раставалі ў роце. Пазёмкі і цяпер, больш чым праз паўвека, паманьваюць прахожага з тых жа самых узбочын.

А яшчэ, ідучы Конкай, можна ў сваю пару паласавацца салодкімі малінамі ды іхнымі блізкімі суродзічамі — чорнымі, як смоль, і таксама салодкімі, толькі з «гарчынкаю», ажынамі; а яшчэ кіславаценькімі касцянкамі, што чырванеюць у цяні прыдарожных зараснікаў.

У глыбіні ж лесу для кожнага адкрыты тут яшчэ нясеяныя плантацыі чарніц. Калі яны паспяваюць, у Фалічах з кожным прыходам поезда вывальваюцца з вагонаў і спяшаюць сюды з вёдрамі цэлыя хмары ягаднікаў. Такія ж хмары — толькі ўжо недзе пад восень — выкідваюць тут усе да аднаго вагоны і грыбовікаў

з кашамі ці карзінамі на локцях і гатовымі «да бою» нажамі ў руках.

Наўрад ці хто, праходзячы тут, устрымаецца, каб не памацаваць зубамі і арэхі, калі яны паспеюць недзе на пачатку восені. Арэшнік не любіць ценю, у глыбіні лесу яго заглушаюць вялікія дрэвы, таму арэхавыя кусты стараюцца праціснуцца з ляснога гушчарніку бліжэй к дарозе, на святло, навісаючы над галавой прахожага. Адно толькі падскоквай ды, ухапіўшыся рукамі, нагінай пруткую, не заўсёды падатную галіну. Трымаючы яе адной рукой, другой намацвай у лісцёвых сховах цвярдыя шышакі арэхаў ды барзджэй, покуль не здранцвела рука, запіхвай іх у кішэні ці запазуху.

Лес паабапал Конкі зусім не аднастайны, ён мяняецца амаль кожную хвіліну. Тут, бы на якой выстаўцы, можна ўбачыць усе, што толькі ёсць у нас, пароды дрэў. Часцей яны мяшаюцца паміж сабой і растуць дзе якое дзерава аблюбуе сабе месца. Во між хмурнаватых хвояў бесцырымонна ўплішчылася легкадумная весялуха бяроза. А там у падсуседзі хвоям напрасіўся шыракалісты клён, за ім з лясной гушчэчы вока выхапіць то зеленакорую лапатуху-асіну, то размашысты дуб, то чарнастволую вольху, то змрачнаватую ўдумную елку, то святлявы ясень… Дзе-нідзе дрэвы адной пароды збіраюцца разам, не пускаючы ў сваю сям’ю, у сваё родавае стойбішча чужакоў. Тут можна ўбачыць і стромкі, прапахлы жывіцаю шчыры бор, і светлы беластволы беразак, і зелянцовы стары асіннік, і мройны ясеневы гаёк, і цяністую зялёную дуброву.

А недалёка ад Фаліч, там, дзе Конка, ідучы ад пераезда, робіць калена і выкіроўваецца ў наш бок, мне заўсёды хочацца запыніць вочы на ладную сходку грабаў. Роўная сіваватая афарбоўка іх ствалоў і галін, скіраваных уверх, пад вострым вуглом, раскошнае цяністае лісце — усё гэта наводзіць на думку пра іх нетутэйшасць, прышласць аднекуль з поўдня. Ці, можа, яны проста затрымаліся ў нас пасля апошняга глабальнага пахаладання? Затрымаліся і захавалі сваю чароўную першароднасць, самавітасць. І праўда, якія яны ўсё ж элегантныя, гэтакія шляхетныя, высакародныя, вельмі зграбныя, грабы! Ці ж не ад яго, ад граба, і гэтае самабытнае наша беларускае слова — зграбны?

Чужы чалавек, праходзячы Конкай, пэўне ж, залюбуецца, не можа не залюбавацца, нашымі зменлівымі, адвечнымі лясамі, асмужанымі лугавымі прагалкамі, цяністымі бакавымі дарогамі і лінькамі-просекамі. Але і толькі таго.

Мне ж яны любыя не адной «чыстай» красой. Тут жа недзе заблудзілася маё маленства. Ды і юнацтва. Тут — ад Зялёнай Дубровы да Высокага Насыпа, сярэдзіны Конкі — я аблазіў некалі ўсе куточкі, вышукваючы баравікоў ды краснагаловікаў, сюды прыходзіў з касой, каб выкасіць на лясных прагалінах сена, прыганяў пасвіць — па чорнагалове ды пажарніцы — каровы.

Ідучы Конкай усе сем кілометраў ад Фаліч да Зялёнай Дубровы, бывае, не спаткаеш — ні туды, ні назад — аніводнай машыны ці матацыкла, аніводнага чалавека. Ідзі сабе адзін на адзін з дарогай, з лесам, з сонцам і воблакамі. Ніхто не пераб'е тваіх думак, не перарве нітку ўспамінаў.

На Высокім Насыпе я даю нагам адпачыць. Відаць, акурат для такіх падарожных леснікі збілі тут, на паўдарозе, з роўных ачасаных жэрдак ладную лаўку, на якой можна не толькі пасядзець, а і прылегчы.

Пры лаўцы, пад крываватай хвояй, — вялікі мурашнік. Прысаджваюся і гляджу, як ажыўлена снуюць туды-сюды яго насельнікі — лясныя рыжыя мурашкі. З усіх бакоў цягнуць на сабе ў свой палац хваёвыя шыпулькі, карынкі, шпянькі сухіх галінак, даводзяць да ладу сваё жытло, свой асаблівы свет. І ведаць нічога не хочуць, што дзеецца па-за ім, гэтым іхным светам. Гледзячы на іх, лаўлю сябе на думцы, што, мусіць, з усяго жывога на зямлі самыя нешчаслівыя — людзі, якім усё трэба ведаць, пра ўсё думаць, якія бяруць да галавы ўсё, што робіцца на свеце, усё прапускаюць праз сэрца, нажываючы свае стрэсы ды інфаркты.

Бліжэй пад Зялёную Дуброву лясы перарывае вялікае гала.

Раней тут рассцілалася балота. Калі ў студэнцкія гады я прыязджаў з Мінска, яно сустракала мяне манатонным бумканнем жаб.

Злева балота было трохі «акультурана»: некалі тут пракапалі канаву, якая, відаць, і сцягнула з яго ваду. Ці не прычыніўся да гэтай асушкі вядомы ў свой час меліяратар Іосіф Жылінскі, які ў 1873—1898 гадах узначальваў так званую Заходнюю экспедыцыю па асушэнні балот Палесся? Калі пракладка нашай канавы — яго работа, зялёнадуброўцы павінны былі яму добра падзякаваць. Тут жа кожнаму можна было накасіць сена. Сенакос цягнуўся аж да Падзераў, урочышча пры самай Зялёнай Дуброве. Быў ён, праўда, неважнецкі: асака ды круглец, амаль увесь у куп'і. Ды ўсё ж лепш чым нічога.

На ўсёй яго прасторы, здаецца, не знайшлося б і лапінкі, якую б не скошваў некалі і я — ці то разам з калгаснымі

касцамі-дуброўцамі, ці то адзін (а часам з братам Алікам), калі мацеры адмервалі нейкую дзель на «працэнты» — ад колькасці працаднёў ці за здадзенае дзяржаве малако.

З правага ж боку Конкі (калі ісці з Фаліч) балота, якое тут было намнога меншае, аставалася доўгі час нечапанае. Такое, як і спрадвеку. Роўнае, з рэдзенькай чэзлай траўкай і там-сям з чубкамі асаковых купін, на якія часам вылазілі лупатыя зялёныя жабы. Спужнеш якую з іх, і тая з падскокам плюхнецца ў рудую балотную каламуць, гайдануўшы купіну, што нейкім чынам трымалася на паверхні — калі б хто ўздумаў ступіць на яе, тут жа паляцеў бы з ёю ў невядома якую бездань. Толькі бурбалкі б шугнулі ўгору. Зрэдчас бурбалкі і самі па сабе, нібы малыя вулканчыкі, вырываліся з настоянай на сонцы багны, аддаючы смярдзючым тхлом.

Затое вясною на ўскрайку гэтага балота, пры Концы, вабячы да сябе, расцвітала яркая, здалёку відная жоўтая-жоўтая лотаць, і рука сама лезла выцягваць яе з твані за мяккія таўставатыя сцяблiны з лапушнымі бліскучымі лісцямі пры суквеццях. Паставіш такі зіркаты букет у слоік з вадою на падаконніку, і ён доўга будзе ў хаце радаваць усім вока, а ў слоіку хадзіць сонца — вясна ж.

Гадоў дваццаць ці трыццаць назад балота па два бакі Конкі — і дагэтуль нечапаная яго частка, і тая, значна большая, злёгку «падкультураная» палавіна — было асушана капітальна. Сучасныя экскаватары ды бульдозеры пралажылі і тут, і там глыбокія і шырокія канавы-каналы, падзяліўшы ўсю прастору колішняга балота на роўныя клеткі.

Наш калгас з горам напалам асвоіў бліжэйшую да яго большую палавіну былога балота, другая ж, меншая палавіна, яшчэ доўга аставалася не засеяная, гадамі ляжала аблогаю. Да яе ў калгаса проста не даходзілі рукі, якіх тут рабілася ўсё менш і менш. Раённыя начальнікі пачалі шукаць, каго «дабравольна-прымусова» адарыць гэтай першакласнай тарфяна-чарназёмнай зямлёй, каму яе прыпаднесці на талерачцы. Вось дзіва: ніхто не хацеў браць тое, што спрадвеку было самае дарагое для земляроба. Нейкім спосабам уламалі на гэта шчыткавіцкі калгас-перадавік «Перамога», да якога ад нас — кілометраў трыццаць. І от адтуль — за блізкі свет — пачалі ганяць у нашу глушэчу трактары, камбайны, касілкі, грабалкі, машыны з людзьмі. Зашумела, загуло колішняе глухое балота, «бы землетрасенне». Ды не намнога хапіла Шчыткавічам духу абрабляць наша закінутае тарфянішча: мусіць, страты на адзін бензін пераважвалі ўсе іх

тут набыткі. Адбаярылася неяк «Перамога» ад такога падарунка. Тады яго ўсырычылі саўгасу «Слабадскі», які, здаецца, ненашмат бліжэй ад нас — аж пры Старых Дарогах. Якую карысць мае ён з былога нашага балота — не ведаю. Але тарфянішча тут, здаецца, не гуляе: на ім заўсёды нешта зелянее, больш за ўсё нейкая трава-сеянка.

Хоць даўно гэта — добра ўробленае поле, на якім і знаку няма ўжо ад колішняй багны, але дуброўцы ўсё роўна завуць яго Балота. «Куды, — пытаецца нехта, — пойдзем сёння ў грыбы?» — «За Балота», — пачуецца ў адказ. За Балота — гэта значыць, сюды, за поле-тарфянішча, у бок Фаліч.

Каля Марозаўшчыны, даўно ўтравелай ялавіны, ад Конкі адбягае дарога ўлева: там, зразу за ляском, і адслоняцца воку падарожнага хаты маёй Зялёнай Дубровы.

Адзіная вуліца нашай вёскі выструнілася пад востраватым вуглом да Конкі. Гэты бліжэйшы канец адсунуўся ад яе невялічкім лесам. Другі ж канец вёскі падходзіць пад Конку амаль упрытык.

З дарогі я скіроўваю праз хвойнічак на сярэдзіну вёскі — там мая хата. Вунь яна глядзіць ужо на мяне шырокімі вачамі вокан, пералівіста паблісквaючы на сонцы шыбамі.

Пераходжу пасыпаную гравіем вуліцу і адкідаю зашчапку сваіх, збітых з дошчачак віскілвых варотцаў: я — дома. Адмыкаю хату, скідаю з плячэй свой дарожны хатуль і, хоць натаміўся, добра набіў за дарогу ногі, бягу барзджэй глядзець сядзібу: як жа там мой сад-агарод?

Хату я купіў у Корзунаў у 1991 годзе. Дагэтуль усе мы, браты і сёстры з сваімі дзецьмі, прыязджалі з Мінска і з Старых Дарог у нашу агульную, даўно абжытую намі хату, якую пачаў будаваць у 1942 годзе бацька, а пасля яго смерці дабудоўвала маці. Усім нам добра было збірацца ў сваёй хаце разам, мы толькі радаваліся адно аднаму. Але наша вялікая сям'я так разраслася, што ў хаце часам было не павярнуцца. Тады я і надумаўся набыць сваё асобнае жытло ў Зялёнай Дуброве. Балазе я намерыўся жыць тут пастаянна — з ранняй вясны да познай восені.

Раней я марыў прыдбаць сабе лецішча не дома, а ў якім-небудзь маляўнічым кутку Беларусі. Ездзячы ў камандзіроўкі, я нямала нагледзеў такіх куткоў. Як гэта здорава было б пасяліцца, скажам, на чароўных Браслаўскіх азёрах! Жыць сярод блакітнай воднай прасторы, сядзець там, колькі захочацца, з вудачкай, пагойдвацца з возера на возера на лодцы, любавацца адбітымі ў вадзе залатымі ўсходамі і заходамі сонца, кідацца кожнай раніцы ў абдымкі лагоднай азёрнай хвалі. Або купіць дамок у прынара-

чанскай вёсачцы, каб удзень і ўночы слухаць з адчыненага акна заўсёды свежае дыханне разгайданага вятрамі неабдымнага — ад неба да неба — вольнага разліву вады, што нядарам называюць морам. Ці пасяліцца каля празрыстай «шыбіны лёду» — легендарнай Свіцязі, авеянай чарамі Міцкевічавай паэзіі? Цудоўныя мясціны сустракаліся мне і на нашым Паазер'і, каля спакойнай плыні велічнага Дняпра з яго крутымі пясчанымі берагамі, на Заходняй Дзвіне, на Нёмане ды і многа дзе яшчэ.

Але, налюбаваўшыся на ўсю тую красу, нажыўшыся там у салодкіх мроях, параўнаўшы нагледжаныя цудоўныя куточкі са сваімі, я пераканаўся ў адным: нідзе на Зямлі, як бы ты ні шукаў, не знойдзеш лепшага месца, чым дома.

Калі пасля бясплённага бадзяння па свеце, пасля частага пераскоку з аднаго месца на другое ў пошуках прыстойнага хлеба мы, дарэмна паабіваўшы бакі і назарабляўшы гузакоў, варочаемся нарэшце дадому, на бацькаўшчыну, то зусім другімі вачыма глядзім на сваю зямлю, дзе праляцела маленства, дзе былі спазнаны першыя юнацкія радасці. Толькі тады са здзіўленнем і замілаваннем адкрываем мы для сябе ўсё яе хараство, ні з чым не зраўнаную прыгажосць дарагіх краявідаў.

А галоўнае, мы зноў трапляем у свой абжыты продкамі і мілы нам свет, які стаў і нашым родным светам. Усё тут люба нашаму сэрцу. Тут жа асталіся пратаптаныя некалі намі сцежкі, нашы сляды. Тут лёгка дыхаецца, шырока і вольна ступаецца. Толькі тут чуем мы сябе на сваім месцы. Як тая рыба, якая была выкінута з вады і якая, патрапятаўшыся на сухім беразе, наха́каўшыся ад недахопу жыццёва патрэбнага ёй кіслароду, ізноў апынулася ў вадзе — у сваёй роднай стыхіі.

Калі я некалькі гадоў назад канчаткова скінуў з плячэй свае неадчэпныя службовыя вярыгі, якія цягаў на гарбу ўвесь «паўнастажны» век, і, выбавіўшыся з гарадскога мурашніку, вярнуўся нарэшце дадому, у сваю Зялёную Дуброву, пад яе воблакі і зоры, каб жыць на вольнай волі, ні ад кога не залежна, нікому не кланяючыся, то адчуў сябе тым воўкам, якому ў аблаву з абстаўленага жахлівымі чырвонымі сцяжкамі загону ўдалося вырвацца ў свой лес, недаступны для ахвотнікаў спусціць з яго скуру. Цяпер, калі далёка ззаду асталася пагоня, калі сціхлі, улягліся крыкі і галёканне лаўцоў, яму, воўку, можна спакойна агледзецца ў лясной непралазі, пачухаць і аблізаць языком паабіваныя бакі, без страху пазіраць на сіняе неба між грабавага голля, слухаць пошум вятроў у хвоях ды лавіць чуйным вухам зыкі свайго роднага свету.

## ЗАНЯЦЕЧЧА, АБО ПОШУКІ КАРАНЁЎ

Кожная вёска, як і чалавек, мае сваё ўласнае аблічча, сваю біяграфію. Адначасна ў любой, нават самай маленькай вёсачцы, як у каплі расы сонца, адбіваецца гісторыя ўсёй краіны.

Зялёная Дуброва — вёска невялікая. Складаецца яна з адной вуліцы. У часы яе самага росквіту ў ёй было крыху больш за семдзесят двароў. Сёння асталіся толькі лічаныя хаты. Як «неперспектыўная» яна асуджана на адміранне. Няўжо гэта ізноў тут стане пустка? Як з гэтым змірыцца?

Заснавалі Зялёную Дуброву мае продкі.

Хто яны такія? Адкуль сюды прыйшлі?

Ад старых людзей я даведаўся, што гэта былі арандатары чужой зямлі, што яны часта пераязджалі з месца на месца. Толькі абжывуцца, прывыкнуць да сваёй арэнды, як гаспадар напамінае, што скончыўся кантракт і трэба вызваляць месца новаму найміту. Ізноў астаецца земляроб-арандатар паміж небам і зямлёй, ізноў павінен шукаць ласкі ў новага гаспадара.

Пра долю арандатара, мусіць, як ніхто лепш з беларускіх пісьменнікаў расказаў Уладзіслаў Сыракомля ў гавэндзе «Акраец хлеба». Пра тое, як старому беззямельнаму шляхцічу Лагоду — пад гэтым імем паэт вывеў свайго бацьку Аляксандра Кандратовіча — гаспадар загадаў выбірацца з абжытай арэнды, каб перадаць яе іншаму, упадабанаму ім чалавеку. Хочаш не хочаш, Лагода мусіў збіраць манаткі і ехаць з сям'ёй у свет шукаць новую арэнду. Гэта была вялікая сямейная драма, апісаная з болем у сэрцы, з крыўдай на людскую чэрствасць і з нараканнем на долю беззямельніка, які не мае ні кала ні двара, а таму змушаны бадзяцца на старасці гадоў па свеце.

Мае продкі арандавалі зямлю на сутоках трох раёнаў — Старадарожскага, Асіповіцкага і Слуцкага. Мне даўно рупіла пабываць у тых мясцінах, дзе некалі яны абраблялі зямлю, параспытваць старых людзей пра мінулае, пашукаць сляды маіх дзядоў і прадзедаў.

Змалку я ведаў, што апошняй арэндай маіх продкаў «па мячы» было Заняцечча. Адтуль яны і прыйшлі ў Зялёную Дуброву. «Заняцечча, Заняцечча» — гэтае слова заўсёды было на языку ў дуброўцаў. Мне ж тое Заняцечча ўяўлялася, як нейкая чароўная таямнічая краіна, як прыгожая казка.

Летам 1976 года я гутарыў з чалавекам, які добра ведаў заняцецкіх, як ён казаў, «Цвіркоў», нават сябраваў з імі яшчэ да заснавання Зялёнай Дубровы. Быў гэта не хто іншы, як

пляменнік майго дзеда па мацерынай лініі Косціка (ці Костуся) Рымашэўскага — Павел Рымашэўскі. Жыў ён пры дачцэ ў Вярхуціне, вёсцы (і чыгуначнай станцыі) за Старымі Дарогамі. Заявіўся я да яго з блакнотам і рэдкім тады партатыўным магнітафончыкам. Майму сваяку Паўлу, Адасёваму сыну, было ў той час — ні многа ні мала — 106 гадоў як лёду!

На ўсю раскрутку запусціў я тады свой магнітафончык. Як мне ні шкада, нешта не ўзялася на плёнку тая наша гутарка. Толькі таго і асталося з яе, што ў блакноце ды ў памяці.

Дзед Павел расказаў мне, што ў Заняцеччы стаялі тады толькі чатыры хаты. У трох з іх і жылі Цвіркі з сем'ямі — Юрась, Антось і «ўдавіны». Ён так і сказаў — «удавіны». І ўдакладніў: «Не было ўжо бацькі». Гэта значыць, трэцяга з братоў — Габруся (або Гаўрылы), майго прадзеда, які чамусьці рана памёр. У хаце асталася мая прабабка, удава, з дзецьмі — «удавінамі» Уладзікам, Алесем і Сымонам, маім дзедам. Трэба думаць, былі ў майго прадзеда і прабабкі таксама і дочкі. Толькі пра іх мне нічога не расказаў Павел Рымашэўскі. Вельмі шкадую, што я не дапытаўся ў яго, як звалі маю прабабку.

Рымашэўскія зблізілся з Цвіркамі, калі арандавалі зямлю ў Жыціне — паблізу Заняцечча: «Нашы сенакосы ляжалі побач, з іхнымі межаваліся». У касавіцу суседзі перагукваліся паміж сабой, у нечым памагалі адны адным. Разам спраўлялі яны і святы. То ў Заняцеччы, то ў Жыціне. Прыязджалі адны да адных у госці і на Вялікдзень. «Бывала, — расказваў дзед Павел, — панапе́каем булак — два тыдні ядзім». Гарэлку — была яна «жоўтая» — куплялі «ў карчме ў жыдоў». Стаяла гарэлка там у бочках: «адкруціў крант — і налівай, колькі хочаш: вядро, гарнец, кварту». За кварту плацілі 10 капеек. «За два рублі можна было вяселле справіць». Гулялі вяселлі на шырокую нагу: спярша «пасля вянца», потым дзён два ў маладой, гэтулькі ж — у маладога. Гулялі, як і належыць: са сватамі, з дружкамі, з маршалкамі. З музыкай і песнямі.

У Заняцеччы, казаў дзед Павел, Цвіркі жылі здаўна. Яны першыя «разрабілі там зямлю». Як відаць, адваявалі ў лесу і ў балота, таму гады два мала плацілі за арэнду. Потым — болей. Другі мой сваяк з тых жа Рымашэўскіх Антось Янкаў расказваў мне, што Цвіркі сядзелі ў Заняцеччы цэлых трыццаць гадоў. Паводле закону, яны маглі даўно адсудзіць зямлю сабе, бо калі чалавек арандаваў яе тры гады, яна пераходзіла да яго ва ўласнасць. Але судзіцца з панам, гаспадаром зямлі, мае продкі

нават і не думалі, бо добра ведалі, што суд будзе не на іхным баку. «Хіба ж пан пану выкале вока?» — казаў Антось.

З Заняцечча і намерыўся я пачаць сваё падарожжа па родных ваколіцах.

Дарогу падказала мне Акулічава Насця, якой не раз даводзілася наведвацца ў тую вёску, бо там была замужам старэйшая сястра яе Івана — Таня. Адзін раз — усяго адзін раз! — я некалі мімаходзь заязджаў у Заняцечча, але з іншага боку, і дарогі туды, па сутнасці, не ведаў. Аказваецца ж, дабірацца туды вельмі проста: спачатку Конкай да Закруглення, а там павярнуць на першую ж дарогу налева. Яна і прывядзе ў Заняцечча.

І от я выкатваю за варотцы адзіны свой транспарт — лёгкі і паслухмяны мне веласіпед. Націскаю нагой на педаль, з маху ўскакваю на скураное сядло, і па цвердзіні выбітай чаравікамі і босымі пяткамі бакавой вулічнай сцежачкі весела і суладна пашурхваюць туга надутыя насосам колы. Я еду!

Прабягаюць міма платы і хаты маёй Зялёнай Дубровы, з-пад Бронінай падваротні з залівістым брэхам кідаецца мне пад колы куртаты ды надта ж звяглівы Жучок, але ўбачыўшы, што яго не баяцца, адкочваецца ад мяне і, падцяўшы хвост, з незадаволеным бурчаннем пляцецца назад.

Я еду! Еду ў невядомае мне мінулае. Збіраць камяні развalенага Часам будынка нашага Учарашняга Дня.

Выбраўся ў дарогу я пасля палудня, бліжэй к вечару. Бо баяўся пякельнага сонца. Лепей было б, мусіць, выбраць іншы, больш лагодны, а не такі задушлівы дзень. Але прырода не давала мне выбару: ужо другі месяц стаяла невыносная спякота. Між іншым, такога гарачага лета ніхто ў нас, нават самыя старыя людзі, не помніў. Як паведамлялі сіноптыкі, на поўдні Беларусі (а мая Зялёная Дуброва бліжэй пад поўдзень) тэмпература паветра дасягала 35—39 градусаў Цэльсія! Нават уночы не спадала гарачыня. Каб трохі зменшыць у маёй зялёнадуброўскай хаце задуху, мы з жонкай зачынялі на дзень вокны, завешвалі іх ад сонца, а яшчэ ставілі на падлозе ў вёдрах халодную ваду з калодзеся і мянялі яе па меры награвання. І гэта было якраз у той час, калі на поўдні Расіі і ў заходніх краінах — Германіі, Чэхіі, Францыі і некаторых яшчэ ішлі бесперапынныя ліўні, ды такія, што залілі небывалай паводкай многія гарады і сёлы, прычыніўшыся да катастрафічных разбурэнняў і гібелі мноства людзей.

Ды сонца я баяўся дарэмна: дарога ішла больш лесам, а калі выбягала на гала, то ад надакучлівага прамення расшчодранага

нябеснага свяціла засланяла мяне густая лістота ўзбочных дзікіх прысадаў.

Выпраўляючыся ў дарогу, я палажыў у мацерчаты мяшэчак акрайчык хлеба з бруском расійскага сыру, свежы, з грады, агурок, некалькі ванільных сухарыкаў — на перакусак, нож-складанчык — на ўсякае якае, ліхтарык з новымі батарэйкамі — на выпадак, калі запазнюся і застане ў дарозе ноч. Яшчэ ўвапхнуў стары фрэнч — мо захаладае к ночы. Добра завязаў мяшэчак і ўціснуў яго ў багажнік. Ды тут жа дастаў і ўкінуў яшчэ карабок запалак (можа, мала ўсё ж будзе ліхтарыка, калі ў цемры давядзецца спаткацца з якімі ваўкамі). Але праз хвіліну я ізноў палез у мяшэчак і выкінуў тыя запалкі, бо ўспомніў, што ў цяперашнюю суш забаранялася нават проста хадзіць у лес, каб выпадкова не падпаліць яго. А раптам дзе загарыцца ды кінуцца шукаць падпальшчыка? Убачаць мяне з запалкамі — даказвай тады, што ты не вярблюд. Гэтакая кіравала мною перасцярога: што ж, такі ўжо я.

Само сабой разумеецца, са мной у кішэні быў і верны блакноцік ды простая шарыкавая ручачка са свежым стрыжнем: збіраць даніну людской памяці.

Калі Конку ў бок Фаліч у апошнія часы добра падправілі, засыпалі на ёй усе выбоіны, зрабілі роўнай — хоць каціся — гравейкай, то ў дрычынскім баку яе зусім запусцілі, яна стала там непраезнай для машын, ды і для коней. Пэўне ж, таму, што апынулася на мяжы дзвюх абласцей — Мінскай і Магілёўскай: пасля апошняга адміністрацыйнага падзелу Беларусі, «перакройкі» яе карты Зялёная Дуброва асталася, як і была, у Старадарожскім раёне, а Дрычын і Заняцечча перайшлі ў Асіповіцкі. Глухія ўскраіны абодвух «суверэнных» раёнаў і абласцей, як відаць, страцілі патрэбу ў камунікацыі паміж сабой.

Але веласіпедам з горам напалам і ў гэты дрычынскі бок праехаць можна: дзе ўзбочнай сцежкай, пратаптанай грыбнікамі, ягаднікамі ды паляўнічымі (тут жа, як кажа прыбітая на слупе шыльда — «Дражненская охотдача»), дзе вузенькай броўкай, умураванай сіўцом, гусінай лапкай ды густымі чубкамі прыземістага чабарку, а дзе і цвярдзейшымі месцамі самой дарогі.

Ехаў я не спяшаючыся. Дзе чуць пясок ці выбоіна, саскокваў з веласіпеда і каціў яго перад сабою. Хацелася яшчэ раз, толькі цяпер ужо «гуляючы», «мэтанакіравана» агледзець знаёмыя з маленства мясціны і палюбавацца новымі, раней не бачанымі.

Больш пільна прыглядаўся я да старых уздарожных дубоў.

І не проста так. У мае мазгі ўбілася адна вар'яцкая думка: пашукаць у цяперашніх вандроўках па нашых ваколіцах адзін вельмі зманлівы схоў — мядзяную скарбонку маіх дзядоў.

Пра яе мне расказаў калісьці малодшы бацькаў брат Федзя, якому ў сваю чаргу раскрыў гэты сакрэт мой дзед Сымон. У той скрынцы-скарбонцы нібыта складваліся продкамі ўсялякія сямейныя рэліквіі, дарагія жаночыя аздобы, дакументы. А яшчэ — што асабліва распальвала маю фантазію — там захоўваўся родавы паўсядзённік-летапіс, які вялі мае дзяды і прадзеды Бог ведае з якіх часоў!

Хавалася, вельмі шчыра зберагалася тая скарбонка ў хатніх тайнічках, недаступных дзецям. А калі прыйшлі бальшавікі і пачалі з наганамі ды даўгімі вінтоўкамі гойсаць на конях па сёлах і засценках, вышукваючы «лішкі» збожжа, а заадно срэбразолата ды ўсякі «кампрамат», нехта з маіх дзядоў мусіў перахаваць дарагую родавую скарбонку далей ад ліхіх вачэй, у больш надзейнае месца. Пра скарбонку, пра тое, дзе яна захоўваецца, мой дзед Сымон быццам бы расказаў дзядзьку перад вайной, незадоўга да сваёй смерці. Ды дзядзька Федзя ў завірусе падзей (вайна, партызаншчына і пасляваенная міліцэйская служба ў Доме ўрада) забыўся пра яе. Успомніў толькі тады, калі я пачаў роспыты пра нашу мінуўшчыну. Але вось дзе яна ляжыць, тая загадкавая скарбонка, ён зусім забыўся. Успомнілася яму толькі тое, што нібыта мой дзед (ці нехта з яго братоў) закапаў запаветную скарбонку недалёка ад дарогі пад дубам, добра прываліўшы яе каменем-валуном. Пры якой дарозе стаяў той дуб, дзядзька не ведаў. Ён нават не мог сказаць мне, у якім напрамку ад Зялёнай Дубровы трэба шукаць незвычайную хованку. Так што знайсці яе — задача з задач: у ваколіцах жа Зялёнай Дубровы дубоў — безліч. Як і розных дарог.

Цяпер, калі я сабраўся аб'ездзіць ды абхадзіць гэтыя дарогі, чаму б мне не кінуць вокам і на сустрэчныя дубы, не прыглядзецца да камянёў пад імі? Ведама, надзея натрапіць на той самы дуб з каменем-валуном пры ім была ў мяне вельмі слабенькая, амаль нулявая. Тым больш што я не зусім упэўнены, ці акурат так запомніў колішні дзядзькаў «аповед». Можа, я што дасніў? Але калі б усё было так і калі б здарыўся цуд — ды тая амаль фантастычная скарбонка папраўдзе знайшлася, якое б гэта было шчасце!

Ці ж не шчасце — убачыць запісаныя на паперы словы далёкіх продкаў! Гэта ж як жывы голас, данесены з вякоў! Ве-

стачка нашчадкам! Нітка, што звязвае паміж сабой пакаленні, што не дала б маім продкам навек згубіцца ў чорнай прорве Часу.

Ведаць сваіх продкаў, мінулае сваёй зямлі — душэўная патрэба кожнага чалавека, хоць і не заўсёды ім усвядомленая. Як цёпла і светла робіцца ў нас на душы, калі мы, даўно ці нядаўна страціўшы, успамінаем сваю матку, свайго бацьку, сваю добрую бабку, роднага дзеда. Ці ж не таму ў сваіх хатах, на самых відных месцах вывешваем мы ў зашклёных рамках іх партрэты, іх фотакарткі? Ці не таму клапатліва даглядаем іх магілкі, выбіваем іх дарагія імёны на надмагіллях, садзім краскі на месцы іх вечнага спачыну? Ці не таму кожны год збіраемся да іх на Радаўніцу, спраўляем свята Дзядоў, клічам іх да сябе на куццю, за святочны стол?

А якое радаснае і ўрачыстае было б наша свята, калі б на гэты наш кліч заявіўся перад намі як можна больш почат усяго разгалінаванага роду да самых далёкіх каленаў! Ды заявіцца, адгукнуцца на гэты кліч могуць толькі душы (а то і лікі) тых продкаў, пра каго мы хоць што-небудзь ведаем ці каго можам назваць па імені.

Гэта ж так цудоўна, так здарава — ведаць свой род, адчуваць сябе яго неад'емнай часцінкай! Нашы продкі, блізкія і далёкія, жылі дзеля нас, сваіх унукаў і праўнукаў, сваіх нашчадкаў, дбалі пра нас яшчэ да нашага нараджэння, рабілі ўсё ў сваім часе, каб нам было добра. З свайго Часу, з сваёй Вечнасці яны і цяпер незаўважна спрыяюць нам, памагаюць у цяжкія хвіліны. Але толькі тады, калі мы іх помнім, калі паклічам у думках. Інакш іхныя гойныя чары дабрыні і любові проста не знойдуць нас. Чалавек, які помніць і шануе сваіх продкаў, сам робіцца дабрэйшым, мудрэйшым, ён цвярдзей стаіць тады на зямлі, ён больш спакойны і ўпэўнены ў сабе, а жыццё яго ў параўнанні з бяспамятнымі, бязроднымі больш асэнсаванае, больш трывалае, больш шчаслівае. Адным словам, чым глыбей і шырэй ведаем мы свой род, тым багацейшыя мы духоўна, тым лягчэй і цікавей нам жыць на свеце.

Каго з свайго роду ведаю я? Мне пашчаслівіла жыць пры бацьку, пры мацеры, пры дзвюх бабунях (абедзвюх звалі Гэля), пры дзеду Сымоне — бацькавым бацьку. Ад старых даведаўся я і пра свайго прадзеда Габруся Цвірку-Гадыцкага, які, так мяркую, пасля «мяцяжа» 1863–1864 гадоў перайшоў з каталіцтва ў праваслаўе і назваўся ўжо Гаўрылам. На могілках у Жыціне, нашым валасным цэнтры, мне ўдалося знайсці і яго надмагілле — абчасаны камень-валун з выбітым, вельмі цьмя-

ным ужо, заімшэлым надпісам. Нядаўна разам з братам Алікам і яго сынам Дзімам з дапамогай вады і ножыкаў мы беражна ачысцілі ўсе літары, і перад намі адкрылася сто гадоў схаваная тайна: «Гавриилъ Цвирко. Жил 46 летъ. Умер 20 февр. 1888 года. Память от жены». Якая важная інфармацыя! З яе вынікае, што і праўда, як казаў Павел Рымашэўскі, нашы продкі жылі каля Жыціна, у Заняцеччы, даўно. Што Гаўрыла Цвірка меў у воласці немалую вагу, раз быў уганараваны каменным помнікам. Што ў час «мяцяжу» майму прадзеду было 22 гады. Ці не браў і ён удзел у антыцарскім паўстанні?

У росшуках маіх продкаў «па мячы» вельмі памог мне ўнук Паўлюка Цвіркі-Гадыцкага, сын яго дачкі Ліды Валера Казлоўскі, вельмі дапытлівы і разумны хлопец, які шчыра ўзяўся вышукваць свае карані, выстройваць нашу з ім генеалогію. На запыт пра сваіх продкаў па мацерынай лініі яму прыслалі з архіва вельмі цікавы дакумент, які на цэлыя тры пакаленні пашырае наша веданне пра свой род. Гэта — «Свидетельство», дадзенае двараніну Слуцкага павета Якаву Фёдараваму сыну Цвірку-Гадыцкаму па яго «прошению». У ім сцвярджалася, што паводле дакументаў Мінскага Дваранскага Дэпутацкага Сходу «род Годыцких-Цвирков, а в числе онаго и настоящий проситель Яков с родным братом Фелицияном, сыновья Федора Николаева Годыцкие-Цвирки, определениями сего Собрания 3 сентября 1802, 12, 25 и 26 октября 1802 […] 29 марта 1845 годов состоявшимися, признаны в дворянском достоинстве с внесением в Шестую часть дворянской родословной книги Минской губернии и в этом звании утверждены Указом Правительствующаго Сената, Геральдии от 8 маія 1847 года за № 6722, в сие Собрание последовавшим». Далей у дакуменце пацвярджалася «дворянское достоинство» і «Антона, сына Феліцыяна». Якраз пра яго, Антона Цвірку-Гадыцкага, свайго прадзеда (і роднага брата майго прадзеда Габруся) і рабіў запыт Паўлюкоў унук Валера. Гэты дакумент адкрыў мне, такім чынам, імёны майго прапрадзеда Феліцыяна, прапрапрадзеда Фёдара і прапрапрапрадзеда Мікалая. Значыць, я ведаю ўжо аж шэсць каленаў свайго роду!

З боку бабкі Сымоніхі я ведаю імя толькі прадзеда Аляксандра Дарэўскага, які асеў, невядома адкуль наехаўшы, у Шантароўшчыне на Случчыне. Вельмі шкадую, што не дапытаўся некалі, хаця б як звалі яго жонку — маю прабабку.

З маіх продкаў «па кудзелі» назаўсёды асталася ў маёй душы як нешта вельмі харошае і светлае бабка Косцічыха. Яе ж гаспадара дзеда Косціка Рымашэўскага я ведаю толькі з расказаў

блізкіх, бо ён памёр за два гады перад маім прыходам у гэты свет. Асталіся са мной і імёны Костусевых бацькоў — Аляксандра і Віктусі Рымашэўскіх. З бацькоў бабкі Косцічыхі я застаў яшчэ ў жывых толькі Мітрафаніху — Прузыну (з роду Яльніцкіх). Сам жа прадзед Мітрафан Дубовік жыве ў маёй душы больш з расказаў старых.

Да сваіх продкаў далучаю я і ўсіх дзядзькоў і цётак, братоў і сясцёр сваіх дзядоў розных «ліній» з іх дзецьмі.

Калі б сабраўся ў адначассе ўвесь наш шырока разгалінаваны род на свята дзядоў, унь колькі б трэба было наставіць у нейкай вялікай зале сталоў, каб усе занялі свае месцы ў мнагашумным радасным застоллі.

Палову дарогі, бліжэйшую да Зялёнай Дубровы, больш пратаптаную і знаёмую мне да драбніц, я праехаў скора.

На Закругленні ж, самым дальнім нашым кутку, за якім пачынаюцца ўжо дрычынскія ўладанні, я мусіў саскочыць з веласіпеда. Перада мной ляжалі — адна за адной — расшастаныя цяжкімі лесавозамі шырокія, на ўсю дарогу яміны з закарэлаю ад цяперашняй гарачыні гразёю і адбітымі на ёй шынамі магутных колаў. Яшчэ калі Конка была праезнай дарогай, у Закругленні заўсёды гразлі машыны: месца тут нізкае, з абодвух бакоў падступае пад дарогу забалочаны лес з мохам і непралазным падлескам ды лам'ём, поўным рознага гадаўя.

Каб выбавіцца адсюль, я асцярожна вёў веласіпед па вузенькіх і высокіх, падобных на бардзюры перашыйках, што аддзялялі гэтыя карыты-ямы ад уздарожных сцёкавых канаў, сам жа цаляў нагой то на якую ўціснутую ў гразь ламачыну, то проста на падсохлыя «рабрыны» ад шынаў.

Пасля нагаломнага Закруглення Конка стала весялейшая — роўная, цубкая, з нізенькай траўкай пасярэдзіне. Хоць каціся!

Неўзабаве ў вочы кінулася і нешырокая, як праехаць машыне, дарога. Ці тая хаця? На рэдкай, выпаленай сонцам траве значыўся чуць заўважны машынны след. Справа я ўбачыў і працяг дарогі. Яна кіравалася ў бок Майсеевіч, на шышчыцкаасіповіцкую шашу. Я ўспомніў, што і Насця казала пра гэтае перасячэнне. Значыць, усё правільна: перада мной была дарога на Заняцечча.

Спачатку ішла яна лесам — хвоі з рэдкімі бярозамі, між якіх часам вытыркалася арабінка, звешваючы над дарогай падружавелыя ўжо (мусіць, ад залішняй спякоты) шышакі сваіх гаркавых ягад.

Потым справа засвяцілася між разлапістых хвой гала. Гэта было поле. Заняцецкае поле.

Збочыўшы з дарогі, я павёў веласіпед проста на яго. Поле ляжала аблогай. Ды яшчэ не ўдзірванела. Відаць, летась тут сеялі: на ім шарэў збуцвелы іржэўнік. Пракідаліся зялёныя елачкі хвашчу, густыя покрывы свінакропу з драбнюткімі серабрыстымі суквеццямі, рыжыя, абкіданыя сухімі лускавінкамі семеннікоў стаўбункі вераб'інага шчаўя.

Ды гэта ж тое самае поле, якое некалі абраблялі мае продкі!

Як жа я толькі цяпер ступіў на яго? Як дагэтуль не пабываў на колішняй нашай зямлі, хоць ляжала яна, можна сказаць, пад бокам: усяго якія дзясятак кілометраў ад Зялёнай Дубровы?

Я паволі вёў веласіпед паўз лес, па добра ўлежаных ужо грудах ялавага поля і ўяўляў, як некалі ступаў тут за плугам мой родны прадзед Габрусь, бацька майго дзеда Сымона, як рассяваў па свежаўзаранай і добра прабаранаванай ім раллі халаднаватае жыта, як потым прыходзіў глядзець, ці ўзышло, ці добра ўрунела, ці закрасавала, ці наліваецца. А недзе сонечным жніўным днём спяшалася сюды з сярпом на плячы і мая прабабка, дзедава маці. Брала ў жменю тугія жоўтыя сцяблíны з вусачамі-каласамі і распачынала доўгачаканае жніво. З гэтага поля жыла сям'я майго прадзеда, над гэтым полем сналіся ўсе думы продкаў, лунáлі іхныя сны.

Яно, заняцецкае поле, заняцецкая зямля з усімі яе ляскамі ды пералескамі, з крынічкамі і раўкамі — мусіць, адзіная памятка, што засталася пасля іх. Апрача, вядома ж, вялікага, вельмі разгалінаванага цяпер дрэва іхных нашчадкаў, маіх сваякоў, з якіх, таксама на вялікае маё шкадаванне, я ўжо не ўсіх ведаю. Усе мы, хто куды, разышліся па шырокім свеце, растварыліся сярод людзей, перамяшаліся крывёю з іншымі родамі. Калі б мы, нашчадкі свайго заняцецкага прадзеда Гаўрылы, сабраліся ўсе разам — у Заняцеччы ці ў Зялёнай Дуброве, тады, добра прыгледзеўшыся да саміх сябе, выявілі б, можа, нешта агульнае паміж сабой — ці ў абліччах, ці ў рысах характару. Гэтае агульнае і было б, мусіць, аб'яднаным партрэтам («падабізнай», як кажуць палякі) нашых прадзядулі і прабабулі.

За полем уперадзе ішла яшчэ паласа лесу. Вярнуўшыся на дарогу і праехаўшы гэтую паласу, я выбіўся на новае гала. Шырокую прастору яго перасякала роўная вялікая канава. Ну, вядома ж, асушальная. Значыць, раней тут ляжала балота. Каля канавы, у высокай траве — як-ніяк «тарфянік» — пасвіліся дзве каровы. Я памкнуўся ў іх бок: недзе ж павінен быць там і пастух — з

яго можна б ужо і распачаць свае роспыты. Ды пастуха нідзе не было відаць: каровы пасвіліся самі па сабе.

Далей за галам вачам адкрыўся шнур цяністых прысадаў, між імі бялелі шыферныя дахі хат.

Уехаўшы ў вуліцу, я адразу саскочыў з веласіпеда і паволі ішоў па ёй, каб лепей разгледзець вёску і знайсці з кім пагутарыць.

Заняцечча, як кропля вады, падобнае на ўсе іншыя цяперашнія невялікія вёскі, аддаленыя ад горада. Тыя ж забітыя дошкамі, а то і проста парасхрыстаныя вокны хат, тыя ж закінутыя, з паправальванымі зрубамі калодзежы, тыя ж зарослыя быльнягом ды палыннем двары і агародчыкі, здзічэлыя сады. «Неперспектыўныя», асуджаныя на выміранне вёскі, якія здаўна не давалі зарастаць ніводнай грудцы зямлі, якія кармілі свет.

Ды сярод гэтага запусцення вока выхоплівала і акуратна ашалёваныя і свежавыфарбаваныя дамкі з традыцыйнымі вяргінямі ды півонямі пад вокнамі. Значыць, жыве, трымаецца яшчэ вёска!

Каля аднаго з такіх дамкоў я ўбачыў на двары легкавік колеру карыды — нават, здаецца, «іншамарку». Але ісці туды не асмеліўся: гэта ж, мусіць, прыехаў да бацькоў ці радні нехта з горада, і невядома, як там да мяне паставіліся б. Лепей бы мне знайсці старых людзей, ды вольных, без гасцей, каб яны нешта расказалі пра гісторыю Заняцечча. Таму я пайшоў далей, заглядваючы ў двары: ці ёсць там дзе жывая душа?

Нарэшце ўперадзе замільгала прыгорбленая жанчына, якая цягнула за сабой, спіной да мяне, нізенькую калясачку з невялікім бітончыкам. Я скокнуў на веласіпед і дагнаў яе. Дагнаў ужо каля лаўкі пры плоце, дзе яна сунялася: там сядзела яшчэ адна немаладая жанчына.

Я павітаўся, паставіў веласіпед пры плоце і папрасіў дазволу прысесці на лавачцы. Разгаварыліся. Жанчыны, ведама ж, захацелі дазнацца, што гэта за прыблуда заявіўся ў іхны глухі закутак. Я адказаў ім як ёсць: што з Зялёнай Дубровы, цікаўлюся былой дзедаўскай арэндай.

— Адтуль жа, з Дубровы, Таня з Акулічаў жыла ў нас, за Дамарнацкім замужам. Няма ўжо ні яго, ні яе, — расказвала жанчына, гаспадыня лавачкі і хаты, — звалі яе Надзя Брага.

— А дзеці? — папытаўся я; перад паездкай я не паспеў распытаць пра іх у Насці: думаў, памаглі б мне тут лепш пазнацца з людзьмі.

— Дзеці асталіся, ды цяпер усе ў горадзе. Хата пустуе.

Калі загаварыла жанчына з калясачкай, на якой яна везла ваду і цяпер сунялася пры лаўцы, я адразу ўлавіў у яе гаворцы нетутэйшае, выразна рускае вымаўленне.

— Ці не расейская птушка сюды заляцела? — папытаўся я жартам.

— Ленінградка я, — не здзівілася жанчына.

У далёкім ужо 1948 годзе на гранітным беразе Нявы, элегантная і стройная краса-дзяўчына напаткала была плячыстага вайскоўца з заліхвацкім чубам, што гэтак вабна выбіваўся з-пад фуражкі-форменкі, і надзіва яснымі, нябесна-сінімі вачамі. Гэтыя сінія вочы і белыя ленінградскія ночы зрабілі ўсё: маладыя людзі закахаліся адно ў адно, а потым пажаніліся. Праз нейкі час дэмабілізаваны беларус звёз сваю гарадскую кралю-расіянку ў гэтую во заняцецкую глушэчу. Яе любага чалавека даўно няма ўжо на свеце. Ды яна, прыжыўшыся за доўгія гады ў Заняцеччы, так і асталася тут, верная свайму каханню.

— Яна магла б быць вашай, дуброўскай, — сказала Надзя Брага.

Выявілася, што да яе сватаўся мой зялёнадуброўскі сусед цераз вуліцу Флёрка Паўловіч. Калі памерла яго жонка, ціхмяная і вельмі прыветлівая Марыля, ён не чакаў вызначанага звычаем жалобнага тэрміну, адразу кінуўся шукаць сабе гаспадыню. Аб'язджаў на сваім трохколавым матацыкле вакольныя вёскі, дапытваючы адзінокай жанчыны. Так дапяў ён і да гэтай «ленінградкі». А яна, калі прыгледзецца, — нічога сабе жанчына, хоць і ў гадах: з тонкімі рысамі твару і танклявая станам. Трохі, праўда, прыгорбленая (пэўне ж, ад вечнага калупання ў зямлі), ды за гаспадарлівым і добрым Флёркам яна, можа, і выпрасталася б. Але жанчына ненашмат старэйшаму за яе жаніху цвёрда сказала «не».

У Заняцеччы мне найперш рупіла дазнацца пра гісторыю вёскі. Жанчыны параілі падысці да самага старэйшага тут чалавека — васьмідзесяцічатырохгадовай Улляны Шляхцінай.

Праз некалькі хвілін я ўжо сядзеў з разважлівай, прыемнага выгляду спадарыняй (чамусьці не хацелася называць яе бабкай) Уллянай на лаўцы каля яе плота.

Са здзіўленнем даведаўся я, што Заняцечча — зусім маладая вёска, маладзейшая нават за Зялёную Дуброву. Узнікла яна ў той час, калі пачалі зганяць людзей у калгасы. Сцягнулі сюды навакольныя хутары Ліпец, Кароcціна, Машкі, яшчэ некаторыя — і зашумела-загаманіла вёска, калгасная вёска. Да гэтага ж у Заняцеччы былі толькі два хутары, дзве сядзібы — адна —

Дамарнацкіх, другая — Куцечкаў. Спярша начальства планавала звезці ўсе хутары далей адсюль — пад асіповіцкую дарогу. Але гаспадар адной з заняцецкіх сядзібаў Іван Дамарнацкі быў старшынёй сельсавета, і ён дамогся сцягнуць хутары ў сваё Заняцечча: яму ж, як і ўсім, не хацелася первозіцца ды перабудоўвацца. Перавезеныя з хутароў хаты ён загадаў ставіць у адну лінію са сваёй і Куцечкавай сядзібамі. І козы сытыя, і сена цэлае!

З гаворкі Улляны Шляхцінай я зразумеў, што мае дзяды жылі тут адны. Дамарнацкія і Кучкі, відаць, наехалі сюды пасля іх пярэбараў. Хутчэй за ўсё, і селі на іхных сядзібах. Новым заняцецкім гаспадарам, магчыма, дасталіся і старыя будынкі маіх продкаў. Бо яны, мае продкі, на сваім новым месцы, напэўна ж, захацелі і будавацца па-новаму, балазе дзерава для зрубаў тут хапала. Як і шляхецкага ў іх гонару.

Калі я гаманіў з цёткай Уллянай (так, мусіць, лепш яе называць), пад нас падышлі яшчэ жанчыны. Слухаючы нашу размову, яны ўвесь час кідалі на мяне нейкія падазроныя позіркі. Відаць, хацелі зразумець, што гэтаму прыхадню тут трэба. Адна з жанчын, паўнаватая, чорнавалосая, пачуўшы, што я з Зялёнай Дубровы, папыталася, ці жывыя-здаровыя Акулічы, з якімі яна пахаўрусавала, калі тыя наведвалі яе суседку і сяброўку — Таню Дамарнацкую. У пытанні я пачуў і прыхаваную праверачку: ці праўда гэты валацуга дуброўскі?

Я расказаў заняцецкім жанчынам і пра Івана Акуліча, які ляжаў тады прыкаваны хваробай да ложка, і пра яго жонку Насцю, спрытную і працавітую, як пчала, жанчынку.

Жанчыны, заўважалася, паверылі, што я з Зялёнай Дубровы, а не які-небудзь «шпег». Але адчувалася, што жанкам усё роўна нешта муляла. Нарэшце, адна з іх, пільна гледзячы на мяне, не вытрымала, пальнула:

— А чаго вы сюды прыехалі?

Я адказаў ёй проста: прыехаў паглядзець на месца, дзе некалі жылі мае прадзеды.

Ды і гэты мой адказ не задаволіў жанчыну.

— На нешта ж вам гэта трэба?

Вядома, жанчынам цяжка было зразумець, чаго гэта чалавек у гадах без дай прычыны швэндаецца па сёлах. Паглядзець на Заняцечча, дзе сто гадоў назад жылі яго дзяды? Толькі што тут можна ўгледзець?

Я так загаварыўся з жанчынамі, што не заўважыў, як пачало змяркацца. Перспектыва заначаваць у лесе, на якой купіне, хоць і накрыўшыся фрэнчам з багажніка, мяне не надта вабіла.

А што як захоча праведаць мяне там шэры гаспадар лесу? Чым я тады абаранюся ад яго? Я ж не маю аніякай зброі, апроч аднаго ліхтарыка, якім можна хіба што пасвяціць воўку ў ашчэраныя зубы. Таму я ўзяўся за руль веласіпеда. Развітваючыся з заняцецкімі жанчынамі, я папытаўся, як мне лепш ехаць адсюль у Зялёную Дуброву, бо дарога, якая прывяла мяне сюды, давала, як мне здалося, добрага кругаля.

— Едзьце вунё той Конкай, — кіўнула рукой мне самая «дапытлівая» жанчына. — Яна і выведзе вас на шлях.

Шлях, шляхавая дарога — так гучна называюць-велічаюць тут, аказваецца, нашу Конку. Конкай жа завуць жанчыны простую, палявую дарогу, што выбягае з бакавой вулачкі Заняцечча і сцелецца побач з вузкай, зарослай бадыллём ды непралазным хмызам, з утравелымі канаўкамі па баках дарогай-насыпам у бок нашай Конкі.

Хоць пачынала ўжо добра сутоньвацца, я не спяшаўся садзіцца на веласіпед. Я вёў яго ад вёскі ў руках і ясна ўяўляў, як у такі во ціхі летні вечар, асвечаны чырвоным перадзаходным сонцам, тарахціць мне насустрач на простых сялянскіх калёсах мой прадзед Габрусь, седзячы на біле і пашлёгваючы лейцамі па конскіх скабах — спяшаецца пасля работы на полі дадому, дзе яго ўжо чакае вывернутая жонкай — невядомай маёй прабабкай — з чыгунка ў вялікую міску ладная горка гарачай, толькі што з печы разварыстай бульбы, якая ах як добра ідзе з кіслым малаком і спечанымі на скаварадзе тлустымі скрылькамі сала ды з хрумсткімі маласольнымі агуркамі. Садзіўся ён там за сталом у акружэнні дзяцей, сярод якіх быў і мой дзед Сымон, тады яшчэ малы хлапчучок. Я яшчэ раз агляднуўся назад, абвёў вачыма заняцецкія хаты пад шырознымі старымі ліпамі ды раскідзістымі, аджылымі ўжо, дуплястымі ігрушамі: дзе яна магла стаяць, хата майго прадзеда? Дзе было яго гумно, куды ён звозіў і складваў у тарпы аж па вільчык снапы жыта? А сад? Можа, купка вунь тых здзічэлых сліў убаку ад вуліцы — гэта яго рэшткі? Хто цяпер скажа?

Дадому я прыехаў, калі ўжо зусім сцямнела. Хоць і не знайшоў у Заняцеччы ні дворышча майго прадзеда Габруся, ні якіх-небудзь матэрыяльных памятак з яго жытла, усё ж я пабываў на зямлі маіх продкаў, у тым невядомым мне, створаным імі, свеце.

# ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВА

У Заняцечча прыйшла вясна. На дварэ ў Габрусевых Сымон з Алесем, абодва высокія ладныя ўжо «дзецюкі», запрагалі ў калёсы сівую, як абсыпаную попелам, кабыліцу, укладвалі на воз плугі — яны так і бліскалі на сонцы чыста выгладжанымі, не паіржавелымі за зіму сталёвымі лемяхамі. З канюшні, дзержачы пад аброці, выводзіў яшчэ двух коней трохі ніжэйшы за братоў, але паўнаваты, гэтакі ж, як і яны, моцны і дужы Уладзік. Коні, ажыўлена памахваючы хвастамі і стрыгучы ва ўсе бакі вушамі, паслушна тупацелі за ім — мусіць, настаяліся ўжо ў цёмных сценах і рады былі выбавіцца на волю, дзе ходзіць вецер, дзе высока над галавой плаваюць белыя воблакі, а з лесу даносіцца зязюліна кукаванне.

Каля хаты ж мільгалі жаночыя хусткі. Там снавалі, ляскаючы дзвярыма, сёстры гэтых трох братоў, а мо і жонкі каторых з іх. Па двары, блытаючыся ў жанчын пад нагамі і распуджваючы курэй, бегалі дзеці. Паджылая жанчына ў выцвілым шэрым кабаце, сеўшы на ганак, брала з каша прынесеную з варыўні пароcлую бульбу і, абціраючы яе ад доўгіх белаватых расткоў, кідала ў начоўкі з вадой, што стаялі ў яе нагах.

Скрыпнулі варотцы ад вуліцы, і ў двор ступіў высокі, трохі хударлявы мужчына шаноўнага веку з заклапочаным тварам.

Павітаўшыся, адразу пачаў пра тое, чаго прыйшоў:

— Усё, братава, я напытаў зямлю для куплі. Хваціць нам марнець тутака. Заўтра ж едзем на агледзіны.

— Заўтра? Дык што, можа, і сеяць ужо тут не трэба? — паправіўшы локцем рукі зелянцовую хустку, што з’ехала на лоб, і кіўнуўшы галавой на сыноў каля калёс, папытала «братава», Габрусева ўдава.

— Як гэта не трэба? І сеяць, і перасейваць будзем ішчэ тутака. Тую зямлю купіць ішчэ трэба. Ды да ладу давесці.

— Тады гукай і маіх, Антоська, калі выязджацьмеш заўтра.

— Гукну, ведама ж, гукну. Хай толькі не спяць доўга. Я рана паеду.

— А ці ж далёка ехаць? Дзе ты яе напытаў, скажы? У якім баку хоць?

— Туды, у бок Фаліч. Паўз вузкакалейку. Полекавы пасекі. Недалёка ад возера Скачальскага.

Габрусіха трохі ведала той край. Дапінала туды, ходзячы ў грыбы ды ягады.

Гэта былі глухія, непрыветныя лясы, дзе панавалі змрок і вільгаць. Зялёнае лясное мора, шырока разгойдваючыся пад усімі вятрамі, з даўных давён пагрозліва шумела на многія дзясяткі, а мо і сотні вёрст.

У векавечную бураломную пушчу, дзе не ступала нага чалавека, дагэтуль толькі ліхім выпадкам, уцякаючы ад панскага бізуна ці царскай катаргі, забіваўся, прашываючыся праз непралазныя зараснікі, хіба самы адважны рызыкант. Ён разрабляў там палянку, ставіў хаціну і, завёўшы сям'ю, пачынаў абжываць свой мядзведжы куток. У ваколіцах Зялёнай Дубровы былі тры ці чатыры такія закінутыя сярод лясоў і балот сядзібы. Людзі жылі ў іх адарваныя ад усяго свету, у суседстве з ваўкамі ды мядзведзямі. У лясных хутарах, як мне расказвалі, разам з людзьмі мірна ўжываліся нават вужы. Яны вадзіліся проста ў хатах. Сядзе сям'я за стол палуднаваць ці вячэраць — да міскі з кіслым малаком цягне спаднізу сваю галаву з жоўтымі вушкамі і вуж-хатнік. Дадуць яму лыжкай па «лабэціне», і той адпаўзае назад пад стол, дзе цярпліва чакае свайго моманту.

Заняцецкая Ульяна Шляхціна расказвала мне, што гадоў восемдзясят назад яна зусім малою дзяўчынкай ездзіла з бацькамі ў адзін з такіх хутароў за Зялёную Дуброву — у госці да нейкага Асомчыка. Малой запомніўся двор і хата на вялікаватай паляне, з усіх бакоў аслоненай лесам. А яшчэ гасцінец, які яна атрымала ад гаспадароў — цэлы прыполік сушаных гарбузікаў!

Адзін з такіх хутароў застаў яшчэ і я. У Валугах — адным з нашых лясных закуткаў, за кіламетраў восем ад Зялёнай Дубровы. Жыў у ім з сям'ёй вечны «аднаасобнік» Есіп Пінчук, якому ўдалося выкруціцца нават ад усеагульнай калектывізацыі. Яго ў нас звалі яшчэ Лось — мусіць, таму што жыў у лесе. У сямідзясятыя гады я пад'язджаў веласіпедам на той хутар і шмат цікавага з расказаў яго дзевяностагадовага гаспадара запісаў на магнітафоне. Але гэта асобная тэма.

Невядома, колькі часу гаманілі б яшчэ тут з небам ніколі не чапаныя лясы, калі б раптам не змянілася сітуацыя. Усе навакольныя землі, больш лясы ды балоты, трапілі ў рукі нейкаму багатаму «купцу» Поляку. Той вельмі шчыра ўзяўся за высечку пракаветных тутэйшых пушчаў. Для вывазу лесу ён правёў праз лясныя нетры і балоты насыпную дарогу, паклаў па ёй рэйкі, і ўскорасці да верху нагружаныя камлістым хваёвым, асінавым, яловым і дубовым бярвеннем ваганеткі, запрэжаныя парамі коней, адна за адной пакаціліся-пабразгацелі пад чыгуначную станцыю Фалічы, дзе прадпрымальны Поляк пабудаваў перад

тым завод для першапачатковай апрацоўкі драўніны, якую потым вагонамі вывозіў некуды за мяжу на продаж.

Полякава вузкакалейка, якую называлі яшчэ конка, не даходзіла да Дрычына: за якія два ці тры кіламетры перад ім яна закруглялася назад. У час маёй паездкі ў Заняцечча ўспомніла вузкакалейку і Улляна Шляхціна. Аказваецца, дарога была працягнута і далей, аж да Вялікага Бора — недалёкай адсюль вёскі за асіповіцкай шашой. Праходзіла яна паўз Заняцечча. Вось чаму заняцецкія жанчыны адрэзак дарогі, што ішла на «шлях», называлі Конкай. Для мяне гэта было ўжо адкрыццё. Выходзіць, да Закруглення даходзіла толькі першая «лінія» вузкакалейкі. Відаць, выразаўшы ўсе прыдатныя для бярвення лясы паабапал Конкі ў нашым баку, Поляк узяўся за высечку таго вялікага бору, які звеку ўзвышаўся на ўзгорыстым жаўтапеску за Заняцеччам і сярод якога на выцерабленых палянках там і там хаваліся ў густых прысадах адзінокія хутары. Калі той чырванастволы вялікі бор быў высечаны, хутары сцягнуліся (ці іх сцягнулі?) там у адно селішча, што так і назвалася — Вялікі Бор, хоць ад таго бору Поляк пакінуў адны пні.

Потым я даведаўся (таксама ў гэтых маіх вандроўках), што было яшчэ адно вялікае адгалінаванне асноўнай вузкакалейкі: адыходзіла яно ад яе каля Зялёнай Дубровы і цягнулася паўз возера Скачальскае аж за раку Пціч каля Майсеевіч, дзе быў збудаваны адмысловы мост — там і цяпер тырчаць у вадзе палі. Значыць, дарога на возера з бакавымі канаўкамі, зарослымі лазнякамі і дрэвамі, — таксама Конка! Яна намнога вузейшая за асноўную Конку: вядома ж, асталася такая ж, якую яе насыпаў нанятымі рукамі Поляк.

Так, размах у Поляка быў не абы-які! Прыкідваю: ад Фаліч да Вялікага Бора будзе кіламетраў пад 20, ад нас да Запцічча — 8—10. Усяго, значыць, пад 30 кіламетраў вузкакалейкі праклаў у маіх ваколіцах загадкавы Поляк! Ды не па роўненькім грудзе, а па лясным бураломе, па хісткіх балотных імшарынах, па бяздонных багнах! Колькі ж трэба было гаспадару наняць работнікаў з рыдлёўкамі — галоўнымі тады дарожнымі прыладамі, каб накапаць ды навазіць горы пяску і насыпаць дарогу, выштукаваць дамбу-пярэспу для рэек!

Старыя людзі ў Зялёнай Дуброве мне шмат расказвалі пра Полекаву вузкакалейку, пра тое, як цягалі па ёй коні ваганеткі з лесам. Мне паказвалі і вось для яе колаў. На жаль, я не змог выпрасіць яе, каб зберагчы як памяць пра наша мінулае.

Тая вузкакалейка пакінула нам і асобныя назвы. Найперш Конка — назва галоўнай нашай дарогі. А яшчэ найменні прылеглых да яе мясцін — Раз’езд (месца, дзе раз’язджаліся сустрэчныя ваганеткі), Склад (тут складвалі вытралеваны лес), Закругленне (дзе спачатку закруглялася конка-вузкакалейка).

Не ведаю, колькі часу ша́халі ў лясной глушэчы вострыя двухручныя пілы і га́калі тапары-сякеры, але от сярод непралазнага раней лесу — прытулку мноства звяроў і птаства — асвяціліся сонцам, адкрыліся людскім вачам вялікія галіны-пасекі, або пацяробы. Гэта была ўжо «зямля», якую прадпрымальны Поляк пусціў на продаж разам з «непрадуктыўным» лесам-мешанцам і балотамі.

Тую «зямлю» і выправіліся раніцай аглядаць заняцецкія арандатары. Ехалі на трох выязных брычках. На першай — Антось з сынамі, на другой — Габрусевы сыны Алесь, Сымон і Уладзік і на трэцяй — Юрась са сваімі.

Ляжалі пасекі ў некалькіх месцах па абодва бакі дарогі. Гледзячы на іх, «купцы» доўга чухалі свае патыліцы: «зямля» ўся была ў шырокіх лысінах свежых пнёў, у жылаватых карэннях, што ўчэпіста трымаліся за ўцвярдзелы грунт. Так, добра яшчэ належала тут папатузацца, папарваць жылы, каб свяжак-пацяроб зрабіўся полем! Ды чакаць нечага лепшага не было адкуль. І мае дзяды сказалі адно: браць! Балазе не маглі яны не ўбачыць і сваёй выгады: новая «камунікацыя» злучала гэтыя пасекі ў адным баку з воласцю, з Жыцінам, а ў другім — з чыгуначнай станцыяй Фалічы.

А галоўнае — яны цяпер самі сабе будуць гаспадарамі, нікому не кланяючыся, не прыніжаючыся. Зямля — гэта воля, гэта — усё!

Месца для селішча на купленай «зямлі» выбралі мае дзяды не адразу. Спачатку хацелі пабудавацца на расцяробе — цяперашнім полі, якое называецца ў нас Асінава. Гэтае месца, дзе зусім нядаўна лапацеў з вятрамі сваёй трапяткой лістотай магутны зеленастволы асіннік, здалося найлепшым для селішча: надта ж добрая тут зямля, чорная, тлустая — яе ўсе перамацалі пальцамі. І збажына, і бульба, і гародніна, і сады раслі б на ёй што трэба.

Патупалі-патупалі гаспадары паміж таўшчэзнымі асінавымі пнямі-плехамі, паморшчылі свае ілбы, яшчэ раз пацерлі ў пальцах упадабаную глебу і сталі гуртам на ўзбочыне вузкакалейкі, каб канчаткова вызначыць, дзе тут правесці вуліцу, дзе ставіць хаты.

— А я думаю, тут нам не варта будавацца, — пачуўся раптам у агульным згодным хоры адзін разважлівы голас.

— Чаму? Тут жа такая добрая зямля.

— А таму і не варта, што добрая. Вы падумалі, колькі змарнуецца яе пад хатамі, хлявамі, гумнамі, пад дварамі?

— А яно і праўда. Мо больш высокае, пясчанае месца выберам пад селішча? А тут хай будзе толькі поле.

Яшчэ не адзін дзень хадзілі па купленых пасеках гаспадары — аглядвалі, мералі, гаманілі, спрачаліся. Нарэшце сышліся на адным: закладаць засценак на месцы высечанай дубровы — бліжэй к Фалічам. Там хаты і гаспадарчыя будынкі стануць на высокім пясчаным грудку, які адразу ж за дварамі зменіцца на ніжэйшую, прыдатную ўжо для агародаў і збажыны лагчыну.

І яшчэ адно схіляла маіх дзядоў пасяліцца на дубовым порубе: тое, што зусім недалечка адсюль сінела ў лесе акунёвае возера Скачальскае.

Родавае паданне даносіць, што дзяды даведаліся пра яго, калі яшчэ жылі ў Заняцеччы, даведаліся праз адзін нешчаслівы выпадак. Аднаго разу выпусцілі яны пагуляць па свежым сняжку коней. Ды тыя так разгуляліся, што неўпрыкмет зайшлі ў лес і , падбрыкнуўшы, пусціліся зведваць больш шырокія, чым заняцецкія, прасторы. Агледзеліся мае продкі: няма коней! Няўжо пагубіліся? Пайшлі шукаць па слядах. Сляды прывялі пад светлае ад снегу, даволі вялікае возера ў зялёным вянку хвояў. Што ні кажы, пагляднае возера — залюбавацца. Ды маім дзядам было не да любавання. У іх аж у вачах пацямнела, калі ўбачылі, што ланцугі конскіх слядоў пацягнуліся па заснежаным лёдзе возера і абарваліся перад вялікай палонкай, на чорнай вадзе якой калываліся на хваляхператрушчаныя крыгі. Усё — коні патапіліся!

Калі выбралася месца пад забудову, адразу ж узяліся за яго раскарчоўку. Ну, а прыладдзе ў маіх дзядоў было звычайнае: рыдлёўка — падкопваць пні, сякера — падсякаць карані, дубовыя жардзіны-вагі — падважваць гуртам тыя пні, каб лягчэй выбавіць іх з зямлі. Ды памаленьку — пень за пнём — пацяроб расчысцілі, папалілі ламачча, разраўнялі сохамі ды смыкамі-сукаваткамі дол.

Цяпер можна было ўзяцца за будаўніцтва. Зашахалі пілы, загрукалі сякеры. Праз нейкі час — вянок за вянком — пачалі расці зрубы хат. Будавалі іх гуртам, талакой — усе ж свае. І неўзабаве весела заблішчалі чысцютка вымытымі шыбамі акон першыя хаты на жаўтаватых, перасланых зеленаватым

мохам хваёвых бярвёнах сценаў. Хораша глядзеліся і бухматыя, роўненька падагнаныя стрыхоўкамі стрэхі з золатам свежай кулявой саломы. А як радаваў вока першы сіні дымок, што так звычна і проста ўзвіваўся з неабсохлых яшчэ ад гліны цагляных каміноў!

Першыя, як мне ўсе казалі, пабудаваліся тут заняцецкія Цвіркі (каторыя Гадыцкія). Паставілі кожны сабе хаты Габрусевы дзеці: Сымон, Алесь, Уладзя; Антосевы дзеці: Алесь, Сцяпан, Паўлюк, Анцік, Андрэй, Іван; Юрасёвы дзеці: Галляш, Уладзя, Ясь. Усяго — дванаццаць хат: цэлая Цвіркоўшчына! І гэта замест тых трох хат, у якіх мае дзяды цясніліся ў Заняцеччы.

Услед за маімі дзядамі, пачуўшы пра продаж зямлі, пачалі з'язджацца сюды ўсе тыя, у каго была якая капейка, а да яе — вялікая прага стаць гаспадаром сваёй уласнай долі.

Дакладны год нараджэння Зялёнай Дубровы сказаў мне Антось Янкаў, пляменнік майго дзеда Косціка Рымашэўскага. Гэта — 1904 год. Акурат у гэтым годзе нарадзіўся ён сам. Таму і запомніў яго. «Я — равеснік Дубровы», — казаў ён мне. Магчыма, першыя хаты сталі тут на год-два і раней. У кожным разе можна з усёй дакладнасцю сказаць, што наша паселішча ўзнікла на самым пачатку мінулага, XX стагоддзя. Сто гадоў таму назад.

Калі вымалявалася вуліца, калі вабна заблішчаў новенькімі бярвеннямі хат засценак, мае дзяды пачалі думаць думу: як жа назваць гэтую іх спраўджаную мару — выштукаванае ўласнымі рукамі паселішча? Даведаўся пра гэты клопат пасяленцаў жыцінскі карчмар Ашаровіч. Ён не прамарудзіў заявіцца ў сваёй жыдоўскай брычцы ў новае селішча з добрай парадай: назваць засценак яго імем — Ашароўка, за што дакляраваў маім дзядам цэлае вядро гарэлкі. Але яны толькі пасмяяліся з хітрага жыда, не паквапіўшыся на дармаўшчыну. А вёску назвалі, як самі захацелі, — Зялёная Дуброва. У памяць тых разложыстых дубоў, што з веку вякоў дужаліся тут з віхурамі ды бураломнымі вятрамі і ад якіх заставаліся яшчэ шырачэзныя пні.

Першы пасля будаўніцтва перыяд жыцця Зялёнай Дубровы — гэта раскарчоўка лядаў, адваёва ў лясоў і балот ворнай зямлі і сенакосаў.

Пра тое ўсеагульнае здабыванне зямлі я чуў толькі ўрыўкавыя, прыглушаныя часам згадкі. Больш «прадметна» расказвала мне пра гэта мая бабуня Косцічыха, якая сама хадзіла з лапатай на раскарчоўку пацяробаў. «Што мы папарвалі тады жылаў, то адзін Бог ведае», — казала яна.

Але вялікае жаданне бачыць свой дзікі, за мазольны грош прыдбаны лясны куток упарадкаваным, прыдатным для сяўбы зрабіла цуд: даволі хутка на былых га́лінах-пасеках дружна закаласілася, пераліўнымі хвалямі захадзіла-загайдалася залатое сцяблістае жыта, засерабрыўся сваімі зярністымі мяцёлкамі шасцісты авёс, укрылася белым, як снежныя гурбы, цветам, поўная несціханага пчалінага гуду нізкарослая ды гусценькая грэчка, сінім полымем запалыхаў у зацішным міжлессі лёндаўгунец, нязлосна тапырыўся каля прыселля прысадзісты вусач-ячмень, на вачах ішла ў рост, кусцілася за прыгуменнем бульба, буяла, лапушылася гародніна. Бліжэй пад хаты, у агародчыках, зазелянелі перанесеныя з ранейшых селішчаў маладзенькія дубчыкі вішань ды сліў, заківаліся пад павевамі ветру адшуканыя ў лесе дзікія яблынькі ды грушы — потым, як убяруцца ў сілу, на іх прышчэпяцца добрыя, садовыя гатункі. Каля вуліцы ж — для душы, для аздобы — высаджваліся ліпкі і клёнікі, вязы ды вяшчун шчасця бэз.

Кожнай раніцы Зялёную Дуброву будзіла пастуховая труба-берасцянка. Засценак ажываў: рыпелі жураўлі калодзезяў, ішлі на пашу каровы, каціліся, займаючы ўсю вуліцу, чароды авечак, гаспадары выводзілі са стойлаў і запрагалі коней. Пачынаўся будзённы дзень.

Працавалі тут ад цямна да цямна. Людзей ніхто не падганяў: самі спяшаліся на поле, на сенакос, у лес, на гароды. Усіх падганяла адна толькі думка: «Летні дзень — год корміць».

Гэтак жа шчыра, як працавалі, зялёнадуброўцы спраўлялі свае гадавыя святы: Каляды, Вялікдзень, Купалле, Зажынкі, Дажынкі. На ўсю шырыню сваёй душы гулялі вяселлі, радзіны. Моладзь весела бавіла час на вечарынках ды вячорках-папрадках.

Праз дзесяць гадоў ад пачатку існавання Зялёную Дуброву, надзейна, здавалася, схаваную сярод лясоў ды балот, знайшла вайна. Першая сусветная.

Якую даніну заплаціў ёй наш засценак, я ў свой час не даведаўся. Прынамсі, не чуў пра яе ахвяр. Мо іх у нас, дзякаваць Богу, не было?

Асобныя згадкі дайшлі да мяне і з часоў грамадскіх завіхрэнняў, выкліканых рэвалюцыйнымі падзеямі 1917 года. З гэтых згадак я зразумеў, што дуброўцам чужыя былі гвалтоўныя спосабы дзяржаўнага ўпарадкавання і ваенныя перадзелы чужых зямель. Свой «стыхійны пратэст» супраць гвалту

самазваных уладароў яны выказвалі свядомым дэзерцірствам, ухіленнем ад набору ў чырвонае ці якое іншае войска, хаваючыся ад «рэкруцтва» ў лясах.

Мне расказвалі, як дэзерціры-дуброўцы, што перабывалі час на Валку, самым далёкім нашым і глухім лесе, аднаго разу пераходзілі ўночы на новае месца. Адзін з іх, Уладзік (з чыйго ён быў роду, я не занатаваў), які вельмі любіў пажартаваць, захацеў папужаць кагосьці з Жыдовічаў. Схаваўшыся пад елкай, ён прыгнуў лапку і, калі той праходзіў міма, адпусціў яе. За такі свой жарт Уладзік ледзь не паплаціўся галавой: каля самага яго вуха прасвістала сякера «Жыдка» і тут жа ўрэзалася ў камель елкі. Пасля гэтага Уладзік і дзясятаму заказаў жартаваць з сяброў-дэзерціраў.

Ад Антося Янкавага запісаў я дзве згадкі з часоў польска-савецкай вайны 1919—1920 гадоў. Першая — пра аднаго з Стахновічавых сыноў (імя яго мне не ўзгадалі). Калі прыйшлі палякі, ён добраахвотна запісаўся ў іхнае войска — такім аказаўся польскім патрыётам. Хоць быў ён ніякі не паляк, нават двух слоў не мог звязаць па-польску. Адно што — каталік. А ў нас, як зрэшты і ўсюды ў Беларусі, каталікі залічвалі сябе ў палякаў. У адрозненне ад праваслаўных, што лічыліся «рускімі». Недзе перад сваім адыходам, распраўляючыся з «рускімі», польскія ваякі, сярод якіх быў і Стахновічаў сын, спалілі недалёкую ад нас Дражню. За гэта раз’ятраныя «дражнюкі» падпільнавалі ваяра-«паляка» Стахновіча і затаўклі насмерць.

Другая Антосева згадка — пра «бандыта» Яўхіма Жука, што жыў «недзе за Дрычынам» — ці то ў Вялікім Бары, ці то ў Пясчанцы, і пра яго брата (імя не ўзгадалася), што наняўся ў Зялёную Дуброву пастухом. Аднаго разу «бандыты», якімі камандаваў Яўхім Жук, употайкі сабраліся ўночы ў нашым засценку і паехалі на падводах у Дараганава, дзе стаялі палякі. Раптоўна накінуўшыся на іх, забілі пяць ці болей польскіх жаўнераў і паўцякалі.

Назаўтра прыджгалі з Дараганава ў Зялёную Дуброву палякі. Па пастуха Жука: нехта ж змеціў-такі яго пры нападзе. Ды той усё прадугледзеў і загадзя перасцярогся. Перад тым нападам ён прыгнаў вечарам каровы і лёг «спаць» на сена ў нейкага гаспадара (сталаваўся і начаваў ён па чарзе ў дуброўцаў). Пасля ж нападу, яшчэ да світання, Жук паспеў вярнуцца і легчы на сваё сена. А на досвітку, як бы нічога і не здарылася, затрубіў у сваю берасцянку — каб выганялі кароў «на ранкі». Таму

дуброўцы, як і гаспадар таго «сена», і думкі не дапускалі, што іхны пастух некуды адлучаўся. У тым і запэўнілі палякаў, і яны адпусцілі дуброўскага пастуха: надта ж лоўка замёў свае сляды Яўхімаў брат.

Калі пасля палякаў прыйшлі «красныя», Яўхім Жук і з імі распачаў вайну. Асабліва актывізаваўся ён у часы харчразвёрсткі. Мне расказвалі, як лютавалі тады чырвонаармейскія конныя атрады, адбіраючы ў людзей іхныя намалоты. Збожжа, вядома ж, хавалі. І сёння ў лесе вакол Зялёнай Дубровы можна знайсці пазарастаныя кустоўем і дрэвамі ямы, дзе яго закопвалі. Якраз у тыя часы Яўхім Жук са сваёй хеўрай нейкім чынам узяў аднойчы ў палон цэлы чырвонаармейскі атрад. «Яўхімаўцы» загналі «красных» у лес і загадалі капаць яму. Калі яма была выкапана, паставілі каля яе ўсіх дванаццаць чырвонаармейцаў і расстралялі. Але адразу не закапалі. «Пойдзем перакусім, тады засыплем», — сказалі сабе. Адзін жа з «красных» — хлопец з Дражні — быў жывы. Пакуль «яўхімаўцы» сабраліся засыпаць яму, ён ціхенька выпаўз з яе і ўцёк. Пра ўсё расказаў сваім. На «шайку бандытаў», што жылі за Дрычынам па хутарах, паслалі новы атрад чырвонаармейцаў. Па дарозе ім сустрэўся дзед з шырокай барадой. Камандзір папытаўся ў яго, ці не бачыў ён Яўхіма Жука. «Бачыў, — адказаў барадач, — вунь туды пайшоў». Чырвонаармейцы паімчаліся на сваіх конях, куды паказаў дзед. Сам жа «дзед» спакойненька скіраваў у зусім другі бок: гэты барадач і быў Яўхім Жук.

Новым «завіхрэннем», якое не абмінула і маю Зялёную Дуброву, была калектывізацыя.

Да яе дуброўцы ўжо добра абжыліся на сваім селішчы. Кожны быў сам сабе гаспадар. І той, хто не ленаваўся і варушыў мазгамі, жыў зусім някепска.

Калгас у Зялёнай Дуброве зладзілі ў 1929 годзе. Першыя клюнулі на дакляраваныя агітатарамі залатыя горы і малочныя рэкі новага калгаснага жыцця Рымашэўскія, Жыдовічы і Дубовікі — усяго сем сем’яў. Саша Жыдовіч (стрыечная сястра маёй бабкі Косцічыхі) расказвала мне: «Сыдземся мы з ёй разам і плачам-плачам, што ўсё здалі ў калгас». І пры гэтым клялі за ўступленне ў яго сваіх гаспадароў — Косціка і Антося, называючы іх «дурнямі дурнымі». Нізашто не хацелі ісці ў калгас усе Цвіркі і астатнія дуброўцы. Прытым вельмі злаваліся на першых дуброўскіх калгаснікаў, нават праходу ім нідзе не давалі. Маладыя дзяўчаткі з сем’яў гэтых «калгаснікаў» мусілі адны да адных

бегаць не вуліцай, а прыгуменнем, каб не атрымаць каменя па патыліцы. Нават на вечарынкі не пускалі іх «аднаасобнікі».

Ды не яны, першыя ўступленцы ў калгас, рабілі пагоду. Такі быў курс дзяржаўнага карабля. Пагрозай раскулачвання, неверагодным павышэннем падаткаў («цвёрдае заданне») улады змусілі і самых наравістых пакорліва ўсадзіць галовы ў калектыўны хамут. Калгас назвалі «Чырвоная Дуброва».

Вельмі доўга супраціўляліся гвалту суседнія Майсеевічы (сяло за шэсць кіламетраў ад нас). Каб паставіць іх на калені, улады па самыя вуглы адрэзалі ў іх зямлю і перадалі нашым калгаснікам, ужо «чырвонадуброўцам». Майсюкі ўсё роўна не палезлі «ў пятлю». Цэлых пяць гадоў непахісна стаялі яны на сваім, баронячы волю. Ды не на тых нашы добрыя суседзі нарваліся: бальшавікі знайшлі спосаб зацугляць вальналюбых майсюкоў.

Калгас стаў пачаткам заняпаду Зялёнай Дубровы. Уцякаючы ад новага, можа, яшчэ большага, чым некалі, прыгону, маладыя людзі пакідáлі бацькоўскі куток і ішлі шукаць хлеб у горад, дзе заўсёды патрэбны былі рабочыя рукі.

Не абышлі Зялёную Дуброву і ўсе войны, якія вяла савецкая краіна, — з Польшчай у 1939, з Фінляндыяй у 1940, з фашысцкай Германіяй у 1941—1945 і з мілітарысцкай Японіяй у 1945 годзе. Удзельнічалі ва ўсіх гэтых войнах і нашы дуброўцы, многія з якіх не вярнуліся дадому, злажылі там свае галовы. Але, мусіць, больш за ўсё загубіла дуброўцаў яшчэ адна вайна, «ціхая», але не менш страшная, — вайна з «ворагамі народа», вядомая ў народзе пад назвай Яжоўшчына.

# ДАЛЁКІЯ ВОБЛАКІ

## Мацерыны песні

Пра маё пакаленне кажуць, што яго дзяцінства «апаліла вайна».

Слова «вайна» прыйшло ў нашу хату яшчэ ў 1939 годзе, калі мне было пяць гадоў. Тады забралі на вайну майго бацьку — «вызваляць ад белапалякаў Заходнюю Беларусь».

Я зусім не помню бацькавага развітання з намі. Пэўне ж, было яно не з лёгкіх: ён жа пакідаў нашу матку з трыма малымі дзецьмі — апрача мяне, «большага», з ёй аставаліся яшчэ ў хаце чатырохгадовая Валя і двухгадовая Зіна. А яшчэ маці «хадзіла» чацвёртым.

Як вядома, «вызваленчы паход» на Заходнюю Беларусь быў нядоўгі, і мабілізаваныя на вайну мужчыны нашай Зялёнай Дубровы неўзабаве пачалі варочацца дадому. Маці казала, што яны тады «валам валілі». І яна таксама з дня на дзень чакала майго бацьку. Толькі рыпнуць нашы варотцы ці мільгнецца хто на вуліцы, як яна ўжо бяжыць к акну: яе Алесь! Ды міналі дні за днямі, а мой бацька ўсё не прыходзіў. Тыя, хто меўся вярнуцца з вайны, усе былі ўжо даўно дома. Маці не знаходзіла сабе месца, у галаву лезлі самыя змрочныя думкі, усё валілася ў яе з рук.

Аднаго разу ёй пачулася, што не зусім так, як звычайна, рыпнулі варотцы: ён! Але замест майго бацькі маці ўбачыла з акна паштальёнку, што ішла к ганку, штосьці дастаючы з сіняй сумкі на грудзях. Мацеры тады адразу зрабілася млосна: нешта з Алесем! І толькі калі паштальёнка падала ёй трохкутнічак пісьма, на якім убачыла яго почырк, у яе адлягло ад сэрца: значыць, жывы!

Але пісьмо засмуціла матку. Мой бацька пісаў, што яго не пусцілі дадому, а «перакінулі» яшчэ далей, на поўнач, ажно пад Фінляндыю, з якой Савецкі Саюз скора распачаў вайну.

Як аслупянеўшы, стаяла тады маці з апушчаным у руках пісьмом. Гэта ж яна вінавата, што яго не адпусцілі! Акурат у тыя дні, калі з польскай вайны пачалі варочацца дуброўцы, у яе радзіўся сын — Алік, мой брацік. Ёй трэба б было адразу напісаць пра гэта свайму Алесю, падзяліцца з ім такой радасцю. Але яна не напісала: вайна закончылася, і ён сам павінен быў вось-вось прыйсці дадому, пісьмо, пэўне ж, не знайшло б яго ўжо на месцы. Ці ж магла маці падумаць, што адразу пасля польскай

пачнецца новая вайна і што на яе зноў пагоняць Алеся? Калі б яна напісала, яго, ведама ж, адпусцілі б тады дадому. А так ізноў трэба было чакаць, ізноў маліць Бога, каб не забіла на вайне, каб жывы ды здаровы вярнуўся бацька ў сваю хату.

У той жа дзень маці села пісаць яму пісьмо. Спяшалася хоць цяпер паведаміць пра сына. Скончыўшы пісаць, яна падазвала мяне к сталу, што стаяў на покуці, палажыла на чысты аркушык паперы маленькую пухлую ручку майго брацікa і, прыціскаючы яе зверху, сказала мне абводзіць алоўкам. Хоць брацік не даваўся, без канца турзаў сваёй ручкай, але я ўсё ж абвёў яе з усімі выгібамі растапыраных пальчыкаў. Маці ўлажыла аркушык у пісьмо, і маленькая ручка-растапырка паляцела на фронт, у невядомую нам Фінляндыю. Што адчуваў мой бацька, разглядваючы недзе ў заснежаным акопе сынаву ручку, можна толькі здагадвацца.

Тугу па сваім Алесю маці выказвала ў песнях. Як цяпер бачу: сядзіць яна пры акне за прасніцай на нашай доўгай, збітай з дзвюх шырокіх дошак і пафарбаванай у нябескі колер канапе з невысокімі простымі спінкамі па абодвух яе канцах і, пальцамі адной рукі цягнучы з кудзелі, а другой намотваючы на верацяно бясконцую нітку, ціха спявае нешта журлівае і мройнае. Калі песня канчалася, маці амаль адразу пачынала другую, за ёю — трэцюю. І так без канца. Дзень за днём. Яе журба перадавалася і мне, і я таксама з нецярпеннем чакаў бацьку.

Недзе пад вясну ад бацькі прыйшло пісьмо. Пісьмо было... з Гомеля! Яго раніла на фінскім фронце ў нагу, і лячыць прывезлі бліжэй к дому — у гомельскую бальніцу.

Маці адразу засабіралася туды. Адведаць брата захацела і цётка Маня. Паехалі туды поездам. Маці ўзяла з сабой і маленькага, у спавітку, Аліка — бацька ж яшчэ яго і ў вочы не бачыў.

Рана, мусіць, не была надта страшная, і яго ўскорасці выпісалі. Бацька вярнуўся дадому. Пасля ранення ён нейкі час хадзіў, накульгваючы на адну нагу.

## Бацькава кузня

Звычайна дзяцінства называюць «бязвоблачным». З сваіх дзіцячых гадоў да «бязвоблачных» я аднёс бы, мусіць, адзін міжваенны — ад вясны 1940, часу прыходу з фінскай вайны бацькі, да сярэдзіны 1941. Калі, вядома, не лічыць самых ранніх, даваенных гадоў, ад якіх у памяці асталіся толькі вельмі цьмяныя абразкі.

З прыходам бацькі ў нашай сям'і запанаваў лад і спакой. Я не помню, каб бацька з маткай калі спрачаліся за што-небудзь, каб хто з іх павышаў на другога голас, сказаў нейкае крыўднае слова. Для дзяцей такія дачыненні паміж бацькамі — мусіць, самае вялікае шчасце.

Бацька рабіў у кузні кавалём. Выкаваць шыну для кола ці саней, плуг ці плужок абганяць бульбу, змастачыць атосу для калёс, абруч для бочкі, завесу ці ручку з клямкай на дзверы, ключ з язычком для завалы, навастрыць на тачыле тапор ці нож, назубіць серп, падкаваць каня — усё гэта і шмат што іншае, — была яго работа.

Я вельмі любіў хадзіць у кузню — «памагаць бацьку». Залазіў на высокі, усыпаны дробным вуголлем памост пры бакавой сцяне, над якім быў прымацованы кавальскі мех, і садзіўся каля паддувала. Калі бацька казаў мне «паддуваць», я браўся за падвешаную над мехам і злучаную з ім папярочную палку, цягнуў яе на сябе, зверху ўніз, і з вузкай адтуліны меха шугаў пругкі «вецер», які да белага агню раздуваў падкладзеную на жар у горне кучку буйнога чорнага вугалю. Тады бацька адзяваў доўгія, да чарнаты закуродымленыя скураныя рукавіцы, браў вялізнымі абцугамі жалязяку і падносіў яе пад агонь. Калі жалязяка так напальвалася, што рабілася аж белая, бацька бяжком нёс яе, трымаючы ў левай руцэ, на кавадла, а правай браў вялікі молат і з размаху гахаў па гэтай жалязяцы, увесь час пакручваючы яе з боку на бок. Буйныя і яркія іскры ляцелі тады з-пад молата ва ўсе бакі кузні, сягаючы да бляшанага даху (столі там не было) і да самых аддаленых куткоў. Спачатку я баяўся гэтых іскраў, баяўся, што яны могуць апячы мяне і запаліць адзежу, а то і саму кузню. Але, ападаючы, іскры тут жа гаслі, ні за што не зачапіўшыся. Мо яны былі «без агню»? І я ўжо не баяўся іх, а з нецярпеннем чакаў, калі яны, нібы вогненныя пчолы, ізноў паляцяць імклівымі раямі з-пад бацькавага молата.

Цікава было мне глядзець таксама, як бацька, распляскаўшы на кавадле сваю жалязяку, апускаў яе ў карыта з вадой, адкуль з шыпеннем выбухала белая пара, што адразу запаўняла ўсю кузню, і ў той пары хвіліны дзве ці тры нічога не было відаць.

І яшчэ вабіла мяне ў кузні тачыла — вялікае, добра адшліфаванае каменнае кола, праз якое ў сярэдзіне быў прасаджаны жалезны прэнт з загнутымі на канцах ручкамі. На гэтым прэнце кола трымалася ў тым прадаўгаватым карыце, дастаючы сваім нізам да вады. Хто-небудзь круціў ручкай тачыла, што ўвесь час змачвалася ўнізе вадой, а другі прыкладваў да яго звер-

ху ці збоку тапор ці нож. «Ж-ж-жык, ж-ж-жык, ж-ж-жык!» — і яны наточваліся да бляску. Калі бацька даваў мне што натачыць, я быў на сёмым небе!

У гэты міжваенны час я не помню, каб што мяне хоць раз засмуціла. Усё ішлося добра ў нашай немалой цяпер сям’і. Бо з намі быў бацька.

Але ў свеце, праўда, далёка ад нас грымела ўжо новая вайна. Пра яе ў Зялёнай Дуброве, мусіць, ведалі не шмат: радыё ж тады ў нас не было. Дуброўцы займаліся сваім: мала хто з кім недзе нешта не падзяліў! Ды зусім нечакана полымя далёкай вайны дакацілася і да нас, зырка палыхнула і ў вокны нашай хаты.

## Той ясны нядзельны дзень

У ясны нядзельны дзень 22 чэрвеня 1941 года ў Зялёнай Дуброве, у Галляшовай хаце, спраўлялі радзіны дачкі Анціка Цвіркі — Зіны. Адтуль падгулялыя госці з песнямі і музыкай, весела прытанцоўваючы, пакіравалі ўсёй грамадой пад калгасны клуб — дом раскулачанага Андрэя Цвіркі.

У клубе, дзе да гэтага вялавата парыпвала гармонь ды бумкаў барабан, Анцікавы госці, пацясняючы іншых, з ходу пусціліся ў скокі. Клуб адразу ажыў, завірыў у віхурыстым танцы. Адна расчырванелая цётка, сарваўшы з галавы хустку і размахваючы ёю, у такт разухабістай музыцы, як з рукава, сыпала ў скоках заліхвацкімі прыпеўкамі. Пра Лявоніху, якую Лявон палюбіў і якой чаравічкі купіў, пра тое, як Лявоніха, душа ласкавая, чаравічкамі палясківала. Здаецца, я ўпершыню пачуў тады гэтую жыццярадасную музыку, убачыў ва ўсёй красе гэты разгульны танец. Падхопленыя ім, нібы віхрам, мы, малыя засцянковыя падшыванцы, таксама кінуліся таўчыся з дарослымі. Потым проста насіліся між танцорамі, хаваючыся за імі і ловячы адзін аднаго — такая сама сабой зладзілася гульня.

Здаволіўшыся ёю, мы пабеглі шукаць якога цікавейшага занятку на вуліцы. Але яго гэтым разам не знаходзілася. Мусіць, таму што было ўжо за паўдня і вельмі прыпякала гарачае летняе сонца, ад якога хацелася схавацца дзе-небудзь у цень, у халадок.

Тут мне ўспомнілася акно ў бакавой сцяне клуба. Яшчэ раней я змеціў, як пырхалі ў ім з-пад ліштвіны вераб’і: ага — там гняздо! У мяне свярбелі рукі папароць яго. Надта ж хацелася патрымаць у руках гладзенькія рабенькія яечкі. За вераб’інае гняздо, я ведаў, на мяне ніхто не накрычыць: верабейкі ў нас чамусьці былі не ў пашане. Гэта ластаўчына гняздо ніхто з

малых не адважваўся спорваць: у таго, хто гэта ўчыніць, увесь твар, ведаў кожны, абсыпле рабаціннем.

Аднаму залезці на акно наўрад ці ўдалося б. Падсадзіць і прытрымаць мяне падахвоціўся мой хаўруснік — не помню ўжо, хто гэта быў канкрэтна. Ухапіўшыся з яго падмогай за нейкі выступ акна і паставіўшы адну нагу на хісткі плячук хаўрусніка, а другой чапляючыся за пазы між бярвёнамі сцяны, я пачаў падсаджваць пад ліштвіну руку. Ого — далёка ўплішчылі сваё гняздо верабейкі! Па самы локаць прасунуў я туды руку, ды толькі кончыкамі пальцаў паслізгаў па мякенькім злямчаным пер’і: пачаў прыладжвацца, каб далей працягнуць руку і ўхапіць за касмыль гнязда. Ды мае натугі перапыніў нязвычна часты конскі тупат на Лядоўскай дарозе. Павярнуўшы туды галаву, я ўбачыў конніка, што галопам ляцеў у Дуброву. Гэта было ўжо нешта больш цікавае, чым вераб’інае гняздо! Я мігам саскочыў з акна і выбег на вуліцу. Коннік як ляцеў, так і стаў, нібы ўкопаны, каля клуба.

— Вайна!

Адно толькі гэтае слова і ўлавіла тады маё вуха.

Саскочыўшы з каня, незнаёмы чалавек (як відаць, з сельсавета) адразу ж падаўся ў клуб, адкуль даносілася развясёлае гранне гармоні, глухое буханне барабана ды гопанне аб падлогу ног танцораў.

Праз хвіліну там усё сціхла. З дзвярэй пасыпалі людзі. На хаду зашпільваючы свае кофты ды камізэлькі, засцянкоўцы заспяшаліся дадому. Твары ва ўсіх былі разгубленыя, устрывожаныя.

Ну, а нас, дзяцей, слова «вайна» не толькі не спужала, а нават узрадавала: гэта ж цяпер будзе нешта вельмі цікавае! Мы беглі па апусцелай вуліцы і, абсыпаючы адзін аднаго жменямі пяску, весела крычалі: «Вайна! Вайна! Вайна!»

А ўвечар (ці мо другім вечарам?) у нашай хаце сабраліся за злучанымі і накрытымі сталамі ўсе тыя, хто атрымаў позву ад ваенкамата і хто іх праводзіў. Мужчыны, каб падвесяліць сябе, кулялі чаркамі гарэлку, ім памагалі каторыя з жанчын. Гаманілі, спрачаліся. Усе хацелі верыць, што гэта будзе нядоўгая вайна, што скора немцаў патураць назад. Ну, а падпіўшы, і заспявалі. Маёй сястры Валі запомнілася, што спявалі песню «Если завтра война...», толькі перакручаную на жартоўны лад: «Если завтра война, мы забьём кабана...» Якія былі далей словы, яна не запомніла.

Самога развітання з бацькам, якога, не ўважаючы на мнагадзетнасць, і гэтым разам не абмінулі, я зноў жа не запомніў: мусіць, мы, дзеці, тады спалі, бо мабілізаваных дуброўцаў адвозілі вельмі рана — яшчэ на досвітку.

Везлі іх на двух падводах. «Вазакамі» былі мае дзядзькі — падлеткі Іван (мацерын брат) і Федзя (бацькаў брат). Адвезлі іх у Слуцк.

Мы зноў асталіся без бацькі.

## Нямецкія самалёты

Вельмі напалохалі нас першыя нямецкія самалёты. Убачыўшы іх у небе, маці ў жаху ўхапіла з ложка пасцілкі ды падушкі і, гукнуўшы ўсіх нас, кінулася за вуліцу, дзе былі нашы агароды. Там, пад вялікімі межавымі ліпамі, яна разаслала на траве пасцілкі, паклала на іх падушкі і загадала ўсім нам сядзець тут і нікуды не адбягацца.

Самалёты з незвычайнымі чорнымі крыжамі на крылах — адразу па некалькі — ішлі і ішлі над намі. Ішлі хутка, з вострым металічным гудам. Калі яны праляталі над намі, я міжволі ўгінаў галаву ў плечы: мусіць жа яны ўгледзелі нас і зараз пачнуць скідваць бомбы. Ды нямецкія самалёты, ведама ж, і не думалі нас бамбіць: што ім наш лясны засценак з бабамі і дзецьмі?

Зразумела гэта і маці, і пад вечар, забраўшы пасцілкі з падушкамі, мы вярнуліся ў хату. У мяне адлягло ад сэрца: небяспека мінавала. Але ў той жа час я шкадаваў, што мы так і не заначавалі ў полі, пад ліпамі, на вольнай волі. Як жа гэта было б цікава — спаць пад адкрытым небам, пад зорамі!

## Акружэнцы

Пра разгром і адступленне Чырвонай Арміі на пачатку вайны, пра акружэнне цэлых армейскіх часцей шмат пісалася і пішацца ў друку. Хвалі гэтых трагічных падзей дакачваліся і да нашай, далёкай ад вялікіх дарог Зялёнай Дубровы.

Помню, сярод дня зайшла ў нашу хату цётка Анця (нашы сядзібы адгароджваліся адна ад адной агульным плотам), прысела каля кухоннага стала і шэптам (бо, як і ўсе ў нас, была напужана нядаўным энкавэдысцкім хапуном) пачала расказваць, як раніцай, яшчэ на досвітку, паявіліся на калгаснай ферме, дзе яна рабіла, нашы салдаты і кінуліся хапаць ды есці звараную ёю

для свіней і патоўчаную ўжо секачом бульбу з лупінамі, а калі адыходзілі, паназапіхвалі яе ў кішэні і за пазухі.

Тады нямала іх прабіралася нашымі лясамі. То там, то сям дуброўцы знаходзілі ў лесе вінтоўкі, процівагазы. Згаладалым, здарожаным акружэнцам былі яны без патрэбы. Я таксама бегаў у лес з сябрукамі шукаць процівагазаў. З іх мы рабілі вельмі хвацкія рагаткі. Жоўтая тоненькая рызіна процівагазаў ах як добра расцягвалася! Мы рэзалі яе на роўныя палоскі і прывязвалі на свае рагаткі-рагулькі. Калі я расцягваў такую рагатку, рука з заціснутым у рызіне каменьчыкам далёка адыходзіла назад. Ну, сцеражыцеся цяпер, вераб'і ды сарокі!

Неўзабаве я сам убачыў акружэнцаў. Спачатку пачуў гул машыны на Концы, нашай шляхавой дарозе, што праходзіць паўз Зялёную Дуброву. Машыны тады былі вялікай рэдкасцю, і я з сябрукамі пабег глядзець. З боку Фаліч ішла на Дрычын звычайная савецкая «палутарка». Барты яе былі густа паабтыканы зялёнымі бярозкамі — для маскіроўкі. Між імі сядзелі «нашы» — чырвонаармейцы, цэлы кузаў салдат з рубінавымі зорачкамі на пілотках. Толькі мы падбеглі да месца, дзе яна праходзіла, як ззаду яе забахалі стрэлы. Чырвонаармейцы папрыгіналіся і наставілі туды свае доўгія вінтоўкі. Мы, як спужаныя вераб'і, шугнулі назад, у засценак. І ўжо адтуль глядзелі, як, прыбавіўшы ходу, адстрэльваліся нашы ад нябачных нам немцаў. Машына праскочыла паўз Зялёную Дуброву і, не сунімаючыся, памчала далей, відаць, у Дрычын, каля якога праходзіла асіповіцкашышчыцкая дарога-гравейка.

## «Лохін-балохін, аддай маю рызіну!»

Вырываючыся з акружэння, паўз Зялёную Дуброву лясамі праходзіла нейкае вялікае вайсковае падраздзяленне. Казалі, за другім канцом нашага засценка лес тады проста кішэў чырвонаармейцамі.

Мусіць, вялікаму войску схавацца, хай сабе і ў лясах, было не проста, і яго заўважыў нямецкі самалёт. Знізіўшыся, ён пачаў «паліваць» адступленцаў з кулямёта. Мой сябра Жорж Дубовік, які жыў у тым канцы вёскі, расказваў, што самалёт так страшна гуў і так страляў, што ён схаваўся пад лаўку ў сваёй хаце. Кружыў самалёт над Гусінай балацінай, то адлятаючы, то зноў варочаючыся назад, і так нізка, што чырвонаармейцы пачалі з усіх бакоў страляць па ім. І такі падбілі.

Нямецкія лётчыкі пасадзілі свой самалёт за Кляновай градой, на вялікую імшарыну, што завецца ў нас Папова. Відаць, думалі, што гэта поле. Самалёт як сеў, так і ўгруз сваімі коламі ў балота. Лётчыкі — іх было двое, прытым адзін паранены — кінулі самалёт і падаліся лесам пад станцыю Фалічы — мусіць, мерыліся, пераадзеўшыся ў цывільнае, сесці там на які цягнік і ўцячы. Чакаючы яго, схаваліся ў будцы абходчыка. Ды тут падаспелі акружэнцы, якія заўважылі немцаў і пачалі страляць па будцы. Пасля нядоўгай перастрэлкі абодва нямецкія лётчыкі былі забіты.

Самалёт на Паповым адразу прывабіў да сябе дуброўцаў. Найперш, ведама ж, увішных падлеткаў, якія шмат чаго знайшлі ў ім цікавага. Карповічавы хлопцы, казалі, ухапілі тады цэлы парашут. А гэта ж шоўк! У Зялёнай Дуброве, што адзявалася да вайны амаль выключна ў палатнянае, шчасцем было прыдбаць які крамны паркалік ці корт, а тут гэтакая раскоша — шоўк! Помню, і маёй мацеры Карповічыха абяцала адрэзаць які шмат, але потым перадумала: мусіць, пабаялася, што пойдзе пагалоска пра рабаванне нямецкага самалёта і за гэта яшчэ чаго добрага прыйдзецца адказваць. Ну, а хтосьці з Жыдовічавых ці Бардзіных старэйшых хлопцаў разжыліся ў самалёце іншым — двума ці трыма самалётнымі кулямётамі! У тых кулямётаў па абодвух баках былі прымацаваны дыскі для патронаў — іх хлопцы празвалі «яйцамі». Сваю знаходку падлеткі схавалі ў дуплах дубоў на Самшыне. Потым кулямёты знайшлі партызаны.

Праз той самалёт мой зялёнадуброўскі сусед, цяпер нябожчык Ян Шыкер займеў нават адмысловую мянушку.

Падаўся ён аднаго разу пад самалёт, каб што-небудзь там прыдбаць. На падыходзе згледзеў, што двое ці трое хлопцаў ужо капошацца ў кабінцы. Апярэдзілі! Трэба адпужнуць! Прыкінуцца немцам. Кустамі, кустамі — падкраўся Ян бліжэй да самалёта і раптам на ўвесь голас загергетаў «па-нямецку»:

— Лохін-балохін, аддай маю рызіну!

Хлопцаў як ветрам здула з самалёта. Пачуўшы «нямецкую» гаворку, яны так залапацелі па балоце, так затрашчалі па лазняках, што Ян сам перапалохаўся і кінуўся ўцякаць услед за імі: падумаў, што і праўда падышлі пад свой самалёт немцы.

З таго часу дуброўцы за вочы, а то часам і ў вочы, так і звалі Яна Шыкера — Лохін-Балохін. А паўней — Лохін-Балохін, Аддай Маю Рызіну!

Ведама ж, вельмі карцела пабываць у нямецкім самалёце і такім малым падшыванцам, як я. Балазе мы яшчэ ніякага сама-

лёта не бачылі зблізку, не толькі нямецкага. Мне ўдалося дапасці да яго толькі ў канцы зімы, калі пачаў раставаць снег. Завялі мяне туды больш увішныя хаўруснікі, якія ўжо там пабывалі.

О колькі ўбачыў я ў вялікай самалётнай кабінцы шматкаляровых кнопак, пласцінак, бляшак! Паспрабаваў разам з хлопцамі адарваць што-небудзь ці адкруціць — не, усё было ўвінчана, уціснута капітальна! Тое, што лёгка адкручвалася ці адкалупліваласяа, ужо даўно павыдзіралі ранейшыя налётнікі. Як ні хацелася прынесці дадому якіх цацак, нічога мне не ўдалося там здабыць. Суцяшала толькі нас, малых, тое, што мы змаглі ўсё ж наадломваць кавалкаў самалётнай абшыўкі. Дагэтуль яе прыносілі нам старэйшыя хлопцы. Мы клалі такія кавалкі на раскладзены дзе-небудзь за сядзібамі, далей ад хат і хлявоў, агонь. Калі кавалак самалётнай абшыўкі пачынаў плавіцца, мы барзджэй выхоплівалі яго якой лапаткай з агню і ўскідвалі ўверх — атрымліваўся вялікі сноп яркіх агнёў. Асабліва ўражліва было ад яго вечарам, калі цямнела. Праўдзівы салют! А яшчэ мы клалі расплаўлены кавалак на якое ўзвышэнне на зямлі, узлівалі з бляшанкі ваду, і ён зырка ўспыхваў. Тады хто-небудзь з нас біў па ім з усяго маху калом — атрымліваўся аглушальны выбух.

Асабліва любілі забаўляцца такім бабаханнем пастухі.

Калі быў яшчэ малы мой сын, ён папрасіў мяне звазіць і яго пад той самалёт, пра які я не раз яму расказваў. Але мы яго ўжо не знайшлі: відаць, самалёт засмактала балота, якое пасля асушылі. На тым месцы была цяпер дзялянка тарфяніку лесніка Флёркі Паўловіча. На ёй якраз кусцілася бульба. Каб адпужваць ад яе дзікоў, Флёрка абнёс дзялянку дротам, на якім скрозь паначэпліваў розных бляшанак ды жалязяк, што асталіся ад таго самалёта. Асобныя самалётныя часткі, якія выворваліся плугам, гаспадар дзялянкі адкідаў у кусты. Некалькі з іх мы дасталі з кустоў і прывезлі дадому — на памятку.

## Першыя немцы

Недзе ў тыя дні дапалі ў Зялёную Дуброву і першыя немцы.

Я чагосьці забавіўся ў другім канцы засценка, у Толевай бабуні. У нас былі дзве бабуні. І абедзве — Гэлі. Каб адрозніваць іх, адну з іх, мацерыну матку, мы, дзеці, называлі Толевай бабуняй — імем яе апошняга сына, усяго на два гады старэйшага за мяне. Другую ж — бацькаву матку — клікалі Казінай бабуняй, у якой жыла яе асірацелая ўнучка Казя, таксама старэйшая за мяне на два гады.

Я быў у бабунінай хаце, калі зусім блізка, з боку школы, што стаяла ў канцы засценка, пачулася страляніна. На вуліцы, паўз сцены хаты, засвісталі кулі. Усе мы — бабуня, адна з цётак і я з Толем — леглі на падлогу: не помню, хто так скамандаваў. Праўда, страляніна як пачалася, так адразу і сціхла. Мне закарцела бегчы дадому, і мы з бабуняй выйшлі на двор. Ды тут — зноў страляюць! «Фіў-фіў-фіў!» — засвісталі каля самых маіх вушэй кулі. Бабуня з крыкам «Лажыся!» прыгнула мяне рукой долу і сама неяк смешна распласталася пасярод двара. Я лёг жыватом на скапычаны авечкамі ды кароваю дол, уткнуўся носам у іх сляды.

Калі страляніна зусім сціхла, мы падняліся. Я выбег на вуліцу — нідзе нікога. Не раздумваючы, памчаўся дадому, у свой канец.

Каля двара Гуткоўскіх пад ліпай раптам убачыў з дзясятак асядланых коней, а пры іх — людзей у вайсковай форме з нейкімі чорнымі аўтаматамі на грудзях. Я паспакайнеў: вайскоўцы ж, калі што, абароняць. Таму сцішыў свой бег, памалу пайшоў другім, правым бокам вуліцы, з цікавасцю разглядваючы салдат з іх гладкімі сытымі коньмі. І тут з таго канца засценка, адкуль я бег, зноў пачалі страляць, каля мяне зноў заціўкалі кулі. Вайскоўцы нешта крыкнулі на коней, і тыя — вось дык дзіва! — падкурчылі ногі і мігам палеглі на зямлю. Самі ж салдаты схаваліся за коньмі, паклалі на іх спіны аўтаматы і, лежачы, застрачылі ў адказ. Я куляй рвануўся адсюль дадому. І толькі калі ўбег у хату, падумаў: чаму ў тых вайскоўцаў нейкая зялёная, не такая, як бачыў раней у чырвонаармейцаў, форма? Аказваецца, былі гэта зусім не нашы салдаты, а немцы!

Відаць, іх заўважылі чырвонаармейцы, што недзе праходзілі каля Зялёнай Дубровы (ці мо часова прыпыніліся на адпачынак у школе — яна ж стаяла пры лесе). Ды было іх, мусіць, не многа, бо яны толькі папужалі немцаў і больш іх не чапалі.

Казалі, быў гэта нейкі разведвальны нямецкі атрад. Хадзілі чуткі, што яго нібыта падлавілі-такі недзе пад Старымі Дарогамі нашы і ўсіх пабілі.

## Другая сустрэча з немцамі

Я загарэўся быў рыбацтвам. На нашым возеры Скачальскім нехта даў мне ненадоўга сваю вуду — з нанізаным на кручок чарвяком. Закінуўшы, я стаяў на беразе, не спускаючы вачэй з паплаўка. Ды ён хоць бы варухнуўся на азёрнай гладзі. Я пачаў

ужо губляць надзею што-небудзь злавіць, як раптам паплавок уздрыгнуў і — неяк наўкос — імгненна пайшоў пад ваду. Я ўскінуў пацяжэлую вуду, і перад маімі вачамі бліснуў ні з чым не параўнанымі вясёлкавымі плаўнікамі акунь! Мяне ахапіла няведамая дагэтуль радасць: я злавіў рыбу! Акунь шлёпнуўся пры самым беразе ў траву, заскакаў, забіў хвастом. Я схапіў яго дрыготкімі рукамі, прыціснуў да жывата і пачаў ліхаманкава адчапляць кручок. Толькі выбавіў яго з цвёрдага абадка рыбінай губы, як акунь крутнуўся ў руках і — бултых у ваду! Толькі хвастом вільнуў! Нібы памахаў мне ім на развітанне.

Больш лавіць мне тады не выпала, бо ў мяне забралі вуду. Але мяне ўжо ахапіў рыбацкі запал. Таму адразу ж памчаў дадому — рабіць сабе вуду.

Вудзільна я лёгка выразаў у лесе з тонкай бярозкі. Цяжэй было з жылкай. Усе ў нас рабілі яе з конскага воласу. Я пачаў прыкідваць, з якога каня мне яго вырваць. Каб не павыбіваў зубы. Запыніўся на сівой калгаснай кабыле-вадавозе, што вечна драмала: была старая, са слязлівымі вачамі. Хадзіла яна ў калгасным двары-загарадцы. Я падышоў пад яе спераду і, пагладжваючы, спярша па мысе, а потым па шыі, па рабрыстым баку, па клубе, неўпрыкмет падкраўся к хвасту. Кабыла памахвала ім, адбіваючыся ад аваднёў, і я, стоячы збоку, злавіў хвост. Трымаючы яго левай рукой, каб яна не махала ім, я правай выбраў даўжэйшую валасіну і тузануў за яе. Валасіна надзіва лёгка вырвалася, а кабыла і не думала брыкацца. Я адарваў яшчэ дзве ці тры валасіны і пайшоў звязваць з іх жылку. Кручок зрабіў з іголкі, да чырвані напаліўшы яе на агні і загнуўшы абцугамі кончык. Паплавок выразаў, як і ўсе ў нас, з хваёвай кары. Для грузіла раздабыў у сябрукоў кавалачак волава, які заціснуў абцугамі за волас-жылку паверх кручка. Усё — вуда гатова!

Аставалася накапаць чарвякоў. На падворку і ў агародзе іх дарэмна было шукаць: самае лета, спякота, усе яны ў гэтую пару глыбока ў зямлі.

Мне параілі схадзіць на луг, за агароды: там іх можна колькі хочаш накапаць у купінах. Купіны гэтыя я ведаў. Яны былі не зусім купіны — круглыя, утравелыя стаўбункі зямлі, мусіць, вывернутай некалі кратамі. Калі раскапаць такую купіну, пад ёй заварушацца-закруцяцца невялічкія чырвоныя чарвякі — самы раз для рыбы. Я накапаў іх лапатай у тых купінах паўбляшанкі. Ну ж і налаўлю на іх рыбы!

Я ішоў дадому подбегам: так хацелася барзджэй паджгаць на возера.

Ды калі наблізіўся да свайго агарода, аж прысеў ад сполаху: па вуліцы ехалі на веласіпедах немцы! І не два, не тры — усю вуліцу запоўнілі нямецкія веласіпедысты! Толькі мільгалі, паблісківаючы на сонцы, спіцы веласіпедных колаў. Наша хата стаяла за вуліцай, і я, прыгнуўшыся, падбег пад межавую ліпу, схаваўся за камель і крадком назіраў за немцамі. А яны ўсё ехалі і ехалі на сваіх блішчастых веласіпедах.

Толькі калі вуліца канчаткова апусцела, я памалу, усё яшчэ крадучыся, падышоў пад нашы засаўкі. Немцаў ужо нідзе не было відаць, і я пабег цераз вуліцу дадому.

Убачыўшы ў маіх руках бляшанку з чарвякамі, маці строга паківала перада мной пальцам:

— І не ўздумай ісці на возера! Бачыш, што робіцца. Сядзі дома і не рыпайся! Вайна ж.

Я не пярэчыў: разумеў, што ў такі час лепш трымацца сваёй хаты, свайго засценка. І хоць немцы толькі праехалі па Дуброве, не спыняючыся, я не без шкадавання выкінуў чэрві курам, а вуду паставіў падалей у сенцах.

## Сабачы хлеб

Немцы атайбаваліся на недалёкай ад нас чыгуначнай станцыі, або раз’ездзе — Фалічы. Яны зрабілі там свой гарнізон: ясна, дбалі, каб спраўна хадзілі іхныя «цугі». У процілежным ад Зялёнай Дубровы баку, у Дрычыне, зладзілі воласць — сваю ўладу.

Наш калгас, які называўся «Чырвоная Дуброва», немцы з сваім прыходам не распусцілі. Толькі назвалі яго іначай — абшчына. Старшыня калгаса — ім быў Уладзік Парахня — зрабіўся цяпер кіраўніком абшчыны.

Узяўшы Зялёную Дуброву пад сваю апеку, немцы глядзелі тут за парадкам. Адразу ж пачалі паяўляцца ў нас іх паўнамоцнікі з воласці.

Запомнілі дуброўцы паліцая Пекура. Прыязджаў ён сюды з Дрычына як гаспадар. Любіў пагуляць, хадзіў на вечарынкі і вячоркі. Мая цётка Волька расказвала, што ён танцаваў на вуліцы і прыпяваў: «Дзякуй Гітлеру многа раз, што прапала савецкая ўласць!»

Наведваўся ў Зялёную Дуброву і валасны пісар Брага. Вадзя Дубовік, які потым стаў партызанам, а пасля вайны пайшоў па журналісцкай лініі, зрабіўшыся шматгадовым выкладчыкам на журфаку БДУ, яшчэ нядаўна расказваў мне, як гэты Брага

лупцаваў бізуном за нешта Ясіху — Зосю Цвірку, палажыўшы яе на калодзе, што ляжала на вуліцы.

— Ты што робіш? — хацеў заступіцца за жанчыну Вадзя, які разам з Брагам вучыўся перад вайной у Крамку, у дзесяцігодцы (туды, за 8 ці 9 кілометраў хадзілі ў школу і дуброўцы).

— Маўчы, бо і табе дам, — агрызнуўся Брага, не перастаючы біць жанчыну.

Брага, відаць, навучыўся так караць людзей ад немцаў: бізун ці шомпал быў іх першы сродак для гэтага.

Вялікі розгалас прайшоў па Зялёнай Дуброве, калі немцы прыязджалі, здаецца, з Фаліч, караць «злодзеяў» — старога Сцяпана Цвірку, Антосіху (жонку Антося Цвіркі) і Матусэвічыху (жонку Матусэвіча Прузю): яны ўзялі з абшчыннага капца па кашу бульбы. Нехта данёс пра гэта немцам, і от яны, прыехаўшы, загадалі вынесці на вуліцу зэдаль, па чарзе клалі на яго затрыманых і, агаліўшы задніцу, кожнаму прылюдна адлічылі па дваццаць пяць бізуноў: айн, цвай, драй… і г. д. Такім спосабам уводзілі яны нямецкі парадак.

Наязджалі ў Зялёную Дуброву немцы часцей на машынах ці на матацыклах у поўным узбраенні. Спачатку яны паяўляліся ў тым канцы засценка. Калі нехта, апавяшчаючы пра іх, у сполаху крычаў на вуліцы «Немцы!», мы, дзеці, стрымгалоў ляцелі хавацца на печ — адзіную сваю крэпасць. Ну, а наша маці, пачуўшы той крык пра немцаў, так пужалася, што яе, як сама потым расказвала са смехам, тут жа праймаў дрыстун, і яна бегла за хлеў: «Не ведаю, адкуль у мяне тады што й бралася».

Аднаго дня я забег нечага да Толевай бабуні. Бабуня стаяла пасярод хаты са сваёй стрэчнай сястрой Сашай, якую ўсе ў нас звалі Жыдовічыха. Раз за разам божкаючы, абедзве пра нешта размаўлялі. Жыла Жыдовічыха з дзецьмі насупраць бабунінай хаты, цераз вуліцу. Яна часта забягала сюды пагаманіць пра тое-сёе. Але цяпер жанчыны гаманілі не проста так — яны былі нечым моцна ўзрушаны. Я прыслухаўся да іхнай гаворкі. «Зыгма», «Зыгма» — толькі і чулася мне ад іх гэтае слова. Скора я зразумеў: прыязджалі са Старых Дарог немцы і забралі Зыгму Жыдовіча.

Зыгма — родны брат Жыдовічышынага гаспадара. У час калектывізацыі Зыгму з маткай Магдаленай (бацькі ўжо не было ў жывых) раскулачылі і саслалі недзе аж на залатыя прыіскі. Праз дзесяць гадоў яны вярнуліся без права жыць у Зялёнай Дуброве. Маці паехала недзе да замужняй дачкі, а сын Зыгма — ва Украіну. Калі прыйшлі туды немцы, яны загадалі яму ісці ў паліцыю. Ды

служыць чужакам Зыгма не хацеў. Зразумеўшы, што ад яго не адчэпяцца, ён уцёк з Украіны дадому, у сваю Зялёную Дуброву. Толькі і ў гэтым лясным кутку не знайшоў ён спакою.

Удаў Зыгму немцам Стэўскі. Гэта была вельмі злавесная постаць у Зялёнай Дуброве — Стэўскі. Прыбіўся ён сюды аднекуль з-за Дараганава. Прыстаў да адной дуброўскай дзеўкі ў прымы і пусціў тут свае карані, прыдбаўшы з жонкай цэлую печ дзяцей.

Асабліва «выславіўся» Стэўскі ў яжоўшчыну. Яго зяць служыў у Старых Дарогах у НКВД. Той і даручыў яму вельмі незвычайную, але затое даволі «грашовую» работу: вышукваць у Зялёнай Дуброве ворагаў савецкай улады. Стэўскі з ахвотай узяўся за яе: за кожнага ж выкрытага «ворага» плацілі ці то 50, ці то 100 рублёў.

Энкавэдысцкі «працаўнік» намячаў кандыдатуры для «здачы» ў НКВД найперш, вядома, з тых дуброўцаў, якія яму нечым не дагадзілі ці проста не падабаліся, падбіраў на іх «кампрамат», страчыў данос і, падшукаўшы яшчэ дваіх падпісантаў, пасылаў ці адносіў на вядомы яму адрас.

І от у нашу ціхую лясную Зялёную Дуброву пачала начамі залятаць ніколі дагэтуль не бачаная, жахлівая людажэрная птушка — «чорны воран». Пасля яе раніцай вёска гула як развярушаны вулей. Са здзіўленнем і разгубленасцю дазнаваліся людзі, што НКВД забрала таго і таго… Плач, галашэнні, праклёны раздзіралі наш зацішны засценак. Не магу сабе ўявіць, як слухаў усё гэта Стэўскі, які, зрэшты, сам прыходзіў з энкавэдыстамі арыштоўваць дуброўцаў. І як слухалі галасы людской бяды іншыя падпісанты, што складалі сабою неаспрэчную «тройку».

У нашай невялікай вёсцы, у якой было ў 30-я гады недзе каля 70 двароў, энкавэдысцкі «хапун» загроб больш за два дзясяткі чалавек. Абсалютна ні ў чым не вінаватых.

Сярод забраных быў нават сам старшыня калгаса, родны брат Толевай бабуні Іван Дубовік. Гэта асабліва здзівіла людзей, бо ён паказаў сябе як вялікі энтузіяст калгаснага руху, апантаны камуніст. Іван Дубовік выдатна арганізаваў работу ў калгасе. Ён зрабіў так, каб чалавек, які добра працуе, і зарабляў па-належнаму. Пры ім на работу людзі хадзілі з песнямі. Сам ён заўсёды быў уперадзе, араў і касіў разам з усімі. Дуброўцы вельмі паважалі яго. Толькі не Стэўскі, якому Іван як бы перайшоў дарогу.

А было так. Іван Дубовік, арганізаваўшы ў Зялёнай Дуброве калгас і паставіўшы яго на ногі, паехаў у Гомель давучвацца ў нейкім тэхнікуме, у які паступіў яшчэ да калгасаў. На яго

месца ў калгасе «Чырвоная Дуброва» паставілі Стэўскага. Але дуброўцы за нешта неўзлюбілі новага старшыню. Выйшаўшы аднаго разу на сенакос, яны паселі гуртам на ўскрайку калгаснага лугу і пастанавілі скінуць Стэўскага з старшынства ды вярнуць назад Івана Дубовіка. От так проста напачатку калгаснікі выбіралі свайго кіраўніка. Я ўпэўнены, каб такая дэмакратыя існавала і пасля, калгасы не былі б даведзены да такога бядотнага становішча, у якім яны апынуліся.

Стэўскі затаіў злосць і на Івана Дубовіка, і на ўсіх дуброўцаў. І от цяпер ён знайшоў добрую магчымасць паквітацца з сваімі недругамі. Ну і зноў ускочыць у старшынскае крэсла.

На Івана Дубовіка быў напісаны красамоўны данос. Быццам ён — польскі шпіён. Падстава: у Польшчы, гэта значыць у Заходняй Беларусі, жыве яго брацені́к Міхал Дубовік. Няважна, што той ужо тады сядзеў у польскай турме як член КПЗБ — хто там будзе разбірацца. Дарэчы, з турмы Міхала Дубовіка вызваліла ў 1939 годзе Чырвоная Армія, і ён стаў пасля дырэктарам аднаго з арганізаваных у Заходняй Беларусі саўгасаў. І от за «сувязь» з такім браценікам паплаціўся Іван Дубовік.

Яшчэ да калгасаў ён паказаў сябе як вельмі дзелавы чалавек і дбайны гаспадар. Бо хацеў жыць па-людску. Ажаніўшыся, найперш парупіўся пра жытло для сям'і. Ён нанова перабудаваў хату свайго бацькі, а майго прадзеда Мітрафана, якая суседнічала з нашай. Хата атрымалася прасторная, на дзве палавіны, з сенцамі. Апроч «парадных» дзвярэй гаспадар зрабіў яшчэ дзверы, што выходзілі адразу ў высаджаны ім сад. Бываючы тут з малых гадоў, я асабліва зайздросціў маім сваякам за гэтыя дзверы: толькі адчыні — і ты пад голлямі яблынь, сярод садовых кветак і птушынага шчэбету.

Бабунін брат быў вельмі «ідэйным» чалавекам. Як свае ўспрымаў ён усе бальшавіцкія лозунгі, новыя павевы часу. На ліштвах перабудаванага дома папрыбіваў замест нейкіх там «мяшчанскіх» галубоў акуратна выразаныя з дрэва вялікія пяціканцовыя зоры (калі прыйшлі немцы, іх давялося павырываць). Не па-традыцыйнаму назваў Іван Дубовік і сваіх дзяцей — Альфен, Стальвен (ясна, у чый гонар, яго яшчэ называлі ў нас Сільвестр або прасцей — Сальвэстар, памяншальнае — Сэля або Слава) і Сільфідзія, якая, каб не зламаўся язык, ператварылася ў Сальфіду.

Калі прыйшлі ўночы энкавэдысты са Стэўскім забіраць Івана Дубовіка, яго жонка Анця не магла стрымаць слёз. Сам жа гаспадар быў спакойны, бо добра ведаў, што за ім няма ніякіх

грахоў, што, наадварот, ён паспяхова праводзіць у калгасе «лінію партыі», таму з усмешкай пачаў суцяшаць жонку і сказаў, што праз які дзень вернецца дадому — там жа разбяруцца ва ўсім. Старэйшы з дзяцей Альфен, які пайшоў ужо ў школу, у першы клас, папрасіў у бацькі купіць яму ў Старых Дарогах чытанку. Бацька, развітваючыся, сказаў сыну, што абавязкова купіць. «І сёння купляе», — успамінаючы пра гэта, кажа мне цяпер, у 2004 годзе, састарэлая ўжо Сальфіда. Яе маці, цётка Анця, ездзіла тады ў Старыя Дарогі даведацца пра свайго Івана. Але ў турму, куды яго пасадзілі, ёй не дазволілі прайсці. Толькі выпадкова ўбачыла жанчына, як яго везлі з турмы ў машыне. Яна ледзьве пазнала яго: ён быў учарнелы, увесь збіты. Калі яна кінулася к машыне, Іван, убачыўшы яе, прылажыў пальцы к губам і паківаў ёй з боку ў бок галавой. Гэтым ён хацеў ёй сказаць, каб не прызнавалася, што яна — яго жонка. Баяўся за яе, за сваіх дзяцей. Пасля гэтай сустрэчы цётка Анця ніколі ўжо яго не бачыла. Так і звекавала ўдавою, выгадаваўшы траіх дзяцей.

Самы малодшы яе сын, мой равеснік і найпершы сябар Сэля (Стальвен-Сальвестар) пасля рэабілітацыі ў 1956 годзе бацькі дабіўся азнаямлення з ягонай справай у КДБ. Там яму сказалі, што Івана Дубовіка, беспадстаўна абвінаваціўшы ў шпіёнстве, расстралялі ў 1938 годзе, нібыта ў Курапатах. У справе Сэля знайшоў і бацькаў паляўнічы білет. Але білет яму не аддалі. Дазволілі толькі вырваць з яго і забраць фотакартку.

Тут дарэчы прыгадаць паляўніцтва бабунінага брата, а Сэлевага бацькі. У гэтым занятку, які быў для яго выдатным адпачынкам пасля ўсякіх турбот, ён таксама паказаў сваю апантаную, няўрымслівую натуру. Калі чым займацца, дык займацца з поўнай аддачай, а не праз пень-калоду — такое вырабілася ў яго правіла. Загарэўшыся паляўніцтвам, Іван Дубовік, вядома ж, вывучыў увесь дзядоўскі вопыт палявання на розную дзічыну і добра пакапаўся ў кнігах. Пачаў з сабак. У яго былі аж чатыры выдрэсіраваныя сабакі: Тарка — для палявання на качак, Палкан — на лісаў і ваўкоў, Палка і Нэра — на зайцоў і лісаў. Калі забралі гаспадара, яго сабакі бегалі па лесе і вылі, вылі.

У адзін з першых залётаў драпежны «чорны воран» схапіў і Іванавага браценіка, калгаснага рахункавода Юліка Дубовіка, бацьку майго равесніка і сябра Жоржа, з якім я заканчваў у Старых Дарогах дзесяцігодку. Да Юліка прыляпілася была мянушка Поп: бацька Ладымер Дубовік аддаваў яго некалі вучыцца ў духоўную семінарыю, якую сын чамусьці не закончыў. Быў Юлік сляпы на адно вока: пробаваў страляць з паляўнічай

стрэльбы, нейкім чынам вылецеў з затвора патрон і папаў яму ў вока, якое тады ж і выцекла.

Абвінавацілі яго, як і Івана Дубовіка, у шпіёнстве на карысць Польшчы — усё за таго ж Міхала Дубовіка, агульнага іхнага браценіка, ваеўніка супроць польскіх паноў.

Жоржу было чатыры гады, калі забіралі яго бацьку. У яго памяці засталіся людзі ў доўгіх шынялях, што хадзілі ўночы па хаце. Чамусьці ўрэзаліся ў дзіцячую памяць блішчастыя гузікі на гэтых шынялях. А яшчэ тое, што энкавэдысты ботамі ступалі па раскіданых па падлозе кнігах. Запомнілася адна вялікая кніга з шэрай вокладкай пад нагамі начных гасцей. Яна потым апынулася ў маленькай школьнай бібліятэцы — яе пазнаў там Жорж і, калі навучыўся, прачытаў на вокладцы прозвішча аўтара — Леў Талстой.

Пакідаў Юлік пецярых дзяцей — дачку Косцю, сыноў Валодзю, Ігнася, Жоржа і зусім маленькую Стэфку, якая тады спала ў калысцы. У адрозненне ад браценіка Івана, які збіраўся яшчэ вярнуцца, Юлік не спадзяваўся вырвацца з кіпцюроў НКВД. Ён не раз бачыў вывешаны на грамадскіх будынках плакат, дзе «яжовыя рукавіцы» так моцна сціскалі «ворагаў» савецкай улады, што з іх капала кроў. Добра разумеючы, як цяжка будзе яго жонцы Бардзі (Барбары) адной гадаваць гэтулькі дзяцей, ён на адыходзе пазрываў са сваіх зубоў залатыя каронкі і аддаў ёй: усё роўна ж энкавэдысты жывым яго не пакінуць. Так яно і сталася.

Незвычайнай была і гісторыя тых залатых каронак. У вайну даведаліся пра іх паліцаі. Яны ўварваліся ў Юлікаву хату, прыставілі к горлу цёткі Бардзі нож: аддай, інача будзе кепска і табе, і дзецям. Мусіла аддаць Бардзя паліцаям тое няшчаснае золата, якое хавала на самы чорны дзень. Праз гадоў дзесяць пасля вайны старэйшая Юлікава дачка Косця, трапіўшы ў Старых Дарогах у бальніцу з нейкай хваробай, зусім неспадзявана апынулася ў адной палаце з жонкай старшага з тых паліцаяў, што адабралі залатыя каронкі ад бацькавых зубоў. Акурат такія каронкі ўбачыла Косця ў роце сваёй неспадзяванай палатнай суседкі. Ды вярнуць іх, вядома ж, было ўжо нельга.

З усіх забраных энкавэдыстамі дуброўцаў вярнуліся дадому Галляш Цвірка, Казімерыха (жонка памерлага раней Казімера Паўловіча), Анта Пілецкая, Бэрнусь Паўловіч і яшчэ некаторыя. Казалі, іх адпусцілі таму, што былі схоплены пазней — калі ўлады асудзілі і расстралялі галоўнага энкавэдыста Яжова, які быццам бы перастараўся ў рэпрэсіях.

Мне запомнілася вяртанне Галляша Цвіркі — браценіка майго дзеда Сымона. Не забуду тое радаснае ўзрушэнне, з якім людзі перадавалі адзін аднаму гэтую ашаламляльную вестку: «Галляш ідзе!» Як быццам Галляш варочаўся не з НКВД, а з таго свету. Ахоплены агульнай людской радасцю, разам з іншымі пабег на Конку сустракаць яшчэ не знаёмага мне Галляша і я. Галляш ішоў з Фаліч, з поезда. Ішоў доўга: быў кульгавы. Я ўпершыню тады і ўбачыў яго, невысокага, нейкага спакойнага і ціхага. Адна нага ў Галляша была сагнута ў калене пад прамым вуглом і не выпроствалася. Каб лаўчэй на ёй ступаць, ён прывязаў брызентавым рамяньком пад абцас бацінка драўляную калодку і так чыкільгаў на ёй усе сем кіламетраў ад станцыі. Казалі, скалечыў ён так нагу, упусціўшы на калена тапор.

Забіралі яго нібыта за антысавецкую агітацыю: недзе неасцярожна сказаў пры людзях, што да калгасаў жылося ў Зялёнай Дуброве лепш.

Пілецкую і Казімерыху схапілі за тое, што адна з іх адмовілася ісці ў Дрычын, за сем кіламетраў, на выбары ў Вярхоўны ці які іншы савет, а другую — што малілася Богу і схіляла да веры ў яго іншых людзей.

Усіх іх на допытах, прымушаючы прызнацца ў сваёй віне, білі і каталі. Пілецкай заганялі пад кіпці шаршаткі, прышчэмлівалі пальцы дзвярамі, ад чаго яна потым не магла прасці кудзелю і воўну. Яшчэ болей каталі Казімерыху. Потым яна расказвала, што была ўжо блізка да таго, каб прызнаць усё, у чым яе абвінавачвалі, хацела, каб хутчэй кончыліся нечалавечыя пакуты. Але душа балела за дзяцей, якіх пакінула дома: іх было ў яе пяцёра. Толькі дзеля іх яна вытрывала ўсё. Калі арыштаваных адпускалі дамоў, то вельмі строга наказвалі нікому «не разглашать» пра катаванні.

Астатнія дуброўцы — «шпіёны» і «дыверсанты» — ужо ніколі не вярнуліся ў свае сем'і. Ад іх ніхто не атрымаў нават вестачкі. Усе — як у ваду канулі.

Сястра Толевай бабуні (і Івана Дубовіка) Марыля, што жыла ў вёсцы Волашава (паміж Старымі Дарогамі і Слуцкам) яшчэ тады пераказала нашым расказ аднаго знаёмага лесніка. Ён на свае вочы бачыў, як энкавэдысты прывезлі ў лес цэлую машыну людзей. Далі па рыдлёўцы і загадалі капаць яму. Потым паставілі ўсіх на край ямы і пачалі страляць у патыліцы. Ляснік, стаіўшыся ў кусце, сядзеў ні жывы ні мёртвы. Баяўся нават паварушыцца. Толькі калі энкавэдысты, засыпаўшы яму,

ад’ехалі, ён вылез з куста. Засыпаная яма, расказваў ён, яшчэ хадзіла як жывая, «дыхала».

А яшчэ хадзілі чуткі, што схопленых людзей энкавэдысты везлі недзе за Шчыткавічы, што кіламетраў дваццаць ад нас, і там расстрэльвалі на лясной палянцы, а на засыпаных ямах садзілі маленькія хвойкі — каб і знаку не асталося ад іхнага злачынства.

Загубленыя такім чынам людзі былі ў самым росквіце сіл, маладыя і здаровыя. Мяркуючы па нашай вёсцы, бальшыня з іх пакідала свае сем’і з малымі дзецьмі. Не выпадкова, мусіць, і бальшыня маіх сяброў і хаўруснікаў у маленстве ды і пасля — былі дзеці «ворагаў народа».

Па даносу Стэўскага ў 1937 годзе ўзялі энкавэдысты і Антося Жыдовіча. Мусіць, чакала б тое і Зыгму, калі б яго яшчэ раней не выслалі ў Сібір як кулака.

Цяпер, варочаючыся з Украіны дадому, Зыгма Жыдовіч, відаць, меркаваў, што з прыходам немцаў эра Стэўскага кончылася. Ажно не! Стэўскі, доўга не думаючы, запісаўся і ў нямецкія прыслужнікі. Увайсці ў давер новым гаспадарам памагло яму тое, што добра ўмеў гаварыць па-нямецку: у першую сусветную вайну быў у палоне ў Германіі, дзе і навучыўся «шпрэхаць».

Немцы зрабілі Стэўскага сваім паўнамоцнікам у Зялёнай Дуброве. Далі яму новага каня. «Зад у каня быў як гэтая хата», — успамінае Сальфіда, з якой я сяджу ў яе двары на лаўцы. На нямецкім кані важна раз’язджаў Стэўскі па вёсцы, гледзячы на ўсіх зверху ўніз.

Мне Стэўскі запомніўся, калі заходзіў у нашу хату, збіраючы аўчыны ды кажухі для нямецкай арміі, якую моцна прыціснулі пад Масквой рускія маразы. Ён заглядваў ва ўсе закуткі, лазіў на печ, перабіраў усякія транты. Ды ўсё, што ў нас было цёплае, маці перад тым скоранька недзе пазапіхвала, так што з нашай хаты пайшоў ён ні з чым.

Зыгму Жыдовіча пасадзілі немцы ў Старых Дарогах у турму. Ніхто не ведаў, што наплёў на яго Стэўскі, але над Зыгмам навісла смяротная пагроза.

Тут пачалася амаль дэтэктыўная гісторыя. У адрозненне ад бальшавікоў немцы без пярэчанняў дазвалялі радні перадаваць зняволеным харчы. Павезла і Саша Жыдовіч нейкую яду Зыгму. Умясціла ў торбу і бутэльку малака, заткнуўшы яе папяровай затычкай. Зыгма з’еў малако і зноў заткнуў бутэльку, толькі ўлажыў у затычку запіску. У ёй дзевер прасіў братавую пайсці да немцаў і расказаць, як Стэўскі пры Саветах служыў энкавэ-

дыстам, інакш яго, Зыгму, расстраляюць. Жыдовічыха гэтак і зрабіла. Немцаў яе паведамленне зацікавіла, і яны выклікалі жонак іншых мужчын, пахапаных «чорным воранам» па даносе Стэўскага. Усім ім немцы наладзілі «вочную стаўку», дзе жанчыны праз перагаворшчыка расказалі пра ўсю перадваенную «дзейнасць» Стэўскага. Калі адна з жанчын, здаецца, Авалінка Каспяровіч, падрабязна выклала немцам пра ўсе ўчынкі Стэўскага, той накінуўся на яе: «Авалінка, не сіраці маіх дзяцей». На што жанчына адказала: «А ты ж ужо маіх асіраціў». Вынік «вочнай стаўкі» быў просты і, мусіць, справядлівы: немцы адпусцілі Зыгму, а Стэўскага вывезлі за горад і расстралялі.

У маленстве я сябраваў з дзецьмі Стэўскага, часта хадзіў гуляць у іхную хату, а яны — у нашу. Пра яго «дзейнасць» я тады нічога не ведаў, ды, мусіць, і не зразумеў бы яе. Наўрад ці ўсведамлялі і дзеці Стэўскага, якім «сабачым хлебам» іх карміў бацька. Шануючы дзяцей Стэўскага, я трохі перайначыў яго прозвішча: ці ж трэба кідаць на іх, ні ў чым не вінаватых, гэты цень?

## Першыя партызаны

Ужо недзе на першым часе пасля прыходу немцаў я ўпершыню пачуў дагэтуль незнаёмае мне слова — «парцізаны». Казалі, гэта людзі, якія хаваюцца ў лясах і нібыта рыхтуюцца вызваляць нас ад немцаў. Добра помніцца, як радасна нават мне, малому, было чуць, што на гэтых чужакоў, якіх усе ў нас так баяліся, знайшлася ўправа.

Скора я на свае вочы ўбачыў тых загадкавых партызан. Цэлы атрад іх паявіўся ў Зялёнай Дуброве. Называлі гэтых партызан дзямідаўцы, бо імі камандаваў нейкі Дзямідаў.

Дзямідаўцы мне добра запомніліся, бо вялікі іхны гурт прыйшоў начаваць у нашу хату. Здаецца, усе партызаны былі ў вайсковай чырвонаармейскай форме. Яны хадзілі па хаце, гаманілі паміж сабой. Загаворвалі і з намі, малымі, паджартоўвалі. Тут жа прынеслі салому, разаслалі па падлозе і, калі сцямнела, паклаліся на ёй спаць, заняўшы ўсю нашу хату.

Папрачынаўшыся раніцай, мы, дзеці, пазалазілі на печ і адтуль з цікавасцю пазіралі на партызан, якія ўсталі ўжо раней. Седзячы на падлозе, адны з іх нешта зашывалі, другія чысцілі сваю зброю, правяралі патроны. Мы не спускалі з іх сваіх вачэй. І раптам хату скалануў аглушальны гром! Ды такі страшны і нечаканы, што я як сядзеў на краі печы, так і паляцеў по-

тырч — добра, што ўнізе быў ложак, які ўпрытык падыходзіў к падмурку. Як выявілася потым, адзін з партызанаў, чысцячы на падлозе нейкай анучай сваю вінтоўку, якую паставіў перад сабою паміж каленяў, нехаця націснуў на курок, і яна стрэліла. Калі партызаны пакінулі хату, мы знайшлі ў столі пры бэльцы і дзірачку ад кулі.

У нас, а таксама ў суседняй Анцінай хаце, начавалі, як відаць, радавыя партызаны. Начальства ж прыладзілася недзе на сярэдзіне засценка. І калі пра радавых партызан усе казалі ў нас толькі добрае, то пра начальнікаў, пра самога Дзямідава, і цяпер успамінаюць нешта зусім адваротнае.

Напроці хаты Казінай бабуні, цераз вуліцу, стаялі прадаўгаватыя калгасныя яслі. Мусіць, з год хадзіў у гэтыя яслі і я. Цяпер яны пуставалі.

І от аблюбавалі яслі для свайго начлегу нашы чырвонаармейцы-акружэнцы. Як расказваў мне многа гадоў назад мой равеснік і сябра, цяпер ужо даўно нябожчык Зэна Шыкер, было іх чатырох, усе «хахлы» («па-хахляцку гаварылі»). Пераадзеўшыся ў цывільнае («у старызну»), яны, відочна, ішлі дадому, ва Украіну.

Трэба ж так супасці, што акружэнцы збіраліся заначаваць у яслях акурат тады, як у Зялёную Дуброву наскочыў дзямідаўскі атрад. Пра тое, як абышліся з імі партызаны, дакладней партызанскія камандзіры, дуброўцы і сёння не могуць успамінаць без хвалявання.

Дакажу найперш, што расказаў мне Зэна. Яго расказ я запісаў у дзённіку 12 снежня 1972 года. Падаю гэты запіс слова ў слова: «Партызаны напіліся ў Стэфкі Дубовікаў. І нарваліся на тых акружэнцаў. Дзямідаў да іх: «Хто такія? А, акружэнцы! Дадому сабраліся? Дзезерціры! Расстраляць!» Прыставілі к сцяне ясляў і ўсіх чатырох расстралялі». От так, лёгка і проста, як мух.

Мая тады шасцігадовая сястра Валя была якраз у Казінай бабуні. Як пачаўся га́лас каля ясляў, яна прыпала к акну. Тых, што стралялі, яна не бачыла: яны былі недзе збоку ад бабунінай хаты. Адтуль чуліся толькі стрэлы. Сястра бачыла, як асядалі і валіліся на зямлю падкошаныя кулямі акружэнцы. Бабуня, якая, ходзячы па хаце, толькі войкала, хацела адцягнуць унучку ад акна, ды дзе там! Малая, якая яшчэ не зусім разумела, што тут дзеецца, павінна была ўсё выгледзець. Калі перасталі страляць, у дзверы раптам нехта заскрэбся. Адчыніла дзверы Валя. На парозе ляжаў адзін з тых, каго расстрэльвалі, — увесь у крыві. «Дзевачка... вады», — папрасіў ён. Але малая так перапалохалася, што ўцякла ад яго. Дала акружэнцу піць бабуня. Яна ўцягнула

яго ў камору, схавала там. Калі ўсё сціхла, узялася яго лячыць. Так бабуня Сымоніха адратавала акружэнца, як аказалася, пятага з усіх, і ён пайшоў сваёй дарогай.

Сын Яся Дубовіка Толя, які быў тады падлеткам, расказваў мне потым, што, калі адвозілі хаваць забітых акружэнцаў, ён знайшоў каля аднаго хустачку-насоўку, на якой па-ўкраінску былі вышыты шоўкавымі ніткамі словы: «Любаму Грыцьку. Я цябе дужа чакаю. Твая Марыся».

Другі Ясеў сын Вадзя Дубовік, якому тады было сямнаццаць гадоў і які жыў з бацькамі ўсутыч з тымі яслямі, пры сустрэчы на пачатку 2004 года таксама сказаў мне, што гэта ўчынілі дзямідаўцы, што нібыта сам камандзір атрада Дзямідаў расстрэльваў акружэнцаў.

З Дзямідавым, расказваў мне Вадзім Іванавіч, былі ўсе афіцэры Чырвонай Арміі высокіх чыноў — «камсастаў». Якраз разам з імі і арудаваў у Зялёнай Дуброве той Дзямідаў. Быў ён нібыта дэпутат Вярхоўнага Савета СССР ці БССР. Вадзім Іванавіч, да бацькоў якога заходзіў Дзямідаў у хату і з якім нават гуляў у карты, успамінаў, што ўсе да яго звярталіся са словамі «товарищ депутат».

Яшчэ адзін сведка зялёнадуброўскай трагедыі Флёрка Паўловіч, якому тады было гадоў 14—15, расказваў мне пра тыя падзеі з іншымі падрабязнасцямі.

Ён ужо быў у Зялёнай Дуброве хвацкім гарманістам, іграў на вечарынках. Таго ж вечара ў Паўловічаву хату заявіліся партызаны:

— Дзе тут гарманіст?

Флёрка сядзеў на печы, збіраўся ўжо спаць, ды яны прымусілі яго ўзяць гармонь і ісці з імі.

— Іграй і вядзі нас туды, дзе ёсць дзеўкі, — загадаў яму старшы — магчыма, той самы Дзямідаў.

Флёрка, расцягваючы галасістую гармонь, пайшоў з імі па вуліцы, у другі канец засценка.

Калі праходзілі паўз яслі, дзе гэтыя партызаны толькі што ўчынілі крывавую расправу з акружэнцамі, старшаму камандзіру здалося, што адзін з расстраляных заварушыўся, прыўзняў акрываўленую галаву, і ён падышоў туды і стрэламі з нагана дабіў сваю ахвяру. Вярнуўшыся, зноў загадаў Флёрку:

— Іграй!

Перапалоханы Флёрка рабіў усё, што казалі яму партызаны. Найперш ён павінен быў завесці іх «да дзевак». Толькі да якіх? Ну, вядома ж, да Гэліных, да маіх цётак, дачок Толевай бабуні.

Іх жа там цэлая хата. Грукнулі ў дзверы сянец. Ды мая бабуня, згледзеўшы з акна тых «кавалераў», барзджэй узяла сенцы на завалу.

— Каму тут што трэба сярод ночы? — строга папыталася яна.

Адказваць партызаны загадалі Флёрку. Той пачаў нешта лепятаць. Бабуня, якая адразу здагадалася, каго ён прывёў, яшчэ больш строгім голасам сказала, як адрэзала:

— Ану вымятайцеся адсюль, мы ўжо спім!

Партызаны, мусіць, не захацелі вельмі скандаліць з бабамі. Таму сказалі Флёрку шукаць іншых «дзевак». Тады ён завёў іх у школу, дзе жылі ў адмысловай прыбудоўцы настаўніцы. Тыя мусілі адчыніць ім.

Што рабілі там з настаўніцамі партызанскія камандзіры, Флёрка мне не расказаў. Ад іншых дуброўцаў я чуў, што адну з настаўніц партызаны прывялі з таго канца засценка пад Гуткоўскіх на лаўку. Пры гэтым Флёрку, якога таксама не адпускалі ад сябе, загадалі сесці на сваю лаўку, акурат напроціў, цераз вуліцу, і скамандавалі:

— Іграй!

Флёрка іграў, а партызаны пад музыку па чарзе гвалцілі на лаўцы настаўніцу.

Дзямідаўцы больш не начавалі ў Зялёнай Дуброве. Яны знайшлі сабе прыстанішча за Паўлаўкай, сярод лясоў і балот, дзе зрабілі сабе лагер. Гэта — кілометраў сем ад нас. Партызаны-дзямідаўцы сталі такім чынам нашымі суседзямі.

Расстраляных жа імі акружэнцаў-украінцаў дуброўцы пахавалі за Конкай, на ўскрайку нашага хвойніку, абгарадзіўшы звычайным жардзяным плотам.

Вельмі скора гэтыя маленькія могілкі давялося пашырыць.

Недалёка ад кузні, пры ляску, стаяла калгасная сушня, дзе сушылі снапкі лёну. Для гэтага там зладзілі невялікую печ.

І от наткнуліся на сушню двое нашых салдат-акружэнцаў. Мусіць, ночы ўжо былі не цёплыя, і яны залезлі туды пераначаваць. Акурат перад тым печ у сушні была добра напалена. Чырвонаармейцы прыгрэліся там і заснулі. А назаўтра дуброўцы знайшлі іх... нежывымі. Учадзелі.

Пахавалі іх каля расстраляных акружэнцаў-украінцаў, трохі пашырыўшы загарадку.

Іхныя дакументы быццам бы ўзяў да сябе Ясь Дубовік, бацька Вадзіма. Дзе яны потым дзеліся — невядома. Як расказала мне Сальфіда, у аднаго з учадзелых знайшлі ў кішэні насовачку з вышытымі словамі: «Месяц для ночи, солнце для дня, роза для

саду, ты — для меня». Вось і ўсе звесткі, якія я здолеў сабраць пра гэтых двух чырвонаармейцаў, так недарэчна загінулых. Ведама ж, маладых здаровых хлопцаў. Мусіць, іх родным, як і родным расстраляных Дзямідавым украінцаў, потым паслалі паведамленне, дзе пісалася стандартнае: «Загінуў без вестак».

Атайбаваўшыся ў нашых ваколіцах, Дзямідаў харчовае забеспячэнне атрада ўсклаў на старшыню калгаса, тады, мусіць, ужо кіраўніка абшчыны Уладзіка Парахню.

Пра тое, што Парахня памагае партызанам, даведаліся немцы. Яны не марудзячы прыехалі ў Зялёную Дуброву, схапілі яго і ў Дрычыне, дзе тады гаспадарылі, павесілі на самым відным месцы.

Удалá яго, казалі, адна дуброўская дзяўчына, якая падгульвала з немцамі.

Сын Парахні — Генадзя, мой равеснік, з якім я сябраваў, пазней гразіўся адпомсціць ёй за бацьку, ды далей грозьбы не пайшоў: балазе яна пасля вайны выйшла замуж у другую, не блізкую вёску.

Апрача Генадзі ва ўдавелай Стэфкі (з дому Уладзіка Цвіркі, браценіка майго дзеда Сымона) асталіся яшчэ дзеці — Вова (які ў 50-х гадах загінуў на цаліне), Толя і Зіна — усе меншыя за яго.

Але трагічны спіс ахвяраў у Зялёнай Дуброве на імені Уладзіка Парахні не кончыўся.

## Прыход з вайны бацькі

Я гуляў каля сваёй хаты, як раптам з Адвэртавага двара пачуў радасна-ўзбуджаны голас Сальфіды:

— Косцік, бацька ідзе!

Помню, мяне ахапіла радасць, якой я, здаецца, дагэтуль не ведаў. Мусіць, гнёт нязмернай мацерынай трывогі за майго бацьку, якога забралі на страшную вайну, зноў-такі перадаўся і мне і яшчэ з большай, чым у дарослых, сілай падсвядома ціснуў на маю дзіцячую псіхіку. І во цяпер гэты цяжэразны гнёт уміг зляцеў з мяне. Я кінуўся на вуліцу, на агароды, дзе здалёк згледзеў бацьку. Быў ён у вайсковай чырвонаармейскай форме, ішоў з нейкім хатулём у руцэ — гэтакага ж, як і адзежа, колеру «хакі». Ён ледзьве цягнуў ногі — быў такі змораны: мусіць, не адзін дзень дабіраўся дадому. Але калі я, бэрсаючыся нагамі ў гарбузніку ды бульбяным цяўніку, падбег пад яго, ён, адкінуўшы за спіну свой хатуль, падхапіў мяне на рукі і моцна прыціснуў да сябе.

Мой бацька быў ці не самы першы, хто вярнуўся з гэтай вайны. Ён расказваў мацеры, нібыта папаў не ў тую, што ўсе дуброўцы, «часць», і яе недзе каля Вясеі, непадалёк ад Слуцка, разбілі немцы. Усе, хто ўцалеў у тым баі, разбегліся хто куды. Мой бацька ішоў адтуль разам са сваім таварышам, які таксама дабіраўся дадому — здаецца, быў той чалавек з Крамка.

«Алесь Сымонаў прыйшоў!» — гэтая вестка мігам абляцела тады засценак.

У той дзень у нашай хаце перабывала ці не ўся Дуброва. Ведама ж, усе хацелі хоць што-небудзь даведацца пра сваіх, забраных разам з маім бацькам на вайну. Спадзяваліся, што і яны гэтак жа вернуцца дадому.

Ды апрача бацькі вярнуліся тады не многія.

Многіх дуброўцаў немцы захапілі ў палон. Расказвалі, што цэлыя натоўпы палонных яны сагналі ў вялікія загарадзі з калючага дроту ў раёне Слуцка, Бабруйска, Пухавіч і недзе яшчэ. І што палонныя паміраюць там ад голаду. Але быццам іх можна выкупліваць у сквапных да нажывы нямецкіх ахоўнікаў. Маткі і жонкі тых, хто не вярнуўся, пазычалі золата і кідаліся шукаць па лагерах-загарадзях сваіх.

З аднаго такога лагера прывезлі на падводзе Кароля Паўловіча. Жончына сястра Анфіса з Талькі выкупіла яго ў немцаў. Толькі ён так знясілеў ад голаду, што яго ўжо не ўдалося адхаяць: паляжаў дома некалькі дзён і аддаў Богу душу. Я часта бываў у Кароля Паўловіча ў хаце, бо хаўрусаваў з яго сынам — малым Каролікам, і помню, як везлі хаваць памерлага. Запомнілася гэта мне таму, што я першы раз бачыў мерцвяка і самлеў, ідучы вуліцай з усімі за дамавінай.

У нейкім з лагераў бачылі за калючым дротам і сына раскулачанага і высланага Андрэя Цвіркі — Алеся, якога мабілізавалі з усімі дуброўцамі.

Хоць і цьмяна, але я помню «Андрэйчыка», як называлі ў нас Алеся Цвірку. Быў гэта вясёлы і заліхвацкі хлопец, да таго ж — гарманіст. Усе дуброўскія дзеўкі, як казала мая цётка Волька, «аж пасіка́лі» за ім. А адна Касперавічанка, здаецца, Тоня, высокая, мажная, на нейкай вечарынцы, дзе ён, як заўсёды, гэтак залівіста і зазыўна іграў на сваёй блішчастай гармоні, была нават ад нейкай рэўнасці самлела перад ім, і яе адлівалі вадой. Але з усіх засцянковых паненак ён выбраў маю цётку Кацю — Рымашэўшчанку. Шчуплаватая, ружавашчокая, як бы з прыпухлымі губамі (нездарма ж усіх нашых Рымашэўскіх

празвалі ў засценку «губатымі»), яна была па-свойму прыгожая і вабная.

Я заўважаў заляцанні «Андрэйчыка» да маёй цёткі. Бо вельмі часта бавіўся ў бабуні, начаваў у яе хаце.

Вельмі прываблівала мяне тое, што тут ці не кожны вечар збіралася засцянковая моладзь на вячоркі: як жа, у нашай бабуні Косцічыхі былі аж чатыры маладыя дзеўкі і два хлопцы — мае цёткі і дзядзькі.

Як цяпер стаяць у мяне перад вачыма тыя вячоркі. Дзяўчаты яшчэ завідна сыходзіліся ў бабунінай хаце, прыхапіўшы з сабою калаўроты, прасніцы і зэдлікі, месціліся з імі дзе хто і пачыналі прасці. Уся хата займалася скудзельніцамі. Трохі пазней падыходзілі, грукочучы дзвярыма ды ботамі (калі трэба было абабіць у сенцах снег) засцянковыя хлопцы. Калі хто з іх заляцаўся да якой дзеўкі, то садзіўся за яе спіной на канец сядна прасніцы і «памагаў» прасці: ці патузваў за косы, ці лагодна пагладжваў іх, ці проста сядзеў, нешта шэпчучы на вуха любай дзяўчыне. Здаралася, за адной паненкай улягалі два кавалеры. Тады кожны з іх стараўся першы сесці за ёй. Часам адзін з іх спіхваў свайго спаборніка сілай і садзіўся на яго месца. Без аніякай злосці, як бы жартуючы. Гул калаўротаў, гамонка, жарты, смех поўнілі хату.

Маім «назіральным» пунктам былі палаткі, на якіх я звычайна спаў разам з катом і з якіх, калі пачыналіся вячоркі, глядзеў, што дзеелася ў хаце, дзе ўсё было навідавоку, бо ў ёй не было ніводнай перагародкі, нават кухня і печ нічым не адгароджваліся.

Унізе пад палаткамі стаяў ложак, бабунін ложак, за ім упрытык ішлі паўз сцяну яшчэ ложкі з акуратна раскладзенымі адна на адну пульхнымі паўзбіванымі падушкамі. Часта хлопцы завіналіся «мацаць дзеўкам цыцкі», і, калі хто-небудзь з іх, ашчаперваючы якую з маіх цётак, прыўздымаў і кідаў на тыя падушкі, а сам навальваўся на яе, яна, вырываючыся, гукала мяне, каб я абараніў яе ад гэтага «бугая». Я мігам саскокваў з палатак і з усёй сілы малаціў яму кулакамі па спіне і стараўся адцягнуць ад цёткі. Ды ў здзіўленні заўважаў, што сама яна толькі рагатала ад гэтага і не вельмі памагала мне вызваляць сябе. Ды і ўсе, хто быў у хаце, як бы нічога не чулі і не бачылі. Тады да мяне даходзіла, што хлопец і не збіраўся задушыць маю цётку, а толькі дурэў з ёй, і я пераставаў яе бараніць, зноў лез на свае палаткі. Цётка ж, вылузаўшыся з-пад хлопца і надаваўшы яму нямоцных грымакоў па спіне, атрэпвала памятую сукенку, папраўляла валасы ды зноў узбівала і складвала горкай згамтаныя падушкі.

На гэтыя вячоркі прыходзіў і Алесь-«Андрэйчык». Жартаваў і смяяўся разам з усімі. А як усе разыходзіліся, Алесь і мая цётка Каця ў лямпе, што вісела на дроце пасярод хаты, прыкручвалі кнот, каб зменшыць святло, і, абняўшыся, садзіліся на лаве пры покуці. Калі ж дамашнія ўкладваліся спаць, яны зусім тушылі ў лямпе агонь і мілаваліся ўпоцемку. Калі ішоў дадому Алесь, я не бачыў, бо ў той час ужо спаў.

У Андрэіхі, казалі, прыхоўвалася золата, і яна магла б выбавіць сына з нямецкага палону, з таго лагера. Гэта ж за пазычанае ў яе золата і выкупілі некаторыя сваіх. І самой Андрэісе раілі так ратаваць сына. Але яна нібыта пашкадавала золата, казала: «І так адпусцяць. Немцы ж добрыя. Яны — проці бальшавікоў». Ды не адпусцілі «добрыя» немцы яе сына, вясёлага Алеся-гарманіста, жаніха маёй цёткі. Ён загінуў у Бабруйскім лагеры смерці разам з многімі тысячамі іншых ваеннапалонных, якім немцы стварылі там праўдзівае пекла.

Андрэіха асталася цяпер з адной адненькай дачкой Анэтай. Ну, а мая цётка Каця… з жыватом.

Недзе на пачатку восені радзіўся ў яе хлопчык. Я гэта помню, таму што ў той дзень мяне ўзяў з сабой дзядзька Федзя вазіць сена. Накідаўшы з копаў у Альхоўцы на воз сена і добра ўцісну́ўшы яго рублём, дзядзька пасадзіў мяне на самы верх, а сам ішоў побач, трымаючы ў руках лейцы. Альхоўская дарога калдобістая, няроўная, і на адным павароце воз узяў дый перакуліўся. Я не згадаў, як ужо ляжаў на зямлі, сярод лазняку ды ляснога ламачча. Перапалоханы дзядзька мігам падскочыў пад мяне. Узрадаваўшыся, што я жывы і нават не выцяўся, ён падняў мяне, атрапаў ад сянін і лісця і папрасіў: «Толькі не кажы бацьку». Воз дзядзька неяк падняў, падцялежыўшы калёсы, і паставіў на колы. Толькі цяпер пабаяўся ўжо садзіць мяне наверх, сказаў ісці за возам. Калі прывезлі сена, я і пачуў навіну. Нехта сказаў, што ў бабунінай хаце сёння і адведкі. Я не прамарудзіў пабегчы туды, бо ведаў: дзе ўсякія радзіны ды вяселлі, там і для дзяцей знаходзяцца прысмакі. Але калі я туды прыбег, адведкі ўжо кончыліся, госці (сваякі-суседзі Рымашэўскія), адведаўшы парадзіху, пайшлі дадому. Мне дасталася толькі нейкая адна аладка.

Хлопчыка назвалі Шурам. Імем самай старэйшай бабунінай дачкі, мацерынай сястры, што яшчэ перад вайной выйшла замуж за рускага вайскоўца Дзёмічава. Ён звёз яе на сваю радзіму — у Арлоўскую вобласць, здаецца, у мястэчка Калпна. З пачаткам вайны яго забралі на фронт, а сама цётка Шура з дзецьмі (дзвюма

дзяўчынкамі), як ад некага дачулася бабуня, пусцілася ў бежанцы і нібыта загінула ў віхурах вайны. У памяць пра цётку Шуру яе імя і перадалі хлопчыку. На шчасце, цётка Шура з дзецьмі перажыла вайну, вярнулася з імі жывая і здаровая.

Калі Шурка пачаў хадзіць-бегаць, яго часцяком, згледзеўшы на вуліцы, заманьвала да сябе ў хату Андрэіха: ведама ж, унук, адзіная памяць пра сына. Як толькі магла частавала хлопчыка. Адзін Бог ведае, што рабілася ў сэрцы жанчыны, калі яна гладзіла бялявую галоўку свайго маленькага ўнука і глядзела, як ён хапатліва, нібы баючыся, каб не адабралі, еў яе прысмакі. На адыходзе яна звычайна давала яму ў рукі сыр у чысценькай марлі, і хлопчык барзджэй бег дадому, каб там пахваліцца пачастункам добрай бабкі.

Забягаючы наперад, скажу, што недзе пасля вайны маю цётку Кацю знайшоў у Зялёнай Дуброве нядаўні партызан, беларускі хлопец з нарачанскага краю Коля Зянько, які ажаніўся з ёй і забраў у сваю родную вёску на Мядзельшчыне. Хлопчыка ж наважылі пакінуць у Дуброве, пры яго і маёй бабуні, якая зрабілася для Шуры другой маткай. Тут ён скончыў школу, ходзячы разам з маім братам Алікам спярша ў Майсеевічы, а потым у Залужжа. Адсюль па пракладзенай мною дарозе падаўся Шура ў Беларускі дзяржаўны універсітэт, на беларускае аддзяленне філфака. На філфаку знайшоў ён і сваё каханне. У вялікім «ленінскім» пакоі студэнцкага інтэрната на Свярдлова згулялі вяселле, рэй на якім вельмі хораша і дасціпна вёў дэкан факультэта Алег Антонавіч Лойка, а шчыры наказ на вялікую жыццёвую дарогу даваў выкладчык роднай літаратуры Іван Якаўлевіч Навуменка — вядомыя сёння пісьменнікі. Пасля вучобы маладую пару накіравалі ў Сенненскі раён на Віцебшчыну, дзе і аселі маладыя, працуючы на ніве асветы. Ну, і абсыпаліся ўжо дзецьмі ды ўнукамі. Так і пайшоў па свеце, разгаліноўваючыся, род Алеся Цвіркі — «Андрэйчыка».

## Прыпіснікі

На пачатку нямецкай акупацыі асела ў Зялёнай Дуброве некалькі «прыпіснікоў» — чырвонаармейцаў-акружэнцаў (ці мо палонных?), якія былі «прыпісаны» да нашай вёскі і, здаецца, павінны былі перыядычна адзначацца ці то ў нямецкім гарнізоне ў Фалічах, ці то ў камендатуры ў Старых Дарогах.

Адзін з «прыпіснікоў» кватараваў і ў Казінай бабуні, стаўшы нам як свой. Быў гэта шчуплы, невысокенькі, вельмі жвавы хло-

пец з Расеі. Звалі яго Коля Талстой. Усім у Дуброве палюбіўся ён сваім вясёлым норавам, а больш за ўсё тым, што вельмі хораша спяваў. З ім спяваў часта і другі «прыпіснік» — Грышка Сямёнаў. Асабліва запала ў душу дуброўцам іхняя песня пра салаўя. Мая сястра Валя і суседка-сваячка Сальфіда назаўсёды запомнілі тую «жаласную» песню, строфы якой я і запісваю ад іх праз 63 гады, у 2004 годзе:

Как в саду при долине
Громко пел соловей,
А я, мальчик, на чужбине
Позабыл всех друзей.
Позабыл, позабросил
С молодых юных лет.
Сам остался сиротою,
Счастья, доли мне нет.
Ой, помру ж я, помру,
Похоронят меня,
И никто не узнает,
Где могила моя.
На могилу мою,
Знать, никто не придет.
Только ранней весной
Соловей пропоет.

«Прыпіснікі» доўга не затрымаліся ў Зялёнай Дуброве. Аднае начы ўсіх іх забралі ў партызаны. Тыя ж дзямідаўцы.

Адзін з «прыпіснікоў» Грыша Сямёнаў не захацеў быць партызанам. Пабыўшы нейкі час у стане Дзямідава, пра ваенныя подзвігі якога супраць немцаў ніхто ў нас нічога не чуў, ён уцёк назад у Зялёную Дуброву. Да Жаўтагіркі, нашай настаўніцы, у якой ён прыжыўся, быў нават нібыта распісаны з ёю. Я не даведаўся, адкуль яе прыслалі ў Зялёную Дуброву настаўнічаць. Жыла яна тут з дачкой і сястрой. Мужа ў яе не было. Казалі, недзе загінуў. Мне яна чамусьці ніяк не запомнілася. Была яна, як расказваюць дуброўцы, вельмі прыгожая. Высокая, статная. Мусіць, Грыша па-сур'ёзнаму пакахаў яе. Думаў, як відаць, жыць з ёй у нашым лясным кутку, нікога не чапаючы, і, можа, забыць пра вайну. Ды вайна яго не забыла.

Адразу пасля яго ўцёкаў Дзямідаў загадаў вярнуць уцекача ў свой лагер. Уночы дзямідаўцы ўламаліся ў Жаўтагірчыну прыбудоўку ў школе, паднялі Грышу з пасцелі і загадалі ісці

з імі. «Не хачу знацца з бандытамі! — адказаў ім Грыша. — Я пайду ваяваць з немцамі толькі ў армейскую часць». Але партызаны заламалі яму рукі, звязалі і сілком павялі з сабой. Там, за Паўлаўкай, загадам Дзямідава яго расстралялі як «дэзерціра».

Назаўтра партызаны наказалі дуброўцам забраць яго цела. Па Грышу паехалі на санях (значыць, было гэта ўжо той славутай зімой 1941 года) два падлеткі Вадзя Яся Дубовіка і мой дзядзька Федзя. Вадзім Іванавіч расказаў мне, што Грыша ляжаў галавой на краі вогнішча і што з аднаго боку ў яго былі прыпалены валасы. Хлопцы паклалі забітага на сані і павезлі ў Зялёную Дуброву.

Уся вёска сышлася хаваць рускага хлопца Грышу Сямёнава ўжо як свайго. Казалі, ляжаў ён у дамавіне як жывы. Вельмі плакала-ўбівалася над ім настаўніца Жаўтагірка. Маладая, прыгожая, статная, яна зноў асталася ўдавой. Расказвалі, што яшчэ адна адзінокая дуброўская жанчына (прыхаваем яе імя) употай выцірала на пахаванні Грышы нястрымныя слёзы, а праз многа гадоў, перад смерцю, прасіла пахаваць яе побач з ім.

Пахавалі Грышу ў той жа загарадцы, дзе ляжалі іншыя чырвонаармейцы-акружэнцы.

Пасля выгнання немцаў Жаўтагірка напісала на радзіму Грышы Сямёнава — недзе пад Тулу — пісьмо, каб хто-небудзь з радні прыехаў на яго магілу. Але чамусьці ніхто не адгукнуўся на яе пісьмо. Спраўдзіліся словы яго песні пра тое, што «на могилу мою, знать, никто не придет, только ранней весной соловей пропоет». Бо і Жаўтагірка неўзабаве назусім выехала з Зялёнай Дубровы.

Мне добра запомніліся гэтыя абгароджаныя простымі жэрдкамі могілкі на ўскрайку нашага хвойніка. Паўз іх я звычайна хадзіў у грыбы. Вышукваючы баравікоў ды лісічак, я міжволі абыходзіў гэтае месца пахавання салдат-акружэнцаў, дзе заўсёды тужліва сціскалася сэрца.

Калі ў нас на Раз’ездзе недзе ў 50-х ці 60-х гадах настаўнік зялёнадуброўскай пачатковай школы Уладзімір Антонавіч Пятроўскі заснаваў могілкі, косці ўсіх загінулых акружэнцаў перанеслі туды і пахавалі ў агульнай магіле. З часам нашы мясцовыя ўлады паставілі над магільным курганком высакаваты бетонны помнік з металічнай шыльдачкай, на якой напісалі стандартныя словы пра тое, што тут пахаваны безыменныя савецкія воіны, якія загінулі ў барацьбе за радзіму супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Вядома ж, як і ад чыіх рук яны загінулі, тут не пісалася. А што «безыменныя», то праўда: большыню іх імёнаў мы ўжо, мусіць, ніколі не дазнаемся. Але ж два

імені, прынамсі, вядомыя. Гэта два Грышы: украінец Грыцько і расеец Грыгорый Сямёнаў.

І ўжо зусім несусветную лухту пра гэты помнік напісалі аўтары старадарожскай кнігі «Памяць»: «Брацкая магіла савецкіх воінаў. На могілках. Пахаваны 7 воінаў 30-й кавалерыйскай дывізіі конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту і партызан, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі пры вызваленні раёна ў чэрвені 1944 г.» Адкуль узята тут кавалерыйская дывізія, калі мы не бачылі тут ніводнага кавалерыста. І галоўнае — усе ж пахаваныя ў магіле загінулі, як я расказаў вышэй, яшчэ ў 1941, а не ў 1944 годзе, і не «пры вызваленні раёна».

## З бацькам

Усё зноў стала на месца ў нашай сям'і з прыходам бацькі. З вялікай ахвотай узяўся ён за гаспадарку. Цяпер у яго быў адзін клопат: як пракарміць сям'ю.

Узараць поле, прабаранаваць яго і засеяць, звезці снапы і абмалаціць, накасіць карове сена, пасадзіць, выараць і ўпарадкаваць бульбу — усё гэта было на ім, не кажучы пра мора іншай работы.

З прыходам немцаў у нас яшчэ быў, не раскідаўся калгас, і бацька мусіў рабіць і там. Ён зноў пайшоў у кузню. Балазе каваль заўсёды патрэбен людзям. Ізноў я бегаў у кузню яму «памагаць».

Іржавым цвіком сядзела ў бацькавай галаве хата. Яе, ужо зусім старую, неўзабаве пасля жаніцьбы купілі — пэўне ж, з дапамогай радні — у Міхала Яльніцкага, які выехаў на Дубраўскія Хутары. Хата была ўжо нікуды не вартая: падгнілі падрубы, шашаль патачыў у сценах бярвенні; з іх сыпалася парахня. Ды і страха даўно парасла зялёным мохам, там і сям працякала.

Чакаць, калі кончыцца вайна, каб будаваць новую? Ды хто ведае, калі яна кончыцца і што будзе пасля яе. Бацька наважыў: будавацца. Што будзе, то будзе. Балазе дзерава можна цяпер браць колькі трэба. Ды і немцы, здаецца, не думалі такіх, як ён, чапаць.

Бацька, якому памагалі мае дзядзькі Федзя і Іван, пачаў вазіць бярвенне, памалу часаў яго, ужо залажыў падмурак.

Ды на самым пачатку будаўніцтва ён неспадзявана моцна занядужаў. Яго схапіў жывот. Схапіў не на жартачкі — не адпускаючы. Маці казала мне потым, што гэта — ад фінскай вайны.

Нібыта бацька некалькі дзён змушаны быў ляжаць жыватом на лёдзе Ладажскага возера, якое ўзялі пад абстрэл фіны. Яго нават лёгка параніла тады ў нагу. Пазней я знайшоў на карце Ладажскае возера. Яно — далекавата ад Фінляндыі. Можа, бацька казаў пра якое другое возера?

Ад тога ляжання на лёдзе ў яго і зрабілася нешта з жыватом. Калі бацьку бралі на вайну з немцамі, хвароба тады была прыцішылася, як бы стаілася. Але пасля неспакойных, «стрэсавых» дзён пачатку новай, яшчэ больш страшнай вайны з яе неўпарадкаваным харчаваннем, а то і зусім без яго, з арганізацыйнай неразбярыхай у ваенкаматах ды ўсімі ваеннымі нягодамі, хвароба ізноў вылезла напаверх, пачала казаць пра сябе.

Спачатку бацька не вельмі зважаў на яе: пабаліць-пабаліць ды і сціхне. Але ж не, не сціхла. Цяпер яна так навалілася на яго, што адразу выбіла з каляі: можа, памаглі яго хваробе бярвенні для хаты, з якімі трэба было ўсё ж тузацца?

Але будаўніцтва хаты бацька не суняў. Часалі бярвенне, выдзёўбвалі пазы для моху, клалі вянкі зруба цяпер ужо найманыя людзі, болей нехта з радні. Сам жа бацька, у якога ўжо не было сілы, толькі сядзеў на якім бервяне і глядзеў на іхную работу.

Я помню той зруб, кучкі жаўтаватага, падсохлага ўжо моху ў сярэдзіне, помню, як слалі яго на бярвёны, а потым прыціскалі новымі бярвёнамі з выдзеўбанымі пазамі ўнізе. Калі якое бервяно не шчыльна прылягала на ніжнім, яго зноў прыўздымалі, падчэсвалі ў пазе ці падкладвалі яшчэ моху, каб шчыльней лажылася.

Асабліва цікава было мне глядзець, як пілавалі дошкі на падлогу і столь. На спецыяльна зроблены высокі памост аднекуль прыезжыя пільшчыкі ўсцягвалі вяроўкамі хваёвую калоду і там замацоўвалі. Адзін з пільшчыкаў залазіў наверх з доўгай шырокай пілой, апускаў яе канец уніз, другому пільшчыку. Абодва яны браліся за яе папярочныя, а не такія, як у звычайнай пілы, ручкі і пачыналі — кожны ў дзве рукі — разразаць калоду ўздоўж. Я дзівіўся, як лоўка шахалі яны вялікай пілой, як хутка разразалася калода ад камля да канца, як шугала адтуль пілавінне, на многа буйнейшае, чым пры рэзанні дроў.

Бацьку трэба было лячыцца, і ён сабраўся ехаць у амбулаторыю ў Жыцін. З сабою захацеў узяць і мяне. Ён памалу запрог каня, укінуў у драбіны калёс ахапак сена, маці палажыла на сена посцілку, і мы, зручна ўсеўшыся на мяккім, паехалі.

Дагэтуль я яшчэ ніколі не бачыў іншага сяла, апроч нашай Зялёнай Дубровы, і мне не цярпелася паглядзець, што гэта за Жыцін. А яшчэ бацька сказаў мне, што я ўбачу там раку. Я не ведаў, што такое рака. Ён растлумачыў мне прыкладна так: от у нас ёсць возера, вада ў ім стаіць на месцы, хіба толькі вецер калі яе пагайдае, а ў рацэ вада ўвесь час цячэ і цячэ. Гэта было для мяне вялікае дзіва: як яна можа цячы? Я не мог уявіць такое.

Мы ехалі нашай Конкай, паабапал ішлі дуброўскія палі і лясы. Спачатку дарога прывяла нас у Дрычын, такую ж невялікую вёску, як і наша. Паехалі яе вуліцай, паўз такія ж, як і ў нас, хаты. У самым канцы вёскі перасеклі асіповіцка-шышчыцкую гравейку, за якою мне і паказаў бацька раку. Яна блішчала сярод высокай асакі, чароту і зараснікаў ракітніку. З гэтага, дрычынскага, боку бераг быў га́лісты, адкрыты, з жоўтым пясочкам каля вады. Там, падкасаўшы штаны, стаялі ў вадзе па калені, два хлопчыкі з вудамі. Аб іх ногі пляскалася вада. Я падумаў, як добра дрычанам: гэта ж ім можна кожны дзень купацца і лавіць рыбу.

Потым мы пераязджалі мост. Многія дошкі на ім паадбіваліся і грукаталі ў нас пад коламі. Тарахценне калёс глухім гулам аддавалася пад мостам.

Бацька на хвіліну прыпыніў каня на мосце. Каб паказаць мне, як цячэ рака. Для гэтага ён кінуў за мост нейкую трэску, і яе борзда панесла далей ад моста. Цяпер я заўважыў, што і высокая шаўкавістая трава каля берага аж паслалася ў той жа бок па вадзе пад яе напорам. Вада толькі пашавельвала яе, як бы расчэсвала.

Мы мінавалі яшчэ Крамок і Юравічы і толькі тады ўехалі ў Жыцін.

Сяло мне чамусьці не запомнілася. У памяці асталася толькі прадаўгаватая драўляная амбулаторыя, куды і пайшоў бацька, навязаўшы ў двары пры плоце каня і пакінуўшы мяне на возе. Здаецца, доўга ён не забавіўся ў амбулаторыі. Як яго там глядзелі і што сказалі, я не ведаю: ён мне, ведама ж, пра гэта не гаварыў.

На другім баку вуліцы, акурат напроці амбулаторыі, залацела спелым жытам поле, і там жанчыны пачыналі яго жаць. Запомнілася мне гэта таму, што каля іх сунялося некалькі немцаў (яны былі атабарыліся ў Жыціне). Адзін з іх падышоў да бліжэйшай жанчыны і, нешта пагергетаўшы, узяў з яе рук серп, пачаў пробаваць жаць жыта. У яго, мусіць, гэта не вельмі атрымлівалася, і астатнія немцы, гледзячы на яго, весела рагаталі: нарэшце ён, таксама скалячы зубы, аддаў жанчыне серп.

На нас немцы не зважалі. І мы, зручней усеўшыся на калёсах, пакацілі дадому.

Потым бацька яшчэ раз узрадаваў мяне: ён сказаў, што возьме мяне з сабой і ў горад, у Старыя Дарогі. Што такое горад, я таксама не ведаў. Бацька расказаў мне, што гэта вялікае селішча, дзе многа вялікіх дамоў, што ёсць там дамы з цэглы, белакаменныя, прытым з двума ці нават трыма паверхамі. Выходзіць, дом стаіць на доме? Мне гэта было так дзіўна і цікава, што я начамі сніў белыя дамы, якія стаяць адзін на адным. З вялікім нецярпеннем чакаў я, калі мы з бацькам выберамся туды.

Паехалі мы недзе ранняй вясной. Бо мне добра запомнілася, што па дарозе яшчэ ў многіх месцах стаяла вада. Асабліва ўразіла мяне і нажаха́ла грэбля. Калі мы пад'ехалі пад яе, бацька суняў каня і злез, каб паглядзець, як па ёй ехаць. Я зірнуў уперад і жахнуўся: уся грэбля, якой і канца не было відаць, ляжала ў вадзе. Вада разлілася па ўсім балоце — і справа, і злева. Мора морам! Толькі ў пачатку грэблі, каля якой мы суняліся, былі відаць яе папярочныя жардзіны і драбнейшае лам'ё. Якая яна была далей, у вадзе і блізка не праглядвалася. Няўжо бацька паедзе па ёй? Мо лепей павярнуць назад? Але бацька патупаў-патупаў каля грэблі, папробаваў ботам схаваныя ў вадзе ламачыны і зноў ускочыў на калёсы. Толькі сказаў мне мацней трымацца за білы драбін. Сам жа стаў на ўвесь рост уперадзе і асцярожна пачаў патузваць лейцамі каня.

Конь ступіў на тонкія, пачарнелыя ад даўнасці жардзіны грэблі, што захадзілі, закоўзаліся пад яго капытамі, і суняўся перад вадой. Шырока раздзімаючы ноздры, доўга абнюхваў яе і толькі калі бацька тузануў лейцамі, нехаця пайшоў на грэблю. Але ў вадзе нябачныя жардзіны закоўзаліся пад капытамі яшчэ болей, і конь, дробна перабіраючы нагамі і кідаючыся ў бакі, пайшоў барзджэй, нават подбегам. Калёсы пачалі падскокваць так высока, што аж прыўздымаліся канцы жардзін па баках грэблі, і я, прысеўшы на кукішках, ледзьве трымаўся абедзвюма рукамі за білы. А тут яшчэ колы амаль цалкам схаваліся ў вадзе, яна падступала ўжо пад дошкі кузава. Я заазіраўся, куды б уцячы ад гэтакага жаху, але кругом стаяла вада, вясновая, сцюдзёная. Нарэшце конь неяк вынес нас на сухое. Можна было толькі падзівіцца, як ён не паламаў на тым ламаччы ногі.

У Старых Дарогах запомнілася мне пачакальня амбулаторыі, дзе бацька, ідучы ўсярэдзіну, у дзверы, сказаў мне пасядзець на шырокай, пафарбаванай у карычневы колер дашчанай канапе з

высокай спінкай. Назаўсёды застаўся ў маёй памяці адмысловы бальнічны пах, мусіць, лекаў і ёду, які мне здаўся прыемным.

Другое маё ўражанне ад горада, ад Старых Дарог — гэта маленькая крамка з адным ці двума столікамі-стойкамі (на якой яна была вуліцы, я цяпер, каб і хацеў, не ўспомніў бы). Сюды завёў мяне бацька з нейкім прыяцелем (ці не нашым сваяком Сыцькам?). Стоячы за тым столікам, яны пілі купленае бацькам чырвонае віно. Мне ён таксама наліў у шклянку «віна», толькі з другой бутэлькі: называў ён яго яшчэ сітром. Такой смакаты я дагэтуль ніколі не піў і папрасіў у бацькі яшчэ. Потым няскора я займеў такую раскошу — піць сітро.

## Развітанне

Хвароба не толькі не адступілася ад майго бацькі, а яшчэ болей мучыла яго і знясільвала. Усё, што ён ні еў, выварочвала з нутра. Яго рвала, здаецца, пасля кожнай яды. Ды от надарылася прасветліна. Маці зварыла чыгун пахкай капусты з мясам. Бацька са смакам з'еў цэлую міску, і гэтым разам усё абышлося добра: яго не вырвала. Бацька і маці, а з імі і мы, дзеці, павесялелі: можа, дасць Бог, мінецца ліха.

У той дзень у нашай хаце сабраліся дуброўскія мужчыны гуляць у карты — у «ачко». Яны часта забаўляліся гэтай гульнёй. Мусіць, у такі трывожны час ім хацелася быць разам, ведаць, хто дзе што чуў, памеркаваць, як ім быць. Карты — быў добры прыклеп для іхных збораў. Болей, здаецца, збіраліся — калі была пагода — пад вялікай прывулічнай бярозай, што стаяла напроці Дзядзюлевай хаты. А сёння чамусьці сышліся ў нашай хаце. Для гэтага пераставілі з покуці на сярэдзіну хаты стол. Гуляў з усімі і мой бацька. Як гаспадар, ён часта ўставаў з-за стала, хадзіў вясёлы і давольны. У маёй памяці гэтая звычайная гульня ў карты асталася як нейкае харошае свята.

Але назаўтра бацьку вырвала ізноў. У мяне ізноў лёг на сэрца камень.

Бацьку давялося класціся ў бальніцу ў Старых Дарогах.

Паляжаў ён там тыдні два-тры, а можа, і болей. Прывезлі яго адтуль цётка Волька і дзядзька Федзя на падводзе. Ён так схуднеў, так аслабеў за час ляжання ў бальніцы, што не мог ужо ісці, і дзядзька Федзя лёгка прынёс брата на руках — казалі, быў як пярынка. Помню, яго палажылі на высокі нікеляваны ложак, што стаяў акурат напроці дзвярэй, і накрылі паверх коўдры

вялікім чорным кажухом. Я быў рады, што бацька вярнуўся, што ён ізноў дома, ізноў з намі.

Выпісалі бацьку таму, што дактары не ведалі ўжо, як яго лячыць. Маці казала, што ў яго быў нібыта «катар страўніка». Што гэта такое, я і цяпер не ведаю. Яму патрабавалася аперацыя. Але ў Старых Дарогах такую складаную аперацыю, як аперацыя на страўніку, рабіць не ўмелі. Яго накіроўвалі ў Бабруйск, наш абласны цэнтр. Ды Бабруйск тады кішэў немцамі. Немцы стаялі, ведама ж, і ў Старых Дарогах. Але з імі старадарожцы ўсё ж неяк зжыліся, знаходзілі паразуменне. У Бабруйску ж усё было цяпер чужое, цалкам варожае. На патрэбную медычную помач, хоць на якое спрыянне там нельга было і спадзявацца. Ехаць туды — гэта азначала тое ж, што лезці ў мурашнік.

Маці кінулася шукаць народныя сродкі. Яна напытала ў недалёкіх Майсеевічах шаптуху. Не марудзячы, паехала па яе. Шаптуха згадзілася за яйкі палячыць майго бацьку. У нас ізноў засвяцілася надзея.

Я помню, як маці прывезла на падводзе не старую, паўнаватую жанчыну ў андараку, як тая сядзела на зэдлі каля бацькавага ложка і нешта шэптам гаварыла над ім, робячы рукамі нейкія знакі. Потым сказала, каб усе вышлі з хаты. Я прытаіўся пры дзвярах, каля мыцельніка — мне хацелася паглядзець, што ж яна будзе рабіць, як лячыць бацьку. Жанчына тым часам паднялася з зэдля, перажагнала бацьку, потым павярнулася к яму спіной, высока задрала свой шырокі, у шматколерныя палоскі андарак і голым задам правяла яму зверху ўніз па твары. Я згледзеў, як бацька адвярнуў свой твар к сцяне. Апусціўшы андарак і атрапнуўшы яго, шаптуха ізноў пазвала ўсіх у хату і сказала, што цяпер майму бацьку палепшае.

Ды лепш яму не рабілася. Ён марнеў з кожным днём.

У Толевай бабуні, дзе я начаваў, мяне пабудзілі яшчэ цёмначы. Мяне доўга тармашылі, але галава як прырасла к падушцы: мне хацелася спаць.

— Уставай, Косцічак, — зноў і зноў штурхала мяне цётка Волька, — твой жа бацька памёр.

Я чуў праз сон, што казала цётка Волька, але сэнс яе слоў да мяне чамусьці не даходзіў, і я не разумеў, чаму мне абавязкова трэба ўставаць.

Нарэшце мяне ўсё ж раскатурхалі.

— Адзявайся, трэба ісці дадому. Бацька твой памёр, — паўтарыла цётка Волька, калі я падняўся і праціраў вочы.

Яе словы і цяпер мяне не вельмі кранулі: мусіць, я не мог паверыць, што ў мяне не стала бацькі.

Калі мы з цёткай Волькай і яшчэ кімсьці (мусіць, з іншымі маімі цёткамі) выйшлі з хаты, ужо развіднівала. Выразна відаць былі платы і хаты, цёмныя прывулічныя ліпы, якія стаялі зусім нерухома, нібы яшчэ спалі.

Каля крамы (былой крамы, бо з пачатку вайны яна пуставала) я ўбачыў шэрага ката. Як такое прапусціць? Я кінуўся яго лавіць. Кот сігануў за вугал крамы і прысеў, павярнуўшы на мяне галаву, цікуючы за мною вачыма, гатовы ізноў пусціцца наўцёкі. Я хацеў абавязкова яго дагнаць. Ды мяне пазвалі назад.

— Бацька памёр, а яму кот наўме, — паўшчувала мяне цётка Волька.

Каля нашай хаты снавалі людзі. Дзверы сянец былі адчынены. Мы зайшлі ў хату. Там было поўна людзей. Убачыўшы мяне, усе расступіліся, даючы мне прайсці. Я здзівіўся, што мяне, малога, так уважылі дарослыя. Перада мной пасярод хаты ляжаў у дамавіне, пастаўленай на лаву, мой бацька. Я паспакайнеў: значыць, бацька ўсё ж такі дома.

Каля дамавіны хадзіла і, плачучы, стукалася галавою аб яе край, мая маці, ціха румзала, седзячы ва ўзгалоўі сына, Казіна бабуня. Ва ўсіх былі заплаканыя вочы. Калі мяне прапусцілі пад дамавіну, маці, не стрымліваючы сябе, загаласіла-запрычытала на ўсю хату. Усе барзджэй пачалі выціраць слёзы.

Хоць мне нясцерпна было слухаць мацерына галашэннеўбіванне, хоць у мяне таксама было цяжка на душы ад агульнага плачу, усё ж пад мяне плач яшчэ не падступіў. Суцяшала тое, што бацька, як і раней, ляжаў дома.

І толькі калі, седзячы на печы пры коміне, я ўбачыў, як майго бацьку пад памацнелы плач і прычытанні пачалі выносіць з хаты, то з усёй яснасцю зразумеў, што гэта ж яго павязуць хаваць, закопваць, што ён ужо ніколі не вернецца дадому. Што ў мяне ўжо ніколі-ніколі не будзе бацькі. Тады мне стала да нясцерпу крыўдна і горка, і я пачаў кідацца пры коміне ад несуцешнага плачу.

Бацьку вынеслі на вуліцу, палажылі труну на калёсы. І вось маўклівы слухмяны конь павёз яго ад нашага двара. Ці не ўся Зялёная Дуброва выйшла яго праводзіць. Праводзіць да драўлянага крыжа ў канцы засценка, каб там, укленчыўшы, памаліцца і завязаць на ім, на тым святым крыжы, новы кужэльны ручнічок — «афяру». Адтуль трэба было везці майго бацьку аж у Жыцін, дзе звычайна хавалі дуброўцы памерлых.

Я бег за бацькам і аж заходзіўся ад плачу. Сальфіда і цяпер, праз 63 гады, успамінае, як я тады, бегучы, крычаў, крычаў немым голасам, на ўсю вуліцу.

Бегла за дамавінай, рвучы на сабе валасы, млеючы і шторазу падаючы, і мая маці. Ды яе стрымалі. І не толькі не пусцілі ехаць у Жыцін, але не далі далёка ісці за падводай: яна ж была цяжарная, цяжарная пятым дзіцем.

Памёр бацька якраз на Узвіжанне. Калі збіраюцца ў свой вырай вужы. Дзень тады, казалі, выдаўся надзіва цёплы, сонечны. Ды ні я, ні маці, ні ўсе мы не заўважалі, які ён, гэты дзень. Для нас ён быў чорны.

Мая бабуня, Толева бабуня, расказвала, што калі яна сядзела пры маім бацьку, у самую поўнач раптам дзынкнула клямка — спярша ў сенцах, потым у хаце. Бабуня павярнула галаву на дзверы, каб паглядзець, хто ж там ідзе. Але дзверы так і не адчыніліся. Акурат у гэты момант, казала яна, і сканаў мой бацька, — значыць, па яго прыходзіла смерць.

Бацька ўжо звечара прадчуваў, што яна сёння прыйдзе. Таму папрасіў падвесці пад яго дзяцей, якіх ён, казалі, вельмі любіў і якімі не мог нацешыцца. У хаце былі толькі трое — сямігадовая Валя, пяцігадовая Зіна і трохгадовы Алік. Іх паставілі перад ім у радок (Алік трымаўся за ножку ложка). І бацька, перахіліўшыся з ложка, па чарзе пагладзіў іх па галоўках і, называючы па імені, развітаўся з імі. Я тады не быў дома, бо начаваў у Толевай бабуні. І бацька са мной не развітаўся. А я — з ім.

## Аблава

Маці — а ёй тады было 29 гадоў — асталася пад нямецкай акупацыяй адна з намі, малымі дзецьмі.

Загінуць нам не дала радня — з мацерынага і з бацькавага боку. Праўда, і там ужо не было гаспадароў: абодва мае дзяды, дзед Сымон, бацькаў бацька, і дзед Косцік, мацерын бацька, адышлі ў лепшы свет яшчэ да вайны. Тры сям'і — і тры без сталых мужчынскіх рук. Мужчынскія клопаты клаліся цяпер: у сям'і Казінай бабуні — на 16-гадовага Федзю, у Толевай бабуні — таксама на 16-гадовага Івана і 10-гадовага Толю, у нашай — на мяне, 8-гадовага. У сем'ях абедзвюх бабунь пераважалі дзеўкі і дзеці. У Толевай бабуні аставаліся з ёю чатыры дачкі: 24-гадовая Волька і маладзейшая за яе — Каця з аднагадовым сынам Шуркам, Алімпа і Валя. У Казінай бабуні — дачка Анэта, асіроцелая дзесяцігадовая ўнучка Казя і таксама

асірацелы шасцігадовы ўнук Алеська. Больш ратоў, чым здатных да работы рук.

Ды і на гэтыя рукі паквапіліся немцы. Яны рабілі па сёлах аблавы на маладых хлопцаў і дзяўчат, сілком адпраўлялі іх у Германію на работу ў баўэраў.

Таму на выпадак такой аблавы дуброўская моладзь рабіла сабе хованкі. Хто пад падлогай хаты, хто пад падвойнымі сценамі ў лазні, хто на вышках у хлеве, хто ў акопе дзе-небудзь на агародзе ці за агародам.

Зрабілі такую хованку і ў нашай хаце. Пад падлогай. Разгрэблі там паглыбленне, паслалі саломы, а паверх — посцілкі. Усё — перабыць нейкі час можна. Каб барзджэй туды ўскочыць, дзве дошкі ў падлозе пад ложкамі аставілі непрыбітымі.

Аднаго разу надвечар прыкацілі на дзвюх ці трох машынах немцы. Моладзь кінулася была хавацца. Ды немцы нібы не збіраліся па дварах каго лавіць. Пахадзілі па засценку, нікога не чапаючы, і пабраліся да некага начаваць. Усімі сваімі паводзінамі яны паказвалі, што зусім не набіраць рабсілу прыехалі яны ў Зялёную Дуброву, а нечага так. Усе, хто хаваўся, павылазілі са сваіх хованак і вярнуліся ў хаты. Балазе было холадна: стаяла зіма.

Адзін з салдат, зайшоўшы ў хату Толевай бабуні і ўбачыўшы там многа дзяўчат, шапнуў ёй на польскай мове (як відаць, быў гэта сілком мабілізаваны ў нямецкае войска паляк), што заўтра раніцай будуць хапаць маладых людзей для адпраўкі ў Германію.

Дарослыя дзеці абедзвюх бабунь, згаварыўшыся, крадком пазбіраліся ў нашай хаце. Узялі на завалу сенцы і, прылёгшы дзе хто мог, перабылі ў нас ноч.

Назаўтра, як толькі развіднела, прахукалі ў замерзлых аконных шыбах дзіркі-акенцы і сталі сачыць за вуліцай, каб не прапусціць, калі пачнецца хапун.

Немцы паявіліся знянацку. Так, што іх не адразу і згледзелі. Ішлі яны двума ланцугамі паўз самыя платы па абодвух баках вуліцы і па двое станавіліся ў кожных варотцах, каб нікому не даць уцячы. Толькі калі ўбачылі двух немцаў каля нашых варотцаў, мае цёткі адна за адной шуганулі пад падлогу. Падлетак дзядзя Ваня таксама ўскочыў туды. Мы, дзеці, усе чацвёра, паселі радком на краі печы і са страхам і цікавасцю пазіралі за ўсім, што дзеелася ў нашай хаце.

— Сядзіце ж ціха, каб і не рэкнула каторае, — строга наказала нам маці і пайшла к печы, пачала, як і кожнай раніцай, каля яе ўходжвацца.

Немцаў доўга чакаць не трэба было. Гучней, чым звычайна, рыпнулі нашы варотцы, і паўз замерзлыя вокны замільгалі іхныя цьмяныя цені. Во яны загрукалі ў дзверы сянец, і маці пайшла ім адчыняць. Калі ішла назад, за ёю следам ступілі ў хату і немцы. Здаецца, іх было трое.

Адразу пагрукалі сваімі кованымі ботамі па хаце, зазірнулі на печ, дзе мы сядзелі, амаль не дыхаючы ад страху. Нават малы Алік не падаў ніякага голасу — мусіць, інтуітыўна разумеў, што лепей тут не абзывацца. Адзін з немцаў, паказваючы на мацерын вялікі жывот, пачаў мігамі і гергетаннем дапытвацца, дзе ж яе гаспадар. Маці неяк растлумачыла, што няма яго, нядаўна пахавалі. Пахадзіўшы, пахадзіўшы па хаце і нічога падазронага не прыкмеціўшы, немцы пайшлі з хаты, нешта гергечучы паміж сабой.

Толькі калі яны, нахапаўшы ў машыны дуброўскіх хлопцаў і дзяўчат, павезлі іх з сабою, маці ізноў адняла маснічыны падлогі і сказала маім цёткам і дзядзьку Ваню вылазіць.

Выбавіўшыся на хату, яны наперабой пачалі расказваць, колькі там нацярпеліся страху. Гэта ж немцы грукалі цяжкімі, падбітымі жалезам ботамі над самымі іхнымі галовамі! «Як малаткамі стукалі па нас», — успамінала цётка Волька. Калі б, не дай Бог, каторае з дзяцей прагаварылася якім словам ці нават глянула не так на падлогу, бяды б тады было не мінаваць.

Даведаўшыся вечарам ад паляка пра мэту прыезду немцаў, нашы не ўсіх змаглі папярэдзіць. Таму немцам і ўдалося тады нямала нахапаць дуброўскай моладзі.

Папаўся ў іх рукі і наш дзядзька Федзя, які, не ўважаючы на папярэджанне, чамусьці астаўся начаваць дома. Мусіць, не паверыў паляку. Ці паспадзяваўся дома як-небудзь прыхавацца. Не ўдалося.

Пахапаных дуброўцаў завезлі ў Старыя Дарогі і пад канвоем завялі ў памяшканне вакзала — каб поездам адправіць у Германію. Ды чамусьці той адмысловы поезд доўга не падавалі на станцыю. Гэта і скарысталі найбольш смелыя са зняволеных. Яны ціхенька прасадзілі шыбы вакзальных вокан і неўпрыкмет ад ахоўнікаў адзін за адным павыскаквалі праз іх на волю. Так выбавіўся ад палону і бацькаў брат Федзя.

Частка дуброўцаў рознымі спосабамі ўцякла ўжо з поезда. Толькі дзве, мусіць, самыя нерашучыя дуброўскія дзяўчыны — Ядвіня з Шалькевічаў і яшчэ нехта — зведалі долю рабыньпаланянак.

## Пятае, нежаданае дзіця

У сакавіку 1943 года маці радзіла дзевачку. Толькі радасці ў мацеры было мала. Як цяпер жыць адной з пецярыма малымі дзецьмі? Ды яшчэ — пасярод вайны?

Адразу пасля смерці яе Алеся яна намерылася была зрабіць аборт. Пачала ўжо роспыты пра гэта. Не ведаю, праз каго дамовілася прыйсці да нейкага доктара ці доктаркі. Дамовілася і... не пайшла, не адважылася: а, што будзе, то будзе.

Спачатку дзіця было як дзіця. А потым нешта вельмі расхварэлася. Чакалі, што зусім не выжыве. А ці ж добра, калі памрэ няхрышчанае? Наважылі як можна барзджэй везці ў Старыя Дарогі да святара.

Хрысціць малое даручылі цётцы Вольцы і дзядзьку Федзю. Паехалі яны ў непагадзь, у самае разводдзе. Ведама ж, не абмінулі і тую страшную грэблю, што ляжала паміж Залужжам і Шапчыцамі.

Пад'язджаючы пад Старыя Дарогі, цётка Волька спахапілася:

— Федзя, а мы ж не папыталі ў Надзі, як назваць дзевачку.

— І мне яна нічога не казала, — разгубіўся дзядзька Федзя.

Падумаўшы, цётка Волька сказала:

— Давай назавём Яня — чым дрэннае імя?

— Хай будзе і Яня.

З гэтым і пайшлі да святара на кватэру.

Святар якраз сядзеў за сталом, палуднаваў. Цётка Волька аж вочы вылупіла: святар аплятаў падсмажаную пахкую дамашнюю кілбасу. Перад ім на скаварадзе яшчэ дыміліся кавалкі мяса і свежага сала, відаць, была яечня. Здзівіла цётку Вольку не тое, што такі багаты быў у папа стол, а тое, што ён, святар, еў скаромнае цяпер, у самы перадвялікодны пост, у той час, калі ўся яго паства шчыра пасціла, баючыся граху.

Хоць і зняверылася цётка Волька з дзядзькам Федзем у папа, усё ж дала яму ахрысціць Яню.

Дома маленькая пакрычала, пакрычала і неспадзявана паправілася.

За няньку была ў яе старэйшая на сем гадоў Валя. Мне таксама даводзілася яе калыхаць. Для гэтага я залазіў у калыску, садзіўся ў Яніных нагах і, узяўшыся за білы, разгойдваў.

Памаленьку падрасла Яня. Прычакала новай вясны. Пачала хадзіць і бегаць.

Не ведаючы бацькі, Яня цягнулася да мяне, большага ў сям'і.

З прыходам вясны маім абавязкам было пасвіць цяляты ўсяго нашага канца. Гнаў цялят на пашу яшчэ да ўзыходу сонца, а

прыганяў, калі яно падыходзіла ўжо к паўдню. Скіроўваў іх звычайна на загуменне. І калі параўноўваўся з нашай сядзібай, адтуль бегла мне насустрач маленькая Яня. Яна ведала, што я нясу ёй чырвоненькія салодкія пазёмкі. У тым баку, дзе я пасвіў цялят, за Раз’ездам, яны рэдка дзе пападаліся. І я нашукваў іх не шмат — бывала, якую жменьку. Але ўсё роўна зберагаў для малой сястрычкі, хоць самому таксама вельмі хацелася іх пасмакаваць. Для гэтага выбіраў хіба што адну-дзве зеленабокія. Усе ж лепшыя нёс Яні. Як яна радавалася пазёмкам! Бегла з імі дадому, стараючыся не адразу з’есці.

Цяжкі час быў для нас, дзяцей, і асабліва для маленькай Яні, калі немцы забралі ўсе дуброўскія каровы. Здаецца, цэлы год мы ў вочы не бачылі малака.

Усё ж перабылі неяк гэты час, перабыла і Яня, якой унь як трэба было тое малако, больш-менш добрае харчаванне, якога мы не мелі.

Перабыла, вырасла, выйшла замуж, нарадзіла сына Сяргея і дачку Іру, абзавялася ўнукамі.

## Вяселле са слязамі

Да адной з дачок Толевай бабуні, сямнаццацігадовай Алімпы, пасватаўся малады хлопец з Навасёлак Ігнась Цагойка.

Ды Алімпа і гаварыць не давалася пра замужжа. Балазе зусім мала ведала кавалера, не «прывыкла» да яго: ён ненадоўга прыехаў у Зялёную Дуброву да некага ў госці і толькі разы два ці тры сустракаўся з ёй, танцаваў разам на вечарынках. Хоць быў Ігнась статны хлопец, вельмі паглядны, Алімпа казала яму і ўсім, хто яе ўгаворваў, толькі адно: не і не! Яе жаха́ла ўжо сама думка, што ёй трэба будзе ісці ў чужыя людзі, што яе адарвуць ад мацеры, ад сям’і, што яна мусіць развітацца са сваёй роднай, хоць і цеснай хатай. Але тут узялася за дачку практычная бабуня. Яна нізашто не хацела ўпусціць такі добры шанец — выдаць дачку замуж. І не таму, што як і кожная маці, баялася, каб яе дочкі не заседжваліся ў дзеўках. Яна ведала, што замужніх, як і жанатых хлопцаў, немцы не забіраюць ці не так забіраюць у сваю Германію. Ну, удалося раз ухавацца ад хапуна. Але ж немцы не такія, каб адступіцца ад свайго. Не-не ды і падловяць калі-небудзь. І — грукачы тады па рэйках самому чорту ў зубы!

Як ні адбрыквалася Алімпа, бабуня цвёрда стаяла на сваім: рабі, што табе кажуць!

Прызначылі дзень вяселля.

Пусцілі пад нож бычка, ухаванага ад партызан, пасцягвалі з гарышча кілбасы, дасталі са ховаў сала, добра пачысцілі засекі з бульбай, гароднінай, крупамі, нагналі гарэлкі. Секлі, рэзалі, малолі, таўклі, калацілі. Варылі, смажылі, скварылі, пяклі, тушылі, наразалі, раскладалі, налівалі, падлівалі. З тыдзень усім гуртам рыхтаваліся да вяселля.

У прызначаны дзень панакрывалі сталы. Выклалі на іх усё багацце, усю смакату.

Надышоў умоўлены час прыезду маладога — дзве гадзіны дня.

Вот-вот павінны пачуцца з лядоўскай дарогі пералівістыя гукі званкоў на дугах, буханне барабана, развясёлыя гукі гармоняў ды скрыпак.

Плача, заліваецца горкімі слязамі маладая, лічыць апошнія хвіліны сваёй волі.

Але праходзіць прызначаны час, праходзіць гадзіна, праходзіць другая, трэцяя, мінае белы дзень, ужо вечар нацягвае на зямлю сваю шэрую посцілку — маўчыць лядоўская дарога, не чуваць, як ні настаўляй вуха, вясельнай музыкі, не відаць маладога! Што ж сталася? Мо перадумаў у апошнюю хвіліну? Мо другая пераступіла дарогу? А можа, немцы перапынілі вясельны поезд?

Зачакаліся запрошаныя госці, тупаюць бязладна вокал хаты маладой, прыкметна нудзяцца. Бо і кішкі даўно марша граюць, асабліва калі з хаты б'юць у ноздры такія зманлівыя пахі. Ходзіць туды-сюды, нервуецца бабуня, не ведаючы, да чаго прыткнуцца, куды рукі прылажыць. Не так перажывае за тое, што не ўдалося, мусіць, гэтым разам прыладзіць дачку, як ад таго, што гэтулькі дабра пойдзе на глум. Тым, што патрачана на гэтыя сталы, не адзін месяц можна б было раты пазатыкаць яе такой шматгалосай сямейцы!

Затое высахлі слёзы ў маладой. Цешыць сябе радаснай надзеяй засцянкоўка: можа, дасць Бог, зусім не прыедзе малады, можа, яна і далей астанецца дома, пад цёпленькім мацерыным крылом?

Але дарэмныя салодкія спадзяванні-мары нявесты, дарэмныя бабуніны трывогі: азвалася, ажыла нарэшце лядоўская дарога! Хоць на дварэ даўно ўжо цёмны вечар вечарэе, хоць моцна запазніўся малады, але ўсё ж едзе, едзе па маладую!

— Чы-чы-чы, чы-чы-чы, чы-чы-чы! — далятаюць здалёку гукі вясельнай музыкі.

Усё мігам ажыло, заварушылася, забегала на бабуніным панадворку, у даўно расчыненых варотах і на вуліцы перад хатай. Хоць і цёмна, вытарабанілі на сярэдзіну вуліцы стол, накінулі абрус, бухнулі на яго чорны бохан хлеба, прыладзілі наверсе стаўбунок солі, гопнулі поўную, аж да папяровай закруткі бутэльку свяжуткай, яшчэ мо як след не астылай пасля выгану гарэліцы-весялухі — годна ж, як і належыць, трэба сустрэць маладога!

І от — чаканая-перачаканая, жаданая-нежаданая сустрэча! Коні, якіх гналі на ўсю моц, падахвочваючы бізунамі, раптоўна сталі як укапаныя перад саменькім сталом, спыненыя ў разгоне туга напятымі лейцамі. Храпуць, аддыхваюцца пасля шалёнай гонкі, грызуць — не перагрызуць такія непатрэбныя ў роце жалезныя цуглі, б'юць у дол капытамі, пазвоньваючы званкамі на расквечаных дугах. А з вазкоў ужо высыпаюць людзі. Больш за ўсіх стараюцца ў гэтыя хвіліны музыкі. Заліваюцца, расцягваючы на ўсю, якая ёсць, шырыню галасістыя гармоні, грымяць барабаны, ляскаюць, аж павіскваюць, у такт ім мядзяныя барабанныя талеркі, недзе галосіць, хапаючы за самае сэрца, кларнет, тоненька пілікае, выварочваючы душу, скрыпка.

Уся засцянковая моладзь, уся дзятва, апрача хіба той, што ў пялёнках, — тут, каля Гэлінай хаты. Бягуць на гукі музыкі старыя і маладыя. Вунь нейкая гаспадыня ўзялася была ставіць у печ чыгун з бульбай для свіней, ды, счуўшы музыку, так і не данесла яго і кінула назад у качарэжнік вілкі, бяжыць сюды, на хаду завязваючы хустку.

Абрад сустрэчы маладога выконваўся так, як казаў спрадвечны звычай. Пасля ўсіх звычайных абходзін маладога з яго шаферамі і шаферкамі запрасілі ў хату. У дзвярах сянец іх сустракала бабуня. Вітаючы дарагіх гасцей, кожнаму, хто пераступаў парог, яна, зачэрпнуўшы драўлянай лыжкай з такой жа драўлянай вялікай місы, давала паспытаць пахкага мёду — каб соладка жылося маладым, а з імі і ўсёй яго радні.

На самым пачатку вяселля ўсіх нашых ашаламіла нечаканка. Калі сама рассаджваліся за сталы, на сярэдзіну хаты выйшла маладзейшая Ігнасева сястра, здаецца, звалі яе Маня, і на ўсю моц загаласіла-запрычытала ў несуцешнай роспачы:

— А мае ж вы людзечкі-і-і! У нас жа гора вялікае ўчынілася-я-я! Мы сёння пахавалі нашу з Ігнасем родную сястрычку-у-у! Таму і запазніліся сюды…

Памерла Ігнасева сястра зусім нечакана. Яна вельмі баялася за свайго гаспадара, якога збіраліся забраць у лес, у свой атрад

партызаны. Кожную ноч трэслася ад страху. Казала яму хавацца. Ён то ў хаце на гары прыхоўваўся, то ў хляве на вышках. А тут надумаўся заначаваць у хаце. І акурат жа ў гэту ноч нехта грукнуў на дварэ. Ад сполаху і вялікага перанапружання сэрца Ігнасевай сястры не вытрымала — разарвалася. Двое малых дзяцей аставіла яна пасля сябе.

Вядома ж, вяселле трэба б было, на добры лад, адкласці на потым, раз такое ўчынілася. Але ж як адкласці, калі ўсё падрыхтавана ўжо, калі столькі ўсяго патрачана на яго? З аднаго і з другога боку? Таму Ігнасеву сястру і пахавалі раней часу: у той жа дзень, як памерла. Аплакалі, памянулі і адразу — па маладую.

Можна ўявіць, якое гэта было вяселле, што гаварылася ў застоллі, як там пілося і елася. Спалучылі ж, лічы, неспалучанае — вяселле з памінкамі.

Плакалі на вяселлі, доўга не маглі суцішыцца блізкія маладога, не-не і выціралі з вачэй слёзы яго шаферы і шаферкі.

Плакала зусім не рытуальнымі слязамі і маладая — толькі ўжо з другой прычыны.

Але як бы там ні было, вяселле справілі. Назаўтра, пасля развітальнага застолля, малады сабраўся везці маладую дадому, у Навасёлкі.

Калі толькі сказалі Алімпе збірацца ў дарогу, калі грымнула развітальная музыка ды ў такт ёй падпітыя жанкі-вясельніцы на ўвесь голас завялі адпаведныя моманту жаласныя песні, маладая дала волю слязам.

— Не хачу ехаць, не хачу-у-у! — яшчэ раз паўпарцілася Алімпа.

Але яе, не пытаючы, пасадзілі на вазок. Страсянулі грывамі коні, бразнулі званкі на дугах — панеслася вяселле.

Побач з Алімпай сядзеў шафер — мой малады дзядзька Федзя. Наказалі яму, каб суцяшаў маладую. Але невядома яшчэ, каго болей трэба было тут суцяшаць — Алімпу ці яго самога.

Бо даўно ўпадабаў Федзя гожую сястру братавай. Падсаджваўся да яе на вячорках, «памагаў» прасці. Жартаваць жартаваў з ёй, а от прызнацца, што люба яму, не адважваўся, не ведаў як. Толькі ў снах марыў пра яе.

Замужжа Алімпы было для яго як кінжал у сэрца. Апусціў галаву хлопец, начамі не спаў, учарнеў ад думак. Без канца лаяў сябе, грыз за нерашучасць, за баязлівасць. Сказаць бы ёй тое адзінае слова, якое тысячу разоў паўтараў сам сабе ў думках, а выціснуць на язык так і не адважыўся. Не сказаў. А сказаў бы, можа, усё павярнулася б інакш. З ім, а не з кім іншым, стала б

тады пад вянец Алімпа. Упусціў з рук шчасце, ёлуп. Затое не марудзіў, надта не цырымоніўся навасёлкаўскі прыбыш. З-пад носа выхваціў дзеўку чужак.

Федзя зусім думаў не ісці на вяселле — нашто лішне душу вярэдзіць? Ды як сваяк мусіў быць там. Не пайсці — значыць, паказаць усім, як ён перажывае. А ён жа хлопец з гонарам, як і бацька. Не, ён пойдзе, толькі знаку не пакажа, што на душы яго кошкі скрабуць.

Ды калі ўбачыў яе, любую і родную, у вясельным убранні, грудзі здушыла горкая крыўда, на вочы самі сабой накаціліся слёзы. Асабліва паплылі яны, як трохі падпіў і як незнарок сустрэўся з ёй у вясельнай сумятні.

— Не плач, ты ж мужчына, — суцяшала яго Алімпа, сама сыходзячы слязамі.

Толькі калі ўжо сядзеў побач з ёй у вясельным вазку, Федзя неяк стрымліваў сябе. І не таму, што з другога боку быў малады. Проста Алімпіны слёзы, што не пераставалі ліцца ў яе з вачэй, неяк супакойвалі хлопца. Значыць, не сваёй воляй ішла замуж Алімпа, значыць, не зусім зганьбавала яго, Федзю. Можа, яна яшчэ не прыжывецца ў Навасёлках, можа, вернецца ў Дуброву.

І былі яшчэ адны слёзы на Алімпіным вяселлі. Горкія, несуцешныя. Мае слёзы.

Я вельмі хацеў ехаць з вяселлем у невядомыя мне Навасёлкі. Мае цёткі, шаферкі маладой, паабяцалі ўзяць і мяне з сабой. Я ўжо скакаў ад радасці. Ды тут засупярэчыла маці: вайна ж, кругом немцы — ці мала што можа здарыцца. Я пачаў упрошваць матку, запэўніваць яе, што нікуды не буду адыходзіць ад цётак. Але маці не адступалася. Мне стала дужа крыўдна: чаму маці не давярае мне? Я роўма роў перад ёй, уздрыгваючы ад нястрымных рыданняў. Так плакаў-убіваўся датуль, пакуль далёка не ад'ехала вяселле.

Пазней, ужо сталаму, расказвала мне маці, што праз які дзень ці два, калі я супакоіўся, яна папыталася ў мяне, чаго я гэтак плакаў. «Таму што вельмі хацеў паглядзець другое сяло», — быццам бы адказаў я.

## «Парці́зан»

У Зялёную Дуброву чарговым разам наехалі з Фаліч немцы. Яны суняліся ў нашым канцы. Ага — падцікоўваць партызан: якраз сюды перш прыходзілі тыя з Дрычына, адкуль яны вытурылі немцаў, ліквідаваўшы там воласць.

Адна група — галоўная — засела за крайнім з правага боку вуліцы Амэліным дваром, паставіла за хлявом, у здзічэлым маліннiку, кулямёт, скіраваўшы яго на дарогу, што паварочвала ў вёску з Конкі.

Другая, дапаможная, група аблюбавала зялёную лагчынку каля калгаснай канюшні, недалёка ад нашага двара. Мы, вясковыя падшыванцы, таксама віліся пры канюшні. Ці ж не цікава было паназіраць за прыхаднямі з невядомага нам свету? Балазе нас яны не чапалі.

Мы блізкавата падышлі пад іх, паселі за іх спінамі на траве. Немцы чуліся тут вольна. Гаманілі, смяяліся. Часам браліся адзін з адным дужацца. Ім жа таксама хацелася падурэць. Асабліва пасля доўгага сядзення на адным месцы.

Адзін з немцаў дастаў з шырокай нагруднай кішэні свайго зялёнага фрэнча надзіва блішчастую прадаўгаватую цацку, абдзьмухаў яе з усіх бакоў, абцёр рукавом і, не спяшаючыся, прылажыў к губам. І цацка зайграла! Ды так хораша, што мы, заслухаўшыся, паразяўлялі раты. А немец, не адрываючы яе, помню, павядзе па нас доўгім няўцямным позіркам і грае, грае. Я першы раз бачыў губны гармонік, першы раз чуў яго гранне. От бы мне такі! А можа, і напраўду пашанцуе як заўладаць ім? Як тым ножыкам-складанчыкам.

Незадоўга перад тым мы, хлапчукі, гэтак жа падселі каля немцаў, калі тыя сабраліся былі на Выгане, проста на траве, перакусіць. Не, мы не чакалі ад іх пачастункаў, бо добра ведалі, якія яны жмінды. Нас і тады прыцягнула пад іх цікаўнасць, якая пераважвала страх. І тым разам яны не зважалі на дзятву. Як быццам нас і не было. Калі яны пад'елі, немец, што адкрываў кансервы сваім спрытным ножыкам-складанчыкам, склаў яго і палажыў каля сябе. Я не спускаў вачэй з таго ножыка. Якія ў яго гладзенькія, нібы перламутравыя, тронкі! Гляджу — гаспадар ножыка падняўся і пайшоў сабе пад канюшню. Мусіць, забыўся свой ножык! А ён жа так блізка каля мяне! Убачыўшы, што астатнія немцы нешта загаварыліся паміж сабой, нават не гледзячы ў наш бок, я ціхенька, зусім непрыкметна працягнуў уперад руку і проста ўторкнуў ножык у пясок, каля самай мураўкі, дзе ён ляжаў. Нават мае сябрукі не заўважылі. Ды от вярнуўся гаспадар ножыка. Пачаў вадзіць вачыма там, дзе сядзеў. Потым прысеў на кукішкі, пачаў абмацваць кругом траву. Няма ножыка! Як карова языком злізала! Тады ён устаў і, злосна загергетаўшы, загадаў нам жэстам рукі падняцца. Мы сталі перад ім. Немец

узяўся нас абмацваць. Шукаў кішэні. Але якія кішэні ў нашых палатняных портачках? Каторыя з нас зусім хадзілі без портак, у адных, праўда, даўгаватых кашулях. Плюнуўшы, немец адышоўся ад нас, яшчэ раз пашнарыў вачыма па траве і пайшоў пад канюшню. Вечарам, калі немцы паехалі з Зялёнай Дубровы, я пабег на тое месца і знайшоў у пяску іхны хвацкі складанчык, з якім мы потым доўга гулялі — «у ножыка».

Цяперашні немец пайграў на сваім гармоніку і апусціў яго на калені. Пасядзеў так, адпачнуў і зноў узяўся за гранне. Ужо новая мелодыя палілася з гармоніка.

Ды раптам яго гранне перапыніў узбуджаны голас аднаго з немцаў:

— Парцізан!

Немцы, што сядзелі на траве, мігам паўскаквалі. Забегалі, замітусіліся:

— Парцізан! Парцізан!

Схапіўшы свой кулямёт, што стаяў на калёсіках, яны подбегам пацягнулі яго ў бок Выгана.

Мы рвануліся бегчы к сядзібам. Са свайго двара я з цікавасцю глядзеў на Выган, куды спяшаліся немцы. Там і праўда ўбачыў я пры лесе чалавека. Ён памалу ішоў за нашымі сядзібамі к Выгану. І тут немцы застрачылі па ім з кулямётаў і аўтаматаў.

Дзіва дзіўнае: немцы стралялі, а «парцізан» ішоў далей, як бы і не чуў той страляніны. Ды от ён упаў. Немцы, не перастаючы страляць па ім, набліжаліся пад яго. Вядома ж, яны даўно забілі партызана — гэтулькі выпусціць па ім куль! Але ўсё роўна стралялі. Потым бачу здалёк: падышлі пад яго і паднялі — жывы!

Немцы прывялі яго ў вёску. Людзі высыпалі паглядзець. Я таксама выбег на вуліцу. З немцамі ішоў хлапчук гадоў трынаццаці і плакаў. Гэта быў Лёва з Лядоў. Даўшы дуброўцам апазнаць «парцізана», немцы адпусцілі яго дамоў. Цікава, што яго нават не параніла тады.

Гадоў праз шэсцьдзесят я суняў яго на рынку ў Старых Дарогах. Са мной быў мой унук Максім, якому я не раз расказваў пра гэты выпадак.

— Во той Лёва, — сказаў я Максіму, каб ён на яве ўбачыў аднаго з герояў майго апавядання.

Лёва, цяпер Лявон Тураў, хоць, вядома, пастарэў, пагрузнеў, але ж сваімі рысамі астаўся такі ж, якога я бачыў на нашай вуліцы ў далёкім 1943 годзе — белабрысы, з высокім лобам, з грубаватымі скуламі-выступамі на твары.

Ён расказаў мне, што ішоў тады ў Дрычын да сястры — нёс яе дзецям малако. А ўратаваўся ён ад нямецкіх куль таму, што лёг у нейкую ўпадзінку на нашым Выгане.

Калі ён ішоў тады плачучы паўз наш двор, я і думаць не думаў, што нешта падобнае станецца скора і са мной.

## Пад кулямі

Маладыя хлопцы і дзяўчаты сядзелі ў Зялёнай Дуброве як на іголках — пад вечнай пагрозай нямецкага хапуна. Хлопцы да таго ж баяліся, каб іх не пазабіралі ў паліцыю. Таму ўсе рабілі хованкі. І не толькі на сваіх падворках, а і за вёскай, у лесе. Кіламетры за два ад Зялёнай Дубровы, пад Альхоўкай, у старым хвойніку, перамешаным з бярозамі і асінамі, а ніжэй — вольхамі, сярод папаратніку і чарнічніку павыкопвалі зямлянкі, куды, чуць што, і беглі хавацца. Калі даведваліся пра набліжэнне немцаў, днявалі там і начавалі.

Прыхоўвалі дуброўцы ў лесе, у жардзяных загарадзях, таксама кароў. Калі-нікалі маці дазваляла падыходзіць туды і мне. Першы раз гэта было зімой, за Станком. Там папрыбівалі да хваін і бяроз жэрдкі, зрабілі загарадзь для кароў, накідаўшы туды сена. Побач расклалі агонь, які не зводзіўся ні ўдзень, ні ўночы. Мне цікава было прабаўляцца каля таго агню, збіраць для яго і падкладваць сухое ламачча. Але вялікага агню рабіць было нельга— каб не заўважылі немцы дым.

Летам я часцей прыходзіў у лес памагаць глядзець кароў, якіх трэба было выпускаць з загарадзяў на пашу — на асаку якой лугавіны ці на лясную пажарніцу.

Аднаго разу ўдзень я памагаў нашаму суседу, пажылому дзядзьку Ігнасю Яльніцкаму глядзець кароў. Вечарам прыйшла змена. І мы з Ігнасем сабраліся ісці дадому. Толькі выйшлі на край лесу, к полю, як з вёскі пачалі страляць. Недалёка ад нас, паўз лес, праскакаў коннік. Казалі потым, гэта быў партызан. Яго зґледзелі немцы, што якраз наехалі ў Зялёную Дуброву і спыніліся тут начаваць. Яны адкрылі па ім агонь. Я пачуў каля самых вушэй ціўканне куль. Ігнась, а ўслед за ім і я, прыпалі к зямлі і пачалі адпаўзаць далей у лес. Тут нам папалася сярод дрэў неглыбокая канаўка. Ігнась на ўсіх чатырох, як якая кошка, надта ж шпарка паджгаў па канаўцы. Прыгнуўшыся, пабег за ім і я. Кулі свісталі і свісталі навокал — немцы, відаць, «прачэсвалі» лес. Я стараўся не адставаць ад Ігнася, але ў цемнаце згубіў яго з воч.

— Дзядзька Ігнась! — пачаў я не вельмі голасна зваць яго. — Дзядзька Ігна-а-ась!

Але ён не адгукнуўся. Відаць, кустамі пабег далей у лес, пакінуўшы мяне аднаго. От дык сусед!

Мяне апанаваў страх: я апынуўся адзін у цёмным начным лесе. Нават зблізку не было відаць ні куста, ні дзерава: адна жудасная чарната ночы.

Я не ведаў, што рабіць, на што рашыцца. Аставацца цэлую ноч у лесе, дзе, здаецца, працягні руку — і наткнешся на звера, які ўміг можа разарваць ашчэранымі ікламі, ці бегчы ў засценак, дзе цяпер немцы? Праўда, яны перасталі страляць, але ж недзе сочаць за лесам, наставіўшы рулі сваіх стрэльбаў, і калі я выбегу на Выган, яны ізноў пачнуць страляць, страляць па мне, пакуль не заб’юць.

Нічога лепшага не прыдумаўшы, рашаюся бегчы дадому, у засценак — проста на немцаў. Лепш кулі, чым воўчыя зубы! Бягу па выгане к вёсцы і голасна, наўзрыд раву. Бягу і міжволі ўгінаю ў плечы галаву: вот-вот пачнуць па мне страляць. Але чамусьці не чую стрэлаў — я нават здзівіўся. Вунь крайняя Салімонава хата. Пры глухой сцяне, што выходзіць на выган, натыкаюся-такі на немцаў. Стаяць двое — ледзьве заўважаю іх у цемры. Чорныя аўтаматы на грудзях настаўлены проста на мяне. Мусіць, чакаюць: што за птушка ляціць ім у рукі? Супыняюць мяне, нешта гергечуць. Стаю перад імі, усё яшчэ заходзячыся ад плачу, заліваючыся слязамі. Ну, зараз возьмуцца за мяне. Ды зноў дзіва: немцы агледзелі мяне і… адпусцілі. Мусіць, убачылі, што малы, што гэта ніякі не партызан. Не перастаючы плакаць, бягу вуліцай міма немцаў (іх многа ўсюды) дадому, дзе мяне ўжо чакае ў нецярпенні маці.

## У партызаны

Аднае раніцы Зялёную Дуброву ўскалыхнула вестка: сёння ўночы з Кляновай грады, куды прыгналі на начлег коней, нашых засцянковых хлопцаў пабралі ў партызаны! Дуброўцы збіраліся на вуліцы, ажыўлена абгаворвалі навіну.

Сярод забраных быў і наш дзядзька Федзя. Як расказвалі мне дуброўцы, Федзя, Валодзя Бардзін і Вадзя Дубовік самі згаварыліся ўцячы ў партызаны. Але, каб немцы не чапалі іх сем’яў, папрасілі аднаго з партызанскіх завадатараў і паплечнікаў Аляксея Шубы, былога дуброўскага настаўніка Паўла Доўнара, каб ён арганізаваў «набор» так, быццам дуброўцаў мабілізавалі

ў партызаны сілком. Гэтак ён і зрабіў. Заадно «прыхваціў» і некаторых хлопцаў без іх згоды. Як Паўліка Цвірку, аднаго са «Сцепанцоў» (Сцяпанавых сыноў), які, зрэшты, у тую ж ноч і ўцёк з партызанаў дадому, за што Доўнар наважыў забіць яго, каб не выдаў нейкіх партызанскіх сакрэтаў, нават прыходзілі ўночы ў Паўлікаву хату ў Зялёнай Дуброве, але ў апошнюю хвіліну пашкадавалі, наказаўшы маўчаць пра ўсё. Партызанамі сталі тады, апрача названых, яшчэ Стась Шалькевіч і Уладзік Матусэвіч — усіх пяць чалавек.

Хлопцы з Зялёнай Дубровы папоўнілі шэрагі партызан 100-й брыгады імя Кірава, якой камандаваў былы хірург і галоўны ўрач Старадарожскай раённай бальніцы Аляксей Шуба, родам з недалёкага ад нас Падарэсся. Дзейнічала брыгада найбольш на Старадарожчыне. Шубаўцы — гэта былі нашы партызаны.

Як яны ваявалі супраць немцаў, мы ведалі не шмат. Пра іх «работу» нам гаварылі хіба што даволі частыя падрывы нямецкіх эшалонаў на чыгунцы.

Наш дзядзька Федзя добра ведаў, што немцы часта спаганяюць сваю злосць за гэта на партызанскіх сем'ях. Таму ён надумаў вывезці Казіну бабуню з сям'ёй у бяспечнае месца — у партызанскую зону, а канкрэтна — пад Слуцак, у Шантароўшчыну, бабуніна родавае гняздо, дзе жыла яе радня. Дзядзька Федзя меркаваў, што тут сям'я спакойна перабудзе вайну. Які яна знайшла там спакой, раскажу потым.

На другі дзень, як дзядзька Федзя вывез сям'ю, я ўзяў свае драўляныя саначкі (было гэта зімой) і паехаў з імі ў апусцелую бабуніну хату — пашукаць там якіх «цацак» і ўсяго найбольш мне цікавага. Цэлыя саначкі наўскладаў я нейкіх там знаходак. З усіх іх запомнілася мне толькі дзедава шляхецкая шапка з аўчынным аколышам над казырком.

Я цягнуў саначкі і не-не ды аглядваўся на знаходкі, з якімі добра будзе гуляць.

І раптам на пустой, здавалася б, вуліцы, напроці Сташэўскіх я нос у нос сутыкнуўся з… немцамі: яны былі ў белых, пад снег, халатах, з-пад якіх тырчалі чорныя аўтаматы, і я іх зусім тады не згледзеў. Я ўвесь сцяўся ад страху. Але немцы як ішлі, так і пайшлі далей па вуліцы ў той бок, адкуль я вёз саначкі. Нават не глянуўшы на маю «здабычу».

Можа, своечасова ўсё ж вывез Федзя сям'ю з Зялёнай Дубровы?

Казалі, у немцаў тады было заданне: спаліць Зялёную Дуброву. Яны наляцелі сюды з самага рання і ўжо акружылі вёску, рыхтуючыся выканаць пастаўленую перад імі задачу. Ды, на наша шчасце, чамусьці адмянілі свой намер.

## Шубаўцы

Не доўга далі партызаны цешыцца ў Навасёлках з маладой жоначкай і Ігнасю Цагойку. Пастукалі аднае начы ў акно і, уваліўшыся з аўтаматамі на грудзях у хату, аб’явілі загад камандавання 100-й партызанскай брыгады імя Кірава: мабілізаваць грамадзяніна вёскі Навасёлкі Старадарожскага раёна Цагойку Ігната ў партызаны.

Вельмі не хацелася Ігнасю мяняць родную хату з мяккай, нагрэтай жонкаю пасцеллю на беспрытульнае бадзянне па лясах ды балотах. Але не падначаліцца загаду не было як.

Хоць не сваёй воляй пайшоў Ігнась у лес, у брыгаду Аляксея Шубы, але партызан з яго атрымаўся, як кажуць палякі, «выбітны». Пра яго адвагу падчас партызанскіх налётаў на немцаў мне потым многа расказвала цётка Алімпа. Ды і не толькі яна.

Адзін з прыкладаў. Немцы асабліва ахоўвалі нейкі важны адрэзак шасэйнай дарогі, бо там часта курсіравала начальства. Ды Ігнась і ў гэтым месцы здолеў падлажыць міну, апрануўшыся пастухом і праганяючы па шашы кароў. Ад яго міны загінула сем нямецкіх салдат і афіцэраў, што ехалі на машыне.

Асабліва вызначыўся Ігнась у падрыве нямецкіх эшалонаў, узначальваючы групу падрыўнікоў. Не адзін «цуг» з нямецкай салдатнёй, з танкамі ды гарматамі ляцеў з рэек потырч ад Ігнасевых мін.

Сваёй «зонай» выбраў ён участак чыгункі паміж Асіповічамі і Старымі Дарогамі. Ідучы на падрыў нямецкіх эшалонаў, Ігнась часта заскокваў патаемна да нас — да Толевай бабуні, сваёй цешчы, і да маёй мацеры, жончынай сястры. Да маёй мацеры, можа, нават часцей, бо наша хата была трохі бліжэй ад лесу. Часам і я памагаў яму звязацца з бабуняй і маёй маткай.

Іду я аднаго разу вечарам дадому з загумення і раптам чую: мяне ціха падзывае чыйсьці голас. Я абарочваюся: дзядзька Ігнась! Ён сядзіць на кукішках у самым канцы нашага загона, за густым і высокім лубінам. Я падышоў пад яго.

— Ці ёсць у Дуброве немцы або паліцаі? — першае, што папытаў ён.

— Не, няма і не было сёння.

— Тады ціхенька ідзі дадому і скажы мацеры, каб падышла сюды.

Помню, я вельмі шкадаваў, што на гэтым наша размова і кончылася. А мне ж так хацелася, каб дзядзька Ігнась зайшоў у нашу хату і пагаварыў з намі, расказаў што-небудзь. Але ён толькі пагутарыў там, у канцы загона, з маткай, якая, пэўне ж, вынесла яму нечага паесці ды больш падрабязна расказала пра наезды немцаў, і зноў падаўся ў лес — як відаць, кіраваўся пад Фалічы, на чыгунку.

У блізкіх і далейшых нашых ваколіцах, апрача шубаўцаў, дыслацыраваліся, кажучы па-вайсковаму, і іншыя партызанскія групоўкі. Вельмі часта начамі яны заяўляліся ў Зялёнай Дуброве — каб чым-небудзь пажывіцца. І надта не цырымоніліся — бралі ўсё, што пападала пад рукі: сялянскія прыпасы, жывёлу, адзенне, збожжа. Ад іх усё больш-менш прыдатнае, самае неабходнае дуброўцы стараліся схаваць. Ды вока ў іх было ўжо спрактыкаванае: знаходзіла самыя патаемныя сховы. Асабліва ўвішныя тут былі нейкія шараўцы, партызаны, што стаялі недзе за Майсеевічамі. Казалі, камандзірам у іх быў нейкі Шараў. У нас смяяліся: прыходзілі шараўцы — шарыць па хатах і хлявах.

Заяўляліся начныя госці і ў нашу хату. Хоць добра бачылі, што ў мацеры куча дробных, як гарох, дзяцей, партызаны ўсё роўна шнырылі па ўсіх кутках, каб што-небудзь ухапіць. Помню, аднаго разу з імі зайшла маладая, вельмі расфуфыраная жанчына. Яна бесцырымонна адчыніла нашу шафу, пачала перабіраць мацерыну больш чым сціплую адзежу, каб знайсці што-небудзь і для сябе.

Часам, урываючыся ў чыю хату і не знаходзячы там чаго трэба, партызаны прымушалі гаспадароў адкрыць хованкі, пагражаючы расстрэлам. Нашага суседа Аляксандра Дубовіка, страшачы, ставілі былі раз к сцяне і стралялі паўзверх яго галавы, каб паказаў ім тое, чаго ў яго не было.

Усе ў Зялёнай Дуброве, у тым ліку і мы, дзеці, баяліся партызан гэтак жа, як і немцаў, калі не больш. Хоць і тыя бралі ў нас усё, што ім хацелася, асабліва спяцы былі немцы на курэй, якіх лавілі дзе толькі маглі запарваць. Праўда, немцы рабавалі нас больш у выглядзе падаткаў, збіраць якія яны прыпаручалі старастам. Можа, таму іхнае рабаванне не так востра ўспрымалася ў нас.

Ад рабаўніцтва несумленных партызан дуброўцы шукалі абароны ў шубаўцаў. Яны лічыліся «сваімі» партызанамі: шубаўцы не дапускалі рабаўніцтва. Шуба тут, казалі, быў строгі, караў

рабаўнікоў. Здабывалі шубаўцы харчы цывілізавана — таксама быццам бралі падаткі. Праз тых жа старастаў, што і немцы. Так што адзін і той жа стараста часта спаганяў падаткі і для немцаў, і для партызан.

Звычайна немцы прыязджалі ў Зялёную Дуброву ўдзень, а партызаны — уночы. Ведаючы гэты распарадак, паблізу нашай вёскі супраціўнікі часта наладжвалі свае засады — немцы ўночы, а партызаны — удзень. На наша шчасце, каля Зялёнай Дубровы ні разу ніхто ні на кога не наткнуўся — ні немцы на партызан, ні партызаны на немцаў. Каб гэта здарылася, каб хоць адзін немец быў забіты ў нашых ваколіцах, бяды б тады нам не мінаваць: мігам пайшла б дымам наша Зялёная Дуброва. Вядома ж, з усімі намі. Як гэта немцы вельмі часта рабілі.

Зрэшты, яны і так збіраліся спаліць нашу вёску, ад якой жывіліся партызаны. Не раз прыходзілі сюды з такім заданнем карныя эсэсаўскія атрады. Выратоўвалі ад іх Зялёную Дуброву «свае», фаліцкія немцы. Там, у Фалічах, працавалі чыгуначнікамі некаторыя дуброўцы. Пры станцыі знайшлі яны сабе і часовы прыстанак, наведваючы адначасова і свае селішчы ў Зялёнай Дуброве. Казалі, што асобныя з іх даносілі немцам пра партызан. Таму ім лёгка было ўпрасіць гарнізонных немцаў, каб тыя адгаварылі карнікаў распраўляцца з «партызанскай» Зялёнай Дубровай.

Тым не менш смяротная небяспека над намі вісела ўсю вайну. У самы крытычны момант, калі немцы, паводле чыіхсьці звестак, збіраліся нарэшце спаліць усё ж нашу вёску, дуброўцы знайшлі свой спосаб прадухіліць бяду — звярнуцца непасрэдна да Бога. Каб ён паверыў у шчырасць іхнай просьбы, яны згаварыліся за адну ноч напрасці з кудзелі нітак, выткаць з іх трубку палатна — Богу ахвяру — і аднесці ў Старыя Дарогі ў царкву.

Дзеля гэтага дуброўскія жанчыны сабраліся звечара ў вялікай Адвэртавай хаце — ад нас цераз вуліцу. Уся Зялёная Дуброва не спала ў тую ноч. Я таксама быў тады на нагах. Глядзеў, як жанчыны прадуць вялікім гуртам, як намотваюць ніткі на вітушкі, робяць на сцяне аснову і, нарэшце, ткуць на кроснах палатно. Рэшту ночы бавіўся ў Анцінай хаце — у сваёй прабабкі Мітрафаніхі. Мне цікава было там пасядзець каля грубкі, пры агні, падкладаць дровы. Увогуле спадабалася не спаць сярод ночы.

Калі назаўтра занеслі ахвяру ў царкву, усе ў Зялёнай Дуброве паспакайнелі: цяпер Бог не павінен дапусціць бяды. Добра помніцца, што паспакайнеў і я, малы: верыў, што ўсё будзе добра.

Аднаго разу партызаны з шубаўскай брыгады наехалі ў Зялёную Дуброву, насуперак звычаю, яшчэ раніцай. Бо гэтым разам яны не баяліся сустрэцца з немцамі: партызанаў жа было цэлае войска. Яны запрудзілі ўсю вуліцу. Недалёка ад нас, напроці Бронінай хаты, я ўбачыў верхам на конях камандзіраў у ваенных шапках з аколышамі, дзе паблісквалі чырвоныя зорачкі, у перакінутых крыж-накрыж праз плечы раменных партупеях. Коні проста танцавалі пад імі, нецярпліва перабіраючы нагамі. З радасцю і надзеяй глядзеў я на тых камандзіраў, на партызанскае войска. Гэта ж былі нашы партызаны, шубаўцы! Недзе ж тут павінны быць і дуброўскія хлопцы. Толькі іх цяпер не відаць было: ну, вядома ж, ім нельга тут выстаўляцца, каб не наклікаць бяды на сем'і. Можа, яны пайшлі ў абход сваёй вёскі, каб дзенебудзь за ёю далучыцца да ўсіх.

Сярод партызан, якія ішлі і ішлі вуліцай, мне ў вочы кінуўся адзін вельмі незвычайны: на яго галаве замест шапкі быў накінуты нейкі белы вастраверхі каўпак, які закрываў увесь яго твар, толькі цямнелі на ім дзве дзіркі для вачэй. Значна пазней я бачыў такія каўпакі — у кіно ды ў тэлевізары — на галовах амерыканскіх куклусклanaўцаў.

Згледзеўшы гэтага дзіўнага партызана, я ўжо не зводзіў з яго вачэй, толькі і сачыў за ім.

Але якое ж было маё здзіўленне, калі той партызан у дзіўным каўпаку завярнуў у нашы варотцы. От ён адшчапіў іх і ідзе дваром у нашу хату!

Я папярэдзе яго ўскочыў у дзверы. Праз якую хвіліну партызан у каўпаку таксама ўвайшоў за мной у хату. Пераступіўшы парог і зачыніўшы за сабой дзверы, ён адразу ж зняў свой каўпак. Мы аж вачам не паверылі: гэта ж наш дзядзька Ігнась Цагойка!

Надзяваў ён такую маскіроўку, каб засцерагчы нас ад нямецкай помсты: ведаў, што пра наведанне ім нашай сям'і немцы дазналіся б ад сваіх даносчыкаў.

Услед за дзядзькам Ігнасем у хату зайшлі яшчэ двое. Усе яны паселі за стол і нешта распытвалі ў мацеры. Толькі потым яна расказала мне, што адным з іх быў сам камандзір 100-й партызанскай брыгады Аляксей Шуба.

Калі партызаны выходзілі з хаты, Ігнась ізноў надзеў на галаву свой каўпак з белай матэрыі. Маці строга наказала мне, каб я нікому з дзяцей не расказваў, хто гэта ў нас быў. Вельмі многа ў Дуброве было гаворак пра незвычайнага партызана ў белым каўпаку, але, апрача нас, ніхто з дуброўцаў не ведаў, што за партызан пад ім хаваўся.

Яшчэ мяне ўразіў малы, гадоў, можа, на два старэйшы за мяне партызан у ваеннай шапцы-вушанцы, з перавязанай чырвонай істужкай над ілбом. На грудзях яго красаваўся самы сапраўдны аўтамат ППШ з круглым дыскам. Гледзячы на яго, мне самому захацелася пайсці ў партызаны: от бы я пастраляў з такога аўтамата!

Партызанскае войска, якое заняло ўсю Зялёную Дуброву, вельмі ўсіх падбадзёрыла. Дуброўцы ўбачылі, што і на немцаў ёсць сіла, ёсць управа. Я таксама паверыў тады, што партызаны рана ці позна прагоняць немцаў.

Перадыхнуўшы ў Зялёнай Дуброве і сабраўшыся з сіламі, шубаўцы рушылі Конкай проста на Фалічы. У іх была задача: разграміць там нямецкі гарнізон.

У Фалічах тады быў вялікі бой. Партызаны добра папужалі немцаў і паліцаяў. Ды разграміць гарнізон Фалічы шубаўцам не ўдалося. Відаць, кепска спрацавала разведка, не было ўлічана, што немцы добра там умацаваліся. З таўстасценных бетонных бункераў, якіх не бралі ні кулі, ні гранаты, яны лёгка адстрэльваліся ад партызан кулямётамі ды аўтаматамі. Партызаны мусілі адступіць. Пра іх страты мне ніхто нічога не казаў. А яны ж, мусіць, былі.

## Допыт

Здарылася гэта праз Федзева нядбайства.

Яшчэ завідна заявіўся ён у нашу хату, прывёўшы з сабой аж пяць таварышаў-партызан. Маці пасадзіла іх за стол, дала, што ў яе знайшлося, паесці. Пасядзелі партызаны, пагаварылі і, падзякаваўшы за пачостку, пайшлі сваёй дарогай.

А назаўтра раніцай прыляцелі з Фаліч (нехта ж данёс!) немцы, забралі маю матку і павялі яе ў Адвэртаву хату, амаль насупраць нашай, цераз вуліцу. Мы, дзеці, не бачылі, калі яе забралі: тады яшчэ спалі.

Папрачынаўшыся, мы ўсе пяцёра паселі радком на краі печы і чакалі, калі яна прыйдзе даваць нам есці. Ды маці нешта доўга не прыходзіла. Замест яе мы праз нейкі час убачылі ў варотцах немца. Ён ішоў у нашу хату. Адчыніўшы дзверы і правёўшы па нас вачыма, ён кіўком пальца загадаў мне, самаму большаму, ісці за ім. Скіраваў немец у Адвэртаў двор. Падвёў да хаты, адчыніў перада мной дзверы і ўпусціў усярэдзіну.

У пярэдняй хаце за сталом сядзела некалькі немцаў. Сярод іх я распазнаў старшага. Гэта быў паўнаваты, паджылы немец.

З алавянага колеру пагончыкамі на зялёным кіцелі і з такімі ж лісткамі на яго лацканах. Сядзеў ён без шапкі, расхрыстаўшыся.

Мяне паставілі перад сталом, якраз напроці старшага. З левага боку ад мяне стаяў з шомпалам у руцэ маленькага росту немец, справа ж — высакаваты хударлявы чалавек у цывільным. Гэта быў перагаворшчык. Старшы немец, гледзячы прама на мяне, нешта загергетаў. Перагаворшчык тут жа патлумачыў:

— Цябе пытаюць, колькі ўчора вечарам прыходзіла ў вашу хату партызан: адзін твой дзядзька ці болей?

У нас было цэлае застолле партызан, я тады з цікавасцю разглядваў іх саміх і іхныя аўтаматы і вінтоўкі, якія яны паставілі каля дзвярэй. Але тут сцяміў, што пра ўсё не трэба казаць немцам. Таму зманіў:

— Адзін толькі дзядзька.

Немец за сталом нешта злосна загергетаў, і перагаворшчык пераказаў:

— Ты што маніш? Маці ж твая казала, што ў вас было шэсць партызан.

Пры гэтых словах немчык, што стаяў збоку, з размаху хвастануў мяне сваім шомпалам ніжэй спіны.

Мне не так забалела ад шомпала, як я спужаўся, што мяне б’юць, і, калі яны яшчэ раз папыталіся, адзін ці шэсць было ў нас партызан, адказаў:

— Ну, шэсць.

На гэтым допыт скончыўся: як відаць, немцы дабіліся ад мяне свайго. Мне сказалі ісці дамоў. Калі я выйшаў з хаты, убачыў на другой, дальняй палавіне Адвэртавага двара, за загарадкай, сваю матку. Яна стаяла ўся ў слязах. Згледзеўшы мяне, маці, мусіць, яшчэ больш панікла галавой, бо зразумела, што немцы выпыталі ў мяне ўсё, што абмануць іх ёй не ўдалося.

За сувязь з партызанамі яны тады не гладзілі па галоўцы: расправа ў немцаў была самая жорсткая.

Я вярнуўся ў нашу хату. Усе мы зноў з нецярпеннем глядзелі ў акно: калі ж будзе ісці маці? Хоць мне было вельмі трывожна за яе, але я і думкі не дапускаў, што яе могуць забіць: яна ж нічога такога не зрабіла.

Было вельмі непрывычна: сонца ўжо ішло пад паўдня, яго адбіткі ад вокан на падлозе пакараселі, адсунуліся з сярэдзіны хаты бліжэй к сцяне, а ў печы яшчэ не палілася. Усім нам даўно хацелася есці, але ніхто, нават грудная Яня, нічым не выказвалі гэтага.

І вот мы нарэшце ўбачылі з акна сваю матку. Яна ішла ад Адвэртавых варотцаў побач з перагаворшчыкам, а за імі ўсе тыя немцы, якія дапытвалі мяне. Маці адшчапіла нашы варотцы, скіравалася к ганку. Услед за ёю пайшлі паўз вокны немцы.

Увайшоўшы ў хату, маці барзджэй вынесла ім на ганак вядро з вадой і алюмініевую конаўку — мыць рукі. Тут жа вярнулася і сказала мне памагчы трохі адсунуць ад покуці наш вялікі стол. Заслала яго чыстым, з шафы кужэльным абрусам. Я бачыў, што яна як бы павесялела, і ў мяне адлягло ад сэрца.

Схадзіўшы ў камору, маці паставіла на стол місачку цёмнага грэчкавага мёду, графін з гарэлкай. Нарэзала ў талерку сала, палажыла з дзясятак сырых яек, хлеб. Партызан учора яна гэтак не частавала, дала тое, што звычайна нам: варанай бульбы з кіслым малаком ды, каб ім было трывалей, саскварыла на скавaрадзе сала. І ўсё. Не помніцца, каб ставілася гарэлка. Ды і перакусвалі партызаны за нашым звычайным сталом для яды, што стаяў недалёка ад дзвярэй, напроці печы: свае ж. За стол, што на покуці, на які маці выставіла цяпер такі недаступны і нам пачастунак, мы садзіліся толькі разы два на год: на Каляды і Вялікдзень.

Калі ўсё было гатова, маці пайшла на двор зваць сваіх «гасцей». Праз хвіліну немцы з перагаворшчыкам загрукаталі ботамі па падлозе нашай хаты. Убачыўшы на стале пачастунак, прыкметна ажывіліся, пачалі задаволена паціраць рукамі і шумна рассаджвацца на нашы простыя табурэткі і зэдлікі.

Пачаставаць немцаў, каб неяк іх задобрыць, падказаў мацеры перагаворшчык. Звалі яго Жорж. Ён, як я потым даведаўся, шмат каго ўратаваў ад немцаў, шмат каму памагаў. Ну і цяпер Жорж стараўся паспрыяць мацеры ў цяжкай для яе сітуацыі. Казалі, ён нібыта быў звязаны з партызанамі і збіраўся перабегчы да іх — толькі шукаў зручнага выпадку. Для мацеры Жорж стаў адзінай надзеяй на выратаванне. Гэта ён і параіў немцам не распраўляцца з намі, а выкарыстаць нашу матку для іншага: каб яна схадзіла ў партызанскую зону, у шубаўскую брыгаду, знайшла там нашага дзядзьку Федзю і пераканала яго здацца немцам — інача яны расстраляюць яе і ўсіх пецярых братавых дзяцей. Такую яны паставілі перад ёй умову, калі дапытвалі яе ў Адвэртавай хаце. Сваім частаваннем маці спадзявалася заслужыць у немцаў большага спрыяння, найперш адмены іхнага грознага загаду прывесці ў Фалічы, у нямецкі гарнізон, партызана шубаўскай брыгады Фёдара Цвірку. Ці ж мог Федзя сам здацца ў нямецкія лапы?

Хоць немцы вельмі міла пагаманілі за нашым сталом, хоць добра павесяліліся-пачаставаліся, хоць на адыходзе дружна лепяталі шчырае «данке», але ад свайго не адступіліся. Маці ўсё роўна павінна была знайсці свайго швагра і ўгаварыць здацца. Калі ж ёй не ўдасца яго знайсці або калі ён не згодзіцца на здачу, яна абавязкова павінна прыйсці ў гарнізон у Фалічы і далажыць немцам пра свой паход. Тады яны канчаткова вырашаць, што з ёй і з яе дзецьмі рабіць. Без добраахвотнай здачы швагра літасці ад немцаў ёй усё роўна нельга будзе чакаць.

Яна выйшла з дому, калі ўжо добра развіднела.

Справа ад Конкі, займаючыся недзе за недалёкім лесам, шырока, чуць не на паўнеба святлеў-разгараўся ўсход. У паўздарожных бярозах, што зелянелі маладзенькім, яшчэ клейкім лісцейкам, радыя новаму дню, шчабяталі-цілінькалі на розныя галасы божыя птушачкі.

Во адна — з ружаватым падгрудкам — пырхнула з нейкай галінкі на дарогу, проста перад ёй, нешта дзеўбанула ў пяску, павяла на яе разумным вочкам, разы два спружыніста, як той мячык, скокнула на сваіх лапках, быццам пацвельваючыся, і лёгка, рыўкамі ўзляцела на самы верх бярозы.

Маці правяла яе вачыма, нават хаду прыцішыла. Як усё проста ў птушак. Ніякага табе клопату, ні перажыванняў. Жыві і радуйся сонцу, свету, вольнай волі.

Цяпер яна сама хацела б зрабіцца такой птушкай, забыцца на гэта ліха, якое так неспадзявана навалілася на яе і якому не бачыла ніякага канца. А мо і праўда ўзяць ды і перабыць дзе-небудзь ліхі час? Можа, усё ўляглося б само сабой?

Ды маці тут жа адмяла ад галавы дурныя думкі: а як жа дзеці? Грудная Яня? Узваліць на мацерыну галаву ўвесь гэты клопат? Але ж маці яе, наша Толева бабуня, сама круціцца, як скурат на агні, каб укарміць ды зберагчы сваю ўласную плойму. Ну, сёстры неяк памаглі б. Можа, выжылі б як дзеці. Толькі — з другога боку — як паглядзелі б немцы, калі б яна не прыйшла далажыць ім пра свой паход у партызанскую зону? Тут і казаць не трэба — на дзецях адыграліся б. І чыкацца б не сталі. Даўно даказалі гэта.

Па абодва бакі Конкі ляжалі дуброўскія палі, падзеленыя з прыходам немцаў на палосы. Сярод іншых яна пазнавала і свае, дбайна ўзараныя і засеяныя братам-падлеткам Ванем. Унь як зелянее жыта. Кусціцца ячмень, авёс. А як добра ўзяўся расці

лён! Ужо і палоць яго пара б ісці. Выкруціцца б толькі з таго наслання.

Толькі б выкруціцца.

Ведама ж, Федзя, хоць бы і знайшла яго, не пойдзе здавацца немцам. Значыць, трэба чакаць кары. Якой? Толькі б не забівалі. Няўжо ўсё можа кончыцца? Яна ж, можна сказаць, толькі пачынала жыць. З малых гадоў толькі й ведала — пыніць то тую, то другую сялянскую работу. Свету праз яе не бачыла.

Толькі й парадавалася яна за Алесем. Калі жыла з ім у замустве. Кахала яго ўсёй душою. Ды надта кароткая была гэтая радасць. Як зорка-знічка, прамільгнулася і згасла.

Ад яго асталіся дзеці. Цяперашняе яе шчасце і гора.

Хоць і з цяжкім, невыканальным заданнем ішла яна ў партызанскую зону, але раптам адчула, што душа яе нечаму радуецца. Ага, гэта ж яна ідзе да свайго Алеся! Як павезлі яго хаваць летась у Жыцін, ёй так і не выпала хоць паплакаць на яго магіле — да яе ж амаль дваццаць кілометраў ад Зялёнай Дубровы. Ды і не да гэтага ёй цяпер. Балазе ад Дрычына, куды яе прымусілі ісці немцы, — туды яшчэ большая палавіна дарогі.

Яна прайшла Раз’езд з залівістым жавараначкам над пясчыстым галам, мінавала з левага боку дарогу на Альхоўку, а справа — дарогу на Кадаўбы і выйшла ў Асінава — самае вялікае дуброўскае поле, якое светла разлеглася перад ёю ва ўсе бакі.

Тут, у Асінаве, узышло з-за лесу сонца, паружовіўшы ўсю палявую прастрань, усе груды і грудочкі.

Яна падбавіла хады — скарэй бы ўсё кончылася, так ці гэтак.

У Дрычыне яна ведала адну жанчыну — здаецца, яе звалі Гапка. Гапчыну хату і пайшла шукаць маці. Дрычын — вёска невялікая, і неўзабаве яна адшчапіла яе варотцы. Гапка якраз уходжвалася каля печы.

— Заходзь, заходзь, мая ты рыбачка, — сустрэла яе сваёй звычайнай прыгаворкай гаспадыня хаты. — Нешта ж прывяло цябе за блізкі свет?

Гапка была вельмі гаваркая жанчына, добрая і спагадлівая да чужога гора. Адкінуўшы ў качарэжнік чапялу-ёмку, што трымала ў руках, яна пасадзіла госцю за стол, сама села насупраць.

Калі маці расказала ёй пра сваё гора, жанчына падышла пад яе, абняла за плечы, пачала суцяшаць:

— А мая ж ты рыбачка! Я бачу — за сваіх дзетак ты калоцішся. Але табе рана яшчэ гора гараваць. Мы ж усе пад Богам ходзім. Бог не дапусціць благога. За што ж караць цябе? Ты ж душой нявінная, мая ты рыбачка!

Ад такой спагадлівасці, ад зычлівага слова чужой жанчыны маці расплакалася і доўга не магла стрымаць слёз, — яны проста ручаямі цяклі з вачэй.

Калі яна супакоілася, Гапка, памаўчаўшы, разважыўшы, сказала цвёрда:

— Нікога табе, мая рыбачка, не трэба шукаць. Ды ты і не знойдзеш. Пасядзі ў мяне, перабудзь дзень, а падвечар пойдзеш дамоў. Немцам жа заўтра скажаш, што шукала дзевера, ды не знайшла. А для прыклепу папытаемся ў парцізан, дзе твой Федзя. Адзін з іх вунь цераз вуліцу жыве. От к яму і сходзім.

Так і зрабілі. У канцы двара поўны чырванатвары хлопец прыбіваў да папярочных жэрдак плота толькі што паскобленыя і завостраныя калы.

— Арцём! Падыдзі, рыбачка, сюды, — клікнула яго Гапка і патлумачыла мацеры: — Гэта і е парцізан.

Арцём быў босы, у расхрыстанай рубашцы паверх штаноў. Усё правільна — яшчэ пазалетась партызаны вытурылі адсюль немцаў. І ўстанавілі сваю ўладу. Ва ўсёй воласці і нават далей. Стварылі сваю партызанскую рэспубліку на Пцічы. Таму і адчувалі сябе тут як дома, а некаторыя, як гэты Арцём, і проста дома.

Гапка расказала хлопцу, што к чаму і што трэба маёй мацеры. Арцём адказаў, што ведае Федзю, хоць ён і з другога атрада, бачыў яго ўчора, калі стаяў на пасту. Ён з хлопцамі паплыў лодкай уніз па рацэ, у свой атрад. Стаіць яго атрад адсюль далекавата — кілометраў дваццаць будзе. Ды яго і наўрад ці знойдзеш там цяпер. Да таго ж, каб маці і надумалася ісці, яе ніхто б туды не пусціў. Ён дзівіцца, як яна сюды прайшла незаўважаная.

Калі ўжо сонца павярнулася на захад, маці падзякавала добрай жанчыне, якая пакарміла яе на адыход, і развіталася з ёю.

На выхадзе з Дрычына яна ўбачыла некалькіх партызан, якія ляжалі пры дарозе ў невысокіх кусціках. Перад імі стаяў на сваіх ножках-раскіраках накіраваны на дарогу кулямёт з вялікай чорнай талеркай-дыскам наверсе. Ага, іхны пост. Як жа гэта яна не заўважыла яго, калі ішла ў Дрычын. І яны, мусіць, прамаргалі яе.

Двое партызан усталі і падышлі пад яе:

— Хто такая? Куды ідзеш?

Маці пачала ім тлумачыць, як яна тут апынулася, але партызаны не хацелі і слухаць, загадалі:

— Ану, пойдзем з намі!

За густымі прыземістымі хвойкамі ў неглыбокім яры сядзелі на траве яшчэ трое ўзброеных партызан. Адзін з тых, хто прывёў

яе сюды, сказаў, звяртаючыся да паджылага партызана ў ваеннай гімнасцёрцы, перасягнутай партупеяй, і наганам на баку:

— Вот, таварыш камандзір, дуброўскую жанчыну затрымалі… З раніцы тут ходзіць. Ідзе ўжо ў Дуброву.

— Адвядзіце яе ў будан. Заўтра разбяромся.

Маці са слязамі на вачах пачала прасіць яго, каб адпусціў, бо ёй сёння трэба быць дома, у яе ж дзеці.

— Адпусціць? — не гледзячы на яе, сказаў камандзір. — Адкуль я ведаю, хто ты такая папраўдзе? Можа, шпіёніш тут, данясенне нясеш немцам пра нас.

Маці хацела запярэчыць, але ў яе нават мову адняло ад крыўды, і яна залілася горкімі слязамі. Потым папрасіла выслухаць яе. І калі дазволілі, яна расказала ўсё, як было.

— Тады вот што, — памякчэў камандзір. — Ідзі дамоў, а мы пойдзем за табой следам. Ты зойдзеш у Дуброву і дазнаешся, ці ёсць там немцы. Калі ёсць — аставайся дома, а калі няма — выйдзі на дарогу і памахай нам рукой. Ведай, калі не выканаеш гэта і падвядзеш нас, мы тады цябе знойдзем!

На тым і пагадзіліся.

Калі маці прыйшла ў Зялёную Дуброву і даведалася, што немцаў тут няма, адразу памкнулася вярнуцца на дарогу, каб даць знак партызанам. Ды тыя, не чакаючы яе, на сваю рызыку ўвайшлі ўжо ў вёску.

Цяпер самае цяжкае было для мацеры — ісці ў Фалічы, каб далажыць немцам пра свой паход у партызанскую зону. Пайшла яна туды назаўтра раніцай — як і было ёй загадана. Дзеля сваёй абароны ўзяла з сабой… маленькую Яню. Няўжо ж не зжаляцца немцы, убачыўшы яе з дзіцем на руках?

Да Фаліч ад Зялёнай Дубровы гэтак жа, як і да Дрычына — сем кіламетраў. Толькі ў процілежны бок. Той жа Конкай, прамой, як струна.

Усяго перадумала маці, ідучы ў нямецкае лагва з нявыкананым заданнем. Што ж за кару прыдумаюць ёй, калі ўбачаць, што прыйшла без Федзі?

У Фалічах яна папытала хату перагаворшчыка Жоржа. Вартавы, які стаяў у варотах, паклікаў яго. Жорж, на хаду ўскідваючы сабе на плечы фрэнч, выйшаў пад яе на вуліцу.

— Ну, дык ты ўжо вольная, усё само сабой рашылася, — як бы весела сказаў Жорж. — Спаймалі ж твайго партызана.

— Туды яму і дарога, — сказала яна, каб паказаць, што ёй гэта мала абыходзіць.

Папраўдзе ж мацеры не было ўсё роўна. Так, ёй адразу стала лёгка, што кончыліся яе мучэнні. Але адначасна і сціснулася ў трывозе сэрца: няўжо праўда злавілі немцы Федзю, роднага брата яе Алеся? Калі да гэтай хвіліны яна кляла яго ў думках за тое, што на вачах у людзей прывёў ёй у хату партызан, ад чаго і ўзгарэўся гэты сыр-бор, то цяпер яна шкадавала дзевера, маладога хлопца, прасіла Бога, каб усё з ім добра абышлося.

Дома ж, калі, вярнуўшыся з Фаліч, зайшла да сваёй мацеры, Толевай бабуні, то пачула іншае: не дзевера Федзю злавілі немцы, а шваґра Ігнася Цагойку.

Яны даўно цікавалі за ім: добра даўся немцам у знакі Ігнась. Ішоў на скрут галавы, каб хоць чым-небудзь дадзець ім і іхным памагатым паліцаям, якіх у нас называлі бобікамі. Пра партызанскія подзвігі Ігнася Цагойкі хадзілі легенды. Вадзя Дубовік расказваў мне, што ў Старых Дарогах немцы нават вывешвалі на слупах афішу, у якой апавяшчалася, што той, хто паможа злавіць Ігнася Цагойку, атрымае ладную суму нямецкіх марак і ў прыдачу карову. Але не знайшоўся такі ахвотнік. Дарэмна толькі паперу папсавалі. Тады надумалі немцы падлавіць яго дома. Там жа аставалася маладая жоначка. Не можа ж быць, каб не заскочыў калі ў яе гарачыя абдоймы. Некалькі разоў учынялі засаду каля яго хаты. Толькі дарэмна марнавалі ночы ў цёмных кустах бэзу ды ўдушлівым смуродніку. Папрабавалі яшчэ. І гэтым разам пашанцавала.

Яны прыйшлі сярод ночы ўдвух. Здалёк агледзелі двор, вуліцу. Ціха. Нічога падазронага. Ігнась паставіў у варотах свайго таварыша з аўтаматам на грудзях — павартаваць, а сам ціхенька патупаў у хату. Усё ішлося так, як ён і задумаў. Ды калі праз нейкі час выйшаў з хаты і ўжо кіраваўся к варотцам, як зусім побач застрачыў кулямёт, з кустоў узвілася ўверх ракета. Алімпа расказвала, што стала відна, хоць іголкі збірай. Яна схавалася пад коўдру. Потым дазналася, як усё адбывалася. Пачуўшы строкат кулямёта, Ігнась кінуўся ўбок, у кусты. Ды там наткнуўся на паліцая. Ігнась быў рослы, дужы, ён накінуўся на нямецкага служку, збіў яго з ног, хацеў задушыць. Ды ззаду навaліліся іншыя. Ашчаперылі, звязалі, павялі да схаванай на загуменні падводы.

Вартавога, як расказвала Алімпа, забілі тады на месцы. Пра яго я даведаўся з кнігі партызана шубаўскага атрада, навасёлкаўца Міхаіла Лізунка «Оресса в огне», дзе таксама апавядаецца пра эпізод паланення Ігнася Цагойкі. Яго сябрам, якога

забілі тады немцы, быў малады партызан Валодзя Дуброўскі з вёскі Добрыца Паськавагорацкага сельсавета.

Пасля паланення Ігнася немцы схапілі і яго жонку Алімпу і сястру. Іх адправілі ў Германію — парабчанкамі. Спачатку накіроўвалі ў Аўстрыю, але ў Варшаве, дзе яны былі злезлі і адсталі ад поезда, іх перахапіў нейкі польскі пан. У яго яны і перабылі вайну, працуючы на панскім полі.

Што ж да Ігнася, то немцы кінулі яго ў турму. Там дабіваліся, каб ён выдаў усе сакрэты партызан. Яго катавалі, моцна білі, нават пячонку адбілі, але ён не выдаў сваіх. У турме яго прымушалі лупіць коней і рабіць яшчэ больш брудную работу. Пасля катаванняў Ігнась даў згоду пайсці ў паліцыю — меркаваў пры першым зручным выпадку ўцячы назад у лес. І такі ўцёк. Перад прыходам нашых. Пры гэтым паспеў вызваліць з турмы ўсіх зняволеных, якіх немцы збіраліся перад адыходам расстраляць.

Пасля ўцёкаў сябры-партызаны з радасцю сустрэлі Ігнася Цагойку, які прыхапіў з сабой лепшую нямецкую зброю. Як вопытны і адважны падрыўнік ён ізноў узначаліў падрыўную групу.

Пасля вызвалення ад немцаў раёна Ігнась, як расказвалі, хадзіў вельмі змрочны, панылы. Ён жа астаўся з усёй сям'і адзін. Моцна перажываючы за яго, звар'яцела і неўзабаве памерла маці, жонка і сястра аставаліся недзе ў Германіі ў рабстве — магчыма, загінулі ў полымі вайны.

Аднаго разу пайшоў ён на рэчку Арэсу глушыць рыбу. Узвёў гранату і, збіраючыся кінуць у ваду, залішне доўга трымаў яе. Граната разарвалася ў яго руцэ. Ігнася расшкуматала на шматкі.

А тыдні праз два вярнулася з яго сястрою і жонка Алімпа. Цяпер ужо — удава.

## Блакіроўка,
## або Як мы, дзеці, выратавалі
## дуброўскіх партызан

Зімой 1943/44 года немцы сабралі, мусіць, перакінуўшы з фронту, вялікія сілы, каб ачысціць ад партызан занятыя імі тэрыторыі на стыку Старадарожскага, Слуцкага і Асіповіцкага раёнаў. Добра помніцца мне вялікі нямецкі абоз з гарматамі ды кулямётамі, які расцягнуўся па ўсёй нашай вуліцы і якому, здавалася, не будзе канца. Кіраваўся ён на Дрычын, у партызанскую зону. Урэзаўся ў памяць адзін немец, які высока сядзеў на гармаце і еў лусту белага хлеба, намазанага маслам. Мы такога

ніколі і ў вочы не бачылі, і я не без зайздрасці глядзеў, як той уплятаў свой «брод».

Здаецца, усю першую палавіну дня рухаўся і рухаўся гэты нямецкі абоз праз Зялёную Дуброву. Па вёсцы кружыла тады адно слова — блакіроўка. Казалі, немцы намерыліся акружыць усіх партызан, каб ніводнага не выпусціць жывым. Я са шкадаваннем думаў тады, што цяпер немцы з такімі «арудзіямі» і праўда могуць пабіць партызан.

Калі пачалася блакіроўка, камбрыг Аляксей Шуба, як я потым дазнаўся, пасля нарады з камандзірамі атрадаў даў загад часова распусціць брыгаду і паатрадна ці невялікімі групамі прабівацца з акружэння, каб потым аб'яднацца зноў.

Партызаны-дуброўцы, сабраўшыся разам, з месца базіравання недзе пад Глускам пачалі прабівацца лясамі ды балотамі бліжэй к дому. Яны атабарыліся на невялікім грудку сярод вялікага махавога балота, парослага скажанелымі хвойкамі і бярэзнікам і празванага ў нас — Мох. Зрабілі там ладны будан, які добра замаскавалі, і сядзелі ў ім, пільна прыслухоўваючыся, ці не чуваць дзе немцаў, каб не папасціся ім у рукі.

Вялікіх харчовых прыпасаў яны не мелі. Таму звязаліся з дамашнімі, і тыя крадком прыносілі ім у будан нейкую яду.

Дзядзьку Федзю насіла ў лес есці яго малодшая сястра Анэта. Яна к гэтаму часу вярнулася ўжо з Шантароўшчыны ў Зялёную Дуброву і жыла, здаецца, у нашых сваякоў. Сядзела тут не так сабе. Яна выконвала ў Дуброве заданне партызан той жа шубаўскай брыгады. Пра адно, вельмі небяспечнае заданне яна мне сама расказвала. Ёй даручылі звязацца ў Фалічах з групай славакаў, якіх сілком мабілізавалі немцы, каб памагалі ім ваяваць з партызанамі. Яна пазнаёмілася з імі і падгаварыла перайсці ў партызаны. Славакі даўно думалі ўцячы ад немцаў, але не ведалі, як гэта зрабіць. Анэта з дапамогай сяброўкі ўсё арганізавала і прывяла тую групу славакаў у поўным нямецкім узбраенні і абмундзіраванні ў адзін з шубаўскіх атрадаў. Цётка падрабязна расказвала мне пра гэтую аперацыю, якая магла б вельмі кепска закончыцца і для яе, і для славакаў. Калі яна прабралася тады ў Фалічы, немцы застукалі яе і гналіся ўжо за ёй, але яна заскочыла ў чыйсьці двор, забегла ў нейкую кладоўку і схавалася ў пустой кадушцы, перавярнуўшы яе на сябе.

Я не раз бачыў праз акно, як цётка Анэта разам з сяброўкай — Аваліньчынай Флёрай — ішла з хатулём у руках у той бок, дзе хаваліся партызаны. «Ізноў панеслі парцізанам есці, — казала

маці, праводзячы іх вачыма. — Хоць бы рабілі так, каб людзі не бачылі…»

Аднаго разу напароліся яны такі на немцаў, якія зрабілі ў лесе на партызан засаду. Абедзве ўжо былі на прыцэле, але страляць немцы не стралялі па іх — хацелі злавіць жывымі, каб выведаць ад іх партызанскую хованку: убачыўшы ў іх руках тыя хатулі з харчам, яны адразу зразумелі, куды іх неслі.

Дзяўчаты ўсё ж згледзелі немцаў і кінуліся наўцёкі. Беглі па лесе, па ламаччы, не чуючы ног ад страху. Убачыўшы, што далей у лес дарога ім немцамі перагароджана, яны паімчалі напрасцяк у вёску. Немцы рвануліся за імі. Анэта з Флёрай нічога лепшага не прыдумалі, як ускочыць у наш двор, а з двара — у хату. Мацеры дома не было, а мы, дзеці, як звычайна сядзелі радком на краёчку печы, звесіўшы на прымурак ногі. Валя трымала на руках маленькую Яню. Уцякачкі, растрапаныя, з вялікімі ад сполаху вачыма, з лёту ўскочылі да нас на печ, за нашы спіны, у смалякі, што заўсёды там сушыліся, і сказалі нам, каб мы ціха сядзелі і не злазілі на падлогу.

Немцы доўга не забавіліся. Яны тут жа паявіліся ў нашых варотцах. Адны патухкалі ў двор, к хлявам, а другія загрукаталі вёдрамі ды чыгунамі ў сенцах. Я чуў, як яны па драбінах палезлі на гару, як хадзілі там — аж са столі сыпаўся пясок. Адзін немец з аўтаматам наперавес ускочыў у хату. Пачаў аглядаць усе куткі і закуткі, зазірнуў пад ложкі, адчыніў шафу, паперабіраў дулам аўтамата што там вісела і, нікога не знайшоўшы, скіраваў вочы на нас. Мы з жахам убачылі, што ён ідзе к печы. Мы сядзелі там не дыхаючы. Малая Яня, як і тады, калі наша моладзь хавалася пад падлогай, таксама прыціхла ў Валі на руках. Але калі немец ступіў адной нагой на палок, каб лезці да нас на печ, мы ўсе разам так дружна закрычалі ў сполаху, што ён міжволі прыкрыў рукамі вушы, адняў з палка нагу і, махнуўшы сам сабе рукой, выйшаў з хаты.

Некалі, як кажа паданне, гусі выратавалі Рым. Ну, а мы, дзеці, сваім немым крыкам выратавалі партызанак Анэту і Флёру, што хаваліся за намі на печы, а з імі, напэўна ж, і ўсіх дуброўскіх партызан. Бо калі б немцы злавілі дзяўчат, то як бы яны ні аднекваліся, як бы ні выкручваліся, карнікі знайшлі б спосаб прымусіць іх, каб завялі ў партызанскі будан. А там схапіць нашых партызан ім ужо было б раз плюнуць.

## З Толем

Недзе з 1943 года, калі дзядзька Федзя пайшоў у партызаны, а дзядзьку Івану даводзілася хавацца па лясах ад немцаў, каб не забралі ў Германію або ў паліцыю, уся мужчынская работа ў Толевай бабуні і ў нашай сям'і ляжала на нас дваіх — на Толі, якому споўнілася ўжо адзінаццаць гадоў, і на мне, дзевяцігадовым. Разам жа нам было дваццаць гадоў — адзін добры мужчына!

Гэты «мужчына» з чатырма рукамі мог круціць ужо нават цяжкія жорны — якраз нам даручалася малоць на іх жыта. Стаялі жорны ў цёмных бабуніных сенцах, у самым кутку. Мы бралі з меха, што падносілі сюды загадзя, жменямі халаднаватае зерне жыта і пасыпвалі ў дзірку верхняга каменя, увесь час круцячы яго з абодвух бакоў прымацаванай да жорнаў палкай — млёнам. Калі хто з нас адымаў ад палкі навярэджаную руку, каб ухапіцца за яе другой рукой, жорны на міг спыняліся, бо адзін круціць іх ужо не здужваў.

Перамолвалася зерне на муку вельмі марудна. З раніцы да вечара, бывала, круцілі мы з Толем тыя жорны. Мне здавалася тады, што больш цяжкай і нудотнай работы на свеце не было. Пасля яе ў мяне не адзін дзень нылі натруджаныя рукі — іх проста было не падняць. Нават заснуць яны першыя дні не давалі — так балелі.

Затое як прыемна было глядзець, калі бабуня вымала з печы адмысловай драўлянай лапатай вялікія бοханы хлеба, спечаныя са змеленай намі мукі. Пяклося хлеба — на дзве ж сям'і — вельмі многа. Круглыя боханы з патрэсканымі бакамі ляжалі на стале пад ручнікамі і на ўсіх ложках, засцеленых клятчастымі дамаатканымі посцілкамі.

Ну, цяпер не скора трэба будзе нам круціць цяжкія жорны!

Ды вось дзіва: за якія дні тры ад пахкага хлеба ўжо і духу не аставалася ў хаце: увесь перамолвалі нашы зубы. Ці ж дзіва: гэтулькі ратоў чакала яго ў абедзвюх сем'ях! Да таго ж часцяком нарываліся на той хлеб і партызаны — дрычынскія ды майсеевіцкія рабаўнікі, ад якіх не заўсёды яго можна было ўхаваць, або свае шубаўцы, з якімі мы самі шчодра дзяліліся хлебам, асабліва калі яшчэ заскоквалі да нас Алімпін Ігнась з сябрамі ці бацькаў брат Федзя.

Так што не ўспявалі мы з Толем аддыхацца, яшчэ як трэба не адыходзілі ад натруджання нашы рукі, як нам ізноў трэба было ісці ў цёмны куток сенцаў і брацца за ручку тых спрацівелых жорнаў.

За намі была яшчэ загатоўка на дзве сям'і дроў. Калі быў замацаваны за нашымі трыма дварамі конь, мы з Толем запрагалі яго і ехалі ў лес. А калі партызаны забралі каня, то нам на сабе ўжо даводзілася цягаць дровы. Пілавалі і калолі іх таксама мы з Толем. Толькі зрэдку памагала нам якая з цётак.

Таму ў халодную пару года і мацеры, і бабуні прыходзілася скупавата закідваць іх у печ, і ў нашых хатах не заўсёды было цёпла.

Мы з Толем часта спалі разам на адным ложку. Каб сагрэцца, бліжэй туліліся адзін да аднаго. Помню, калі мы доўга не маглі сагрэцца, Толя сказаў мне аднаго разу:

— Каб было цяплей, давай будзем бздзець.

Раз старэйшы дазваляў, я напраўду хацеў такім спосабам паддаць цяпла пад коўдрай. Але мне нешта не «бздзелася», і я памалу засынаў так.

**Вызваленне**

У Зялёнай Дуброве ўжо не адзін дзень недзе далёка чуліся сярод яснага неба глухія грымоты. Казалі, гэта нашы гоняць на захад немцаў. Помню, я з радасцю і надзеяй прыслухоўваўся да таго грукатання. А яно то сцішвалася, то ўзмацнялася з новай сілай.

Недзе ў гэты час у Зялёную Дуброву наехалі немцы. Яны пахадзілі па вёсцы, а пад вечар сабраліся на Канцы — акурат напроці нашай хаты. Там, залёгшы ў прыдарожнай канаўцы, паставілі на ўзвышэнні кулямёты, накіраваўшы іх на лес. Ці не задумалі зрабіць тут засаду на партызан?

Мы ўжо леглі спаць, калі там усчалася страляніна. Усе мы папрачыналіся. Спалоханая маці сказала нам адзявацца. Яна мітусілася па хаце, не ведаючы, што рабіць. Свісту куль каля нас не было чуваць — значыць, стралялі ў іншы бок. Тады ці трэба ўцякаць з хаты? Маці добра ведала, што немцы заўсёды страляюць па тых, хто ўцякае. Мусіць, таму і не загадала нам выбягаць з хаты.

Між тым страляніна не сціхала. Пачакаўшы яшчэ трохі, мы палеглі спаць. Помню, лёгшы ў пасцель, я з трывогай слухаў тую густую стральбу нямецкіх кулямётаў і аўтаматаў. Так і заснуў, не дачакаўшыся, пакуль яна кончыцца. А немцы стралялі ўсю ноч. І мы спалі пад іхную страляніну.

Сціхла яна толькі пад раніцу. Нехта сказаў, што немцаў ужо няма на Канцы. Я пабег туды — назбіраць гільзаў. І праўда —

гільзаў было там хоць вазамі вазі. Але мяне больш прывабілі прыгожыя пачкі ад папярос, параскіданыя па Концы. Я пазбіраў іх і потым хваліўся равеснікам сваімі «трафеямі».

Як мы пасля дазналіся, немцы ў тую ноч стралялі проста на лес, каб адпужнуць магчымых партызан. Ды не такія партызаны дурні, каб лезці пад нямецкія кулі. Недзе на світанні немцы зняліся і рушылі ў той бок, у які стралялі, нібы расчышчаючы сабе дарогу. Дарогу на захад. Яны ўжо выносілі адсюль ногі.

Здаецца, на другі дзень я пачуў са свайго двара многагалосае «ура!», якое тры разы падрад данеслася з канца Зялёнай Дубровы, недзе з-пад школы. Нашы! Мы, дуброўскія дзеці, кінуліся туды. Ужо нічога не баючыся.

Увесь канец Зялёнай Дубровы быў поўны чырвонаармейцаў. Там, на сіўцовай лугавіне перад школаю, яны зрабілі сабе прывал. Хто сядзеў, хто ляжаў на траве. Маю ўвагу запыніў адзін чырванашчокі, у расхрыстанай гімнасцёрцы. Ён нешта голасна выкрыкваў і размахваў рукамі. Мне здалося, што ён быў п’яны — так буяніў. Але яго ніхто, на маё дзіва, не стрымліваў. Потым ад некага я даведаўся, што, вызваляючы родныя мясціны, гэты салдат не знайшоў дома ні мацеры, ні бацькі, ні малых братоў і сястрычак — усіх іх спалілі немцы. Сваё гора ён хацеў прыглушыць гарэлкаю.

Чырвонаармейцы з прыязнасцю сустракалі дзяцей. Яны падзывалі нас і, дастаючы з салдацкіх ранцаў і кішэняў, шчодра сыпалі нам у прыгаршчы цукеркі ў каляровых абгортках, якіх мы за ўсю вайну і бачыць не бачылі. Іхны камандзір пастроіў быў нас у адну шарэнгу і таксама кожнаму сыпаў цукеркі ў падстаўленыя далоні. Мы запіхвалі цукеркі хто за пазуху, хто ў прыпол зрэбнай кашулькі, хто ў шапку — каб занесці дадому і парадаваць імі сваіх малых брацікаў і сястрычак.

Таго-сяго з нас надзялілі салдаты яшчэ рознымі кансервамі — рыбнымі, мяснымі. Мне таксама дасталася адна кансерва ў банцы з замежнымі словамі на ёй. Калі мы яе адкрылі, там аказаліся… зялёныя струкі фасолі! Папробавалі іх і, хоць былі галодныя, пачалі выплёўваць з рота. Так і выкінулі, не ведаючы, як іх скарыстаць. Затое запасамі цукерак яшчэ доўга мы ласаваліся.

Прыход Чырвонай Арміі быў для нас праўдзівым святам. Усе, апрача хіба нямецкіх прыслугачоў, хадзілі радасна-ўзбуджаныя, з прасветленымі вачамі. Ну, цяпер, пасля вызвалення ад немцаў, зажыве, нарэшце, наша Зялёная Дуброва!

## Шантароўшчына

Мы з маткай звозілі снапы жыта з Асінава. Ужо накідалі воз, прыціснулі як мацней рублём, я памагаў мацеры абводзіць яго наўкруга вяроўкай — каб быў больш устойлівы на калдобах. І тут убачылі дзядзьку Федзю, які, нешта махаючы, праставаў ад Конкі па іржэўніку — ён адразу ж, як вызвалілі Зялёную Дуброву ад немцаў, вярнуўся з лесу.

— Трэба табе, Надзя, сёння ж ехаць у Шантароўшчыну — забраць нашых, — сказаў ён мацеры пасля нядоўгай размовы. — Якраз едзе туды Галляшова Манька — разам будзе смялей.

— Дак трэба ж хоць воз адвезці, тады.

— Воз адвязу я другім канём. А на гэтым паедзеш, — і ўзяўся яго адпрагаць.

Дзядзька Федзя пазычыў у кагосьці на полі калёсы (многія сёння звозілі жыта), запрог каня, і мы з маткай барзджэй пататахкалі дадому — збірацца ў дарогу.

На маю вялікую радасць, маці ўзяла з сабой і мяне. Збіраліся мы нядоўга: ускінулі на калёсы ахапак сена, заслалі клятчастай, мацерынай работы, посцілкай, упхнулі пад ніз торбу з хлебам ды салам і махнулі на каня лейчыной — ехаць. Манька нас ужо чакала каля сваіх варот, таксама на падводзе.

Гэтай дарогай я ехаў другі раз. Першы раз — дзесяць гадоў назад, калі толькі радзіўся: маці з бацькам захацелі падзяліцца сваёй радасцю з раднёю. Шантароўшчына — радзіма бацькавай мацеры, Казінай бабуні. Яна — з сям'і Аляксандра Дарэўскага, гаспадара шантароўшчынскай сядзібы. У Шантароўшчыне і паблізу яе жылі таксама бабуніны сёстры, брат Тодар і пляменнікі.

З Зялёнай Дубровы да Шантароўшчыны — кіламетраў сорак.

Як цяпер помню, быў сонечны, нават трохі спякотлівы дзень. У небе стаялі рэдкія воблачкі, між імі высока ў сінізне маленькім сярэбраным крыжыкам, здаецца, не варушачы раскінутымі крыламі, лунаў бусел.

Маці дала мне ў рукі лейцы, я сеў уперадзе, яна, трымаючыся за білы калёс, — ззаду. Я быў рады, што мне даверана самому кіраваць канём.

Манька, што была родам з Шантароўшчыны і нават прыходзілася нам, праўда, далекаватай раднёй, як і бабуня, Дарэўшчанкай, — лепей ведала дарогу, таму ехала паперадзе. Я — след у след за ёю. Я толькі глядзеў, каб не адстаць ад яе. Калі мой конь прыпыняўся, каб скубянуць на ўзбочыне травы,

я шлёгаў па яго баках раменнымі лейцамі або ўскідваў угору дубец, і ён, жуючы ўхопленае, бег далей.

О, як гэта люба — ехаць па вольнай, без усякіх «зонаў» зямлі, зведваць яшчэ невядомы, такі таямнічы для мяне свет, бачыць перад сабою ніколі не бачаныя краі-краявіды! Галоўнае — ужо няма немцаў, няма болей таго страху, які нябачным гнётам пастаянна ціснуў на душу ўсе гады іх панавання. Праўда, нас папярэдзілі, што іх недабіткі яшчэ швэндаюцца па лясах, прабіраючыся на захад, да сваіх. Толькі што яны маглі б з намі зрабіць, калі б і напаткаліся? Хіба што паадбіралі б нашы торбы з ядою. Пра горшае не хацелася і думаць.

У дарозе нас магла падсцерагчы яшчэ адна небяспека. Ваўкі. У той год іх як ніколі было напладзілася ў нашых лясах. І самае страшнае — ваўкі нападалі на людзей. Расказвалі, у адной жанчыны воўк на вачах разарваў яе малога сына, з якім прыйшла ў ягады. Пра ваўкоў-людаедаў хадзіла тады многа самых жахлівых чутак. Казалі, нібыта былі гэта і не ваўкі, а навучаныя нападаць на людзей здзічэлыя нямецкія аўчаркі, якіх немцы кідалі тут пры адступленні.

Мы даехалі да Дрычына, а там, перад самай ракой, павярнулі налева, на гравейку, што ішла з Асіповіч. Мінулі паўзбочныя вёскі Вялікі Бор, Ляўкі, Шчыткавічы. Далей з двух бакоў дарогу шчыльна абступаў змешаны лес, цемнаваты і ўдзень. З яго гушчыні на дарогу, на святло цягнуліся выгоністыя арэшыны з надзіва лапушыстым лісцем.

Больш за ўсё ўразілі мяне ў гэтай дарозе сляды зусім нядаўніх баёў. Па абочынах і лясных прагалках тут і там валяліся скасабочаныя, пакарэжаныя нямецкія машыны і гарматы, паадрываныя колы і кабінкі, гільзы гарматных снарадаў і цэлыя снарады. Ці не лёг тутака той даўжэзны абоз, што цэлых паўдня ішоў — яшчэ ж не так і даўно — праз Зялёную Дуброву на блакіроўку партызан?

Недзе пасля паўдня мы з'ехалі на затравелую бакавую калёсную дарожку — даць перадыхнуць коням і самім перакусіць. Коні з ахвотай прыпалі к густой, яшчэ зялёнай тут, у цяні, дзятлавіне. Мы самі знайшлі раўнейшае месца з мяккімі купінкамі сіўцу, з дзятлавінкаю паміж імі, яшчэ ў бела-ружовых галоўках кветак, дасталі з вазоў свае торбы. Тут жа, зусім побач, пры арэшніку мне раптам кінулася на вочы вялікая зеленаватая скрынка. Мо што спажыўное? Накрыўка з вузкіх дошчачак была ўжо адбіта. Калі я прыадкрыў яе, убачыў там адзін пры адным новенькія вастраносыя гарматныя снарады. Цэлая скрынка, яшчэ

не чапаная. Такое «дабро», ведама ж, было не для нас, таму я зноў закрыў скрынку, і мы селі перакусваць.

І яшчэ раз сунялі мы коней. Каля лясной палянкі пры самай дарозе. Уся гэтая палянка была ўстаўлена зусім новенькімі дашчанымі надмагільнымі слупкамі-помнічкамі з яркімі чырвонымі зоркамі на іх. І маці, і Манька, і я з імі даўгавата хадзілі каля тых помнічкаў і чыталі свежыя надпісы пад зоркамі — імёны і прозвішчы забітых партызан і гады іх нараджэння і гібелі. Мяне, помню, моцна ўразіла тое, што ці не ўсе яны былі маладыя: па сямнаццаць-дваццаць гадоў. І загінулі зусім нядаўна — у гэтым жа, 1944 годзе. Значыць, яны палеглі ў той нямецкай блакіроўцы.

Ад партызанскіх могілак доўгія кілометры нам не сустрэлася аніводнага селішча — лес і лес. Густы, пракаветны. Дарога-гравейка, прамая, як струна, нібы пранізвала яго і ўдавала прыцененай просекай-лінькай. Колькі ехалі мы, не напаткалі на ёй ні чалавека, ні падводы. Толькі адзін раз прайшла, размінулася з намі грузавая машына з прычэпам, нагружаная доўгімі і шырачэзнымі ў камлі хваёвымі калодамі.

Там, дзе ўпершыню гравейка рабіла калена, паварочваючы на Шышчыцы, мы зноў убачылі збоч абгароджаную магілку з такім жа дашчаным помнікам і чырвонай зоркай над ім. На помніку было напісана, што тут пахаваны партызанскі ўзводны камандзір славак Тарбаш. Мне падумалася тады, ці не з тых ён славакаў, якіх прывяла ад немцаў у партызаны мая цётка Анэта. Гэтая магілка таксама ўсхвалявала тады мяне, і я праз многа гадоў напісаў пра беларускага партызана славака Тарбаша героіка-патэтычную, вельмі павярхоўную і схематычную на сённяшні мой розум «Баладу пра дружбу».

Недалёка ад магілкі, не даязджаючы прыдарожнай вёскі Жылін Брод, мы павярнулі налева, на вузкую калёсную дарогу, пераплеценую павыступаным наверх карэннем хвояў, што падыходзілі пад яе з абодвух бакоў.

Праз кілометры тры тарахцення па каранях ды ямінах-выбоінах перад вачамі адкрылася вялікаватая лясная палянка з прыземістымі хатамі — Шантароўшчына.

Хаты, што адразу кінуліся нам на вочы пры ўездзе, складалі першую палавіну вёсачкі, ці засценка. Другая палавіна выглядвала дахамі сваіх будынкаў сярод прысадаў за зялёнай, абкіданай лазнякамі лугавінай. Па ёй, як потым я ўбачыў, працякала нешырокая рэчачка, якая — разам з лугавінай-поймай — і падзяляла засценак на тыя дзве палавіны.

Сядзіба Эдзі Дарэўскага, бабунінага пляменніка, была першая пры ўездзе ў засценак. Сунялі каня каля варот, навязалі на стоўбік плота лейцы і адчынілі varотцы. Не помню, хто першы нас згледзеў, але праз хвіліну ў двор з радаснымі воклічамі выбеглі з хаты ўсе нашы — бабуня, Казя, Алесь. Абдымкі, цалаванні, слёзы. Асабліва расчулілася бабуня. Невысокая, трошкі прыгорбленая, яна прыпадала галавой к плячу маёй мацеры, туліла мяне да сябе і ўсё плакала, плакала. Толькі зрэдку праз слёзы прарываўся ў яе і смех радасці: як жа, мы цяпер вольныя, немцаў вытурылі, кончыліся ўжо ўсе страхі і можна смела варочацца дадому.

Мы прыехалі ў Шантароўшчыну на́двечар, і нам прыйшлося там заначаваць.

Асабліва рады быў я Алесю, майму браценіку, на гады два маладзейшаму за мяне. Ён адразу павёў мяне, пакуль не сцямнела, на рэчку — лавіць уюноў. Але лавіліся яны не ў самой рэчцы, а ў нейкай завоінцы пад лазовым кустом. Мы пападкасвалі калышыны штаноў і проста тапталіся там босымі нагамі. Калі наступалі на ўюна, слізкага і вёрткага, барзджэй нагіналіся, каб не выслізнуў з-пад нагі, ашчапервалі яго рукой і кідалі ў кош. На цэлую скавараду мы прынеслі ў хату ўюноў. Калі іх смажыла бабуня, мне шкада было глядзець, як яны, жывыя яшчэ, падскоквалі на гарачай скаварадзе. Упершыню зведаў я тады і іх надта ж прыемны смак. Мне яны здаліся лепшымі за любую рыбу.

Другая згадка, што асталася ў маёй памяці, — гэта ажыны. Адразу за дварам Дарэўскіх іх былі цэлыя зараснікі. Рві і еш, колькі хочацца. Яшчэ болей чым свежыя ўпадабаў я сушаныя ажыны, якімі нас частавалі, — дагэтуль я і не ведаў, што такія ягады можна сушыць.

У хаце, куды сын прывёз нашу бабуню перабыць ліхія дні, апроч Эдзі жылі яшчэ яго дзве маладзейшыя сястры Ліда і Ванда. Іх бацька — бабунін брат — Тодар Дарэўскі памёр перад вайной. Маці ж… З ёю атрымалася так. У першыя дні вайны наскочылі ў Шантароўшчыну немцы, зайшлі нечага і ў двор Дарэўскіх. Адзін з іх згледзеў у складзеным стосе дроў чырвонаармейскую гімнасцёрку. Ага, значыць, гаспадыня прытуліла акружэнца, дала яму пераадзецца. Яе вывелі з хаты і, надта не распытваючы, застрэлілі на вачах у анямелых дзяцей. Так і асталіся яны адны ў хаце. Эдзю Дарэўскаму, які стаў гаспадаром на бацькаўшчыне, было тады чатырнаццаць ці пятнаццаць гадоў, Лідзе — каля дванаццаці, а Вандзе — яшчэ менш.

Пра тое, як перабывалі ліхалецце ўсе нашы ў гэтай «надзейнай», як думаў Федзя, хованцы, мы тады многа наслухаліся. Хоць тут як быццам была партызанская зона, але немцы нене ды і налятаЛі сюды вялікімі карнымі атрадамі. Асабліва лютавалі яны ў час блакіроўкі. Там, дзе яны паяўляліся, ад вёсак і засценкаў аставаліся адны папялішчы ды абгарэлыя трупы ні ў чым не павінных людзей. Так былі вынішчаны, бязлітасна спалены з людзьмі недалёкія ад Шантароўшчыны Пераходы, Гатавае, Старэва, Гандарэва, Ціхань… Палілі таксама зусім блізкі Жылін Брод.

Загінулі ў агні ад карнікаў і родныя сёстры нашай бабуні — Маня з дачкой Лідай у Гандарэве і Юля ў Пераходах.

Шантароўшчына ўцалела тады толькі нейкім цудам.

У час нямецкай акупацыі шантароўшчынцы былі заўсёды напагатове. Больш сядзелі ў выкапаных непадалёк у лесе зямлянках, чым у сваіх хатах. Была такая зямлянка і ў нашых — цесная, на тры сям'і. Сюды беглі, калі чулі небяспеку.

У блакіроўку немцы паявіліся ў Шантароўшчыне зусім нечспадзявана. Ішлі яны з боку гравейкі і, ведама ж, найперш скіравалі на бліжэйшыя ад дарогі сядзібы Дарэўскіх. Добра, нашы загадзя прачулі пра іх набліжэнне і кінуліся ўцякаць. Наўздагон немцы пачалі страляць, каля вушэй заціўкалі кулі. А тут дарогу перагарадзіла рэчка. Перабягалі яе па шыі ў халоднай вадзе. Сямігадовы брацёнік Алеська не мог яе адолець, ён бегаў па беразе і плакаў. Эдзя Дарэўскі, які быў ужо на тым беразе, вярнуўся па вадзе назад, схапіў малога на рукі і перанёс за рэчку.

Здаецца, усе шантароўшчынцы паспелі-такі ўцячы тады ў лес. Але немцы пайшлі і яго «прачэсваць». Шчыльным ланцугом прасоўваліся яны між дрэў і кустоў, страляючы перад сабой. Многа набраліся тады нашы страху, уцякаючы ад карнікаў па лясах ды балотах, зашываючыся ў самыя глухія бураломы. Як расказвала мне стрэчная сястра Казя, вельмі разгубілася, збунтавалася тады наша бабуня. Яна так была ашаламанілася, што не ведала, куды бегчы, куды ісці. І яе яшчэ два дні шукалі па лесе пасля адыходу немцаў.

Паволі заспакоілася Шантароўшчына пасля жахаў аблавы. Ізноў тут стала партызанская зона. Ізноў сюды прыходзілі партызаны. З імі былі звязаны Дарэўскія. На іх сядзібе мне з гордасцю паказвалі прадаўгаватую старую будыніну ў канцы двара, пры ажынніку. У ёй нашы пяклі партызанам хлеб.

Пераначаваўшы, мы не адразу павезлі бабуню з яе ўнукамі ў Зялёную Дуброву. Бабуня хацела памагчы яшчэ пляменніку Эдзю ўправіцца ў гаспадарцы — пазакідваць у гумно прывезеную надоечы салому, нарэзаць дроў. Пілу цягаць давялося мне з Алесем. Толькі ўсё парабіўшы, мы выехалі з Шантароўшчыны ў Зялёную Дуброву.

## Ваенныя «цацкі»

У вайну ды і нейкі час пасля яе па нашых лясах валялася шмат рознай зброі — вінтоўкі, артылерыйскія снарады, міны, гранаты. Да ўсяго гэтага, як да магніта, цягнуліся нашы дзіцячыя рукі: такія цацкі! На шчасце, у нас у Зялёнай Дуброве ніхто з дзяцей не папоўніў шматлікіх тады бальнічных «палат мінёраў», пра якія пісаў Рыгор Барадулін. Хоць многія былі вельмі блізкія к гэтаму.

Мы, малыя падшыванцы, пасвілі на Выгане свінні. І от нехта з дзяцей прынёс у прыполе добрую жменю новенькіх зеленаватых патронаў з тупаваценькімі кулямі. Мы ўзяліся камянямі выбіваць кулі з патронаў, даставаць адтуль порах. Ён жа, мусіць, добра павінен гарэць. Давайце раскладзём агонь! У некага знайшлося крэсіва з трутам — за вайну ўсе навучыліся здабываць ім агонь. Нацягалі ламачча, падпалілі. Сыпнулі порах — ах як здорава гарыць! Тады захацелі ўкінуць у агонь і патроны — ці будуць страляць? Кінулі, а самі адбеглі далей. Не паспелі яшчэ толкам схавацца за купінкі, як патроны адзін за адным — шпок, шпок, шпок! Калі яны так адшпокалі, мы ізноў сабраліся каля агню: ці асталіся там хоць гільзы? Пачалі разграбаць. І тут неспадзявана яшчэ адзін закруціўся на вуголлі, як жывы! Толькі мы сабраліся ізноў уцякаць, як — бабах! Аж агонь прытушыўся ў тым месцы. Я са страхам азірнуўся: ці хоць цэлыя ўсе? Не, нікога не зачапіла. Толькі ў малога Вовы куля знесла з галавы шапку!

За Конкай у лесе я быў наткнуўся раз на вінтоўку. Помню, як узрадаваўся такой знаходцы. Аж рукі затрэсліся. Са мной быў і трохі меншы за мяне Віця Стэўскі. Ну, цяпер папастраляем мы з яе! Гэта ж не якая там рагатка!

Акурат ужо змяркалася, і нам абодвум трэба было бегчы дадому. Таму страляць з вінтоўкі мы дамовіліся заўтра. Я запхнуў вінтоўку пад апушчаную долу страху калгаснага паднавеса, які чамусьці абваліўся, і сказаў Віцю, каб нікому-нікому не гаварыў пра нашу знаходку. Ён пабажыўся, што нікамусенькі не раскажа, і я спакойна памчаў дадому.

Лёг спаць, але доўга не мог заснуць: уяўлялася, як я заўтра буду страляць па варонах ды сароках, а можа, і зайца дзе напаткаю.

Сярод ночы, калі я ўжо спаў, нехта настойліва пачаў стукаць у наша акно. Перапалоханая маці ўстала з ложка, падышла пад акно і дрыготкім голасам папыталася, хто там.

— Парцізаны! Скарэй адчыняй дзверы! — пачулася з панадворка.

Маці, накінуўшы на плечы нейкую світку, выйшла ў сенцы. Уся яна калацілася ад страху.

Першае, што папыталіся партызаны, калі маці адчыніла дзверы, — ці тут жыве Косцік Цвірка?

— Тут. А што? — яшчэ болей спужалася маці.

— Пазаві яго сюды, — загадаў адзін з партызан.

— Ён жа малы, нашто ён вам, — ледзь не плакала маці.

— Не бойся, нічога яму не зробім, пазаві.

Устрывожаная маці раскатурхала мяне і павяла к дзвярам.

— Гэта ты знайшоў вінтоўку? — папытаў адзін.

— Я, — цяпер мне нічога не аставалася, як прызнацца, раз яны ўжо самі ведаюць.

— Дзе яна?

Я расказаў, і партызаны пайшлі ад нас.

Значыць, не ўтрымаўся малы Віця — расказаў дома пра нашу знаходку. Потым я даведаўся, што яго старэйшая сястра зналася з партызанамі. Акурат у тую ноч яны і зайшлі да яе. Ясна, дазнаўшыся пра вінтоўку, яна і накіравала да мяне партызан.

Вельмі шкадаваў я, што і аднаго разу не ўдалося мне стрэліць з той хвацкай вінтоўкі.

Затое другая вінтоўка чуць не нарабіла нам бяды.

Знайшлі яе бабунін Толя і Альжбецін Іван, Іван Цвірка. Цвірка — не сапраўднае яго прозвішча. Альжбета, Іванава маці, была замужам за Алесем Цвіркам, брацёнікам майго дзеда Сымона. Алесь недзе ў калектывізацыю праз нешта павесіўся, пакінуўшы дзвюх дочак. Альжбета ўзяла ў прымы Тамаша Ляневіча са Старэва. Ад яго і радзіўся Іван. Але бацька яго акурат у той час памёр, і маці чамусьці запісала сына на прозвішча першага гаспадара. Івана часта звалі ў нас Тамашом, а яшчэ — Карнавухі, бо ў яго на мочцы вушэй была невялічкая нарасць у выглядзе арэха-спарыша, толькі ўдвая меншая.

Іван з Толем знайшлі вінтоўку, калі пасвілі недзе каля вёскі авечкі з адной казой. Паспрабавалі страляць, але вінтоўка не спрацоўвала. Ага, у ёй няма патронаў. Няма дык няма, але ж

можна і так з ёй пагуляць хлапчукам, пазабаўляцца. Як сядзелі на траве каля сваёй чарады, Іван узяў тую вінтоўку, скіраваў проста ў Толеў жывот і, жартуючы, пагразіў: «Беражыся, застрэлю!» Толя ўхапіў рукой за ствол вінтоўкі і адвёў убок. І ў той жа момант — грымнуў стрэл. Хлопцы аслупянелі ад неспадзяванкі. У тым аслупяненні спярша не ўцямілі, чаму раптам вякнула паблізу каза. І толькі як апомніліся, убачылі, што каза ўпала на зямлю і, падрыгаўшыся, адкінула набок галаву. Гэта ж у яе папала тая куля, якую адвёў ад сябе Толя!

Каза была не чыя-небудзь, а Стасі Шух. Чалавек яе загінуў на вайне, пакінуўшы на руках у жанчыны дзвюх маленькіх дочак — Віцю і Рэню. Спярша яна жыла ў Каўгарах — каля Дараганава, а потым, здаецца, у 1942 годзе, перабралася сюды, у Зялёную Дуброву. Нехта збіў Стасі маленькую хатку на месцы калгаснага клуба, які немцы перавезлі да сябе ў Фалічы.

Сама Стася, у нас яе звалі Стаська, была нізенькага росту, але ўвішная, шчабятлівая. Жыла вельмі бедна. Дзяўчынкі недаядалі, былі худзенькія, як націнкі. Калі выгналі немцаў, нехта памог ёй прыдбаць казу. Каза ў тым цяжкім і галодным сорак чацвёртым годзе стала ім амаль адзіным ратункам ад голаду. І от гэты Карнавухі яе ўходаў.

Стаська, калі ўбачыла сваю нежывую казу, дала голасу на ўсю Зялёную Дуброву. З галашэннямі і прычытаннямі падалася да гэтакай жа, як і сама, галетніцы Альжбеты.

Іван, пачуўшы несусветны бабскі лямант, уцёк за прыгуменне і схаваўся за капой саломы. Толькі як Стася накрычалася-напракліналася на Альжбеціным панадворку ды плачучы пайшла ў другі канец засценка, ён ціхенька, увесь сцяўшыся, збедніўшыся, адчыніў у хату дзверы.

— А, вярнуўся, вісус! — абярнулася на скрып дзвярэй Альжбета і, ухапіўшы ў мыцельніку нейкі стары трапкач, пачала хвастаць па ім налева і направа.

Іван, захінуўшы локцем твар, маўчком цярпеў заслужаную кару, нават не адбягаўся ад маццеры: хай б'е, хай здавольваецца, мо гэтым усё і абыдзецца.

Ды не, не абышлося.

— Каб вярнуў Стасі казу! Іначай і ў хату не патыкайся! — сказала ў канцы экзекуцыі Альжбета. — Сабірайся — павалачэш гэтую ў Асіповічы, а адтуль каб жывую прывёў! Ды барзджэй, каб раніцай быў ужо на базары! Вунь мех!

Толькі цяпер убачыў Іван напалову запоўнены мех пры дзвярах — пакуль ён хаваўся, маці з дочкамі і суседзямі ўспелі ўжо разабраць казу і злажыць мяса.

Потым Іван з усімі падрабязнасцямі сам расказваў мне, як яму ўскінулі на плечы цяжкі мех з казіным мясам, як ён, дванаццацігадовы хлопец, нёс яго сем кілометраў да Фаліч, як там, на хаду ўскочыўшы на падножку поезда і ўчапіўшыся за поручні, бо не было грошай на білет, вёз аж у Асіповічы тое мяса, што ўсю дарогу целяпалася ў яго за спіной, гатовае вот-вот сарвацца з ім разам, як, неяк давёзшы, ужо цёмначы прывалок сваю ношку на даўно апусцелы рынак, як начаваў з ёй каля плота, а раніцай, прыцаніўшыся, сеў прадаваць свой тавар і як за выручаныя грошы купіў новую казу.

Купіць то ён купіў, а як яе даставіць дадому, у Зялёную Дуброву? Поездам жа яе не завязеш. Аставалася толькі за блізкі свет весці на павадку. Павёў. Па шпалах. Дызель да Фаліч ідзе каля гадзіны. А колькі ж яму прыйдзецца ісці пеша? Аж страшна падумаць. Ды Іван Тамашавіч пайшоў, бо нічога іншага не прыдумаў. І не проста ішоў, а цягнуў за сабой казу, якая чамусьці не жадала ісці, усю дарогу ўпіралася. І ўвесь час, занаравіўшыся, станавілася пасярод дарогі. Стане, упрэцца ўсімі чатырма нагамі, прыгне галаву з павязаным за рогі павадком — і ні з месца. Тады Іван заходзіць ёй ззаду і пхне ўперад. Папхне, каза прабяжыць трохі і зноў становіцца як укопаная. Ізноў Івану трэба было папіхаць. І так усю доўгую дарогу — ад Асіповіч і да самай Зялёнай Дубровы!

Нанет змучыўся тады хлопец. Але ўсё ж прывёў казу Стасьцы, з рук у рукі павадок перадаў.

Пасля гэтага дзясятаму заказаў Іван Тамашоў забаўляцца ваеннымі цацкамі.

## Касцы

Вайна, як толькі магла, апустошыла нашы падворкі і хаты. Добра пастараліся тут і немцы, і партызаны. Помняцца вялізныя нямецкія фуры, запрэжаныя паркамі сытых, шыраказадых коней. На гэтыя фуры складвалі абавязковы падатак з кожнага двара — мяхі з жытам ці яшчэ якім збожжам для нямецкай арміі. Усё, што аставалася пасля немцаў, падмяталі, наскокваючы начамі, партызаны. Ратуючыся ад голаду, дуброўцы ўсё ж знаходзілі спосаб неяк прыхоўваць збожжа і для сябе — закопвалі ў ямах, уціскалі мяшкі глыбей у салому. А самы надзейны быў спосаб — пакідаць снапы ў гумнах неабмалочанымі. Калі трэба было спячы хлеба, ababівалі некалькі снапоў — каб толькі хапіла на выпечку.

Цяжэй было ўхаваць жывёлу. Свіней, авечак, цялят бралі, як сваё, і немцы, і партызаны. Болей партызаны. Пры гэтым апраўдваліся: каб не дасталося немцам.

Не даўмеліся дуброўцы, як прыхоўваць цялят. Іх пасвілі адкрыта. Адзін статак даручылі пасвіць мне, другі — Сэлю. Пагналі мы чарговым разам абодва статкі пад Гочча — на мурожную муравіну пад дубамі. Скубуць сабе нашы цяляты сакаўную траву. А мы, забаўляючыся, залезлі на дубы, кідаемся зялёнымі жалудамі.

Тут і змецілі нас з недалёкай Конкі партызаны — адсюль жа кілометры тры ад іхнай зоны. Глядзім: шыбуюць праз поле два са стрэльбамі проста на нас. Пасаскоквалі мы з дубоў, чакаем:

— Усё, хлопцы, адпасвілі свае цяляты — бяжыце дамоў!

А самі выламалі па дубцу, сабралі цялят у кучу і пагналі ў бок Конкі — на Дрычын.

Сэля, старэйшы, — нічога, а я бег дадому і плакаў: ну ж і будзе цяпер нам, што здалі цялят партызанам!

Але — на маё здзіўленне — у вёсцы ніхто і не падумаў нас ушчуваць: якая ж тут дзяцей віна?

Вельмі баяліся дуброўцы за кароў, каб не астацца без малака. Таму іх хавалі яшчэ лепш, чым раней: у непраходным гушчары. Ды аднаго разу, у глыбокую восень, калі прамерзла зямля, адважыліся тайком выпусціць у сад на рунь. І дарэмна: акурат прыджгалі ў Зялёную Дуброву немцы, згледзелі кароў і ўсю чараду пагналі да сябе ў Фалічы.

Амаль на цэлы год уся Зялёная Дуброва асталася без малака. Не шмат хто ўхаваў дзе і кавалак сала, не кажучы пра мяса. Усе мы, асабліва дзеці, напоўніцу пазналі тады, што такое нішчымніца.

Пасля выгнання немцаў дуброўцы кінуліся шукаць сваіх кароў. Нашу белую, у рэдкія чырвоныя крапінкі карову, якую звалі Анька, мацеры не трэба было шукаць: калі немцы гналі чараду ў Фалічы, яна адбілася і памкнулася бегчы дадому. Па ёй пачалі страляць і забілі.

Затое карову Толевай бабуні Дуню ўдалося-такі знайсці ў нейкай вёсцы, кілометраў за дваццаць ад нас. Цётка Волька дапяла туды і на ўсеагульную нашу радасць прывяла дадому. Для бабунінай вялікай сям'і і для нас — гэта быў ратунак. Асабліва для малых дзяцей, якія забыліся ўжо, што такое малако.

З вяртаннем каровы на нас з Толем лёг яшчэ адзін абавязак: накасіць для яе на зіму сена. Бо дзядзьку Ваню, якому падышоў тэрмін, прызвалі ў войска, у нейкую зенітную часць. Мне ніяк

нельга было не памагчы Толю: малако ж ад Дуні перападала і нам, «Надзіным» дзецям.

Толя касіць ужо ўмеў. А я не ведаў, як і касу трымаць у руках. Але ён усё роўна знайшоў для мяне нейкую маленькую коску, здаецца, шасцёрку.

— Бяры, навучышся.

І от мы ўдвух — сур'ёзна-заклапочаны Толя (яму ж ужо было цяпер дванаццаць) і я, на два гады меншы, умека і няўмека, падаліся з косамі на плячах на Дальнюю Старыну. Выйшлі на досвітку: Толя сказаў, што каса вельмі добра бярэ траву, калі яшчэ не апала пад сонцам раса. Між цемнаватых альшын і трохі весялейшых бяроз стаяў густы белы туман, які засланяў дальшыя ад нас дрэвы і кусты вербалозу.

Суняліся на лугавой палянцы. Трава на ёй была яшчэ нікім не чапаная, амаль белая ад расы. Толя зняў з пляча касу і, утыркнуўшы кассём у зямлю, пачаў лоўка, з аднаго і другога боку шахаць па ёй мянташкай.

Памянташыўшы, прылажыў касу к траве. Узмах управа — і каса пачала нізенька, пры самай зямлі выстругваць і адкідаць убок густую, мокрую ад расы траву. Я проста залюбаваўся, які роўненькі атрымліваўся ў Толі пракос.

Мне таксама захацелася вось так размахнуцца ў траве сваёй коскай і гнаць па лугавіне такі ж раўнюткі пракос — нічога складанага ў касьбе я не ўбачыў. Я толькі чакаў Толевай каманды.

Але Толя не спяшаўся яе падаваць. Прагнаўшы пракос да сярэдзіны лугавіны, паказаўшы мне, як трэба касіць, ён утыркнуў там сваю касу і вярнуўся пад мяне. Спачатку сказаў мне самому намянташыць сваю коску. Я рабіў усё, як ён. Калі што рабіў не так, мой настаўнік цярпліва папраўляў мяне, паказваючы, як трэба рабіць правільна.

Потым адвёў мне збоку ражок лугавіны між лазовымі кустамі, дзе я павінен быў прайсці сваю «практыку» касьбы. Галоўнае, вучыў мяне Толя, — трымаць касу пры самай зямлі, увесь час цiснучы на яе пятку. Ён стаў у мяне за спіной, паклаў левую маю руку на кассё вышэй ручкі, а правую — на самую ручку, ашчаперыў мае рукі сваімі, і мы пайшлі ў чатыры рукі касіць. Я аж узрадаваўся: і праўда, так гэта ўсё проста! Але калі Толя адышоў убок і я ўзяўся касіць сам, то ўжо з першага маху сеў у лужыну: дзюбка касы ўторкнулася ў зямлю, і я чуць яе вырваў.

— Бо ты падняў уверх пятку, — сказаў, пасмейваючыся, мой настаўнік. — Не адрывай яе ад зямлі.

Я стараўся так і трымаць яе. Ды калі размахваўся касой, тая неслухмяная пятка, якую Толя называў яшчэ срачка, ізноў падскаквала ўверх, а дзюбка ішла ў зямлю. Сам жа я ледзьве не ляцеў праз касу потырч.

Бачачы маё засмучэнне, Толя больш не смяяўся.

— Нічога, навучышся. І ў мяне зразу не палучалася, — заспакойваў мяне. — Касі паболей, пробуй. Калі папсуеш сенакос — не бяда: яго тут хапае, — і пайшоў пад свой пракос.

«Палучалася» ў мяне не надта: як я ні ціснуў на тую срачку, яна не-не ды ізноў скакала ўверх.

З горам напалам я ўсё ж дабіў свой ражок сенакоса. Але калі пад канец паглядзеў на свае вузенькія пракосікі з паклычанай, пазбіванай поверху травой, то вельмі апанурыўся, упаў духам. І сама касьба спрацівела мне тады.

Ды Толя, як мудры настаўнік, дома пахваліў мяне перад усімі, сказаў, што з мяне атрымаецца праўдзівы касец. Так што назаўтра я ізноў пайшоў з ім на Дальнюю Старыну.

Скора я і праўда навучыўся касіць як трэба. Нават палюбіў гэту работу. А неўзабаве станавіўся ўжо ў шэраг з дарослымі касцамі на калгасным сенакосе. Хоць яны і гразіліся смехам «падрэзаць» мае пяткі, я не адставаў ад іх, а часам і сам насядаў на пярэдняга.

## Школа

Помню радаснае ўзрушэнне, калі я ў маі 1941 года першы раз ступіў на вялікі школьны двор, які ўвесь быў у ясным паўдзённым сонцы. Сустрэліся мне тут усе мае аднагодкі, хлопчыкі і дзяўчынкі, чыста апранутыя, такія ж, як і я, прыцішаныя, пасур'ёзнелыя: як жа — мы прыйшлі запісвацца ў школу, у першы клас!

У глыбіні двара адна на адной грувасціліся вынесеныя з класаў і, мусіць, нядаўна памытыя вучнёўскія парты, на якіх мы скора будзем сядзець. Каля іх прысуседзіўся і невялікі стол, за якім сядзела маладая, вельмі прыветлівая настаўніца. Яе з усіх бакоў абступілі дзеці. Настаўніца пыталася ў кожнага, хто ён, і, утыкаючы ў круглую шкляную чарніліцу драўляную ручку з пяром на канцы, нешта запісвала ў разгорнутым перад ёй журнале. А запісаўшы, кожнаму казала нейкае добрае слова. Нарэшце падазвала і мяне. Калі я назваўся, яна, гэтак жа пазначыўшы нешта ў сваім журнале, прыязна паглядзела на мяне і весела сказала:

— Ну вось, ты цяпер — школьнік. Хочаш вучыцца?

— Хачу, — адказаў я, не задумваючыся.

Гордасць перапаўняла мяне, калі я ішоў са школьнага двара дадому: я — школьнік! Школьнік! Спяшаючыся падзяліцца сваёй радасцю з дамашнімі, я раз за разам паўтараў самому сабе гэтае слова. Так, цяпер я не абы-хто, а школьнік!

Цяпер я жыў чаканнем першага верасня, таго радаснага дня, калі мы, першакласнікі, пераступім школьны парог, сядзем за парты. Гэта ж столькі там будзе новага, невядомага, цікавага!

Я ўжо лічыў у нецярпенні дні, калі пачнецца вучоба. Далічыўся да 22 чэрвеня, ад якога заставалася да таго дня толькі два з лішкам месяцы. Ды тут грымнула вайна.

Наша суседка Сабіна Сянькоўская, якая таксама была настаўніцай, толькі вучыла дзяцей недзе ў іншай вёсцы, пры сустрэчы сказала мне, што мы ўсё роўна будзем вучыцца, што мне трэба рыхтавацца ў школу.

І от прыйшло 1 верасня. Толькі нешта ніхто пра школу і не заікаецца. Я пытаўся ў аднаго, у другога, ці будзем вучыцца — усе толькі пацікаюць плячыма. А можа, там ужо вучацца? Я сабраўся і сам пабег у той канец, пад школу, каб пагледзець, ці пачалася вучоба. Пуста на школьным двары. Адважыўся ступіць на парог, узяўся за ручку дзвярэй. Ды школа была замкнёна. Значыць, і праўда — вучобы не будзе, падумаў я і пайшоў апануранны дадому.

Потым я даведаўся, што нашы настаўніцы пабаяліся адкрываць школу. Хадзілі чуткі, што партызаны палілі тыя школы, дзе вяліся заняткі — каб савецкія дзеці не вучыліся пад нямецкую дыктоўку.

Так што ўсе тры гады, калі мы былі пад немцамі, я сядзеў дома.

Але ў мяне быў даваенны буквар — відаць, купіў бацька. І я сам, з дапамогай бацькі і мацеры, навучыўся па ім чытаць. Буквар гэты быў адзінай маёй кнігай да самага вызвалення ад немцаў. Я чытаў яго і перачытваў. Пад канец ён раскідаўся, у ім адарвалася вокладка, і мне прыходзілася адшукаваць асобныя лісты, якія не проста было зберагчы, бо іх бязлітасна шкуматалі меншыя дзеці.

У школу, у першы клас, пайшоў я толькі па выгнанні немцаў, у 1944 годзе, калі мне было ўжо 10 гадоў.

Настаўніца, якая запісвала нас у школу тры гады назад, перад вайной некуды выехала з Зялёнай Дубровы. Пасля вызвалення нам прыслалі пажылога настаўніка — звалі яго, здаецца, Аляксей Львовіч. Усе чатыры класы ён пасадзіў у адзін, самы большы пакой школы і ў ім праводзіў урокі адначасова з рознымі групамі

дзяцей, ад самых малых да пераросткаў. Праводзіў абы-як, без ніякай сістэмы. Помню, задаваў нейкае пытанне, і на яго маглі адказваць і чатырохкласнікі, і першакласнікі. У класе стаяў шум і гам.

Падручнікаў на першым часе ні ў кога не было. Мы задавальняліся тым, што гаварыў настаўнік. Вялікая праблема была і з пісаннем. Ніхто з нас не меў ні паперы, ні чарніла. Настаўнік сказаў усё даставаць дзе-небудзь самім. Чарніла я пробаваў рабіць з сажы, але яна не хацела раствараца ў вадзе, так і плавала паверсе. Нехта параіў сок чорных крушынавых ягад. Не, і з яго не палучалася чарніла. Усё ж нешта з чарнілам прыдумалася. Але напачатку не хапала і пёраў. Я пробаваў скарыстоўваць для пісання гусінае пяро. І — як тысяча гадоў назад — пісаў на бяросце. Бо ў нас жа не было тады ні сшыткаў, ні любой іншай паперы. Ды ўсе мы скора адкінулі бяросту, бо пяро — гусінае ці жалезнае, у каго яно было, — толькі слізгала па ёй, і да яе не прыставала чарніла. Трохі выручалі мяне тыя пачкі ад папярос, што я пазнаходзіў на Конца пасля адыходу немцаў. На іх чыстым споднім баку пісалася вельмі добра. Бяда толькі, што я яшчэ да школы паскрэмзваў бальшыню іх сваімі малюнкамі гусей ды сабак.

Нейкім выйсцем з усіх тых няхватак была чорная класная дошка з белай крэйдай — гэта замяняла нам і паперу, і чарніла, і пёры. Настаўнік сам пісаў на дошцы крэйдай і даваў рабіць гэта нам. І не толькі на ўроках, але і на перапынках і пасля ўрокаў, так што з горам папалам пісаць мы навучыліся.

Наш настаўнік быў яўна выпадковы чалавек у школе. Нават я, хоць толькі пачынаў вучыцца, заўважаў яго памылкі пры тлумачэнні ўрокаў. Відаць, тады яшчэ не хапала настаўнікаў, і ў нашу школу прыслалі проста больш-менш пісьменнага чалавека, без адмысловай адукацыі — абы адкрылася школа.

Жыў настаўнік у самой школе, у невялікім пакойчыку цераз калідор. Харчавацца хадзіў па чарзе ў хаты, дзе былі яго вучні — як пастух-найміт, што не прыбаўляла яму аўтарытэту.

Пабыў ён у нашай школе не доўга. Здаецца, яшчэ ў першы навучальны год яго замяніў майсеевіцкі настаўнік Уладзімір Антонавіч Пятроўскі, які пераехаў у Зялёную Дуброву з сям'ёй і тут пасяліўся.

Гэта быў настаўнік з педагагічнай адукацыяй — ён закончыў да вайны Барысаўскі педтэхнікум і гадоў пяць настаўнічаў у Майсеевічах.

Найперш ён раздзяліў дзяцей на класы, наладзіў у нас якую патрэбна вучобу. Пасля другога года навучання вылучыў з вучняў-падлеткаў найбольш здольных і прапанаваў перайсці з другога класа адразу ў чацвёрты, мінаваўшы трэці. Бальшыня так і зрабіла. Я таксама праз два гады вучобы стаў чацвёртакласнікам і з пяцёркамі скончыў Зялёнадуброўскую пачатковую школу. Мне пашанцавала, што ў нас быў такі талковы настаўнік, як Уладзімір Антонавіч Пятроўскі: ён добра падрыхтаваў усіх выпускнікоў да далейшай вучобы. Нядарам жа яго ўганаравалі потым званнем Заслужанага настаўніка Беларусі.

У пяты клас я пайшоў ужо ў Залужжа, дзе была сямігодка. Ад нас — роўна дзесяць кілометраў (я правяраў потым па спідометры ў машыне). Мы, дуброўскія дзеці, хадзілі туды кожны дзень пеша. Каб не спазніцца на заняткі, што пачыналіся ў 9 гадзін раніцы, уставаць трэба было вельмі рана. Ішлі цёмначы лясной дарогай, а часам — напрасткі праз лес. Стараліся хадзіць гуртам — так было смялей. У глыбокую восень, у хмурнае бяззор'е, калі нельга было ўгледзець у цемнаце дарогу, мы запальвалі квачы — абмотаную на доўгіх палках кудзелю, змочаную ў карасіне. Толькі ў самыя вялікія маразы і асабліва ў веснавое разводдзе, калі на дарогах ляжаў набрынялы вадою снег, мы станавіліся ў каго-небудзь з залужакоў на кватэры, дзе самі гатавалі яду.

Скончыўшы ў Залужжы сямігодку, падаўся вучыцца далей у Старыя Дарогі, у Першую беларускую сярэднюю школу. Узяла мяне на пастой мая цётка Алімпа, якая выйшла тут — трэцім разам (пра другі скажу ніжэй)— замуж за начальніка гарадской пажарнай аховы татарына Хайрулу Садыкава. Праз тры гады вучобы з «атэстатам сталасці» я ўжо ступіў на парог галоўнай нашай «альма матэр» — Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

## Камкар

Вялікія надзеі ўскладалі дуброўцы на збажыну. Яна ўдалася ў сорак чацвёртым на славу. Помню, як маці жала жыта на нашым загоне ў калгасным садзе. Жыта ўрадзіла высокае, зярністае. Я памагаў рабіць перавяслы, увязваць імі снапы, якія падносіў к бабкам. Снапы цяжкія, з вялікімі, важкімі каласамі.

Маці вельмі радавалася, што будзем сёлета з хлебам. Але радавалася рана.

З прыходам «красных» па Зялёнай Дуброве хадзілі настойлівыя чуткі, што ненавісныя ўсім калгасы ўжо не будуць

аднаўляцца. «Амерыканцы далі пагоны, дадуць і загоны» — так фармулявалася надзея на вольнае, аднаасобнае гаспадаранне. Лічылі, што гэта дзякуючы саюзу з Амерыкай у вайне супраць гітлераўскай Германіі ваенным замест кубікаў ды ромбікаў вярнулі ранейшыя, яшчэ царскія, хоць і трохі змененыя пагоны. Моцна спадзяваліся дуброўцы, што такім жа парадкам будуць замацаваны за імі і «загоны» — уласныя зямельныя надзелы. Гэта быццам бы абяцаў і самы славуты военачальнік — маршал Жукаў.

Толькі спадзяванні не спраўдзіліся. Людзей ізноў сагналі ў калгасы. Нават раней, чым можна было падумаць. Ізноў усе «загоны» абагулілі. Тыя снапы, што жанчыны нажалі для сябе на сваіх надзелах, паадбіралі ва ўсіх і пазвозілі ў вялікае калгаснае гумно. Саламяная страха гэтага гумна за вайну моцна прадзіравілася, і звезенае туды жыта… згніло. Пасля абмалоту ў канцы года частку гэтага гнілога і парослага збожжа калгас раздаў людзям — па сто грам на працадзень. Але яно гадзілася ўжо толькі на корм жывёле. Мы асталіся без хлеба. А да таго ж яшчэ без бульбы: яе ж таксама абагулілі. Большая частка бульбы была здадзена дзяржаве ў нарыхтоўку і для прыдбаных дзесьці калгасных свіней. Калгаснікам жа на працадні дасталася толькі яе мізэрная рэшта. Той, хто садзіў бульбу на сядзібах, на сваіх сотках, меў яе ў засеках. Маці ж на сваіх сотках высеяла вясной, яшчэ пры немцах, лён — каб адзяваць дзяцей. Таму нашы засекі для бульбы аказаліся пустымі.

Так, у вайну, асабліва перад прыходам «нашых», мы, як я казаў, спазналі нішчымніцу. Хлеб, хоць ім кармілі і немцаў, і партызан, усё ж у нас не пераводзіўся: кожны з дуброўцаў быў сам сабе гаспадар і ўмеў неяк выкручвацца. Хоць не ставала коней (пад канец іх было два на ўсю вёску, а потым і зусім ніводнага), усе загоны неяк ды засяваліся. Цяпер, з вяртаннем калгаса, мы рады былі б і той нішчымніцы. Цэлымі месяцамі мы не бачылі не толькі малака ці мяса, але хлеба і бульбы. Што такое голад, мы ўпершыню зведалі вясной сорак пятага года, калі ўсё было падчышчана і выскрабена ў засеках.

Ратуючыся ад голаду, мы, дзеці, калі толькі сышоў снег, хадзілі па вясновым полі-бульбянішчы і вышуквалі ў зямлі леташнія гнілыя, зморшчаныя ў злепкі бульбіны. Маці пякла з іх бліны — чорныя, як сама скаварада. Гэтыя гнілякі, якіх у нас называлі «пышкамі», маці, варачы, кідала таксама ў шчаўе, якое мы збіралі, як толькі паказваліся з травы на лугах яго першыя, яшчэ чырванаватыя лісцікі. І цяпер помню праціўны смак гэтых

чорных, слізкаватых «пышак» у звараным шчаўі. Але мы, нават меншыя Алік і Яня, елі іх — каб хоць як заспакоіць голад.

З горам напалам мы дацягнулі да новага хлеба. Калі маці першы раз яго спякла для нас, гэта было вялікае свята. Мы не маглі яго ад'есціся. З ім, хлебам, усе мы памалу акрыялі.

Але вельмі скора мацеры прыйшлося эканоміць вельмі скупыя запасы жыта, якога нажала з сотак. З калгаса яна ўжо нічога не чакала. Там не было ніякага ладу. Дзень пры дні хадзіла маці на калгасную работу, за якую ёй налічвалі працадні. Толькі калі ўвосень прыходзіла пад калгасную кладовую, то ўсё заробленае за год яна прыносіла ў больш чым напалову пустым мяшку за плячыма. Прыносіла са слязамі на вачах.

Каб пракарміць дзяцей, аставалася спадзявацца толькі на свае соткі. Ды і на так званай «падсобнай гаспадарцы» не надта давалі людзям разгарнуцца. Адразу ж пачалі душыць проста грабежніцкімі падаткамі. З невялікіх прысядзібных надзелаў трэба было здаваць дзяржаве бульбу, малако, мяса і шмат чаго яшчэ. Падаткамі абкладваліся каровы, свінні, авечкі, нават куры, якіх бралі на ўлік, перапісвалі. Плаціць трэба было дзяржаве за кожны вулей пчол, за кожную яблыню ў агародчыку.

Не забыць, як маці хапалася за галаву ад безлічы падаткаў, проста стагнала ад іх, і ў пераносным, і ў прамым сэнсе гэтага слова. За карову, якая вырасла з цялушкі, што прывяла бабуніна Дуня, ёй трэба было здаць дзяржаве за год дзвесце літраў малака. Карова ж давала не шмат, а тут дзяцей — поўная хата.

Замест малака дазвалялася здаваць масла ў нейкай там прапорцыі. Маці палічыла гэта больш выгадным: на масла ішла смятанка, а малако, хоць і абястлушчанае, аставалася нам. Калі назбірвалася колькі трэба той смятанкі, маці злівала яе ў бойку і казала нам, дзецям, біць масла. Біў больш я як старэйшы. Работа была нудотная, бо масла доўга не збівалася: таўчэш, таўчэш калатушкай, а ніжні яе канец з крыжавінкай усё боўцьбоўць ды боўць-боўць аб смятанку. Аж уздыхнеш з палёгкай, калі пачуеш урэшце ўнізе пад калатушкай ужо не смятанкавую пругкасць. Значыць, смятанка пачынае збівацца ў масла, ладны камяк яго ўжо чуецца пад калатушкай, перакочваецца там. А з дзіркі ў верхнім вечку, праз якое ходзіць палка калатушкі, разам з маслёнкай ужо выскокваюць наверх маленькія жоўтыя камячкі і асядаюць па краях гэтай дзіркі. Іх ужо можна пасмакаваць, падчапіўшы пальцам. Бо сам збіты кругляк масла, жоўты, такі вабны, — не для нас. Яго трэба здаць у нарыхтоўку. Нам астава-

лася толькі маслёнка. У меру кісленькая, з дробнымі маслянымі цвердаваценькімі камячкамі і шматкамі смятанкі — смаката!

Спаганяў падаткі ў Зялёнай Дуброве нейкі Камкар, які заяўляўся сюды з Залужжа. Калі ён паяўляўся ў нашай вёсцы, людзі сыходзілі з дому, уцякалі ў лес ці проста дзе-небудзь хаваліся ад яго вока. Ну, і як маглі прыхоўвалі сваю жыўнасць, свіней ды авечак. Адно слова «Камкар» наводзіла на дуброўцаў жах. Здаецца, яшчэ большы, чым нядаўні крык — «немцы!».

Не забуду поўныя жаху мацерыны вочы. Яна, як бура, уляцела з вуліцы ў двор і, гукнуўшы мяне, крыкнула:

— Бяры скарэй палку — пагонім свінню ў лес! Камкар!

Маці барзджэй адчыніла свінух, кухталямі ды нагцакамі вытурыла адтуль свінню, і мы — загуменнямі, загуменнямі — бязлітасна б'ючы палкамі, барзджэй пагналі яе ў бліжэйшы лес. Ад нашых палак свіння ляцела як ашалелая.

У лесе я астаўся яе глядзець, каб нікуды не ўцякала, а маці паляцела дадому — пазаганяць куды курэй, каб Камкар не ўзяўся іх перапісваць.

Гэтак жа бараніліся ад Камкара і ўсе дуброўцы. Але не заўсёды гэта ўдавалася. І цяпер у маіх вушах стаіць немы крык з галашэннямі каля Касяровічаў. Прыляцеўшы туды, я ўбачыў каля іхнага двара грузавую машыну з адкрытым заднім бортам. Незнаёмыя дзядзькі выносілі з хаты і грузілі на яе розныя дамашнія рэчы, з якіх мне запомнілася паліраваная камода і вялікія пуховыя падушкі — у Каспурыхі ж былі дзве дочкі на выданні. Усё гэта пад несціханы жаночы лямант і праклёны забіралася за нявыплату падаткаў.

Зусім інакш на такія «меры» рэагавала Карповічыха. Яе чалавек, прымак з Волашава, памёр ад тыфу яшчэ на пачатку вайны, пакінуўшы пяцёра дзяцей — чатырох хлопцаў і адну, самую меншую, дачку. Карповічыха не змагла выканаць нормы здачы дзяржаве малака. І от заявіўся на падворак Камкар:

— Чаму не здала малако?

— А ці ж не бачыш — хата дзяцей. З аднаго малака жывём.

— Тады забяром карову!

— Забірай!

Не думала Карповічыха, што будзе выконваць Камкар пагрозу. Ды той не жартаваў. Адчыніў хлеў, пачаў выганяць карову.

— Дак мо і вяроўку даць? — стараючыся быць спакойнай, сказала жанчына і кінула яму павадок.

Падняў Камкар павадок, залыгаў карову і павёў вуліцай пад калгасны двор.

Не ўспеў далёка адысціся Камкар, як чуе ззаду Карповічышын голас:

— Пачакай, Камкар, пачакай!

Ясна, спалохалася баба, хоча расплаціцца з дзяржавай. Суняў Камкар карову, чакае.

— Вазьмі і кніжку гэту! — падбегшы да Камкара, працягнула яму жанчына ўліковую кніжку. — Будзеш здаваць па ёй малако!

Добра падкалола Камкара Карповічыха, Гэля з Шумскіх! І цяпер дуброўцы, успамінаючы, смяюцца з яе дасціпнасці.

На калгасным двары рэквізаваную карову пратрымалі дні тры. Адале сказалі Карповічысе забіраць яе назад. Бо назусім адбіраць у людзей кароў раённае начальства не дазваляла. Яно добра ведала, што без калгасніцкіх прыватных кароў спушчаны зверху план здачы малака ніколі не выканаўся б. На калгасныя каровы начальнікі не спадзяваліся. Не сакрэт, работа ў калгасе ішла праз пень-калоду: усё ж там казённае, не сваё, за работу плацілі пустымі працаднямі. Адсюль і адносіны да яе. Акурат, як у той прымаўцы: бегаў Янaчка ля плота — якая плата, такая і работа. У сярэднім калгасная карова давала, як часта здаралася, крыху больш за казу. Не памагала тут ні неаслабная апека зверху, ні шматлікія дырэктывы, ні сацспаборніцтвы, ні злёты перадавікоў, ні зоркі герояў на грудзях даярак ды прэміі. У каровіным вымі малака ад гэтага не прыбаўлялася. От і выціскалі яго з прыватнікаў.

Канец Камкара быў трагічны і павучальны.

У Паўлаўцы, якая ўваходзіла ў наш калгас, спраўлялі чыесьці радзіны. Трапіў неяк на іх і Камкар. Выпілі ўсе як людзі. Камкар, які любіў прыкладацца да чаркі, не толькі не забыўся ў застоллі, хто ён такі, а захацеў яшчэ больш паказаць паўлаўцам сваю сілу і ўладу над імі. Палез у камору гаспадара правяраць кублы, барылы з мёдам ды падвешаныя да столі кумпякі і паляндвіцы. Гаспадары запратэставалі. Усчалася сварка, што перарасла ў бойку, у час якой Камкар атрымаў калом па галаве, ад чаго адразу ж і абмяк. За смерць Камкара трох паўлаўскіх мужчын пасадзілі за краты, даўшы кожнаму па самым максімальным тэрміне зняволення. Казалі, што судзілі іх дарэмна. Бо забіў Камкара нейкі прышлы чалавек, які таксама быў на тых радзінах і пасля забойства скоранька «змыўся».

Здаецца, двое з асуджаных загінулі недзе ў зняволенні. Вярнуўся толькі Дрозд. Ён перабраўся з Паўлаўкі ў Зялёную

Дуброву, пасяліўшыся ў хаце настаўніка Пятроўскага, які пасля ліквідацыі тут школы з’ехаў у Фалічы, бліжэй пад чыгунку.

Дрозд стаў у нас брыгадзірам. Я не раз гутарыў з ім. Быў ён спакойны і лагодны чалавек, які стараўся спрыяць людзям. Шкадую, што не распытаў яго пра падрабязнасці той паўлаўскай трагедыі: не паспеў папытацца пра гэта і ў Драздзіхі, вельмі гаваркой і добрай жанчыны. Цяпер не распытаеш — абое даўно ўжо на Раз’ездзе, нашым могільніку.

## Чары друкаванага слова, і куды яны заводзілі

Першую кнігу яшчэ зусім малым я ўбачыў у руках майго бацькі. Прыйшоўшы з кузні і папалуднаваўшы, ён прылёг на прыаконным ложку, засланым клятчастай саматканкай, і, гартаючы, пачаў сам сабе чытаць. Мне запомнілася, што кніга была невялікага фармату, але вельмі ж зграбная. Лісты — з чыста белай, гладзенькай паперы. На старонках — роўныя слупкі тэксту, зрокава помніцца, што былі яны вершаваныя, прытым паэмныя, бо суцэльныя, кожная старонка аздаблялася тонкай ружаватай рамкай з прыгожымі завіткамі.

Не ведаю, што гэта была за кніга — пасля бацькі ў нас ніводнай не асталося. Але я чамусьці думаю, што бацька чытаў пазычанага ў некага «Яўгенія Анегіна» Аляксандра Пушкіна або «Новую зямлю» Якуба Коласа. Акурат у такім афармленні я бачыў потым гэтыя паэмы.

Так ці не так, але прыгожая кніжка ў бацькавых руках засталася ў маёй памяці назаўсёды, стаўшыся ніколі не разгаданай таямніцай. Можа, адсюль — мая цяга да кнігі, да друкаванага слова, што асабліва праявілася ў школьныя гады.

Да гэтай «цягі» прычыніўся яшчэ, мусіць, Тарас Шаўчэнка, які зусім неверагодным чынам прыйшоў у хату Толевай бабуні. Вядома ж, кнігай, сваім «Кабзаром».

А ўсё праз маю цётку Алімпу.

Вярнуўшыся з нямецкага палону, яна доўга не заседжвалася дома: у Зялёнай Дуброве, дзе зноў апынулася пад мацерынай страхой, усе, хто як мог, ратаваліся ад голаду. Цётка Алімпа ўладкавалася ў сталоўцы ваеннага гарадка ў Старых Дарогах. Тут яна вельмі прыглянулася аднаму афіцэру-дэсантніку, старшаму лейтэнанту Мікалаю Шаўчэнку, родам з Украіны, з Кіраваградскай вобласці. Мая цётка стала яго жонкай. Украінец Шаўчэнка не раз бываў у Зялёнай Дуброве. У бабунінай хаце

ён і пакінуў кнігу свайго вялікага фамільята. А з ёй і карціну, якую павесілі на самым відным месцы: на белым уздыбленым кані, у яркім чырвоным жупане, з шыпаватай булавой у руках застыў на ёй, гуртуючы перад сабой унізе вялікае казацкае войска, легендарны Багдан Хмяльніцкі.

«Кабзар» быў на ўкраінскай мове. Цётка Алімпа часта брала яго ў рукі і ўсім, хто заходзіў у хату, чытала ўслых спеўныя строфы змешчанай там паэмы «Кацярына». Мне добра запалі ў памяць яе пачатковыя радкі:

Кохайтеся, чорнобриві,
Та не з москалями,
Бо москалі — чужі люди,
Роблять лихо з вами.

Вайсковая часць, у якой служыў Мікалай Шаўчэнка, ненадоўга затрымалася ў Старых Дарогах. На захадзе ішоў рашучы наступ на фашысцкую Германію, і падраздзяленне Мікалая Шаўчэнкі накіравалі туды. Пасля крывавых баёў савецкія войскі ўвайшлі ў нямецкую сталіцу. Пераможцам ехаў на адкрытай легкавой машыне па вуліцах Берліна і Мікалай Шаўчэнка. Ды раптам з высокага паверха аднаго дома нехта пусціў на машыну фаўст-патрон. Ад выбуху машыну і ўсіх, хто на ёй сядзеў, разнесла ў шматкі. Так загінуў старшы лейтэнант Мікалай Шаўчэнка. Цётка Алімпа другі раз зрабілася ўдавой.

На сцяне бабунінай хаты — як памяць пра Мікалая Шаўчэнку — яшчэ доўга красаваўся на сваім баявым скакуне ўкраінскі гетман Багдан Хмяльніцкі. Праз многія гады, калі карціны пасля нейкага рамонту там не стала, я пачаў шукаць яе па музеях Мінска. І недзе такі знайшоў. Знайшоў і здзівіўся, што яна была намнога меншая, чым мне здавалася калісьці. Мусіць, у дзяцінстве ўсё здаецца пабольшаным, для ўсіх тады «дрэвы былі вялікія», як сведчыць кінафільм з такой назвай.

Што ж да кнігі Тараса Шаўчэнкі, то Мікалай Шаўчэнка забраў яе з сабой і насіў у сваім вайсковым падсумку па ўсіх дарогах вайны як самую дарагую памятку пра бацькоўскі край. З ёю і сустрэў смерць.

Першая кніга, якую я прачытаў сам пасля «Буквара» і школьных падручнікаў, — былі «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра. Я чытаў іх, пасучы на выгане свінні, і не мог адарвацца, пакуль не загарнуў апошнюю старонку. Рамантыкай дарог і юнацкіх парыванняў прывабіла мяне і аповесць Якуба Коласа «На прасторах жыцця».

У сямігодцы мяне захапіла руская класіка, а таксама кнігі савецкіх пісьменнікаў. Асабліва ўзбудзілі, надоўга задурманілі маю галаву тры — «Як гартавалася сталь» Мікалая Астроўскага, «Узнятая цаліна» Міхаіла Шолахава і «Кавалер залатой зоркі» Сямёна Бабаеўскага. З паэтаў мне імпанавалі Уладзімір Маякоўскі і Паўлюк Трус. Прыцягвалі і розныя брашуры пра вясковае жыццё, якія я знаходзіў, здаецца, у Залужскай сельскай бібліятэцы, газетныя артыкулы і нарысы на калгасныя тэмы.

Чытаючы гэтыя кнігі і газеты, я запальваўся жаданнем карэнным чынам палепшыць жыццё ў Зялёнай Дуброве, марыў ператварыць яе ў квітучы «горад-сад», у адзін з «аграрных гарадкоў», пра якія тады многа пісалася. Каб усе дуброўцы зажылі заможна, весела і шчасліва. Як у тых кнігах і газетах.

Сваімі думкамі-марамі я дзяліўся з самымі блізкімі сябрамі — Жоржам і Сэлем Дубовікамі. Яны таксама не хацелі мірыцца з той беспрасветнай галечай, з якой гадамі не маглі выбавіцца дуброўцы, у тым ліку, ведама ж, і нашы сем'і.

Прычыну мы бачылі ў безгаспадарчасці калгаснага кіраўніцтва, у яго безыніцыятыўнасці і нежаданні належна арганізаваць работу ў калгасе, заахвоціць да яе калгаснікаў.

Раз так, мы самі намерыліся ўзяць ініцыятыву ў свае рукі, павесці вайну супроць безгаспадарчасці, супроць усяго, што не дае калгасу трывала стаць на ногі, каб людзі маглі жыць па-чалавечы.

Дзеля гэтага стварылі камсамольскую арганізацыю — пра якую-небудзь іншую тады не магло быць і гаворкі. Найперш павялі змаганне з раскраданнем агульнага дабра. Нехта заўважыў, што дазваляе сабе гэта і сам дуброўскі брыгадзір. Выклікалі яго на свой сход. Брыгадзір спужаўся, пачаў апраўдвацца перад намі, паабяцаў спыніць крадзяжы. Мы адчулі сваю сілу, пачалі брацца за самога старшыню, нядаўняга нашага настаўніка фізкультуры ў Залужжы, крытыкавалі яго на калгасных сходах і адкрытых пасяджэннях праўлення. Убачыўшы, што гэта не памагае, звярнуліся ў самае высокае раённае кіраўніцтва — райкам партыі. Разбірацца пра наш калгас прыехаў сам першы сакратар. На сход сабралася ўся Зялёная Дуброва. Разнос старшыні быў поўны. На нас глядзелі як на герояў.

Пасля сходу я ішоў разам з старшынёй.

— А ці чыталі вы «Кавалер залатой зоркі» Бабаеўскага пра старшыню калгаса? — папытаў я; гэтае пытанне я даўно яму хацеў задаць.

— Не, не чытаў.

— Я магу даць вам пачытаць гэту кнігу — вы ўбачыце, як можна падняць калгас…

— Няма калі мне чытаць… — перабіў мяне старшыня.

Я быў вельмі засмучаны такім адказам. Бо быў упэўнены, калі б старшыня прачытаў гэты раман, то абавязкова ўзяў бы прыклад з «кавалера залатой зоркі» і наладзіў бы такое прыгожае жыццё і ў нас, як у тым творы.

Старшыня ж зрабіў інакш. Назаўтра сабраў нас, траіх актывістаў — мяне, Жоржа і Сэлю Дубовікаў, і прапанаваў, каб мы памаглі яму наладзіць парадак у калгасе. Найперш ён павёў нас у двары самых недысцыплінаваных калгаснікаў забраць самавольна накошанае імі сена. І вось мы, тры дурні, на чале са старшынёй пачалі сахарамі выграбаць з хлявоў і звозіць на калгасны двор мазалём наробленае людзьмі сена. З двух двароў звезлі па возе. Больш ні да кога не пайшлі, бо на нас пасыпаліся вельмі шчырыя просьбы ды грозьбы.

Кончылася ўсё тым, што адна з пацярпелых падкралася сярод ночы да калгаснага гумна са звезенымі туды снапамі жыта і, помсцячы калгасу і такім, як мы, неаперанным балбесам-актывістам, сунула пад страху запалку з агнём. Гумно з усім гадавым калгасным ураджаем згарэла датла. Наце ж вам!

Мы, актывісты, вельмі перажывалі. Такога ўраджаю, як у гэтым годзе, даўно не было ў зялёнадуброўскім калгасе. Мы спадзяваліся, што ўсе цяпер, як належыць, атрымаюць за сваю працу, што хоць гэты год будзем нарэшце з хлебам.

Ды не так думалі калгаснікі. Нас вельмі здзівіла, калі не ашаламаніла, іх поўная абыякавасць да пажару, да таго, што згарэў у агні ўвесь плён іхнай гадавой працы. Сакрэт такой абыякавасці тады ж поўнасцю і раскрыўся для нас. Калгаснікі добра ведалі, што здабыты імі ўраджай — не іхны, што, які б ён ні быў багаты-разбагаты, «працаўнікі палёў» атрымаюць з яго толькі вартыя жалю крошкі: па якіх сто грамаў на працадзень, не больш чым паўмяшка — як за плечы закінуць. Такая, папраўдзе здзеклівая плата чакала іх за той, як і за кожны іншы год. Раённыя начальнікі грэблі з калгасаў усё, што можна было грэбці. Бо так патрабавала вышэйшае начальства. Тое, што гэтым самым яны падсякалі сук, на якім трымалася ўсё, іх не турбавала. Галоўнае — не адстаць у «сацыялістычным спаборніцтве», выставіцца перад начальствам. А пасля іх — хоць трава не расці. Гэтак і пасадзілі яны ўсю сельскую гаспадарку, давялі да катастрафічнага заняпаду, даспаборнічаўшыся да таго, што палезлі закупліваць збожжа ў «праклятых капіталістаў».

От так, кнігі вучылі нас аднаму, а жыццё — зусім іншаму. Пажар адкрыў нам вочы на ўсё, спусціў нас з неба на зямлю.

Мы раскідалі сваю камсамольскую арганізацыю, бо ўбачылі, што праз яе нічога не даб'ёмся. Да таго ж мы ўдвух з Жоржам падаліся ўжо вучыцца ў Старыя Дарогі і прыязджалі дадому, каб памагаць сваім мацяркам упраўляцца на ўласнай гаспадарцы.

## Сена

Праўдзівым болем галавы заўсёды, колькі я помню, было ў нас сена.

Без каровы, без малака раней проста не ўяўлялася сялянская сям'я. Карова і карміла, і паіла, і давала гной для поля.

Але, каб дзяржаць карову, трэба было нарабіць на зіму не адзін стог сена.

Да калгасаў кожны гаспадар меў апрача ворыўнай зямлі ладную дзялянку сенакосу. Калгасніка ж надзялілі толькі «соткамі» — прысядзібнымі ўчасткамі для саду і агарода. Гэтак жа, як галоўная ворыўная зямля, абагулены былі і ўсе сенакосы. Яны сталі калгаснай уласнасцю. Калгас мог даць свайму работніку нарабіць сена, а мог і не даць. Селянін і тут апынуўся на кручку ў калгасных начальнікаў. Не выпрацаваў мінімуму працаднёў, гэтых амаль пустых «палачак», ці ў чым-небудзь правініўся перад начальствам, не дагадзіў яму — аставайся без сенакосу. А сенакосам для калгасніка была звычайна атава: першы ўкос ішоў толькі для калгасных кароў і коней. Атавы той яўна не хапала. Ды і выдзялялася яна недзе ў глыбокую восень, калі вельмі цяжка было яе высушыць. Так што людзям самім прыходзілася шукаць, дзе выкасіць ці выжаць якой травы.

Накасіць сена для нашай каровы, на якую мы неяк узбіліся, быў ужо мой абавязак. Як старэйшага ў сям'і і «мужчыны».

Хоць маці кожны дзень рвала жылы на калгаснай рабоце, хоць і я нямала зарабляў працаднёў у часы школьных, а потым і студэнцкіх канікулаў, іх усё роўна не хапала, каб мы маглі атрымаць дастаткова сенакосу. Цэлае лета нас грыз адзін клопат: як назапасіць сена.

Са сваёй коскай я абхаджваў усе нашы ваколіцы ў пошуках хоць нейкай травы. Ды знайсці ў лесе травяную га́лінку, якое балотца з асакой было проста немагчыма: усе дуброўцы гэтак жа сама абшарвалі блізкія і далёкія лясныя куткі і закуткі. Пра такія раскошныя мурожныя травастоі, на якія мы нарваліся былі з Толем адразу пасля выгнання немцаў у Дальняй Старыне, ця-

пер, калі ў калгасе ва ўсіх людзей паявіліся каровы, аставалася толькі марыць.

Нарабіць сена часам памагалі нам мае цёткі, бацькавы сёстры Анэта і Маня, якія, не бачачы тут ніякай прасветліны, перабраліся разам з бабуняй і дзецьмі ў Суцін, у саўгас, дзе значна лягчэй было пражыць. Там, у саўгасе, праблем з сенам не існавала: хто працаваў, той зарабляў і грошы, і сена. Сенам саўгас цалкам забяспечваў сваіх «рабочых» — так звалі там вяскоўцаў, саўгасных работнікаў.

Траву-мешанку для сена ў саўгасе сеялі на тарфяніках. Гэтыя тарфянікі — асушаныя балоты распасціраліся на многія кілометры паміж Суцінам і Крамком, які быў не так і далёка ад Зялёнай Дубровы. Канавы, ці як іх называлі калектары, падзялілі тарфянікі на роўныя палеткі. Трава на тарфяных палетках скошвалася саўгаснымі касілкамі падчыстую. Пры самых жа канавах і на іх схілах аставаліся ладныя палоскі травастою, якога касілкі не даставалі. Калі б такія прыканаўныя палоскі асталіся ў нас, іх мігам бы паскошвалі дуброўцы. Забяспечаныя ж сенам суцінцы на іх не квапіліся.

Мае цёткі, добра ведаючы наша гора з сенам, адразу, калі ўсё скошвалася і вывозілася з тарфянікаў, наказвалі нам паспяшаць у Суцін. Каб не праваронiць такі сенакос, я ў той жа дзень ускідваў на плячо сваю касу і шыбаваў туды праз Дрычын і Крамок. Дваццаць з лішнім кілометраў — адлегласць ад нас да Суціна — я тады адольваў без вялікай цяжкасці.

Прытулак я знаходзіў ці ў цёткі Анэты, з якой жыла спярша Казіна бабуня, ці ў цёткі Мані — абедзве яны былі там замужам і жылі: адна — у Красным Пасёлку, а другая — у самім Суціне.

Пераначаваўшы, я ішоў абкошваць тыя суцінскія канавы. Касіў і радаваўся: якая мурожная з мурожных, якая ядка́я тут трава! Я пазнаваў у ёй цімафееўку з дамешкай вікі і сакаўнога палявога зелля. Гэта не нашы дуброўскія сіўцы ды купіны кругляцу з рэдкімі лісткамі бабку! І як добра, як лёгка касілася тая густая саўгасная сеянка!

Калі, накасіўшыся, я на адыходзе азіраў сваю работу, то сам дзівіўся, як спярэсціў тоўстымі зялёнымі пракосамі першакласнай травы суцінскія канавы. Ну, цяпер то мы будзем з сенам!

Грэбці сена мы прыязджалі з маткай на кані. Нам памагалі і цёткі. Але адвозіць у Зялёную Дуброву сена яны раілі толькі як сцямнее: хоць саўгас і не забараняў абкошваць канавы, цёткі пабойваліся, каб наш воз з сенам, які будзе кіравацца ў іншы ад Суціна бок, не трапіўся на вочы каму-небудзь надта прынцыповаму з саўгаснага начальства. І мы, аглядваючыся па баках і

стараючыся цішэй нокаць на каня, ужо сярод ночы, як тыя зладзеі, прывозілі суцінскае сена да сябе на загуменне.

Тады-сяды ўдавалася мне накасіць сена яшчэ ў нашым лясніцтве. На лугавых палянках, якіх нямала пракідалася ў лясах. Панятна, лясніцтва найперш клапацілася пра сваіх работнікаў, выдзяляла ім лепшыя сенакосы. Да таго ж кожнаму лесніку даводзіўся план здачы сена калгасу. Таму такім просьбітам, як мы з маткай, даставалася толькі якое-небудзь заціснутае сярод лесу кустоўе, дзе не заўсёды можна было разгарнуцца як трэба з касой.

Усё ж у лясніцтве нярэдка трапляліся добрыя, спагадлівыя людзі, якія шчыра стараліся памагчы нам з сенакосам. Асабліва ўдзячная была маці ляснічаму Гардзіевічу, які спагадаў ёй, шматдзетнай удаве, і ніколі не адмаўляў у просьбе даць дзе-небудзь выкасіць травы для сена. Помню, ён сам прыязджаў пад Высокі Насып (мясціна паміж Зялёнай Дубровай і Фалічамі), каб паказаць нам, дзе лепш мне пакасіць, стараючыся выдзеліць не толькі асакі, але і добрай мурожнай травы. Маці для гэтай сустрэчы прыхоплівала з сабой і добрую бутэльку гарэлкі з закускай. Але ляснічы піць не кідаўся, хоць і не адмаўляўся пасядзець з намі і прыгубіць з паўчаркі для прыліку. Зрэшты, Гардзіевіч і ўсім гэтак жа спрыяў, пакінуўшы пра сябе ў дуброўцаў добрую памяць.

Пазней Каваліцкае лясніцтва, пад апекай якога былі нашы лясы, узначаліў мой школьны сябра Жорж Дубовік — нягледзячы на рэпутацыю сына «ворага народа», яму ўдалося ўсё ж скончыць у Мінску Лесатэхнічны інстытут. Ведама ж, Жорж таксама не пакінуў нас без сена. Ён не толькі выдзяляў нам добрыя лясныя лугавінкі для сенакосу, але і касіць мне памагаў.

Дзівіцца толькі трэба, што загнаны ў калгас селянін за сваю штодзённую нялёгкую працу не толькі не атрымліваў хоць больш-менш годную аплату за яе, але, скошваючы і зграбаючы ўсе калгасныя сенакосы, устаўляючы стагамі ўсё наваколле, не меў права хоць на мізэрную долю наробленага ім сена, каб забяспечыць ім сваю ўласную карову. Як трэба было не паважаць людзей, каб яны кідаліся шукаць якога касмыля сена за блізкім светам, а не ў родным калгасе, якому аддавалі ўсе сілы. І гэта пры ўсім пры тым, што кожны калгаснік павінен быў яшчэ здаваць ад сваёй каровы добрую долю малака дзяржаве.

Асабліва гаравалі дуброўцы з сенам, калі раённае начальства скінула ім аднекуль на галаву нейкага Стражанка — кіраваць калгасам. У нас празвалі яго «рыбаком» бо ён, здаецца, больш сядзеў з вудамі на возеры Скачальскім, чым дбаў пра гаспадарку.

Яго чырвоны легкавік так і сноўдаў з Залужжа, цэнтра калгаса, на возера і назад, нідзе надта не затрымліваючыся.

Вельмі прыкрае ўражанне склалася ў мяне пра гэтага прысланца з раёна. Я ні ад кога ніколі не чуў пра яго ніводнага добрага слова.

Гэта пры ім мералі на працадні, ці як у нас казалі «на працэнты», людзям тую няшчасную атаву, калі ў паветры пачыналі ўжо кружыць белыя мухі. Не забуду, як плакала маці, грабучы са мною пачарнелае ад снегу і асенніх дажджоў сена ад другога ўкосу, якое так і не ўдалося высушыць і таму гадзілася толькі на подсціл жывёле.

«Рыбак» мог ні за што ні пра што пакараць калгасніка, паздзекавацца з яго. Таму кожны асцерагаўся яго, абыходзіў як ліха, стараючыся не пападацца на вочы.

Маленькі выпадак. Аднаго лета я нагледзеў на свежым калгасным іржышчы ў Арэхаве травяністую лапіну і прыйшоў яе скасіць. Падышоў пакасіць іржэўнік і калгаснік з Лядоў — адной з брыгад нашага калгаса. Раптам на дарозе, што праходзіла паўз тое іржышча, паказаўся чырвоны старшынскі легкавік. Убачыўшы яго, калгаснік кінуў касу і, нібы той заяц, пусціўся ўцякаць у бліжэйшы лес. Правільна: мы ж без дазволу косім на калгасным полі! Няважна, што калгас ніколі і думаць не думаў скошваць іржышча. Што ж да мяне, то я кідаць касу і ўцякаць з поля не стаў. Не таму, што я такі смяльчак, хутчэй наадварот. Проста я жыў тады ў Мінску і прыехаў памагчы мацеры неяк назапасіць сена. Ды хоць ведаў, што старшыня нічога са мной не зробіць, усё ж з насцярогай чакаў, калі ён сунімецца і падыдзе пад мяне праганяць з поля. На ўсякі выпадак я падсунуў да сябе нагой добры сукаваты дручок, што згледзеў непадалёку. Не, не суняўся каля мяне «рыбак»: можа, удалося выцягнуць з возера якога акуня і таму ехаў не ў кепскім настроі?

Не саромеўся раённы вылучэнец выкарыстоўваць падараваную яму амаль неабмежаваную ўладу ў сваіх мэтах, нават для свайго рыбацтва. Цэлую буру абурэнняў узняло ў калгаснікаў увядзенне ў Зялёнай Дуброве пасады палявога вартаўніка. Гэтую пасаду, наколькі я ведаў, даўно скасавалі калгасы як зусім непатрэбную: каму прыйдзе ў галаву красці на калгасным полі жытнія каласы ці лён? Але пасада спатрэбілася «рыбаку», каб аддаць яе свайму прыслужніку па рыбацтве. У сваім двары той трымаў старшынёву лодку. Патрэбна «рыбаку» лодка — палявы вартаўнік па яго камандзе вязе яе на возера, за два з лішнім кілометры ад вёскі. Дзеля гэтага старшыня замацаваў за ім брыгаднага каня — нібыта аб’язджаць калгасныя палі. І

гэта не ўважаючы на тое, што і так у брыгадзе не хапала коней. Каб узараць соткі, абагнаць бульбу ці прывезці саломы альбо дроў — дуброўцам трэба было амаль станавіцца ў чаргу, каб ухапіць каня. А тут аднаго, здаецца, з трох брыгадных коней «рыбак» аддаў палявому вартаўніку.

Акурат у тыя дні я прыехаў з Мінска дадому. У нашу хату адзін за адным пачалі прыходзіць вяскоўцы, а з імі і сам тагачасны брыгадзір, мой аднагодак і сябар Зэна Шыкер — усе наперабой прасілі мяне, каб я напісаў пра гэта ў «Вожык». Але мне не вельмі хацелася тут умешвацца. Я параіў дуброўцам самім напісаць. Пагадзіліся на тым, што яны так і зробяць, а я аднясу напісанае імі ў рэдакцыю. І от праз нейкі час атрымліваю я ў Мінску пісьмо. Напісаў яго разам з Зэнам былы мой настаўнік Уладзімір Антонавіч Пятроўскі. Калі я прачытаў іхнае пісьмо з многімі подпісамі дуброўцаў, то не ведаў, што з ім рабіць. Яно было скіравана не на старшыню калгаса, віноўніка заваранай кашы, а на палявога вартаўніка — старшынёвага памочніка ў рыбацтве, на якога навярнулі цэлую кучу грахоў, усякага бруду.

Я доўга трымаў тое пісьмо пры сабе. Але калі другім разам прыехаў у Зялёную Дуброву, на мяне ізноў накінуліся мае землякі: чаму не перадаю яго ў рэдакцыю. Тады я пазваніў у Старадарожскі РК КПБ ідэалагічнаму сакратару Алене Іванаўне Калешка, каб прыехала і разабралася ва ўсім, бо інакш крытычнае пісьмо будзе перададзена ў рэспубліканскую прэсу, а гэта — непрыемнасць і для раённага кіраўніцтва. «Хай перадаецца, — адказала яна. — Як надрукуюць, тады і разбяромся». І я мусіў нехаця перадаць пісьмо па прызначэнні. Толькі папрасіў у рэдакцыі, каб карэспандэнт, які прыездзе правяраць факты, абавязкова склікаў у Зялёнай Дуброве сход — там бы ўсё выяснілася. Ды той гэтак не зрабіў, пайшоў правяраць «кампрамат» на вартаўніка, які па сутнасці быў ні ў чым не вінаваты: кожны ў калгасе ратаваўся ад нястачы як мог. Сапраўдны ж віноўнік, старшыня, — застаўся ўбаку.

Ішоў год за годам, а ў калгасе не станавілася лепш. Хутчэй наадварот. Людзі ўцякалі адсюль куды толькі маглі. Цэлымі сем'ямі выязджалі ў Суцін — у саўгас. У нашым калгасе не ставала рабочых рук. Ужо нават не паспявалі скошваць навакольныя сенакосы, часта яны заставаліся зімаваць пад снегам. Але каб дазволіць калгаснікам накасіць там сена для сваіх кароў — і думкі такой не дапускаў калгасны кіраўнік: хай лепш гніе.

Аднае восені дуброўскі брыгадзір Дрозд, убачыўшы, што ўжо даўно перастаяла трава на балоце, якое ў нас называецца Гочча, і ведаючы, што калгас яе ўсё роўна не знойдзе сілы скасіць,

пакіне зімаваць, на сваю рызыку ўзяў ды і падзяліў сенакос паміж калгаснікамі. Прытым падстрахаваўся ўсё ж вусным дазволам галоўнага агранома калгаса. Дуброўцы не забавіліся скасіць тую асаку — хто сам, калі меў сілу, хто паклікаўшы з горада сыноў ці сваякоў.

Дачуўся пра такое «самавольства» гаспадар калгаса. Пад'ехаў на машыне пад Гочча і, убачыўшы скошаную балотную траву, загадаў брыгадзіру:

— Усё сена забраць у калгас!

Заўважыўшы на балоце дзве няскошаныя палоскі, ізноў павярнуўся да брыгадзіра:

— А хто гэтыя не скасіў? Аштрафаваць на месячную зарплату!

— Дык жа... — хацеў запярэчыць брыгадзір.

— Ніякіх «дык!» — адрэзаў «рыбак» і падаўся ў бок Скачальскага.

Як тут не ўспомніць «юрыстага» Кручкова з Марцінкевічавай «Пінскай шляхты», які гэтак жа не цырымоніўся з абвяшчэннем абсурднага прысуду за ўчыненую бойку Ціхану Пратасавіцкаму і Івану Цюхай-Ліпскаму?

Някошаныя палоскі, як выявілася, былі выдзелены: адна — маёй мацеры, пенсіянерцы, а другая — таксама пенсіянерцы і таксама ўдаве Галляшовай Маньцы — Марыі Цвірка. Гэта з ёй ездзілі мы ў 1944 годзе ў Шантароўшчыну. Манька (так яе ў нас звалі) яшчэ падшуквала касца, а мацерыну палоску мерыўся скасіць я з братам Алікам — мы ўжо згаварыліся прыехаць дзеля гэтага з Мінска на выходныя.

Да выходных заставалася яшчэ некалькі дзён, як раптам звоніць мне маці са Старых Дарог, куды яна спецыяльна прыехала. У трубцы я пачуў праз шум і трэск яе ўсхваляваны голас:

— Прыязджай скарэй — трэба твая помач.

Я не ведаў, што і думаць. Маці ніколі дагэтуль мне не званіла. Кінуўшы-рынуўшы ўсе свае клопаты, я ў той жа дзень сеў на поезд.

Дома маці і расказала мне пра тое бязглуздае штрафаванне.

А яшчэ расказала, як перад гэтым здавала ў калгас цялё ад сваёй каровы. Яна вельмі хацела гэта зрабіць, бо кожнаму, хто здаваў калгасу цялё, выдзялялася нейкая частка сенакосу — атавы. Здаваць цялят трэба было на цэнтральную калгасную ферму — у Залужжа, за дзесяць кілометраў ад нас. Доўга шукала спосабу, каб як туды яго затарабаніць. Урэшце ўпрасіла за добрую бутэльку, калі не дзве, нейкага шафёра грузавой машыны. Прывезла. Адшукала загадчыцу фермы — каб прыняла. Тая

агледзела, загадала даць цяляці нейкага пойла. Памачыла цялушка мызу і адвярнулася.

— Дык яна ж не навучаная піць — не магу прыняць такую.

Маці ведала, што толькі з такой умовай могуць прыняць цялё. Таму дома якраз і навучыла яго піць. Цялушка добра піла ўжо. Але цяпер нажахалася на машыне за дарогу, а яшчэ, відаць, не асвоілася на новым месцы — і піць не ўзяла.

— Ды яна піла ўжо дома, — са слязамі на вачах даказвала маці загадчыцы.

— Але ж самі бачыце — не п’е. Не, не прыму на сваю галаву.

— Тады пачакайце трохі — асмеліцца, асвойтаецца, возьме.

— Мне няма калі чакаць! Навучыце піць — тады прывозьце. А цяпер — забірайце! Усё! — сабралася і пайшла з фермы.

Мацеры ізноў трэба было шукаць машыну, каб адвезці цялё назад, ізноў задобрываць якога-небудзь шафёра гарэлкай ці грашыма.

Намучыўшыся са здачай цяляці, у калгас другі раз яна ўжо яго не павезла, а здала дзяржаве — у нарыхтоўчую кантору ў Старых Дарогах, адкуль спецыяльна прыслалі машыну. І от за гэта калгаснае кіраўніцтва ізноў яе аштрафавала — пазбавіла сенакосу.

Чым я мог памагчы мацеры? Пазычыў у суседзяў веласіпед і раніцай памчаў у калгасную кантору разбірацца. Ведама ж, быў увесь узвінчаны. У рэзкай форме выказаў сваё абурэнне старшыні калгаса і пасля гаворкі з ім, што вялася на павышанай ноце, паабяцаў звярнуцца ў друк.

Шукаючы ўправы на самадурства калгаснага бажка, я зайшоў у Мінску ў рэдакцыю газеты «Советская Белоруссия» да свайго студэнцкага сябра Аляксандра Харкевіча, які працаваў там загадчыкам аднаго з аддзелаў, і, расказаўшы пра ўсё, папрасіў пад’ехаць у наш калгас ды аб’ектыўна напісаць пра тое, што ў ім робіцца.

Аляксандр доўга не думаў. Аформіў камандзіроўку і на сваёй рэдакцыйнай «Волзе» пакаціў у калгас «Залужжа». З усёй сур’ёзнасцю ўзяўся ён вывучаць становішча ў гаспадарцы. Гутарыў і з «пацярпелымі», і з іншымі калгаснікамі, і з кіраўніцтвам калгаса. Не абмінуў і раённых кіраўнікоў, у тым ліку першага сакратара РК КПБ Мурашку. А яшчэ добра пакапаўся ў паперах упраўлення сельскай гаспадаркі Старадарожскага РВК.

Фактаў бяздушнасці і безгаспадарлівасці калгаснага кіраўніцтва ў Залужжы назбіралася больш чым дастаткова. На

іх аснове Аляксандр напісаў даволі крытычны артыкул з вельмі выразнай назвай — «Сердечная недостаточность».

У артыкуле аўтар правёў прамую лінію ад зазнайства і фанабэрыстасці кіраўніка калгаса, яго нежадання гаварыць і ладзіць з людзьмі да сур'ёзнага заняпаду калгаснай гаспадаркі. У пацвярджэнне прывёў вывады камісіі раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі, якая пасля праверкі становішча ў «Залужжы», дзе знайшла безліч фактаў безгаспадарчасці, зазначала: «Главной причиной таких результатов работы… является наличие серьезных недостатков в руководстве колхозом...»

Колькі я помню, на ўсіх вялікіх і малых сходах і на самых высокіх уладных форумах вельмі многа гаварылася тады пра неабходнасць крытыкі і самакрытыкі. Але гэтая крытыка існавала толькі на словах. На практыцы ж было зусім наадварот. Кожны стараўся выкруціцца ад яе, каб выглядаць не такім, як ёсць, а лепшым.

Артыкул Аляксандра Харкевіча хоць і спадабаўся галоўнаму рэдактару самай партыйнай з партыйных газет рэспублікі, але... лёг пад сукно.

Казалі, недзе ў вярхах была «доўгая рука» ў нашага «рыбака». Яна, відаць, і дацягнулася да рэдактара газеты. Зрэшты, і раённыя начальнікі, баронячы свой гонар (бо цень крытыкі лажыўся, ведама ж, і на іх), маглі тут прычыніцца. А зрабіць гэта не складала цяжкасці: уся ж прэса ў тыя брэжнеўскія часы была ў руках савецка-партыйнай наменклатуры.

Вось так я, тады ўжо, кажучы словамі майго сябра Івана Курбекі, «членістаногі» літаратар, «памог» сваёй мацеры абараніцца ад чыноўніцкага самавольства. Хоць калгасная гаспадарка, як пераканаўча паказвалася ў тым неапублікаваным артыкуле (Аляксандр аддаў мне яго на памяць), была фактычна даведзена да банкруцтва, але яе кіраўнік святкаваў над намі перамогу і недзе толькі пасмейваўся з мяне і са «спецыяльнага карэспандэнта» Аляксандра Харкевіча, двух вельмі наіўных, калі не сказаць мацней, праўдашукальнікаў, якія мерыліся прабіць ілбамі сцяну. Каму-каму, а нам, «работнікам ідэалагічнага фронту», даўно належала ведаць, што праўда ў нашай краіне была тады нікому непатрэбная. Занепадае народная гаспадарка? Беднее народ? Падупадае магутнасць краіны? Нічога! Галоўнае — рабіць выгляд, што ўсё ідзе як трэба, галоўнае — з усіх рупараў трубіць пра поспехі і толькі пра поспехі, самымі яркімі фарбамі маляваць бліскотную карціну росквіту! Ды і як жа інакш: з самых высокіх трыбун было аб'яўлена на ўвесь свет,

што на шостай частцы планеты Зямля пабудаваны ўжо — на шчасце працоўных — «развіты сацыялізм».

А раз так, то ці варта было крытыкаваць чыюсьці кепскую работу? Паказваць заняпад вытворчасці — азначала ўскрываць гнойны нарыў на целе «народнай гаспадаркі». Лепш хай далей шырыцца, хай глыбей раз'ядае ён цела, абы толькі яго не бачылі.

Пры такім стане рэчаў ох як лёгка жылося-былося «кіруючаму саставу» — савецка-партыйнай наменклатуры. Той, хто трапляў у гэтае наменклатурнае кола, станавіўся недатыкальны — вядома, калі не забываў сваё месцейка ў шматступеньчатай іерархіі. Няважна, выдатны ён арганізатар вытворчасці ці самая звычайная бездар, шчыры працаўнік ці лайдак з лайдакоў. Галоўнае — каб ведаў, каму з уладнай вертыкалі і дзе лізнуць, перад кім і колькі разоў павіляць хвастом.

На старшынскім троне ў Залужжы перабывала многа кіраўнічага люду. Усё гэта былі раённыя вылучэнцы, службоўцы, якія спраўна выконвалі ўсе загады зверху, у тым ліку што сеяць і нават як сеяць. Яны больш дбалі пра тое, каб выслужыцца перад вышэйшым начальствам, чым пра калгас і калгаснікаў. Самі ж забяспечваліся як належыць, не зважаючы на тое, з прыбыткам працуе калгас ці з даўгамі.

Здаецца, адзіным выключэннем было старшынства Васіля Пятровіча Усіка. Немітуслівы, настойлівы, мэтанакіраваны, ён па-сапраўднаму ўзяўся за наладжванне гаспадаркі. І калгас — памалу, памалу — пайшоў угору. Найперш, мусіць, тут прычынілася строгасць, патрабавальнасць кіраўніка, яго непрымірымасць да п'яніц і прагульшчыкаў і адначасова заўсёдная чуласць да патрэб сумленных і працавітых людзей, якім ён спрыяў чым толькі мог.

І, відаць, нездарма Усіка з часам вылучылі на самую высокую ў раёне пасаду — старшыні Старадарожскага райвыканкама.

Пры прыездзе ў Старыя Дарогі я заходзіў да яго ў кабінет. Пасля непрацяглай размовы пра гаспадарчыя праблемы ў раёне ён зусім нечакана для мяне папытаўся:

— А як там у Зялёнай Дуброве Іван Акуліч? Гэта — мой друг. Перадайце яму прывет.

Наш сусед Іван Акуліч быў простым калгаснікам, у апошні час — пастухом і даглядчыкам цялят у Зялёнай Дуброве. Мяне прыемна здзівіла такое стаўленне раённага кіраўніка да людзей.

Пры старшынстве Усіка вырашылася ў нас і балючая праблема з сенам. Праўда, маці, не бачачы тут ніякай прасветліны, яшчэ да яго прыходу ў калгас збыла карову. Вызваліла і сябе, і нас, дзяцей, ад вечнага клопату пра сена. Ну, ведама ж, і ад малака.

# ПРАХОДКА ПА ЗЯЛЁНАЙ ДУБРОВЕ

Над саменькай вуліцай Зялёнай Дубровы — сонца. Як і сто гадоў назад, калі ўсталі тут першыя хаты. Такое ж яснае, спакойнае, прыветнае.

Змянілася толькі, вельмі парадзела і абязлюдзела сама Зялёная Дуброва, некалі мнагахатная, многагалосая.

Я разам з сонцам выйшаў агледзець яе з канца ў канец, яшчэ раз зірнуць, што ж асталося ад нашай, калісьці немалой вёскі на шостым леце новага тысячагоддзя праз сто гадоў пасля заснавання.

## Выган

Сваё падарожжа па Зялёнай Дуброве пачынаю я з Выгана. Выган пішу з вялікай літары, бо ён у нас ужо не паша для гусей ды свіней, а проста адна з ваколіц.

Яго сёння не пазнаць. Раней гэта было вялікае роўнае гала, зялёнае ад гусценькай прыземістай мураўкі, якую кожны дзень з рання да вечара дружна падгрызалі свінні ўсяго нашага канца, не даючы ёй хоць трохі адрасці. Цяпер, калі даўно ўжо ніхто не ганяе сюды свіней, прыкметна падрослую, але ўжо вельмі разрэджаную мураву ўзяліся выцясняць густыя, аж цвёрдыя купінкі пруткага тапырыстага сіўцу ды — паміж імі — бураватыя, такія лагодныя і мяккія пры дотыку мяцёлачкі метлюкоў. Ад блізкага лесу цэлымі сямейкамі пайшлі, пашалёстваючы драбнаватым лісцем, маладыя, яшчэ зеленавата-рыжыя ў ствалах бярозкі ды там і там пусціліся ў рост, барзджэй займаючы новае месца, калматыя, разлапістыя хвойкі і хвоі, паміж якімі закусціўся ўжо і вечны іх падсусед — рудаваты верас. Мінецца год-два, і смела прыходзь сюды з лёгкім ракітавым кошыкам ды нажом-складанцам падцінаць пад таўсматыя карчакі-карані стоеных у верасовых сховах баравых харашуноў у попельна-чорных шапках.

Даўно зараслі, згубіліся на Выгане і сляды майго маленства. Спярша я ганяў сюды з большым за самога сябе дубцом гагатлівую чараду гусей. А падросшы, зрабіўся і нязменным мацерыным свінапасам.

З кожнага двара нашага канца былі тут свіныя пастушкí і пастýшкі. Тут мы і гулялі, забаўляліся. Ды не вельмі разгульваліся: трэба ж было глядзець свіней.

Больш за ўсё стараліся адганяць іх ад недалёкага лесу, адкуль не раз падкрадваліся ваўкі. Помню, як зусім блізка перад маімі вачыма неспадзявана вырас быў гэты лясны зладзюга.

Дзіва: я ж толькі што глядзеў у той бок і апроч свіней нічагуткі такога не бачыў. І на табе: воўк! На ўвесь свой немалы рост — сіваваты, з маленькімі, як бы касаватымі, вочкамі. Нібы з-пад зямлі вылез. Гэта ж ён так хітра, зусім непрыкметна падпоўз пад свіней па сіўцовым куп'і. Свінні, адарваўшыся ад сваёй травы, з гу́каннем разварочваліся сваімі непаваротлівымі тулавамі, каб уцякаць. Але тут мы смела, з крыкамі «Цю-га! Цю-га! Цю-га!» усім гуртам рынуліся на воўка з дубцамі ў руках. Той, пакручваючыся то ў адзін, то ў другі бок, памалу, як бы з неахвотай павалюхаўся ў лес.

Не менш пільна глядзелі мы, каб нашы свінні не залезлі ў шкоду — у Салімонішыну бульбу. Яна была адгароджана ад свіной пашы зусім няўдалым плотам: папрыбіванымі да стоўбікаў папярочнымі жэрдкамі — усюды па дзве. Каб туды пралезці, свінні варта было толькі прасадзіць пад ніжнюю жэрдку галаву ды добра выгнуць спіну. От, здаецца, усе свінні спакойна пашчыпваюць сваю траўку і як быццам забыліся пра тую бульбу. Але толькі адвінешся ад іх на хвілінку, як самая пранырлівая — ужо там! Аж жахнешся, калі ўбачыш, як яна, дарваўшыся, нахабна падкалуплівае сваім пруткім вастраватым лычом ды выварочвае напаверх зялёны бульбяны корч з драбнюсенькімі белымі бульбінамі, якім яшчэ расці ды расці. «Храбусь! Храбусь!» — толькі ляцяць пыркі ды праціўная сліна са свіной зяпы. Пастух бегма бяжыць з дубцом яе адганяць, са страхам зіркаючы ў бок двара: хаця б не ўгледзела Салімоніха!

А бывала і такое. Падышоўшы бліжэй пад лес, мой хаўруснік Анцін Сэля крычыць мне ўзбуджаным голасам:

— Косцік! Бяжы глянь, што там палезла на хвою!

Падбягаю.

— Дзе, што?

— Ды вуньдзека вунь, на той разгатай хвоі!

— Няма там нічога…

— Глянь уверх! З вялікімі лапамі… Як ты не бачыш?.. Вунь, вунь!..

Датуль валаводзіць мяне Сэля, пакуль мая свіння не ўскочыць у бульбу. Тады ён, расплыўшыся да вушэй ва ўсмешцы, рады, што «абмануў дурака на ўсе чатыры кулака», весела крычыць:

— Са́дзіць, са́дзіць, са́дзіць!

«Са́дзіць» — азначае ў жартоўным лексіконе свіных пастушкоў зусім адваротнае па сэнсу: «капа́е».

Ашуканы хітрым хаўруснікам, на кручок якога так па-дурному папаўся, я лячу выганяць сваю свінню са шкоды.

Маё пастушкоўства прывяло было раз да праўдзівага гвалту. Віноўнікам яго быў… Янка Маўр. Я так зачытаўся яго «Палескімі рабінзонамі», што забыўся, на якім знаходжуся свеце, і не заўважыў, як мае свінні ўлезлі ў Салімонішыну бульбу і пачалі матлашыць яе направа і налева. З бязлюднага вострава сярод балот, на якім разам з двума такімі ж, як і сам, вясковымі хлопцамі-«рабінзонамі» прабіраўся таемнымі звярынымі сцежкамі і я, мяне вярнуў на абкіданы свінымі каўцякамі выган прарэзлівы, з нейкімі незразумелымі падгалоскамі жаночы лямант. Гэта Салімоніха ўгледзела ў сваёй бульбе маіх свіней. Калі я ўцяміў, што да чаго, і ўбачыў, што нарабілі мае свінні, мне хацелася праваліцца скрозь зямлю. Але зямля нідзе не праваьвалася, і я мусіў выслухаць да канца ўсю адрасаваную мне жаночую лаянку з пагрозамі. На маё шчасце, маці тады ўсё ж разагнала навіслыя нада мной грымотныя навальнічныя хмары, аднёсшы Салімонісе добры кош бульбы за патраву.

Значна пазней, ужо як мінчанін, я стаяў на ганку Тэатра юнага гледача ў Мінску ў невялічкай пісьменніцкай кампаніі, дзе самы старэйшы з нас Іван Міхайлавіч Фёдараў сваім тоненькім, амаль дзіцячым галаском, зусім не адпаведным яго мажной, можна сказаць, магутнай постаці вельмі цікава расказваў, чаму ён для свайго псеўданіма ўзяў гэтае нетутэйшае слова — Маўр. Мяне падмывала тады расказаць вельмі паважанаму пісьменніку Янку Маўру, як праз яго я нарабіў быў калісьці шкоды, але ўстрымаўся, падумаўшы, што пра такое ён, пэўне ж, наслухаўся нямала.

## Банэдыкі

Той загон бульбы, у які так унадзіліся былі нашы свінні, ішоў пад двор Салімоніхі. Упрытык да Выгана стаяла і яе невялікая хата.

Салімоніха — удава Антося Цвіркі, якога — не ведаю чаму— у нас звалі Салімонам, укладваючы ў гэтае імя як бы нейкі непаважлівы сэнс. Нехта мне казаў, што Салімон — імя (ці мянушка) Антосевага дзеда, ад якога ён нібыта і ўзяў нейкую асаблівасць ці рысу характару.

Спачатку Антось з сям’ёй жыў у бацькавай хаце, якая стаяла пасярэдзіне вёскі. Хата была на дзве палавіны. Адну палавіну, мусіць, і займаў Антось. У другой сядзеў яго брат Базыль. Іх у нас звалі Банэдыкі. Відаць, ад імені бацькі.

Банэдыкі, як казала мне маці, — ніякая нам не радня. Усяго толькі фамільяты. Але я не думаю, што гэта так: проста наша

сваяцтва з гэтымі Цвіркамі згубілася ў нейкім калене. Вельмі шкадую, што я ні ад кога не даведаўся, адкуль яны наехалі ў Зялёную Дуброву: можа, я наткнуўся б на «дазаняцецкі» след маіх продкаў.

Пасля смерці Антося-Салімона яго жонка Фрасыня чамусьці перабралася з дзецьмі пад Выган.

Да яе там, як расказвала мне мацерына сястра Волька, жыла сям'я нейкіх Івановых. Хто яны былі такія, адкуль сюды прыбіліся, мая цётка не ведала. З яе скупых згадак я зразумеў, што былі яны аднекуль з Расеі. Можа, уцяклі ў нашу глушэчу ад «яжоўшчыны», не ведаючы, што і тут ад яе нельга было ўратавацца?

Мая цётка запомніла іхных двух добра адзетых хлопчыкаў-блізнятак — Аліка і Жаніка, якія бегалі па вуліцы. Калі ў маёй мацеры нарадзіўся другі (пасля мяне) сын, цётка Волька параіла сястры даць яму вельмі ўпадабанае ёю нетутэйшае імя аднаго з тых блізнятак — Алік. Адтуль і носіць яго мой малодшы брат. Мне здаецца, што якраз у хату гэтых загадкавых Івановых, калі яны выехалі з Зялёнай Дубровы, і ўсялілася — было гэта недзе ў трыццатых гадах — Салімоніха, удава Антося Цвіркі.

Пра самога Антося мне расказвалі, што быў ён «няўдалы», касы. Яго не бралі нават на вайсковую службу. На вечарынках «дзеўкі не хацелі з ім танцаваць». Сам ён усё вытанцоўваў «какетку». Што гэта быў за танец і дзе ён яго выпараў, мне ніхто не сказаў. Які б ён ні быў, але от Фрасыня ўсё ж пайшла за яго.

Ад Антося ў яе асталіся два сыны — Алесь і Імполя — і дачка Фаня. Алесь, старэйшы з іх, быў, як і бацька, касавокі, нейкі як бы перакрыўлены. Мы, дзеці, яго вельмі баяліся. Бо заўсёды з ім падражніваліся. Адбяжымся падалей і крычым: «Косы! Косы! Косы!» Алесь аж шалеў ад злосці: вырываў з плота кол і, размахваючы ім, пускаўся за намі. Мы кідаліся ад яго ўрассыпную.

Пісараў Вадзя, які вучыўся разам з ім, расказваў, што Алесь заўсёды быў галодны, ён заходзіў у якую хату і доўга сядзеў там, чакаючы, пакуль пасядуць есці і яму пададуць са стала які блін ці бульбіну.

У школу — і летам, і зімой — хадзіў Алесь босы. Нават лапцей, у якія абувалася большыня дуброўскіх школьнікаў, у яго чамусьці не было. У марозы па дарозе ў школу, якая стаяла ў самым канцы вёскі, ён заскокваў на хвіліны дзве ці тры ў калгасны клуб, каб пагрэць там свае босыя ногі. Пагрэе іх пры напаленай грубцы і далей мільгаціць вуліцай па снезе голымі пяткамі.

Вучыцца Алесь не хацеў. Часта ўцякаў са школы куды-небудзь за сяло. Настаўніца падбірала некалькі дужэйшых хлопцаў і давала ім заданне: злавіць і прывесці Алеся Цвірку ў клас. Але папробуй злавіць вецер у полі.

Я не прыпомню, каб Алесь рабіў у калгасе. Неўзабаве пасля вайны ён знайшоў нейкую «чарнавую» работу ў Старых Дарогах. Потым апынуўся ў адной з недалёкіх адтуль вёсак, дзе прыстаў да кагосьці ў прымы.

З усіх «Салімонавых» дзяцей найбольш паважалі ў нас Імполю. Гэта быў статны і прыгожы з выгляду хлопец, прытым вельмі талковы і нават трошкі жартаўлівы. Помню, калі ён, памагаючы нечага ў падворку маёй мацеры, залішне вольна, як мне здавалася, жартаваў з ёй, а яна ў адказ весела смяялася, можа, упершыню за многія гады пасля страты гаспадара, я аж зазлаваў быў на яе з дурной дзіцячай рэўнасці, бзыкнуўшы ў твар нешта крыўдлівае. Маці толькі паглядзела тады на мяне са здзіўленнем, так і не даўмеўшыся, якая гэта муха мяне ўкусіла.

Доўга і Імполя не адзержаўся ў Зялёнай Дуброве. Уцякаючы з калгаса, ён завербаваўся на лесараспрацоўкі ў Карэлію, дзе і астаўся назаўсёды.

Там, дзе стаяла Салімонішына хата, цяпер праходзіць гладкая машынная дарога ў лес. Ад хаты і следу не асталося. І ўсё ж адна памятка ад сядзібы Салімоніхі зберaглася. Гэта — гашта. Яе белыя, са слабай ружовінкай вельмі пахучыя кветкі-лахматкі кожны год прабіваюцца праз траву пры дарозе. Як мне помніцца, цвілі яны сярод лета пры кожнай хаце нашага засценка. Садзілі ці сеялі іх, мусіць, недарэмна. Адно — гэта, калі прыгледзецца, даволі гожыя кветкі, другое — не патрабуюць асаблівага догляду: толькі ўваткні — і пайшлі па агародчыку. А яшчэ разводзілі гашту не без карысці: патрэш яе мякенькія, далікатныя суквецці — і яны запеняцца, як мыла, мыйся імі: усё чыста змывае гашта.

## Юркава племя

За селішчам Антося Цвіркі ішлі сядзібы сыноў і ўнукаў Юркі, або Юрася Цвіркі, роднага брата майго прадзеда Габруся. Займалі яны амаль увесь гэты канец Зялёнай Дубровы. У Юркі было чацвёра сыноў — Ясь, Галляш, Уладзік і Антошка, які памёр маладым. Магчыма, Юрка меў і дачок, але пра іх ніхто нічога мне не казаў. Відаць, выходзячы замуж, «дзеўкі» скарэй забываліся. Тое ж самае можна сказаць і пра дачок кожнага з гаспадароў Зялёнай Дубровы.

Першая за Салімонішынай сядзіба належала Юркаваму сыну Ясю. Самога Яся я не ведаю: памёр ён да вайны. Вельмі цьмяна прыпамінаю і Ясіху, хударлявую, трохі прыгорбленую жанчыну, адзетую ў нейкую старызну. Дражнілі яе Суся. Мусіць, таму што ў гаворцы трохі пасюсюквала.

Нарадзіла Ясіха пяцярых дзяцей: дачок Алесю, Зосю, Марылю і сыноў Мікоду і Сымона.

Калі «дзеўкі» павыходзілі замуж, а старэйшы сын Мікода ажаніўся, Ясіха доўгі час аставалася толькі са знявечаным Сымонам. Жыла вельмі бедна. Пагаворвалі, што яна нібыта хадзіла па далейшых ад нас сёлах у падарэкі — жабраваць. Зайшла была і ў Дараганава. «Адкуль жа вы хоць, цётачка?» — папыталіся ў яе там. «З Гродзенскай губерні», — не маргнуўшы, схлусіла Ясіха. Але нехта пазнаў яе там, расказаў дуброўцам, і да яе прыляпілася яшчэ адна мянушка — Гродзенка.

Нешта не склалася сям'я і ў яе Зосі. Перад вайной тая два разы выходзіла замуж. Першы раз недзе пад Слуцак. Але чамусьці не павялося ёй там з першым гаспадаром — магчыма, яго з нейкай прычыны не стала. Другі раз Зосю ўпадабаў і ажаніўся з ёй дуброўскі Язэп Шыкер. Ды нешта не ўжылася з ім Ясева Зося. Хоць і зацяжарала ад яго, усё роўна ўцякла ад Шыкераў да мацеры. Яна так за нешта ўзненавідзела Язэпа, што і дзіцяці не хацела ад яго раджаць. Надумалася давіць жыватом аб край кадушкі, каб задушыць плод. І такі задушыла: хлопчык радзіўся нежывы. У вайну Зося прыняла была з «прыпіснікоў» патрэбніка — так у нас звалі нераспісанага прымака (цяпер гэта назвалі б грамадзянскім шлюбам). Пажыла са сваім патрэбнікам нядоўга: вельмі скора, у тым жа 1941 годзе зялёнадуброўскіх «прыпіснікоў» забралі ў партызаны і там яны ўсе да аднаго загінулі.

Калі не стала Ясіхі, на сядзібе пачала гаспадарыць Зося з Сымонам, яна і глядзела свайго малодшага брата. Пасля яе смерці бацькаўшчына цалкам перайшла да Сымона.

Ясевага Сымона ў Зялёнай Дуброве лічылі як бы непаўнацэнным чалавекам. З яго часам кпілі, а які-небудзь малы падшыванец мог абазваць гэтага пакрыўджанага доляй нашага вяскоўца абразлівым словам, папусціць у яго снежкай. Калі б чужы чалавек, дзе-небудзь сустрэўшыся, загаварыў з ім, то, мусіць, таксама не вельмі добра падумаў бы пра яго. Мала таго, што Сымон моцна недачуваў, але і гаварыць як трэба не мог: здавалася, нібы ў яго ў роце перакачваліся нейкія камяні, не даючы яму выгаворваць словы. Не кожны мог разабраць яго гаворку, дайсці, што ён хоча сказаць.

Мне заўсёды было шкода Сымона. Я душой чуў, што ён не такі, якім бачыцца людзям. Ужо адно тое, што ён, нягледзячы на свае фізічныя недахопы, усё ж скончыў нашу пачатковую школу і што ў процівагу бальшыні дуброўцаў любіў чытаць, цікавіўся праз газеты падзеямі ў свеце, шмат пра што гаворыць.

Неяк раз я зайшоў да яго ў хату. Гэта было яшчэ ў мае студэнцкія гады. Ведаючы мае паважлівыя адносіны да яго, ён ахвотна расказаў мне пра сябе. Нават даў пачытаць свой дзённік. Па-мойму, чалавек, які вядзе дзённік, — ужо не са звычайных людзей, ён нечым узвышаецца ўсё ж над «шараговай» масай. Яго можна назваць ужо летапісцам гісторыі, хай і «мясцовага значэння», і ў пэўнай ступені філосафам.

Сымон — тайком ад усіх — пісаў і вершы. Толькі не для друку. Яму прыпісваюць у нас, напрыклад, жартоўнае чатырохрадкоўе пра тое, як ў пасляваенныя гады ўсіх вяскоўцаў абкладалі зусім невыканальнымі, папраўдзе драпежніцкімі падаткамі:

Прывялі мяне на суд,
І я ўвесь трасуся.
Прысудзілі сто яец,
А я ж — не нясуся!

Сымон расказваў мне некалі і пра сваё калецтва. Аказваецца, у дзяцінстве ён упаў з высокай печы і моцна пабіўся, пасля чаго і зрабіўся гэтакі. Калецтва вельмі адбілася на Сымонавай псіхіцы. Можна ўявіць, як раздражняла і блізкіх, і няблізкіх, калі ён не чуў, прапускаў міма вушэй тое, што яму казалі. З малых гадоў яго, не цырымонячыся, дражнілі і перадражнівалі дзеці. Не заўсёды дбалі пра тактоўнасць да яго і дарослыя.

Я даўно марыў памагчы Сымону адолець яго немач. Думаў: гэта ж варта прыдбаць слухавы апарат, і ён стане зусім другім чалавекам, бо тады будзе чуць, як і ўсе людзі. І мова ў яго выраўняецца. Толькі перш я намерыўся параіцца з медыкамі. Зайшоў у нашу пісьменніцкую паліклініку. Расказаў пра Сымона галоўнаму доктару. Але ён мяне расчараваў: сказаў, што наўрад ці паможа яму слухавы апарат, бо працэс «зайшоў залішне далёка». Тым не менш параіў прывезці яго ў Мінск, каб паказаць спецыялістам. Калі дома я сказаў пра гэта Сымону, ён адхіснуўся ад мяне, як ад халернага, энергічна замахаў перада мной абедзвюма рукамі, што азначала: адчапіся ад мяне, нічога гэта не паможа. На тым мае патугі і кончыліся.

Нягледзячы на сваё калецтва, ён завёў сям'ю, ажаніўшыся з дрычынскай Волькай, з якой нажыў трое дзяцей. Сымон быў

нечым неад'емным ад Зялёнай Дубровы. Ён, колькі помню, рабіў у калгасе конюхам. Заўсёды яго можна было сустрэць то з аброццю ў руках, то за табунком коней, то так на вуліцы. І калі не вельмі даўно, ужо ў новым стагоддзі, яго не стала, я вельмі востра адчуў нейкую пустату. Ніяк не ўяўляўся наш засценак без Сымона Цвіркі, Ясевага сына.

Яго Волька асталася адна ў хаце — дзеці даўно пакінулі сваё гняздо. Вельмі часта, седзячы пры акне ў сваёй хаце ў Зялёнай Дуброве ці тупаючы па двары, я чую нейкую гаворку на вуліцы. Прыглядваюся — ажно гэта, шырока ступаючы і перавальваючыся з боку на бок, ідзе Сымоніха ды голасна размаўляе… сама з сабой. Гаворка ў яе прыкладам такая: «Пайду запалю ў печы і пастаўлю чыгун вады. Трэба ногі сёння памыць. Бо закарэлі — хоць ты рэпу сей…»

У вайну немцы схапілі яе ў Дрычыне, тады зусім маладую дзяўчыну, і вывезлі ў Германію ў рабства. Не так даўно сённяшнія нямецкія ўлады пастанавілі выплачваць усім нявольнікам-вязням кампенсацыю за прымусовае парабкоўства. Пра гэта аб'яўлялася па радыё і тэлебачанні. Сустракаючы Вольку ў нас на вуліцы, я казаў ёй пра гэта і раіў з'ездзіць у Старыя Дарогі, каб аформіць патрэбныя дакументы на выплату належных ёй нямецкіх грошай. Але для Сымоніхі было ўсё гэта нешта такое далёкае і незразумелае, што яна так і не сабралася ў наш райцэнтр. Тады я пазваніў у Старыя Дарогі намесніку старшыні райвыканкама Альберту Міхайлаву з просьбай памагчы нядбалай Сымонісе выхапіць тыя «дойчмаркі», бо ўжо сыходзіў тэрмін падачы дакументаў. Дзякуй Альберту Аляксеевічу — ён вельмі аператыўна ўзяўся за гэта. Так што мы з ім амаль сілком уперлі Сымонавай Вольцы ў рукі тыя немалыя нямецкія грошы, якіх яна і ў сне не магла прысніць. І цяпер Сымоніха весялей падыходзіць пад аўтакраму, дзе дагэтуль не шмат чаго магла купіць за сваю скупенькую калгасную пенсійку.

Напроці, за вуліцай, стаяла хата другога старэйшага Ясевага сына — Мікоды Цвіркі, які, аддзяліўшыся ад бацькі, заснаваў тут сваё ўласнае гняздо.

Толькі адно імгненне, нібы ўспышка фотаапарата ці бляск маланкі, памагло мне зберагчы ў памяці чарнявага, як і яго брат Сымон, і, здаецца, як бы трохі кучаравага Мікоду. У нашым калгасным клубе ставіўся перад самай вайной нейкі самадзейны спектакль. Пра што ён быў, я зусім не запомніў. Асталося ў памяці толькі тое, што не магло мяне, як і ўсіх дзяцей і падлеткаў,

не ўразіць: раптоўны аглушальны стрэл на сцэне, які добра тады напалохаў гледачоў. Так вымагала дзеянне спектакля. Страляў у свайго «праціўніка» з сапраўднага, толькі паляўнічага ружжа Мікода. Праўда, не прама ў таго чалавека, а ўверх, у столь, але «забіты» бразнуўся вобзем. Запомніўся мне і рэдзенькі сіні дымок, які паплыў са стрэльбы па сцэне.

Ніхто тады з «артыстаў» і думаць не думаў, што праз некалькі тыдняў яны будуць страляць ужо не з паляўнічых, а з баявых стрэльбаў і не па ўяўных, а сапраўдных ворагах, бо пачалася вайна з фашысцкай Германіяй, на якую мабілізавалі і ўсіх «ваеннаабавязаных» дуброўцаў. Забралі на яе і «артыста» Мікоду, які ў першыя ж дні сутычак з немцамі быў забіты. На жаль, цяпер ужо напраўду , а не на самадзейнай сцэне.

Яго жонка Амэля з дому Паўловічаў, вельмі гаваркая і добрая душой, яшчэ зусім маладая жанчына, асталася адна з трыма малымі дзецьмі на руках.

Пасля вайны я вучыўся разам са старэйшым з яе дзяцей Жоржам. Быў ён, мусіць, залішне асцярожлівы, не вельмі рашучы хлопец. Бо калі наш настаўнік Пятроўскі пераводзіў нас, ваенных перарасткаў, з другога адразу ў чацвёрты клас, Амэлін Жорж не даў на гэта згоды, пайшоў у трэці клас: пабаяўся, што не адолее так навуку. З часам Жорж падаўся з Зялёнай Дубровы ў Мінск, дзе яго ўзялі на нейкі завод. Услед за ім з’ехалі ў Мінск таксама яго сястра Валя і малодшы брат Віця, якія забралі з сабою і матку. Вельмі шкада, што вялікі горад неяк разлучыў нас. Усё ж я рады быў сустрэць тут Валю і Віцю, з якім мне выпала рабіць у адной установе — Акадэміі навук: я — навуковым супрацоўнікам, ён — электрыкам.

Здаецца, пасля выезду адна толькі Валя наведала раз ці два родную Зялёную Дуброву. Казалі, калі яна першы раз пасля доўгай адлучкі ўбачыла сваю апусцелую сядзібу з адзінокай пакарабачанай яблыняй, то доўга плакала, ходзячы па былым падворку, дзе гадавалася без бацькі.

* * *

Сядзіба другога Юркавага сына — Галляша Цвіркі. Хата — абшаляваная, пафарбаваная ў лагодны колер охры. Глядзіцца ладным, хоць трохі і абшарпаным дамком. У агародчыку каля вокан ківаюцца ад ветру вяргіні ды півоні.

Галляшова хата добра запомнілася мне тым, што ў вайну тут збіраліся дуброўцы на багамаленне. У адрозненне ад камуністаў

немцы не толькі дазвалялі гэта, але і ўхвалялі: абы ціха было. Наладжваў сходкі вернікаў баптысцкі прапаведнік з суседніх Майсеевіч Піліп — здаецца, так яго звалі.

Ведама ж, гэтакая падзея, як і ўсё незвычайнае, не магла абыходзіцца без нас, дзяцей. Уплішчыўшыся ў хату, мы ціхенька садзіліся дзе-небудзь збоку і з цікавасцю за ўсім назіралі і слухалі.

Людзей набівалася цэлая хата. Адны сядзелі на лавах за ссунутымі каля даўжэйшай сцяны сталамі, другія стаялі, перамінаючыся з нагі на нагу. З сянец, з расчыненых дзвярэй таксама выглядвалі людзі, якія не маглі праціснуцца ў хату.

Усе з увагаю слухалі прапаведніка, паджылага ўжо, лысаватага чалавека, які, падняўшыся ад сцяны з лавы, чытаў Евангелле і тут жа даходліва тлумачыў прачытанае. Гаварыў ён вельмі складна, не збіваючыся. Відаць было, што не раз гэта рабіў.

Казань часта перапынялася малітвамі, спевамі святых песень. Маліліся і спявалі ўсе, хто быў у хаце.

А збіраліся там пераважна жанчыны — мацяркі і ўдовы тых, каго пахапаў, навек пагубіўшы, энкавэдысцкі «хапун», і тых, каго паглынула вайна, якая тады яшчэ грымела ў свеце.

Выходзілі жанчыны з Галляшовай хаты як бы трохі паспакайнелыя, з праяснелымі, прасветленымі тварамі: у малітвах, у зваротах да Бога яны знаходзілі хоць нейкую палёгку для душы, суцяшэнне ў сваім непазбыўным горы. А тыя з жанчын, чые гаспадары ці сыны былі яшчэ на вайне, — надзею на іх зварот дадому.

Галляш Цвірка звіў тут сваё гняздо са Сцепанідай, якую прывёз аднекуль з-пад Слуцка. Яна нарадзіла яму сямёра дзяцей: трох хлопцаў (Анціка, Івана і Колю) і чатырох дзевак — Вольку, Кацю, Маньку і Надзю.

Сцепаніду я не помню: яна памерла да вайны, аставіўшы Галляша ўдаўцом.

Першы раз, як ужо мною згадвалася вышэй, я ўбачыў Галляша, калі ён калдыбаў з Фаліч, шчасліва выбавіўшыся з «яжовых рукавіцаў».

Потым ён запомніўся мне як адмысловы грыбовік. Бывала, мы, дзеці, увесь лес аблётаем у якім-небудзь баку і амаль з пустымі кошыкамі варочаемся дадому. Азірнёмся ж назад і нямеем: за намі, перавальваючыся са здаровай нагі на сагнутую, з таго ж самага лесу чыкільгае па выгане стары Галляш, і на плячы ў яго — поўная лубянка баравікоў. Адзін у адзін!

І так не раз і не два. Дзе ж ён іх наразае? Ага! Нагледзеў нейкую надта грыбную лясную дзялянку!

Удвух з адным хаўруснікам надумаліся мы падпільнаваць, куды ж ходзіць са сваёй каробкай дзед Галляш, адкуль цягае гэтулькі баравікоў. Дачакаўшыся, калі ён пакалываўся аднаго разу ў лес, мы — назіркам, назіркам — пацiснулі за ім са сваімі кошыкамі. Ідзём следам, хаваючыся за камлі дрэў, за калматыя елачкі падлеску, асцерагаючыся, каб не трэснуў пад нагамі які сучок.

Глядзім: паківаўся кульгавы Галляш па старой альхоўскай дарозе, якой і мы звычайна бегаем у грыбы. Толькі ж куды ён зверне з яе, каб ісці ў сваю баравіковую сталіцу? Але Галляш нешта не спяшаецца туды.

Во суняўся каля ўздарожнага лазовага куста, адхінае галінкі, нахіляецца, нешта там калупае сваім арэхавым кійком. Потым абыходзіць куст з другога боку, торкае ў сіўцовыя купінкі, укленчвае. Падняўшыся і пакружыўшыся на тым месцы, выкіроўваецца нарэшце на дарогу. Ну, цяпер пойдзе ў «свой» лес! Аж не — Галляш ступае разы два ці тры па дарозе і зноў адвінаецца ўбок, тупае каля ўздарожнага хмызнячку, абмацваючы кожную купінку, кожны грудок сярод чарнічніку і папаратніку. Ён відочна марудзіць. Мо згледзеў нас і не хоча паказаць нам сваё грыбное царства? Адступаем трохі назад, каб яшчэ з большай адлегласці цікаваць за Галляшом.

Галляш жа, снуючы гэтак то ў адзін, то ў другі бок, прайшоў усю дарогу. Прайшоў і павярнуў… у той самы хвойнік, у якім заўсёды шасталі і мы. Ну, дудкі! Тут то ён нічога не знойдзе: мы толькі ўчора ўвесь яго аблазілі і не знайшлі ні грыба. Ды Галляш не ведае гэтага, сунецца па нашых слядах. Яго сіняваты зліνялы фрэнчык мільгае і мільгае перад нашым зрокам. Галляш то нахіліцца над нечым, то на коленкі стане, то прысядзе. Во цягне нешта з густога верасу і абразае. Во ізноў бліскае ў руках яго крываваты — мо садовы? — нож. Ды што ён можа тут рэзаць? Няйначай, нейкую суравежку ці таўстушку. Хай бы скарэй ішоў у свае праўдзівыя грыбы і не марнаваўся тут дарэмна.

Але, відаць, Галляш і не збіраецца ісці далей. Добра патупаўшы, пакруціўшыся па «нашым» лесе, глядзім, памаленьку паварочвае назад, на дарогу дадому. Мы стаім каля дарогі за хвойкамі, чакаем. От Галляш параўноўваецца з намі. Мы глядзім і вачам сваім не верым: шырокая Галляшова каробка ізноў паўнюткая баравікоў! Як заўсёды, адзін у адзін! Дык значыцца, той «наш» лес — і ёсць яго баравіковая сталіца! Толькі

яна — для старога грыбовіка Галляша, а не для такіх верхаглядаў і няўмекаў, як мы.

З усіх семярых дзяцей у Галляшовай хаце пры маёй памяці аставаўся толькі Анцік: усе дочкі павыходзілі замуж, Іван, ажаніўшыся, аддзяліўся ад бацькі, а Коля не вярнуўся з вайны.

Анцік узяў сабе за жонку дачку Язэпа Шыкера Маньку. У іх нарадзілася пяцёра дзяцей: Зіна, Тоня, Віця, Саша і Лена.

Анцікаву Маньку я добра запомніў з часоў майго пастухоўства. Першымі школьнымі гадамі я кожнае лета на канікулах толькі і знаў, што пасвіў цяляты нашага канца. Калі збіраў іх раніцай на пашу, яна, Манька, выпусціўшы з двара сваю рыжаватую, у белых крапінках, цялушачку, часцяком затрымлівалася ля варотцаў і падносіла мне загорнуты ў чысценькую марлечку ладны клінок белага сыру: каб я добра напасваў цялят, а яшчэ, мусіць, не забываў лішні раз глянуць і на яе рыжуху.

Для мяне гэта быў вунь які пачастунак! Я беражна клаў яго ў сваю пастухоўскую торбачку і насіў за цялятамі да вечара. Мне вельмі хацелася адшчыкнуць ад сыра хоць якую крошку, але я і не думаў гэта рабіць, бо павінен быў прынесці яго дадому цэленькім. Як нечаканую радасць. Звычайна гэты свежы мякенькі сыр, які, здаецца, сам прасіўся ў рот, маці дзяліла на ўсіх нас, пяцярых. На пашы ж я задавольваўся якім-небудзь праснаком, бутэлькай малака ды яшчэ чым-небудзь, што знаходзіў у сваёй торбачцы.

Але пасля аднаго выпадку Анцікава Манька перастала радаваць мяне такімі пачастункамі.

Адмысловай пашы для людскіх цялят (як і кароў) калгас нідзе не выдзяляў. Каб напасвіць сваіх падапечных, мне часцяком даводзілася ганяць іх у лес на пажарніцу.

От пусціў я сваю чародку па лясной дарожцы, а сам іду ззаду, падганяю тых, што адстаюць, каб пярэднія не вельмі аддаляліся. Але дзе ты іх удзержыш? Калі яны схаваліся ўжо ў хмызе, адтуль раптоўна моцна, неяк па-асабліваму працяжна завякала-захрыпела адно з цялят. Я з дубцом у руцэ кідаюся туды. Так і ёсць — воўк! Убачыўшы мяне, ён адскочыў ад цяляці і — валюх, валюх — падаўся ў лес, мусіць спужаўся ўсё ж маёй рашучасці. Цяляты, збіваючы з ног адно другое, рынуліся назад. Трохі супакоіў іх, прыпыніў. Яны збіліся ў кучу, водзяць па баках спалоханымі вачамі. Толькі цяпер я заўважаю, што ў мяне трасуцца рукі.

Пачаў лічыць цялят: ці хоць усе, ці не задралі якое ваўкі — можа, не адзін з іх тут быў? Не, здаецца, усе цяляты. У мяне

адлягло на душы. Тут кінуліся мне ў вочы выразныя крывавыя пакусы на шыі аднаго цяляці. Гэта была якраз Маньчына рыжуха. Але пакусы, здаецца, не страшныя. Я быў рады, нават чуў сябе героем, што не даў ваўку задушыць цялушку, вырваў з яго зубоў. Ну ж будзе дзякаваць Анціпава Манька!

Але калі я прыгнаў цялят дадому і Манька ўбачыла сляды воўчых зубоў на шыі сваёй цялушкі, яна адразу спахмурнела. Завойкала, пачала ўшчуваць мяне, што дрэнна гляджу цялят. А мацеры маёй выгаворвала, што я не пасу іх, а толькі чытаю кніжкі, што гэта праз іх воўк пакусаў яе цялушку. Мне было крыўдна гэта чуць, бо ў лес я ніякіх кніжак з сабой не браў.

З тыдзень Манька зусім не выпускала сваю цялушку на пашу — лячыла яе нечым ад ваўчыных укусаў. А потым усё ж ізноў яе даверыла мне. Але сыру больш мне не выносіла — так я правінаваціўся перад ёй.

Цяпер гаспадыняй Галляшовай хаты стала яго ўнучка, старэйшая Анцікава дачка Зіна, якая жыве ў Старых Дарогах і прыязджае сюды як на дачу. Гады два назад разам з ёй заўсёды ішоў ад аўтобуса і яе гаспадар Аркадзя Акуліч, мой хаўруснік у дзіцячыя гады. Але няўмольны інфаркт звёў яго са свету.

Праходзячы міма маёй хаты і ўбачыўшы мяне на двары, ён, бывала, голасна гукаў:

— Здароў, паэт!

Мая галава ад няёмкасці тады сама ўцягвалася ў плечы — які я там паэт («Хоць песеньку-думку і высную, можа…») — і барзджэй казаў у адказ:

— Здароў, трактарыст! (Аркадзя рабіў трактарыстам у сельгастэхніцы).

І стараўся перавесці гаворку на што людскае.

А гаварылася з ім лёгка і хораша. Ён аблакачваўся на штакеціны майго плота, і мы весела перакідваліся з ім нейкімі словамі.

Няма ўжо Аркадзі. І гэтыя нашы кароткія сяброўскія гаворкі невідочна лунаюць каля маіх варотцаў. І колькі яшчэ будуць лунаць?

* * *

Старэйшы Галляшоў сын Іван Цвірка, ведама ж, не без дапамогі бацькі, пабудаваўся напроці яго, за вуліцай. Ажаніўся ён з дачкой Сцяпана Гуткоўскага Стэфкай.

Усё добра магло б пайсціся ў Івана і Стэфкі: і шанавалі адно другое, жывучы душа ў душу, і ўцалець пашчаслівіла гаспадару ў часы сталінска-яжоўскай галаварэзкі ды ў ваенныя завіхрэнні. Але вельмі не пашанцавала ім з дзецьмі: народзіцца і памрэ, народзіцца і памрэ. Падумаць толькі: дванаццаць дзяцей даў ім і на вачах у бацькоў пазабіраў Бог. Дванаццаты, Геня, то пераадолеў быў небяспечныя малыя гады, нават армію адслужыў. Я помню, як ён вярнуўся дадому — высокі, статны, усе дуброўскія дзеўкі заглядваліся на хлопца, абласкваючы яго сваімі вачамі. Аж, чую, злёг і ён. Захварэў на вельмі гадкую, невылечную тады хваробу — сухоты. Сох, сох — і сканаў, бедны. Казалі, гэта ў арміі і дастаў Геня тую немач. Праз свой няўломны характар: не ўмеў і не хацеў ужывацца з начальствам. Часта ішоў яму наперакор, за што не вылазіў з вайсковай каталажкі — гаўптвахты. Там і знайшла яго туберкулёзная палачка.

Ужо ў сталым, крытычным для жанчыны веку адважылася прыбітая горам Іваніха яшчэ адзін, астатні раз папрабаваць шчасця. У хаце зноў зазвінеў, радуючы і трывожачы душу, мілы дзіцячы галасок. Сыну далі бацькава імя — Ванька. На ўцеху бацькам трынаццатае дзіця, не ўважаючы на такую лічбу, аказалася шчаслівейшым. Ванька, малодшы Іван Цвірка, вырас плячыстым і вясёлым хлопцам. У Старых Дарогах знайшоў сабе работу ў СМУ, вывучыўся на шофера. Атрымаў кватэру, прывёў туды пасля звонкага вяселля маладую жонку.

Праўда, унукаў Ванькава маці ўжо не дачакалася, не пагушкала на руках. Падточаная няўцешнымі стратамі дзяцей, без пары пайшла ў магілу.

Іваніха (толькі так яе ў нас звалі) была добрая, прыветлівая жанчынка. Мне яна памятная тым, што першая з дуброўцаў пачала здароўкацца са мной, яшчэ малым хлапчуком. Стаю я каля сваіх варотцаў, а Іваніха, праходзячы, вітаецца са мной як са сталым:

— Добры дзень!

Я не адразу нават адказаў: так гэта было нечакана. Тады я ўпершыню падумаў, што я таксама ўжо вялікі. Адным сваім «дабрыдзенем» Іваніха як бы падвысіла мяне ў маіх жа вачах. З таго часу і я пачаў ужо пры сустрэчы даваць людзям «добры дзень».

Пасля страты жонкі Іван Цвірка старэйшы не доўга хадзіў удаўцом. Вельмі скора ў яго на двары замільгала квяткастай хусткай, забразгала каля калодзеся вёдрамі, затахкала секачом аб дно карыта з зеллем для свіней новая гаспадыня.

Знайшоў яе Іван Галляшоў у Ляўках. Гэта была родная сястра свякрухі маёй сястры Яні — Волька. Таксама ўдава.

Калі Івана не стала, яна, пажыўшы трохі адна ў яго хаце, пераехала да сына, здаецца, у Салігорск. Іванаву ж хату прадала Яніным сватам, якія прыехалі сюды з Сібіры.

Калі я наведваюся да сваіх новых сваякоў, якіх у нас завуць — сібіра́кі, мне міжволі ўзгадваецца гаспадар сядзібы — Галляшоў Іван, Іван Цвірка.

Быў ён у меру высокі. Трымаўся заўсёды прама. Яго адметнасць — можа, залішне чырвоны твар. Ну, а яшчэ нейкая валовая павольнасць, непаваротлівасць. Хадзіў ён заўсёды памалу, ніколі не спяшаючыся. Здаецца, каб і хата гарэла, ён бы не паскорыў сваёй прывычнай хады. І рабіў ён усё павольна, марудліва. Затое надзейна, трывала. Ступа, жорны, сячкарня, каса, граблі, вілы, плуг, плужок абганяць бульбу, барана, калёсы, сані, падсанкі, збруя — усё, што трэба, было ў яго гаспадарцы і ўсё — спраўнае, акуратнае, дагледжанае.

Калі хто прасіў пазычыць у яго якую прыладу, ён і тут не спяшаўся яе даваць, на яго нападала тады яшчэ большая марудлівасць. Прыйдзе, бывала, да яго мая маці з нейкай просьбай. А ён, здараецца, якраз сядзіць на ганку, падшываючы нейкі чаравік, слухае, што яму кажа маці, і як бы і не чуе яе. Во, налягаючы грудзьмі і пакручваючы ў руках, з сілай прасаджвае праз цвёрдую скуру таго чаравіка шыла, потым заторквае туды навошчаную дратву, падчэплівае яе з другога боку зубамі і зацягвае да ўпору. Але і тут не перапыняе работу, ізноў бярэцца за шыла, ізноў паўтарае тое ж самае. Толькі як маці добра настаіцца перад ім, затаіўшы дых, ён адкладае ўбок сваё шытво і, устаўшы, паволі ідзе ў камору. Нічога не кажучы, не гледзячы на просьбітку. Доўга нешта там поркаецца і нарэшце нясе тое, што прасіла маці, — хамут які ці ба́рак — і з каменным тварам, нават трохі адвярнуўшыся, маўчком падае мацеры. Маці бярэ і ў думках заракаецца больш што-небудзь прасіць у гэтага жмінды.

Але была раз у яе нявыкрутка. Нешта зрабілася з каровай: як злегла звечара, так і ўстаць не магла. Нават галаву пачала адкідваць. Трэба было ратаваць — ехаць у Залужжа па «віцінара». Кінулася маці да брыгадзіра, каб даў каня.

— Каня можаш узяць, а калёсы сама шукай: калгасныя ўсе занятыя, — сказаў брыгадзір.

Перасільваючы сябе, маці пабегла ў Іванаў двор.

— Іванка, не адкажы: карова прападае. Дай калёс па віцінара з’ездзіць. Я адраблю табе за іх.

Цвёрды і непахісны, як скала, стаяў Галляшоў Іван пасярод двара.

— Калёсы ў чужыя рукі не даю, — сказаў як адрэзаў і пайшоў у хату.

Тыя вельмі спраўныя і дагледжаныя Іванавы калёсы з драўлянымі коламі, абцягнутымі жалезнымі шынамі, асталіся нікому ўжо не патрэбныя. Іх назусім аддалі мне «сібіра́кі». Ужо як музейны экспанат. І як памяць пра Івана Цвірку, Галляшовага сына, Юркавага ўнука.

* * *

Малодшы Юркаў сын Уладзік астаўся жыць у бацькавай хаце. Хата заснавальніка гэтай галіны роду была вялікая, на дзве палавіны, зрубленая з тоўстага смаловага бярвення. Стаяла яна ўздоўж вуліцы. Маё вока заўсёды прываблівалі прыгожа выштукаваныя, у елачкі дзверы з дзвюма палавінкамі — акурат пасярэдзіне хаты.

З Уладзіка Цвіркі ў Зялёнай Дуброве падсмейваліся, называючы яго «дамскім майстрам»: ён пусціў у свет пяцярых дачок — Стэфку, Соню, Ніну, Ліду і Валю — і ніводнага хлопца.

Не магу абмінуць адно маё вельмі цікавае літаратурнае адкрыццё, датычнае сям'і Уладзіка Цвіркі.

Калі была яшчэ малая мая дачка, я кожны вечар чытаў ёй перад сном цудоўную, вельмі паэтычную аповесць Алены Васілевіч «Расці, Ганька». У ёй расказвалася пра Чароўную Краіну — невялічкую вёсачку Зялёную Дуброву, у якой расла і гадавалася маленькая Ганька. Пад гэтым імем вельмі лёгка ўгадваецца сама пісьменніца ў дзяцінстве. Сапраўдная ж назва яе роднай вёсачкі — Даманшчына (цяпер Ліпнікі). Я не вельмі задумваўся, чаму Алена Васілевіч назвала яе ў аповесці — Зялёная Дуброва: так, мусіць, пісьменніцы ўздумалася, балазе назву Дуброва не раз можна сустрэць на карце Беларусі. Я часта бачыўся з Аленай Васілевіч у пісьменніцкіх колах, працаваў з ёй у выдавецтве «Юнацтва», дзе мы сядзелі ў адным кабінеце (нашы сталы былі насупраць адзін ад аднаго), а от неяк не зайшла гаворка пра рэаліі яе аповесці. І толькі не вельмі даўно я пры сустрэчы даведаўся ад Алены Сямёнаўны, што, даючы назву Ганьчынай вёсачцы, яна мела на ўвазе не якую іншую вёску, а акурат маю Зялёную Дуброву. Пра яе, аказваецца, Алена Сямёнаўна наслухалася з маленства, бо туды, у Зялёную Дуброву, пайшла замуж яе блізкая сваячка Тарэся, дачка Сільвестра Няронскага-Лебедзева, які ўпамінаецца ў аповесці. Далей — болей. Пры нашай размове выявілася, што мы з Аленай Сямёнаўнай… сваякі. Бо

яе сваячку Тарэсю ўзяў замуж брацeнік майго дзеда Сымона Уладзік Цвірка. От так!

З тае таямнічай для малой дзяўчынкі Зялёнай Дубровы часта прыязджала ў Даманшчыну да сваіх бацькоў Тарэся Цвірка з дочкамі Стэфкай і Соняй, маладымі дзяўчаткамі-падлеткамі, ужо «нявестамі». Дзяўчаткі прывозілі з сабой на возе прасніцы з воўнай і хадзілі ў Даманшчыне на папрадухі, дзе збіралася і ўсчынала свае гульні ўся даманшчынская моладзь і, ведама ж, «кавалеры». Можна ўявіць, як яны ўвіваліся каля «новенькіх», да таго ж статных, хараша адзетых «шляхцяначак». Алена Сямёнаўна, якой тады было пяць гадкоў, запомніла, што Тарэсіны дочкі былі мілавідныя, абедзве круглатварыя. Усё правільна: адну з іх, Соню, за гэта ў нас празвалі Бручка.

Самой Алене Васілевіч не ўдалося пабываць у маёй Зялёнай Дуброве, хоць яна і марыла пра гэта. Адну сваю кнігу яна падпісала мне так: «Кастусю Цвірку — Паэту, Мастаку Слова, народжанаму ў Зялёнай Дуброве, мне таксама дарагой і мілай…» Наведаць сваю радню Стэфку і Соню з дому Цвіркаў прыязджаў у Зялёную Дуброву толькі сын Алены Сямёнаўны Валодзя Васілевіч, вучоны і літаратар, выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта і адзін з аўтараў «Беларускага кнігазбору» (ён падрыхтаваў нам кнігу «Рэчыцкае Палессе» Часлава Пяткевіча).

З усіх Уладзікавых і Тарэсіных дзевак адны яны — Стэфка і Соня — затрымаліся ў Зялёнай Дуброве. Астатнія паразляталіся па свеце (Ніна апынулася на Украіне, Валя — у Карэліі, а Ліда — у Мінску). Стэфку ўзяў у жонкі дубровец Уладзік Парахня, а Соня, астаўшыся на бацькаўшчыне, узяла была ў прымы Мікалая Васілеўскага (не ведаю, адкуль ён тут паявіўся). Ды пажыла з ім Соня нядоўга: пачалася вайна, і яго забралі на фронт, адкуль ён ужо не вярнуўся. Соня нарадзіла ад яго хлопчыка, якога назвала ў памяць бацькі Колем. Падросшы, ён з’ехаў у Цалінград.

Другі раз Соня выйшла замуж за калгаснага брыгадзіра Тадзю Шыкера, які пайшоў жыць у яе хату (ізноў — прымак). У іх паявіліся два хлопчыкі — Стась і Бронісь. Абодва знайшлі потым работу ў Мінску. Некалькі гадоў назад Бронісь трагічна там загінуў. Адзіным гаспадаром сядзібы стаў Стась Шыкер, які водзіць у Мінску тралейбус. Прыязджае ён на бацькаўшчыну з сям’ёй у выхадныя дні ды ў водпуск.

Калі гаспадарыў тут яго бацька, цяпер нябожчык, ён паставіў побач са старой хатай новы, з ачасаных бярвенняў, добры дом. Ад старой цяпер асталася толькі адна палавіна — другая, мусіць,

пайшла на дровы. Юрка Цвірка пабудаваў сабе хату яшчэ пры заснаванні Зялёнай Дубровы. Ёй ужо сто, а то і болей гадоў. Калі Стась пачаў раскідваць старыя будынкі, каб расчысціць ад іх сядзібу, я папрасіў яго не бурыць тую палавіну Юркавай хаты. Гэта ж — адзіная першапачатковая будыніна ў Зялёнай Дуброве. Стась згадзіўся перадаць яе мне. Як бы добра было перавезці яе на маю сядзібу. Я зрабіў бы ў ёй добры гісторыка-этнаграфічны музей Зялёнай Дубровы — па прыкладу Белакозавага ў Гудзевічах. Адна бяда: на перасыпку Юркавай хаты патрэбны сродкі, якіх у мяне няма. Ёсць толькі надзея, што гэтым зацікавіцца аддзел культуры Старадарожскага райвыканкама.

## Шумскія з Карповічамі

За нашымі «сібíракамі», адразу за плотам, вольна раскашуе на даўно закінутай ялавіне невыводнае быллё.

У маёй жа памяці назаўсёды асталася стаяць на гэтым месцы невялікая хаціна з трысценем. У трысцене далей ад дзвярэй тулілася пры тыльнай сцяне печ з палаткамі і палком унізе, пры ёй — ложкі, бліжэй стаяў стол для яды, лава і зэдлі. Гэтая ўваходная палавіна хаты была трохі змрачнаватая, як бы нейкая шэрая. Тую шэрасць і змрачнаватасць надавала ёй, мусіць, выбітая, як ток, гліняная і чамусьці не роўная падлога. Другая ж палавіна хаты, бліжэйшая да вуліцы, недарэмна называлася святліца: і праўда была яна светлая, значна весялейшая, падлога паслана з роўных і добра выгаблеваных дошак, там красаваліся сваімі разьбянымі аздобамі пафарбованыя ў цёмна-карычневы колер шафа і камода, жалезныя, засланыя клятчастымі коўдрамі ложкі з блішчастымі нікеляванымі біламі. Нас, дзяцей, помніцца, не вельмі туды і пускалі.

Паставіў гэтую хату адзін з першых пасяленцаў Зялёнай Дубровы збяднелы шляхціч Фэлікс Шумскі. У яго з жонкай Аленай было сямёра дзяцей — адзін сын Адам і шэсць «дзевак». Адам, ажаніўшыся, зладзіў побач з бацькавай сваю хату. Чацвёра ж дачок Фэлікс пааддаваў замуж. З бацькамі асталіся толькі старэйшая Алена і глуханямая Гэля (па сутнасці, таксама Алена). Так што разам з маткай у адной хаце жылі тры Алены.

Гаспадар хаты пайшоў на той свет перад калектывізацыяй. Калі пачалі зганяць людзей у «калекцівы», яго сын Адам уцёк з сям'ёй (жонкай Васілеўшчанкай, сястрой Мікалая Васілеўскага, і трыма дзецьмі) у Старыя Дарогі, дзе наняўся на нейкую работу.

У тым канцы нашага засценка пасяліўся Фэліксаў брат — здаецца, звалі яго, як і пляменніка, Адам. У гэтага Адама прыйшло

на свет чацвёра дзяцей — сыны Віктар і Ясь і дочкі Разаля і Манька. Віктар Шумскі, якога за малы рост звалі Віктарка, з жонкай Анэляй Шыкеранкай услед за брацenікам Адамам таксама з'ехаў ад калгаса ў Старыя Дарогі.

А от Ясь нікуды не паспеў уцячы, і яго раскулачылі: як жа, быў не абы-якім гаспадаром. Усю Ясеву маёмасць разам з хатай і хлявамі забралі ў калгас, а самога з сям'ёй (жонкай і двума маленькімі дзеткамі) саслалі ў Сібір.

У Фэліксавай хаце тры Алены аставаліся адны не доўга. Да старэйшай дачкі гаспадара прыстаў у прымы добры чалавек з-пад слуцкага Волашава — Мікалай Карповіч. Быў ён высокі, моцнага целаскладу, па-свойму прыгожы і дужы. Ну і добры гаспадар, рабоцька. З вялікай ахвотай узяўся ён за гаспадарку, якая пачынала падупадаць без мужчынскіх рук.

У 1938 годзе яго, простага тады калгасніка, за нямазашто ўхапіў аднае начы «чорны воран». На нечалавечыя пакуты і здзекі. Дзевяць месяцаў трымалі ў турэмнай каталажцы ў Старых Дарогах.

Калі яго, без віны вінаватага, нарэшце выпусцілі, ён узяўся барзджэй залатваць дзіркі ў сваёй ізноў разладжанай за час сядзення пад турэмнымі замкамі гаспадарцы. Пабольшаную на чатыры едакі сям'ю трэба было нечым карміць. Падыходзіла ўжо зіма, а сена для адзінай карміцелькі-каровы не назапасіў. Пайшоў з касою выдзёўбваць яго па кустах. І недзе залез у калгасную атаву. Нехта заўважыў. Прыляцела міліцыя, забрала Мікалая Карповіча. Пасадзілі «злодзея» ў слуцкую турму. Як казаў мне яго сын Коля, «за лясёнку сена». Зноў вялікая сям'я з малымі дзецьмі асталася без гаспадара.

Вярнуўся Мікалай Карповіч летам 1941 года. Яго і іншых такіх «злодзеяў» вызваліла вайна. Астаўшыся без аховы, зняволеныя паўцякалі з Слуцка дадому.

Але дома не доўга давялося яму пажыць у сям'і. Напрасіўся быў у хату на начлег адзін з нашых акружэнцаў. Быў ён зусім хворы, яго ўсяго трэсла ад холаду. Палажылі на печ, гаспадар сказаў яму раздзецца, добра нацёр карасінай і ўкрыў нейкімі коўдрамі. Карповічыха давала яму піць усякія ўзвары, гарачае, з печы, малако. Акрыяўшы, чырвонаармеец пайшоў сваёй дарогай. А хваробу… пакінуў гаспадару. Гэтай хваробай быў тыф. Ён і зваліў здаравяка Мікалая Карповіча, звёў са свету. Пакінуў пасля сябе Карповіч пяцёра дзяцей — Альберта, Валента, Колю, Болеся і зусім маленькую Аліну.

Асабліва цяжка такой вялікай сям'і было пракарміцца пасля вайны, калі вярнуліся калгасы. Тое, чаго ў вайну не забралі

немцы і партызаны, ізноў было абагулена. Каб зарабіць нейкі грош, старэйшы з сыноў Альберт пайшоў рабіць у Фаліцкую смалакурню — рваць карчы. Пры ўзрыве адзін з карчоў упаў на хлопца і прыдавіў да зямлі. Цэлую ноч яго, аглушанага, бязлітасна секлі камары. Калі Альберта знайшлі і адвезлі ў бальніцу, дактары не маглі ўжо яму даць рады: там ён і сканаў. Альберту, высокаму, як і бацька, статнаму хлопцу было тады гадоў шаснаццаць-сямнаццаць.

Карповічыха, ратуючы сям'ю ад голаду, надумалася заняцца маленькім «промыслам» — варажбой на картах. Хадзіла з гэтымі картамі па суседніх вёсках, адкуль прыносіла свой скупенькі заработак — то некалькі бульбін, то акрайчык хлеба, то — калі пашанцуе — скрылік сала. Чаго-небудзь большага раздабыць не магла. Бо ўсюды пасля вайны было голадна.

Хацела Карповічыха часова перадаць адзін рот бяздзетнай сястры, што жыла з мужам у Старобіне. Узяла за руку адзінаццацігадовага Колю і пусцілася з ім у дарогу. А дарога немалая: больш за шэсцьдзясят кіламетраў да Слуцка і яшчэ каля сарака адтуль да Старобіна. Усяго сто, калі не болей, кіламетраў. Тры дні ішлі пеша — каня ж калгас на такое «глупства» не мог адрываць ад работы. Ды Карповічышына сястра чамусьці не захацела тады прыняць на часовае ўтрыманне пляменніка. Прыйшлося варочацца назад. Каб дома цярпець галадоўку.

З той пары мне ўспамінаецца адзін выпадак. Пайшлі мы, трое малых падшыванцаў, на наша возера купацца. Купаліся, бегалі па беразе. А калі варочаліся лясной дарогай дадому, трохі старэйшы з нас Карповічышын Коля, азірнуўшыся, дастаў з-за пазухі… нейкі скрутак, абгорнуты газетай. Калі яго раскруцілі, ва ўсіх нас загарэліся вочы: там былі ўсякія прысмакі і сярод іх — складзеныя адна на адну ладныя лусты хлеба, густа намазаныя жоўценькім маслам і паверх яго шчыльна абложаныя звараным мясам — сёння гэта назвалі б бутэрбродамі. Коля прызнаўся, што гэты скрутак ён «свіснуў» на грузавой машыне з брызентавым верхам, якая стаяла пры возеры — на ёй прыехала са Старых Дарог пабавіцца нейкая кампанія. Цікавае супадзенне: зусім нядаўна, больш чым праз паўстагоддзе з таго выпадку, у адным паважным застоллі ў Старых Дарогах я разгаварыўся з пажылым суседам, які са смехам расказаў мне пра той самы выпадак на нашым возеры. Ён быў у той кампаніі, што прыязджала тады адпачыць. Накупаўшыся, настукаўшыся ў мяч на ўзбярэжнай палянцы, добра падгаладалыя кампаньёны паселі наўкруга разложанага на траўцы абруса, у нецярпенні чакаю-

чы, калі шафёрава жонка прынясе з машыны жаданы скрутак з прыпасамі. Але жанчына — цэп-лэп па днішчы кузава: няма скрутка! І сабакі не брахалі, а прыпасы прапалі!

Тым часам гэтыя прыпасы дружна ўпляталіся ў дарозе малымі дуброўскімі галадранцамі — Коля кожнаму з нас, не скупячыся, удзяліў па добрай лусце хлеба з маслам і мясам. Нам, вечна галоднай дзетвары, якая і ў вочы не бачыла нічога падобнага, гэтыя бутэрброды здаліся незвычайным смакоццем.

Увобміг іх з'еўшы, мы ішлі па дарозе дадому і самі сябе распальвалі салодкімі марамі: от каб скарэй вывучыцца ды гэтак во папаесці! Толькі на каго лепш вучыцца, каб паболей зарабляць? Коля сказаў, што лепш, чым хто, жывуць ваенныя. Іх забяспечваюць усім.

— Я пайду толькі ў ваенныя, — заявіў ён.

І праўда: скончыўшы школу, ён паступіў у ваеннае вучылішча, стаў лётчыкам. Даслужыўся да добрай афіцэрскай пенсіі і цяпер, як і я, жыве летам з жонкай у Зялёнай Дуброве.

Толькі сядзіць ён ужо ў новай хаце, пабудаванай пасля вайны напроці колішняй, на другім баку вуліцы, у закладзеным яшчэ бацькам садзе. Там і бачу я заўсёды, праходзячы, яго мажную, як і ў бацькі, трохі сутулаватую постаць.

Неяк раз я прыгадаў яму пра той выпадак на возеры.

— Я не помню такога, — адказаў мне даўні сябра, яўна пакрывіўшы душою: як відаць, пасаромеўся ў тым прызнацца (толькі што тут саромецца, Коля, — гэта ж наша дзяцінства).

Трэці з сыноў Мікалая Карповіча Валент пайшоў па педагагічнай лініі. Ён скончыў Полацкі педагагічны інстытут, стаў настаўнікам, а потым і дырэктарам адной з сярэдніх школ у Полацку. У адной з камандзіровак я завітаў да свайго земляка-зялёнадуброўца. Разам з Алесем Ставерам мы правялі там літаратурную сустрэчу з вучнямі школы. Валент добра нас «прадставіў», паказаў школу, у якой ён навёў узорны парадак. З вялікім жалем я дазнаўся праз некалькі гадоў, што Валент яшчэ даволі маладым пакінуў гэты свет. На той жа дырэктарскай пасадзе.

З Карповічавым Болесем як маім аднагодкам я больш хаўрусаваў, таму і бываў часта ў іхнай старой хаце з глінянай падлогай. Болесь даўно з'ехаў у Данецк, стаў там шахцёрам. Цяпер разам з Віктарам Януковічам, які таксама, кажуць, родам з Беларусі, ваюе, мусіць, за наданне на Украіне рускай мове статуса другой дзяржаўнай мовы.

## Гуткоўскія

Пры самай вуліцы ціха пашавельвае круглымі лісцікамі стогадовая, парэпаная ў камлі дзікая ігруша. Кожнае восені яна ўсыпае затравелую пад ёй зямлю дробнымі зялёнымі дзічачкамі. Але ніхто на іх не квапіцца, не нагнецца, каб падняць: даўкія, кіслыя. Укусіш — Масква відаць.

Гэтая ігруша-дзічка — усё, што асталося ад колішняга селішча Адама Шумскага, якое пасля яго выезду ў Старыя Дарогі, куды ён уцякаў ад калгасаў, заняў «сельскі пралетар» Мікалай Гуткоўскі.

Дагэтуль быў Мікалай у прымах у Шалькевічанкі Надзі. Ды яна, нарадзіўшы яму сына Эдзю, зусім неспадзявана занемагла і памерла. Мікалай ажаніўся другі раз. З Кацяй Лазоўскай, якую знайшоў за Старымі Дарогамі — у Раванi. Прывёз яе ў купленую ў Шумскіх хату, забраўшы з сабой і маленькага сына.

З другой жонкай Мікалай Гуткоўскі паспеў нажыць усяго толькі адну дачку Веру. Такое было ў яго наканаванне: прайшоў усе войны, на якія яго бралі, а смерць напаткаў дома. Ад брата. Ішоў з ім, Мішам Гуткоўскім, ад Заранка́, старшыні калгаса, у якога спраўлялі радзіны. Добра падпітыя, браты за нешта паспрачаліся і ўзяліся загрудкі. Міша даў Мікалаю кулаком пад бараду. Нешта там яму пашкодзіла. Думалі, пройдзе. Не прайшло. Пачало апухаць каля горла. Паказалі ў Старых Дарогах доктару — той нічога не мог памагчы. Павезлі Мікалая ў Мінск. Прызналі: рак горла. Там ён і памёр.

Каця без яго ўжо выгадавала дачку. Вера выйшла замуж у Слуцак. Забрала з сабой і матку. Мікалаеў сын Эдзя, падросшы, з’ехаў недзе аж у Прыморскі край.

Што ж да Мішы Гуткоўскага, то жыў ён з жонкай Марылькай Рымашэўшчанкай і дзецьмі ў хаце свайго бацькі Сцяпана Гуткоўскага, які прыехаў сюды недзе з-пад Слуцка (ці не з Гуткова?). Апрача двух сыноў — Мікалая і Мішы — у Сцяпана былі яшчэ тры дачкі — Стэфка, Фрасыня і Каця.

У вайну Мішу Гуткоўскага немцы былі прызначылі старастам у Зялёнай Дуброве. Але, выконваючы іхнія загады, ён добра знаўся і з партызанамі, у нечым важным памагаў ім. Не ўсе вакольныя партызаны ведалі гэта, у тым ліку і з брыгады нашых старадарожскіх партызан Аляксея Шубы. Таму шубаўцы намерыліся былі забіць дуброўскага старасту. Перад гэтым партызаны зайшлі да маёй цёткі Волькі, што была ў іх заўсёдным інфарматарам, і шапнулі ёй, чаго яны сюды заявіліся. Цётка

Волька вельмі шчыра накрычала на іх. «Не ўздумайце — ён жа свой!» Так і выратавала яна тады Мішу Гуткоўскага ад гібелі.

Але нішто не выратавала яго ад гарэлкі. Пасля смерці брата Міша Гуткоўскі моцна запіў: мусіць, гарэлкай хацеў заліць, заглушыць сваю нязбытную віну. Гарэлка і звяла яго без пары ў магілу.

Так што адна бязглуздая спрэчка, можна сказаць, стала прычынай смерці двух братоў Мікалая і Мішы Гуткоўскіх.

## Стахновічы

Па правы бок вуліцы, калі заснавалася Зялёная Дуброва, пабудаваўся, прыехаўшы з Суціна, Юзаф Стахновіч.

Ад першай жонкі ён меў сямёра дзяцей — Людвіка, Яна, Стася, Сабіну, Марылю, Амілю і Авалінку, ад другой, Разалі, трое — Вінцэся, Міхаліну і Тафілю.

Каб пракарміць такую вялікую сям'ю, яму трэба было вельмі добра круціцца. Не толькі сам з цямна да цямна завіхаўся Юзаф Стахновіч на сваёй гаспадарцы, але і дзяцей прымушаў. За самае малое непаслушэнства лупіў іх неміласэрна. Для пострaху ў яго каля дзвярэй вісела высушаная казіная ножка. Яе і пускаў часта ў ход. Малога Людвіка так за нешта дубасіў ёю, што той не вытрымаў — кончыўся ад пабояў.

Мусіць, праз сваю лютасць і першую жонку раней часу звёў ён са свету.

У вялікай строгасці трымаў гаспадар і дачок. Калі праўдзе, бывала, каторую хлопец, браў сваю «нагайку», задзіраў сукенку і «грэў» па голай задніцы.

У 1937 годзе Юзафа Стахновіча забрала без дайпрычыны НКВД. З яе засценкаў ён ужо не вярнуўся.

Я ведаў Стахновічавых дзяцей ад другой жонкі, сябраваў з аднагодкам Вінцэсем — шустрым і вельмі сур'ёзным, працавітым хлопцам: ён жа аставаўся адзіным «мужчынам» у хаце.

Недзе пасля вайны Разаля з дзецьмі, як ад чумы, уцякла з нашага калгаса «Чырвоная Дуброва» на сваю бацькаўшчыну ў Суцін, у саўгас. Забраўшы туды і хату.

## Нашчадкі Хведара Дубовіка

Сто гадоў назад у Зялёную Дуброву з важкім кашальком грошай у кішэні прыехаў з прыпухавіцкай Блоні Хведар Дубовік. Купіўшы ў Поляка зямлю, згрукаў тут добры бярвенны

дом у сярэдзіне вёскі. Былі ў яго тры сыны — Ясь, Язэп і Алесь. Павырастаўшы, яны пазаводзілі свае сем'і і першыя два пасяліліся побач з бацькам. Алесь жа, калі не стала бацькі, заняў яго хату.

Пры самай вуліцы гамоніць з вятрамі галінасты клён — ужо з дуплом, побач — такая з дупляністая ліпа. А перад ім — чубок бэзу. Гэта рэшткі сядзібы Яся Дубовіка — Пісара.

Пісарам яго назвалі таму, што і праўда быў некалі пісарам. Скончыў царкоўнапрыходскую школу, потым курсы бухгалтараў аж у Маскве. Калі каму з дуброўцаў трэба было напісаць якое прашэнне ў воласць ці куды, ішлі к Пісару. У яго быў прыгожы почырк: навучыўся каліграфіі ў школе. Калі НКВД забрала калгаснага рахункавода Юліка Дубовіка, на яго месца паставілі Яся Дубовіка.

У Першую сусветную вайну салдат царскай арміі малады Ясь Дубовік апынуўся ў нямецкім палоне. Пра той палон ён расказваў мне не раз. Яго аддалі ў парабкі да аднаго баўэра. Рабіў там, што яму загадвалі.

З часоў нямецкага парабкоўства ён расказаў мне адну гісторыю. Была ў гаспадара-баўэра гожая маладая дачка. Па вушы закахалася яна ў рослага і пагляднага славянскага хлопца-парабка. Ну, і ён упадабаў харошанькую немачку. Спачатку яны не заўсёды знаходзілі словы для паразумення, але лепш за словы казалі пра ўсё адно аднаму іхныя вочы, а потым — і рукі. Запалыхаў пажар кахання. Спахапіліся яе бацькі, ды позна: прыкметна пакруглела ўжо іх дачушка. А тут прыйшоў рускім ваеннапалонным дазвол варочацца дадому. Баўэр просіць Яся астацца, ажаніцца з яго дачкою, стаць гаспадаром вялікага і багатага маёнтка. Вельмі спакуслівая была прапанова, але ж астацца — азначала забыць пра родны дом, пра бацькоў, пра Зялёную Дуброву і зрабіцца немцам. Не ведаю, якія адольвалі тады маладога Яся пачуцці, калі пакідаў сваю зацяжараную каханую, але ён вярнуўся ўсё ж дадому, пасеяўшы на нямецкай зямлі беларускае семя.

У Зялёнай Дуброве пасватаўся ён да маладой дачкі Галляша Цвіркі Манькі, ажаніўся з ёй і зажыў разам у сваёй, пабудаванай не без дапамогі братоў, а мо яшчэ і бацькі, прасторнай хаце. Пайшлі дзеці. Першы нарадзіўся Вадзя, потым — Саша, Толя, Лена і самы меншы Ванька.

У 1941 годзе прыйшлі ў Зялёную Дуброву немцы. Яны не раз мерыліся спаліць вёску. Адгаварыць іх ад гэтага памагаў і Ясь Дубовік, бо ён добра ведаў нямецкую мову. Нямецкая мова

ратавала і яго самога ад расправы, калі старэйшы сын Вадзя апынуўся ў партызанах.

Але не заўсёды магло памагчы і яго шпрэханне. Пагроза з боку немцаў вісела над ім усю вайну. Цікавая прыходзіць у галаву тут думка. Гэта ж мог бы зайсці ў двор Яся Дубовіка яго родны сын — плод кахання з дачкой гаспадара-баўэра — і, дапытваючыся пра партызан, прыставіць дула аўтамата да грудзей бацькі. Мог бы так і забіць сын бацьку, не ведаючы, што творыць. Ці ж не сюжэт гэта для якога-небудзь новага «Конрада Валенрода»?

Старэйшаму сыну Вадзю, Вадзіму Іванавічу Дубовіку, пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх прыхадняў як нядаўнаму партызану і «грамацею» (перад вайной ён скончыў у Старых Дарогах дзесяцігодку) адкрылася шырокая дарога. Асабліва пасля таго, як Старадарожскі райкам камсамола паслаў яго на трохмесячныя курсы пры ЦК КП Беларусі па падрыхтоўцы партыйна-савецкіх кіраўнікоў. Скончыўшы іх і трапіўшы ў «наменклатуру», Пісараў хлопец палез уверх як па драбінах. Во яго ступенькі-прыступкі: адказны сакратар маладзечанскай абласной «Сялянскай газеты», навучэнец Цэнтральнай камсамольскай школы ў Маскве (туды яго паслаў сам Пётр Міронавіч Машэраў, тагачасны першы сакратар Маладзечанскага абкама камсамола) і адначасна студэнт філасофскага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, галоўны рэдактар рэспубліканскай газеты Таджыкістана «Сталинская молодежь», аспірант, а потым выкладчык факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. На гэтай апошняй пасадзе ён прарабіў цэлых сорак шэсць гадоў.

Ды і пасля ўніверсітэта не сядзелася дома Вадзіму Дубовіку, якому пераваліла ўжо за восемдзесят. Ён пайшоў чытаць лекцыі студэнтам Мінскага інстытута сучасных ведаў.

Па пракладзенай старэйшым братам дарозе пайшоў і Саша. Стаў журналістам. Рабіў у рэдакцыях «Чырвонай змены», «Камуніст Беларусі», «Беларуская думка», «Мінская праўда».

Лена закончыла тэхнічную ВНУ, рабіла інжынерам у Мінску. Толя працаваў на розных прадпрыемствах Мінска простым шоферам. Ванька, цяпер Іван Іванавіч Дубовік, быў прафсаюзным работнікам.

Так што ўсім дзецям даў дарогу Ясь Дубовік.

Я хвалю іх за тое, што яны не забываюць сваёй Зялёнай Дубровы. Кожнае лета ўсёй сваёй вялікай кампаніяй прыязджаюць сюды на ўмяшчальным «газіку»пахадзіць па сцежках маленства,

пастаяць на месцы, адкуль вылецелі ў свет. Нават падумваюць паставіць на месцы роднай хаты які-небудзь памятны знак.

Другога Ясевага брата Язэпа я зусім не ведаю: ён яшчэ да вайны выехаў адсюль у Пухавічы. Добра помню толькі яго агульны з Ясем калодзезь, на мяжы іх сядзібаў. Калі ў Зялёнай Дуброве засушлівымі гадамі прападала вада, тут яе заўсёды было поўна: калодзезь быў глыбокі, вада ў ім чыстая, з нейкай падземнай жылы.

Цераз вуліцу ад Яся і Язэпа жыў трэці іх брат Алесь. Яго жонка была з роду Вішнеўскіх, што жылі ў Хорашаве, на Случчыне. Помняцца гаспадары мне зусім цьмяна. Больш ведаю іх дзяцей — старэйшых Соню, Валодзю і Стэфку, а з маладзейшым Генем я трохі хаўрусаваў — ён даўно з’ехаў у Данецк, стаў там шахцёрам.

Цяпер на сядзібе Алеся Дубовіка жыве самая блізкая мая суседка васьмідзесяцігадовая Віцця, удава Яна Шыкера.

Калі Віцця адна, на яе двары ціха, толькі часам пачуеш, як яна прыкрыкне на курэй, што не туды пайшлі, ці адпужне каршуна, які так і цікуе з неба, каб знянацку апусціцца ды задраць якое куранё.

У выхадныя ж дні на Віцціным падворку — шум і гам, вясёлая гамана, якую заглушае гудзенне машын ды строкат матацыклаў. Гэта з’язджаюцца з Мінска яе дзеці і ўнукі, якіх у Віцці каля двух дзясяткаў.

Сын Алеся Дубовіка Валодзя яшчэ перад вайной ажаніўся з сястрой Яна Шыкера Броняй. Пасля выезду ў Суцін Стахновічаў ён пабудаваўся на іхнай сядзібе.

Гаспадар сядзібы адбыў усе апошнія войны і вярнуўся інвалідам — з параненай левай рукой. Ён расказваў мне, што быў на фінскай вайне недзе разам з маім бацькам. Калі адзін час там было галадна, Валодзя Дубовік даў майму бацьку рукавок гароху, які быў у яго ў запасе.

Прамучыўся ён у калгасе да канца сваіх дзён. Цяпер у хаце асталася адна Броня. Нядаўна я заходзіў да яе званіць у Старыя Дарогі. Яна сядзела ў хаце і абрывала лісцікі шчаўя з доўгіх цурбаноў, кідаючы ў вялікую міску-таз — каб перакручваць з соллю на зіму. Пажалілася, што сёння ў яе падняўся ціск — 240 на 110, а з носа ішла кроў. Цэлая шклянка выйшла. Але цяпер перастала: прылятала «Хуткая дапамога», далі ёй уколы. У

той жа дзень прымчаўся на машыне сын Вова і забраў матку ў Слуцак, у больніцу.

Мне неяк трывожна было за Броню: ёй жа ўжо восемдзясят пяць гадоў. Ды от чую: прывезлі Броню дадому. Назаўтра, ідучы міма яе хаты, я зайшоў праведаць хворую. Броня ж, як бы нічога з ёй і не было, сядзела на ганку і перабірала чарніцы, беручы жменямі з вядра і сыплючы ў вялікую эмаляваную міску-таз. Аказваецца, яна толькі што прыйшла з лесу, дзе больш за чатыры гадзіны згіналася над ягадамі, і прыперла сама цэленькае дванаццацілітровае вядро. От дык хворая!

— Чаму гэта вы так не сцеражацеся? — папытаўся я не без здзіўлення.

— А таму што во! — пакруціла яна пальцам у сябе каля скроні і дадала: — Дурань! Такіх, як я, прывяжы, дык яны ўсё роўна ўцякуць у лес у ягады.

Як ніколі, гнала сёлета ў лес дуброўцаў добрая плата за чарніцы нарыхтоўшчыкаў: па шэсць тысяч за кіло. Кожны вечар іх чырвоная машына піпікала на вуліцы, клічучы ягадніц. Тут жа з імі і разлічваліся гатоўкаю. Як жа прапусціць такое! І гэта пры ўсім тым, што Броні добра памагаюць дзеці — Вова (так і завуць яго ў нас усе, як і некалі малога), які часцяком наведваецца да мацеры са Слуцка на выхадныя, і Ала з мужам Валерам Біруком, якія аселі ў Старых Дарогах.

Асабліва завіхаецца на Бронінай гаспадарцы зяць Валера. Ён некалі скончыў Горы-Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, рабіў нямала гадоў галоўным аграномам у саўгасе «Слабадскі» пад Старымі Дарогамі. Цяпер знайшоў іншую работу ў нашым раённым гарадку. Але кожны выхадны і ў буднія дні пасля работы — ён тут.

Мы неяк ішлі разам з Фаліч, і ён расказаў мне, як любіць рабіць на зямлі, як заўсёды ірвецца сюды, у Зялёную Дуброву.

На Броніным падворку Валера трымае і каня, адзінага каня, які астаўся цяпер у нашай вёсцы. Хоць можна было б абысціся ўжо і без яго, але Валера і не думае з ім разлучацца. Вельмі ўсцешна бачыць мне, як гаспадар, бывае, вязе на ім па вуліцы бухматы воз сена, седзячы наверсе. Некалі ж гэтак вазіў сена і я.

## Сянькоўскія

Я сядзеў на сваім ганку, калі з захаду наплыла на неба цёмная з грымотамі і маланкамі хмара. Усхадзіўся моцны парыўны вецер, які пачаў шкуматаць і рваць лісце прысадаў, згінаць немаль да зямлі маладыя дрэўцы. Во ён, падхапіўшы, пагнаў па вуліцы пыл, а праз хвіліну — зашумеў, забарабаніў аб мой шыферны дах лівень. Раптам у нашым канцы вёскі пачуўся нейкі трэск і грукат. Што ж гэта магло быць? Калі кароткая, але вельмі шумная навальніца пайшла, пакацілася далей, я выйшаў на вуліцу, каб паглядзець, што там здарылася. Адтуль якраз ішла Насця Акуліч.

— Гэта ж Вайцехаў клён паламала, — паведаміла яна.

Вайцех Сянькоўскі — адзін з чатырох братоў, якія ў тыя ж, што і Стахновіч, часы купілі тут адну на ўсіх валоку зямлі і пачалі яе абжываць — па чвэртцы на кожнага.

Сваю хату Вайцех паставіў адразу за Стахновічавай сядзібай. Тут ён ажаніўся з нейкай нашай сваячкай Рымашэўчанкай. Але яшчэ перад калгасамі выехаў з сям'ёй за Фалічы — на Дубраўскія Футары: там прыдбаў значна большы надзел зямлі.

Я толькі мімаходзь бачыў Вайцеха Сянькоўскага. Калі ён, ужо стары чалавек з кійком у руцэ, прыехаў быў на падводзе ў Зялёную Дуброву паглядзець на колішняе сваё селішча. На ім знайшоў ён толькі галінасты высокі клён. Гэты клён ён пасадзіў пры вуліцы сам, калі пабудавалася хата. Убачыўшы, як ён разросся, стары Вайцех вельмі расчуліўся, нават пусціў слязу.

І от цяпер няма яго клёна, як, мусіць жа, і самога Вайцеха. Тырчыць толькі высокі abломак з вялікай падоўжнай дзіркай пасярэдзіне. Адзіны напамінак пра колішнюю сядзібу Вайцеха Сянькоўскага.

* * *

А вунь пры вуліцы, насупраць колішняй Вайцехавай сядзібы, яшчэ адна вялікая старая ігруша-дзічка — мусіць, равесніца шумскай. Толькі на ёй ігрушкі намнога буйнейшыя і даволі смачныя: калі падгніюць — не ад'есціся: мяккія, салодкія, з прыемнай кіслінкай.

Гэта таксама своеасаблівы помнік. Помнік першапачатковаму селішчу Адвэрта Сянькоўскага, Вайцехавага брата. Тут, каля ігрушы, некалі стаяла яго хата.

Калі Вайцех выбраўся на Дубраўскія Футары, Адвэрт з сям'ёй перакінуўся цераз вуліцу на братаву сядзібу.

Як відаць, палова ці якая частка Вайцехавай зямлі адышла Адвэрту. Бо яе няхватка не давала тут яму разгарнуцца. Ён намерваўся нават вярнуцца з Зялёнай Дубровы назад у Суцін, дзе напытаў ужо для куплі дом з ладным зямельным надзелам. Калі ж паехаў туды канчаткова пра ўсё дамаўляцца, яго жонцы Адэлі прысніўся сон. Нібыта прыходзіць да Адвэрта яго нябожчык бацька і кажа сыну: «Не лезь, сын, у Суцін, бо забяру з сабой». Вярнуўся Адвэрт дадому рады, што сышоўся ў цане з прадаўцом. Аставалася толькі адвезці яму грошы. Тут жонка і расказала пра свой сон. «Забяру з сабой…» Паверыў Адвэрт у сон і адмяніў свой намер перабірацца ў Суцін. І як скора выявілася, правільна зрабіў. Бо чалавек, які замест Адвэрта купіў той дом, моцна пралічыўся: прадавец быў добры круцель і зрабіў так, што забраў свой дом назад, не вярнуўшы купцу грошай.

Я помню Адвэрта з Адвэрціхай ужо старэнькімі. У Адвэрта несупынна трэсліся рукі. Каб утаймаваць іх, ён сашчэпліваў перад сабой пальцы рук. Але гэта мала памагала: рукі так і скакалі ў яго на жываце. У Адвэртаў выгадавалася пяцёра дзяцей: Адам, Анцік, Анця, Мальвіна і Лёля. Адам выбіўся ў вялікія людзі, быў, як мне казалі, «камендантам горада Ленінграда». Загінуў ён на вайне. Маладзейшы яго брат Анцік быў першым у нашым калгасе трактарыстам. Добра помніцца, як ён тарахцеў з самай раніцы па ваколіцы на сваім трактары з вялікімі зубатымі коламі, як весела ўсміхаўся, калі мы, дзеці, бегалі глядзець, як ён спрытна арэ адразу некалькімі плугамі поле. Відаць было, што яму вельмі падабалася яго работа. У 1941 годзе яго забралі на вайну, з якой ён ужо не вярнуўся. Бацькі не ўведалі, дзе ён, як і старэйшы Адам, злажыў сваю галаву. Дома ў Анціка асталася маладая ўдава Фронка з маленькім сынам.

Мусіць, дзякуючы Адаму перад вайной трапілі ў Ленінград і яго сёстры Мальвіна і Лёля, якія павыходзілі там замуж. Мальвіна апынулася потым у Краснаярску, а Лёля асталася ў Ленінградзе. Здаецца, гэта яна, завітаўшы да бацькоў пасля выгнання немцаў, першая расказала нам пра жахі ленінградскай блакады, якую ёй удалося перажыць.

Што ж да Анці, то яна не гэтак далёка, як сёстры, выйшла замуж. Цераз вуліцу. Але пра гэта трохі ніжэй.

* * *

Хата Адоля (так перайначылі ў нас імя Адольф) Сянькоўскага стаяла ў адну лінію за хатай яго брата Адвэрта, далей ад вуліцы.

Пабудаваліся так браты, каб хоць трошкі сэканоміць зямлі. Адоль з Адаліхай (толькі пад такім «назовам» яна мне помніцца) мелі чацвёра дзяцей: Юзіка, Віктара, Альбіну і Сабіну.

Сабіна перад вайной з'ехала за Старыя Дарогі, у Солан, дзе рабіла ў школе настаўніцай. Альбіна выйшла замуж у Суцін. У вайну яе чалавек служыў у паліцыі, і яна з ім у 1944 годзе мусіла ўцячы з немцамі. Віктар пасяліўся ў Фалічах, дзе рабіў на чыгунцы. У бацькоўскай хаце астаўся толькі Юзік. Сюды прывёз ён з Суціна сабе жонку Марцісю. Доўгі час жыла з імі і Юзікава маці — Адаліха, невялічкая шчупленькая жанчынка.

Юзік моцна кульгаў, хадзіў з кульбаю, «каленцы ў кучку», як казала мне маці. А раней зусім хадзіць не мог, пасоўваўся на задзе — такі ўрадзіўся. На ногі так-сяк стаў пасля аперацыі, якую яму зрабілі ці то ў Старых Дарогах, ці то ў Бабруйску — нашым тады абласным цэнтры.

Як наш сусед ён сябраваў з маім бацькам, часта прыходзіў да нас у хату. Мне ён запомніўся тым, што любіў пагаварыць з бацькам. У доўгія зімовыя вечары яны, падахвоціўшыся, часта расказвалі пры камінку вельмі цікавыя казкі, якія мы, дзеці, слухалі з вялікай ахвотай.

Памёр Юзік ці ў вайну, ці адразу пасля яе. Ад яго ў Марцісі астаўся адзін толькі сын — Францішак. Вырасшы, ён пайшоў у леснікі. Пабудаваўшыся ў Фалічах і ажаніўшыся, забраў туды і матку, якая жыла пры ім да канца сваіх дзён.

* * *

Трохі далей па вуліцы пабудаваўся некалі чацвёрты з братоў Сянькоўскіх — Ігналя з жонкай Ізабэляй. Не знаходзячы на чвэрціне валокі разгарнення, абодва іх сыны з'ехалі з Зялёнай Дубровы: Косцік — у Суцін, а Пятрусь — у Амерыку. З дзвюх Ігналевых дачок Бардзя, або Барбара, выйшла замуж за Юліка Дубовіка, а другая — Анта, асталася на бацькаўшчыне. Да яе прыстаў у прымы добры чалавек са Старэва, з-пад Слуцка, Антон Пілецкі. З ім Анта паспела прыжыць толькі дваіх дзяцей — Стасю і Валю: гаспадар, захварэўшы, неспадзявана памёр. Можа, і добра зрабіў, бо інакш наўрад ці пазбег бы ён як прышлы энкавэдысцкага хапуна. Замест яго схапілі былі самую Анту, якой усё ж удалося неяк вырвацца з «яжовых рукавіцаў».

Пасля вайны, каб выбавіцца з калгаснага ярма, яна з дачкой Валяй і зяцем Франкам Цагойкам перабралася ў Суцін. Туды перавезлі і хату.

## Акулічы

На сядзібе Адоля Сянькоўскага збудаваў сабе хату Іван Акуліч. Сюды ён прывёз з недалёкага Сяльца маладую спрытную жоначку Насцю з дому Міхадзюкоў.

Акулічы сталі нашымі суседзямі. Суседнічалі мы вельмі добра. Спагадалі адны адным, у нечым памагалі. Болей памагаў Іван маёй мацеры, калі мы, яе дзеці, разляцеліся з роднага гнязда па свеце.

Не ў прыклад мне, Івану Акулічу, старэйшаму за мяне гады на тры, далей Зялёнадуброўскай пачатковай школы вучыцца не выпала. І ён змушаны быў увесь свой век цягнуць лямку калгасніка. Шчуплы, як хлапчук, быў ён, аднак, жылісты, моцны. І вельмі дападны да работы. Такі дападны, што часта рабіў праз сілу. І падарваўся. На яго навалілася такая немач, што злажыла ў пасцель, з якой ён не мог устаць, каб выйсці хоць на двор. Гады два ці тры ляжаў Іван на сваім ложку без руху. Я не адзін раз наведваў яго. Пад канец ён так высах, што рукі і ногі сталі, як цэвачкі. Калі я папытаўся, што яму баліць, ён адказаў, што нічога не баліць. Толькі чуе вялікую слабасць і хочацца аднаго: ляжаць. На адыходзе я наказваў яму набрацца сілы ды ўсё-такі ўстаць. «Не, я ўжо не ўстану, Косця», — зусім спакойна адказаў ён. Каб як падбадзёрыць Івана, я пераказаў яму вядомую казку пра сялянскага хлопца (здаецца, яго таксама звалі Іван), які, залезшы на печ, ляжаў там сем гадоў на адным баку, сем на другім, а як вылежаўся, зрабіўся асілкам-вернідубам. «Можа, і ты станеш такім?» Мы ўсе ўтраіх (Насця таксама сядзела з намі) па-добраму пасмяяліся з казкі: адчувалася, што Івану яна спадабалася. Значыцца, хоць трошкі прыпадняла яго дух.

Прайшло яшчэ з паўгода, і калі я пасля зімы ізноў прыехаў на сваю сядзібу ў Зялёнай Дуброве, то са смуткам даведаўся, што няма ўжо Івана. Вельмі спакойна і ціха адышоў ён на той свет.

Дзед Івана Акуліча пасяліўся ў канцы нашага засценка пры яго заснаванні. Пераехаў ён сюды з не вельмі далёкай ад нас вёскі Лавы. Помню, я разгаварыўся некалі з яго сынам Рыгорам, Іванавым бацькам. Ён расказваў, як бацька перавозіў сюды сям'ю. Было якраз вясновае разводдзе. На грэблях калёсы амаль па білы апускаліся ў ваду. Таму Рыгораў бацька пасадзіў дзяцей у пастаўленую на воз шырокую добра заканапачаную кадушку. Так і давёз іх на новае селішча.

А дзяцей у Іванавага дзеда, Рыгоравага бацькі — народжаных і ў Лавах, і тут — было восем: Рыгор, Пятрусь, Алена, Аўдоля, Алеся, Раіна, Марыля і Аксеня. Пятрусь урадзіўся «немцам», і

яго, глуханямога, аддалі ў дом інвалідаў. Пяцярых Акулічавых дачок паразбіралі жаніхі з навакольных вёсак. Шостая — Аксеня — стала жонкай дуброўца Нічыпара Белага.

На бацькоўскай сядзібе асеў сын Рыгор. Жонку Марылю знайшоў ён у Борках. Нарадзіўшы яму траіх дзяцей — Таню, Івана і Аркадзю, — яна пакінула гэты свет. Другая Рыгорава жонка Сарафіна з Доўнараў радзіла яму дваіх дзяўчынак Аню і Алу.

Бацькоўскую хату займае цяпер дачка Ала. Праўда, прыязджае сюды з дзецьмі толькі на лета. Прыязджае з Мінска, дзе працуе.

## Бацькаўшчына

Нарэшце дайшоў я і да нашай сядзібы.

Некалі праз плот ад падворка Адвэрта Сянькоўскага стаяла хата Зміцера Яльніцкага. Уцякаючы ад калгаса, Яльніцкія з дзецьмі (Міхалам, пастухом засцянковых авечак, Ганькай, Аленай, Насцяй і Сарафінай) з’ехалі на Дубраўскія Футары (праўда, і там іх потым знайшоў калгас).

Зміцераву хату купіў мой бацька, аддзяліўшыся з сям’ёй ад нашага дзеда Сымона. Хата была ўжо вельмі старая — мусіць, Яльніцкія сюды яе аднекуль перавезлі. Помню, на покуці ніжнія бярвёны так паеў шашаль, што з іх сыпалася жоўтая парахня. Таму бацька, хоць і моцна хварэў пасля ранення на фінскай вайне, завінуўся ставіць новую.

Як расказвала мне маці, «напрэдвясень» вазілі на яе лес. З гэтай работай добра справіліся мае дзядзькі Федзя з Іванам, падлеткі. Рубіць хату нанялі Агеенку са Старых Дарог, Галляшовага зяця — не ведаю, за якую плату. Печ складаў пляменнік майго прадзеда Габруся Паўлюк Цвірка. Заплацілі яму за гэта воўнай. А яшчэ будаўнікам адраблялі мае цёткі з мацерынага і бацькавага боку, памагаючы ім капаць бульбу.

Сам мой бацька толькі напачатку завіхаўся з тапаром на будоўлі, але вельмі скора хвароба адлучыла яго ад работы. Ён вельмі перажываў, што нічога не можа рабіць. Усё марнеў і марнеў. Памёр ён, калі толькі паклалі бэлькі. Была паслана ўжо і падлога, толькі не папрыбіваны дошкі.

Так што ў новай хаце, якая ўстала побач са старой, мы, дзеці, гадаваліся ўжо без бацькі.

Зміцерава «зямля» ляжала адразу за дваром. Не вельмі шырокая палоска. Да таго ж — жаўтапесак. Недарэмна ён ад яе адцураўся.

Гэты пясок перайшоў нам. Апроч яго нашымі «соткамі» стала і значна большая палоса, прытым лепшай, амаль чарназёмнай зямлі на другім баку вуліцы, якраз напроці хаты.

Раней там было селішча нейкага Смольскага, які з сям'ёй яшчэ да калгасаў з'ехаў адсюль усё ў тыя ж Дубраўскія Футары.

Самога Смольскага я бачыў мімаходзь толькі адзін раз — калі перад вайной ён прыязджаў з Футароў трэсці сваю ігрушу, якая не адзін год ужо стаяла на перададзенай нам зямлі: усё, як казала маці, «даганяўся свайго». Нам, дзецям, было шкада, што стрэслі і з-пад нашага носа забралі такія салодкія ігрушы — мы папробавалі толькі іх ападкі.

Ад саду Смольскага, які вымерз падчас фінскай вайны, асталася толькі адна яблыня, якую называлі асінаўка. Казалі, нібыта гаспадар прышчапіў яе на асіне. І праўда, у яе сакаўных, даволі салодкіх яблыках моцна чулася як бы асінавая гаркота.

Пападрастаўшы, усе мы пайшлі з нашай хаты шукаць свой хлеб. Першая паехала ў Мінск Валя. Яе ўзяў за няньку дзядзька Федзя. Потым яна знайшла чарнавую работу ў Доме друку, выйшла замуж. Каб быць бліжэй к дому, пераехала са сваім Валодзем Вашкевічам у Старыя Дарогі, дзе да самай пенсіі рабіла ў атэлье, шыла заказчыкам шапкі.

За Валяй з'ехаў з дому і я, паступіўшы на філфак Белдзяржуніверсітэта. Пра «мае ўніверсітэты» і асабліва пра пасляўніверсітэцкія «блуканні па пакутах» (па работах) мне і ўспамінаць не хочацца.

Са студэнцкіх гадоў шкадаваў і цяпер шкадую, што, за ўсё жыццё не ўзбіўшыся на прыстойныя грошы, я не змог спраўдзіць мацерына спадзяванне на тую помач, якую яна чакала ад маёй «навукі». І цяпер у мяне сціскаецца сэрца, калі ўспамінаю той доўгі спісак самых пільных патрэб, што прыслала яна мне па маім прыездзе ў 1956 годзе з цаліны, куды я выправіўся быў у складзе студэнцкага атрада на жніво. Там мы кожны дзень працавалі на «таку» — вялізнай, мо з квадратны гектар адкрытай пляцоўцы, куды самазвалы адзін за адным звозілі са стэпу казахстанскую пшаніцу. Студэнты павінны былі разграбаць яе шуфлямі па ўсёй пляцоўцы і з раніцы да вечара455 пералапачваць, каб сохла на сонцы, каб добра высахлую згортваць потым у вялізныя бурты, бо інакш яна ў іх проста «гарэла б». За гэтую работу начальства паабяцала нам надта добрыя заработкі. Таму я паслаў мацеры пісьмо, каб яна напісала мне, што купіць для сям'і за тыя абяцаныя нам грошы. У атрыманым ад яе пісьме быў пералік шмат чаго з адзежы і абутку для маіх малодшых

сясцёр і брата. Але калі прыйшлося разлічвацца з намі за цэлае лета завіхання над цаліннай пшаніцай, саўгас заплаціў нам толькі адчэпнага. Нашы камсамольскія начальнікі растлумачылі нам, што мы прыехалі ў Казахстан па пуцёўцы камсамола не нажывацца, а памагчы Радзіме памнажаць яе багацце дзеля хутчэйшай пабудовы светлага камуністычнага заўтра. От так я тады «памог» мацеры.

Ведаючы, як яна тузаецца ў процьме нястач, я стараўся хоць са сваёй стыпендыі што-небудзь ёй часам выкраіць. Сам я прызвычаіўся тады харчавацца на капейкі: у сталоўцы заказваў на абед па два «першыя», якія былі нашмат дзешавейшыя, чым «другое», і налягаў на хлеб: ён у тыя часы ляжаў на сталах бясплатны (відаць, за кошт павелічэння цаны на стравы) — еш, хоць расперажыся. Пра адзежу я не надта дбаў. Рады быў таму просценькаму, здаецца, картоваму касцюму, які справіла мне маці пры маім паступленні на вучобу ў Мінск. Не знаходзілася мне толькі якой больш-менш цёплай апранахі для зімы. Як маці ні ламала над гэтым галаву, нічога з яе не выламала. Ужо і зіма прыйшла, за Новы год пераваліла, а я ўсё хадзіў у адным касцюмчыку. Стараўся доўга не бываць на вуліцы. На лекцыі з інтэрната, каб не змерзнуць, не хадзіў, а бегаў. Не ведаю, колькі б я яшчэ лётаў паўголы, калі б у наш інтэрнацкі пакой на Свярдлова не падсялілі даволі сталага студэнта-старшакурсніка з журфака Паўла Марцава, які адслужыў ужо армію і, здаецца, паспеў нават як афіцэр пабываць пад канец вайны на фронце. Убачыўшы, як я калею на холадзе, бегаючы неадзеты па вуліцы, ён аднаго разу зняў з сваіх плячэй і накінуў на мае свой, яшчэ вельмі ладны, амаль што новы афіцэрскі шынель.

— Бяры насі — ён твой.

Я не ведаў, як дзякаваць Паўлу Марцаву. Усе студэнцкія гады я прахадзіў у яго шынялі.

Не забуду і бацькоўскага спрыяння мне Сяргея Дзяргая, які рабіў тады ў «Вожыку». Ён бачыў мае бядоты і ўзяўся памагчы мне, даючы апрацоўваць пісьмы, што прыходзілі ў «Вожык». Але ў мяне не было яшчэ ў гэтым вопыту, я не ўмеў рабіць з простых людскіх скаргаў нешта «смешнае». Усё ж некалькі такіх апрацовак «пайшло» на старонкі часопіса, і я атрымаў за іх такія-сякія ганарары, якія не маглі палепшыць маё бядотнае становішча, як і гэтакія ж скупенькія ганарары за вершы.

З вялікай цяжкасцю прабівалі сабе дарогу і маладзейшыя за мяне Зіна, Алік і Яня. Зіна, з якой ажаніўся Коля Кашуба, асела ў Мінску, Яня — у Старых Дарогах, выйшаўшы замуж за добрага

хлопца з Майсеевіч Пецю Васько і паклаўшы тым самым у нас пачатак сямейнаму яднанню «шляхты» з «мужыкамі». Вельмі шкадую, што як старэйшы брат я нічым істотным не мог ім памагчы ў цяжкія пасляваенныя гады, як-небудзь пасобіць сваім родным, якім давялося прайсці, як і мне, усе кругі «шчаслівага савецкага жыцця».

Маці нейкі час аставалася ў хаце адна. Потым яна ўзяла да сябе сваю адзінокую сястру Вольку, нашу цётку, якая дагэтуль жыла пры брату Толі. Калі мацеры не стала, цётка Волька пайшла жыць у Старыя Дарогі да другой сваёй сястры Алімпы. Нашу хату заняла, выйшаўшы на пенсію, сястра Валя, якая проста ажыла тут пасля шматгадовага выседжвання крукам у душным, запоўненым шарсцяным пылам швейным атэлье.

Наша адгалінаванне радаводнага дрэва разраслося ўжо даволі шырока. Прыкідваю, колькі ж усіх нас стала на лета 2006 года ў нашых бацькоў, якія распачалі гэтае адгалінаванне. Ад мяне ў іх — унучка Тоня і ўнук Алесь, праўнукі Воля, Максім, Паўлік і Даша, прапраўнукі Данілка, Стасік і Вікторыя; ад Валі — унучкі Наташа і Света, праўнукі Лена і Кірыл; ад Зіны — унук Міша і ўнучка Вета, праўнукі Коля і Паўлік; ад Аліка — унукі Алег і Дзіма, праўнук Стасік; ад Яні — унук Сяргей і ўнучка Іра, праўнукі Маша, Паўлік, Мішка і Ілля. Усяго — 5 дзяцей, 10 унукаў, 13 праўнукаў і 3 прапраўнукі: 31 чалавек!*

Якое гэта было б шчасце для нашага бацькі, калі б ён раптам устаў з магілы і апынуўся сярод такога вялікага патомства. Але яму не суджана было нарадавацца і сваімі дзецьмі, а дачку Яню і зусім не бачыў у вочы. Усіх нас выгадавала маці, пражыўшы без свайго Алеся больш чым паўстагоддзя.

## Нашчадкі Андрэя Дубовіка

Адны з першых (недзе адразу пасля Цвіркоў) пасяліліся ў Зялёнай Дуброве і нашы Дубовікі — нашчадкі майго прапрадзеда па лініі бабуні Касцічыхі Андрэя (імя яго назвала мне цётка Волька).

Да гэтага яны жылі ў Дрычыне, на беразе Пцічы. Як мне расказвалі, у «доўгім бараку». Яны арандавалі ў тамашняга гаспадара зямлю.

---

* Калі пісалася гэтая кніга, у майго пляменніка Алега нарадзілася дачка Насця. Шырыцца наш род!

Наш Дрычын заснавалі перасяленцы з таго Дрычына, што ў Пухавіцкім раёне, пры чыгунцы. Ці не былі сярод тых перасяленцаў і Дубовікі? Бо адзін з зялёнадуброўскіх Дубовікаў Хведар прыехаў сюды, як ужо адзначалася, з-пад Пухавіч. Трэба думаць, што ён быў нейкі сваяк нашым Дубовікам, і яны маглі згаварыцца, каб разам абжываць новы край.

У Зялёнай Дуброве пасяліліся чатыры сыны Андрэя Дубовіка — Якуб, Мітрафан (мой прадзед), Стафан і Ладымер.

Як разоў сем ступіць ад цяперашняй нашай хаты, некалі, не пры маёй памяці, стаяла, расказвала мне маці, маленькая, «што нашаварыўня», хатка Якуба Дубовіка. Хоць была яна маленькая, затое ўдаленькая: паўнюткая дзяцей! Іх у Якубавай жонкі раджалася павэдлуг прымаўкі: што ні год, то ўрод. Іх імёны: Базыль, Аляксандр, Юзік, Косцік, Паўлік, Аляксандра, Марыля, Анэта і Волька.

Каб тая маленькая хатка не разваліласся ад гэтулькіх насельнікаў, гаспадар мусіў барзджэй парупіцца пра новую, больш прасторную. Паставіў яе ўжо на другім баку вуліцы, якраз напроці. Але доўга ў ёй не задзяржаўся, бо з маленькага лапіка зямлі не надта разгонішся, каб пракарміць усю сваю плойму. Таму неўзабаве Якуб, услед за іншымі засцянкоўцамі, перабраўся на Дубраўскія Футары.

У бацькавай хаце астаўся жанаты ўжо ў той перадкалгасны час сын Аляксандр. Яго жонка Крыстына з Цагойкаў, якую ён прывёз з Навасёлак, падарыла яму сямёра дзяцей. Гэта — Аля, Валодзя, Маня, Флёрык, Юзік, Віця і Жэня. З імі, нашымі блізкімі суседзямі, мы і гадаваліся.

Пракарміць такую сямейку ў калгасе за пустыя працадні-палачкі не было як. Таму гаспадар уладзіўся ў Фалічах на чыгунку абходчыкам. Кожны дзень хадзіў туды, за сем кілометраў, пеша: каня ж на гэта калгас не мог даваць. Находзіцца за дзень па шпалах — да Аляксандраўкі і назад, а вечар — ізноў пеша дадому. Ну, і падарваў так сваё здароўе. Як цяпер чую яго неспыняны кашаль, якім ён бухаў і бухаў, пакуль не злёг і не адправіўся на вечны супачын. Крыстына дагадоўвала сям'ю адна.

З усіх Крыстыніных дзяцей я найбольш хаўрусаваў з аднагодкам Флёрыкам.

Думаю, яго надарыла прырода не абы-якім талентам, і ён пры спрыяльных умовах мог бы праславіць не толькі нашу Зялёную Дуброву. У яго быў вельмі адметны спеўны голас. Кожную раніцу яго звонкія прыгожыя спевы аж разлягаліся па

наваколлі. Здавалася, Флёрыкавы грудзі перапаўняла нейкая вялікая нестрыманая радасць, якая неадольна прасілася на волю.

Спяваў ён пра ўсё, што яму ні ўздумаецца. Словы самі сабой прыходзілі хлопцу на язык. У вайну вельмі пасмяяліся былі ў нас — са спачуваннем, па-добраму — з адной яго песні. Аднае начы партызаны пазабіралі ў Крыстыны ўсіх гусей, якіх кожны дзень пасвіў Флёрык. І от назаўтра разносіцца па засценку яшчэ адна Флёрыкава песня:

Ай вы ж гусі мае, гусачкі,
Я ж вас пасвіў, даглядаў,
А яны вас, тыя злыдні, пахапалі,
Вам паскручвалі галоўкі
І паелі ўсіх да аднае,
Я ж і лапачкі не абліза-а-аў…

Пасля вайны Флёрык скончыў у Зялёнай Дуброве толькі чатыры класы і далей вучыцца не пайшоў: трэба было думаць пра хлеб. Падаўся ў Салігорск, стаў шахцёрам. Не ведаю, як спявалася яму там, пад зямлёй. Ды каб заспяваў, хто б пачуў з-пад зямлі яго песню?

Прыехаўшы аднаго разу з Мінска, я з нашай хаты раптам ізноў чую радасную Флёрыкаву песню! Нібы аднекуль здалёку вярнулася маленства. Я выйшаў на вуліцу. Гляджу: ходзіць туды-сюды каля Крыстынінага двара пасталелы ўжо Флёрык і, пагоцваючы на руках сваю маленькую дачушку і прытанцоўваючы, голасна, са шчаслівай усмешкай спявае ёй у такт таго гоцання:

Бацька добры, бацька добры,
А маці ліхая:
Не пускае мяне гуляць,
Кажа — мала-да-я.

Сёння Крыстыніна хата пустуе, двор зарастае бадыллём, сліўнікам і парасткамі нікому не патрэбнай ужо абляпіхі. Зрэдчас яе наведваюць дзеці і ўнукі, але толькі зрэдчас, бо часта не наездзішся з Салігорска, дзе бальшыня з іх атабарылася, ці, можа, яшчэ з больш далёкіх ваколіц.

* * *

Далей за нашым агародчыкам, які ўвабраў і колішнюю сядзібу Якуба Дубовіка, стаяла хата яго брата Мітрафана Дубовіка,

майго прадзеда, бацькі нашай бабуні Косцічыхі, мацерынай маткі.

Быў ён, як мне расказвалі, мажны, высокі. І вельмі няўрымслівы. Перад тым, як ажаніцца, выбраўся ў Амерыку — прачуў, што там знаходзяць у Клfavs Кландайку золата, і наважыў падключыцца да золатаздабытчыкаў. Але праз тры гады золаташукання мой прадзед вярнуўся дадому. Не сказаць, каб з пустымі рукамі, бо на золата не напароўся, ды нейкі капітальчык там прыдбаў, што і дазволіла яму пабудавацца ў Зялёнай Дуброве.

Казалі, што, вярнуўшыся з-за акіяна, ён важна пахаджваў па засценку, разадзеты па-амерыканску: у клятчастых штанах, з саламяным капелюшом на галаве, ад чаго займеў празванне — Амэрыканец. Ад яго і маю бабку, Мітрафанаву дачку, часам звалі Амэрыка.

У майго прадзеда Мітрафана і прабабкі Прузыны з Яльніцкіх было шасцёра дзяцей: Юзаф, Іван, Гэля (мая бабуня), Ганька, Марыля і Аляксандра.

Мітрафанавы сыны былі такія ж няўседлевыя і няўрымслівыя, як і бацька.

Юзаф у пошуках заработкаў таксама пусціўся ў Амерыку. Па звароце адтуль ажаніўся і збудаваў цераз вуліцу, напроці бацькавай, сваю хату. Ды шырокай Юзафавай натуры было цесна на выдзеленай бацькам вузкай палосцы зямлі, і ён яшчэ перад калгасамі з'ехаў з сям'ёй у недалёкія ад нас Боркі.

Пасля смерці майго прадзеда Мітрафана яго хату заняў малодшы сын Іван, перасыпаўшы і перарабіўшы яе пасля на свой лад. Тут заснаваў і сям'ю. Закахаўся ён у сваю суседку — дачку Адвэрта Сянькоўскага Анцю. Усім маладым дзявочым сэрцам пакахала і яна гэтага пагляднага, вельмі кемлівага і энергічнага хлопца. Пайшлі прасіць блаславення ў бацькоў. Ды Адвэрт з Адвэрціхаю і слухаць не захацелі: ён жа рускі! Як гэта яны, палякі, будуць радніцца з рускімі? Ніколі такога не было і цяпер не будзе! А тымі «рускімі» лічылі тады праваслаўных, як «палякамі» — католікаў. Хоць тыя і тыя — самыя звычайныя, нічым не «засмечаныя» беларусы. Мая маці, мусіць, добра разумеючы гэта, казала на такое выстаўлянне суседзяў з каталіцкага Суціна хоць і грубавата, але па сэнсу, мусіць, правільна: «Сраныя палякі». Каталіцкімі былі ў нас, здаецца, сем фамілій — Сянькоўскія, Стахновічы, Паўловічы, Каспяровічы, Жыдовічы, Шалькевічы, Сакалоўскія. Усе шляхецкага стану. Астатнія, а іх была большыня, — праваслаўныя. Хоць таксама — са шляхты, з «дваран», за выключэннем хіба Парахнёў ды

Дзядзюляў. Праваслаўнымі «дваранамі» былі і нашы Цвіркі ды Рымашэўскія. Але некалі і яны вызнавалі каталіцтва. Мая цётка Волька чула ад дзядоў, што Рымашэўскіх прымусілі перайсці ў праваслаўе пасля «нейкага мецяжу». Ведама ж, гэтым «мяцяжом» было антыцарскае паўстанне 1863 года, якім кіраваў у Беларусі Кастусь Каліноўскі. Вольчын дзед, а мой прадзед Аляксандр Рымашэўскі вельмі супраціўляўся гэтаму гвалту. «Не і не», — нібыта казаў ён. Сам Аляксандр Рымашэўскі і два яго сыны Адась і Юзік, якія нарадзіліся да «мяцяжу», так і асталіся каталікамі. Астатніх, «паслямяцежных» сваіх сыноў і дочак — Алеся, Міхала, Янку, Косціка (майго дзеда), Анэлю, Ганулю і Стэфку — мой прадзед вымушаны быў усё ж запісаць у праваслаўе. Так што адны дзеці ад аднаго і таго ж бацькі і той жа маткі былі «палякамі» (каталікамі), а другія — «рускімі» (праваслаўнымі). Пра тое, што і Цвіркі-Гадыцкія былі некалі каталікамі ці ўніятамі, сведчыць герб нашага роду «Warnia» — чырвоны рак на белым полі.

Доўга працівіліся Адвэрты, не даючы згоды на шлюб свайго «дзіцяці» з «рускім», але каханне маладых людзей аказалася мацнейшае за старую завядзёнку, і «палячка» Анця пайшла-такі замуж за «рускага» Івана. Затое і святаў у новай сям'і, а значыць, і ў бацькоў з абодвух бакоў прыбавілася. Гэта ж трэба было кожны год адзначаць па два Вялікадні, па двое Калядаў, як і па два гадавыя святы, якія не заўсёды супадалі.

Шчасліва, у добрай згодзе жыла маладая сям'я. Няўрымсны, як і бацька, Іван Дубовік, стаўшы старшынёй калгаса, намерыўся зрабіць шчаслівымі ўсіх у Зялёнай Дуброве. Але яго высокія памкненні перапыніў абсурдны, зусім беспадстаўны арышт і тупая энкавэдысцкая куля.

Калі Івана забрала НКВД, яго бацькі ўжо не было на свеце. Разам з Анцяй, цяпер ужо безуцешнай удавой, і дзецьмі — Альфенам, Сальфідай і Стальвенам (Сэлем) — у хаце заставалася яшчэ яго маці, Мітрафаніха. Як расказвала мне Сальфіда, старая вечна сядзела з прасніцай на печы, прала ніткі і ціхенька, каб не вельмі чулі, усё плакала, плакала, росячы тыя ніткі горкімі слязамі.

Анця адна, без гаспадара павыгадоўвала дзяцей, паставіла іх на ногі. Праўда, пасля пачатковай школы далей вучыцца іх не пусціла: ведала, што ўсё роўна дзецям «ворага народа» не будзе ходу ў навуку. Альфен, адбыўшы вайсковую службу, на ёй і астаўся як старшына. Потым запіў і без пары пакінуў гэты свет. Сальфіда асталася жыць пры мацеры. Стальвен, ці Сэля,

які цягнуўся да навукі, толькі ўжо ў сталым веку здолеў закончыць сярэднюю школу, а потым універсітэт, стаў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Калі ён пераехаў у Мінск, я памог яму ўладкавацца ў Бюро прапаганды літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі, дзе ён працаваў да пенсіі.

Хоць Сэля і хварэў, бываў часта ў больніцы, вестка пра яго смерць мяне проста аглушыла. Першыя дні і тыдні я быў як непрытомны. Я хадзіў у Зялёнай Дуброве па тых сцежках, дзе мы разам як самыя першыя дружбакі-сваякі бегалі з малых гадоў, дзе вышуквалі баравікоў, пасвілі свіней і цялят, лавілі рыбу, гулялі ва ўсе вясковыя гульні. Хадзіў-блукаў па ўсіх ваколіцах, дзе бегала і галёкала наша безбацькоўскае дзяцінства, і, сорам сказаць, заліваўся слязамі. Нібы я беззваротна страціў частку самога сябе.

Даўжэй за ўсіх з маткай жыла ў бацькавай хаце Сальфіда. Калі яе ўзяў замуж Коля Корзун — сын такога ж «ворага народа», загубленага энкавэдыстамі, «маладыя» пайшлі жыць у абноўленую Адвэртаву хату, з якой з’ехала ўжо ў Суцін з маленькім сынам аўдавелая нявестка Сяньκоўскіх Анцікава Фронка, а самі яны пакінулі гэты свет.

У Сальфіды з Колем паявілася трое дзяцей — Толя, Галя і Колька. Да апошняга часу яна сядзела ў сваёй хаце з малодшым сынам Колькам. Летась Сальфіды, якая гэтулькі многа расказвала мне пра мінулае Зялёнай Дубровы і пра дуброўцаў, не стала: ішла з агарода, павалілася на ганку — і канцы.

Не прыстасаваны жыць адзін, з цэлым букетам хвароб, Колька Корзун пад канец гэтай зімы апынуўся ў бальніцы. І от у Мінск прынеслі мне жудасную вестку: ратуючы хлопца ад гангрэны, яму аднялі нагу. Цяпер Колька ў доме інвалідаў у Палажэвічах.

Сальфідзіна хата, каля якой яшчэ зусім нядаўна сунімалася аўтакрама, цяпер апусцела.

Даўно стаіць пустая і хата яе бацькі Івана Дубовіка, якая пачала ўжо падгніваць у падрубах.

Вельмі добра, што Толя Корзун, стаўшы фактычна гаспадаром абедзвюх гэтых хат, і не думае іх каму-небудзь прадаваць, наадварот, памаленьку пачынае абнаўляць, каб зберагчы спадчыну продкаў.

Не дае пуставаць ён і таму нешырокаму загону, на якім некалі была сядзіба другога Мітрафанавага сына — Юзафа, што яшчэ перад вайной з’ехаў адсюль з сям’ёй у недалёкія Боркі.

* * *

Два другія браты майго прадзеда Мітрафана — Ладымер і Стафан — пасяліліся ў другім канцы вёскі.

У Ладымера з Марыяй былі такія дзеці: сын Юлік і дочкі Волька, Зося і Саша. Зося выйшла замуж у Пабокавічы пад Асіповічамі, Волька — за Паўлюка Цвірку, Саша — за Антося Жыдовіча. Юлік жа, ажаніўшыся з Бардзяй Сянькоўскай, астаўся ў бацькавай хаце. Але НКВД у 1938 годзе не дало яму гадаваць народжаных пяцярых дзяцей і даваць жыццё новым: па абсурдным абвінавачанні ў шпіёнстве на карысць Польшчы яго арыштавалі і прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання.

Сябруючы з Юлікавым Жоржам, у дзіцячыя гады я часта бываў у іх хаце. Асабліва цікава было нам пагойдацца ў сенцах на змайстраванай яшчэ яго бацькам гушкалцы.

Цяпер гаспадыняй роднай хаты стала самая малодшая Юлікава дачка Стэфка, удава Адама Дзядзюлі, які ў апошні час гаспадарыў у нас на калгаснай ферме.

Стэфка жыве ў Старых Дарогах. А сюды як пенсіянерка прыязджае на ўсё лета. Агарод, як і сад, у Стэфкі акуратны, дагледжаны. Як бы там ні было, жыццё на Юлікавай сядзібе працягваецца.

* * *

Што ж да Стафана Дубовіка, яго, як і Ладымера, я не ведаў: ён выехаў з сям'ёй на Дубраўскія Футары яшчэ перад калгасамі. Стафан быў жанаты два разы. З першай жонкай прыдбаў сыноў Міхала і Косціка і дачку Стэфку. Першы сын Міхал трапіў некалі ў Польшчу, у Заходнюю Беларусь. Там ён зрабіўся актыўным камуністам, змагаўся за далучэнне Заходняй Беларусі да БССР. За гэта яго арыштавала польская дэфензіва, і ён восем гадоў сядзеў там у турме, з якой яго вызваліла ў 1939 годзе Чырвоная Армія. Як гэта ні абсурдна, але якраз праз Міхала Дубовіка (толькі за тое, што ён апынуўся ў Польшчы) энкавэдысты забілі яго брацёнікаў Івана і Юліка Дубовікаў, а таксама брата Косціка. Пра іншых Стафанавых дзяцей я нічога не даведаўся.

## Яльніцкія

У Мітрафанавага суседа і сваяка Грышкі Яльніцкага са Стэфкай (не ведаю, з якога яна роду) было чацвёра дзяцей — Аркадзя, Алесь, Ігнась і Ліда.

Самога Грышкі я не ведаў: пакінуў ён гэты свет не пры маёй памяці. Добра помню толькі яго Стэфку, якую ў нас звалі Грышчыха. Ад цяжкай працы, ад вечнага калупання ў зямлі яна сагнулася ў жывы крук. Так сагнутая і хадзіла па вуліцы, ківаючыся з боку на бок, як маятнік. Калі, сустрэўшыся, загаворвала з кім, — паварочвала ў той бок нахіленую к зямлі галаву, якую не магла падняць, і так гаварыла спаднізу.

Яе сыноў Аркадзю і Алеся прызвалі ў армію яшчэ перад вайной. Аркадзя служыў на Чарнаморскім флоце. Я бачыў яго на фотакартачцы — стройнага, прыгожага, у матроскай форме. З вайны ні ён, ні яго брат Алесь не вярнуліся: казалі, яны загінулі ўжо ў яе першыя дні.

У 1944 годзе, пасля выгнання ад нас немцаў, забралі на вайну і малодшага Ігнася. Ён быў ужо жанаты. Я помню яго вяселле ў Грышкавай хаце — жаніўся ён у акупацыю. З Жэняй Казлоўскай, якую знайшоў у Старых Фалічах.

Добра помніцца і яго вяртанне з вайны. Гэта была радасць для ўсёй Зялёнай Дубровы: і з той вялікай калатнечы, аказваецца, можна прыйсці жывым і здаровым. З усяго засценка збегліся людзі паглядзець на вяртанца амаль што з таго свету, павітацца з ім, распытацца ў яго, як «там» і як ён адтуль выбавіўся. Мы, дзеці, таксама паўплішчваліся ў Грышкаву хату

Ігнась быў у новенькай ваеннай форме, стройны, падцягнуты, для нас, дзяцей, нейкі вельмі незвычайны. У маёй памяці засела адна сцэнка. Ігнась у расшпіленай пад барадой гімнасцёрцы з мядзянымі, у сярпаста-малаткастых зорачках гузікамі, сагнуўшыся, мыецца над ночвамі. Яму палівае на складзеныя далоні радасна ўзбуджаная Жэня. Калі Ігнась, не выпростваючыся, адступае ад начовак, яна скоранька здымае з цвіка ў сцяне і падае яму ручнік.

— А можа, жонка, на такі выпадак і лепшы ручнік знойдзецца?

— Няўжо ж не знойдзецца — знойдзецца! От дурная! — ляпае сябе па лбе Жэня і барзджэй бяжыць да шафы, дастае чысценькі, вышыты ў нейкія чырвоныя кветачкі кужэльны ручнік, падносіць свайму Ігнасю. — Ці ж мне шкада для цябе што, родненькі мой!

— О, які гожы! Дзякуй, жоначка! — кажа Ігнась, выціраючыся ім і радасна ўсміхаючыся.

Ігнася паставілі ў нас за брыгадзіра. Кожнай раніцы хадзіў ён ад хаты да хаты, загадваючы на работу. Дзяцей Ігнась з Жэ-

няй чамусьці не выстараліся. Так і памёр ён бяздзетны. Жэня асталася ў хаце Яльніцкіх адна.

Была яна вельмі ядавітая да работы. Ні ўдзень, ні ўночы спакою сабе не знаходзіла. Удзень і калгасную работу паробіць, і сваю, а ўночы яшчэ падахвоціцца ў Залужжа, цэнтр калгаса, на ток — парадкаваць звезенае з поля збожжа. Балазе на працадні пачалі хоць нешта ўжо даваць ды і сенакосу выдзяляць за іх болей. Ну, а з току яшчэ можна было дадому прыхваціць і лішніх кілаграмаў збожжа, якога яна куды толькі ні запіхвала — і ў халявы ботаў, і ў кішэні, і за пазуху, і пояс нейкі рабіла для жыта, апаясваючы вакол сябе пад адзежай.

У яе была нейкая хваравітая сквапнасць. Што толькі не запарве, усё цягне дадому. Здавалася б, колькі там адной трэба — не, усё ёй было мала. Хоць і ў калгасе ўжо някепска зарабляла, і з сваёй гаспадаркі нешта мела, бо дзяржала карову, свіней ды курэй, соткі ўсе свае засявала, але ўсё роўна квапілася на чужое. Дзе што дрэнна ляжала ў каго — тут жа апыналася ў яе. Не раз лавілі яе на кражы. Зойдзе ў Старых Дарогах у краму, выгледзіць што цікавае — і пад паху ці за пазуху. Адбіралі, у міліцыю заводзілі. Але калі потым ізноў заходзіла ў магазін, дзе вочы разбягаюцца ад усяго, рукі самі цягнуліся, каб што прыхапіць.

Калі яна памерла, чаго толькі не знайшлі ў яе сховах з крадзенага ці то ў суседзяў, ці то ў дзяржаўных крамах, а яшчэ немалую кучу грошай. Нічога ўжо з гэтага не змагла яна ўзяць з сабою.

На Грышкавай сядзібе збудавала сабе летні дамок мая сястра Яня са сваімі мужчынамі. Яго ўсё ўдасканальвае руплівы Янін зяць Саша Скрыпнік, які палюбіў гэту сядзібу і Зялёную Дуброву, дзе і праводзіць з сям'ёй увесь свой вольны час.

## Цыпрыян Цагойка

Цераз вуліцу ад сядзібы свацці Пілецкай жылі Франакавы бацькі, якія прыехалі сюды адразу пасля вайны, здаецца, з Навасёлак. Гаспадар хаты Цыпрыян Цагойка для мяне быў вялікай загадкай. Пагаворвалі, што ён — праўда ці не? — ваяваў у войску Булак-Балаховіча і што за гэта быццам бы панёс ужо быў нейкае пакаранне. Я не раз падсаджваўся да яго на прывулічную лавачку, дзе ён часта паседжваў, жалячыся мне, што ў яго моцна баліць, аж расколваецца, галава. Сваё мінулае ён чамусьці не хацеў успамінаць. Калі я скіроўваў у той бок гаворку, ён адразу пераводзіў яе на іншае. Але пра цяперашнія парадкі гаварыў, як

думаў, не баючыся. Калгасы для яго былі горшыя за колішні прыгон. А бальшавіцкую ўладу ён называў д'ябальскай, бандыцкай, ад яе пралілося мора нявіннай чалавечай крыві. І яшчэ невядома колькі пральецца, казаў ён, «пакуль не здохне Сталін». Гэта ўсё гаварылася ў той час, калі кожны дзень з раніцы да вечара радыё, не стамляючыся, трубіла хвалу геніяльнаму правадыру, бацьку ўсіх народаў свету. Мне, тады яшчэ школьніку-старшакласніку, выхаванцу камсамола, што безаглядна верыў ва ўсю тую добра выглянцаваную і раззалочаную прапагандысцкую хлусню, вельмі непрывычна і дзіўна было слухаць такую «контррэвалюцыю».

Цыпрыян Цагойка дачакаўся-такі канца тырана. Але не доўга радаваўся гэтаму: скора пайшоў і сам на вечны адпачынак.

## Герасімовічы

Хату Цыпрыяна Цагойкі купіў вельмі гаспадарлівы і цягавіты Сяргей Герасімовіч з недалёкай ад нас Паўлаўкі, маленькай, ужо заняпалай вёсачкі. Але Цагойкава хата не вельмі яго задавальняла, і ён перавёз з Паўлаўкі сваю вялікую хату і, перасыпаўшы, паставіў яе насупраць, на сядзібе Пілецкай. Калі памерла жонка, ён пайшоў у прымы ў Залужжа. Абедзве ж хаты аддаў ужо жанатаму сыну Толю, такому ж рабоцьку, як і бацька.

Толя стаў рабіць леснікам Каваліцкага лясніцтва, за якім замацаваны і нашы лясы, а яго жонка Наташа з роду Парахнёў — даглядчыцай калгасных цялят.

Спярша Толя з Наташай дзяржалі карову, кабылу, свіней, курэй, гусей. Але паступова ад усяго гэтага пазбавіліся. Нашто тая važджаніна з каровай, вечнае думанне пра сена, калі можна падысці толькі да аўтакрамы, што прыходзіць да нас два разы на тыдзень, падаць грашовыя паперкі, і табе тут жа дадуць пакет ці два малака, кефіру, смятанкі, сыру і — без клопату галава. А замест кабылы Толя прыдбаў трактар не трактар, — нейкую чмыхаўку з невялікім кузавам і пачмыхваў ёю на загуменні ды на сотках, пакуль не прыдбаў нейкага «казла» на чатырох колах.

Са шкадаваннем думаю, што Герасімовічы — адзіная ў нас працаздольная сям'я, а Толя — і адзіны на ўсю вёску мужчына, які стала тут жыве, — і летуе, і зімуе, нікуды не выязджаючы, як мы, «дачнікі».

Да апошняга часу ў Герасімовічаў было трое дзяцей — Алеся, Ксеня і Арцём. Усе яны — школьнікі. Ходзяць у школу ў Ста-

рых Дарогах, дзе жывуць у сваёй бабулі — Наташынай мацеры. Прыязджаюць дадому аўтобусам на выходныя і на канікулы.

А зусім нядаўна, едучы аўтобусам дадому, чую навіну: Наташа радзіла яшчэ аднаго хлопчыка! Максіма. Так што жыве Зялёная Дуброва!

## Паўловічы

Сярод першых зялёнадуброўскіх пасяленцаў былі два браты Паўловічы — Франук і Юзік.

Франук меў чатырох дзяцей — сына Казімера і дочак Фронку, Авалінку і Сабіну. Дочкі павыходзілі замуж, а на бацькаўшчыне сеў Казімер. Ажаніўся ён з Касперавічанкай Аўлінай. У нас усе яе звалі Казімерыха. Сам гаспадар памёр рана, аставіўшы на руках у жонкі пяцёра дзяцей — Адама, Аўгустына, Флёрыка, Боню і Сабіну.

Казімерыха ставіла дзяцей на ногі адна. У калгасе было гэта зусім не проста. Але ўсё неяк ішлося б, калі б… Калі б не той ненажэрны цмок — НКВД. І да яе, ні ў чым не вінаватай калгасніцы, прычапіліся савецкія апрычнікі. Зацягнулі ў сваю катоўню ў Старых Дарогах. Скатаваную і знясіленую адпусцілі ўсё ж да дзяцей — якраз знялі «перагібшчыка» Яжова. Ды самае большае гора было яшчэ ўперадзе. Калі пачалася вайна, адразу двух старэйшых сыноў — Адама і Аўгустына — забралі бараніць «савецкую радзіму», і яны ў першыя ж дні ваеннай калатнечы склалі недзе свае галовы.

Гаспадаром сядзібы стаў малодшы з Казімеравых сыноў Флёрык (або Флёрка). Жонку ён знайшоў сабе недзе пад Глускам. Стэфка была шчупленькая і вельмі сціплая жанчынка, добрая, як бы трохі нясмелая. Нарадзіла яна трое дзяцей — сына Броніся і двух дачок. Радаваліся бацькі, як растуць, забаўляюцца дзеці. Але, мусіць, на ўсё астатняе жыццё гэтую іх радасць азмрочыла вялікая сямейная трагедыя.

Флёрка з падлеткам сынам любілі хадзіць на паляванне. От і гэтым разам закінулі яны за плечы стрэльбы і пайшлі ў лес. Намерыліся ўпаляваць не нейкага там зайца ці глушца, а добрага звера — дзіка ці лася. Разышліся ў два бакі — бацька ў адзін, сын — у другі. Асцярожна ступаюць паміж дрэў, стараючыся не шумець, баючыся ступіць на які сучок, каб не пачуў звер. Доўга ці мала хадзілі яны так па лесе, як Флёрыку пачулася ў кустах моцнае шамаценне. Перад вачамі махнулася нешта цёмнае. Лось, няйначай! Падняў Флёрык стрэльбу і, не марудзячы, націснуў на

курок. Калі ж падбег туды, утрупянеў: на зямлі ляжаў прашыты яго шротам… сын!

Цяпер, калі я гэта пішу, Бронісю Паўловічу было б пад пяцьдзясят гадоў, ён ужо меў бы сваіх дзяцей, потым унукаў. Пайшоў бы шырыцца па свеце род Паўловічаў…

Як перажыла сям'я трагедыю, не цяжка ўявіць. Ні з чым не параўнаная страта не магла не падтачыць здароўе бацькоў. Вельмі чулая і жаласлівая Стэфка памерла першая.

Больш моцны Флёрка ажаніўся другі раз. Узяў сабе за жонку медыцынскую сястру з Мінска Веру. Жылі яны добра, у злагадзе. Паступова ў Флёркі залечваліся душэўныя раны. Ён уверыў, што ў кожнага ёсць сваё наканаванне, што ўсё робіцца так, як дае Бог. У гэтым знаходзіў ён супакаенне. Ізноў радаваўся жыццю Флёрка Паўловіч. Ён, хоць за плячыма меў болей за сем дзясяткаў гадоў, не ведаў яшчэ ўтомы, завіхаючыся з жонкай на сваёй гаспадарцы.

Але неспадзявана Флёрка злёг. Раптоўны інсульт амаль прыкаваў яго да пасцелі. А меў жа ён яшчэ здаровае сэрца, ні на што дагэтуль асабліва не наракаў. Хвароба як бы заблакавала яго нерастрачаную яшчэ моц.

Адзін кур'ёзны выпадак. Калі маладзенькія санітаркі, прыехаўшы са Старых Дарог на «Хуткай дапамозе» забіраць хворага ў бальніцу, ужо неслі яго на насілках у машыну, нерухомы, разбіты палярушам Флёрка, убачыўшы акруглыя формы адной з іх, адразу ўстрапянуўся і не ўцярпеў — нечакана аджылай рукой добра ўшчыкнуў дзяўчыну за вабную палавінку вышэй сцягна, за што, праўда, тут жа палучыў ад жонкі па руках. Пра гэта яна сама мне расказала.

Як свайго суседа я не раз праведваў прыкаванага да пасцелі Флёрку. Прыязджаючы з Мінска, прыносіў яму выразкі з газет, дзе расказвалася, як ратавацца ад ягонай немачы. Рабіў ён так, як раілі газеты, ці не, але памалу ішло ў яго на папраўку.

Чарговым разам я вёз яму з Мінска газету «Народны доктар» з вялікім, вельмі пераканаўчым артыкулам пра змаганне з інсультам. Ды калі, прыйшоўшы з Фаліч, ад поезда, ступіў на сваю вуліцу, убачыў пры Флёркавым двары грузавую машыну з адкінутым заднім бортам і з свежымі яловымі лапкамі ў кузаве. Няўжо? Але сумнення не магло быць.

Пахаваўшы гаспадара, Вера з'ехала ў Майсеевічы, дзе вельмі скора ізноў выйшла замуж. Хата асталася за Флёркавымі дзецьмі, якія даўно абжыліся ў горадзе і ў якіх ёсць свае «дачы», куды

не так далёка, як да нас, дабірацца. Яшчэ адна хата ў Зялёнай Дуброве запуставала.

Толькі зусім нядаўна яе купіў зяць маёй суседкі Вікці Федзя Крывальцэвіч, які адразу ж узяўся прыводзіць яе да ладу. Ну што ж, яшчэ хоць трохі павесялее Зялёная Дуброва.

* * *

Брат Франука Паўловіча Язэп пасяліўся за вуліцай. Быў ён няўтомны рабоцька, з цямна да цямна завіхаўся на полі, на сенакосе, на падворку. Ды і як жа было не завіхацца, калі гэтулькі ратоў чакала ў хаце. Ні многа ні мала — дзесяць сынкоў і дочачак даў яму з жонкай Бог. Яська, Гіляр, Кароль, Бэрнусь, Зэна, Пятрусь, Юлька, Амэля, Яніна, Мальвіна — іх імёны.

Яська і Кароль, ажаніўшыся, аддзяліліся ад бацькі і пабудаваліся побач з сядзібай іхнага дзядзькі Франука Паўловіча.

Хацеў Язэп кожнага з дзяцей вывесці ў людзі, кожнаму даць людскую долю. Але замест долі ім была падрыхтавана на сваёй зямлі злая нядоля. Бяссонны энкавэдысцкі чорны воран аднае начы схваціў у свае драпежныя кіпцюры і яго, Язэпа, гаспадара вялікага сямейства, і старэйшага сына Яську, які толькі што распачынаў ладзіць лад у сваёй уласнай хаце, нават паспеў пачуць галасок сваёй маленькай дачкі Ванды, народжанай яго маладой жонкай Анэтай. І от пакалываліся па калдобістых сельскіх дарогах у цёмнай, без вокан машыне-душагубцы бацька і сын, на недарэчныя нечалавечыя катаванні. У іх былі яны цяжэйшыя, чым у каго, удвая. Бо яшчэ больш, чым свае, было бачыць бацьку пакуты сына, а сыну — пакуты бацькі. Ды свой і душэўны, і цялесны боль, свае скаргі на долю панеслі яны ў магілу, атрымаўшы пасля ўсіх катаванняў па тупой чэкісцкай кулі ў патыліцу. За нішто ні пра што.

Не проста склалася жыццё ў выгадаваных без бацькі і іншых дзяцей «ворага гарода». Гіляр, як мне расказала яго ўнучка, Галіна Станіслаўна Малалеткіна, па-геройску загінуў на фронце, змагаючыся з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Пятрусь загінуў, таксама невядома як, у Мінску, дзе на некага вучыўся. Кароль, трапіўшы ў нямецкі палон у пачатку вайны, быў выкуплены роднымі ў ахоўнікаў канцлагера і памёр дома ад знясілення. Зэна некуды з’ехаў з Зялёнай Дубровы. Язэпавы дочкі павыходзілі замуж і, здаецца, усе парабіліся неўзабаве маладымі ўдовамі — хто «дзякуючы» НКВД, хто — нямецкім прыхадням.

На бацькавым селішчы астаўся жыць шосты з Язэпавых сыноў — Бэрнусь, які ўзяў сабе за жонку Галляшову дачку Кацю. Доля для яго была больш літасцівая. Ён двойчы выбавіўся з кіпцюроў смерці. Першы раз — з яжоўскай катоўні, куды яго — трэцяга з адной сям'і — схапіў чорны воран. Бэрнуся выпусцілі ў 1938 годзе разам з Галляшом, Казімерыхай і іншымі дуброўцамі, не паспеўшы пусціць «у расход». Другі раз — калі яго забралі былі на вайну, і вайсковую часць, у якую яго прызначылі, акружылі пад Слуцкам немцы. З акружэння яму ўдалося ўцячы дадому. Быў з ім тады і Анцік Сянькоўскі. Калі Бэрнусь сказаў яму ўцякаць разам, той спалохана замахаў рукамі: «О не, не! Гэта ж будзе дэзерцірства!» Анцік астаўся ў акружэнні і трапіў у нямецкі палон, адкуль жывым ужо не выбавіўся. А «дэзерцір» Бэрнусь дажыў на бацькаўшчыне да канца сваіх дзён.

Мне ён запомніўся тым, што вельмі хораша іграў на скрыпцы. Здаецца, тады спраўлялі радзіны некаторага з яго дзяцей. Мяне так зачаравала яго ігра, што я з нецярпеннем чакаў яшчэ яе калі-небудзь паслухаць. Ды больш я ніколі не чуў Бэрнусевай скрыпкі. Не да яе, мусіць, было радавому калгасніку, якому, каб пракарміць пяцёра дзяцей, вунь як трэба было круціцца.

Да таго не ўсё ладна было ў яго сям'і. Адзін з сыноў Казік нарадзіўся гарбаценькім. Я трошкі сябраваў з ім, мы вучылі ў яго хаце разам урокі. Яго так скруціў горб, што хлопчык і школу пачатковую не ўспеў закончыць — памёр. Не помню, праз які час, услед за сынам пайшоў на той свет і бацька.

Аўдавелая Каця даўно прадала сваю хату і з'ехала адсюль з дзецьмі. На сядзібе разросся сліўнік, з яго цесных абдымкаў выціскваецца ўверх здзічэлая Бэрнусева ігруша — уся памяць пра колішняе селішча Язэпа Паўловіча і яго племені.

## Дзедаўшчына

Калі засноўвалася Зялёная Дуброва, мой дзед Сымон і яго два браты Алесь і Уладзя пасяліліся пасярэдзіне засценка. Дзед Сымон разам з братам Алесем пабудавалі ўздоўж вуліцы адну хату на дваіх — на дзве палавіны, ці на дзве хаты, якія раздзяляліся паміж сабой агульнымі сенцамі. Потым Алесь сваю палавіну перанёс трохі ўбок і паставіў асобна.

Дзедаву хату я помню ўжо без Алесевай палавіны. З бакавой, даўжэйшай сцяны хаты глядзелі на вуліцу два акны. Справа ад акон помняцца мне збітыя з шырокіх дошак, трохі заглыбленыя між тоўстымі вушакамі дзверы, акурат напроці прывулічных

варотцаў. Адшчапіў варотцы, ступіў на ганак і націскай на клямку. Свежы чалавек, пераступіўшы парог і зачыніўшы за сабой дзверы, мог разгубіцца, бо апынаўся ў абсалютна цёмных вузкаватых сенцах, дзе вачам не знаходзілася за што і зачапіцца. Ды калі ён, як сляпы, з працягнутымі рукамі і растапыранымі пальцамі ішоў уперад, то ўпіраўся ў другія дзверы, якія вялі ў двор. Калі ж намацваў дзверы на зашчапцы з правага боку, то трапляў у вельмі цьмяную кладоўку з адным запыленым акенечкам — зашклёным выразам у бервяне папярочнай сцяны. Ну, а як пальцы знаходзілі нарэшце клямку злева, у яго адлягала на душы: ён уваходзіў у добра асветленую прасторную хату без перагародак.

У хаце, справа, пры самых дзвярах, вісела на дроце вядро з вадой. Там жа, толькі трохі глыбей, месцілася печ. Напроці вусця печы каля акна прытыкаўся к сцяне невялікі кухонны стол, пры якім стаялі зэдлі. Тут сям'я садзілася есці. Ад печы ўздоўж тыльнай сцяны ішлі адзін за адным ложкі. Вядома ж, самаробныя, драўляныя. Каля папярочнай сцяны — таксама, здаецца, з двума вокнамі, — бліжэй к покуці, к багам, красаваўся засланы нечым лепшым, з высокімі падушкамі ў карунках куплёны жалезны ложак з блішчастымі нікельнымі біламі.

У дзедавай хаце сямейных таўклося нямала: сам дзед з бабуняй, мой бацька з маткай, а потым і са мной, аўдавелая цётка Саша з дачкой Казяй і сынам Алеськам, малодшы бацькаў брат Федзя, бацькавы сёстры Маня і Анэта.

У маёй памяці нічога не засталося з таго далёкага часу, бо неўзабаве бацькі перабраліся ў сваю хату, купленую ў Міхала Яльніцкага. Я помню сябе ў дзедавай хаце ўжо як «госць». Вельмі часты госць. Бо тут наладзіліся ў мяне розныя дзіцячыя гульні са стрэчнай сястрой Казяй, старэйшай за мяне на два гады.

Дзед Сымон, якога я яшчэ застаў у маленстве, быў «з характарам». Усе адзначалі яго як вельмі ганарыстага «двараніна». Усюды і ўсім выхваляўся ён сваім «дваранствам», задаваўся ім. Дайшоў да мяне такі «анекдот». Аднаго разу паехаў мой дзед Сымон на сваім заліхвацкім вазку ў Хорашава праведаць брата Алеся. Праязджаючы Дражню, убачыў на вуліцы гурт мужчын. «Расступіцеся, мужыкі, дваранін едзе!» — гукнуў ім мой дзед, ляснуўшы сырцовай пугай. Задзела дражненцаў такая пыха. Замест таго, каб расступіцца, даць майму дзеду дарогу, яны схапілі за аброць каня і, не шкадуючы, наўскідалі «двараніну» моцных мужыцкіх кухталёў.

Мая радня з мацерынага боку падсмейвалася з яго нядбальства, лічыла майго дзеда гультаём і гулякам. А, ведама, раз ён з гуляк, то і галяк. Казалі, і ажаніўся ён з разліку. А разлік такі: гонару многа, а грошай мала. Трэба было шукаць рашэння гэтай арыфметыкі.

Прачуў мой, тады яшчэ малады, дзед, што недзе ў слуцкім баку, у засценку Шантароўшчына марнуецца на выданні адна шляхцянка з пасагам. Прыфранціўся дваранскі сын Сымон, падкруціў свае унтэр-афіцэрскія вусы, да бляску нацухмоліў нейкім модным мазідлам святочныя хромавыя боты і, пасадзіўшы побач гаваруна-свата з Жыціна, пакаціў расфарбаванай параконнай брычкай на жалезных рысорах па шчасце. Спярша, калі тарахцелі асіповіцка-шышчыцкім шляхам, коням беглася лёгка і весела. А як, не даязджаючы Жылін-Брода, звярнулі налева, на вузенькую ямістую дарогу, давялося прытрымліваць разгарачаных коней, якія ледзь працiскваліся між падступных з абодвух бакоў прымшэлых хвой ды шырозных, парэпаных у камлі бяроз. Толькі недзе надвечар дапхнуліся па выбоінах ды лаўжах у той занесены нейкім ліхам у самую глыб панурых лясоў шляхецкі двор. Стукнулі-грукнулі ў дзверы гасподы, і сватхват, памянціўшы сваім доўгім языком пра купцоў-малайцоў, што шукаюць цялушку на продаж, з маху пляснуў на стол у красным куце ладную пляшку чыстай, як сляза, акавіты жыцінскага вырабу, адмыслова заказанай у карчме. І калі толькі-толькі знятая з прыпеку, з жару, запухкала пры пляшцы пахкая яечня са скваркамі, сват запатрабаваў паказаць тавар. Адхінулі полаг перагародкі, каб выставіць «тавар» на «купецкія» вочы, ды яго і след прастыў! Знік, прапаў! Абшукалі ўсе куткі і закуткі хаты — няма! Мо дзе на дварэ? Зазірнулі ў гумно, у варыўню, у хлявы, у куратнік — і духу не чуваць! І толькі на гары, за комінам знайшоў свой «тавар» бацька. Засцянковая паненка, якая ў лясной глушэчы бачыла болей ваўкоў ды мядзведзяў, чым людзей, яшчэ на дарозе змецiўшы з акна чужую брычку, ледзьве не ўмлела ад сполаху: гэта ж па яе душу едуць! Тады і кінулася хавацца. Бацька сілай вывалак дачку з гары і выпхнуў на хату. Як укопаная стаяла яна ў парозе, залітая чырванню, не падымаючы ні на кога вачэй, не чуючы, што там гавораць каля стала. Толькі калі ад'ехалі сваты, уведала, што яна ўжо заручаная.

А дзед Сымон, хоць і падвесяліў галаву хмелем, але, варочаючыся назад, трохі звесіў вусы, апанурыўся: ці не ўскочыў шчупачок у нерат? Бо не вельмі прыглянулася яму нявеста: нос

доўгі, з гарбінкай пры самым пераноссі, сама таксама нейкая прыгорбленая.

Да самага вяселля вагаўся мой продак: выблытвацца з нерата ці сядзець ужо там не рыпаючыся? Ды яго хістанні пераважыла даволі ладная каліта з шалёсткімі дукатамі, што наскладаў шантароўшчынскі гаспадар Аляксандр Дарэўскі ў пасаг за дачкою: баяўся, каб хаця не заседзелася ў дзеўках, бо яшчэ год-два, і калом тады не выпраш з хаты. Загуло, зазвінела вяселле, і дзед Сымон у расквечанай усякімі стужкамі-шмушкамі брычцы пад залівістыя скрыпкі і бубны прыкаціў з мядзведжай Шантароўшчыны ў весялейшую трохі Зялёную Дуброву маю бабку Дарэўшчанку.

Ніхто не скажа, колькі доўжыўся мядовы «месяц» у маладых Сымона і Гэлены. Ведаю толькі са згадак дуброўцаў, што мой дзед не надта трымаўся жончынай спадніцы, што па нядоўгім часе пасля жаніцьбы кінуўся ён у ранейшы, халасцяцкі, загул, бо меў шырокую натуру і спагаднае сэрца. Спагаднае найперш да навакольных паненак з даўно саспелымі вішнямі губ ды перапоўненымі пяшчотаю, як тыя пчаліныя соты мёдам, вабнымі ўзгорачкамі акурат пад тонкім паркалікам. Паненкі гэтыя проста гібелі ў невыносным чаканні жаніхоў-тугадумаў, якія па шляхецкай завядзёнцы да трыццаці, а то і сарака гадоў і слухаць не хацелі пра шлюбнае ярмо. От і ездзіў мой дзед Сымон суцяшаць знябытых шляхецкіх дачок.

Мая бабка ведала пра гулі свайго Сымона, ды калі бралася папікаць яго, ён злосна ашчэрваўся і гатоў быў змяшаць яе з гразёю, а потым, бразнуўшы дзвярыма, зусім з'язджаў на некалькі дзён з дому. Яна ж, натупаўшыся каля печы, падаваўшы курам ды свінням, суцішыўшы дзяцей (калі тыя паявіліся), садзілася пры акне на ўслон і ціха сама сабе румзала, раз-пораз смаркаючыся ў фартух і выціраючы ім счырванелы нос. Урэшце змiралася са сваёй доляй — ведала: колькі ні будзе галагуцкі певень лётаць па загуменні, а ўсё роўна прыпляцецца сваёй парою на куросадню.

Валацужнічаючы па ваколіцах, мой дзед з часам растрос, пусціў на вецер усё пасажнае золата, а сам зноў зрабіўся гол як сакол.

З гаспадаркі ж, якую глядзеў праз пень-калоду, толькі мог ледзьве пракарміць сям'ю, часта не ведаючы, як звесці канцы з канцамі.

Каб трымаць форс, не свяціць латкамі на «дваранскіх» нагавіцах, дзеду Сымону даводзілася прыпазычваць грошы, залазіць у даўгі. З часам іх назбірвалася гэтулькі, што ён і лік ім

губляў. Мая маці, згадваючы цесця, казала мне не без кплівасці, што ён «быў у даўгах, як сабака ў кляшчах».

Я застаў свайго дзеда ўжо на схіле ягонага веку.

Як цяпер помню яго каля даўгой, збітай з грубых дошак сталюгі перад закуродымленай калгаснай кузняй, якая цямнела сваім бляшаным дахам за вуліцай засценка, наводшыбе і ў якой рабіў кавалём ягоны сын, а мой бацька. Дзед штосьці стругаў там, налягаючы ўсім тулавам на вялікі гэбель, і я, заварожаны, глядзеў, як з гэтага гэбля раз за разам шугалі, скручваючыся ў кольцы, раі залацістых стружак. Цэлыя гурбы гэтых стружак-завітушак высіліся каля дзеда.

На ўсё жыццё захавала мая памяць і дзедаў падарунак — драўляны малаточак, які ён выштукаваў на сваім варштаце і прынёс мне ў хату. Такі зграбненькі, выгладжаны-вытачаны, акуратненькі! Я і з рук яго не выпускаў, спаць з ім лажыўся. Дзіва што — гэта была адна-адзіная цацка ў маім дзяцінстве.

Больш помніцца мне дзед у ягонай хаце, дзе я прабаўляўся, мусіць, часцей, чым дома — дняваў там і начаваў. Добра запомнілася мне, як вечарам, перад сном ён ставіў мяне на зэдаль і, задраўшы сваю палатняную кашулю, казаў чухаць яму спіну. Я пачынаў паскрэбваць абедзвюма рукамі паміж вострымі выступамі касцістых дзедавых лапатак, але гэта яго не здавольвала, і ён падганяў мяне скрэбці мацней. Тады я, не зважаючы на шурпатасці ды розныя прышчакі на дзедавай спіне, пачынаў з усёй сілы дзерці яе сваімі кіпцямі. Ён пакручваў спіну перада мной і ўсё прыгаварваў: «О так! О Так! Ішчэ! Ішчэ!» Убачыўшы, што я стамляўся, ён апускаў кашулю і здымаў мяне з зэдля. Калі я, пішучы пра ўсё гэта, пазваніў сваёй, ужо састарэлай, з кіёчкам-падпоркай у руках, стрэчнай сястры Казі і папрасіў таксама ўспомніць нашага дзеда, яна прызналася, што не любіла яго якраз за тое, што і яе змушаў чухаць пад лапаткамі.

І яшчэ ўрэзаўся мне ў памяць адзін «абразок». Нехта надумаўся аклеіць бярвенныя сцены дзедавай хаты шпалерамі. Пад імі, у пазах між бярвёнамі, быў праўдзівы рай для мышэй. Я добра бачыў, як ўздымаліся шпалеры, калі якая з іх там прабягала. Пачуўшы шамаценне, дзед Сымон браў відэлец (здаецца, адзін зуб у ім быў абламаны) і, нацэліўшыся, хуценька тыкаў ім у нябачную мыш. Тая, піскнуўшы, шлёпалася за шпалерамі недзе ўніз, а дзед здаволена выціраў відэлец аб свае «дваранскія» споднікі. Як ён даставаў здабычу з-пад шпалераў і ці даставаў зусім, я ўжо не прасачыў.

Напрыканцы жыцця дзед, як я цяпер разумею, хварэў на страўнік. Бо вельмі часта ішоў у мыцельнік з поўнай лыжкай соды, закідваў яе ў рот і запіваў вадой з алюмініевай конаўкі, што вісела на тым жа круку, што і вядро.

Але я не бачыў, каб дзед калі ляжаў. Не бачыў таксама і як ён паміраў. Не ўгледзеў і на возе, на якім яго везлі хаваць. Вельмі цьмяна запомніўся мне толькі гэты воз на вуліцы, людзі, што ішлі за ім. Ды я за возам не пайшоў, мне было не цікава: я яшчэ не разумеў, што дзед ужо ніколі не вернецца, увогуле не ведаў, што такое смерць. Мне ж тады было гадоў пяць.

Упершыню я пачаў усведамляць смерць, калі памерла ад сухотаў старэйшая дачка дзеда Сымона, мая цётка Саша. Прыйшло да нас гэтае гора, здаецца, неўзабаве пасля дзедавай смерці. Ад некага я пачуў, што цётку Сашу закапаюць у зямлю, што гэтак жа закапалі і майго дзеда. Закапванне чалавека ў зямлю і дало мне нагляднае ўяўленне пра смерць. У той жа дзень, як павезлі хаваць маю цётку, якая, зрэшты, мне чамусьці нічым не запомнілася, я, знайшоўшы на руцэ нейкую зусім нязначную высыпачку, убіў сабе ў галаву, што гэта і па мяне прыйшла смерць і што мяне таксама «закапаюць». Я кідаўся ў роспачы на дзедавай печы і заліваўся горкімі слязамі, пакуль мяне не суцешылі, не растлумачылі, што я зусім здаровы.

Ад Сашы асталося двое малых дзяцей — Казя і Алеська, Казін бацька Яська Каспяровіч, якога звалі за малы рост Мэшкам, яшчэ раней за Сашу памёр ад туберкулёзу, а Алеськаў — дуброўскі настаўнік Грынюк — не вярнуўся з фінскай вайны. Наша бабуня Гэля, памятаючы, што Бог сірот любіць, але долі не дае, вельмі шкадавала ўнучку і ўнука, стараючыся ўсім замяніць ім матку.

Другая Сымонава дачка Маня выйшла замуж за рускага хлопца, вайскоўца Апарына і з'ехала з ім, здаецца, у Мурманск. Пасля вайны яна вярнулася дадому адна з сынам Жэнем. Тут нарадзілася ў яе яшчэ дачка Тамара. Потым цётка Маня выйшла замуж у Суцін за Казю Гумінскага, добрага і гаспадарлівага чалавека.

Малодшы бацькаў брат Федзя, адпартызаніўшы ў вайну, з'ехаў у Мінск, дзе яго ўзялі ў міліцыю шоферам. Калі я паступіў на вучобу ў Белдзяржуніверсітэт, часта заходзіў да яго ў невялікую хаціну на Перадавой. Жыў ён не горш за іншых. Ды от бяда: вельмі любіў дзядзька прыкладацца да чаркі. Яна і памагла яму ў пяцьдзясят пайсці на вечны спачын.

Маладзейшая з бацькавых сясцёр Анэта пасля вайны выйшла замуж за Віню Казлоўскага, брата Жэні Казлоўскай. Спярша «маладыя» атайбаваліся ў нашай бабуні — цётчынай мацеры. Не знаходзячы ў Зялёнай Дуброве ніякага разгарнення, яны, як і цётка Маня, перабраліся ў Суцін, на Красны пасёлак — у саўгас «Залог пяцігодкі». Разам з хатай забралі туды і нашу бабку Сымоніху, якая дажыла там да ста пяці гадоў і была пахавана на суцінскіх могілках у Сарафінаве.

Выгадаваныя бабуняй Казя і Алеська знайшлі сабе работу ў Мінску, дзе і пусцілі свае карані.

Што ж да цёткі Анэты, то канец яе быў вельмі трагічны. Віной тут — Вінеў шалёны характар. Быў ён вельмі запальчывы, гарачы. Чуць што не па ім, узгараўся як порах. Ад гэтага і з людзьмі нідзе не ладзіў. За ўсякую драбязу з любым мог счапіцца загрудкі, а калі мала было кулакоў, хапаўся і за сякеру. Ад гэтага не раз апынаўся на турэмных нарах.

Узгадваючы Віню, не магу — для аб’ектыўнасці — абмінуць і тое «дадатнае», што бачыў у ім. Чаго было ў яго не адняць, дык гэта заядласці ў рабоце. За што б Віня ні браўся, усё рабіў ён вельмі шчыра, грунтоўна. І ніколі не кідаў пачатага, пакуль не даводзіў да канца. Прыходзячы з Зялёнай Дубровы да цёткі Анэты і бабуні ў Суцін, мне не раз выпадала памагаць у чымнебудзь Віню — рэзаць з ім дровы, парадкаваць і стагаваць прывезенае з поля сена. Бывала, завяршалі мы з ім на прыгуменні стог ужо цёмначы. У той час, калі я, навярэдзіўшы віламі рукі, накідаўшыся сена, проста падаў ад утомы, Віню ж, які цэлы дзень перад гэтым «укалваў» на саўгаснай рабоце (рабіў ён у будаўнічай брыгадзе), было хоць бы што. Як той уюн, круціўся і круціўся ён каля стога. Ужо навобмацак звязваў і ўздзяваў на сцежар апоўнізы, а потым яшчэ абгладжваў граблямі бакі стога, падграбаючы яго падніз, бліжэй к адзёнку — каб не намокла на дажджы.

Калі я глядзеў на такое яго шчыраванне, у галаву прыходзіла думка: гэта ж каб не злосць, якая сядзела ў ім вельмі блізка і якая, ускіпеўшы ад любога неасцярожнага слова, гатова была вырвацца з яго кожную хвіліну, мусіць, не знайшоў бы лепшага, як ён, гаспадара, лепшага сем’яніна, лепшага чалавека.

Я часта гадаў: адкуль у Віні была тая неўраўнаважанасць, нястрыманасць у пачуццях? Ці не сама прырода зрабіла яго такім? На гэтую думку наводзіла мяне Вінева знешнасць. Быў ён невысокі, шчуплы, з вельмі вузкім падбародкам і з гэтакім жа вузкім, нібы прыплюснутым ілбом. Такая ж прыплюснутасць

твару кінулася мне ў вочы і ў яго бацькі, якога я толькі адзін раз бачыў мімаходзь у Фалічах.

Толькі праз свой характар не ўжыўся ён з маёй цёткай Анэтай. Першыя гады пасля жаніцьбы жылі яны ў ладзе, асабліва калі радзіліся адзін за адным два хлопчыкі — Толя і Віця. Але потым — пайшло-паехала. Мая цётка была не з тых жанчын, якія маўчком глытаюць несправядліва кіданыя на іх камяні крыўдаў. Яна тут жа адкідала гэтыя камяні назад, у твар свайму крыўдзіцелю, выгаворваючы ўсё, што пра яго думала, — без ніякай дыпламатыі. Жыццё ў сям'і стала пеклам.

Цётка Анэта цвёрда намерылася ўцячы з хаты разам з сынам Віцем — большы ўжо завёў быў сваю сям'ю. Сказала пра свой намер Віню, на што ён адказаў, што, калі яна гэта зробіць, ён усюды знойдзе яе і заб'е.

Усё ж яна ўлучыла момант і ўцякла з хаты. Зайшла ў Мінску да мяне на кватэру і папрасіла дзе-небудзь устроіць яе на работу, лепш за ўсё не ў горадзе.

Работу я ёй знайшоў, праехаўшы поездам у Барысаўскім накірунку і сышоўшы ў рабочым пасёлку Краснае Знамя. Дырэктар тутэйшай школы, да якога я зайшоў і расказаў пра ўсё, даў маёй цётцы месца прыбіральшчыцы ў школе, выстараўся пакойчык у нейкім інтэрнаце, і маці з сынам тайком перасяліліся сюды. Віця і вучобу ў школе тут узнавіў.

Але Віня нейкім спосабам дазнаўся пра ўцякачку. Таму цётка Анэта папрасіла мяне знайсці ёй другое, больш схоўнае месца. Яго я напытаў у пісьменніцкім Доме творчасці «Каралішчавічы», дзе якраз патрэбна была прыслуга: наўрад ці дапяў бы Віня ў Каралішчавіцкі лес.

Аставалася толькі аформіць патрэбныя паперы, як…

Перад гэтым «як» адбылося от што. Віня прыслаў жонцы пісьмо — здаецца, на адрас сына Толі, які жыў з жонкай і малым дзіцем у Мінску. У пісьме тым Віня пісаў Анэце, што ён не трымае на яе крыўды за ўцёкі і за ўсё і што хай яна прыедзе да яго ў Суцін і набярэ, колькі ёй трэба, бульбы са склепа — каб хапіла і ёй, і дзецям.

Паверыла цётка Віневаму пісьму. Сеў Толя ў машыну, пасадзіў побач матку, і яны паехалі ў Суцін. І там адбылося тое, чаго ніхто не чакаў. Выйшаўшы каля двара з машыны, скіравалі к ганку — спярша Анэта, а потым і сын. Толькі падышла мая цётка к дзвярам, як яны расчыніліся і там паказаўся Віня з настаўленай на яе паляўнічай стрэльбай. Грымнуў стрэл. Падаючы, цётка Анэта толькі ўспела крыкнуць:

— Сынок, уцякай — у цябе ж дзеці…

Гэта былі апошнія яе словы.

Толя кінуўся ўбок. Бацька стрэліў і па ім, ды толькі збіў з галавы шапку.

Тады Віня зачыніўся ў хаце. Збегліся людзі. Але ніхто пад хату не адважваўся падысці.

Пад’ехала міліцыя. Яна доўга ўгаворвала Віню адчыніць хату, але там было ціха. Калі выламалі дзверы, Віня вісеў на вяроўцы, зачэпленай за бэльку. Нежывы. Перад гэтым ён пагаліўся, адзеўся ва ўсё чыстае.

Так мае брацені Віця і Толя Казлоўскія сталі ў той дзень круглымі сіротамі.

* * *

Хата дзедавага брата Уладзі, якога чамусьці дражнілі Бацька, стаяла ў адзін рад з хатай дзеда Сымона, адразу за яго сядзібай. Ад яе я не знайшоў ужо аніякага знаку. Дзе дзеўся Уладзя, мне ніхто не сказаў. Ад яго асталіся сыны Іван і Зэна і дочкі Надзя, Анюта і Лёня. Абодва Уладзікавы сыны загінулі на фронце. У вайну адна з яго дачок Лёня ўцякала ад нямецкага хапуна, і яе падстрэлілі паліцаі. Пісараў Саша, які таксама бег тады з ёю полем у лес, расказваў, што снег пад ёй зачырванеўся ад крыві. Праўда, рана аказалася несмяротнай, і дзяўчыну ўдалося адратаваць. Пасля вайны абедзве стрэчныя сястры майго бацькі некуды з’ехалі з Зялёнай Дубровы.

* * *

Дзедаў брат Алесь таксама не доўга жыў у Зялёнай Дуброве: мусіць, не было яму тут дзе разгарнуцца з гаспадаркай. Недзе ў пачатку дваццатых гадоў ён перабраўся з сям’ёй пад Слуцак, у Хорашава — на радзіму сваёй жонкі Марылі.

Сем’і дзеда Сымона і яго брата Алеся і пасля гэтага не кідалі дружыць паміж сабой, часта прыязджалі адны да другіх у госці.

У Алеся было чацвёра дзяцей: сын Іван і дочкі Саша, Алімпа і Анюта.

Перад вайной мне выпала ўбачыць Алесевага сына Івана, бацькавага брацеліка. Ён прыязджаў да майго бацькі ў госці. Запомніліся дзве яго дочкі Галя і Ванда, якіх ён узяў з сабой. Яны ўжо былі школьніцамі малодшых класаў і прывезлі з сабой чытаць нейкія кніжкі. Я быў вельмі рады такім разумным сваяч-

кам, якіх дагэтуль не ведаў. Іх бацька, седзячы ў нас за сталом з маімі бацькамі і яшчэ з некім і добра падвыпіўшы, падазваў адну з дачок Галю, абняў яе адной рукой і зацягнуў песню:

Ой, ты Галя, Галя маладая…

Помніцца, усім тады было весела, усе падхоплівалі Іванавы песні. Пераначаваўшы ў нашай хаце, госці паехалі на сваёй падводзе назад у Хорашава. Здаецца, гэта было ў чэрвені 1941 года, у першай палавіне месяца, калі ішлі апошнія мірныя дні.

У вайну Іван Цвірка пайшоў у партызаны, быў там кулямётчыкам. У адным баі атрад трапіў у складаны пераплёт, партызан пачалі цясніць немцы. Іван крыкнуў сваім:

— Бяжыце к лесу, а я іх прыдзяржу!

Ён залёг са сваім кулямётам за нейкім узгорачкам і пачаў страчыць па немцах. Але іх было надта многа. Яны акружылі кулямётчыка і, падкраўшыся, навaліліся на яго, звязалі. Потым прывязалі ззаду да машыны і на поўным хаду павалаклі яго на вяроўцы па дарозе, па каменні ды выбоінах. Так ён загінуў. Цаной свайго жыцця бацькаў браценік Іван Цвірка выратаваў ад немінучай гібелі ўвесь атрад партызан.

Больш ведаў я дачку Алеся Цвіркі, Іванаву сястру Алімпу. У Хорашаве яна выйшла замуж за Мікалая Сыцьку, які яшчэ да вайны пераехаў з ёй у Старыя Дарогі. І з ёй, і з яе гаспадаром я не раз тут сустракаўся. Прыязджаючы ў Старыя Дарогі, у іх звычайна спыняўся мой бацька.

Яшчэ з вайны добра запомніўся мне Алімпін сын Жорж. Недзе на самым яе пачатку Сыцькі ўсёй сям’ёй прыехалі былі ў Зялёную Дуброву да маёй бабкі Сымоніхі — перабыць тут ліхі час. Жорж, старэйшы за мяне гадоў на пяць хлапец, быў вельмі прыветлівы, добры і ахвотна гуляў са мной. Раз гукнуў ён мяне схадзіць разам у той канец засценка. Прывёў ён мяне ў нашу пакінутую ўжо гаспадарамі зялёнадуброўскую краму. Яна была расчынена насцеж — людзі бралі там, хто што хацеў. Відаць, шмат хто пагрэў тут рукі, карыстаючыся вайной. На падлозе валялася ўсялякае ашмоцце, пашкуматаныя кардонныя каробкі, пустыя бутэлькі. Не ведаю, што яшчэ знайшоў для сябе ў тым вэрхале Жорж. Мне ж ён даў у рукі цэлы стос сподачкаў: «Нясі дадому». Я барзджэй пабег дадому з такой неспадзяванай здабычай і аддаў мацеры. Сподачкі былі гладзенькія, бліпічастыя, і я радаваўся і ганарыўся, што прынёс іх у хату.

Другі раз прыехаў да нас Жорж, як выгналі немцаў. Прывёз ён з сабой на возе новенькі чорны веласіпед. На ім Жорж ахвотна

катаў і мяне па вуліцы, садзячы перад сабой на раму. Дагэтуль я і не ведаў, што гэтак прыемна катацца на такой двухколавай «машыне». Гэта быў, як аказалася, нямецкі ваенны веласіпед, які Жоржу пашанцавала недзе знайсці каля Старых Дарог.

З таго часу я не бачыў Жоржа (ужо Георгія Мікалаевіча) Сыцьку болей як паўстагоддзе. Бо ён быў вымушаны пакінуць Старыя Дарогі, з'ехаць з дому ў выгнанне: над ім навісла вялікая пагроза арышту і турэмнага зняволення. Рабіў Жорж загадчыкам друкарні старадарожскай раённай газеты. Быў ён акуратны ў рабоце, усё ішло ў яго добра, ды ў адным з нумароў прайшла «страшная» памылка. У заметцы пра адзін калгас пісалася, што «працаўнікі палёў» вырашылі «парадаваць таварыша Сталіна» новымі поспехамі. Толькі ў слове «парадаваць» друкары прапусцілі літару «а». Калі тыраж газеты быў разасланы падпісчыкам, раённыя начальнікі схапіліся за галаву, прачытаўшы пра тое, што ў іх раёне збіраюцца «прадаваць таварыша Сталіна». За такія памылкі і друкарам, і карэктарам, і рэдактарам маглі даць да дваццаці пяці гадоў зняволення. Да гэтага не дайшло толькі таму, што, пакуль пра «злачынства» ў рэдакцыі ішло разбіральніцтва, «правадыр усіх народаў свету» пайшоў на той свет. Але ўсё роўна Георгі Сыцька за тую памылку быў звольнены са сваёй пасады і выгнаны са Старых Дарог. Знайшоў ён работу толькі ў Барысаве, таксама ў друкарні раённай газеты, дзе і працаваў да пенсіі.

Хату Алеся Цвіркі купіў Васіль Корзун, прыбіўшыся ў Зялёную Дуброву з-пад Слуцка. Ажаніўся ён з Зосяй Акулічанкай. Казалі, быў ён майстравы чалавек, плёў ладныя палукашы для калёс — на выезд, прадаваў іх.

У 1937 годзе ні ў чым не вінаватага Васіля Корзуна забрала НКВД, з чыіх катоўняў ён ужо не выбавіўся. У хаце з аўдавелай Зосяй асталося чацвёра дзяцей — Міша, Анюта, Волька і Коля. Анюта мне расказвала, што калі энкавэдысты ў доўгіх шынялях з чырвонымі пазнакамі на іх і на казыркастых шапках прыйшлі ўночы забіраць бацьку, маленькі Коля схаваўся пад стол — ён таксама прачнуўся ад грукату іх ботаў.

Праз чатыры гады, калі пачалася вайна з фашысцкай Германіяй, большага Васілёвага сына Мішу забралі на фронт — бараніць ад ворага «шчаслівую краіну Саветаў». Адтуль ён таксама не вярнуўся.

Адзіным мужчынам у хаце стаў малалетні Коля. Здаецца, ён і перабудоўваў купленую бацькаву хату. Калі ён ажаніўся з

Сальфідай і перайшоў з ёй у Адвэртаву хату, а Волька выйшла замуж у Слуцак, дома пасля смерці мацеры асталася Анюта, якая з вайны зрабілася вельмі шчырай баптысткай і таму жыла адзінока. Потым яе забрала да сябе ў Слуцак сястра, і хата запуставала.

Перапробленую хату дзедавага брата Алеся купіў я, бо ў мацерынай, калі мы прыязджалі дадому, было цесна. Да таго ж я хацеў гаспадарыць у Зялёнай Дуброве самастойна.

Самая галоўная прычына, чаму я прыдбаў гэтую хату і асеў акурат на Корзунавай сядзібе тая, што гэта ж — зямля маіх дзядоў. Я заняў не толькі былую сядзібу дзедавага брата Алеся, але і добрую частку двара ды агароды — соткі самога дзеда Сымона. Так што я вярнуўся ў той куток, дзе, як кажа прымаўка, быў некалі «рэзан пупок».

З набыццём дзедаўшчыны, прызнаюся, у маёй душы пасялілася ціхая радасць: я ступаю па той зямлі, дзе кожны дзень хадзілі некалі мае самыя блізкія людзі. Тут жа ўсюды асталіся іхныя, хай і не бачныя цяпер, сляды. Я матычу і бяру ў пальцы тую самую глебу, над якой шчыравалі і яны, безліч разоў пераціраючы ў сваіх руках. Дакранаючыся да іхнай зямлі, я нібы чую на сваёй руцэ дотык рук маіх родных. Ад гэтага дотыку мне кожным разам перадаецца калі не цяпло іхных рук, дык усё ж нешта самае дарагое, прасветнае.

## Шыкеры

Наехалі яны ў Зялёную Дуброву з-пад Глушы, з вёскі Фартуны цяперашняга Глускага раёна. Збудавалі хату. У ёй жылі гаспадар Цыпрыян Шыкер з жонкай, з сынамі Юзікам і Казімерам, з дочкамі Анэляй і Альжбетай. Калі ажаніўся Казімер, яму паставілі хату цераз вуліцу.

Казімера Шыкера я зусім не ведаю: памёр ён, казалі, вельмі рана. Не прыпомню ўжо і яго Фронку (з Паўловічаў), якая намнога перажыла свайго гаспадара. Іх дзеці — мой былы сусед у Зялёнай Дуброве, ужо нябожчык, Ян, Броня (цяпер васьмідзесяціпяцігадовая ўдава Валодзі Дубовіка), якая памагае мне тое-сёе ўдакладніць для гэтых нататак, і Пятрусь, які недзе прапаў у вайну: ён моцна недачуваў, але яго ўсё роўна ўзялі ў армію, у нейкую будаўнічую часць, якая трапіла ў акружэнне.

Ад Казімеравай сядзібы асталіся толькі тры ліпы пры вуліцы, зараснікі бэзу ды сліўніку, якія ўжо нічым не выкарчуеш — вечны помнік яго селішчу.

Казімераў брат Язэп (ці Юзік) Шыкер нагледзеў сабе жонку (як і мой дзед Сымон) у Шантароўшчыне. Анэту з Дарэўскіх — стрэчную сястру маёй бабкі Сымоніхі (ці не яна і падказала суседу Язэпу нявесту?).

Анэта нарадзіла трое дзяцей — Маньку (тую, што стала Галляшовай нявесткай), Тадзю (Уладзі Цвіркі цесця), Зосю, якая выйшла замуж у Суцін.

Нейкая немач без пары звяла Анэту Дарэўшчанку са свету. Ці не пасля яе і звязаўся быў Юзік з Зосяй Цвірчанкай? Не знайшоўшы з ёй ладу, мусіў ён садзіцца са сватам у брычку, каб пашукаць новую жонку. Знайшоў яе недалёка ад Шантароўшчыны, у Старэве.

Ад новай жонкі Ганулі Язэп Шыкер займеў таксама трое дзяцей — Стэфку, Анюту і Зэну. Пэўне ж, не суняўся б на гэтым, калі б не тая ненажэрная птушка «чорны воран», якой таксама спатрэбіўся для ўдушэння гэты просты калгаснік. Зэна — яму тады было гадоў чатыры — якраз спаў з бацькам на падлозе (мусіць, на ўсіх не хапала ложкаў), калі ўламаліся сярод ночы людзі ў міліцэйскай форме, у казыркастых шапках з чырвонымі аколышамі. Пасля гэтага Зэна ўжо ніколі болей не ўбачыў бацькі.

З Зэнам я разам хадзіў у школу, часта бываў ў яго хаце, каля самага акна якой расла разгалістая чаромха з саладкаватымі чорнымі ягадкамі, што паспявалі пад канец лета.

Дзве згадкі пра Зэну.

Наш настаўнік Уладзімір Антонавіч Пятроўскі даў вучням заданне: напісаць што-небудзь для школьнай насценнай газеты, лепш за ўсё вершамі. З усіх вучняў вершы прынеслі настаўніку толькі двое: Зэна і я. Ні радка не помню я з таго свайго вершыка, але Уладзімір Антонавіч змясціў яго ў нашай газеце. Змясціў і Зэнаў. Я пачытаў яго і здзівіўся, як складна ён напісаў. Калі ж пасля ўрокаў я зайшоў да Зэны ў хату, ён разгарнуў перада мной нейкую старую, ужо без вокладкі чытанку і, хітра ўсміхаючыся, паказаў пальцам верш, які адтуль перапісаў і, паставіўшы пад ім сваё імя і прозвішча, перадаў настаўніку.

Другая згадка з пазнейшага часу. На адной з вечарынак, на якія ў нас збіралася ўся вёска, у круг выйшаў Зэна, ужо ладны кавалер. Далёка адкідваючы ўбакі ногі, каб было смяшней, прыстукваючы нейкімі дзеравяшкамі, пачаў сыпаць перад усёй грамадой прыпеўкамі. Ды такімі задзірыстымі, смелымі, што я затрывожыўся, каб не папала яму за іх, бо гэта ж было ў канцы саракавых ці пачатку пяцідзясятых гадоў, яшчэ пры Сталіне. Мне запомніліся толькі дзве з тых прыпевак:

З неба зорачка упала
Прама Сталіну на нос.
Паглядзі, таварыш Сталін,
Як жыве цяпер калхоз.

І другая:

Дзякуй Сталіну-грузіну,
Што абуў нас у рызіну.

У рызіну — гэта пра бахілы, якія выраблялі тады нейкія свае майстры з не вельмі тоўстай гумы. Адзяваліся бахілы на такія ж самаробныя буркі, на якія ішлі ўсякія ашмёткі.

Добра, што пра Зэнавы прыпеўкі ніхто ўжо не данёс «куды трэба». Інакш нездабраваць было б хлопцу.

Зэна скончыў толькі нашу пачатковую школу. Далей яму вучыцца як сыну «ворага народа» не было сэнсу, і ён назаўсёды астаўся ў сваім калгасе. Зэна гэтак далёка, як бацька, не ездзіў шукаць сабе «палавінку». Пабраўся ён з дачкой Боні і Мікалая Цвіркаў Зінай, амаль што суседкай. Зэна і Зіна прыдбалі траіх дзяцей — дачку Іру, якая стала цяпер у нашым калгасе намеснікам старшыні па ідэалогіі, сыноў Эдзю (ён робіць у Мінску) і Толю, які, на вялікі жаль, трагічна загінуў яшчэ хлапчуком, трапіўшы пад трактар.

Пад канец Зэну Шыкера прызначылі ў Зялёнай Дуброве брыгадзірам. Я бачыў, з якой ахвотай браўся ён за гэту работу.

Ды от бяда: памалу-памалу — распіўся Зэна. Гарэлка і звяла яго, яшчэ маладога, у магілу.

Шыкерава хата стаяла ад цяперашняй маёй сядзібы наўскасяк цераз вуліцу. Кожны раз, калі я выходжу са свайго двара, у вочы кідаецца запушчаны і амаль здзічэлы Зэнаў садок. Атрымаўшы поўную волю, усё ў ім расце цяпер, як толькі хоча. Найперш пайшоў займаць «жыццёвую прастору» чэпкі і нахабны сліўнік. Ад яго не змаглі абараніцца дзве яблыні — засохлі, чарнеюць сваімі рэбрамі-галінамі. Астатнія тры ці чатыры яблыні з некалькімі ігрушамі яшчэ трымаюцца, зеляненюць і цвітуць кожнай вясной, а пад восень частуюць хто хоча і сваімі дарамі. Праходзячы міма, я таксама, бывае, сарву з ніжняй галіны і пасмакую Зэнаў яблык ці ігрушу. Ну, і ўспомню пры гэтым, як мы некалі малымі шасталі па вакольных узлесках, шукаючы дзікія яблынькі ці ігрушкі, каб увосень выкапаць і перанесці на сваю сядзібу, а потым прышчапіць. Чамусьці тады яны рэдка

пападаліся на вочы. Помню, я заўсёды радаваўся, калі знаходзіў у лесе хоць невялічкі дубчык яблынькі ці ігрушы. Адной такой знаходкай — вельмі ладнай яблынькай — я пахваліўся Зэну, паказаў, дзе яна расце. Калі ж увосень я прыйшоў туды з лапатай, на месцы той яблынькі чарнела свежавывернутая зямля. Значыцца, нехта яшчэ яе нагледзеў. Але хто? На Зэну я і не падумаў: ён жа ведае, што яна «мая». Як жа я здзівіўся, калі потым убачыў сваю яблыньку… у Зэнавым агародчыку! Я нічога не сказаў тады Зэну: сам вінаваты — не трэба было хваліцца. Зэна, ведама, прышчапіў на яе нейкі свойскі зразік. Паспрабуй пазнай цяпер, якая з яблынь тая. Ды ці не ўсё роўна?

Сярод садовага гушчарніку вунь убілася і заваёўвае тут сваё месца і залёная моцная хваіна. Дзіч, канечне ж, адолее бяздоглядныя садовыя дрэвы, некалі ўсе іх заглушыць. Пакуль жа гэты садок — як добрая памяць пра Зэну, аднаго з дарагіх людзей майго пакалення.

## Каспяровічы

Маўкліва, як бы пра нешта задумаўшыся, і шчыльна, нібы для нейкай абароны, пасплятаўшыся паміж сабой рукамі галін, роўнай шарэнгай выстраіліся пры самай вуліцы старыя размашыстыя ліпы. За імі — колькі ж гэта ўжо летаў? — дарэмна абласквае сонца адкрытую небу ўцвярдзелую ялавіну з рэшткамі старога друзу, дзе кідаюцца расці хіба пескалюбыя сухалеткі з ружавата-жоўтымі шышачкамі кветак на матавасівых сцяблінках, кусцікі палявой рабінкі — піжмы ды рэдкія калівы абкіданага яркім залатацветам святаянніку. Па ялавіне, нібы нейкія фантастычныя воіны ў строгай зялёнай уніформе, там і там настырна пайшлі ў наступ на былое селішча нікім не спыняныя ўчэпістыя хвойкі. Няўжо тут пачаў сваю работу бязлітасны лес бяспамяцтва? Мне так бы гэтага не хацелася. Тут жа яшчэ, здаецца, нядаўна жылі нашы зялёнадуброўскія людзі, часціна нас саміх.

Вунь там, за першымі ліпамі, высілася ўздоўж вуліцы вялікая, на дзве добрыя палавіны хата, а лепей сказаць — дом з шырокімі вокнамі. Пакрыты ён быў частай дранкай, дах па абодва канцы фацэтна заламваўся такімі ж драначнымі казыркамі, з-пад якіх выглядвалі на шчытах маленькія ваконкі.

Мяне вельмі прываблівае рамантычны ганак пасярэдзіне — з тонка вытачанымі калонамі і двухсхільным дашкам над ім. На ганку, па абодва яго бакі, відаць былі з вуліцы акуратненькія

лаўкі, на якіх, мусіць, добра адпачывалася сонечным летнім днём ці вечарам: паўз ганак жа купчасціліся раскошныя кусты бэзу і пахкага язміну, а ўздоўж сцежачкі, што ішла адсюль на вуліцу, цвілі, радуючы вока, розныя настурцыі, півоні ды ланцужкі ружовенькіх боцікаў.

Дом гэты збудаваў яшчэ на пачатку засялення Зялёнай Дубровы Язэп Каспяровіч, адзін з чатырох братоў, якія прыехалі сюды з Дражні — са шляхецкага Засценка, дзе ім ужо цесна было ў бацькоўскай хаце.

У сваім, пабудаваным на вякі, прасторным і ўтульным доме гаспадар пажыў нядоўга: яго не помніла і мая маці — ці не загінуў ён у Першую сусветную вайну? Ад яго асталося трое дзяцей — Адам, Марыля і Аўліна.

Дочкі павыходзілі недзе замуж, а гаспадаром вялікага дома стаў Язэпаў сын Адам. Ён вырас у высокага, трохі хударлявага хлопца. Каб адрозніваць ад бацькавага брата Адама Каспяровіча, яго называлі ў нас Адам Доўгі. Жонку сабе ён выгледзеў пад Глускам, у Шчытах, дзе нібыта жылі «сталаверы» (якраз так называла іх мая маці і папраўляла мяне, калі я казаў «стараверы»). Звалі маладую Казя.

З вялікай ахвотай узяўся гаспадарыць на бацькаўшчыне Адам Доўгі. Але ў калектывізацыю не далі, як і ўсім, зрабілі яго калгаснікам. Добра, дом хоць не адабралі ды соткі нейкія за ім пакінулі — для саду і агарода. Толькі зрабіць яго сваім паслухмяным рабом мала было «народнай» уладзе. Ёй спатрэбілася яшчэ яго чалавечая душа. Мусіць, для плана вышуквання і адстрэлу «скрытых ворагаў» савецкай краіны. Ціхага і гаспадарлівага Адама Доўгага, як і мільёны яму падобных, нізашто ні пра што завалаклі яжоўскія «байцы нябачнага фронту» ў свае патайныя скляпы і, здзекуючыся, пачалі там «укарачваць» яго ногі і рукі, а потым — і галаву.

Маладая яго жонка Казя — Адаміха — асталася ў хаце з дзвюма малымі дочкамі Тоняй і Лёцяй і яшчэ меншым сынам Бронісем. Адна з мільёнаў такіх жа маладых, поўных жаночай, ужо «не запатрабаванай» пяшчоты ўдоў. Хто падлічыў бы, колькі выплакалі яны ў сваю ахаладалую падушку горкіх слёз? А колькі нарадзілі б яшчэ дзяцей?

Нікога не засталося ўжо ў Зялёнай Дуброве і з племя Язэпавага брата — Адама Каспяровіча. Доля яго дзяцей вельмі падобная на долю дзяцей Язэпа. У Адама, праўда, было іх толькі двое — дачка Ядвіня і сын Яська. Ядвіня выйшла замуж у Буду,

а Яська пасля бацькі стаў гаспадаром на яго сядзібе, ажаніўшыся з дачкой Юзафа Стахновіча Авалінкай.

Толькі не доўга далі пажыць на сваёй зямлі і Яську Каспяровічу. Гэтак жа, як і браценіка, яго схапіў у сваю шырокую пашчу зусім не казачны цмок — НКВД. Авалінка, як і Адаміха, асталася гараваць з дзецьмі адна. Толькі ў яе было іх трошкі болей — Флёра, Ядзя, Рэня і сын Стась. Яшчэ адна сям'я «ворага народа».

Я мала ведаў Авалінчыных дзяцей, бо ўсе яны былі старэйшыя за мяне. Больш запомнілася круглатварая Флёра, якая сябравала з маёй цёткай Анэтай. Ну, і сама Авалінка, вельмі шчабятлівая і рухавая жанчына, якую ў нас празвалі Мяцеліца.

Стась мне запомніўся як поўны, буйнога целаскладу і трошкі мардаты хлопец. Чамусьці ўрэзалася мне ў памяць адна, звязаная з ім, «сцэнка». У Авалінчынай хаце гуло вяселле — выходзіла замуж адна з яе дачок. Пасля шумнага застолля вясельнікі з песнямі, з падскокамі і падгалёкваннем высыпалі з хаты. І тут на панадворку раптам разбушаваўся Авалінчын Стась. Мы, дзеці, з цікавасцю і страхам пазіралі з вуліцы, як ён, у расхрыстанай рубашцы, ужо даволі шырокі ў плячах, чырванатвары (відаць, добра падагрэты гарэлкай), пачаў ні з таго ні з сяго лупашыць нагцаком па вёдрах і па ўсім, што пападалася пад ногі, размахваць наўкруга рукамі, адрываць з плота частаколіны. На хлопца з усіх бакоў навалiліся жанчыны з блізкай радні, на сынавым плячы павісла яго маці, упрошваючы:

— Супакойся, сынок, супакойся…

Ды здаравяк-сынок, вырываючыся з рук, вылузваючыся з лёгкай рубашкі, з якой толькі пырскалі гузічкі, крычаў у людскі збой вакол сябе:

— Я…цца хочу!

Разгарачанага, расчырванелага Стася жанчыны ўсім гуртам узяліся барзджэй упіхваць у сенцы, закрываючы далонямі рот, але ён са злосцю адрываў ад рота жаночыя рукі і яшчэ больш голасна, каб чулі ўсе, выкрыкваў свой няўцерпны жадунак, якога чамусьці ніхто не хацеў зразумець.

Ну што тут скажаш, правільна нехта заўважыў: ад трагічнага да камічнага — адзін раз ступіць.

Гэтак жа, як і нашчадкі Адама Доўгага, даўно ўжо з'ехалі з Зялёнай Дубровы і дзеці загубленага энкавэдыстамі Яся Каспяровіча, забраўшы з сабой і матку — няўцешную ўдаву Авалінку.

У Зялёнай Дуброве асталася толькі як памяць пра ўсіх іх яшчэ колішняя хата іхнага дзеда Адама Касяпяровіча. Праўда, ужо ашаляваная, нанова перакрытая шыферам замест падгнілай дранкі. Абнавіў яе гэтак, выкупіўшы, ужо новы гаспадар, мой хаўруснік Зэна Шыкер, які пасля жаніцьбы жыў тут з сям'ёй. Пасля яго раптоўнай смерці ўдава Зіна з'ехала адсюль да сваёй дачкі ў Залужжа. Хату прадалі аднаму случаку, які разам з жонкай і дзецьмі вельмі ўпадабаў нашу ціхую Зялёную Дуброву. За тое, што і яны памагаюць ёй зберагчыся на зямлі, не знікнуць назаўсёды як «неперспектыўнай», трэба ім толькі падзякаваць.

Трэці з Касяпяровічаў — Аляксандр — пабудаваўся некалі побач з братам Адамам. Жонку Амілю Луцэвічанку прыдбаў ён у нашай жа Жыцінскай воласці, у Дрычыне, дзе яе бацька Людвіг Луцэвіч арандаваў зямлю. Аляксандраў унук Эдзя, які цяпер жыве ў Мінску і з якім я часам перазвоньваюся і сустракаюся, раскапаў недзе ў архівах, што яго бабка — не надта далёкая радня самаму славутаму з Луцэвічаў — Івану Дамінікавічу, чым ён не можа не ганарыцца.

У 1937 годзе не абмінула НКВД і Аляксандра Касяпяровіча, які быў тады ў поўнай сіле. Схапіўшы сярод ночы, яго затарабанілі ў «чорным воране» аж у Бабруйск. Ужо ён рыхтаваўся, седзячы ў цеснай смярдзючай каталажцы, прайсці ўсе кругі прызначанага яму пекла, ужо, загрукатаўшы замкамі камерных дзвярэй, паднялі яго з саломы і павялі пад штыкамі на допыт, адкуль зняволеных не прыводзілі, а цяглі, акрываўленых і збітых да непрытомнасці, ужо расчынілі перад ім тыя страшныя дзверы, далі сесці… І тут здарылася неверагоднае: за сталом следчага, які павінен быў усімі спосабамі выбіваць з арыштанта патрэбныя прызнанні, сядзеў… сын яго самага блізкага сябра і дражненскага суседа Субцэльнага (імя яго мне не ўспомнілі).

— А вы чаго тут, дзядзька Аляксандр? — падняў следчы на яго вочы.

Той усё расказаў сябраваму сыну, загарэўшыся надзеяй на вызваленне.

Субцэльны (дарэчы, такое прозвішча мне не раз называлі ў Дражні) падняўся з-за стала і захадзіў туды-сюды па кабінеце, слухаючы, што яму расказваў Аляксандр Касяпяровіч. Доўга хадзіў, хмурачы бровы. Потым суняўся, дастаў з кішэні кашалёк, адлічыў некалькі грашовых купюр і, падаючы іх свайму паднявольнаму, сказаў як адрэзаў:

— Вот што, таварыш Каспяровіч, даю вам на поезд і каб заўтра тут і духу вашага не было!

Аляксандр Каспяровіч, якому Субцэльны памог тады выкараскацца са сцен таго страшнага дома, шчасліва вярнуўся дадому, у Зялёную Дуброву, дзе рэштку гадоў сядзеў, як мыш пад венікам.

З Аміляй Луцэвічанкай прыдбаў ён трое дзяцей — Анціка, Маньку і Анэту. Манька памерла маладой ад туберкулёзу, а Анэта выйшла замуж за «Сцепанца» Івана Цвірку. Ну, а Анцік вышукаў сабе жонку аж за Суцінам, у Шэлехаве — таксама Цвірчанку (мая маці казала, што яе бацька Анісім Цвірка — «трохі нейкай нашай радні») і прывёз у бацькоўскі дом.

У вайну Анцік Каспяровіч з сям'ёй ратаваўся ад немцаў (а заадно і ад партызан) у Фалічах, дзе быў нямецкі гарнізон. Пасля выгнання немцаў яго забралі на фронт — «дабіваць фашыстаў у іх уласным логаве». Вярнуўся ён з вайны ўвесь у ордэнах ды медалях.

Чацвёрты з братоў Каспяровічаў (не ведаю, як яго звалі) жыў у маленькай хатцы ў суседстве з сядзібай Адама Каспяровіча. У яго нажылося чацвёра дзяцей — Яська, Юзэфа, Вікця і Марыля. Трое першых памерлі ад туберкулёзу, чацвёртая Марыля выйшла замуж у Пабокавічы.

Маларослы Яська, празваны ў нас Мэшкам, перад сваёй смерцю паспеў яшчэ нагуляць з маёй цёткай Сашай (бацькавай сястрой) дачку Казю, маю стрэчную сястру.

Калі раскулачылі Андрэя Цвірку, Андрэіха з дзецьмі заняла маленькую Мэшкаву хатку. Каля яе варотцаў з дзяцінства запомніўся мне кучаравы ядловец. Ён, гэты беларускі кіпарыс, і цяпер стаіць, пры бэзавым кусце, усё вышэй і вышэй цягнучыся ў неба. Як помнік колішняму селішчу Яські Каспяровіча, а потым прыстанку жонкі і дзяцей назаўсёды высланага з Зялёнай Дубровы «кулака» Андрэя Цвіркі.

### Парахні

Два чорныя шкілеты высахлых яблынь, дзве здзічэлыя ігрушы ды — па калені — горкі сівы палын. Гэта — колішняя сядзіба Уладзіка Парахні і Стэфкі з дому Уладзіка Цвіркі, адной з тых «Бручак», што з маленства запомніла Алена Васілевіч.

Аблюбаваў Зялёную Дуброву Уладзікаў бацька Юзаф Парахня, які жыў з сям'ёй у недалёкай Дражні, цяперашняй нашай

сельсавецкай сталіцы. Пераехаўшы сюды, ён пабудаваўся ў тым канцы Зялёнай Дубровы.

Юзаф з жонкай выгадаваў дзявяцера дзяцей. Гэта, апрача Уладзіка, — сыны Пятрусь, Коля, Яська, Андрэй, Косцік, Аляксандр і дочкі Алеся і Надзя.

Зямлі ім усім тут, на бацькаўшчыне, ведама ж, неставала, і сыны, павырастаўшы, пайшлі шукаць яе ў іншыя месцы. Коля зачапіўся ў недалёкай ад нас Будзе, Яська і Аляксандр — у Дараганаве, Пятрусь — у Дражні, а Уладзік — у сваёй Зялёнай Дуброве, побач з Каспяровічамі.

Былі Парахні, як мне казалі, «актывістыя» — адданыя савецкай уладзе змаганцы за «новае жыццё». Косцік (Канстанцін Іосіфавіч) нібыта даслужыўся да высокага чына ў Чырвонай Арміі. Калі пачалася вайна, ён са сваім вайсковым падраздзяленнем трапіў у самую гушчу баёў і загінуў на фронце. Не вярнуўся з вайны і яго брат Андрэй.

Перакананым камуністам быў і Уладзік Парахня, які перад вайной стаў у Зялёнай Дуброве старшынёй калгаса, а калі прыйшлі немцы, не мог не ўключыцца ў барацьбу з імі, за што на першым годзе вайны гітлераўцы, як ужо гаварылася вышэй, павесілі яго ў Дрычыне, дзе стварылі воласць. Павесілі на той самай арцы, якую на Першамай і на кастрычніцкія бальшавіцкія святы аздаблялі чырвонымі сцягамі ды шматкалёрнымі стужкамі і пад якой праводзілі мітынгі, святочныя шэсці, піянерскія зборы.

Казалі, калі Уладзіка вешалі, вяроўка саслізгнула на падбароддзе, і ён вісеў жывы. Тады немцы ўзяліся страляць па ім, пакуль не забілі. Дні два ці тры вісеў ён на вачах у людзей, на пострах усім. Здымаць яго немцы не дазвалялі — балазе стаялі ўжо маразы. Калі ўрэшце прывезлі Уладзіка Парахню дадому, на яго страшна было глядзець: мала таго, што ён увесь ссінеў, дык з рота вывернула язык — ад таго няўдалага павешання. Быў ён, гэты язык, чамусьці вялікі, апухлы, і яго нельга было ўвапхнуць на месца. Так і павезлі Уладзіка хаваць — з вывернутым языком.

Я трохі таварышаваў з сынам Уладзіка Парахні Генадзем, маім аднагодкам. Быў ён, як цяпер мне помніцца, не па гадах сур'ёзны, часам рэзкі, зацяты ў нейкіх сваіх думках. Ведама ж, прычынай тут была гвалтоўная бацькава смерць, якая глыбока ўразіла чулую дзіцячую душу.

Ды і не толькі гэта прымусіла рана пасталець майго хаўрусніка Генадзю Парахню — сямігадовага «мужчыну» ў хаце (два яго браты Толя і Вова былі яшчэ зусім маленькія), памалу адысці ад нашых дзіцячых гульняў, шмат пра што задумацца.

У вайну мы, дзеці, часта гулялі «ў вайну». Дзяліліся на два гурты-«войскі» — на «немцаў» і «партызан». Адны з нас не хацелі быць «немцамі», другія — «партызанамі». Прытым гэтых другіх была бальшыня, бо партызан як вельмі частых начных рабаўнікоў у нас баяліся болей, чым немцаў: тады ж мы нічога не ведалі ў сваёй глушэчы пра карныя аперацыі гітлераўцаў, пра масавыя расстрэлы імі ні ў чым не вінаватых людзей, пра фашысцкія лагеры смерці і шматлікія Хатыні. Гуляць у вайну адмаўляўся толькі Генадзя Парахня. Бо ён не хацеў быць ні «немцам», ні «партызанам». Немцаў ён ненавідзеў за бацьку, а партызан — за сям'ю бацькавага брата Петруся Парахні ў Дражні, за стрэчную сястру Ніну, якую…

Але пра дражненскую трагедыю я мушу расказаць тут шырэй, бо да апошняга часу яна беспадстаўна замоўчвалася, пра яе нічога не давалася ў друку, а калі хто ўзгадваў яе, то перакручваў да непазнавальнасці.

Здарылася гэта раніцай 14 красавіка 1943 года. Акурат перад Вялікаднем, у Чысты чацвер. Парою, калі на дарогах, на канавах і на ўзлесках раставалі рэшткі снегу, калі на ліпах, прыляцеўшы з выраю, весела пасвісталі шпакі, а ў небе над аколіцай, радуючыся вясне і сонцу, спявалі-заліваліся жаўранкі. На ўсходзе неба ў тую раніцу палымнела яснай роўнай чырванню, прадвяшчаючы светлы сонечны дзень. Але для дражненцаў гэта быў самы чорны дзень за ўсю вялікую гісторыю старажытнага сяла.

Людзі толькі прачыналіся, калі кругом усчалася страляніна. Асабліва моцна і часта стралялі ў Засценку — адной з дражненскіх вуліц. Засценкаўцы спачатку хаваліся ад куль у хатах, кладучыся на падлогу. Але тут угледзелі, што пачалі гарэць самі хаты, хлявы, свірны. Таму кінуліся хавацца ў агародах, у ямінах, у разорах. Тых жа, хто не паспеў схавацца і хто мітусіўся ў разгубленасці і ў сполаху ў дварах, расстрэльвалі ва ўпор нечаканыя налётнікі, не разбіраючы, жанчыны гэта, старыя дзяды ці дзеці. Параненых дабівалі прыкладамі вінтовак і аўтаматаў, бязлітасна даразалі кінжаламі і нажамі.

Той, хто гэта чытае, пэўне ж, думае, што я апісваю тут карную аперацыю эсэсаўцаў, налёт нямецкіх фашыстаў на адну з беларускіх вёсак, пра што мы нямала наслухаліся, нагледзеліся па тэлевізары і начыталіся ў газетах і кнігах. Не, гэтае пабоішча мірнага насельніцтва вёскі Дражні майго Старадарожскага раёна ўчынілі не немцы, не іх прыслужнікі паліцаі, а нашы савецкія партызаны, «народныя мсціўцы».

Не верыце? Тады едзьце ў Дражню, там, у Засценку (адной з яе вуліц), раскажуць вам пра тую партызанскую разню ва ўсёй «аголенай» праўдзе.

Я сяджу на лавачцы пры плоце з Флёрыкам (па пашпарце — Фёдарам) Матусэвічам, ужо даўно пенсіянерам, якому тады было ўсяго сем гадоў. Калі пачалася страляніна, у хаце былі з ім маці, яго пяцігадовая сястрычка і бабуля, мацерына маці. Што ж да бацькі, то ён быў на фронце, ваяваў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі — потым на яго прыйшла «пахаронка», дзе гаварылася, што Аляксандр Матусэвіч, абараняючы Радзіму, па-геройску загінуў на Ленінградскім фронце. Хавацца ад куль сям'я франтавіка кінулася ў загадзя выкапаную — на ўсякі выпадак — маленькую зямлянку за дваром. Раптам на дварэ запахла дымам, палыхнула полымем — гэта загарэліся хлявы і хата. Убачыўшы там людзей з чырвонымі зорачкамі на шапках і зразумеўшы, што гэта свае, партызаны, бабуля выбегла з зямлянкі, каб выпусціць з хлява скаціну, не даць ёй згарэць.

— Сыночкі, я толькі адчыню хлеў!..

«Сыночкі» (іх было ў падворку двое ці трое) далі ёй ўратаваць ад агню карову і свіней, але самую не пашкадавалі: тут жа, не задумваючыся, у нейкім дзікім азвярэнні паласнулі па бабулі з сваіх «дзесяцізарадак», і яна адразу ж абмякла, паваліліся ў дзвярах хлява, які сама займаўся агнём. Адтуль партызаны падскочылі да зямлянкі:

— Ану, вылазьте, или бросим гранату!

На грозны вокрык партызан Флёрыкава маці, падхапіўшы дачку Зою і прытуліўшы яе адной рукой да грудзей, а другой узяўшы за ручку сына, вывела дзяцей з той зямлянкі-ямы. Ледзьве яны вылезлі, як партызаны пачалі ва ўпор страляць па мацеры з дзецьмі. Першыя кулі трапілі ў галоўку пяцігадовай дачкі, яна, заліваючыся крывёю, вывалілася з мацерыных рук, у тую ж хвіліну, прастрэленая кулямі, пахіснулася і ўпала вобзем і матка. Флёрыку ўдалося адскочыць убок і адпаўзці ў агарод. Усё ж маці, якой навылет прастрэлілі рот і павыбівала кулямі зубы, і маленькая Зося засталіся жывыя. Назаўтра іх адвезлі ў Старыя Дарогі ў бальніцу, дзе і адратавалі. На вялікі жаль, сястрычка Зоя праз пяць гадоў, калі ёй не было і дзесяці, памерла ад ран. Бабуля ж згарэла тады ў хлеве, пасля налёту знайшлі толькі яе абгарэлыя костачкі.

Я гутарыў з многімі дражненцамі-засценкаўцамі, якім пашанцавала ўратавацца ад таго пабоішча. Звычайна старыя людзі Засценка святочнымі днямі выходзяць пасядзець на лавачках

каля сваіх хат. Да іх я і падсаджваўся. З некаторымі сустракаўся ў Мінску, дзе яны абжыліся. Іхныя ўспаміны пра тую страшную перадвялікодную раніцу 1943 года немагчыма было мне слухаць без вялікага душэўнага болю.

Добрым гаспадаром, паважаным усімі чалавекам, адданым савецкай уладзе грамадзянінам быў у Засценку немалады ўжо Паўлюк Колас, сын якога быў тады на фронце, ваяваў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У час партызанскага налёту Паўлюк з сям'ёй схаваўся ад страляніны ў яме, якая служыла яму ў двары склепам для бульбы і якая тады пуставала. У яму ўскочылі і суседзі, пераважна жанчыны і дзеці. Заўважыўшы гэтую схованку, партызаны шпурнулі туды гранату. Граната ўпала каля самай ямы. Паўлюк Колас, былы спрактыкаваны вайсковец-чырвонаармеец, успеў схапіць яе за доўгую ручку, адкінуў убок і закрычаў:

— Таварышы! Не страляйце, тут усе свае, савецкія!..

Ды партызаны і слухаць яго не захацелі. З крыкам «Бей фашистов, не щадя ни старого, ни малого» яны адкрылі па мірных, ні ў чым не вінаватых людзях агонь са сваіх вінтовак і аўтаматаў.

Паўлюкова яма стала магілай для тых, хто ў ёй хаваўся ад куль, у тым ліку і для самога гаспадара сядзібы, для дзяцей Валі і Колі Шамко, для іншых суседзяў Паўла Коласа. Былі там і выгнаныя немцамі са Смаленшчыны бежанцы, якія знайшлі сабе ў Дражні прытулак. Дражненцы і цяпер помняць харошага ціхага хлопца з бежанцаў Ваню — ён таксама быў забіты ў той яме. Адзін партызан не пагрэбаваў нават садраць з яго ног боты.

Вялікае гора прынёс партызанскі налёт і ў сям'ю… партызана Івана Пятроўскага, перакананага камуніста, які ваяваў тады з нямецкімі прыхаднямі ў брыгадзе Аляксея Шубы і потым загінуў у баі каля вёскі Вуглы. Партызаны нізавошта забілі яго жонку Алесю і дачку Кацю. Іх спачатку падстрэлілі, а потым з незвычайнай, зусім незразумелай жорсткасцю даразалі кінжаламі. Дражненская жанчына Валя Сяркова расказвала мне, што бачыла іх тады на месцы гібелі — у Алесі было перарэзана горла, а ў Каці тырчаў увагнаны ў грудзі нож з «дзеравяным дзяржаннем». Такая бесчалавечная кара тым больш абсурдная, што сям'я Пятроўскіх была адданая савецкай уладзе. Дачка Алеся і Івана Пятроўскіх Каця перад вайной рабіла ў школе, у суседніх Ляўках, піянерважатай, была актыўнай камсамолкай. Калі прыйшлі немцы, яна баялася начаваць дома, хавалася ад іх у сваякоў і сяброў. Хавалася камсамольская актывістка ад немцаў і паліцаяў, але не ўхавалася ад сваіх, ад партызан, да

якіх — толькі ў шубаўскую брыгаду, дзе быў бацька, — рыхталалася сама ўцячы.

Не маглі без хвалявання расказваць мне жанчыны Засценка пра паважаную ўсімі дражненскую настаўніцу Браніславу Андрэеўну Шамко (па мужу Ляневіч), якую таксама нізавошта па-зверску закатавалі «народныя мсціўцы», распаласаваўшы ўсю кінжаламі. Калі яны адышлі, маленькі сын Браніславы Андрэеўны Валерка, які неяк ухаваўся ад партызан, падбег да забітай мацеры і пачаў яе тармасіць, плачучы:

— Мама, уставай! Уставай, мама!..

Бацька Валеркі Ляневіча быў тады на фронце, ваяваў у шэрагах Чырвонай Арміі з немцамі, ад рук якіх потым і загінуў. Хлопчык астаўся адзін. Нехта з добрых людзей забраў яго да сябе, а пасля вайны Валерку, асірочанага савецкімі партызанамі і нямецкімі фашыстамі, аддалі ў дзіцячы дом. Цяпер, кажуць, ён жыве недзе ў Мінску.

Мяне вельмі цікавіла яшчэ доля сям'і Петруся Парахні, роднага брата павешанага немцамі Уладзіка Парахні, параднёнага з намі праз яго жонку Стэфку Цвірчанку. Я паспеў яшчэ пагутарыць з Петрусёвай дачкой Валянцінай на яе лавачцы. Паспеў, бо ў 2005 годзе яе не стала.

Валя расказала мне, што ў час партызанскага налёту на Дражню ўся сям'я Парахнёў кінулася хавацца ў выкапаную на ўсякі выпадак у агародзе яму. Мацерына сястра Маня, якая была разам, убачыўшы, што загарэўся хлеў, пабегла выпусціць карову. Але партызаны пачалі па ёй страляць, жанчына ўпала, падкошаная кулямі. Там, у хляве, яна і згарэла. Не змагла схавацца ад партызан і старэйшая Валіна сястра Ніна. Ёй тады ішоў пятнаццаты год. Казалі, была яна вельмі прыгожая. Партызаны стрэлілі па ёй, але не забілі — толькі паранілі ў руку. Тады адзін з партызан падскочыў да дзяўчыны і з маху ўсадзіў ёй у грудзі нож. Другі дакалоў яе штыком. Гэтыя ж два партызаны згледзелі і самую Валю, тады дзевяцігадовую дзяўчынку, з малым брацікам.

— Давай іх у калодзезь! — крыкнуў адзін.

Партызаны пачалі ўжо лавіць дзяцей, каб жывымі кінуць у калодзезь. Але тут падышоў трэці партызан і спыніў іх:

— Ладна, хлопцы, адпусцім гэтых — і так ужо многа пабілі…

Чым, якім здаровым сэнсам можна растлумачыць такі нечуваны жорсткі пагром, што ўчынілі 14 красавіка 1943 года партызаны ў вёсцы Дражня на Старадарожчыне?

З сваім прыходам у нашы краі немцы зладзілі ў Дражні паліцэйскі гарнізон — для барацьбы з партызанамі. Партызаны з самага пачатку намерыліся разграміць гэты гарнізон.

Задача была не з простых. Размясціўся гарнізон у самым цэнтры вялікай вёскі, на ўзвышэнні. Там, на скрыжаванні вуліц, паліцэйскія павыкопвалі сабе доты, добра іх умацавалі. Падступіцца туды было нялёгка, бо Дражня раскінулася сваімі чатырма канцамі-вуліцамі на адкрытым, далекаватым ад лесу месцы. З дотаў усё было відаць, як на далоні.

Першы раз партызаны паспрабавалі разграміць паліцэйскі гарнізон у студзені 1943 года, але яны былі лёгка адбіты нямецкімі прыслужнікамі і многія злажылі там галовы.

Гэтым разам партызаны сабралі большыя сілы і пайшлі ў наступ на Дражню з усіх бакоў. Але пад вельмі шчыльным агнём паліцэйскіх змушаны былі адступіць. Толькі з боку Залужжа аднаму з атрадаў удалося ўварвацца ў Засценак. Камандаваў ім нібыта нейкі Ізраіль Лапідус, які быў, расказвалі мне, вельмі свірэпы, раззлаваны за нешта на цэлы свет. Зразумеўшы, што да вельмі добра ўмацаваных паліцэйскіх дотаў падступіцца немагчыма, партызанскія камандзіры нічога лепшага не прыдумалі, як па-подламу расправіцца з усімі, хто жыў у Засценку, жанчыны гэта ці малыя дзеці. Логіка, мусіць, была такая: раз ты жывеш у вёсцы, дзе размясціўся паліцэйскі гарнізон, — значыць, заадно з паліцаямі, значыць — вораг. А галоўнае ж для камандзіраў было — «отчитаться» перад вышэйшым камандаваннем пра выкананне задання па разгрому гарнізона. Для таго, каб радавыя партызаны дзейнічалі больш рашуча і каб спраўна выконвалі загад, ім убілі ў мазгі, што тут жывуць сем'і паліцэйскіх, нямецкія прыслужнікі. От і стараліся «сталінскія сокалы» біць «фашыстаў», паліць хаты і хлявы, забіваючы сваіх жа людзей. Дарэчы, у Засценку, як мне казалі, не было тады ніводнай паліцэйскай сям'і. Ды, зрэшты, калі б і была — ці ж ваяваць з дзецьмі і жанчынамі?

Разгром дражненскага Засценка дазволіў партызанскім камандзірам падаць свайму вышэйшаму камандаванню вельмі «прыгожае», але цалкам дутае, поўнасцю хлуслівае «Донесение», у якім гаварылася, што «ввиду того, что полицейские вели огонь из домов, были подожжены эти дома (хоць паліцэйскія сядзелі не ў дамах, а ў дотах свайго гарнізона ў цэнтры Дражні), што «уничтожены в основном доты» (хоць ніводнага з іх партызаны і не зачапілі). На аснове такіх «данясенняў» у знойдзеным журналістам Віктарам Хурсікам у архівах «Разборы боевой операции по разгрому полицейского гарнизона в Дражно» камандаваннем 2-й Мінскай партызанскай брыгады давалася такая ацэнка «бою» партызан: «В основном… бой прошел очень

удачно. Свою задачу выполнили, гарнизон разгромлен полностью за исключением 5 дотов из которых войти не удалось (?), остальная полиция уничтожена, убитыми и задохнувшимися от дыма насчитывается до 215 сволочей…»

Папраўдзе ж дражненскі паліцэйскі гарнізон не быў разгромлены ні «поўнасцю», ні часткова. Не было знішчана ці нават пашкоджана ніводнага дота. З 78 паліцаяў, з якіх складаўся гарнізон, у тым «баі» быў забіты толькі адзін, праўда, высокага чыну. Ён, выйшаўшы з дота, глядзеў у бінокль, як партызаны «зачышчаюць» Засценак. Забіла яго, як мне казалі, зусім выпадкова, «шалёнай куляй», пушчанай у мірных засценкаўцаў. «Сволочами» брыгадныя камандзіры назвалі пазабіваных дзяцей, жанчын, старых, усіх ні ў чым не вінаватых дражненцаў Засценка.

У згаданым вышэй «Разборы» камандаванне брыгады загадвала: «На особо отличившихся бойцов и командиров представить списки к награждению». От так — за забойства ні ў чым не вінаватых людзей, сярод якіх былі бацькі, жонкі і дзеці тых, хто змагаўся на фронце з нямецкімі фашыстамі, — ордэны і медалі! І, мусіць жа, гэтыя ардэнаносцы не саромеліся потым выхваляцца сваімі высокімі ўзнагародамі, выходзілі з бліскучымі медалямі на грудзях на парады і ўрачыстыя шэсці з нагоды слаўных дат, атрымлівалі павышаныя пенсіі.

Пра мнімы «разгром паліцэйскага гарнізона ў Дражні» пачалі трубіць і ў друку. Фальшывае «Донесение» пра гэты разгром як пра гераічны ўчынак партызан было змешчана ў салідным мнагатомным выданні «Всенародное партизанское движение в Беларуси в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944)», выдадзенай у 1978 годзе ў Мінску. Вельмі дзіўна, што перадрукавала гэтую фальшыўку і старадарожская «Памяць». Ці ж цяжка было складальнікам кнігі пад’ехаць у Дражню і распытаць у людзей, як жа там было напраўду?

Як нам ставіцца да гэтага нечуванага злачынства партызан 2-й Мінскай брыгады? Можа, проста абысці ўвагай, замаўчаць, як нешта «нетыповае», каб «не кідаць цень» на шырокі партызанскі рух, які ахапіў у часы вайны ўсю Беларусь? Каб не змяншаць славы краіны-партызанкі?

Але ад злачынных учынкаў асобных партызанскіх камандзіраў і іх паслухмяных падначаленых яе слава не пацьмее, не зменшыцца: уклад беларускіх партызан у разгром гітлераўскай Германіі ніхто не можа аспрэчыць. Увесь свет ведае папраўдзе народных герояў партызанскага руху ў Беларусі Ціхана Бу-

мажкова, Хведара Паўлоўскага, Канстанціна Заслонава, Пятра Машэрава, Кірылу Арлоўскага, Васіля Каржа, Міная Шмырова і многіх іншых. Усе яны, як і тысячы радавых сумленных партызан, праўдзівых народных мсціўцаў, якія не шкадавалі жыцця дзеля вызвалення сваёй краіны ад фашысцкай навалачы, — гонар Беларусі, выдатны прыклад патрыятызму для нашай моладзі.

Ды паказваць толькі станоўчае ў зацяжной і цяжкай барацьбе з нямецкім фашызмам — азначае проста грашыць супраць праўды вайны, вяртацца да даўно асуджанай «тэорыі бесканфліктнасці» сталінскіх часоў. Услаўляючы гераічныя ўчынкі партызан, мы павінны даць належную ацэнку і таму «негатыву», якога ўсюды хапала ў ваеннае ліхалеццe. Ці ж маем мы маральнае права ў слаўныя шэрагі праўдзівых герояў вайны ставіць і тых, хто да іх «прымазаўся», хто не толькі не зрабіў нічога гераічнага, а, наадварот, скампраметаваў сябе? Тыя, што ведалі пра жудаснае дражненскае пабоішча, ніяк інакш не называлі партызан, як «бандытамі», пераносячы гэтае вызначэнне на сапраўдных партызан-патрыётаў. Вельмі шкада, што і ў вайну, і пасля вайны гэтае недаравальнае злачынства партызан 2-й Мінскай брыгады не было выкрыта і асуджана, не зняты са злачынцаў арэол гераізму.

Першы праўдзіва расказаў пра Дражненскую трагедыю журналіст і выдавец Віктар Хурсік (родам з суседняга Асіповіцкага раёна) у кніжцы «Кроў і попел Дражна». Пра яе мне расказала адна з жанчын, з якімі я гутарыў на лавачцы ў Засценку. Потым я сустрэўся ў Мінску з аўтарам, ён падпісаў мне сваю кніжку. Віктар Хурсік не толькі параспытваў і запісаў на дыктафон многіх дражненцаў, але і добра пакапаўся ў архівах у пошуках дакументаў пра тыя падзеі. Гэтыя дакументы, у тым ліку і памянёны вышэй «Разбор боевой операции по разгрому полицейского гарнизона в Дражно», ён і змясціў у сваёй кніжцы.

Хоць не з усімі меркаваннямі аўтара кніжкі можна пагадзіцца, трэба аддаць яму належнае ў сумленным «расследаванні» нечуванага партызанскага злачынства ў Дражні ў красавіку 1943 года. А што гэта было папраўдзе злачынства, пацвярджае ў прыведзенай у кніжцы размове з Віктарам Хурсікам і адзін з арганізатараў партызанскага руху ў Беларусі, Герой Савецкага Саюза Віктар Лівенцаў. І гэтае злачынства мы павінны асудзіць хаця б маральна, раз уцалелыя сваякі партызанскіх ахвяраў не паспелі ў свой час зрабіць гэта праз суд.

## Рымашэўскія

Проста на вуліцу палезлі, паразрастаўшыся, калючыя ўчэпістыя акацыі. Разам з кустамі бэзу і сліўніку яны зліліся ў адзін непралазны гушчар. З яго яшчэ рвуцца ўверх, на ратоўнае сонца, дзве ці тры заглушаныя, скасабочаныя ігрушы. Ад блізкага лесу падабраліся сюды ўжо і хвоі. Гэтак выглядае цяпер сядзіба майго дзеда Косціка Рымашэўскага.

Сунімаючыся тут, я шукаю вачыма хаця б парастак ці струхлелы пень тае высокай размашыстай ігрушы, з якой спалучаны ў мяне, здаецца, самы першы дзіцячы ўспамін. Мяне нехта з маіх цётак падсаджвае пад галіну, і я зрываю з яе жоўценькую, трохі прадаўгаватую бэру — гэтакую я яшчэ ніколі дагэтуль не еў і яна мне здаецца верхам смакаты. І на другі, і на трэці год я з нецярпеннем чакаў, калі ж ізноў тут паспеюць бэры. Ды ў фінскую вайну сады ў Зялёнай Дуброве вымерзлі. Вымерз і дзедаў сад, які ўжо ніколі тут чамусьці не ўзнаўляўся.

Мой дзед Косцік памёр у 1932 годзе з мазаля. Будаваў калгасны кароўнік, моцна нацёр руку. Але не зважаў на мазоль. Думаў, пройдзе. Не прайшоў. Пухліна пачала пашырацца. Дома ёй, як ні лячылі, не далі рады. Павезлі дзеда ў Бабруйск, у абласную бальніцу. Але позна: па ўсім целе пайшла ўжо гангрэна. Яна і звяла майго дзеда ў 52 гады ў магілу.

Рымашэўскія, як і Цвіркі, здаўна арандавалі ў вакольных сёлах зямлю, пераязджаючы з месца на месца. З шасцярых сыноў Аляксандра Рымашэўскага ў Зялёнай Дуброве аселі трое — Міхал, Косцік і Янка. Апошнія два пабудавалі сабе адну хату — на дзве палавіны, праз сенцы. Але потым мой дзед «адарваў» сваю палавіну і перанёс цераз вуліцу, каб быць незалежным гаспадаром на ўласнай сядзібе.

Замуж ён узяў дачку Мітрафана Дубовіка Гэльку. Спачатку ў іх нарадзілася Шура, за ёй — Надзея, мая маці. Тут пачалася Першая сусветная вайна, дзед Косцік — тады малады, здаровы, з рыжымі заліхвацкімі вусамі — пайшоў ваяваць «за веру, царя и отечество». Чатыры гады карміў ён вошай у акопах. Не ведаю толькі, у якім чыне — можа, як «дваранін», быў хаця б якім фельдфебелем ці унцерам? Вярнуўся дадому на пачатку 1918 года і адразу пасля доўгага перапынку ўзяўся ўзмоцненым тэмпам папаўняць сям'ю. Ужо ў тым жа васямнаццатым годзе паявілася на свет Волька, за ёю сваёй чаргой Каця, Алімпа, Іван, Флёрык, Валя і Толя. От толькі адно з дзяцей — Флёрык — моцна захварэў і памёр, калі сама пачынаў хадзіць. Яго пахавалі,

як звычайна, у Жыціне, куды вазілі хаваць з Зялёнай Дубровы ўсе «рускія» — праваслаўныя «дваране» і «недваране». Вельмі шкадаваў брацiка тады яшчэ малы Іван, ён прасіўся ў бацькі:

— Татачка, адкапайце Флёрыка — я буду гуляць з ім, за ручку яго вадзіць.

Вельмі цяжка было Косціку Рымашэўскаму карміць вялікую сям'ю, у якой не ставала дужых мужчынскіх рук. Таму калі пачалі ў Зялёнай Дуброве арганізоўваць калгас, ён адзін з першых падаў туды заяву: думаў, там зажыве па-чалавечы, без вечных нястач і бясхлебіцы. Завінуўся ладзіць новае жыццё, узначаліў калгасную будаўнічую брыгаду, сам не выпускаў з рук сякеры і гэбліка. І от, як той казаў, згарэў на рабоце, не дачакаўшыся хоць якой палёгкі для сям'і.

Яго Гэлька асталася з маленькім Толем на руках: нарадзіўся ён за тыдзень да такой недарэчнай бацькавай смерці. А яшчэ ж прыглядваць трэба было за трохгадовай Валяй, за шасцігадовым Ванькам, дзевяцігадовай Алімпай і адзінаццацігадовай Кацяй.

Карміць усю сям'ю выпала на долю дзвюх старэйшых дочак — Шуры і Надзі. Адной было ўжо за дваццаць, а другой — дзевятнаццаць гадоў. Зараблялі тым, што даглядалі калгасных кароў і свіней. Ды скора Шура выйшла замуж за аднаго з ваенных, што праводзілі свае манеўры каля нашага возера Скачальскага, і выехала з ім у Расею. Рабіць на ферме асталася мая маці. Але неўзабаве і яна пайшла замуж, перабралася ў сям'ю майго бацькі.

Яе заступіла пятнаццацігадовая Волька. Маладая дзяўчына ад самай раніцы да познага вечара мусіла круціцца на ферме. Яна запарвала свінням бульбу, цягала з калодзежа цяжкія вёдры з вадой, разносіла ў вялізны свінарнік не менш цяжкую паранку, чысціла катухі, важджаючыся з гноем. Гады чатыры тузалася так са свіннямі, не бачачы белага свету. І пад канец папраўдзе яго не ўбачыла: пачала слепнуць. На яе вочы наплыло нешта чорнае. Чарната ніяк не хацела сыходзіць, і матка адправіла дачку ў Старыя Дарогі да доктара. Але там нічога не маглі ёй памагчы, выпісалі накіраванне ў Слуцак.

Ад Старых Дарог туды чамусьці не хадзіў у тыя гады ніякі «грамадскі» транспарт. Прыватных машын тады таксама не было ні ў кога — каб хто і прыдбаў нейкім чынам якую, яго заклявалі б як «частника», а гэта значыць, непажаданага, нават варожага «элемента» ў грамадстве. Некалі, да калгасаў, у кожнага гаспадара быў свой конь, а то і не адзін. Запрагай — і едзь, куды хочаш. Калі коней абагулілі, пазабіралі ў калгас, калгаснікі

маглі куды-небудзь дабірацца толькі «на сваіх дваіх». На такую «драбязу», як з'ездзіць да доктара, у калгасных начальнікаў і не прасі: як можна ганяць абы-куды калектыўных коней? І маладая калгасніца, не ўважаючы на тое, што прыдбала сваю хваробу на грамадскай рабоце, пусцілася ў дарогу пеша. А ад нас жа да таго Слуцка кілометраў шэсцьдзясят, калі не болей.

Выбіраючыся ў дарогу, дзяўчына спадзявалася, што яе падвязе на слуцкай шашы якая машына. Але тады, у 1938 годзе, увогуле было вельмі мала машын, нават грузавых. Вунь паказалася адна. «Прагаласавала» Волька. Ды машына на яе — нуль увагі: прашмыгнула міма, не прыпыніўшыся. Машына крытая, чорная. Ды гэта ж той «чорны воран», што і ў Зялёную Дуброву залётваў! Праз нейкі час ізноў загула ззаду машына. Зноў падымае дзяўчына руку, але зноў ляціць такая ж птушка! А потым яшчэ і яшчэ. І на Слуцак, і ад Слуцка. І ніякіх другіх машын — толькі адны «чорныя вораны» снуюць туды-сюды. Так і дайшла сваімі нагамі маладая калгасная свінарка да Слуцка. Праўда, па дарозе пераначавала ў Волашаве, дзе жылі яе цёткі — Марыля і Ганька.

Дапыталася ў Слуцку бальніцы, падышла да варот. Падышла і стала, як аслупянелая: напроці, за вуліцай на нейкім пляцы — цьма людзей, машын. Нібы ўвесь горад сюды збегся.

— Цётачка, што там такое робіцца? — спытала Волька нейкую жанчыну.

— Гэта ж, дзевачка, НКВД людзей сюды столькі панасцягвала. Тут — цюрма.

І праўда, між людской сціжмы Волька ўбачыла тыя крытыя жалезныя машыны, што шнуравалі міма яе па шашы. Вунь яшчэ адна, сігналячы, заязджае туды.

У бальніцы добра агледзелі Вольчыны вочы, закапалі нечым, далі з сабой капель і адпусцілі дадому.

Ізноў пайшла Волька пеша дадому, у Зялёную Дуброву. Ізноў праносіліся міма тыя энкавэдысцкія машыны-душагубкі, перад якімі яна ўжо і не думала «галасаваць».

Адпускаючы дзяўчыну дадому, дактары вельмі строга наказалі ёй, каб толькі не ператруджвалася, бо і далей будуць слепнуць вочы. Але ж як тут будзеш не ператруджвацца, калі, апроч яе і мацеры, занятай дзецьмі, не было каму болей рабіць на ферме — зарабляць працадні, за якія на першым часе нешта палучалі ў калгасе.

Маці нават вучыцца дачку далей за чатыры класы не пусціла — трэба было карміць сям'ю. Дзеля гэтага і з замужжам

папрасіла яе пачакаць, пакуль пападрастаюць сёстры і заменяць яе на ферме.

Была тады Волька, як і ўсе Гэльчыны дзеці, вельмі прыгожая, стройная, на яе шмат хто заглядваўся з хлопцаў. Вельмі ўпадабаў яе добры хлопец з Сяльца Піліп Міхадзюк. Хоць з неахвотай, але згадзіўся ён пачакаць са шлюбам. Ды тут пачалася вайна. Пайшоў хлопец у партызаны і загінуў там ад нямецкай кулі. Закахаўся ў Вольку і другі кавалер — Ігнась з Клятнога, ветэрынар. Ён таксама ў вайну стаў партызанам, ваяваў у брыгадзе Аляксея Шубы. Але пры няўдалым наступе шубаўцаў на нямецкі гарнізон у Фалічах Вольчынага Ігнася моцна параніла, і ён, вярнуўшыся адтуль, неўзабаве сканаў ад ран.

Ды і ўсіх другіх магчымых яе жаніхоў выкасіла вайна. А пасля вайны калі б хто і знайшоўся, немалой перашкодай у Вольчыным замужжы, мусіць, магла б быць яе хвароба вачэй, што «прагрэсіравала», ды і маладзейшых за яе дзяўчат вунь колькі навырастала. Так і асталася векаваць мая цётка Волька незамужкай.

Цяпер ёй пад дзевяноста. Яна ўжо зусім не бачыць. Жыве пры сястры Алімпе, таксама ўжо немаладой.

Іхная маці, мая бабуня, пражыла менш — усяго семдзясят два гады. У маленстве яна вельмі прываблівала мяне сваімі казкамі, якія расказвала нам, малым, прыходзячы ў нашу хату і падсаджваючыся да нас на печ. Асабліва захапіла мяне яе казка пра царэўну, якую выкраў з царскіх палацаў страшны Змей з трыма галовамі і якую падручыліся вярнуць цару тры слаўныя рыцары. Бабуня давяла свой расказ да самага цікавага моманту, калі адзін з рыцараў супыніўся са сваім канём на раздарожжы ў роздуме: па якой жа з трох небяспечных дарог яму пусціцца? Колькі я ні ўпрошваў бабуню, каб расказала мне, што ж было далей, яна ўсё недабірала на гэта часу, а мо і проста забыла канец казкі.

Была мая бабуня Косцічыха не без гумару, любіла пажартаваць, адпаліць якую-небудзь штуку, каб пасмяяцца. У калгаснай канторы, пад якую адвялі хату раскулачанага Адама Шумскага, заўсёды вісеў яго, таксама абагулены, вялікі чорны кажух. Ён выдаваўся таму з калгаснікаў, каму трэба было з'ездзіць у горад ці на якую ўрачыстасць, прыкладам, у сваты або жаніцца. Быў гэты кажух пад апекай рахункавода Юліка Дубовіка. Даглядчыцам калгасных кароў, што стаялі ў хляве Шумскіх, тут жа, у двары, захацелася пажартаваць. Згледзеўшы, калі Юлік недзе

выйшаў з канторы, яны цішком пракраліся туды, ухапілі калгасны кажух і схавалі. Завадатаркай была тут мая бабуня, стрэчная сястра Юліка. Мала таго. Бабуня надумалася яшчэ скласці пра ўсё верш. Гукнула да сябе ў хату «дзевак» — хаўрусніц па ферме, пасадзіла іх за стол, дала на чым і чым пісаць, а сама села на печы пры коміне і пачала дыктаваць ім верш пра кажух, лоўка спляаючы радок з радком моцнымі вузламі рыфмаў. Перапісаўшы ў роўны слупок насліненым хімічным алоўкам на вырваным з вучнёўскага сшытка аркушы паперы вельмі дасціпнае бабуніна тварэнне, «дзеўкі», давячыся ад смеху, прыклеілі яго на дзвярах канторы. Сляпы на адно вока рахункавод Юлік Дубовік не заўважыў, што там прыклеена. Толькі вельмі дзівіўся, чаму гэта ўсе, хто заходзіць у кантору, парабіліся такія вясёлыя. Уся Зялёная Дуброва рагатала тады з калгаснага кажуха. Цікава, што і праз семдзясят пяць гадоў старыя людзі са смехам расказвалі мне пра жарт маёй бабуні і нават успаміналі асобныя радкі з яе верша, які пачынаўся такімі словамі:

Юлік за сваім сталом сядзеў,
І з-пад с… кажух паляцеў.

Верш быў доўгі, у ім нешта смешнае прыдумала мая бабка Косцічыха пра многіх дуброўцаў. Мне ўспомнілі яшчэ два радкі — пра Уладзіка Матусэвіча. Збіраючыся ў сваты ў Падарэссе, ён прыйшоў у кантору прасіць кажуха. Ды яго там як карова языком злізала. Не солана хлябаўшы вярнуўся тады Матусэвіч са сватання: падарэская дзеўка адправіла яго дадому з носам. Казалі, калі б ён заявіўся да яе ў шыкоўным кажусе, не ўстаяла б перад дуброўскім кавалерам падарэсчанка. Словам, вінаваты ў Матусэвічавай няўдачы быў кажух. На гэта і намякала мая бабуня ў сваім вершы:

І Матусэвіч зажурыўся,
Што ў кажусе не жаніўся.

Была мая бабуня і набожная. Спачатку, за дзецьмі, ёй не было калі тут вельмі ўпадаць у модлы. Але ў вайну, наслухаўшыся казаняў майсеевіцкага Піліпа, яна — памалу-памалу — уцягнулася ў евангелісцкую веру. Не ў прыклад дуброўцам, якія з розных прычын адышлі ад той веры, яна асталася баптысткай і пасля вайны і спавядала яе да канца сваіх дзён.

Прыязджаючы з Мінска і заходзячы ў бабуніну хату, я бачыў там многа ўсялякіх выданняў Божага Пісання, якія ёй прыносілі

з недалёкіх сёл «браты і сёстры» па веры. Сярод тых кніг мне папала было на вока і невялікае Евангелле на беларускай мове, выдадзенае ў Хельсінкі.

У той час, як я сядзеў за сталом і запісваў гэтыя згадкі пра сям'ю маіх дзядоў Рымашэўскіх, прыйшла да мяне ў хату ў Зялёнай Дуброве сястра Яня і прынесла сумную вестку: памерла ў Асіповічах мацерына сястра Валя. Давялося перарываць маю работу і ехаць на пахаванне. Пражыла Валя семдзясят сем гадоў. Адышлі на гэты момант (20 мая 2006 года) у іншы свет як старэйшыя з сям'і (Шура і мая маці), так і маладзейшыя — Каця, Іван, Толя і от цяпер Валя. Асталіся — хай іх Бог беражэ — сярэднія: Волька і Алімпа.

У дзедавага брата Янкі і яго жонкі Алены Галавачанкі з Пабокавіч было пяцёра дзяцей — Антось, Уладзік, Паўлінка, Стэфка і Марыля. Уладзік загінуў на вайне, дочкі завялі свае сем'і, а на бацькаўшчыне астаўся Антось, які ўзяў сабе за жонку дачку Яся Цвіркі Алесю.

Антось змалку быў вельмі ўпраўны і па-свойму кемлівы хлопец. Любіў вычвараць усякія штукі. У сям'і Янкі Рымашэўскага дажывала свой век яго і майго дзеда Косціка маці Віктуся, мая прабабка. На старасці год яна аслепла. Але і ёй знайшлася работа: мацаць курэй — ці скора знясуцца. Лавіць і падносіць іх бабцы даручылі маломy Антосю. А ён зловіць, бывае, пеўня і падасць сляпой бабцы. Тая, прыцiснуўшы яго локцем левай рукі ўніз галавой, мацае яго пальцам, ці з яйцом, а ўнук аж заходзіцца ад смеху.

Праз сваю ўпраўнасць у маленстве ён быў пакалечыўся. Падкатваўся на ваганетцы, на якой па колішняй Полякавай вузкакалейцы везлі коньмі ў Фалічы лес, сарваўся на хаду і папаў босай нагой пад жалезнае кола. Яму адрэзала тады на назе вялікі палец. Калецтва невялікае, але яно вельмі памагло потым Антосю: праз гэта яго не бралі на вайсковую службу, ну і на вайну.

У калгасе рабіў ён кавалём у кузні. Гэтаму рамяству навучыўся ад колішняга дуброўскага каваля Лахмана: жыў той побач з Янкавай сядзібай, тут была і яго кузня, у самым засценку. Калі Лахман выехаў некуды з сям'ёй, яго месца і заступіў Антось Рымашэўскі, да якога прыляпілася і імя першага дуброўскага каваля — Лахман. Кузню потым збудаваў калгас у другім месцы, — на водшыбе ад Зялёнай Дубровы. Рабіў там Антось Янкаў да канца сваіх дзён.

Антось з Алесяй выгадавалі двух хлопцаў — Лёню і Аркадзю і дачку Аню. Хлопцы ранавата чамусьці пайшлі з жыцця. Дзедаўшчынай-бацькаўшчынай завалодала Аня, якая выйшла замуж за смаленскага бежанца часоў вайны, харошага хлопца Колю Кузняцова. Кожнае лета яны абое — тут. Перабудаваная нанова яшчэ Антосем хата, у якой яны летуюць, — адзіны жывы помнік колішняму селішчу Рымашэўскіх.

Праўда, у ваколіцах Зялёнай Дубровы астаўся яшчэ адзін «нематэрыяльны» помнік нашаму роду — урочышча Рымашэўшчына. Гэта — сенакос, які адваяваў у лесу, разрабіў дзедаў брат Юзік Рымашэўскі з сынамі, пасяліўшыся ў Фалічах. Усе яго чатыры сыны — Уладзік, Зыгмусь, Флёрык і Болесь — пабудавалі на хутарах чатыры звонкія хаты са смаловага хваёвага бярвення, пачалі жыць там сем'ямі. Але ў 1938 годзе нехта ўспомніў (ці прыдумаў?), што адзін з братоў калісь паказаў дарогу булак-балахоўцам. НКВД не разбіралася, хто з іх канкрэтна, загрэблі ўсіх чатырох і прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. Ад іх асталіся чатыры маладыя ўдавы з маленькімі дзеткамі. З дачкой аднаго з іх (Болеся) — Левакадзяй я сустрэўся ў Фалічах. Калі папрасіў расказаць, як жыла яна без бацькі, у яе раптам нешта захрасла ў горле і пажылая ўжо жанчына залілася слязамі. Больш я нічога ў яе не распытваў.

## Жыдовічы

За здзічэлымі прысадамі майго дзеда Косціка Рымашэўскага стаяць тры старыя маўклівыя клёны. Яны — жывая памяць пра колішняе селішча Паўла і Магдалены Жыдовічаў, якія прыбіліся сюды сто гадоў назад аднекуль з-пад Мінска.

Някепска жылося ім тут, на сваёй, законна прыдбанай зямлі, на вольнай волі, сярод мілага дзіцячага шчабятання. А дзяцей пані Магдалена нарадзіла гаспадару роўна дзесяць: Людвіка, Франука, Юзіка, Антося, Яся, Зыгму, Марылю, Сабіну, Відалю і Юзэфу. От толькі не доўга радаваўся Павел Жыдовіч імі: у калектывізацыю, калі адбіралі нажытае і зганялі ўсіх у калгас, памёр — не вытрывала сэрца гвалту. Затое не ўбачыў, якая горкая чакала яго дзяцей доля.

Першаму не паспрыяла яна сыну Юзіку, вельмі стройнаму і пагляднаму хлопцу. Яго падвяло каханне, якое наткнулася на жалезную волю мацеры.

Невядома якімі чарамі прычаравала хлопца маладзенькая яснавокая дачка майго прадзеда Мітрафана, родная сястра маёй бабкі Косцічыхі — Аляксандра. Казалі, была яна вельмі прыгожая. Як магнітам цягнула Юзіка Жыдовіча ў Мітрафанаву хату. Усім дзявочым сэрцам шчыра пакахала хлопца і Аляксандра. Згаварыліся пажаніцца.

Пайшоў Юзік да мацеры прасіць дазволу і блаславення на шлюб. Пачуўшы, каго выбраў сабе сын, Магдалена сказала як адрэзала:

— І не кажы мне пра сваю Алесю, я ніколі не дазволю табе радніцца з Дубовікамі: яны ж — рускія! Бяры каго хочаш, толькі з нашых, з палякаў!

Як ні даказваў мацеры Юзік, што цяпер усе людзі роўныя — ці гэта католікі («палякі»), ці праваслаўныя («рускія»), яна і слухаць яго не захацела:

— І думаць не думай, каб узяць рускую!

Не ў прыклад Адвэртам, якія хоць таксама не хацелі аддаваць «палячку» Анцю за «рускага» Івана, брата Аляксандры, але ўсё ж такі пад канец узялі на сябе гэты «грэх», Магдалена не адступілася.

Юзік на каленях маліў матку, каб дазволіла яму жаніцца з любай дзяўчынай.

— Мама, без Аляксандры я не хачу жыць, калі ты не дазволіш, я пайду ўтаплюся.

— Хоць тапіся, хоць вешайся, а з рускімі радніцца не дам!

Яшчэ больш жорстка павялася такая гаворка, калі Магдалена, узяўшы з сабой Юзіка, паехала на брычцы ў Пабокавічы праведаць дачку Марылю, якая жыла там замужам.

Пачуўшы яшчэ раз катэгарычную нязгоду мацеры на шлюб, Юзік саскочыў з воза і ў роспачы кінуўся ў Пціч, якую якраз праязджалі каля Майсеевіч.

Маці нават не суняла каня. Як ехала, так і паехала далей. Калі варочалася на сваёй брычцы назад, Магдалену прыпынілі майсюкі — людзі з Майсеевіч:

— Ідзі забяры свайго сына, мы яго з вады выцягнулі, нежывога. Вунь ляжыць на беразе.

Магдалена як і не чула, што казалі ёй майсюкі, дала дубцом па кані і паджгала дадому, у Зялёную Дуброву. Майсюкі самі пахавалі яе сына Юзіка на сваіх могілках.

Нічога не магу сказаць пра Жыдовічавых сыноў Людвіка і Франука. Ведаю толькі, што адзін з іх, здаецца Людвік, з’ехаў назаўсёды ў Амерыку.

Дзецям, якія заставаліся пры аўдавелай Магдалене, бяду прынесла зноў жа калектывізацыя. Цвёрдая сваім характарам гаспадыня сядзібы ісці ў калгас пад чыёсьці камандаванне наадрэз адмовілася. Сям'ю абклалі непамернымі падаткамі — «цвёрдым заданнем», якое немагчыма было выканаць. Тым, хто не выконваў, давалі па дзесяць гадоў турмы, канфіскоўвалі ўсю маёмасць і не дазвалялі пасля адбыцця тэрміну вяртацца дадому — жыві дзе хочаш. Такая доля напаткала і Магдалену з дзецьмі. Іх саслалі ў Сібір. Праз дзесяць гадоў Жыдовічы вярнуліся адтуль. Але дома жыць ім не дазволілі. Зыгма з'ехаў на Украіну, Ясь — пад Асіповічы, адкуль яго забралі на вайну, дзе ён і загінуў. Дочкі — шчасліва ці нешчасліва — павыходзілі замуж. Сама Магдалена знайшла прытулак у Пабокавічах, у дачкі.

Уратаваўся ад раскулачвання толькі Антось. Бо, ажаніўшыся, ён аддзяліўся ад бацькоў яшчэ да калектывізацыі, а калі яна пачалася, адразу ўступіў у калгас.

Але родная савецкая ўлада ўсё роўна не дала жыць і прававернаму Антосю Жыдовічу. У 1937 годзе яго беспадстаўна схапіў той жа «чорны воран» і ўжо не выпусціў са сваіх кіпцюроў.

У Антосевай жонкі Сашы асталося на руках чацвёра сыноў — Казя, Ваця, Стась і Флёрык. Дарэчы, яна была з тых самых Дубовікаў — дачка Ладымера, роднага брата майго прадзеда Мітрафана, такая ж «руская», як і Мітрафанава Аляксандра. Не ведаю, ці памякчэла ўжо пані Магдалена, даючы тут згоду на шлюб, ці проста Антось яе не паслухаў, цвёрда настояўшы на сваім.

Цяпер, калі я ўсё гэта апісваю, з чатырох Жыдовічавых сыноў асталіся толькі два — Ваця і Флёрык. Кожны год яны, адзін з Суціна, другі з Талькі, прыязджаюць з дзецьмі і ўнукамі на Радаўніцу ў Зялёную Дуброву — на магілы сваіх родных, якіх прывозілі хаваць толькі сюды, на бацькаўшчыну.

## Антосева племя

Бальшыня сядзібаў таго канца Зялёнай Дубровы належала дзецям і ўнукам Антося Цвіркі — трэцяга з сыноў нашага прапрадзеда Феліцыяна.

У Антося было шасцёра сыноў — Андрэй, Алесь, Іван, Анцік, Паўлюк і Сцяпан.

Пра першых трох я ведаю толькі ад старых людзей Зялёнай Дубровы.

Самым моцным гаспадаром быў у нас Андрэй. Ён меў уласную конную малатарню, прасторны дом пад нямецкі вугал, пакрыты не саломай, як амаль ва ўсіх у Зялёнай Дуброве, а пафарбованай у чырвоны колер бляхай.

У калектывізацыю яго раскулачылі за нявыплату непамерна высокіх падаткаў — «цвёрдага задання» і некуды выслалі. З той высылкі Андрэй Цвірка дадому ўжо ніколі не вярнуўся. Усю яго маёмасць, у тым ліку дом, канфіскавалі. Жонка Стэфка (здаецца, родам з Навасёлак) разам з сынам Алесем і дачкой Анэтай змушана была шукаць другога жытла.

Андрэеў дом стаў калгасным клубам. У вайну немцы вывезлі яго ў Фалічы.

На месцы Андрэевай сядзібы тады ж, у вайну, нехта памог збіць маленькую хацінку для Стасі Шух (дачкі Юзафа Стахновіча). Яна была замужам у недалёкіх ад нас Каўгарах. Калі на пачатку вайны яе чалавек загінуў, Стася з дзвюма дочкамі (Рэняй і Віцяй) вярнулася на радзіму, у Зялёную Дуброву. Недзе пасля вайны дочкі з'ехалі ў Мінск і забралі з сабой сваю матку.

На іх апусцелай сядзібе калгас ізноў пабудаваў брыгадны клуб. Але праіснаваў ён не вельмі доўга. У абязлюдзелай амаль Зялёнай Дуброве ён стаў ужо без патрэбы. У ім павысаджвалі вокны, вецер ганяў незамкнёныя дзверы, з яго парасцягалі лаўкі, пачалі выдзіраць дошкі падлогі. Кончылася ўсё тым, што яго зусім спалілі дзеці «дачнікаў». Цяпер як напамінак пра зменлівае мінулае астаўся ад новага клуба на колішняй сядзібе Андрэя Цвіркі толькі цэментавы падмурак, які памалу раз'ядаюць дажджы ды сонца.

Другі Антосеў сын Алесь ажаніўся з Шыкеранкай Альжбетай. Паспеў нажыць з ёю толькі дзвюх дачок — Яню і Стасю. У часы «вялікага пералому», як называлі калектывізацыю, Алесь, не ведаю, з якой прычыны, налажыў на сябе рукі. Летам 2005 года на пахаванні мацерынай сястры Валі ў Асіповічах я разгаварыўся з Алесевай дачкой Яняй — ужо зусім старэнькай бабуляй. Мне хацелася даведацца, чаму павесіўся тады яе бацька. Але яна запярэчыла гэтаму, сказала, што ён проста памёр. У Дуброве ж старыя жанчыны растлумачылі мне, што сям'я Алеся заўсёды старалася прыхаваць вельмі непрыемны для яе факт самагубства гаспадара. Праўда ці не, не ведаю.

Пасля Алесевай смерці Альжбета ўзяла да сябе прымака Тамаша Ляневіча са Старэва. Ад яго яна нарадзіла яшчэ дваіх

дзяцей — Валю і Івана, якіх запісала на прозвішча першага гаспадара — Алеся Цвіркі.

Іван ажаніўся са згаданай сястрой маёй мацеры — Валяй. Я вазіў іх на падводзе ў сельсавет, у Дражню распісвацца. Іван з жонкай пасля вайны атайбаваўся ў Асіповічах, рабіў там машыністам на паравозе. Калі я быў студэнтам, то, ездзячы з Мінска дадому праз Асіповічы, заходзіў да іх пераначаваць: поезд тады ішоў адсюль на Слуцак толькі раніцай.

Цяпер і Іван, і яго Валя — на тым свеце. Ад іх асталося трое дзяцей — сын Віця і дочкі Іра і Люда. Ну, і ўнукі.

Пра трэцяга Антосевага сына Івана мне расказвалі, што ён нібыта знайшоў сабе жонку ў Бабруйску, у публічным доме. Дзяцей ад яе Іван не дачакаўся, так і памёр — яшчэ да вайны — бяздзетны. Яна ж яшчэ раз выйшла за некага замуж у Кавалічы.

Вельмі цьмяна помніцца мне Анцік — ён памёр перад самай вайной. Памяць выхапіла адзін толькі момант: хударлявы, ссутулены, ён ідзе ад вуліцы ў бок кузні, абхапіўшы аберуч за спіной палку — можа, яна памагала яму раўней трымацца? Дражнілі яго чамусьці Кітаец — здаецца, яго занесла было нейкім чынам у Кітай. З жонкай Стэфкай, якую адкапаў недзе пад Слуцкам, ён выгадаваў толькі трох дачок — Таню, Валю і Тасю. Яны даўно павыходзілі замуж, назаўсёды пакінуўшы сваё селішча, якое зарастае быллём ды палынамі.

Паўлюк мне помніцца больш. Рослы, падцягнуты — якраз такі стаіць ён у мяне перад вачыма. Калі я асталяваўся ў Мінску, то, ездзячы дадому, разы два заходзіў да яго ў Фалічах. Ён ахвотна расказваў мне пра мінуўшчыну, пра наш род.

У калектывізацыю ён, як і яго брат Андрэй, таксама быў «кандыдат» для раскулачвання. Яго аблажылі былі ўжо невыканальным «цвёрдым заданнем». Ратуючыся ад арышту і гвалту, ён перавёз сям’ю ў чыгуначны пасёлак Фалічы, а сам уцёк на Капыльшчыну, у Цімкавічы, дзе не адзін год хаваўся ад роднай улады ў нейкага знаёмага. Вярнуўся ў сям’ю пасля «галавакружэння ад поспехаў», пайшоў рабіць у смалакурню. З гаспадара ўласнай зямлі ў Зялёнай Дуброве зрабіўся ў Фалічах у поўным сэнсе слова чорнарабочым, кожны дзень прыходзячы дадому чорны ад куродыму і вугальнага пылу. Нейкім чынам удалося яму пражыць ляжоўшчыну. На вайну яго не ўзялі па ўзросту.

Паўлюковай жонкай была дачка Ладымера Дубовіка Волька. Яны пакінулі пасля сябе трох дачок — Веру, Надзю і Ліду.

Бацькоўскі дом у Фалічах заняла Ліда, цяпер удава. Да яе аставалася тут пры аўдавелым бацьку сярэдняя — Надзя, якая, як і Ліда, рабіла ў Старых Дарогах у швейным атэлье, куды ездзіла поездам.

Як праз туман бачыцца мне шосты Антосеў сын — Сцяпан. З усіх яго братоў яму аднаму ўдалося нейкім чынам утрымацца ў Зялёнай Дуброве, прайсці праз Сцылу і Харыбду ўсіх сталінскіх мясарубак і войнаў і дажыць да дзевяноста з лішнім гадоў.

У Сцяпана было пяцёра дзяцей: сыны Іван, Антон, Мікалай і Паўлік і дачка Валя, якая выйшла замуж яшчэ да вайны і, не ведаю, якім парадкам, апынулася ў Сібіры на залатых прыісках.

Першыя тры сыны, завёўшы свае сем'і, аддзяліліся ад бацькі і пабудаваліся паблізу ад бацькавай сядзібы.

Мікалая, як і яго сястру Валю, я зусім не помню: ён загінуў на вайне, пакінуўшы на руках у жонкі Боні дзве дачкі — Зіну і Яню. Яня з'ехала ў Цалінград, а Зіна выйшла замуж за майго хаўрусніка Зэну Шыкера, пра якога я ўжо расказваў.

Іван быў у нас нейкі час брыгадзірам. З ім і мне давялося «паваяваць» за несправядлівыя пакаранні маёй мацеры. Прыкладам, за тое, што не змагла выканаць нейкі яго «загад», ён адмаўляў ёй карыстацца калгасным канём. Я прыходзіў да яго ў хату дабівацца адмены такога пакарання, бо ў калгаснай вёсцы без каня было тады як без рук. Але ён быў непахісны ў сваім.

За жонку ўзяў Сцяпанаў Іван дачку Аляксандра Каспяровіча Анэту. Чамусьці яны не хацелі мець вялікую сям'ю. Абмежаваліся толькі адной дачкой Манькай. Маньку ўзяў замуж Крыстынін Валодзя і звёз яе ў Слуцак. Цяпер яна, ужо ўдава, кожны год на цэлае лета прыязджае з сынам Валодзем на бацькаўшчыну, не дае запуставаць і зарасці роднай сядзібе.

З трэцім Сцяпанавым сынам Антонам мы часта вельмі добра гаманілі пра нашу мінуўшчыну, ды і не толькі. Ён шмат чаго ведаў, ва ўсім добра разбіраўся. Я многа чаго хацеў у яго распытаць, ужо збіраўся падыходзіць да яго на лаўку, на якой ён часта праседжваў, як раптам пачуў цяжкую вестку: памёр Антон.

З жонкай Соняй (дачкой Алеся Дубовіка) ён прыдбаў, як і Іван, толькі адну дачку — Жэню. Яна выйшла замуж у Старыя Дарогі, рабіла там у лясгасе. Цяпер — таксама ўдава. Хоць зрэдку, але разам з сынам Іванам наведвае родную сядзібу, дзе астаўся стаяць такі прасторны і вельмі прыстойны Антонаў дом.

Чацвёрты, самы маладзейшы з Сцяпанавых сыноў Паўлік не аддзяляўся ад бацькі, у бацькоўскую хату прывёў ён маладую жонку Ядвісю Сакалоўшчанку, якую знайшоў… за вуліцай. У 1944 годзе, пасля вызвалення нас ад немцаў, яго забралі былі на фронт, адкуль ён вярнуўся паранены. Пажыў пасля гэтага нядоўга. Ад яго асталіся ў Ядвісі дачка Віталіна і сын Эдзя. Віталіна закончыла Белдзяржуніверсітэт, стала кандыдатам навук, працавала выкладчыкам гэтага ж універсітэта і зусім нечакана для ўсіх, на вялікае гора мацеры і радні, заўчасна памерла.

Ядвіся як жыла, так і жыве на сваёй гаспадарцы, на той жа сядзібе цесця Сцяпана. Змалку прывучаная да работы, яна шчыруе на ёй з ранку да вечара, нягледзячы на свой немалы ўзрост.

Усе Сцяпанавы сыны — Сцепанцы — былі заядлымі пчалярамі. Яны выдаўблівалі з тоўстых камлёў хвояў і асін калоды для пчол, прыладжвалі іх у сваіх садах, а таксама зацягвалі на навакольныя дубы ды старыя хвоі, заманьваючы туды мімалётныя раі. Расказвалі, што для таго, каб тыя раі ішлі толькі ў іхныя борці, яны змазвалі ляткі ў чужых калодах салам, якое пчолы не могуць трываць. Але гэта, я думаю, звычайныя плёткі зайздроснікаў на кемлівых і гаспадарлівых Сцепанцоў.

## Сакалоўскія

Жылі яны за Залужжам на хутары Стараселле, які называлі яшчэ Сакалоўчшына. Там, над пакручастай Арэсай, сярод палявога і лугавога прывольля стаяў у цяні ліпаў і клёнаў вельмі паглядны з бярвення дом з шырокімі вокнамі. У роўным квадраце двара, агароджанага частаколам, месціліся і ўсе патрэбныя ў гаспадарцы пабудовы.

За дваром раскінуўся вялікі сад. Пад кожнай яблыняй і ігрушай стаялі выдаўбленыя з тоўстых хваёвых і асінавых камлёў калоды з пчоламі.

Гаспадар двара Іван Сакалоўскі быў чалавек гаспадарлівы, непаседлівы. З ранняй раніцы да познага вечара, як уюн, круціўся ён на гаспадарцы, не пакладаючы рук. Затое ўсё мелася ў яго доме, сям’я жыла ў дастатку.

Жыла, пакуль не пачаліся калгасы. Лезці ў агульны хамут гаспадар не хацеў нізашто. Але ў бальшавікоў быў адзін вельмі надзейны сродак закілзаць непаслухмяных: аблажыць, як ваўкоў, грабежніцкім, адкрыта здзеклівым падаткам.

Выжыльваючыся з усіх сіл, выканаў свабодалюбівы Іван Сакалоўскі аж тры амаль фантастычныя «цвёрдыя заданні», не пакінуўшы сабе ні мёду, ні смуроду. А от на чацвёртае не хапіла ўжо аніякай моцы. Аднаго маку патрабавалася здаць дзяржаве цэлыя тры пуды. Нават уявіць не мог гаспадар, як яго навытрэсваць гэтулькі з маленькіх макавак, якіх не так і многа ківалася на ветры ў яго агародзе.

За невыкананне падаткаў далі Івану Сакалоўскаму 10 гадоў і павезлі ў закратаваным вагоне ў Маскву, пад зямлю — будаваць маскоўскі метрапалітэн. Усю яго маёмасць — у тым ліку выштукаваны ўласнымі рукамі ўтульны дом і гаспадарчыя пабудовы — канфіскавалі на карысць залужскага калгаса. Адных пчол забралі ў калгас сорак калод. Усе яны пайшлі, ведама ж, на глум.

Але самым балючым было для гаспадара тое, што асталася без сродкаў існавання яго сям’я — жонка Гэлена з трыма маленькімі дочкамі — Ядзяй, Юзяй і Анцяй. Апошнюю маці яшчэ насіла на руках. Усіх іх выкінулі з дома пад адкрытае неба. Нават у калгас не залічылі: як жа, сям’я «ворага народа». Аставалася толькі ісці жабраваць, бадзяцца па хатах, просячы прытулку.

Ведаючы гэта, Іван Сакалоўскі напісаў жонцы з турмы, каб яна падала на развод з ім і зняла з сям’і кляймо «ворага народа». Толькі пасля гэтага Гэлену Сакалоўскую прынялі ў калгас, але ўсё роўна не пераставалі чыніць з яе здзекі. Вельмі ўдзячныя былі Сакалоўскія старшыні залужскага калгаса Завесіну, які, зжаліўшыся, перадаў бяздомнай сям’і невялікую калгасную хамутоўню — адмысловую прыбудову да канюшні для захоўвання хамутоў і іншай конскай збруі.

Гэтую хамутоўню Гэлена з дапамогай добрых людзей перавезла ў Зялёную Дуброву, дзе была замужам за Аляксандрам Каспяровічам яе родная сястра Эміля. Сядзібу адвялі ёй на вузкім загоне, паміж Анцікам Цвіркам і яго пляменнікам Антонам Цвіркам. Там і склалі з калгаснай хамутоўні невялічкую хатку, прарэзаўшы ў ёй маленькія ваконцы. Тут Гэлена (ці Гэлька) Сакалоўская і павыгадоўвала ўсіх траіх дачок, якіх з часам паразбіралі жаніхі: Ядвісю — цераз вуліцу, Юзю — у Мінск, а меншую Анцю — у Старыя Дарогі.

Хатка-хамутоўня Сакалоўскіх і сёння стаіць у Зялёнай Дуброве. Сюды, дадому, прыязджае на лета з Мінска аўдавелая ўжо Юзя, не даючы хатцы заняпасці. Часам я сустракаю яе на лавачцы каля хаты Сцяпана Цвіркі. З цяперашняй яе гаспадыняй Ядвісяй, Юзінай сястрой. Ядвіся і Юзя — унучкі Людвіга

Луцэвіча, які некалі прыбіўся ў нашу Жыцінскую воласць, як высветліў Эдзя Касяпровіч, з Ігуменскага павета, пэўне ж, з таго засценка Пяскі, дзе атабарыліся былі некалі Луцэвічы. Так што той, хто складае сёння генеалогію роду Луцэвічаў, хай прыязджае ў маю Зялёную Дуброву. Тут ён сустрэне абедзвюх дачок Луцэвічанкі Гэлены Сакалоўскай — жывых атожылкаў гэтага славутага роду — і можа гэтак жа, як і я, прысесці да іх на лаўку ды пагаманіць пра іхнае паходжанне і няпростую гісторыю.

## Шалькевічы

Стася Шалькевіча, астатняга ў Зялёнай Дуброве мужчыну з вялікага роду, загубілі дзікія гусі.

Кожнае восені, адлятаючы ў вырай, яны цэлымі чародамі з прарэзлівым гагатаннем кружаць над дуброўскімі ваколіцамі. Прываблівае іх наша возера. У сваім палёце яны заўсёды збочваюць сюды, каб адпачыць, паднабрацца сіл перад вялікай дарогай. Тыдні чатыры, а то і ўсе пяць і болей звычнае гусінае шматгалоссе запаўняе неба. Звычайна ў бок возера гусі ляцяць сваімі звонкімі ланцугамі з другой палавіны дня. Часам ужо зусім позным вечарам, пры зорах. Там, шумна лапочучы крыллем, яны апускаюцца на ваду і астаюцца нанач.

Які паляўнічы ўтрывае, каб не патрапіць на гэтакі гусіны базар? Спакусіўся на адлётных гусей і Стась Шалькевіч. Перакінуў цераз адно плячо сваю двухстволку, цераз другое — вялікую палатняную торбу для дзічыны і, настаўляючы вуха на гусіныя крыкі, пасунуўся на роднае Скачальскае.

Унь ужо яны пагойдваюцца на азёрных хвалях усёй чарадою. Падкраўся Стась між узбярэжных дрэўцаў і, прыклаўшыся, пальнуў з абодвух стваалоў у самую гусіную гушчу. З вялікім галасам узляцелі гусі ўверх. Але дзве ці тры асталіся, затрапяталі на вадзе параненымі крыламі. Стась барзджэй на лодку, што стаяла паблізу. Адпіхнуўся вяслом ад берага і пагнаў па падбітыя птушкі. Але не так і проста ўхапіць падранкаў. Толькі працягне Стась руку, як яны — кульдых, кульдых — і ўбок ад яго. Усё ж, перагнуўшыся цераз борт, схапіў адну гуску за крыло, пачаў выцягваць з вады. Ды тут нахілілася лодка, чарпанула бортам вады, раз, другі, а потым — круць — зусім перавярнулася ўверх дном, і Стась апынуўся ў вадзе. Быў бы ён плыўцом, дык без цяжкасці даплыў бы к недалёкаму берагу, хоць і ў адзежы. Ды от бяда — не ўмеў плаваць Стась Шалькевіч, не навучыўся, жывучы

пры возеры. Таму як уляцеў у ваду, так і пайшоў тапаром уніз, на тваністае дно возера.

Толькі назаўтра дасталі дуброўцы тапельца. Казалі, Стась, калі яго знайшлі, стаяў у вадзе. Роўна, як слуп.

Стасеў дзед Тодар Шалькевіч пасяліўся ў Зялёнай Дуброве адным з першых. Сыны Косцік, Ясь, Лявось, Віктар і Антось, пажаніўшыся і аддзяліўшыся ад бацькі, адзін пры адным згрукалі тут свае хаты.

У Косціка Шалькевіча (жонку яго звалі Марціся) было чацвёра дзяцей: Люцік, Фэлька (або Фэлікс), Вінцуля (або Вінцэнта) і Амэля. Яны даўно паразляталіся з роднага гнязда. Нікога з іх я не ведаў. Чуў толькі, што адзін з Косцікавых сыноў Люцік пасяліўся ў Фалічах, што ў калектывізацыю яго раскулачылі і недзе выслалі з жонкай і дзвюма малымі дочкамі.

Зусім не ведаў я, дзе дзеўся і другі Косцікаў сын Фэлька. І раптам — цікавая неспадзяванка. У Мінску, у Нацыянальнай бібліятэцы, я разгаварыўся з вядомым гісторыкам і філосафам Вячаславам Феліксавічам Шалькевічам. Гэта быў — Фэлькаў сын! Цяпер ён — доктар філасофскіх навук, прафесар, выкладчык Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Вячаслаў Феліксавіч — аўтар цэлага шэрагу вельмі грунтоўных і важных для Беларусі даследчых кніг: «Казімір Лышчынскі» (у сааўтарстве з К. С. Пракошынай), «Кастусь Каліноўскі: старонкі біяграфіі», «Скарына і скарыніяна», «Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі», надзвычай цікавых артыкулаў у беларускім і замежным друку.

Як расказаў мне Вячаслаў Шалькевіч, яго бацьку, чыгуначніка, у 30-я гады паслалі ў Сібір, асабліва не пытаючыся ў яго згоды. Там, на станцыі Ганзурына Бурат-Мангольскай АССР, і нарадзіўся Вячаслаў. Бацька біўся, як рыба аб лёд, каб уладкавацца і забяспечыць сям’ю, ды не вытрымаў непераадольных цяжкасцяў — памёр, калі яму не было яшчэ і сарака. Маці Алена Міхалоўская (родам са Старэва) у 1946 годзе вярнулася з сынамі Эдуардам і Вячаславам у Старыя Дарогі.

Другі Тодараў сын Ясь Шалькевіч з Авалінкай (дачкой Франука Паўловіча) выгадавалі толькі дзвюх дачок — Левакадзю і Адэлю. Адэля выйшла замуж у Старыя Дарогі за нейкага Лойку, а Левакадзя асталася дома. Да яе прыстаў у прымы адзін з лесарубаў, якіх прыслалі сюды адразу пасля вайны — сібірак Аркадзя Азанаў, вясёлы і таварыскі хлопец. Рабіў ён у калгасе трактарыстам. Чамусьці занадта рана развітаўся з гэтым светам,

аставіўшы з жонкай чатырох дзяцей, якія ў розны час назаўсёды з’ехалі з Зялёнай Дубровы. Добра выштукаваны Азанавым на цесцевым селішчы ладны, з часаных бярвенняў і з нямецкім вуглом дом у адначассе запуставаў. Толькі зусім нядаўна яго набылі «дачнікі».

Калі Яся Шалькевіча і яго Авалінку я яшчэ застаў у Зялёнай Дуброве жывымі (яны адышлі пасля вайны), то Ясевага брата Лявося зусім не ведаў: разам з Лявосіхай і трыма дзецьмі ён яшчэ перад калгасамі з’ехаў пад Асіповічы, у Дзярэўцы.

Не ведаў я і чацвёртага з братоў — Віктара Шалькевіча, які таксама недзе выехаў не пры маёй памяці.

Антось Шалькевіч прывёз сабе жонку з-пад Слуцка, Ратомшчанку. Нажылі яны трох дзяцей — Броню, Ядвіню і Стася. У вайну Ядвіню немцы вывезлі ў Германію як парабчанку, яе вызваліла Чырвоная Армія. Стася ж разам з іншымі дуброўцамі забралі партызаны ў сваю брыгаду — ваяваць з немцамі.

Вярнуўшыся пасля вайны дадому, Стась Шалькевіч ажаніўся з настаўніцай нашай пачатковай школы Марусяй Кірдун. Тры іх дачкі, павыходзіўшы замуж, раз’ехаліся па свеце. Маруся, пахаваўшы свайго няўдалага паляўнічага, адна гаспадарыць цяпер на сядзібе яго продкаў з чапялой ды матыкай.

### Белыя

Нічыпар Белы ўздумаў схадзіць на паляванне. Чаму б і яму з сям’ёй хоць раз не пацешыць душу дзічынай? Узяў у некага стрэльбу і пашыбаваў у лес.

Доўга хадзіў-шнырыў ён па карчэўі ды лясных хмызняках, наставіўшы ўперад сваю зброю. Ды хоць бы які заяц яму папаўся на вочы — нічагуткі! Дакараючы сябе за дарэмна змарнаваны дзень, павярнуў ужо быў назад, як раптам з-за шырокага лазовага куста выскачыў прама на яго маладзенькі алень. Чалавек і звер згледзелі адзін другога адначасова. Дзядзька Белы мігам ускінуў стрэльбу, наставіў на аленя. Але, не стрэліўшы, апусціў яе дулам уніз, даў аленю ўцячы. Потым ён расказваў, што калі ўбачыў яго спалоханыя, зусім бездапаможныя і чыстыя-чыстыя, як у чалавека, вочы, то проста не мог націснуць на курок.

Дабрата, дабрадушнасць — здаецца, такія галоўныя рысы я вылучыў бы ў яго характары. Ён век нікому нічога не зрабіў ліхога, нікога, колькі мне помніцца, не пакрыўдзіў. Мне ён казаў так: хай лепш буду я плакаць ад людзей, чым людзі ад мяне.

У вайну адзін дуброўскі дурыла падаткнуў быў за нешта немцам на дзядзьку Белага. Тыя прымчалі з Фаліч на расправу, ужо вялі яго за вёску расстрэльваць. Толькі чыста выпадкова не расстралялі, адпусцілі жывога. Ды Нічыпар Белы не толькі не помсціў таму яшчэ дурному падлетку-недаростку, але і сварыцца з ім не захацеў: вырасце — сам паразумнее.

Была яшчэ адна асаблівасць у дзядзькі Белага — яго гаварлівасць. Надта ж любіў ён гаманіць з людзьмі, расказваць пра сваё мінулае, пра розныя падзеі. Мусіць, мог бы расказваць дзень, без перапынку, абы толькі яго слухалі. Прытым яму было ўсё роўна, хто яго слухае, — стары ці які малы смаркач. Толькі б запарваць каго. А калі ўжо запарве, забывае пра ўсё на свеце, пра любую, хай і самую пільную работу. Часам паведваў ён такія неверагодныя гісторыі, што ў нас ніхто ўжо не даваў ім веры. Яго залічылі ў хлусы. Калі хто пачынае маніць, на таго казалі, што ён — другі Белы. Нават слова «маніць» стала ў нас сінонімам «бяліць» — ад ягонага прозвішча. Калі мы, малыя, падлоўлівалі, бывала, каго на хлусні, на круцельстве, то, падражніваючы, выкрыквалі з усіх бакоў: «Беліць! Беліць! Беліць!»

Я часта гутарыў з дзядзькам Белым, запісваў яго расказы на магнітафон. Слухаючы іх, я зразумеў, што ніякі ён не хлус, што ўсё, што ён расказваў, — праўда. Ілюзію непраўдападобнасці стварала неверагоднасць яго гісторый. А неверагоднымі яны здаваліся таму, што дзядзька Белы сам трапляў у неверагодныя сітуацыі, калі служыў у царскім войску і калі ваяваў простым салдатам у першую сусветную вайну. Якраз з гэтай вайны і былі яго амаль усе расказы. Трэба дадаць, што ў яго была выдатная памяць, якая слова ў слова захавала нават размовы салдат паміж сабой і з камандзірамі. На магнітафонную стужку запісаў я і даволі доўгія песні, якія спявалі тады рускія салдаты ў акопах. Свае запісы я аддаў у фанатэку Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору нашай Акадэміі навук. На жаль, калі захацеў іх узнавіць для гэтых нататак, там чамусьці яны не знайшліся.

Нічыпар Белы, Пахомаў сын, прыбіўся ў Зялёную Дуброву з-пад Барысава. Ажаніўся ён з Акулічавай Аксеняй. У іх нарадзілася пяцёра дзяцей: сыны Юзік, Алёша, Косцік і дочкі Ніна і Рэня.

Многа гора прынесла дзядзьку Беламу вайна. У першыя ж яе дні загінулі на фронце Юзік, які быў у Чырвонай Арміі лётчыкам, і Алёша (танкіст). Не перажыла страты дзяцей і Аксеня, памерла адразу пасля вайны.

Дзядзька Белы ажаніўся другі раз. Узяў сабе ў жонкі ціхую маленькую жанчынку з акалічнай вёскі Гэльку.

Малодшы сын Белага Косцік выехаў у Бабруйск, дзе завёў сваю сям'ю. Бацькаву хату займае цяпер дачка Рэня, якая прыязджае сюды з дзецьмі на лета са Старых Дарог.

## Марцуленічы

Ён улюбіўся ў яе, што называецца, з першага позірку. Гэта было ў гарадскім парку. На дашчанай пляцоўцы сабралася на танцы моладзь. Сярод многіх дзяўчат яна адразу кінулася яму ў вочы — прывабная, мілая, такая зграбная ў сваёй лёгкай летняй сукеначцы. Доўга не думаючы, запрасіў яе на танец. Ах, як хораша ім кружылася! Здавалася, сама жывая фея з чароўнай казкі трапілася яму ў рукі.

— Мяне зваць Казя, Казімер Марцуленіч.

— Сора, — коратка адказала дзяўчына.

Пасля танцаў ён правёў яе дадому. З таго вечара яны ўжо не разлучаліся. Кожны раз нібы на крыллях ляцеў да яе на спатканне. Упадабала і яна гэтага трохі нязграбнага, але вельмі шчырага, непасрэднага беларускага хлопца.

Наважыліся пажаніцца. Пайшоў Казімер да бацькоў па блаславенне.

— Жаніцца з жыдоўкай? Мала табе рускіх дзевак? — у адзін голас адказалі яму бацька з маткай. — Падумай іщчэ, Казя.

Яшчэ больш катэгарычнымі былі бацькі Соры:

— І не прасі — не дадзім блаславення з іншаверцам.

А каханне разгаралася, і гэты пажар нічым няможна было патушыць. Маладыя людзі пастанавілі ажаніцца без дазволу бацькоў. Кінулі-рынулі ўсё і падаліся на вакзал у Мінску. Сора прыхапіла з сабой толькі самае патрэбнае ў чамаданчыку, як найцяплей адзелася, бо ішла ўжо зіма.

Пра ад'езд Соры дазналіся былі перад тым яе бацькі, радня. Кінуліся ўсім кагалам на вакзал, каб не пусціць «здурнелую» дзяўчыну. Але яна вырвалася ад радні, ускочыла на падножку. Радня гуртам пачала сцягваць яе адтуль, ды поезд ужо зрушыўся з месца. Адна з цётак усё ж ухапіла ўцякачку за рукаў пальта, і ён адарваўся, астаўся ў яе руках. Так і паехала Сора са сваім Казімерам у паліце без рукава.

Казімер Марцуленіч пасяліўся ў Зялёнай Дуброве, рабіў тут шаўцом. Соры ж, якую Казя перавярнуў у сваю веру і пераназваў Марыляй, хапала работы па дому, на сваёй невялічкай гаспа-

дарцы. Жылі яны вельмі дружна, у ласцы і згодзе. От толькі не даў ім Бог дзяцей.

У 1938 годзе Казімера Марцуленіча схапіў разам з другімі дуброўцамі энкавэдысцкі хапун. Пачаліся допыты, катаванні — каб прызнаўся ў наведзенай на яго кімсьці бязглуздзіцы. У турме ў Старых Дарогах праз сцяну раптам пачуў ён голас Івана Дубовіка, з якім часта хадзіў разам на паляванне:

— Казя, прызнавайся ва ўсім, што яны кажуць: усё роўна нам не жыць. Хоць канец будзе нашым мукам.

Але Казімер Марцуленіч не паслухаў сябравай парады. Яму засаджвалі пад кіпці іголкі, білі, прыкладвалі да голага цела напаленае жалеза, ён крычаў немым крыкам у глухія сцены катоўні, але прызнацца, што ён польскі шпіён, што падсыпаў калгасным коням атруту і яшчэ чыніў нейкую шкоду калгасу яго не прымусілі. Ведама ж, у яго ўсё роўна выбілі б патрэбныя прызнанні, але сваёй упартасцю Казімер Марцуленіч адцягнуў час і дачакаўся канца «яжоўшчыны». Дуброўскі шавец вярнуўся ў Зялёную Дуброву да сваёй Соры-Марылі.

У самым пачатку вайны Казімера Марцуленіча забралі на фронт. Трапіўшы ў акружэнне, ён здолеў выбавіцца з нямецкіх лап і ўцячы дадому.

Тут Марцуленічаў чакала вялікая небяспека. І Казімер, і яго жонка ведалі, як вынішчаюць фашысты жыдоўскае насельніцтва. Немцы вельмі часта наязджалі ў Зялёную Дуброву, заўсёды ехалі міма Марцуленічавай хаты і маглі б лёгка схапіць гаспадыню-жыдоўку. Да гонару зялёнадуброўцаў, ніхто з іх не ўдаў яе, не падказаў, хто жыве ў хаце, каля якой дарога з фаліцкага нямецкага гарнізона паварочвае ў вуліцу. Так і дажыла Сора, ці Марыля Марцуленіч да вызвалення Зялёнай Дубровы Чырвонай Арміяй.

Хату Марцуленічаў, якія адышлі ўжо на той свет, займаў да ад'езду ў Тальку Ваця Жыдовіч з сям'ёю. Цяпер ад Марцуленічавай сядзібы — ні знаку: голая, зарослая бур'янам ялавіна пры аўтобусным прыпынку.

## Школа

Зялёнадуброўская пачатковая школа (такая была яе афіцыйная назва) стаяла ў самым канцы вёскі, пры лесе.

Праз яе прайшлі ўсе дуброўцы, якія тут нарадзіліся. У ёй тры гады правучыўся і я.

Паставілі яе тут у 1924 годзе, перавёзшы з Жыціна, з валасці, нейкую будыніну (нібыта царкву). Да гэтага ж дзеці вучыліся ў

вялікай, на дзве палавіны Юркавай хаце (дзядзькі майго дзеда Сымона).

Першым настаўнікам быў у нас Захар Мароз. «Высокі, хударлявы, шчокі як бы ўпалыя» — такім ён запомніўся дуброўцам. У 1923—1924 гадах у яго вучылася мая маці. Хаўрусаваў ён з яе бацькам, маім дзедам Костусем Рымашэўскім, раіў яму ўступаць у калгас, дзе ўсё будуць рабіць машыны, агітаваў за ўсё новае. Прынёс быў раз яму вялікую чырвоную памідорыну, каб развёў у сябе на агародзе. «На, Аляксандравіч, папробуй». Але калі дзед разрэзаў гэтую нябачаную ніколі штуковіну на ўсіх, хто быў дома, то, паспрабаваўшы, нашы дружна выплюнулі яе: такая здалася ім праціўная.

У пачатку 30-х гадоў Мароз пакінуў нашу школу. Пра яго долю зусім выпадкова даведалася мая цётка Волька. Адразу пасля вайны ёй разам з іншымі маладымі жанчынамі выпала важная місія: прыгнаць з пераможанай Германіі ў наш раён вялікую чараду канфіскаваных нямецкіх кароў. Сярод жанчынпагоншчыц была адна з прозвішчам Мароз. Разгаварыўшыся з ёй, цётка Волька сказала, што ў Зялёнай Дуброве быў настаўнік з такім прозвішчам. «Гэта ж мой муж», — адказала жанчына і расплакалася. Жыла яна з ім, расказала праз плач жанчына, у Аляксандраўцы, пад Старымі Дарогамі, разам з ім настаўнічалі. Але і года з ім не пажыла, як забрала НКВД. Савецкі актывіст аказаўся «нацдэмам». Пасля гэтага ад яго — ні слуху ні духу. Як у ваду кануў. Ад яго астаўся ў яе сын. Ёй тады быў 21 год. З таго часу яна — удава.

Як добрая памятка пра першага зялёнадуброўскага настаўніка каля нашай вёскі, пры Концы, асталася назва ўрочышча Марозаўшчына: тут наш калгас выдзяляў яму сенакос.

Пасля Мароза ў Зялёную Дуброву прыслалі Кляпацкіх — мужа і жонку. Вучылі яны дзяцей не толькі па-беларуску, але і па-польску. Мусіць, таму што Зялёная Дуброва лічылася шляхецкім засценкам, дзе ў бальшыні жылі католікі. Навучанне вялося па беларускай праграме. Пісараў Вадзя (Вадзім Дубовік), які вучыўся ў Кляпацкіх, бачыў у іх беларускі часопіс «Асьвета» — з мяккім знакам у сярэдзіне слова.

З тых, хто рабіў у нашай зялёнадуброўскай школе да вайны, вядомыя мне, праўда, аднымі толькі прозвішчамі яшчэ Грынюк (бацька майго браценіка Алеся), Заяц, Вінаградаў, Доўнар і сёстры Жаўтагіркі. Пасля вайны вельмі кароткі час настаўнічалі тут Аляксей Львовіч, прозвішча якога я не запомніў, хоць некалькі тыдняў, а мо і месяцаў і мне давялося ў яго павучыцца, Маруся

Кірдун (у замустве Шалькевіч) і Галя Касцюк, з якой ажаніўся мой «дзядзька» і сябар Толя Рымашэўскі, перацягнуўшы яе неўзабаве адсюль у Дараганава.

Больш за ўсіх затрымаўся ў Зялёнай Дуброве Уладзімір Антонавіч Пятроўскі. Прыехаўшы сюды з сям'ёй адразу пасля вайны, ён стаў нязменным дырэктарам (ці загадчыкам) нашай школы і прарабіў на гэтай пасадзе, пакуль школа не перастала існаваць, бо ў ёй ужо не было каму вучыцца.

Я заўсёды з удзячнасцю ўспамінаю Уладзіміра Антонавіча, у якога правучыўся ўсе тры гады. Гэта быў праўдзівы настаўнік, ён знаходзіў, як гэта кажуць, індывідуальны падыход да кожнага вучня і ўсіх нас вывеў са школы па-належнаму падрыхтаванымі, з усім «наборам» ведаў, якія патрабавалася атрымаць нам у пачатковых класах.

Наш настаўнік любіў сваю работу. Любіў і школу. Ён адрамантаваў яе, падзяліў на класы, добра абсталяваў. Упарадкаваў школьны двор, абсадзіў яго роўнымі шэрагамі таполяў.

Жыў ён ужо не ў школьнай бакоўцы, якая спецыяльна адводзілася для настаўнікаў, а зладзіў побач са школай свой вельмі прыстойны бярвенны дамок, вакол якога разрасліся з часам раскідзістыя яблыні і грушы, закусціліся вішні ды слівы.

У сям'і нашага настаўніка былі тры сыны — Роня, Жорж і Коля. Са старэйшым Ронем-Раманам мы разам канчалі школу. Потым ён апынуўся ў Мінску, дзе ўсё жыццё прапрацаваў у трамвайна-тралейбусным дэпо, вадзіў па адным з гарадскіх маршрутаў тралейбус. Услед за ім падаліся ў Мінск і яго маладзейшыя браты.

Каб быць бліжэй да сваіх дзяцей, Уладзімір Антонавіч перабраўся жыць у Фалічы: тут жа — чыгуначная станцыя, адкуль можна ў любы час падскочыць у Мінск, як і сюды з Мінска.

Свой дамок у Зялёнай Дуброве ён прадаў нашаму брыгадзіру Дразду, які ў сваю чаргу перасяліўся да нас з Паўлаўкі — з «неперспектыўнай» вёсачкі ў менш «неперспектыўную». Па адыходзе ў іншы свет Дразда і Драздзіхі (так іх у нас называлі) сядзіба Пятроўскіх перайшла да Драздовай дачкі Веры і яе дачкі Валі, якія і цяпер тут гаспадараць.

Школьны двор за Драздовай хатай сёння не пазнаць. Ён зарастае бадыллём, да яго ўсё бліжэй падступае лес. Лес бяспамяцтва.

Я зрэдчас падыходжу туды, каб проста пастаяць, успомніць нашы шумныя школьныя гады, патупаць па тым месцы, адкуль мы вылецелі некалі ў шырокі свет.

# БЕЛАРУСЬ СЁННЯ ПРАДАЮЦЬ

*Выступленне на XI з’ездзе пісьменнікаў Беларусі*
*27 красавіка 1994 года*

На пісьменніцкім з’ездзе нам трэба было б, на добры лад, абмяркоўваць толькі творчыя пытанні. Наспела іх нямала. Перадусім трэба было б разам нам паглядзець, што зроблена пасля апошняга з’езда. Кожны ж хацеў бы пачуць шчырае слова пра сваю працу. Мне здаецца, мы яшчэ не навучыліся па-сапраўднаму радавацца творчым набыткам сяброў.

Нам трэба было б шчыра пагаварыць і пра тое, што перашкаджае сёння развіццю нашай літаратуры. Напрыклад, пра важнейшы чыннік літаратурнага працэсу — крытыку. Яе ж, па сутнасці, у нас няма — неабыякавай да таго, што выдаецца, прынцыповай і адначасна добразычлівай.

Ці шмат мы можам успомніць вострых, палемічных артыкулаў у перыёдыцы, усхваляваных рэцэнзій? Нейкі спакой, абыякавасць. У такой атмасферы надта ж добра адчуваецца шэрай, безаблічнай літаратуры, а часам і звычайнай халтуры. Поўны прастор тут і розным літаратурным дзялкам ды жулікам, асабліва тым, хто займае высокія выдавецкія пасады. Адгрэбваючы ўбок ўсё лепшае ў нашай літаратуры, асобныя з іх на вачах міністэрстваў і ведамстваў не саромеючыся закідваюць свет уласнымі нізкапробнымі тварэннямі.

Трэба, мусіць, гаварыць і пра грамадскую дзейнасць пісьменніка, ухваляць яе. Толькі як быць з тымі, хто выступае супраць нашай дзяржавы, супраць Беларусі, якой мы закліканы служыць — выступае супраць нашага нацыянальнага Адраджэння? Я маю на ўвазе тут створаную ў нетрах нашага саюза «Ассоциацию писателей-баталистов і маринистов», якая «ў купе» з самымі рэакцыйнымі сіламі актыўна вядзе бараць-

бу з «поднимающейся волной национализма», як пішацца ў лістоўках? Дзе ўбачылі гэтыя баталісты і маракі невядома якіх «морей» у нас нацыяналізм? У тым, што мы пачалі ўспамінаць сваю гісторыю, загаварылі на сваёй роднай мове? Ці ж даўно ярлык такога вось нацыяналіста быў вернай пуцёўкай у Курапаты? Наш саюз аб'ядноўвае пісьменнікаў розных палітычных поглядаў, членаў самых розных партый і рухаў. І гэта натуральна, з гэтым ніхто спрачацца не будзе. Але з боку ваяўнічых «марыністаў і баталістаў» мне бачыцца злавесны выклік усім нам, усяму нашаму цярпліваму народу, выклік Беларусі. Таму я асабіста галасаваў бы пры нагодзе за выключэнне гэтакіх ваяроў з нашага мірнага саюза.

Нельга абысці нам у сваёй размове і нашы гаспадарчыя клопаты. Лічу недаравальным для нашага кіраўніцтва, што яно давяло да развалу паліклініку Літфонду. А ўзяць «Іслач». Толькі дзякуючы аднаму Дудараву ўдалося выратаваць наш Дом творчасці ад банкруцтва.

Усе нашы кіраўнікі — выдатныя пісьменнікі, цудоўныя хлопцы, але ж, відаць, не зусім здатныя арганізатары, гаспадарнікі. Таму, каб зрабіць наш саюз сапраўдным цэнтрам нацыянальнага Адраджэння, трэба нам выбраць у кіраўніцтва тых, хто праявіў ужо свае выдатныя арганізатарскія здольнасці ў новых, рыначных умовах… Сярод такіх я назваў бы, напрыклад, Барыса Сачанку, Аляксея Дударава, Яўгена Лецку, Анатоля Казловіча, Вольгу Іпатаву, Яўгена Будзінаса. Я ўжо не кажу пра пісьменнікаў — народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, якія вядуць на сесіях сапраўды гераічнае змаганне за Беларусь, яе культуру і мову.

У нас шмат ёсць пытанняў для абмеркавання і неадкладнага вырашэння. Але ўсе гэтыя пытанні адступаюць на задні план перад тым, што вытвараюць сёння з нашай дзяржавай тыя, хто воляй лёсу апынуўся каля яе руля. Мы добра ведаем з гісторыі, як усе народы на працягу многіх стагоддзяў са зброяй у руках змагаліся за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Чаму ім патрэбна гэтае вызваленне? Ды таму, што толькі свабодны чалавек, свабодны народ можа найлепшым чынам рэалізаваць свае творчыя магчымасці, праявіць сябе ў свеце. Незалежнасць — гэта першая, найважнейшая ўмова для росквіту любой краіны, любой нацыі.

Сёння ў выніку шматвекавога змагання беларускі народ атрымаў сваю дзяржаўнасць, стаў незалежны ад былых апекуноў-«дабрадзеяў». І вось цяпер былыя сакратары ЦК

КПБ, якія самі сябе выбралі ў кіруючыя органы, дабравольна прадаюць нашу дзяржаўнасць, адным росчыркам пяра хочуць пакончыць з вялікай заваёвай нашага народа. Гэта не што іншае, як самае вялікае злачынства перад нашай шматпакутнай зямлёй.

Хто бачыў у гісторыі, каб якая-небудзь краіна сама адмаўлялася ад сваёй незалежнасці, ад свабоды — запаветнай мары ўсяго чалавецтва?! Ніхто не бачыў. Бо ад сваёй волі можа адмовіцца толькі «презренный» раб. Беларусь сёння прадаюць тыя сілы, якія ніколі не ўмелі ні думаць, ні гаспадарыць самастойна, якія прывыклі выконваць толькі ўказанні свайго гаспадара — усёмагутнага ЦК КПСС.

Пазбавіўшыся гаспадара, беларускія халуі ізноў шукаюць яго пад тымі ж рубінавымі зорамі Крамля. Што ж, іх можна зразумець. Гэта ж там фармавалі, падбіралі нашу партыйную касту, там вышуквалі сярод дэнацыяналізаваных беларусаў верных сабе паслугачоў, адтуль жа прысылалі і сваіх наглядчыкаў ды душагубаў. Хіба ж у сённяшнім кіраўніцтве рэспублікі — прадстаўнікі нашага народа? Паглядзіце, як ваююць яны ў Вярхоўным Савеце супраць усяго, што дарага нашаму народу, супраць усяго беларускага! Ці не таму з гэтакай лёгкасцю і прадаюць яны Беларусь пад фарысейскія, разлічаныя на дзяцей, запэўніванні аб захаванні суверэнітэту.

Мая прапанова: ад імя з’езда пісьменнікаў выказаць самы рашучы пратэст камуністычным уладам Беларусі за гэтыя безадказныя, злачынныя дзеянні, прыняць адпаведны Зварот да народа.

*1994*

## СТВОРЫМ «БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР»

За шматвяковую гісторыю свайго існавання беларускі народ стварыў вялікую і самабытную літаратуру, адну з самых багатых у свеце. На жаль, у сваім поўным аб’ёме яна яшчэ невядомая шырокім колам грамадства. Так, пра яе пісалі нашы літаратуразнаўцы, многія творы выдаваліся і перавыдаваліся, асабліва больш блізкіх нам па часе пісьменнікаў. Але гэта былі ўсё ж толькі асобныя перлы, якія мы выцягвалі з вялікага мора нашага пісьменства.

Думаецца, настаў час вярнуць з небыцця нашу літаратурную спадчыну, без якой мы не можам поўнасцю ўсвядоміць сябе як

народ. Акадэмія навук Беларусі здзейсніла шматтомнае выданне вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа, якое, можна смела сказаць, стала падзеяй вялікага гістарычнага значэння. Такой падзеяй стане і шматтомны збор нашай пісьмовай літаратуры.

Думка пра гэтае выданне выспела ў мяне, калі я вывучаў шматмоўную літаратуру Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў. Колькі ў ёй цікавага, зусім невядомага нашаму чытачу, важнага для ўсіх нас! У нашай літаратуры бліскуча, у поўнай велічы адбіліся ўсе этапы шматвяковай гісторыі беларускага народа, яго пошукі праўды і шчасця на зямлі, штодзённае жыццё і думы нашых продкаў. Выданне ўсяго лепшага, што было створана на беларускай зямлі ад сівой старажытнасці да нашых дзён, усяго найбольш важнага, найбольш каштоўнага, таго, што складае залаты фонд пісьменства Беларусі, даўно чакае чытач, тысячы і тысячы нашых грамадзян.

Вельмі прыемна, што ідэю сістэматызаванага выдання лепшых здабыткаў шматмоўнай літаратуры Беларусі падтрымалі прадстаўнікі нашай грамадскасці. У выніку нядаўна ўтварылася прадстаўнічае грамадскае аб’яднанне, што займела назву — Міжнародны фонд «Беларускі кнігазбор», галоўная мэта якога — падрыхтоўка і выданне літаратурнай спадчыны.

Складзены ўжо падрабязны план-праспект «Беларускага кнігазбору» ў дзвюх серыях. Аўтары абедзвюх серый — як ураджэнцы Беларусі, так і іншаземныя пісьменнікі ці навукоўцы, якія жылі на нашай зямлі ці наведвалі яе і расказалі пра яе ў сваіх кнігах. Творы, напісаныя на іншаземных мовах (лацінскай, польскай, рускай, яўрэйскай і інш ) ці на стараславянскай і старабеларускай, будуць падавацца ў перакладзе на сучасную беларускую мову. У кожным з тамоў чытач знойдзе грунтоўны ўступны артыкул, неабходныя каментарыі.

У першую серыю ўвойдуць творы мастацкай літаратуры. Распачнуць яе беларускія пісьменнікі старажытнага перыяду. Чытач сустрэнецца тут з жывым словам Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Андрэя Волана, Стафана Зізанія, Мялеція Сматрыцкага, Лявонція Карповіча, Афанасія Філіповіча, Іасафата Кунцэвіча, Міхалона Літвіна, Андрэя Рымшы, Сімяона Полацкага і многіх іншых пісьменнікаў старажытнасці. Асобнымі кнігамі выйдуць дзённікі і мемуары даўнейшых пісьменнікаў, творы паэтаў-лаціністаў, нататкі іншаземных падарожнікаў пра Беларусь, нататкі беларусаў пра замежныя краіны, драматургія XVII–XVIII стагоддзяў.

Як вядома, доўгі час мовай пісьменства ў Беларусі, якая некалі ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, была польская мова. У шматтомнік будуць уключаны ў перакладзе многія творы нашых польскамоўных пісьменнікаў, якія праўдзіва паказвалі жыццё беларуса на скрыжалях гісторыі, раскрывалі асаблівасці сваёй эпохі. Гэта пераважна літаратура XVIII–XIX стагоддзяў. З яе чытач атрымае на роднай мове кнігі Францішка Багамольца, Адама Нарушэвіча, Францішка Князьніна, Юльяна Нямцэвіча, Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Яна Баршчэўскага, Евы Фялінскай, Эдварда Масальскага, Юзафа Крашэўскага, Уладзіслава Сыракомлі, Габрыэлі Пузыны, Ігната і Яна Ходзькаў, Генрыка Ржавускага, Антонія Эдварда Адынца, Адама Плуга, Вінцэся Каратынскага, Ігната Дамейкі, Элізы Ажэшка, Аляксандра Ельскага, асобныя з якіх апрача польскай пісалі ўжо і на беларускай мове

Вядома ж, належным чынам будуць прадстаўлены ў шматтомнай серыі даўно прызнаныя беларускія пісьменнікі XIX стагоддзя Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Янка Лучына, Адам Гурыновіч, Францішак Багушэвіч, аўтары славутых паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», іншыя нашы пачынальнікі.

З рускамоўных пісьменнікаў, якія так ці інакш былі звязаны з Беларуссю, мяркуецца выдаць асобнымі тамамі Паўла Шпілеўскага, Фадзея Булгарына, Юзафа Сянкоўскага, Станіслава Акрэйца, з яўрэйскіх — Мендэле Мойхера-Сфорыма і іншых.

Асабліва шырока будзе прадстаўлена ў шматтомніку багатая і разнастайная літаратура нашага стагоддзя. Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Кузьма Чорны, Лукаш Калюга, Паўлюк Трус, Францішак Аляхновіч, Міхась Зарэцкі, Барыс Мікуліч, Ларыса Геніюш, Цішка Гартны, Андрэй Мрый, Ян Скрыган, Кандрат Крапіва, Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў, Валянцін Таўлай, Аляксей Пысін, Юрка Віцьбіч, Алесь Салавей, Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч, Анатоль Вялюгін і іншыя, якія ў розны час адышлі ад нас. Акрамя літаратурнай спадчыны ў шматтомніку знойдуць месца і творы сучасных беларускіх пісьменнікаў, тыя з іх, якія атрымалі ўжо шырокае грамадскае прызнанне.

Вельмі зацікавіць чытачоў і другая серыя «Беларускага кнігазбору» — «Гісторыка-літаратурныя помнікі», кнігі, якія ў дакументальных матэрыялах раскрыюць перад намі тысячагадовую гісторыю Беларусі. У асобных тамах выйдуць беларускія летапісы, трактаты беларускіх філосафаў эпохі Асветніцтва,

Статут Вялікага Княства Літоўскага, фальклорна-этнаграфічныя працы Саламона Рысінскага і Яна Ласіцкага, этнаграфічныя апісанні Беларусі XVIII – першай паловы XIX стагоддзяў, працы даўнейшых гісторыкаў, этнографаў, фальклярыстаў, мовазнаўцаў.

Чытачы атрымаюць такія, напрыклад, грунтоўныя, ніколі не перавыдаваныя ў нас кнігі, як «Гісторыя літоўскага народа» Тэадора Нарбута, «Апісанне Барысаўскага павета» Яўстафа Тышкевіча, «Гістарычныя звесткі пра памятныя мясціны ў Беларусі…» Міхаіла Без-Карніловіча, «Гродзенская губерня» Паўла Баброўскага, «Беларускія старажытнасці» Аляксандра Семянтоўскага, «Беларусь – Палессе» Оскара Кольберга, «Віцебская Беларусь» Мікалая Нікіфароўскага, «Беларускі зборнік» Еўдакіма Раманава, «Смаленскі этнаграфічны зборнік» Уладзіміра Дабравольскага, «Пражыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» Адама Багдановіча, «Беларусы» Яўхіма Карскага, «Віцебская старына» Аляксея Сапунова, «Славянскае жыллё ў паўночна-заходнім краі» Аляксея Харузіна, «Беларускі народ» Міхала Федароўскага, «Беларусы-палешукі» Аляксандра Сержпутоўскага, «Беларусы-сакуны» Ісака Сербава, «Народная культура славян» Казіміра Машынскага, «Рэчыцкае Палессе» Часлава Пяткевіча, «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага, працы Зарыяна Далэнгі-Хадакоўскага, Рамуальда Зянькевіча, Міхала Балінскага, Канстанціна Тышкевіча, Адама Кіркора, Івана Насовіча, Мітрафана Доўнар-Запольскага, Уладзіміра Пічэты, Браніслава Тарашкевіча, Міколы Шчакаціхіна, Усевалада Ігнатоўскага, Мікалая Улашчыка, Рыгора Шырмы, Фёдара Янкоўскага і інш. Усё гэта літаратура, якая на працягу не аднаго стагоддзя адкрывала перад светам адзін з самых старажытных і самабытных славянскіх народаў — беларусаў.

Выданне «Беларускага кнігазбору» разлічана не на год і не на два — на дзесяцігоддзі. Распачынаць яго ажыццяўленне ў наш няпросты час, вядома ж, нялёгка. На гэта патрэбны немалыя сродкі. Але мы, беларусы, думаецца, ужо дараслі да таго, каб годна паказаць сябе перад светам, давесці ўсім, што мы — вялікі народ, які мае сваю тысячагадовую культуру, свае традыцыі, свае не менш вартыя, чым у любога іншага народа, духоўныя набыткі — арганічную частку сусветнай цывілізацыі.

Заклікаем усіх свядомых беларусаў прыняць самы непасрэдны ўдзел у вяртанні нашай «прыспанай» культуры, у першую чаргу вялікай літаратурнай спадчыны, ад якой мы яшчэ ўсе адлучаны. Адамкнуць тыя сем замкоў, за якімі яна схавана з

далёкіх стагоддзяў, адчыніць тыя сем замшэлых дзвярэй — наш усеагульны абавязак. Толькі намаганнямі ўсёй грамадскасці, усіх беларусаў свету мы можам вярнуць народу яго нацыянальныя скарбы. Увасобленыя ў прыгожыя, па-належнаму аформленыя тамы абедзвюх серый гэтыя скарбы зоймуць самае ганаровае месца на кніжных паліцах кожнага дома, кожнай сялянскай хаты, ва ўсіх без выключэння бібліятэках незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Нам, непасрэдным выканаўцам гэтага няпростага пачынання, будзе важна ўсё — і вашы добрыя парады, дарагія сябры, і канкрэтныя прапановы ў выданні таго ці іншага тома, і фінансавая дапамога. Мы верым, што знойдуцца такія людзі, цэлыя калектывы, якія захочуць прафінансаваць хоць бы тыя з тамоў, што іх найбольш зацікавяць у плане-праспекце, а можа, і па-за ім. Выдадзеная на іх сродкі кніга гэтай унікальнай кніжнай серыі, серыі, якую мы назвалі «Беларускі кнігазбор», будзе іх важкім укладам у нашу культуру, стане іх заўсёдным гонарам і, вядома ж, самай лепшай рэкламай фірмы ці арганізацыі.

*1995*

## ШАШАЛЬ МОВЫ — КАЛЬКА

Катастрафічнае звужэнне сферы ўжывання беларускай мовы ў Беларусі, замена яе ў афіцыйных, а потым і не ў афіцыйных колах на рускую сталася прычынай таго, што амаль уся беларуская інтэлігенцыя — хто ў большай, хто ў меншай ступені — незаўважна пачала думаць па-руску. Гэта ці не самае большае дасягненне русіфікатараў. Ды яно і не дзіўна: ужо многія дзесяцігоддзі штодзённа «варымся» мы ў рускамоўнай стыхіі: справаводства, газеты, кнігі, радыё, тэлебачанне, кіно — усё гэта было ў нас і за малым выключэннем застаецца і сёння рускае.

Таму перш чым што-небудзь напісаць ці сказаць па-беларуску, многія з нас амаль усё перакладаюць у думках з рускай мовы. Мы ці не ўсе сталі перакладчыкамі. Перакладчыкамі саміх сябе. Ну, а перакладаем, вядома ж, самым лёгкім спосабам: механічна замяняем рускія словы беларускімі, прычым тымі, што ляжаць на паверхні. Што ж да будовы фразы, асновы асноў мовы, то яе, будову, мы вельмі часта пакідаем нязменнай. У выніку такога «перакладу» мы гаворым і пішам хоць і беларускімі словамі, але ў аснове сваёй па-руску. Атрымліваецца нешта жахлівае.

Неяк дома, у сваёй вёсцы, глядзеў я па тэлебачанні адну беларускую перадачу. Мая цётка Волька, якая сядзела побач, уважліва слухала ўсё, што гаварылася з тэлевізара, ды і не вытрымала:

— I я ж, здэцца, гавару на беларускай мове, а, бывае, не магу дайсці, пра што яны кажуць. Хіба ж гэта беларуская мова?

— Чаму?

— Ды нейкая яна ў іх перакрыўленая.

«Перакрыўленая». Ці не ад гэтых нашых «перакладаў», ад калькі, якую мы ўжо і не заўважаем? Яна, калька, і калечыць, «перакрыўляе» нашу мову, падточвае, нібы той шашаль дрэва, яе з сярэдзіны, разбурае яе структуру, гэта значыць самую аснову мовы.

Такое перакручванне беларускага слова на рускі лад, падпарадкаванне нашай мовы чужой структуры вельмі абурала некалі Кузьму Чорнага, які называў гэта «злачынствам». «Гэтае злачынства, — пісаў ён у артыкуле «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры» ў 1928 годзе, — цалкам ляжа на сумленні тых літаратараў, якія сталі на працу як бы дзеля таго, каб патаптаць і знішчыць моўнае багацце, якое Беларусь збірала і ахоўвала ўсе доўгія вякі свае падвойнае няволі». Пры гэтым выдатны пісьменнік паказаў, да якога абсурду даходзяць часам «збеларусізаваныя чыноўнікі, а часта і рэдактары», вывучаючы мову з дапамогай «практычных слоўнікаў». Ён прывёў такія прыклады іх «перакладаў» з рускай на беларускую мову: «Я не имею охоты идти» — «Я не маю палявання ісці», «половые отношения» — «падлогавыя адносіны», «дай ключ открыть шкаф» — «дай крыніцу адчыніць шафу».

У тым жа артыкуле Кузьма Чорны абураўся, напрыклад, такімі вельмі распаўсюджанымі калькамі: «на самай справе», «у чым справа». Пісьменнік чуў, як адна «сялянка» ў тэатры крычала са сцэны: «У чым справа? У чым справа?» «Не, — піша Кузьма Чорны, — гэта крычыць сам аўтар п’есы. Ён думаў: “в чем дело” і пісаў “у чым справа”. Дзе гэта аўтар чуў, каб сялянка гаварыла гэтак? Таму і чуецца тут фальш, таму і траціцца вобраз ці тып сялянкі. I вінавата тут моўнае думанне аўтара, якое зусім чужое сялянцы-беларусцы».

Сваю трывогу за такое гвалтаванне беларускай літаратурнай мовы, за яе глыбінную русіфікацыю Кузьма Чорны выказаў у канцы дваццатых гадоў. Яго трывога не была, ды і не магла быць у той час падтрымана: пачыналіся крывавыя трыццатыя гады, калі за такую абарону мовы беларускага народа ды яшчэ ад «старэйшага брата» зусім не гладзілі па галоўцы. Гвалту над мовай

аднаго з самабытных славянскіх народаў давалася поўная воля. Таму і не дзіўна, што, разгарнуўшы любое беларускамоўнае выданне, вы і сёння раз за разам будзеце спатыкацца аб тыя самыя чужародныя «ў чым справа», «на самай справе» і аб безліч іншых падобнага роду калек, якія ўжо сённяшнім «пісцам» сталіся любымі і роднымі: звыкліся, зжыліся з імі, як са сваімі. А паспрабуй іх папраў — залямантуюць: усе ж так пішуць, нават слоўнікі іх узаконілі!

Беларускую літаратурную мову трэба сёння лячыць. Лячыць ад кароcты шматгадовай русіфікацыі, ад суцэльнага калькавання, вызваляць з-пад чужой ёй структуры.

А лякарства можа быць тут адно: зварот да жывой народнай мовы. У ёй жа ёсць усё. Ёю можна выказаць любую думку, любое паняцце. Толькі трэба не ленавацца пашукаць там патрэбнае слова, патрэбны выраз. Як адзначаў яшчэ Якуб Колас, «мы маем вялікі слоўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе».

Забыўшы аснову роднай мовы, мы не заўважаем, як фальшыва гучыць часам у фразе нават самае адметнае, самабытнае беларускае слова, якім той-сёй імкнецца лішні раз «казырнуць», каб выставіць сваю «беларускасць».

Ёсць у нашай мове вельмі прыгожы, чыста беларускі выраз — «калі ласка». У ім бачацца лепшыя рысы характару нашага народа — шырыня душы, дабрыня, спагадлівасць, тактоўнасць. Нездарма ж украінскага паэта Алексу Юшчанку так зачаравалі гэтыя словы, што ён прысвяціў ім цэлы верш, які так і назваў — «Калі ласка»:

«Калі ласка, налі ласка»…
Не забуду тыя словы,
Словы першыя, што ў Мінску
Я пачуў у час размовы…
Словы гэтыя, як песню,
Слухаў я ў Купалы дома.
Я хачу, каб словы тыя
На ўвесь свет былі вядомы.

*(Пераклад Міколы Аўрамчыка).*

А беларускі паэт Пятрусь Броўка цэлую кнігу вершаў назваў «Калі ласка», дзе выказаў сваё шчырае замілаванне гэтымі «роднымі словамі», якія для яго «звіняць сардэчнаю струною».

Але «звон» той пачынае гучаць неяк не так, калі мы робім беларускі выраз *калі ласка* поўным адпаведнікам рускага *пожалуйста*. Вось чытаю ў адным мастацкім творы размову двух герояў. Адзін з іх кажа «Дзякуй табе, што гэтак мяне выручыў». А другі ў адказ: «Калі ласка!» Я адразу чую тут фальш. У нас на Старадарожчыне ў адказ на «дзякуй» ніколі не скажуць «калі ласка», а знойдуць у кожным выпадку іншыя, не менш характэрныя словы: «Няма за што», «На здароўе», «Спажывайце на здароўе», а калі дзякуе малое, скажуць яму ласкава: «Вялікі расці» і яшчэ па галоўцы пагладзяць. Прадстаўнічы спіс адказаў на «дзякуй» прывёў у апублікаваным у часопісе «Маладосць» сваім «Самавучку беларускай мовы» Анатоль Клышка, які першы звярнуў увагу на няправільнае ўжыванне выразу «калі ласка». У маёй вёсцы «калі ласка» скажуць толькі тады, калі ў чалавека нешта просяць: «Дайце, калі ласка», «Зрабіце, калі ласка», «Выбачайце, калі ласка» і г. д.

І яшчэ прыклад. Запомнілася мне колькі гадоў назад апублікаваная ў «ЛіМе» нататка Валянціна Радкевіча «Та́кала». Аўтар вельмі правільна абураўся празмерным выкарыстаннем у нашай літаратурнай мове сцвярджальнай часціцы так. І праўда, колькі разоў сустракалі мы ў друку прыкладна такія во дыялогі: «Ты быў сёння на вуліцы?» — «Так»; «Можна зайсці?» — «Так»; «Гэта ты, Алесь?» — «Так». У народзе ж адказалі б у кожным з гэтых выпадкаў па-рознаму, больш натуральна, часцей, праз паўтор слова ў адказе: «Быў», «Зайдзі», «Можна», «Я». Або яшчэ так: «Але», «Ага», «Ну», «А як жа», «А няўжо ж», «А чаму ж не» і г. д. і г. д.

Прыкладаў такога звужанага, механічнага ўжывання слова ў беларускай літаратурнай мове можна, на жаль, прывесці безліч. У гэтым артыкуле я хацеў бы скіраваць увагу чытача толькі на асобных з іх, найбольш характэрных. Дзелячыся сваімі назіраннямі, я зусім не прэтэндую на катэгарычнасць уласных меркаванняў. Многае, відаць, выкліча спрэчкі, пярэчанні. Але ж нам і трэба, мусіць, паспрачацца тут, каб знайсці ісціну. Толькі спрачацца на здаровай аснове, з аргументамі і фактамі ў руках. Асновай жа павінна быць тут, без сумнення, мова народа, бытаванне ў ёй таго ці іншага слова.

Але пяройдзем да канкрэтных прыкладаў.

**Менавіта**. Апошнім часам гэтае прыслоўе проста запаланіла нашу прэсу. Разгарніце любую беларускую газету, і вы сустрэнеце яго амаль на кожнай старонцы. І што заўважаецца: асабліва стараюцца тыя, хто кепска ведае беларускую мову, але хоча

паказаць, што ведае яе выдатна. Слова *менавіта* яны заўсёды ставяць там, дзе просіцца рускае *именно*. І вось з вуснаў нашых «беларусаў», з радыёпрыёмнікаў ды тэлевізараў так і нясецца: «менаві*та* таму», «менаві*та* тым», «менаві*та* так». Суцэльнае татаканне! Ды ўжо адно гэтае не зусім прыемнае для вуха сугучча гаворыць пра ненатуральнасць, штучнасць такой мовы. Хацелася б пачуць слова «менавіта» ў жывой беларускай гаворцы, у народзе. Мне, напрыклад, гэта не ўдалося, хоць даволі многа даводзілася ездзіць па Беларусі. Не сустракаў яго і ў акадэмічным шматтамовым выданні беларускага фальклору. Не траплялася мне яно і ў класікаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Зм. Бядулі, Кузьмы Чорнага. А ўсё, відаць, таму, што слова «менавіта», якое стала сёння газетным штампам, мы жывасілам прыцягнулі з польскай мовы. Там яно, дарэчы, гучыць вельмі натуральна, без ніякага «татакання». Атрымліваецца нейкі парадокс: мы цалкам захоўваем рускамоўную фразу, аздабляем яе польскім словам і называем гэта беларускай мовай!

Надта ўпадабаўшы гэтае «именно — mianowicie», да месца і не да месца ўжываючы яго, мы ўжо нават і не рупімся зазірнуць у багатую скарбніцу жывой народнай мовы, каб хоць неяк разнастаіць сваю гаворку. А калі б зазірнулі, то ўбачылі б, што наш народ выдатна абыходзіцца без чужога, наноснага ў сваёй мове, што ў яго моўным запасе ёсць мноства сінонімаў любому слову, у тым ліку і «менавіта». Вось гэтыя словы: 1. Якраз, акурат. «Именно так я и делал» — «Якраз (акурат) так я і рабіў». Яшчэ прыклад: «Зрабілася гэта затым, што акурат у гэтым часе ў Францыі кіпела рэвалюцыя…» (В. Ю. Ластоўскі. «Кароткая гісторыя Беларусі»). 2. Толькі. «Дайте мне карандаш». — «Вот ручка». — «Нет, мне нужен именно карандаш». Ці ж кепска будзе гучаць апошняя фраза з прыслоўем «толькі»: «Мне патрэбен толькі аловак». 3. Канкрэтна. «Мы навестили самые далекие деревни района, а именно — Новоселки, Рыбцы» — «Мы наведалі самыя далёкія вёскі раёна, а канкрэтна — Навасёлкі, Рыбцы». А то можна і зусім апусціць гэтае прыслоўе: «Мы наведалі самыя далёкія вёскі раёна — Навасёлкі, Рыбцы».

**Мець рацыю**. «Мець рацыю», «Ты маеш рацыю…» Паслухаюць такое ў маёй вёсцы і нічога не зразумеюць: пра якую там рацыю мова? Ды і як зразумець маім вяскоўцам, карэнным беларусам, калі гэта чыстай вады «пальшчызна», якую ім нідзе не даводзілася ні чуць, ні вывучаць. «Racja» (дарэчы, слова лацінскага паходжання) — азначае «праўдзівасць»,

«правільнасць», «праўда». Калі даслоўна перакласці гэтае выслоўе, то яно будзе гучаць так: «Ты маеш праўду». Чыста польская форма. Той-сёй, зразумеўшы гэта і жадаючы адысці ад «пальшчызны», папраўляе выслоўе такім чынам: «Ты правы». Але ж ён тут, даруйце, паправіў казе хвост. Бо гэта зноў не па-беларуску, беларус зноў не зразумее тут «вучонага», а лепш сказаць — не так зразумее. Ён зразумее, што нехта там не «левы», а «правы». І толькі! Адкуль жа яму ведаць, што тут «вучоны» скалечыў рускае «ты прав»? Вось гэтак і кідаемся мы ад польскай «рацыі» да рускага «правага-левага». Замест таго, каб прыслухацца, як кажа тут свой народ. А кажа ён вельмі проста, вельмі дакладна і чыста па-беларуску: «Праўду кажаш», «Твая праўда», «На тваім баку праўда». Як жа трэба аддаліцца нам ад свайго народа, каб забыцца такія звычайныя, такія кажнадзённыя словы!

**Зразумела**. «Ты быў сёння на сваім месцы?» — «Зразумела!» На якой мове адказалі тут на пытанне? Скажу адразу: на рускай! Бо «зразумела» тут — калька з рускага «понятно». Беларус сказаў бы інакш: «Вядома», «А як жа», «Няўжо ж не быў», «Няўжо ж не на сваім месцы». А як перакласці такі выраз: «Ничего не понятно, что тут написано?» Вядома ж, нашы газеты не будуць ламаць галаву, надрукуюць: «Нічога не зразумела, што тут напісана». А ў народзе скажуць зноў па-свойму. Вось узяты з жывой мовы выраз, які прыводзіць у сваім «Краёвым слоўніку Усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіч: «Нейкі асталоп ету аб'яву напісаў — нічога не зразумець!» Аж ніякавата часам робіцца, калі, бывае, паважны мужчына адказвае каму-небудзь на жаночы лад: «Не зразумела», «Зразумела»…

**Хатні**. «Хатні тэлефон», «хатняе заданне», «хатняя птушка» — вельмі штучнымі здаюцца мне гэтыя словаўтварэнні. Бо «хатні» ніяк інакш не разумеецца, як «у хаце». Тут жа трэба, на мой погляд, казаць — «дамашні тэлефон», «дамашняе заданне». Ад агульнаславянскага — дом, дома. Чаму мы баімся казаць так, як кажа народ спраку веку? Толькі каб зрабіць больш самабытнай нашу мову? Але ж яна і без нашых штукарстваў самабытная і багатая. Што ж да «хатняй птушкі», то такой, здаецца, няма ў прыродзе. Ёсць толькі свойская птушка — у адрозненне ад дзікай.

**Сметанковае масла**. Выдуманае, штучнае, зусім непатрэбнае для нашай мовы слова. Звычайная калька з рускага — «сливочное масло». У рускіх вызначэнне «сливочное» спатрэбілася для таго, каб адрозніць яго ад «постного масла». Беларусы ж

«постное масло» называюць адным словам — *алей*. Таму ніякага вызначэння для масла, збітага са смятанкі, не трэба. Калі кажуць «масла», беларус адрэзу разумее, пра якое масла мова. Калі ж даводзіцца ў наш «маторны» час падкрэсліць, што гэта масла не машыннае, не трансфарматарнае, наогул, не тэхнічнае, то дададуць яшчэ  вызначэнне — кароўе. Толькі не «сметанковае» і не «жывёльнае», бо гэта зноў жа калька з рускага «животное».

**Засяродзіцца**. Я вельмі доўга не мог прывыкнуць да гэтага слова. Яно ў мяне выклікала асацыяцыю з «сердзіцца». Хоць ужо і ведаў ва ўніверсітэце, што «засяродзіцца» — ад слова «асяродак», усё роўна з ім чамусьці не звязвалася: мо таму, што ў нас у вёсцы болей кажуць — «сярэдзіна». Кажуць, слова ўвёў у дваццатых гадах Уладзімір Дубоўка. Вядома, слова новае, адметнае. Але зноў жа — ці зразумелае ў народзе? Ды і ці патрэбнае яно, калі народ мае свае адпаведнікі: «задумацца», «сканцэнтравацца»?

**Лёс**. Ці не занадта «заездзілі» мы гэтае запазычанае з польскай мовы слова? Асабліва паэты: надта ж лёгка яно рыфмуецца — слёз, рос, лоз, нябёс, воз, калёс, атос і г. д. Але больш рэжа вуха множны лік гэтага слова — лёсы. А зусім нядаўна пачало мільгаць і лёсаносны. Так, ідзе гэта ад рускіх слоў — *судьбы*, *судьбоносный*. Не ведаю, ці ёсць такое слова ў народзе. У Кузьмы Чорнага я сустракаў яго, хоць і рэдка. Бо ён больш карыстаўся яго сінонімамі. Беларус часцей за ўсё на месцы слова лёс паставіць блізкае яму — доля. Напрыклад, замест фразы «Такі мой лёс», ён хутчэй скажа «Такая мая доля», «Так у мяне на раду напісана», «Так Бог даў».

**Урон**. Заўважаю, пачало надта ж часта мільгаць на старонках нашага друку гэтае яўна рускае слова. Нават у загалоўкі-«шапкі» яго выносяць. Памаленьку, памаленьку — і выцясняецца спрадвечнае беларускае слова *страта*. А яшчэ ж ёсць і другое вельмі каларытнае слова — шкода. «Волки нанесли большой урон хозяйству». Беларус пераклаў бы гэта так: «Ваўкі прычынілі вялікую шкоду гаспадарцы». Чым жа кепска? І дзеяслоў «ураніць» не чуў я ў народзе. Замест рускага «уронил» на Беларусі скажуць: «упусціў» (напрыклад, з рук). Пра лес — не «раняе лісце», а «цярушыць», «атрасае», «скідае».

**Кляса**. Як паказвае «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», слова «клас» запазычана беларусамі праз рускую з французскай мовы — ад klasse, дзе яно і гучыць адпаведна — «клас», прычым «л» не зусім мяккае і не зусім цвёрдае — сярэдняй цвёрдасці. Кляса ж — чыста польская форма: замежныя словы

ў палякаў запазычваюцца часам разам з іх напісаннем. Слова «кляса» ўцягнуў нехта з польскай у беларускую недзе ў дваццатых гадах. Не разумею, чаму сёння мы павінны вяртацца ізноў да польскага варыянта? Мяняць быка на індыка? Толькі дзеля таго, што замена адбылася ў 1933 годзе «валявым» шляхам? І што яго працягваюць ужываць у асяроддзі беларускай эміграцыі?

Вядома, у народзе самога гэтага паняцця — клас як групоўка людзей — не было. Але ж, помніцца, у дзяцінстве мы гулялі ў класы, а не ў клясы. У асобных выданнях бачу ўжо з мяккім «л» і слова «блакада»: «блякада». На якой падставе? З вайны помню гэтае слова з цвёрдым «л». Праўда, у нас слова гучала трохі ў іншым напісанні: блакіроўка.

Прыведзеныя прыклады паказваюць, як катастрафічна аддаліліся мы ад жывых крыніц народнай мовы, забыўшы яе багатую сінанімічнасць, яе найтонкія адценні і фарбы.

Што, кампенсаваць забытае намі запазычаннямі ў суседзяў? Але ж пазычаюць толькі тое, чаго ў саміх няма. Наша ж мова — адна з самых багатых сярод славянскіх моў, і трэба проста не ленавацца вывучыць яе.

Вядома, са з’яўленнем у свеце новых паняццяў да нас прыходзяць і новыя, невядомыя нам словы. Гэта натуральна. Без такіх запазычанняў не абыходзіцца любая мова. Самі па сабе іншаземныя словы не шкодзяць нацыянальнай мове, якая падпарадкуе іх сваім законам. Шкодзіць толькі бяздумнае іх выкарыстанне, неапраўданае захапленне чужаземшчынай.

Вельмі трывожыць легкадумнае абыходжанне з нашым нацыянальным багаццем розных «гарачых галоў». Сёння мы кінуліся вяртаць усе асаблівасці літаратурнай мовы 20-х – пачатку 30-х гадоў. Вядома, усё здаровае ў ёй, папраўдзе беларускае нам трэба вярнуць абавязкова. Але ж не трэба забываць, што літаратурная мова таго часу была яшчэ ў працэсе станаўлення. Ішла паскораная «беларусізацыя», і дасканала вывучыць народную мову проста не было калі, таму ў яе спехам уводзілася нямала чужога, наноснага, штучнага. Ці ж браць усё гэта нам назад без крытычнага асэнсавання? Гэта было б, на мой погляд, безадказна. З другога боку — ці трэба «кавалерыйскім наскокам» перакрэсліваць усё, што было набыта літаратурнай мовай за апошняе паўстагоддзе, хай і пад прэсам жорсткай русіфікацыі? Беларуская літаратурная мова абагачалася праз творы лепшых нашых майстроў мастацкага слова, што прыходзілі ў літаратуру з розных куткоў Беларусі. Не сядзелі склаўшы рукі і нашы мовазнаўцы — не толькі ж рыхтавалі «навуковы грунт» пад

антынародныя законы. Выйшла з друку нямала дыялектных зборнікаў, урэшце фальклорных збораў. Што, усё гэта агулам будзем выкідаць на сметнік?

У кожным разе мы павінны ўважліва, па-гаспадарску агледзець усё, што маем, перш чым прыняць канчатковае рашэнне. Галоўнае — не спяшацца. Вельмі кепскую паслугу, на мой погляд, робяць нашай мове тыя выданні, якія ў запале змагання з гвалтоўна навязанай нам у трыццатых гадах моўнай рэформай самастойна пераходзяць на «тарашкевіцу». Такая партызаншчына, апрача шкоды, нічога нам не прынясе. Думаецца, трэба правесці спачатку па культуры мовы шырокія дыскусіі, запрашаючы на іх і беларусістаў свету, прадстаўнікоў беларускай эміграцыі. Ну, і, вядома, пашырыць даследаванні па розных пытаннях мовазнаўства, глыбей вывучыць дыялектныя пласты мовы, выявіць распаўсюджанасць тых ці іншых форм, таго ці іншага слова ў народзе. Карацей кажучы, рабіць усё трэба на навуковай, а не аматарскай аснове. Цывілізаваным спосабам. Як гэта робяць ва ўсім свеце.

*1993*

## А Ў НАС СКАЗАЛІ Б ТАК…

Добра запомніўся мне апублікаваны яшчэ ў рэдагаваным Аляксандрам Твардоўскім часопісе «Новый мир» нарыс В. Беркава пра Ісландыю, запомніўся тымі старонкамі, дзе расказвалася пра беражлівае стаўленне ісландцаў да роднай мовы, якая разам з літаратурай, як піша аўтар, «цягам многіх стагоддзяў згуртоўвала народ». Калі там рыхтаваўся шматтомны слоўнік ісландскай мовы, у рэдакцыю з усіх канцоў краіны ляцелі пісьмы, званілі тэлефоны: людзі самых розных прафесій — фермеры, рыбакі, рабочыя, службоўцы, хатнія гаспадыні — спяшаліся паведаміць пра рэдкія, абыдзеныя літаратурай словы, пра забытыя ці паўзабытыя старыя тэрміны і выразы. Сам народ прыняў удзел у стварэнні слоўніка сваёй мовы, клапоцячыся пра тое, каб зберагчы яе багацці для наступных пакаленняў.

Не без зайздрасці падумалася тады: гэта ж хаця б частачку такога шанавання сваёй прыроднай мовы і нам, беларусам. Мова ж — аснова асноў нацыі.

Ды ў Беларусі, на жаль, зусім інакшыя склаліся да яе адносіны. Двухсотгадовая русіфікацыя прывяла да таго, што

ў нас ва ўсіх сферах жыцця запанавала мова суседняй краіны, а родная ўшчэнт занядбалася, самімі намі адсунулася на другі план, яна ўсё больш і больш падточваецца чужымі ўплывамі.

Думаецца, у гэтай сітуацыі асаблівая роля ў зберажэнні мовы народа належыць пісьменнікам. Па іх творах заўсёды будуць вывучаць сваю мову тыя з беларусаў, хто з розных прычын не авалодаў ёю. Таму кожны з нас павінен з усёй адказнасцю ставіцца да мовы сваіх твораў.

На практыцы ж шмат хто з нашых «майстроў слова» мала ці, скажам больш асцярожна, недастаткова дбае пра гэта. Пазамыкаўшыся ў сваіх гарадскіх кватэрах, даўно не чуючы жывой гаворкі народа, мы часта задавольваемся надта залітаратуранай, абясколернай мовай, далёкай ад народнай, лёгка паддаючыся рускамоўнай стыхіі. Гэтым самым мы разбураем беларускую мову знутры.

У сваёй Зялёнай Дуброве на Старадарожчыне, што ўваходзіла некалі ў склад Слуцкага княства, — можна сказаць, у самым цэнтры Беларусі — з маленства чуў я нашу, папраўдзе багатую, вельмі каларытную і чыстую, тады яшчэ зусім не засмечаную мову. Яна назаўсёды запала ў маю памяць. І калі сёння чытаю беларускую кнігу ці слухаю наша радыё, вуха адразу ўлаўлівае фальш ва ўжыванні асобных слоў і выразаў. Не без шкадавання заўважаю, як мы ўсё далей адыходзім ад жывой народнай гаворкі, засмечваючы Богам дадзеную нам мову чужароднымі элементамі — русізмамі, паланізмамі і штучнымі, не ўласцівымі ёй, а таму незразумелымі людзям «наватворамі» тыпу «мінакі», «чалец» і г. д.

Ад такога засмечвання перасцерагалі і класікі. Яны заклікалі глыбей вывучаць мову свайго народа, у якой «ёсць усё». Тым пісьменнікам, якія бяздумна цягнуць у свае творы розныя запазычанні ці не ўласцівыя нашай мове наватворы, Якуб Колас раіў спачатку «добра абшнарыць кішэні сваёй памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі — а можа, і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжо ўжывалася і чамусьці забыта ці ўжываецца і невядома нам».

Калі сустрэну ў друку які-небудзь чужародны выраз ці слова, пачынаю ўспамінаць, як жа ў гэтым выпадку скажуць у нас. Падаю тут толькі асобныя прыклады. Магчыма, нешта будзе тут спрэчнае. Але, думаю, мовазнаўцам, ды і не толькі мовазнаўцам, не лішне будзе ўзяць пад увагу тое, як казалі і кажуць у народзе.

**Перасядка**. Студэнцкімі гадамі я звычайна ездзіў дадому ў сваю вёску чыгункай. У Асіповічах, гэтым буйным «чыгуначным вузле», мне трэба было перасядаць з аднаго цягніка на другі. «Калі будзе перасядка?» — пыталіся адзін у аднаго пасажыры. Яны вечна тоўпіліся ў вакзале і каля яго ў чаканні сваіх цягнікоў. І ўсюды, куды ні павярніся, чулася тады гэтае слова — «перасядка».

«Перасядка, перасядка, перасядка» — па сёння стаіць яно ў мяне ў вушах. Я спакойна ўжыў гэтае слова ў нейкай сваёй публікацыі. Ды от дзіва: карэктар вопытнай рукой упэўнена паправіў яго на «перасадка». Чаму? Аказваецца, так у слоўніках! Нашы мовазнаўцы пайшлі за рускім словам «пересадка» — ад дзеяслова «пересаживаться». Але ж па-беларуску ў гэтым значэнні будзе толькі «перасядка» — ад слова «перасядаць». Раней я сустракаў гэтае слова ў нашых класікаў. Напрыклад, у Я. Брыля, у яго «У Забалоцці днее». Але потым пачалася «чыстка» мовы і ў класікаў. Вось чытаю кнігу В. Быкава «Доўгая дарога дадому»: «На ўступныя экзамены ехаў цягніком, гэта быў мой першы выезд у вялікі свет, з *перасядкаю* ў Полацку» (Мінск, 2002, с, 35).

Як відаць, тут карэктары «далі маху» — не згледзелі гэтае «я»! Затое ў другім месцы, праз 100 з лішнім старонак, яны вылавілі ўсё ж, праклятае, выправілі «памылку»: «Ехаў праз Крывы Рог, Харкаў, Гомель. На вакзалах пры *перасадках* было жахліва — натоўпы людзей…» Я ўпэўнены, што і тут у аўтара было з «я». На жаль, мы ўжо не можам пераправерыць, бо Васіль Быкаў, кажуць, пасля публікацыі твораў знішчаў свае рукапісы. Затое больш відавочная метамарфоза атрымалася з гэтым словам у Максіма Танка. У яго дзённіках, апублікаваных у 1996 годзе ў «Полымі» (№ 9), у запісе ад 14 мая 1956 года, я прачытаў: «Заўтра, здаецца, у Чопе, чакае нас перасядка». Але вось у 2009 годзе выходзіць 9 том «Збору твораў» Максіма Танка. Знаходжу ў ім той жа запіс. Ды замест беларускай «перасядкі» там ужо стаіць рускае «перасадка». Дабраліся, значыцца, і да Максіма Танка. Так от мы, беларусы, і чэшам сваіх класікаў, усю нашу мову пад расійскі грэбень.

На добры лад, трэба, каб у нашых слоўніках стаялі два асобныя словы: «перасядка» — ад слова «перасядаць (з месца на месца) і «перасадка» — ад слова «перасаджваць» (дрэвы, кусты, кветкі, ныркі, сэрца, пальцы…)

**У грыбы, у ягады…**

— Куды сёння пойдзем?

— Я — у грыбы.
— Я — у ягады.
— А я паеду ў дровы.

Натуральна, проста і ясна. Звеку ў нас такая гаворка — *у грыбы, у ягады, у дровы, у траву…* Ды не толькі ў нас. Па ўсёй Беларусі так гавораць людзі. Зазірніце ў кнігі нашых класікаў, выхадцаў з самых розных куткоў краіны, — ці не ў кожнага напаткаеце гэтае «у». Вось пачатак страфы з верша Якуба Коласа, што прыводзіць Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (1983) як адзін з прыкладаў ужывання прыназоўніка «у»: «Пайсці ў грыбы ці ў тую ж рыбу…». А вось сказ з кнігі «Трое» случака Максіма Лужаніна: «Як там было, зараз не дакапаешся, але хадзіць у грыбы ці лавіць рыбу на берагах Свіслачы ў Ждановічах у наступным годзе Колас не вярнуўся». А гэта — з «Сокаў цаліны» капыльчука Цішкі Гартнага; «Ці не па мяне яна ўжо ідзе? — падумала Зося ўголас. — Бадай, у траву сабралася». Ці вось сказ з кнігі палешука, народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі, «Любімы горад»: «Да вайны Васіль, выбіраючыся ў грыбы, блукаў па сасновых пералесках, верасах…».

Ды от мой былы калега па часопісе «Полымя» Андрэй Федарэнка захацеў пасарамаціць і паправіць і народ, і народных пісьменнікаў: «…правільней усё ж, — павучае ён у сваім эсэ «З кошыкам, або Гісторыя ненапісанай аповесці», — казаць не «ў грыбы», а «па грыбы». І дае такое тлумачэнне: «Спачатку мы ідзем У лес, а ўжо там выбіраем, ПА што мы прыйшлі. Не скажаш жа: “пайду ў краму ў хлеб”; дык чаму ж дапускаем — “іду ў лес у грыбы”? У грыбы або ў ягады можна зашыцца, залезці, забрацца — як і ў сена, у маліннік, у глушэчу лесу; можна дапусціць, што якісь малады і дурны вожык залез у грыбы — у прамым сэнсе, у сярэдзіну кошыка з грыбамі, ці аса заляцела ў слоік з ягадамі — злятала “ў ягады”»… («Дзеяслоў», 2005, 1, с.109).

«Логіку» такіх аўтараў вельмі аргументавана разбівае Анатоль Клышка ў артыкуле «Руплівы прыназоўнік “у”», дзе ён пераканаўча паказвае, што паміж ужываннем прыназоўнікаў «у» і «па» «ёсць пэўнае адрозненне. Скажам, вам пазваніла сястра і перадала, што яна назбірала буякоў і для вас, просіць заехаць да яе. Вы паедзеце ўзяць буякоў — па буякі. А ехаць у буякі — гэта абавязкова туды, дзе буякі растуць і дзе іх трэба яшчэ назбіраць. Таксама: у суніцы, у чарніцы і г. д.». Аўтар прыводзіць цэлы шэраг прыкладаў правільнага ўжывання прыназоўнікаў «у» і «па» («Звязда», 2006, 20 красавіка).

Я хацеў бы толькі ўставіць тут свае «пяць капеек». Прыкладам, я не ўяўляю яшчэ, каб у нас сказалі: «Схадзі ў краму па хлеб» — у сэнсе «купіць хлеба». Мае вяскоўцы так і скажуць: «Схадзі купі хлеба». «Па» скажуць толькі тады, калі хлеб для цябе ўжо нехта купіў і яго астаецца забраць. Словам, «па» ўжываецца тады, калі трэба ісці па нешта ўжо сваё — нарыхтаванае, падараванае ці купленае.

І яшчэ адно. Адкуль узялася гэтая «алагічнасць», якая так збянтэжыла Андрэя Федарэнку?

Думаю, прычына тут адна: народ не церпіць таўталогіі, ён заўсёды стараецца выказацца коратка, лаканічна, адкідаючы ўсё лішняе. Напрыклад, замест доўгай фразы «кажучы адным словам» мы пішам пры нейкім абагульненні па-народнаму проста — «словам». Народ часам нават «уразае» некаторыя словы: *яшчэ — шчэ*, *можа — мо, гэтая — гэта, каля — ля, досыць — до, хто-небудзь — хто («Калі хто прыйдзе, скажы...»), чым-небудзь* — чым («Даруй, калі чым пакрыўдзіў цябе») і г. д.

Імкненне выказацца карацей адбілася і тут. Нашто казаць доўгую фразу — «Пайду ў лес збіраць грыбы», калі можна апусціць цэлыя два словы — *лес* і *збіраць,* без якіх і так усё будзе ясна, «пайду ў грыбы», — кожны разумее, што чалавек ідзе ў лес, а не куды інакш, збіраць грыбы, *у дровы* — рыхтаваць у лесе дровы, *у траву* — жаць ці рваць на полі ці ў лузе траву. І гэтак — ва ўсіх выпадках.

**Агонь і вогнішча**. З малых гадоў помняцца мне мацерыны словы: «Прайдзі на луг, пад вогнішча…» Як цяпер, бачу пры адзінокай, з сукамі-патырчакамі старой хвоі даўно выгаралую сярод зялёнай травы лапіну з чорным вуголлем, уплясканым дажджамі ў сівы попел, — тое старое пастухоўскае вогнішча. Вогнішча — так у нас называюць месца, дзе гарэў агонь. У друку ж вельмі часта чытаю: «расклаў (ці распаліў) вогнішча». Для мяне гэты выраз гучыць проста дзіка, бо я разумею яго так: «расклаў (ці распаліў) месца, дзе гарэў агонь». Вогнішча — адпаведнік рускаму кострище. І толькі! Гэтак жа, як азярышча — месца, дзе было возера. Рускае ж костёр у нас разумеецца як агонь: развёл костёр — расклаў агонь. Адназначна тлумачыць рускаму чытачу беларускае слова вогнішча Іван Насовіч у сваім «Слоўніку беларускай мовы»: «вогнішча — огнище, пепелище». І прыводзіць такі прыклад: «Раскладзі агонь на старым вогнішчы».

Рыхтуючы да друку аднатомнік выбраных твораў Алены Васілевіч у серыі «Беларускі кнігазбор», я запыніўся ў яе апо-

весцях на гэтым вогнішчы ў значэнні агонь: «У Мані ёсць план: ісці ўсім гуртам на палянку, раскласці там вогнішча і частавацца». «У вас на Случчыне, праўда, так кажуць?» — пытаюся ў Алены Сямёнаўны. «Не, у нас кажуць раскласці агонь», — адказала вядомая пісьменніца. А напісала яна *вогнішча*, бо так патрабавалі слоўнікі, а за імі — і карэктары. «Папраўце, калі можна, на агонь», — сказала мне Алена Васілевіч. І мы выканалі аўтарскую волю.

**Чалец**. Можна зразумець выдатнага дзеяча беларускага нацыянальнага адраджэння, славутага вучонага і пісьменніка Вацлава Ластоўскага ў яго патрыятычным імкненні ачысціць родную мову ад усяго наноснага, адшукаць «рысы яе ўласнай асобнасці». Ён даводзіў, што «кожнае чужое слова, занесенае ў мову, асімілюе, злівае мову з суседскай, забівае яе асобны характар, а таму трэба, асабліва пішучы, высцерагацца ўжываць сходныя з суседскімі словамі, хоць бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў, але жывуць у здаровай нашай стыхіі».

Праўда, вышукваючы словы, якіх «няма ў чужынцаў», Вацлаў Ластоўскі браў іх не са «здаровай стыхіі», як сам заклікаў, а штучна канструяваў паводле блізкіх па значэнні выразаў. Так, агульнавядомае, лацінскага паходжання слова *аборт* ён рэкамендаваў замяніць на «народнае» — *спарон, апетыт* — на *жадаедзь, арка* — на *аблук* (ці *выгба*), *бутон* — на *наквець* (ці *заквець*), *вітрына* — на *вылажка* і г. д.

Вядома ж, прыжыцца такія штучныя, незразумелыя людзям наватворы не маглі. Тым не менш хтосьці часам спакушаецца на іх. Толькі ці на карысць гэта нашай мове?

Думаю, пры ўсёй павазе да вялікага патрыёта Беларусі Вацлава Ластоўскага не было ніякай патрэбы ўводзіць у нашу мову і гэты, скажам адкрыта, не зусім удалы яго наватвор — *чалец*.

Пагартайце беларускія летапісы, нашу вельмі багатую беларускую старажытную літаратуру, мнагатомную «Літоўскую метрыку», «Статут Вялікага Княства Літоўскага», і вы пераканаецеся, што нашы продкі выдатна абыходзіліся без усіх гэтых «членаў». Да прыкладу, як называліся «члены» найвышэйшага органа дзяржаўнай улады Вялікага Княства Літоўскага — Рады ВКЛ? Ды па-беларуску проста — *радцы* (або *райцы),* а яшчэ — *паны-рада, радныя паны* (ці *мужы*) і, карацей,— *радныя.* А «члены» магістрата (выбарнага адміністрацыйнага і судовага органа самакіравання гарадоў у ВКЛ), які складаўся з гарадской рады і

лавы, называліся адпаведна — *радцы (райцы)* і *лаўнікі.* Успомнім яшчэ брацтвы — сярэдневяковыя рэлігійныя арганізацыі. Тых, хто ў іх уваходзіў, таксама называлі проста — *братчыкі*. Не было ніякіх «членаў» і ў віленскіх згуртаваннях беларускай моладзі «Таварыства філаматаў» і «Таварыства філарэтаў», вывучэннем дзейнасці якіх я ў свой час займаўся. «Мы — філаматы», «мы — філарэты», «я — філамат», «я — філарэт» — так называлі яны сябе. А згадаем нядаўнюю гісторыю. Як называліся «члены» розных партый у мінулым стагоддзі, асабліва на яго пачатку? Членамі партый? Проста — кадэты, эсэры, хадэкі, эсдэкі, бундаўцы, бальшавікі, меншавікі, камуністы…

А калі ўжо абавязкова трэба назваць сваё *членства* (чальцоўства?), то чым кепскія нашы звычайныя, спрадвечныя словы: *таварыш, супольнік*? «Я — таварыш сацыялістычнай партыі», «Я — супольнік краязнаўчага таварыства». Нязвыкла гучыць? Ды гэта таму, што навязлівы канцылярызм *член* выцісnуў з нашай мовы ўсё жывое, народнае, сапраўднае. Тым больш ці варта замяняць яго іншым, толькі болей вычварным канцылярызмам — *чалец*?

Зрэшты, канцылярызмы трэба, мусіць, і пакінуць канцылярыям. Па-мойму, там месца і слову *член,* якое як сінонім *супольніка* і *таварыша* (але не *сябра,* што ўспрымаецца ўсяго як прыхільнік арганізацыі) больш натуральна будзе гучаць у афіцыйнай мове, у дзелавых дакументах. Балазе *член* — гэта агульнаславянскае, а не толькі рускае слова. Ёсць яно ва ўкраінскай, у балгарскай, чэшскай, славацкай мовах і — з відазмяненнямі — у польскай (członek) і сербскахарвацкай (*члан*).

**Насамрэч**. Рэч у *тым,* насамрэч — так і мільгаюць апошнім часам у друку гэтыя словы. Адкуль яны ўзяліся? Чаму раней я не сустракаў гэтых заменнікаў рускіх выразаў *дело в том, на самом деле*? Ды таму, што дагэтуль мы карысталіся адкрытымі, надта ж відавочнымі калькамі — *справа ў тым, на самай справе*. Цяпер мы ўздумалі іх прыхаваць, гэтыя калькі, замяніўшы *справа* на *рэч.* Так што *рэч у тым*, *насамрэч* (на самай рэчы) — гэта ўсё тыя ж, толькі замаскаваныя калькі. Што праўда, то праўда — з беларускай *рэччу* яны ўсё ж, можа, лепш гучаць. Ды яшчэ намнога б было лепш, калі б мы прыслухаліся, як кажуць у адпаведных выпадках у народзе. Вось чытаю ў адным з нашых выданняў: «Пытанне пра тое цяжка лічыць вырашаным да канца. Справа ў тым, што праз дзесяцігоддзі многія падзеі нашчадкі ацэньваюць не так…» Замест «справа ў тым» па-беларуску сказалася б так:

*гэта тлумачыцца тым…*, *а ўсё таму…* ці проста — *таму*, нават — *бо*. Пастаўце гэтыя словы ў прыведзеным сказе замест «справа ў тым», і вы пераканаецеся, што ён загучыць лепш, па-беларуску. А замест «на самай справе» і «насамрэч» знайшліся б такія словы: *яно і праўда*, або карацей — *і праўда*, *папраўдзе*, *сапраўды*. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» падае і такія адпаведнікі выразу *на самай справе* — *у сапраўднасці*, *фактычна*. Яно і праўда, нашто нам зацыклівацца на кальках, відавочных і прыхаваных, калі ў нас ёсць свае словы?

**Яечні**. Калі першы раз я пачуў у горадзе слова *амлет*, то не зразумеў, што яно азначае. Пэўна, гэта — рускае слова. Палез у руска-беларускі слоўнік. І са здзіўленнем прачытаў, што *омлет* і па-беларуску *амлет*! Што ж гэта за звер такі? Чаму на сваёй Старадарожчыне я пра яго нічога не чуў? Мусіў адгарнуць яшчэ тлумачальны слоўнік. З яго я даведаўся, што амлет — гэта «яечня з разбоўтаных яец, у якую дабаўлена малако і мука»! Божа, дык у нас жа гэта і завецца яечня, а ніякі не амлет-амулет! У Зялёнай Дуброве нават жанчыну, якая вельмі любіла гэтую яечню, так і празвалі — Яечня. Некалі мы, дзеці, таксама вельмі яе любілі, з нецярпеннем чакалі, калі маці, падчапіўшы чапялой, вымала яе з печы, з самага жару, дымную, пухкую, з вугольчыкамі ад трэсак, што там пастрэльвалі, і ставіла на дошчачку-падстаўку пасярод стала. Мы адразу ж накідваліся на яе.

Гэтую яечню — на муцэ і малацэ — называлі яшчэ *грыбок*. Як сведчыць «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі…», так называлі яе і ў Барысаўскім раёне («Спячы грыбок з яец»), на Пастаўшчыне («Разбіваюць яйкі, туды малака, трохі мукі і пякуць грыбок») і ў іншых раёнах. Знайшоў я слова «грыбок» таксама ў слоўніках І. Насовіча і М. Байкова з С. Некрашэвічам. Толькі ў іх яно перакладзена як *дрочена*. Што ж гэта за *дрочена* — не з *а* ў сярэдзіне слова, а з *о*? Бяру тлумачальны «Словарь русскога языка» 1981 года: «дрочена» — кушанье из запеченной смеси яиц, молока и муки…». Значыць, усё правільна: дрочена — гэта тая ж самая яечня-грыбок.

Але ж у нас ёсць яшчэ адна яечня. З разбітых на патэльні, не разбоўтаных яек, спечаных на тлушчы, без мукі і малака. Рускія яе называюць *глазунья*. «Русско-белорусский словарь» перакладае слова глазунья па-беларуску проста — *яечня*, зусім не ўдакладняючы, што гэта за яечня. Між тым у народзе адразу ж сказалі б, што тут гаворка ідзе пра яечню з цалкоў (не разбоўтаных яек).

Якраз пра такую яечню пісаў у «Новай зямлі» Якуб Колас:

Тарэсяй звалась цётка гэта.
Яна так ветла сустракала
І надта ж добра частавала:
Спячэ цалкоў на скавародцы,
І так, бывала, наясіся,
Што хоць на пупіку круціся.

У Лагойскім раёне такую яечню гэтак і завуць — *цалкавая яечня* («Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі…»).

Бытаваў на Беларусі яшчэ проста грыбок, які адрозніваўся ад яечні-грыбка тым, што ў яго сыплюць больш мукі. Пра такі грыбок расказала мне мая зялёнадуброўская суседка Вікця Шыкер. Пячэцца ён таксама на патэльні. Круглы. «Дык, можа, гэта пірог?» — пытаюся. «Не, гэта яшчэ не пірог. Грыбок». Пра яго згадвае і той жа «Слоўнік беларускіх гаворак…»: «Грыбок — густая яечня» (Барысаўскі раён), «Грыбок робіцца з тварагу, дабаўляюць манкі, яйкі, сліўкі, сахару, дробачку соды, выліваюць усё на патэльню і пякуць» (Смаргонскі раён).

Падрабязна расказала мне пра гэты грыбок і Алена Васілевіч. Яна сама некалі пякла грыбок і добра запомніла ўсе яго складнікі: яйкі, малако, мука (толькі больш, чым на яечню), цукар і сода. Ён добра падыходзіў на патэльні ў печы, рос — як грыб. Гэта быў некалі далікатэс. З ім, круглым, ружаватым, хадзілі жанчыны ў адведкі да парадзіхі ці проста ў госці.

Што з гэтага вынікае? А тое, што ў слоўнікі просяцца аж тры ўдакладненыя тут словы: яечня (ці яечня-грыбок, грыбковая яечня), цалкавая яечня (ці проста *цалкі*, а яшчэ лепш — *цалкавуха*, як падае ў «Слоўніку бабы насты» Алесь Пісьмянкоў) і грыбок — як від печыва.

**Крупнік**. Гэтак жа, як і *амлет,* у сваім дзяцінстве я ніколі не чуў слова *суп*. У нас яно і сёння — чужое, беспатрэбнае. Як тлумачыць «Словарь русского языка», суп — гэта «жидкое кушанье, представляющее собой отвар (из мяса, рыбы, грибов и т. п.) с приправой из овощей, крупы и т. п.» У нас гэтая страва, калі яна варылася з якімі-небудзь крупамі, называлася і цяпер называецца — *крупнік* (у іншых мясцінах Беларусі — *крупеня): прасяны крупнік, ячны крупнік, грэчневы крупнік, аўсяны крупнік, рысавы крупнік* і г. д. Рэдкая страва з бульбы ў нас завецца *булён* (а не *бульбяны суп),* з рыбы — *юшка* (або *рыбная поліўка),* з грыбоў — проста *грыбы* (або *грыбная поліўка),* з мукі — *зацірка,* з фасолі — *фасоля* (або *фасолевая поліўка),* з

гароху — *гарох* (або *гарохавая поліўка).* І — ніякіх чужародных *супоў*, якія пачалі ўсё больш настойліва выцясняць з нашай мовы і слоўнікаў спрадвечныя беларускія назвы!

**Купля**, **купец**. *Пакупка, пакупнік* — усё часцей спатыкаюся аб гэтыя словы не толькі ў беларускамоўных газетах, але і ў творах некаторых нашых пісьменнікаў: *дзякуй за пакупку, пакажы сваю пакупку, пераборлівы пакупнік*… Але ж гэта не нашы, не беларускія словы, яны жыўцом узяты з рускай мовы. Прычым без ніякай патрэбы. Рускае *покупать* у нас адназначна разумеецца як *пакупаць каго-небудзь* (дзіця, сабачку) *у вадзе.* І не больш!

Замест слова покупка ў нас скажуць проста *купля:* «пакажы сваю куплю», «якая ўдалая купля», «дзякуй за куплю». Чым кепска гучыць гэтае слова ў любым кантэксце? Ды і нашы выдатныя пісьменнікі бралі яго ў свае творы. Я напаткаў яго, прыкладам, у «Соках цаліны» Цішкі Гартнага: («Зрабіў куплю…»), ва ўспамінах «Яшчэ незабытае» Ларысы Геніюш («Што да дзедавых купляў…»). Тым не менш «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» падае слова *купля* толькі як «дзеянне паводле дзеяслова *купляць — купіць».* І ўсё! Так бяздумна збядняем мы сваімі ўласнымі рукамі нашу беларускую мову.

Цяпер — пра *пакупнік.* Чаму цягнуць яго ў нашу мову, калі ў нас ёсць сваё спрадвечнае слова — *купец* (у розных значэннях)? У тым ліку — як чалавек, які нешта купляе. Звычайным было яно ў гэтым значэнні ў Кузьмы Чорнага: «Вайсковец абагнаў яго і першы ўвайшоў у кухню, а купец гукнуў з ганку прадаўцу…» («Трыццаць год»), у Івана Мележа: «Етэ ж шчэ не базар, — пераканана прамовіў Чарнушка. — Базар шчэ будзе!.. Купцы самыя шчэ чай дома п'юць…» — «Ды тут ужэ е купец…» — «Мала што е! Мы паглядзім шчэ, хто лепшы купец» («Людзі на балоце»), у Алены Васілевіч: «Трэба прадаваць Цыганку… Ужо і купцы наведваліся» («Расці, Ганька»). Падае гэтае слова і «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі», прыводзячы прыклад з Браслаўскага раёна: «Еслі на базары палавіну цаны даець — гэта купец, а еслі і палавіны не даець за тавар — гэта не купец». Ёсць яно і ў «Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны» Івана Бялькевіча з такім прыкладам: «Купец найшоўся на карову: дзвесце сорак рублёў даець».

З поўначы на поўдзень, з захаду на ўсход як хадзіла, так і ходзіць па Беларусі гэтае слова, жыве сярод людзей, а вучоныя людзі пастараліся спісаць яго з ужытку, прыляпіўшы да яго зняважлівую плямбу *«уст.»*, г. зн. *устарэлае.* А трохтомны «Русско-белорусский словарь» ужо зусім не пусціў яго на

свае старонкі, змушаючы беларусаў ламаць язык і душыцца чужароднымі — *пакупнік, пакупка.*

Круцячыся ў рускамоўнай стыхіі, мы так звыкаемся з гэтакімі русізмамі, што свае, прыродныя словы здаюцца ўжо нам «не тымі», нечым зблажэлымі. Што тут казаць, колам воза лягчэй каціцца па добра ўезджаных, хоць і чужых, каляінах, чым зноў зварочваць на зарослыя быллём занядбанасці свае спрадвечныя. Але мы павінны вярнуцца на іх, калі хочам застацца беларусамі. Свае прыродныя словы стануць тады звычнымі і мілагучнымі для нашага вуха, калі не суседняя, а родная мова будзе кожны дзень на вуснах у беларуса.

**Расціць**, **вырасціць**. Не ўяўляю, каб у маёй Зялёнай Дуброве хто мог так сказаць: *расціць* (тое ці гэта). У рускай мове, як тлумачыць слоўнік, *растить* азначае: «ухаживая, обеспечивать рост, развитие чего-л.» («растить детей», «растить цветы», «растить скот»…). Не задумваючыся, вельмі часта і мы, беларусы, жывасілам цягнем (мусіць, таму, што «ляжыць на паверхні» і лёгкае на падхват) чужое слова ў свае творы і слоўнікі, паўтараем яго, як тыя папугаі, дзе трэба і дзе не трэба. І гэта ў той час, калі ў нашай мове ёсць свае, прытым вельмі каларытныя адпаведнікі рускаму *растить.* Замест *растить детей* у нас скажуць — *гадаваць дзяцей, растить скот — даглядаць жывёлу, растить кадры — рыхтаваць кадры, растить талант — узгадоўваць талент, растить бороду — адпускаць бараду.*

Не *вырошчваюць* у нас і расліны. От адгарнуў я лісток календара «Родны край» і чытаю: «Перш за ўсё трэба памятаць, што вырошчванне раслін у пакаёвых умовах істотна адрозніваецца ад вырошчвання іх на садовым участку». А калі б замест гэтага груватскага *вырошчванне* паставіць простае беларускае *догляд,* як бы ажыла, хораша загучала, пацяплела б фраза! Альбо возьмем такое: «Я на продажу выращиваю цветы». У нас пераклалі б так: «Я на продаж *пасадзіла* (ці *пасеяла)* кветкі». І ўсё ясна. А замест фразы «Мы вырастили богатый урожай» у нас скажуць проста: «Мы *сабралі* багаты ўраджай». Сказ «Я рощу там рожь» у нас перакладзецца так: «Я *пасеяў* там жыта». І праўда: калі жыта пасеяна, нашто яго яшчэ *растить,* яно і без цябе вырасце. Калі ж пасеянае трэба падкарміць, прапалоць ці паліць вадою, то ты так і скажы, не хаваючыся за нешта агульнае, няпэўнае, неакрэсленае.

**Абавязкова**. Гэтае слова я параўнаў бы з птушанём зязюлі, якое вылупілася з падкінутага ў чужое гняздо яечка. Шпарка пад-

растаючы, яно паступова павыкідвала з гнязда ўсіх дзетак падманутай птушкі і ўрэшце засталося там у адзіноце. Прыйшоўшы, як мне здаецца, не вельмі даўно ў нашу літаратурную мову, прыслоўе *абавязкова,* утворанае ад назоўніка *абавязак* як адпаведнік рускаму *обязательно,* трывала заняло ў ёй сваё месца, выцясняючы з ужытку ўсе даўнейшыя яго сінонімы. Хоць яно добра прыжылося ў нашай мове, стала ў ёй сваім, але ж ці трэба выкідваць са свайго гнязда і іншыя яго адпаведнікі? Яны ж як жылі, так і жывуць у народзе. У маёй Зялёнай Дуброве, напрыклад, літаратурнае *абавязкова* не пачуеш і сёння. Замест яго ў нас заўсёды скажуць інакш: «Ты пойдзеш заўтра на сход? — *А як жа!*»; «Мне сёння *край* трэба быць дома»; «Праз гадзіну што *б там ні стала* я павінен вярнуцца на месца»… Па-мойму, зусім не апраўдана выцясняецца ў нас з літаратурнай мовы і такі адпаведнік слову *абавязкова* як *канечне (канечне, канешне, канешна).* Паглядзіце, як натуральна і хараша гучыць яно ў класікаў. У Якуба Коласа: «Не *канечне* стаяць над ёю крукам» («Дрыгва»); у Кузьмы Чорнага: «Начорта мне *канечне* быць пры гэтым» («Нянавісць»); «Няхай сабе жывуць здаровенькі, а мне не *канешне* зрывацца з бацькоўскіх сцежак» («Рамонтная брыгада»); «А нашто мне *канечне* ведаць, што робіцца недзе там, невядома дзе» («Дзякуй Боку, як шклянка»); у Цішкі Гартнага: «Усё ж ты, Рыгор, асцярожлівей… Навошта *канешна* лезці жыватугам» («Сокі цаліны»); у Івана Мележа: «Не канешне і вам аставацца» («Завеі, снежань»).

**Прахалода**. Слова штучнае, калька рускай *прохлада.* У нас замест яго кажуць — *халадок* («Повеяло утренней *прохладой»* — «Павеяла ранішнім *халадком»).* І ніякай там прахалоды! Яшчэ больш рэжуць вуха словы *прахалодна, прахалодны,* якія вельмі часта сустракаю ў творах асобных нашых пісьменнікаў. Замест *прахалодна* ў нас пачуеш іншыя словы: *халаднавата, здорава, свежа* («Сёння *здорава* на дварэ», «Зрабілася *свежа*», «*Халаднавата* спаць на сене»). Гэтак жа натуральна і хараша гучаць і нашы прыметнікі — *халаднаваты, здаровы, свежы.*

А рускае слова *прохладительный* наш «Русско-белорусский словарь» падае як *прахаладжальны* — язык ад яго можна зламаць. Пры гэтым даецца прыклад: «прохладительные напитки — прахаладжальныя напіткі». Навошта ж так калечыць слова? Ці ж кепска гучаў бы гэты выраз, каб ён сказаўся проста па-беларуску: *асвяжальнае пітво* ці *асвяжальная вада*?

**Заклаўся на цвет.**

— Ужо язмін заклаўся на цвет.

Гэта кажа мая суседка ў Зялёнай Дуброве 83-гадовая Віцця Шыкер.

А мой трохі старэйшы за мяне сябар Коля Карповіч, былы штурман авіяцыі, а цяпер садоўнік-аматар, заўважыў мне вясной:

— Сад яшчэ не заклаўся на цвет.

Коля вярнуўся з неба на сваю зямлю гадоў праз сорак пасля таго, як закончыў сярэднюю школу, ды от і ў завоблачных вышынях не выветрылася з яго памяці тутэйшае слова.

*Заклаўся на цвет.* Проста і ясна.

Я запісваю гэтае слова і, прыехаўшы ў Мінск, лезу ў слоўнікі: ці ёсць там слова *закласціся* ў такім значэнні?

Разгортваю «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». Ёсць такое слова. Ды толькі… у іншым значэнні: «пайсці ў заклад, паспрачацца на што-небудзь». І толькі!

Не знаходжу выразу *закласціся на цвет* таксама ў двухтомавых «Беларуска-рускім слоўніку» 1988 года і ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» І. Я. Лепешава 1993 года выдання.

Няўжо толькі ў нас, на Старадарожчыне, так гавораць? Праглядваю дыялектныя слоўнікі, што ў мяне пад рукой. І от — эўрыка! У «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі» знаходжу слова *залажыцца* ў нашым значэнні. Да яго даецца і прыклад з гаворак Пухавіцкага раёна: «Гуркі на цвет залажыліся». *Закласціся, залажыцца* — сінонімы.

Значыць, жыве ў народзе гэты прыгожы выраз. Няўжо моваязнаўцы яго больш нідзе не запісалі, каб пусціць у шырокі свет?

**Фамільят**. *Аднафамілец* — відавочна, штучнае слова, поўная калька рускага *однофамилец.* Але ж у беларусаў ёсць сваё адпаведнае, і някепскае слова — *фамільят.* Гэта той, хто мае з кім-небудзь, толькі не з родным, аднолькавае прозвішча. Я здаўна чую яго ў гэтым значэнні ў сваёй вёсцы. І ніколі — *аднафамілец.* А вось Святлана Струкава ў сваёй кнізе «Лексіка беларускай мовы» (Мінск, 2008) тлумачыць гэтае слова прама процілеглым чынам: «Фамільянт (фамільят) — родны на крыві». Толькі на якой падставе? На той, што *фамілія* — гэта сям'я, род? Дык гэта ж можна сказаць і пра слова *аднафамілец.* У нас «роднага па крыві» назавуць — *радня, родзіч.* А калі канкрэтна, то — *брат, сястра, дзядзька, цётка, дзед, прадзед, унук, праўнук, брат ці сястра ў першай, другой, трэцяй стрэчы* і г. д. Вядома, *фамільяты* могуць быць паходжаннем з аднаго роду (часцей

так яно, мусіць, і ёсць), але яны забыліся пра гэта. Таму пакуль яны не ўспомняць сваю сваяцкасць, яны ўсяго — *фамільяты.*

**Асудзіць**. Слова ў беларускай мове, як я мяркую, новае, прышлае. У маёй вёсцы ад старых людзей не пачуеш яго ні ў водным з трох значэнняў, пазначаных у слоўніках. У першым значэнні — «вынесці абвінаваўчы прыгавор» — у нас скажуць: *засудзіць.* У другім значэнні — «прызнаць заганным, ганебным што-небудзь, выказаць неадабрэнне каму-небудзь» — на Старадарожчыне знойдуць іншыя словы: *зганіць* («Я не ганю яе, што развялася з Валодзем»), *зганьбіць* («Нашто дарэмна ганьбіць чалавека»), *звінавацiць* («Яго вінавацяць за тое, што забыўся пра матку»), *праклясці* («Ды ў нас праклянуць за такое»), *выказаць дакор* («Не дакарай мяне») і г. д. У трэцім значэнні — «асудзіць на нешта» — у народзе скажуць прасцей: *кінуў яго на галаданне, наканаваў яму жабрацтва* ды іншае.

**Зубішча**. Першы раз я пачуў гэтае слова яшчэ ў дзяцінстве ад старой Анці Дубовік (даўно ўжо нябожчыцы). Так называлі ў нас ангіну. Ці не таму, што яна пасялялася адразу за зубамі? А можа, што ўзнікала яна ад нездаровых зубоў? У слоўніках беларускай мовы слова *зубішча* я не знайшоў. Затое нечакана напаткаў у «Слоўніку беларускіх гаворак…», дзе прыводзяцца прыклады яго бытавання з Вілейскага, Лагойскага, Шчучынскага і Ваўкавыскага раёнаў — можна сказаць, з усёй Беларусі. Цяпер гэтае народнае слова выціснулася з ужытку лацінскім — *ангіна.* Толькі ці павінны мы забываць беларускую назву гэтай хваробы? Вельмі правільна, што наш «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» падае народныя назвы розных хвароб *(сухоты, паралюш, крываўка, пранцы* ды інш.). Хай і з пазнакай *разм*. Чаму б не ўключыць у гэты шэраг і слова *зубішча*? Ведама ж, я быў бы зусім не супраць, каб усе гэтыя хваробы сышлі ад нас на сухія лясы, на махавыя балоты, на гнілыя калоды ды на ніцыя лозы. Але ж словы, якія іх абазначаюць, мы абавязаны захаваць, зберагчы. Яны ж — наша гісторыя.

# КАМЕНТАР

## ПАЭЗІЯ

Пададзеныя тут вершы і паэмы К. Цвіркі друкуюцца паводле яго выданняў: «Такія сэрцы ў нас» (Мінск, 1959), «Чарназём» (Мінск, 1967), «Каласы» (Мінск, 1975), «Сцежка дадому» (Мінск, 1980), «Рэха дарог» (Мінск, 1982), «Зялёная Дуброва» (Мінск, 1988), «Бацькаў свет палявы» (Мінск, 1994).

## ВЕРШЫ

*Такія сэрцы ў нас (с. 15)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1958, № 3.

*Палатка на Цаліне (с. 16)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1957, № 9.

*Двое ў стэпе (с. 16)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1958, № 6.

*Лодачкі (с. 18)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1959, № 5.

*Пціч (с. 19)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1960, № 6.

*Перлы роднай зямлі (с. 21)*

Упершыню — зб. «Дзень паэзіі». Мінск, 1966.

*Чорная скіба (с. 22)*

Упершыню — час. «Полымя», 1963, № 7.

*«Сёння спаць не пайду, не пайду...» (с. 23)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1963, № 2.

*Чатыры вятры (с. 24)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1963, № 2.

*«Ёсць на свеце краіна...» (с. 26)*

Упершыню — час. «Полымя», 1966, № 10, пад загалоўкам «Тры краіны».

*«Усё мінаецца, мяняецца...» (с. 28)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1967, № 1.

*Пешкі (с. 29)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1967, № 1.

*«Калі над горадам усходжваецца непагода...» (с. 30)*

Упершыню — час. «Полымя», 1966, № 10.

*Зямлі патрэбны паэты... (с. 32)*

Упершыню — час. «Полымя», 1967, № 2.

*Цецерукова мова (с. 34)*

Упершыню — час. «Полымя», 1967, № 2.

*Сабакі (с. 34)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 28 ліст. 1967 г.

*«Зноў вярнуўся я ў бацькаў свет палявы...» (с. 35)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1970, № 11.

*«Замятае, лісцем замятае...» (с. 36)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1970, № 12.

*Жураўліныя ягады (с. 36)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1973, № 11.

*«Аднекуль з-пад воблачка...» (с. 37)*

Упершыню — час. «Полымя», 1969, № 11.

*«Далёка ад азяродаў...» (с. 38)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1970, № 12.

*Каліноўскі — апошняе слова (с. 39)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1973, № 10.

*«Так кожнаму наканавала...» (с. 42)*

Упершыню — час. «Полымя», 1974, № 11.

*«Былі тады...» (с. 43)*

Упершыню — час. «Полымя», 1973, № 7.

*Я прыйшоў да вас (с. 43)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1970, № 12.

*Песня партызана (с. 44)*

Упершыню — час. «Полымя», 1973, № 7.

*«Рассыпала ноч алмазы...» (с. 45)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1979, № 7.

*«І дабрата і прыгажосць...» (с. 46)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1977, № 2.

*«Каташкі на вольхах, каташкі...» (с. 47)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1979, № 12.

*Рыжкі (с. 48)*

Упершыню — час. «Полымя», 1978, № 1.

*«Жыву каля рэха...» (с. 49)*

Упершыню — газ. «Чырвоная змена», 30 крас. 1980 г.

*«Зноў — сівец, і хвойкі, і дымок...» (с. 50)*

Упершыню — газ. «Голас Радзімы», 18 снеж. 1980 г.

*«Няхай табе даўно за сорак...» (с. 50)*

Упершыню — час. «Полымя», 1978, № 1.

*Францыск, Скарынаў сын (с. 51)*

Упершыню — час. «Полымя», 1978, № 1.

*Кветкі Чарнышэўскаму (с. 52)*

Упершыню — час. «Полымя», 1978, № 7.

*Пра старую Адэлю (с. 54)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 28 снеж. 1979 г.

*Іслач (с. 55)*

Упершыню — час. «Полымя», 1978, № 1.

*«Зары запозненай каснік...» (с. 58)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1979, № 7.

*«Палессе...» (с. 59)*

Упершыню — час. «Полымя», 1979, № 8.

*Я сею жыта (с. 61)*

Упершыню — зб. «Дзень паэзіі». Мінск, 1984.

*«Зноў забралі цябе шляхі...» (с. 62)*

Упершыню — зб. «Дзень паэзіі».

*«Дзень прапаў у мяне...» (с. 65)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 13 снеж. 1985 г.

## ПАЭМЫ

*Хат вячысты дар (с. 69)*

Упершыню — час. «Полымя», 1981, № 4.

## ПРОЗА

### *Воўчая выспа. Раман (с. 139)*

Упершыню — час. «Полымя», 2009, № 2, 3, 4, часопісны варыянт.

Друкуецца паводле выд.: Цвірка К. Воўчая выспа. Мінск, 2009.

### *Будзіла вёску берасцянка (с. 335)*

Упершыню — час. «Полымя», 2005, № 7 (адна з частак — «Далёкія воблакі», 2007, № 7).

Друкуецца паводле выд.: Цвірка К. Будзіла вёску берасцянка. Мінск, 2007.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

### *Беларусь сёння прадаюць. Выступленне на XI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі 27 красавіка 1994 года (с. 569)*

Друкуецца паводле газ. «Літаратура і мастацтва», 13 мая 1994 г.

### *Створым «Беларускі кнігазбор» (с. 571)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 29 сак. 1995 г.

### *Шашаль мовы — калька (с. 575)*

Друкуецца паводле газ. «Літаратура і мастацтва», 12 сак. 1993 г.

### *А ў нас сказалі б так... (с. 583)*

Друкуецца паводле газ. «Літаратура і мастацтва», 19 сак., 2 крас., 16 крас., 30 крас., 14 мая, 28 мая, 11 чэрв., 25 чэрв., 9 ліп., 23 ліп., 6 жн., 20 жн., 3 верас. 2010 г.

## SUMMARY

Kastus Tsvirka (born in 1934) comes from the village of Zialionaya Dubrova Staradarozhski District Minsk Region. After graduating from the Philological Department of the Belarusian State University, he worked as a teacher in Slutsk Region, was a member of the Editorial Board of the Belarusian Radio, the Chief Editor of the Publishing House *Yunatstva* and the Head of the Poetical Department of the journal *Polymya*. Kastus Tsvirka finished the course of postgraduate study at the Institute of Linguistics, Ethnography and Folklore and holds the title of the Candidate of Historical Sciences.

In 1995 he was one of the founders of the international Foundation *Belaruski Knihazbor* (nowadays IPO Belknihazbor) that prepares for the edition and edits books of the multi-volume book series *Belaruski Knihazbor*.

Kastus Tsvirka's literary activity began in school years. His first verses were published in the journal *Polymya* in 1953. He is the author of some collections of poetry, traveling narrations and prose books.

The present one-volume edition *Selected Works* includes the best verses, poems «Khat Viachysty Dar» (*The Everlasting Gift of Old Cottages*), «Doma» (*At Home*), the novel «Vouchaya Vyspa» (*Wolf Island*), the documentary story «Budzila Viosku Berastsianka» (*Sheperd's Horn Would Awoke The Village*) and publicistic articles.

The preface article is written by the famous Belarusian poet Anatol Viartsinski.

# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ

## ПРОЗА

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

**Цвірка, К.**

**Ц28** Выбраныя творы / Кастусь Цвірка; уклад. А. Клышкі, прадм. А. Вярцінскага, камент. К. Цвіркі. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 608 с. [8] с.: іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-7007-72-1.

У аднатомнік выбраных твораў Кастуся Цвіркі (нар. 1934) увайшло самае значнае з яго паэзіі, прозы і публіцыстыкі

Шэсцьдзясят другі том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**

**ББК 84 (4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя І. Мастацкая літаратура

**Цвірка Кастусь**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Анатоль Клышка*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Лідзія Карамазава*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 17.04.2012.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 31,92 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 31,99.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

Пры ўдзеле ТАА «Харвест».
Ліцэнзія № 02330/0056935 ад 30.04.04.
Вул. Кульман, 1, корп. 3, пав. 4, п. 42, 220013, Мінск.
E-mail: harvest2004@mail.ru

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
e-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-7007-72-1

9 789857 007721

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў РУП «Выдавецтва “Беларускі дом друку”».
Пр. Незалежнасці, 79, 220004, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы

ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы

ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік

ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы

ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы

КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы

ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы

ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы

ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы

ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы

ЦЁТКА. Выбраныя творы

НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы

ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы

АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы

АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы

ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы

ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы

РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы

ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы

СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы

ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы

КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы

РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы

РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік

АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы

*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік

НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы

МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы

РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы

АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы

ВАСІЛЬ ЗУЁНАК. Выбраныя творы

УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Выбраныя творы

ВІНЦУК АДВАЖНЫ. Выбраныя творы

АЛЕСЬ БАРСКІ. Выбраныя творы

ЦІШКА ГАРТНЫ. Выбраныя творы

КАСТУСЬ ТАРАСАЎ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць

МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае

ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы

ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы

ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае

ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае

ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе

АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае

ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае

АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае

АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае

МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы

ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ. Выбранае

АЛЕСЬ АДАМОВІЧ. Выбраныя творы